*ВАСІЛЬ ГІГЕВІЧ*

# *Астравы на далёкіх азёрах*

АПОВЕСЦІ, АПАВЯДАННІ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1984

# Астравы на далёкіх азёрах

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### 1

Маркін паглядзеў на наручны гадзіннік — на цёмным прамавугольнічку цыферблата над словам «электроніка» свяцілася «16 : 05». Тут жа, на вачах, пяцёрка замянілася шасцёркаю. Маркін нерухома глядзеў на цыферблат, пакуль шасцёрка не замянілася сямёркаю. Потым былі яшчэ лічбы, яшчэ — быццам цікавейшага занятку і не магло быць...

Затым Маркін абвёў позіркам прыборы, якімі быў застаўлены цеснаваты пакойчык лабараторыі, саму разабраную машыну — яе пасля апошняй выстаўкі яшчэ ніяк не маглі сабраць і настроіць,— некаторыя дэталі і блокі машыны, аплеценыя каляровымі дроцікамі, пабліскваючы здаля нержавейкаю і фарбаю, ляжалі не толькі на падлозе, а і на крэслах. На жоўтых сценах пакойчыка віселі графікі — ад часу папера выцвіла, была таксама жаўтаватая. Помніцца, гэтыя графікі Маркін маляваў для выступлення на сваёй першай навуковай канферэнцыі... Побач з графікамі былі прылеплены жартаўлівыя здымкі і выразкі з замежных часопісаў — Валерава самадзейнасць... Звычайна, хто ні заходзіў у лабараторыю, адразу ж разглядаў фотаздымак прыгожай маладой дзяўчыны, ля ног якой сядзела на зямлі малпачка і заглядвала пад спадніцу дзяўчыны. Дзяўчына тая спакойна глядзела на малпачку і ўсміхалася... І яшчэ ў лабараторыі было шмат кніг: на паліцах, на тых жа прыборах, на сталах... Нарэшце, як бы прайшоўшы па крузе, позірк затрымаўся на белым тэлефонным апараце, што стаяў на стале Маркіна,— па пра-

вую руку. Нейкі час Маркін глядзеў на яго, потым памалу падняў трубку і, набраўшы шасцізначны нумар, пачаў слухаць працяглыя тэлефонныя гудкі. Нарэшце ў трубцы шчоўкнула, пачулася, як недзе побач дыхае мужчына.

— Я слухаю,— басавіты голас здаўся блізкі, быццам мужчына знаходзіўся не ў супрацьлеглым канцы вялікага горада, а за тонкай фанернай перагародачкаю, і таму, адчуваючы блізкасць чалавечага голасу, хочаш не хочаш, а даводзілася паводзіць сябе гэтак жа, як і перад рэальным чалавекам. Гэты незнаёмы мужчына заўсёды падымаў трубку. У Маркіна было адчуванне, што яны даўно знаёмыя.

— Калі можна, Валю.

— Можна, чаму ж не,— тут жа, намнога цішэй, пачулася, як мужчына гукае: — Валянціна, цябе на драціну...

Відаць, той мужчына жартаўнік. Ён заўсёды так клікаў Валю.

— Алёў, я слухаю,— голас у Валі мяккі і ціхі. Як і заўсёды. У яе харошы голас.

— Прывітанне.

— Ну, здраствуй.

— Ты сягоння прыйдзеш?

— Прыйду-у,— яна трошкі зацягвала «у» — у яе гэта хораша атрымлівалася.

— Тады я чакаю. Як звычайна,— Маркін паклаў трубку на рычажкі. Пасля размовы з Валяю ён звычайна першы клаў трубку. Ён увогуле не любіў доўгіх тэлефонных размоў — у гэтым бачылася нешта няшчырае...

Седзячы за сталом, Маркін зноў глядзеў то на тэлефонны апарат, то на пусты стол, за якім звычайна сядзеў Валера. Час ад часу Маркін пастукваў пальцамі па бліскучай паліраванай паверхні стала — атрымлівалася нейкая мелодыя, толькі вот якая — ён не мог успомніць. Ды і не хацелася. Здавалася, што Маркін думаў пра нешта важнае, але так толькі здавалася — ён быў у тым стане, які апошнім часам паяўляўся ў канцы рабочага дня, калі ў рэшце рэшт усё, чым займаўся цалюткі дзень, надакучала, здавалася тлумным і бяссэнсавым, але адысці ад работы ён яшчэ не мог, таму толькі і заставалася: гля-

дзець нерухомымі, як п'янаватымі вачыма на ўсё, што перад табою, адчуваючы ў вушах пастаянны звон, які ні на хвіліну не заціхае і які так замінае думаць пра другое, болей лёгкае і цікавае, зусім не звязанае з работаю, звыклым размераным жыццём і ўсім тым, што так добра вядома.

Адчыніліся дзверы пакойчыка — у блакітным рабочым халаце хутка зайшоў Валера і сеў за свой стол.

Пэўны час ён глядзеў на Маркіна, а потым гучна і рашуча запытаў:

— Дык як, стары, асмеліўся?

Маркін маўчаў. Глядзеў на чыста паголены, без маршчын твар, на ясныя, спакойныя і нейкія халаднаватыя, з блакітам, вочы, на чорныя, коратка і акуратна падстрыжаныя валасы. Затым Маркін зноў акінуў позіркам пакойчык — усё тое, што ляжала ў беспарадку і што так кідалася ў вочы староннямy воку: шматлікія дэталі машыны, кнігі, сухары, што ляжалі на падаконніку на газеце, дзяўчыну ў спадніцы і малпачку...

— Стары, ты што — не бачыш? Зусім дайшоў! Тым болей трэба ехаць,— паўтарыў Валера.

— Я проста думаю, чым усё гэта можа скончыцца.

— Пра гэта хай твая галовачка не баліць. Стары, рашайся, пакуль не позна.— Валера ўсміхнуўся аднымі вуснамі — тады, калі ён усміхаўся, ён станавіўся не тое што прыгажэйшы, а проста — нейкі другі, быццам другі чалавек хаваўся ў ім да пары да часу: — Заўтра афармляем водпускі. Панядзелак — апошні дзень. Там мяне чакаюць. Хоць ты мне і друг, але, як гаворыцца, ісціна даражэй, людзей падводзіць я не буду. Не хочацца — скажы. Знойдуцца другія, толькі свісні...

— Глядзі, дасвісчашся.— Маркін памалу, стомлена, як быццам цалюткі дзень цягаў каменне, падняўся з крэсла: — Ладна, заўтра скажу. Спі спакойна.

— Ну, вот, даўно б так,— Валера таксама падняўся. Ён падышоў да тэлефона, падняў трубку і, набраўшы нумар, загаварыў: — Віцёк, ты як, гатовы?.. Так-так, панядзелак — апошні дзень. Ну, тады ўсё, лады... Я заўтра перазваню...

— Так-с, а цяпер зоймемся машынаю. Калі пастарацца, то да заўтрашняга вечара, можа, і складзём. Настройкаю зоймемся пасля адпачынку...— ён ішоў да блокаў машыны і шчоўкаў пальцамі — яго-ная любімая звычка...

— Ты трохі прыпазніўся нарадзіцца.— Маркін усё стаяў ля стала і глядзеў на Валеру,— чамусьці гэтае шчоўканне яго пачало раздражняць.

— Чаму? — Валера хутка павярнуўся. Ён глядзеў проста ў вочы.

— У наш час так званая інтэлігенцыя займаецца не справамі, а самакапаннем. Ты — выключэнне. У цябе, па-мойму, няма і ніколі не было сумненняў.

— Ну, стары, калі на тое пайшло, інтэлігенцыя, якую ты маеш на ўвазе, заўсёды займалася самакапаннем. Што яе, дарэчы, часта і губіць. А наконт часу...— Валера не дагаварыў, павярнуўся і зноў пайшоў да блокаў машыны, што ляжалі на падлозе. Там ён прысеў, узяў у рукі блок і, разглядаючы яго, працягваў: — Кожны час цікавы па-свойму. Цяпер, напрыклад, чалавецтва ўступіла ў эпоху мінірамanaў, мікракахання і мікрасхем. Назад дарогі няма і не будзе. На дрэва калі і палезем, то толькі з дапамогаю робатаў ці во,— Валера патрос блокам машыны,— з яе дапамогаю. Яны ўжо нам падкажуць ці памогуць. Стары, я — гэта я. Аб'ектыўная рэальнасць, стары. А яна, як табе вядома, ад нашага жадання не залежыць. А ў будызм я не веру і табе не раю верыць — да дабра гэта не даводзіць, скончыцца ўсё тым, што кінеш работу і пачнеш цалюткімі днямі свой пуп разглядаць. Ты ўвогуле чытаў пра будызм? Гэта сям-там модна: будызм, перасяленне душ, вечнае існаванне...

— Чытаў. Усе мы ў свой час штосьці чыталі і штосьці добра ведалі.— Маркін павярнуўся спіною да Валеры і пайшоў да выхаду.

— Колькі хоць там звычайна чалавек набіраецца? — як бы ўспомніўшы штосьці важнае, Маркін спыніўся ля дзвярэй і зноў паглядзеў на Валеру.

— Звычайна ў групе чалавек пятнаццаць. Плюс-мінус тры-чатыры чалавекі. Ты што, у паходы не хадзіў?

— Не даводзілася. Ты хоць ведаеш каго?

— А навошта ведаць, стары? Так цікавей. Новыя ўражанні, новыя знаёмствы — дзеля гэтага ж людзі і едуць у адпачынкі. Стамляюцца людзі не ад работы, а ад...— Валера не дагаварыў, шчоўкнуў пальцамі, як бы шукаючы і не знаходзячы патрэбнае слова.

— Па-мойму, ты — шызафрэнік. Кажуць, ёсць пятнаццаць форм шызафрэніі. Тое, што ў цябе першая стадыя, я і без дактароў магу сказаць.

— Стары,— Валера, не гледзячы на Маркіна, корпаўся адвёрткаю ў блоку машыны,— усе ў пэўнай меры шызікі. Кожны па сваёй лініі. Гэта па-першае. Так сказаць, інфармацыя для роздуму. А па-другое, згодна логікі шызікаў, усе нармальныя людзі — шызікі. Так што не думай, быццам яны пакутуюць. Я спакойны ў любым варыянце. Дарэчы, ты хоць раз чуў, як лагічна яны даказваюць свае тэорыі?

— Не даводзілася.

— А дарэмна, дарэмна...

— Не блазнуй. Усё гэта словы, словы...— Маркін павярнуўся зноў спіною да Валеры.— Бывай...

— Бывай, стары,— пачулася ззаду, калі зачыняў дзверы лабараторыі.

Цяпер, калі Маркін пазваніў Валі, трохі палягчэла — хоць які занятак на вечар ды будзе. Горай за ўсё, калі не ведаеш, што рабіць. Тады ўжо канец, крышка, як гаворыць Валера. А так — добра вядома, што цяпер трэба ісці да кватэры, па дарозе зайсці ў гастраном, потым, пазней, чакаць у ціхім пакоі звонкага рэзкага званка, ад якога чамусьці заўсёды ўздрыгваеш, як уздрыгваеш ад звону разбітага шкла. Апошні час чамусьці ні з таго ні з сяго паяўляецца пачуццё боязі, асабліва ў цемені, калі невядома чаму прачынаешся сярод ночы і доўга нерухома ляжыш... Тады адчуваеш, што думаецца зусім не так, як ясным днём, і зусім не пра тое, пра што думаеш звычайна. І тады ён, здаецца, пачынаў разумець тых людзей, ад якіх калі-нікалі чуў, што самае страшнае ў жыцці — не заўважыць, як страціш розум... І тады ягоная рука цягнулася да выратавальнай радыёлы — да ціхага чалавечага голасу, да музыкі... Неяк, сярод ночы, ён упершыню ясна і цвяроза прызнаўся сабе, што баіцца аставацца на адзіноце: то тэлевізар, то прыёмнік, то нечая гаворка, пустая і непатрэбная,—

хоць што, але яму патрэбна было ўсё гэта, што адгароджвала ад пустой і страшнаватай цішыні.

Маркін ішоў па тратуары і холадна глядзеў перад сабою: на шэрыя высотныя дамы, на марожаншчыц у белых халатах, перад якімі стаялі людскія чэргі, згнуткія і доўгія, як нешта адзінае, суцэльнае, па зяглёныя дагледжаныя клёны, пад якімі чарнелі квадраты зямлі, на шэры асфальт, па якім з гулам адна за другою навыперадкі імчалі машыны. І ў той жа час Маркін амаль і не заўважаў людскіх твараў, хоць людзей на вуліцы большала з кожнаю хвілінаю,— як пчолы з вулляў, яны хутка высыпалі з высокіх будынін, ля дзвярэй якіх яшчэ здаля паблісквалі шыльды з жоўтымі выразнымі літарамі. Думалася, што цяпер кожны некуды спяшаецца, дзе хоць на час можа адчуць зацішак і спакой, ад якіх у рэшце рэшт прыйдзецца ўцякаць.

Куды? — вось што галоўнае... Бо ўсё гэта — калыханне на арэлях.

У кватэры Маркін адразу ж паклаў прадукты ў халадзільнік, а затым пайшоў у залу пераапранацца.

У зале было не надта прыбрана. У гэтай аднапакаёвай кватэры было, здавалася, усё, што трэба чалавеку, каб мог спакойна жыць: і тэлевізар, і кніжная паліца, і радыёла, і канапа, і стол, ля якога мяккае крэсла-дыван... Пераапрануўшыся ў трыкатажны касцюм, Маркін прылёг на канапу і тут жа нечакана для сябе задрамаў. Спаць не трэба было, ён ведаў, што потым, калі прачнецца, гадзіны праз дзве, будзе балець галава. І ўсё ж...

Прачнуўся ад званка. Падышоў да дзвярэй, адчыніў. Валя стаяла ў калідоры, трымаючы ў адной руцэ дзве сумачкі: балоневую і скураную.

— Ну, прывет яшчэ,— маўчаць і глядзець адно аднаму ў вочы было няёмка, і таму самі сабою вымаўляліся дзяжурна-выратавальныя словы, якія — гэта толькі цяпер Маркін зразумеў — даўно згубілі сваю цеплыню. Для яго, Маркіна. Яны былі для яго тым жа, чым ноччу была музыка, што даносілася з радыёлы, той ціхі невядомы голас, што спяваў песню... І ўсё гэта тое, за што можна схавацца. Ад каго яму трэба хавацца, ад каго?

— Прывет...

— Заходзь, чаго стала.

— Ты стаіш на парозе.

Маркін адступіў ад парога. Валя зайшла ў пакой. Яна здымала з сябе плашч, вешала яго на вешалку, што мелася ў прыхожай ля самых дзвярэй, потым, гледзячы на сябе ў люстра, папраўляла валасы, а Маркін у гэты час глядзеў на яе худаватую, як у падлетка, постаць. Усё думалася пра выратавальна-дзяжурнае «прывет», якое, як цяпер здалося, адкрыла ў жыцці тое, у чым сабе не прызнаваўся. Мо і не хацеў прызнавацца. Так сказаць, заплюшчваў вочы.

Трымаючы балоневую сумачку, Валя прайшла на кухню. Там, на стале, пачала даставаць з сумачкі сасіскі.

— У нас давалі.

— Я таксама мяса ў стале заказаў узяў.

— Ну навошта ты браў?

— А ты навошта?

— Калі б я ведала.— Валя ўсміхнулася.

— Калі б мы ведалі...— таксама амаль што паўтарыў Валіны словы Маркін.

Ён стаяў на парозе кухні і глядзеў на гладка зачэсаныя назад валасы, што адкрывалі высокі круты лоб, на пульхныя поўныя вусны, ля якіх зверху відне́ліся рыжаватыя валосікі, на чырвоныя вугрыстыя шчокі. Валя была не прыгажуня, яна гэта павінна была ведаць. Яна была разумная, яна не магла гэтага не ведаць. Гэтыя ці то выгаралыя, ці то вышчыпаныя ў маладосці бровы, гэтая няроўная, як пасля воспы, скура на шчоках — о-о, колькі пакутаў атрымала яна за такія дробязі! Цяпер яна ўжо не саромелася Маркіна, ды і Маркін прывык да яе твару, толькі калі-нікалі штосьці як бы калола яго... «Нічога, гэта ўсё — умоўнасць, галоўнае — характар, погляды»,— тады ён стараўся перасіліць у сабе тое нядобрае пачуццё да Валі і ніяк не мог...

— Ой, ну калі ў цябе будзе парадак? — Валя гаспадарлівым позіркам акідвала кухню: стол, засланы цыратаю, даўнавата не мецёную падлогу, газавую пліту...

— Не ведаю.

— А што ты ўвогуле ведаеш?

Валя прыбірала са стала посуд, складвала яго ў ракавіну, а Маркін, седзячы на табурэтцы ля акна, глядзеў на яе тонкія рукі.

— Што ў цябе новага на рабоце? — спытаў нарэшце. Не будзеш жа ўвесь час маўчаць.

— Нічога новага. Як заўсёды ў канцы месяца — план закрываем. Гэта вам добра: хочацца — рабі, а хочацца — у акно глядзі. Тварцы... Што ў вас новага? У вас жа цікавей...

— У нас... Таксама нічога.— Ці быў сэнс гаварыць Валі пра работу. Гэта тое ж самае, што ў цябе на вуліцы, ухапіўшы за рукаў, запытаюць: «Як жыццё?» І вось там, сярод тлуму і мітусні, няўжо пачнеш незнаёмаму гаварыць штосьці сур'ёзнае? Не, канечне, не... І таму тут жа пастараешся адгарадзіцца вынатавальным бумерангам: «Нармальна. А ў цябе?»

— Нешта ты сягоння кіслы.

— Так... Стаміўся, відаць. Работы многа.

— Вы там, мусіць, нічога не робіце, вот і стамляецеся.

— Можа быць.

— Не можа быць, а так яно і ёсць. Я табе праўду скажу. Гультаі вы. І ты, і твой друг Валера, і тая лабарантачка.— Некалі, на пачатку знаёмства, ён доўга гаварыў Валі пра лабараторыю, пра работу. Але так было толькі аднойчы, і гаварыў ён Валі толькі тое, што яна магла зразумець, а асноўнае, тое, чым ён быў заняты ўсур'ёз цалюткімі днямі, ён не мог Валі расказаць. Ды і нецікавыя ёй былі тыя схемы і ідэі, дзеля якіх ён не спаў начамі...

Валя гаварыла рэзка і гучна. Падумалася, што добра было б самому калі-небудзь вось гэтак жа выгаварыцца ці накрычацца. На ўсю моц. А то ўвесь час гаворыш ціха і гэтым у чымсьці стрымліваеш сябе. І мо ад гэтага такая стома і незадаволенасць.

— Дык што згатуем на вячэру?

— Не ведаю. Думай сама.

— А што ты ведаеш? Ну што? Абляніўся ты у мяне зусім. Як той кот у кладоўцы,— Валя сыпала і сыпала словамі, а ён спакойна глядзеў на яе постаць, абцягнутую зверху світэрам — Валя любіла світэры,— на пальцы рук, якімі яна хутка, як забаўляючыся, перамывала ў ракавіне посуд.

Маркіп ведаў, што з Валяю ён у рэшце рэшт развітаецца назаўсёды, відаць, пра гэта здагадвалася і Валя — яна, мусіць, прывыкла да такіх развітанняў, бо неяк, яшчэ на пачатку знаёмства, яна гаварыла,

што ён кіне яе, пыталася нават, калі гэта здарыцца... І тады, пачуўшы такое, Маркін усё зразумеў. З таго часу мінула паўгода, яны часта і рэгулярна сустракаліся, шмат пра што гаварылі, але болей гаворкі пра развітанне не ўзнікала — як бы ўмовіліся пра гэта ўслых не гаварыць. Думаць — калі ласка...

Валя выключыла газ на пліце:

— Ну вот, здаецца, гатова. Ты, відаць, бедненькі, прагаладаўся.

Валя раскладала па талерках добра засмажанае, праперчанае, з часнаком мяса — яно ў яе заўсёды атрымліваецца мяккае,— потым на тыя ж талеркі клала звараны рыс. І яшчэ за той час, калі смажылася мяса, Валя зрабіла салату са свежай капусты і маянэзу.

Валя добра гатавала стравы. Маркіну падабаліся яе першыя, другія... Ён ужо адвык гатаваць сабе, і калі б цяпер Валя перастала прыходзіць, то, відаць, і засумаваў бы па гэтых смачных вячэрах, па парадку і чысціні, якія неяк самі сабою паяўляліся з прыходам Валі. А мо і яшчэ па чымсьці большым, мо нават і па ёй самой — пра гэта Маркін стараўся не думаць...

Маркін дастаў з халадзільніка бутэльку «рыслінгу», паставіў яе на стол і запытаў:

— А дзе наш штопар?

— Не наш, а твой,— папраўіла Валя і гэтым, сама аб тым не думаючы, парушыла няпісаныя правілы гульні. Абаім на нейкае імгненне стала няёмка, і таму, як і пра ўсякую няёмкасць, пра гэту таксама пастараліся хутчэй забыць.

— І не баішся, што сап'ешся? Станеш як той Валодзька Сарокін. Помніш, ты мне пра яго гаварыў? — Валя густа пачырванела і, хаваючы позірк, дастала з шуфляды стала штопар, падала ў рукі. Пра што яна думала ў гэты час?

— Не. Тое, што чалавек співаецца, ад яго не залежыць, як не залежыць і тое, што ён не співаецца. Усё гэта — вынік чагосьці другога, пра што звычайна не гаворым ці не думаем.

— Ну, глядзі, глядзі, дафіласофствуешся. У Валеры, мусіць, навучыўся.— Валя паставіла на стол

дзве шклянкі, прысела: — За што вып'ем? — доўга ў вочы не глядзела — так, крышку зыркала і тут жа адводзіла позірк.

— Давай за цябе.

— І той раз за мяне, і гэты — надта ўжо многа. Прап'ём маё шчасце. Давай лепш за тое, каб ваша машына хутчэй загаварыла.

— А яна ўжо гаворыць.

— Дык чаго ж ты маўчаў, не хваліўся?

— Так,— Маркін усміхнуўся аднымі вуснамі.— Ну, калі табе хочацца, то давай... Так сказаць, вып'ем за здароўе новага машыннага інтэлекту. Яна ў нас хутка будзе амаль такая ж, як і чалавек...

Яму ўвесь час хацелася сказаць нешта другое, другія словы прасіліся, але Маркін стрымліваў сябе, ведаў, калі пачне гаварыць, што хочацца, то зноў парушыць правілы гульні, якая цягнецца ўжо з паўгода. І таму ён лена цадзіў словы, думаў, чым занята Валя. Ці не тым жа, чым і ён? Ад гэтага было яшчэ болей няёмка.

— Смачнае мяса.

— І самому пара навучыцца, а не чакаць, пакуль прыйдзе хто і згатуе. Трыццатка стукнула. Узрост Хрыста набліжаецца, а дзе тваё вучэнне?

— Відаць, пара...— Як гэта ўсё-такі цяжка — быць няшчырым. Няўжо Валя нічога не адчувае?

Апошнія сустрэчы сталі надта ўжо нацягнутыя, гэта недагаворанасць так і вісіць, і нідзе ад яе не падзенешся, ні за якія словы не схаваешся.

У Валі на цуд гарачыя пальцы. Калі прыкладала пальцы да твару, ён адчуваў прыемную салодкую хвалю цяпла, якім поўнілася ягонае цела, і тады ўсё далейшае, што было між ім і Валяю, адбывалася лёгка і проста — самі сабою ягоныя рукі цягнуліся да яе кволага мяккага цела... Твар Валі набліжаўся, Маркін адчуваў вуснамі яе поўныя саладкаватыя вусны, самі сабою заплюшчваліся вочы — хацелася адгарадзіцца і ад гэтага знаёмага да болю пакойчыка, і ад знаёмага твару, на якім пяроўная чырванаватая скура,— ад усяго, што замінала прыемнай салодкай хвалі цяпла і асалоды, якая ўсё большала і большала.

А потым тая хваля знікала, выкідвала яго, як рыбіну на бераг, ён заставаўся адзін, і цяпер ужо можна было цвяроза глядзець і на тэлевізар, і на кніжную паліцу, і на знаёмае вялікае, на паўсцяны, акно, за якім без перапынку гудуць і гудуць машыны. Сохлі вусны, хацелася піць, у душы паяўлялася разгубленасць, якая была настолькі балючая, што паўтарэння ўсяго, што толькі што было, не хацелася. Не, не, ні ў якім разе. Досыць. Як ён баяўся гэтых адзінокіх хвілін. Цяпер ён ужо і не ведаў, шкадаваць ці радавацца за тое, што пазваніў...

— Ну, перастань, Валя.— Апошні час Валя шмат плакала. Яе цёплае аголенае плячо, здавалася, астывала... Думалася, што справы дрэнь, калі Валя пачала часта плакаць. Раней гэтага не было, а цяпер амаль пры кожнай сустрэчы бываюць слёзы. Відаць, у Валі пачала з'яўляцца надзея. Раней, напачатку, такой надзеі не было, тады ўсё было проста, як двойчы два, а цяпер Валя пачала спадзявацца... Горай за ўсё, калі паяўляецца надзея на штосьці недасягальнае,— гэта ён ведаў па сабе. Відаць, з яе гарачнасцю і катэгарычнасцю Валя калісьці не вытрымае — выкажа ўсё са слязьмі і пойдзе. Назаўжды. І яшчэ падумалася, што цяпер гаварыць Валі пра адпачынак не варта. Лепей ужо заўтра, як будуць ісці на работу. Кожны на сваю. І вось тады, дзесьці на аўтобусным супынку, калі пакажацца аўтобус, можна будзе і сказаць. Магчыма, гэта будзе іх апошняя сустрэча. Ад думак пра развітанне з Валяю было няёмка — быццам ашукаў кагосьці і кінуў...

2

Валера разы тры ляснуў далонямі і, акінуўшы позіркам групу, перакрываючы гоман і смех, гучна сказаў:

— Ціха. Ведаеце, хто найболей верыць у прыкметы? Як ні дзіўна, але людзі рызыкі: маракі, лётчыкі, спартсмены і, канечне, мы, турысты. І таму прашу, прысядзем перад далёкай дарогаю і памаўчым хвіліну.

Людзі заціхлі і пачалі садзіцца. Хто куды — на мураву, на дошкі прыстані, а хто — дык і на сядзенні лодак. Моўчкі глядзелі на блакітную ваду, якая, здавалася, намалу падымалася ўдалечыні ўгору, ледзь не да самага небасхілу, і толькі там, далёка-далёка, цямнела вузкая, у палец, палоска лесу, на гэты пакаты бераг, дзе размяшчалася турбаза — лёгкія драўляныя будыніны хаваліся між тонкіх зялёных бяроз, якія цяпер роўна шумелі на лёгкім ветры,— на тую ж валейбольную пляцоўку, дзе жаўтаватыя ад загару людзі мітусіліся і пакрыквалі — аж адсюль, з прыстані, чуліся іх крыкі.

Дзве гадзіны дня. Дзень сонечны і ціхі. Цёплы вецер наганяў на бераг дробныя грыўкі хваль. Мужчыны паздымалі кашулі — загаралі... Удалечыні ля берага возера лёталі чайкі — то апускаліся да самай вады, то, падымаючыся ўгору, ледзь не хаваліся ў блакіце. Тады, як чайкі падымаліся ўгору, на іх цяжка было глядзець ад яркага спякотнага сонца. Ад позірку на гэтых белых вольных птушак з рэзкімі ўзмахамі крылаў яшчэ болей адчувалася, як шмат тут пасля горада чыстага паветра, сонца, вады — усяго, па чым кожны гараджанін, сам таго не заўважаючы, засумаваў. І мо таму цяпер у кожнага, хто адплываў, быў узбуджана-радасны настрой, які бывае ў людзей перад адпраўленнем у малавядомую дарогу.

Розныя людзі былі ў групе: і моладзь, і сярэдняга веку, і пажылыя — звычайныя людзі, твары і паводзіны якіх на першы погляд здаваліся аднолькавымі, як аднолькава невыразнымі здаюцца твары ў тлумнай мітусні. Пакуль што яшчэ мала хто каго ведаў, і гэта весяліла, як звычайна весяліць пачатак знаёмства, калі чалавек з лёгкасцю адкрывае душу і гаворыць часта тое, што потым ужо ніколі не скажа.

Толькі Валеру ўсе ведалі. Валера быў старшы. Ён ужо бываў у такіх паездках, і неаднойчы. Голы да пояса, загарэлы — калі паспеў,— ён, як пірат, завязаў адно вока хусцінаю, на шыі ў яго матлялася нейкая вяроўчына са свістулькаю. Чамусьці так атрымлівалася, што Валера заўсёды быў ва ўсіх на вачах. За гэтыя тры дні, калі збіралася група, Валера, здавалася, пахудзеў ад бегатні і крыку, і цяпер — о-о, жаданы міг! — амаль усё было ззаду, а наперадзе была свабода, вада, сонца і вёслы... І таму ён, як

бацька на дзяцей, глядзеў на групу і час ад часу пасміхаўся.

Ужо ўсё было размеркавана, раскладзена па лодках, абгаворана, і цяпер заставалася адзінае: пасядзець моўчкі, развітацца з гэтым берагам, з турбазаю, магчыма, нават з тым жыццём, якое было ў кожнага да гэтага дня. І, відаць, кожны, хто адплываў, ужо марыў пра другое жыццё, якое павінна пачацца там, на далёкім пустым востраве.

Нарэшце Валера падняўся з муравы, свіснуў у свістульку, скамандаваў:

— На вёслы...

Людзі пачалі садзіцца — кожны ў сваю лодку. Лодкі зыбаліся, адразу ж пачуліся жаночыя воклічы: «Ой, ай, перакулімся...» Але вялікай трывогі ў гэтых крыках не было, наадварот, яшчэ весялей станавілася на душы, хацелася па-дзіцячы смяяцца, выстаўляць язык і гаварыць праважатым: глядзіце, глядзіце і зайздросце, мы паедзем, а вы, матраснікі, застанецеся і ніколі не пабачыце таго, што мы ўбачым...

Усіх лодак было чатыры. У трох лодках было па чатыры чалавекі — дзве жанчыны і два мужчыны — і толькі ў чацвёртай, дзе сабралася моладзь, было пяць чалавек. Мужчыны — дужая і адважная палавіна — сядзелі на вёслах. «Руш!» — крыкнуў Валера і першы ўзмахнуў вёсламі.

Памалу лодкі пачалі адплываць ад прыстані, на якой сабралася даволі-такі шмат праважатых — тых леных матраснікаў, над якімі пасмейваўся Валера. І хоць мала хто з праважатых ведаў тых, у лодках, але ў гэты міг незнаёмыя людзі нечакана сталі блізкімі адно аднаму, чамусьці яны пачалі махаць рукамі, нешта кожны па-свойму выкрыкваць — бывайце, бывайце... І было ва ўсім гэтым штосьці і ад гульні, і ад сур'ёзнага, быццам і сапраўды тыя, у лодках, адпраўляліся некуды далёка-далёка, адкуль ужо і не магло быць вяртання.

Адпраўленне... Што можна знайсці ці адкрыць у чалавеку больш загадкавае?

Увесь час мы кудысьці адпраўляемся. Куды, навошта — мы і самі часта не ведаем, адчуваем толькі, што ў адпраўленні ёсць вялікая таямніца, якая прымушае сціскаць шчыльна вусны, выціраць далонню

мокрыя вочы, падымаць угору руку і памахваць усяму таму, што добра ведаем: бывай, бывай... Гэта потым мы знаходзім апраўданне ці абвінавачанне нашым падарожжам, блуканням ці бадзянням, усё гэта — потым, а спачатку, калі прыслухацца да сябе, то, відаць, кожны з нас пачуе тугу па яшчэ не бачаным, не чутаму, не пражытаму... Спачатку туга, потым мэта і апошнім — апраўданне ці абвінавачанне...

Малыя, толькі-толькі навучыўшыся поўзаць, мы ўжо спяшаемся да роднага парога, потым, падняўшыся на ногі і агледзеўшыся, як і калісьці, як і да нас, мы пакідаем абжыты куток і спяшым удалеч, за тыя трыдзевяць зямель, да тых малочных рэк з кісельнымі берагамі, да тых жар-птушак з залатымі пер'ямі, да тых прынцэс і царэўнаў, якія толькі і чакаюць, калі мы прыбяжым ці прыляцім да іх і вызвалім ад злых чараў... Мы спяшаемся на тыя караблі, што павязуць нас адкрываць новыя Амерыкі... І вось ужо магутная ракета падымае нас угору, у тую чорную бяздушную прорву, адкуль зямля і родны парог амаль не бачны.

Куды?.. Навошта мы так спяшаем пакінуць сваю калыску?..

І нават у апошні міг развітання з жыццём, калі ўжо добра вядома, што наперадзе нічога няма, нават пустэчы, космасу і тых няма, не гаворачы пра жарптушак з залатымі пер'ямі і малочныя рэкі з кісельнымі берагамі, то і тады насуперак усім законам розуму і логікі штосьці невядомае прымушае гаварыць калі не ўслых другім, тым, якіх навечна пакідаем, то хаця б сабе: бывайце, бывайце — быццам гэтае апошняе адпраўленне не навечна, а толькі часова і наперадзе калісьці будзе палкая сустрэча.

Дзе і калі — гэта ўжо няважна.

Валера ведаў, што галоўнае — набраць рытм і тэмп. І потым — не збівацца. Яшчэ з таго часу, як з Віцем гулялі ў адной інстытуцкай зборнай па валейболу, яшчэ тады, у часы першых трэніровак, ён зразумеў гэтае правіла: ніколі ні ў якім разе не распускацца, трымаць сябе ў рытме. «Запомніце,— любіў паўтараць тады трэнер і час ад часу паляпваў

гучна далонямі,— прыродаю правіць не хаос, а рытм. Так яшчэ старажытныя грэкі гаварылі, а яны, як вам вядома, былі не дурні». Так, той трэнер гаварыў правільна. На любую з'яву жыцця ў трэнера было тлумачэнне. Ён так і гаварыў: «Прайграе́ той, хто без пары расслабляецца».

...Той жа Маркін — пачаў прайграваць. Нічога хлопец, усё ёсць — і галава, і рукі, а вот выбіўся з рытму, і ўсё, гатовы...

— Віцёк, паднаціснулі,— Валера пазіраў час ад часу на наіўную зялёную дзеўчынёху з вялікімі вачыма. Яна трымала аберуч рулявое вясло. Злавіўшы яе позірк — у гэтым было нешта рэальнае, быццам ён браў яе за руку,— ён усміхаўся... Доўга ў вочы яна не глядзела, ледзь-ледзь усміхнуўшыся, дзеўчынёха тут жа старалася перавесці позірк на ваду, якая пад ударамі вёслаў бурболіла і пенілася. У яе кароткіх нясмелых позірках было штосьці ад дзіцячай гульні, былі намёкі на нешта большае, якое будзе потым, пасля...

І раз, і два... Ззаду ён чуў, як гэтак жа рытмічна бухаюць у ваду вёслы Віці. Прыемна было адчуваць пругкасць гэтай на цуд празрыстай вады, моц сваіх рук, моц свайго спружыністага здаровага цела — тое, што фігура ў яго першакласная, гэта ён таксама ведаў.

І раз, і два... Не забываць пра дыханне. Як гаварыў трэнер, стамляецца не той, хто шмат робіць, а той, хто не ўмее дыхаць. Хутчэй забулькала, забурболіла вада пад ударамі вёслаў — яны пачалі абганяць другія лодкі і выходзіць наперад. Там, на тых лодках, жанчыны замахалі рукамі, а мужчыны толькі зрэдку кідалі на іх кароткія позіркі.

Усё правільна, цяпер трэба націснуць і выйсці наперад. Заўсёды ў любой сітуацыі надыходзіць такое імгненне, калі трэба націснуць, выкласціся... У гэтым жыцці трэба паводзіць сябе гэтак жа, як на той стометроўцы, як пры ўдары мяча над валейбольнай сеткаю, калі адчуваеш пасля ўдару, што мяч ужо ніяк не зачэпіць разведзеныя пальцы блакіруючых і, між тым, мяч — частка твайго цела, і да таго часу, пакуль ён не стукнецца аб пляцоўку, ты так і застываеш над сеткаю ў сваім парэнні, нават рукі павaрушыць не можаш... У жыцці заўсёды трэба рызыкаваць, ісці

да канца, з усяе сілы. І толькі тады будзе вынік, ад якога ўсе тыя, хто не ўмее ці не можа ісці да канца, аслупянеюць і развядуць рукамі: гэта ж трэба, каб яму так пашэнціла... Яны прапускаюць гэтае імгненне, мо ім проста і невядома «даста-ань», «вазьмі-і», што вырываецца з болем і адчаем... Ім невядома ўсё гэта, і таму яны ніколі не будуць першыя. Галоўнае, не выпусціць той момант, калі трэба пачынаць гэтае «даста-ань» альбо «вазь-мі-і»...

Далёка застаўся зменшаны гарбаты бераг, на якім кропкамі бялелі будынкі турбазы. Калі-нікалі Валера пазіраў то на турбазу, то на гэту дзеўчынёху, якая трымала рулявое вясло.

— Алёна Міхайлаўна, мы пад тваім мудрым кіраўніцтвам на мель не сядзем?

— Не павінны.

— Малайчына ты ў мяне! Толькі вясло так моцна аберуч не сціскай. Не бойся, яно з рук не ўцячэ.— У яе харошы голас, у гэтай малой. Як і твар, як і постаць.

Ён і не думаў, што так удала ўсё атрымаецца. А ўвогуле, калі цвяроза разабрацца, іначай і не магло быць — не атрымліваецца нічога заўсёды ў таго, хто не ўпэўнены ў сабе. А калі ты ўпэўнены, то атрымаецца, павінна атрымацца — гэта ён ведаў па свайму вопыту.

Ён пазіраў на Алёну і ўспамінаў той першы вечар, як толькі прыехалі з Віцем на турбазу. Яны тады пайшлі на танцы. На гэтай вясёлай турбазе ён бываў і дагэтуль — калісьці тут праводзіліся зборы,— так што тыя няпісаныя турбазаўскія законы ён ведаў цудоўна і таму на танцы спецыяльна не апранаўся, пайшоў у тым, у чым на складзе быў цэлы дзень: у латаных выгаралых джынсах, у спартыўных імпартных туфлях, у цёмнай батлеечцы, якая шчыльна абцягвала ягоныя дужыя плечы. Адразу ж, з парога клуба, ён агледзеў залу. Народу, як заўсёды, як і ў тыя даўнія часы, было шмат, але цікавае, што на першы погляд не заўважыў — у асноўным былі сярэдняга веку мужчыны і жанчыны з невыразнымі тварамі. Пракідвалася яшчэ там-сям зялёная моладзь, але ўсё гэта было не тое, не тое... Заўважыў іх Віця: штурхнуў локцем у бок і кіўнуў галавою ў кут залы — гля, стары, курачкі...

Ён зрабіў гэтае «гля» і аслупянеў... Па ўсім было відаць, што яны таксама ўпершыню прыйшлі на танцы, яны, відаць, увогуле ўпершыню былі на турбазе, бо стаялі яны ля самай сцяны, схаваныя, заціснутыя вялікім натоўпам. Ля іх тырчалі слупамі два лысаватыя жанацікі. Усё было ясна як божы дзень, яму дастаткова было толькі раз глянуць на іх сумныя твары, як ён усё зразумеў. Цяпер толькі заставалася папярэдзіць Віцю: «Ша, мая ў штоніках» і яшчэ ў час злавіць першыя гукі вальса. Галоўнае — злавіць момант...

— Паплылі, Віцёк.— Ён не прайшоў, а і сапраўды праплыў праз яшчэ пустую залу, не надта нахабна і не надта развязна — проста ён прайшоў як чалавек, які шмат чаго пабачыў у жыцці і добра ведае сабе цану. Яму ж не васемнаццаць і нават не дваццаць, калі ўсё на свеце здаецца альбо чорным, альбо белым. Падышоўшы, ён агледзеў іх спакойным позіркам, усміхнуўся — ведаў, што ў яго цудоўная ўсмешка,— працягнуў адкрытую далонь той, у штоніках. Ён маўчаў. Ён ведаў, што ўсё патрэбнае можна сказаць вачыма. І яшчэ ведаў, што на гэтых жанацікаў не трэба нават і глядзець. Як іх тут і няма ўсё роўна.

Тады ўжо, як закружылі ў вальсе, шырока і раскаціста, асцярожна лавіруючы між другімі парамі, ён спытаў з усмешкаю:

— Першы раз на турбазе?

— Першы. Ну і што з гэтага? Што вы гэтым хочаце сказаць? — Як яна старалася прадэманстраваць сябе дарослай, як ён гэта цудоўна бачыў! Гэтыя поўненькія, ярка фарбаваныя вусны, гэтыя адпрасаваныя, без адзінай плямачкі і складачкі штонікі, гэтыя басаножкі з жоўценькімі, пад золата, банцікамі, гэтая празрыстая лёгенькая беленькая кофтачка, пад якой так і бачна, як пульсуе маладое гарачае цела — як ён усё гэта ясна бачыў, як ён разумеў, што маячыла за гэтымі штонікамі, банцікамі, кофтачкаю!

...Як і тое, што паводзіць сябе трэба асцярожна. Такіх і спудзіць нядоўга. Дастаткова аднаго слова, і — усё, памінай як звалі...

Цяпер трэ было толькі танцаваць, без перадыху, шырока і спакойна, так, быццам у іх абаіх цэлы век наперадзе, а не гэтыя дваццаць лічана-пералічаных

дзён. І ні ў якім разе не трэба глядзець на гэтых аслупянелых лысаватых, з жывоцікамі жанацікаў — хай яны ўюцца ля вунь тых распаўнелых расфуфыраных жанчын, у якіх пышныя парыкі і шыньёны, пышныя, як абхапіць, станы і прытомленыя вочы, якім усё вядома... Туды, даражэнькія, ідзіце, да таго багацця, і саступіце дарогу гэтай маладой пары, якая з усмешкаю вальсавала па крузе.

Ён ведаў, цудоўна ведаў, як ёй прыемна адчуваць гэтыя зайздросныя захопленыя позіркі жанчын, якіх тут, як і ўсюды на турбазах, у дамах адпачынку, удвая ці ўтрая болей, чым мужчын, і таму ім нічога не заставалася, як танцаваць адна з другою ці стаяць непрыкаяна ля сцяны; ён ведаў, як ёй прыемна цеплыня ягонай дужай далоні, якая на крутых паваротах прытрымлівала, ледзь не прыпадымала над гэтай грэшнай зямлёю яе лёгкае цела. Яму ўсё гэта было даўно вядома, і таму ён цяпер не спяшаўся. Яму не трэба было спяшацца, бо тут сярод зялёных падлеткаў з рэдзенькімі, як у козлікаў, бародкамі сапернікаў ён сабе не бачыў, а з таго, што тут мелася, што можна было выбраць, яна была найлепшаю...

— Як жа цябе завуць?

— Алёна.

— А па бацьку?

— Міхайлаўна.

— Алёна Міхайлаўна, вы не стаміліся? — Ні ў якім разе не трэба забываць пра ўсмешку... Толькі смех, жарты, насмешачкі і — ні слова сур'ёзнага. Яна павінна адчуваць, што з ёю вядзецца гульня, лёгкая і бесклапотная, як і яе жыццё...

— Не, канечне.— Як яна палыхнула жарам. Так-так, золатка, так цябе яшчэ не называлі. Ты даўно лічыш сябе дарослай і самастойнай, а да цябе звяртаюцца, як да малечы, і гэта цябе, безумоўна, крыўдзіць.

— Можа, пройдземся? Тут столькі людзей, праўдзівей, не людзей, а народу. Тут так душна.

— Я не адна прыйшла. Са мною яшчэ Ірка, і яна...

— Канечне, мы адны нікуды не пойдзем. Нам жа мама не вялела,— ён зноў усміхнуўся. Ах, як гэта здорава тыкаць яе носам у маладосць і нявопытнасць!

У перапынку між танцаў ён падвёў Алёну Міхайлаўну да Віці, які стаяў побач з Іркаю. Ён коратка і хутка акінуў позіркам кароценькую, вышэй калень, спаднічку, ружовенькую, з вялікім выразам, кофтачку, тонкую шыю, ярка расфарбаваныя, як у лялечкі, вусны, наклеепыя доўгія вei і апошняе — кароценькую, «пад хлопчыка», прычоску — ад усяго ўбачанага павеяла чымсьці спешчана-капрызным. Яна, канечне, не Алёна Міхайлаўна...

Такіх, як Ірачка, сустракаў ён на турбазах і раней. І не адну... Звычайна такія дзяўчаткі маюць разумных інтэлігентных бацькоў, з маленства яны навучыліся разважаць высокімі паняццямі і катэгорыямі, дзесьці ў пятнаццаць год ім здаецца, што яны ўсё на свеце ведаюць, тым лёгкім, што не закранае душу і сэрца, веданнем, якое прасціраецца на апошнія тэатральныя прэм'еры, модныя плацці ці туфлі, у час сказаныя словы пра нешта агульна-касмічнае, якім так ёмка і выгадна падкрэсліваць сваю выключнасць у гэтым тлумным заблытаным свеце, год у семнаццаць яны ўсур'ёз гавораць пра расчараванне і нявернасць, а яшчэ гады праз тры-чатыры на іх тварах паяўляецца вось такая скептычна-насмешлівая ўсмешка, ад якой чамусьці сумна і холадна. І хоць з такімі дзяўчатамі лёгка і проста дамовіцца аб чым хочаш, але гэтак жа лёгка і проста з імі расстаешся і потым рэдка і без болю пра іх успамінаеш. Яны самі пра гэта цудоўна ведаюць, яны адчуваюць тое, што пануе вакол іх, і таму ўсё смялейшаю і адчайнейшаю стае іх усмешка. І цяпер яны ўжо і сапраўды адчуваюць расчараванне і нявернасць. Але цяпер яны пра гэта не гавораць, наадварот, калі ні глянь на іх — заўсёды на твары весялосць, заўсёды на іх тая маска дабраты і лёгкасці, за якой яны стараюцца схаваць занадта рана пастарэлую душу, якая, як тая кветка на холадзе, так і не раскрылася ў свой час...

— Віцёк...

— Аў...

— Вы не праводзіце нас на вуліцу? Пад зоры, на траву росную. А то вось Алёна Міхайлаўна баіцца адна са мною ісці, мала што можа здарыцца.

— Я зараз з Ірачкаю параюся, яна ў мяне начальнікам.— Віця нагнуўся да Ірачкі і штосьці за-

шаптаў у вуха — відаць, у іх кантакт поўны, калі толькі паспелі... Ірачка слухала і, гледзячы на Валеру, смяялася.

— Ну, пайшлі, калі вы баіцеся.— Ірачка ўзяла Віцю за руку і павяла з залы пад тое высокае зорнае неба, якое даўно чакала, калі пад ім пакажацца Алёна Міхайлаўна — ад холаду яна сцепане плечкамі, зірне ўгору і скажа: «Як хораша тут, на турбазе. Зусім не тое, што ў горадзе. Там і зор ніколі не ўбачыш. І яшчэ гэта возера, гэта месячная дарожка. А туману, туману колькі!»

— Алёна Міхайлаўна, вам не цяжка рулявое вясло трымаць?

— Не.

— Нічога, пацярпіце, зараз прывал зробім.— Ён глядзеў на лодкі, якія па адной расцягнуліся далёка ззаду. Апошняя лодка была з моладдзю — з байкавай коўдры і вёслаў яны ўсё стараліся зрабіць ветразь. Нічога, хай спрабуюць, нездарма гавораць: лянота — рухавік прагрэсу... Берагі возера пачалі набліжацца — з гэтага боку возера памалу пераходзіла ў вузкую пратоку, якая ўсё вузела і вузела. Цяпер ужо зусім блізка была трава, чарот... Недалёка ля берага сярод зялёных шырокіх лістоў, што ляжалі на вадзе, бялелі лілеі.

— Віцёк, стоп.— Ён перастаў веславаць, прыўстаў з лодкі і, коратка ўзмахнуўшы рукамі, даў нырца ў ваду. Апошняе, што пачуў перад уваходам у ваду, гэта Алёніна здзіўленае: «Ой!» Нічога, Алёна Міхайлаўна, ты проста не падазраеш, што ў яго першы разрад па плаванні і цяпер ён можа спакойна падплысці да травы і нарваць белых лілеяў. Не ў магазіне купіць і нават не на рынку, а вось так... Вось так... Ты павінна адчуць сябе жанчынаю, Алёна Міхайлаўна, ты павінна адчуць, што дзеля цябе чалавек гатовы пайсці на што хочаш. Вось так, цяпер ты можаш пакласці белыя лілеі на калені, глядзець на іх і захапляцца, колькі душы хочацца.

Яны зноў пачалі веславаць, зноў лодка набрала хуткасць — пацякла назад, запенілася, забурболіла вада... Удалечыні паказаўся высакаваты бераг, на якім аж адсюль бачыліся высокія сосны. Пад сосна-

мі расла трава, там было чыста, як хто знарок прыбраў.

— Алёна Міхайлаўна, а цяпер кіруй вунь да таго берага, дзе сосны. Там мы прывал зробім,— ён кіўнуў галавою ў бок берага.

Нарэшце, мякка шоркнуўшы днішчам аб пясок, лодка прыстала да берага. Выбраліся з лодкі, затым Валера з Віцем аблегчаную лодку падцягнулі вышэй на бераг, а потым вузкай сцежкаю пайшлі ўгору, да сосен.

— Ну, вот, адпачнём трохі, а тады зноў у пуцьдарожку,— сказаў ён, усаджваючыся ў цяню сасны. Тут было чыстае прыгожае месца. З ім, гэтым месцам, у яго было шмат успамінаў, бо тут ён кожны раз рабіў з групамі кароткі прывал.

Адсюль добра бачылася возера, тыя тры лодкі, якія цяпер яшчэ здаля паварочвалі да берага. І здаваліся яны як цацачнымі. І яшчэ далёка-далёка вузкай палоскаю цямнеў працілеглы бераг, ад якога яны паплылі. Там ужо нічога не бачылася, ні будынін турбазы, ні валейбольнай пляцоўкі, ні тых жа бяроз. Калі ён глядзеў на той далёкі бераг, то здавалася, што ўсё, што там адбывалася, гэта ўжо і не надта цікавае, а самае цікавае — гэта ўсё, што адбываецца з ім тут, побач з гэтай малечаю...

Прыселі на траву парамі: Віця з Іркаю адышлі далей, каб ім вочы не мазолілі і яны, канечне...

— А мы што, сягоння да вострава не даплывём?

— Не-е, Алёна Міхайлаўна. Сягоння мы начаваць будзем не на востраве, а на беразе. На тое ж і паход, на тое ж мы і турысты... А вот заўтрашнюю ноч мы сустрэнем там, на востраве...

— Няўжо ён так далёка?

— Канечне... А ён, дарэчы, і не павінен быць блізка. Гэта ж табе не мамчына дача. Дарэчы, у вас ёсць дача?

— Ёсць.

— Ну вот, тым болей ты павінна мяне зразумець. І не гарадскі пляж, не тое вадасховішча з зялёнай вадою, да якога ў любы міг можаш дабрацца тралейбусам ці электрычкаю, гэта ж — востраў на возеры. Ты разумееш мяне, востраў — гэта не проста кавалак сушы, якая адусюль абмываецца вадою, а значна большае. Гэта зусім не тое, што ты вучыла ў шко-

ле. Ты разумееш, што я хачу сказаць? — Ён узяў яе руку. Якая яна гарачая!

Алёна шчасліва ўсміхнулася. Цяпер яна асмялела, далонь сваю не прымала:

— Ой, калі б ты ведаў, колькі я пра гэта думала! Вот пра гэта ж самае, пра што і ты гаворыш. Ведаеш, увогуле ў нас з табою, як у Талстога... Помніш, як пальцам па шкле выводзіліся толькі пачатковыя літары, а ўсё астатняе, сэнс астатніх слоў, яны ўгадвалі. Помніш пра гэта?

Ён кіўнуў галавою і пастараўся ўспомніць, у якім жа гэта рамане: у «Вайне і міры» ці ў «Анне Карэнінай»... І ў тым і ў другім любоў круцяць. Стары быў не дурань, ведаў, на чым жыццё трымаецца. А ўвогуле, дастань з яго раманаў каханне, і ўсё прападзе. «Любовь и голод правят миром»,— хто ж гэта сказаў? І яшчэ падумалася, што яе наіў — гэта добра, але ўсяму свая мера...

— Няўжо там ніхто не жыве?

— Ніхто. Вот ты сама ўяві, як бы стала сумна на зямлі, калі б на ёй зніклі неабжытыя астравы. Так што такі востраў патрэбен.

— А і праўда,— яна аж здзівілася такому адкрыццю.

Ён ляжаў на спіне, глядзеў у высокае блакітнае, без адзінага воблачка, неба і злёгку асцярожна пагладжваў далонь Алёны. Сёлета лета як спецыяльна па заказу для турыстаў — другі месяц сонца пячэ...

— Валера, гэта праўда, што з намі пісьменнік плыве? — здалёку пачуўся голас Ірачкі.

Давялося прыпадняцца.

Лодкі цяпер былі блізка, ля самага берага, але адсюль, ад гэтых сосен, яны ўсё яшчэ былі малымі. Як і людзі. У чацвёртай лодцы моладзь ветразь усё-ткі змайстравала — цяпер яны з крыкамі і смехам пераганялі другія лодкі... Моладзь, моладзь, яму б іх радасці...

— Кажуць, вунь той, лысаваты, поўны, з акулярамі — у трэцяй лодцы. Валера, праўда? Ты ж у нас старшы, усё павінен ведаць,— не маўчалася Ірачцы.

Ён паглядзеў на Віцю з Іркаю. Яны былі не так ужо і далёка. Ірка сядзела, абапёршыся спіною аб

ствол сасны, а Віця ляжаў на спіне, палажыўшы галаву на выцягнутыя Ірчыны ногі. Ірачка перабірала пальцамі цёмныя Віцевы валасы і, гледзячы на Валеру свойскімі вачыма, быццам яны дзесяць год прасядзелі ў школе на адной лаўцы, усміхалася.

Ох і Ірачка! Ну і ну! Ужо і пра гэта паспела ўведаць.

— А ты адкуль ведаеш?

— Ну, чула, якая розніца. Як кажуць, сарока на хвасце прынесла.

— Падыдзі да яго сама, спытай.— Ён усміхнуўся, зноў прылёг на спіну. Прыемна пабольвалі мышцы рук і спіны. Як пасля трэніроўкі. Цела мяккае і цяжкое. Цяпер трэба расслабіцца. Вось так, каб ніводная мышца не была напружана. Усяму свой час. Час напружанню, час расслабленню... Галоўнае, не выбівацца з рытму і не забываць пра свой час...

Падумалася пра тыя лодкі, якія цяпер недзе прыставалі да берага. Следам за імі плыў Маркін і нейкі стары. Таксама во — пясок сыплецца, а ўсё туды ж, у турысты лезе... З імі ў лодцы дзве малодкі — абедзвюм за трыццаць. Адна ўсё любіць «таварышы» паўтараць. Відаць, прафсаюзная актывістка. У трэцяй лодцы быў той лысы, з акулярамі пісьменнік, маладжавая фарбаваная бландзіначка з учэпістымі зыркімі вачыма, Маргарытаю завуць, і сямейная пара год трыццаці пяці — мужчына салідны, па ўсім відаць, начальнік нейкі ці намеснік, гэта ўжо пэўна... У апошняй лодцы сабралася моладзь — трое хлопцаў і дзве дзеўчынёхі. Сярод іх выдзяляўся Гарык — гітарыст... Гэты картавы чарнявенькі Гарык паявіўся ў іх групе ў самы апошні час, калі ўжо ўсё было размеркавана і абгаворана,— як з-пад зямлі вынырнуў са сваёй гітараю. Канечне, пятым у лодку яго ніхто б і не ўзяў, але ж — гітара, без яе цяжка абысціся. Здаецца, акрамя гітары ў Гарыка нічога і не было. А так, калі не лічыць Гарыка, то ўсе ў чацвёртай лодцы былі аднолькавыя: кудлатыя, гарластыя... Эх, моладзь, моладзь, сам калісьці гэткім жа дурнем быў...

Ён заплюшчыў вочы. Успомнілася маладосць, тая гарачнасць, нявопытнасць, тыя колкія жарты вопытных старэйшых спартсменаў, якія так хутка павучылі гэткай жа колкасці і цвярозасці. Інакш і не

магло быць. Іначай бы — заклявалі... Спорт — справа жорсткая. Гэта толькі тым, хто, разявіўшы рот, сядзіць на трыбунах, усё здаецца прыгожым і лёгкім. І тым болей, што здаля звычайна нікому не бачны гэты горкі салёны пот, што засцілае вочы.

— Дык што, камандзір, гэта мы ўжо прыплылі? — пачулася зверху. Валера расплюшчыў вочы. Ля самай галавы стаяла фарбаваная Маргарыта з трэцяй лодкі — размалявалася так, быццам не ў паход выправілася, а на фестываль у Каны... Хоць, кажуць, і актрысы цяпер не надта фарбуюцца — не модна... Цяпер мода на ўсё натуральнае, засумавалі людзі па прастаце, наіву, адкрытасці...

Трэба падымацца.

— Не. Нас яшчэ далёкая дарога чакае.

— А ўдар у той дарозе будзе? — Маргарыта ўсё не адыходзіла, усміхалася. Алёны яна як і не заўважала.

— Будзе, абавязкова будзе,— запэўніў ён Маргарыту. О-о, як шмат можна сказаць позіркам. Відаць, гэта бялявая Маргарыта ўжо на ўсіх астравах пабывала...

— Маргарытачка, хадзі сюды, скажу штосьці,— ззаду ад берага па сцежцы падымаўся той лысаваты з акулярамі пісьменнік. У гэтага мужчыны лысіна была даволі-такі здаровая, ён яе, як і многія мужчыны, старанна хаваў доўгай пасмаю валасоў, якія пакуль што кусціліся на патыліцы — рэгулярна, як заведзены, ён высока ўзмахваў над галавой левай рукою і растапыранай пядзяю закідваў тую доўгую, спецыяльна адгадаваную пасму валасоў на голае цемя... І па паходцы, і па паводзінах было відаць, што чалавек ён цікавы, позірк у яго быў спакойны і ўпэўнены, звычайна пра такога чалавека гавораць: пад зямлёю на тры аршыны бачыць...

— Іду, Пецечка.— Маргарыта пайшла да мужчыны, які тут жа пачаў ёй нешта гаварыць.

На сцежцы паказаліся іншыя: Маркін з маршчыністым дзедам, жанчыны з іх лодкі, сямейная пара. Апошнімі гурбою валілі маладыя — у цэнтры вылучаўся кучаравы, з вусікамі Гарык, які на хаду іграў на гітары.

— І не стаміўся во,— услых здзівіўся Валера, калі ўсе падышлі да яго — чамусьці так атрымліва-

лася, што людзі ўвесь час стараліся быць побач з ім, старшым, які ўжо не раз бываў у паходах і ведаў, што да чаго. Адзін Маркін рабіў выгляд, што ўвогуле з Валерам незнаёмы і знаёміцца не жадае. Гэта бывае. Хочаш мець сябра — не жыві побач, а старайся сустракацца радзей.

— А ён у нас на вёслах і не сядзеў. Ён нам усё песні спяваў. Пад гітару,— растлумачыла дзеўчынёха з чацвёртай лодкі.

Усе засмяяліся.

— А-а,— працягнуў Валера,— песні спяваць — гэта таксама не кожнаму дадзена. На гэта талент патрэбен. Цяпер век такі — без таленту ні кроку. Заплюшчыўшы вочы палку кінь — у таленавітага пападзеш. То стыліст, то парадыст, то...

Але Гарык зусім не пакрыўдзіўся, разам з усімі ён весела ўсміхаўся і глядзеў на Валеру так, быццам ён, Гарык, тут быў ні пры чым.

— Красата, рабяты, як я пагляджу,— сказаў Гарык, калі Валера скончыў свой маналог. Ён стукнуў усімі чатырма пальцамі па струнах і, ківаючыся, адчайна забедаваў:

Но только не порвите
Серебряные струны-ы...

Зноў дзвынькнуўшы струнамі, Гарык заціх. Пасля гэтага ён усеўся на мураву ля сасны і, нахіліўшы галаву да гітары, пачаў нетаропка перабіраць пальцамі струны. Мелодыя то паяўлялася, то знікала...

— Ну, збацай што вясёленькае.— Валера глядзеў на гэтага баявога рухавага хлопца і ніяк не мог угадаць, колькі ж яму год. Звычайна такія вясёлыя кампанейскія хлопцы, як гаворыцца, і ў агні не гараць і ў вадзе не тонуць... І яшчэ падумалася, што такія кудлаценькія, невялічкія, як у Гарыка, вусікі чамусьці пачалі насіць многія. Самому завесці такія ж, ці што?..

Гарык, прыжмурыўшы левае вока, ківаючы з боку на бок галавою, не гледзячы ні на кога — быццам ён на гэтым беразе быў адзін, як Хрыстос у пустыні,— заспяваў.

У голасе Гарыка быў такі непрыдуманы адчай, што прысутныя пачалі ўсміхацца. Нашто ўжо, зда-

ецца, сур'ёзны чалавек Пётр Хведаравіч, пісьменнік жа, не абы-хто, і той — смяяцца не засмяяўся, але ўхмыльнуўся чамусьці...

## 3

Сідарэвіч усё ніяк не мог прывыкнуць да гэтых на цуд даўганогіх, гарластых, упэўненых хлопцаў і дзяўчат, ён усё адчуваў сябе сярод іх лішнім, як адчуваў сябе на пачатку заводскага сходу, калі хтосьці нябачны з задняга раду крэслаў гучна выкрыкваў: «Сідарэвіча ў прэзідыум». І вось тады, як у вялікай зале лунала гэтае «Сідарэвіча ў прэзідыум», ён адчуваў сябе няёмка, і здавалася яму, як ішоў вузкім праходам між радамі крэслаў, што заводскія толькі і глядзяць на ягоныя не надта адпрасаваныя штаны, на ягоную шэрую кашулю, на якой ніколі не красаваўся гальштук, на загрубелыя, сагнутыя, непрыгожыя пальцы, якія, як ні шаруй, начыста не адмыеш. Ён стараўся ісці апошнім да таго высокага прадаўгаватага стала на сцэне заводскага клуба — на гэтым стале, як помніцца, заўсёды стаяў графін з вадою і шклянка. Ён зайздросціў тым людзям, якія часцей траплялі ў прэзідыум сходаў, і таму яны маглі гэтак спакойна і натуральна паводзіць сябе перад позіркамі соцень людзей, і таму яны гэтак роўна і спакойна маглі гаварыць у мікрафон, і здавалася, што б увогуле ні пачалі рабіць гэтыя людзі, усё ў іх атрымлівалася прыгожа і гладка, а вось на ім, Сідарэвічу, нават новенькі, з магазіна касцюм і той вісіць як на коліку... І таму за тым высокім прадаўгаватым сталом, накрытым чырвонай матэрыяй, Сідарэвіч звычайна садзіўся апошні, дзесьці ў другім, а то і ў трэцім радзе, каб меней вытыркацца і не паказваць свае цяпер непатрэбныя рукі з непрыгожымі пальцамі. І чакаць, пакутліва і доўга, калі ж скончыцца ўсё гэта...

Вечар. Хоць яшчэ ўсюды светла і чыста, але сонца ўжо закацілася за гладзь роўнай вады, і толькі ружова-малінавыя воблакі, якія невядома адкуль паявіліся на захадзе ў канцы дня, усё яшчэ дагаралі роўным і чыстым жарам. Збоку ад палатак, дзе была доўгая водмель і пачынаўся густы непралазны чарот, хрыпла крычалі чайкі — яны, як тыя камары на

пагоду, віліся роем, то нэчакана і хутка падаючы да вады, да таго ж чароту, то ўзвіваючыся ўгору. Ветру амаль што не адчувалася, але маленькія, у пядзю, хвалі набягалі і набягалі на гладкі, вылізаны вадою жоўты пясчаны бераг, на барты лодак, якія цяпер, напалову выцягнутыя на бераг, здаваліся вялізнымі рыбінамі...

Сідарэвіч сядзеў на мураве, глядзеў перад сабою на роўную ваду, на тыя далёкія воблакі, на гэтыя лодкі, і, чуючы хлюпанне хваль, крыкі птушак, гоман і смех людзей ля палатак,— яны цяпер, распаліўшы агонь, паставіўшы палаткі перад першай ноччу на востраве, весяліліся хто як мог — ён нечага не мог зразумець.

Незразумела, ці то ў ім самім, ці то вакол яго, але Сідарэвіч адчуваў нейкую сцішанасць, той вячэрні спакой, які, як толькі цяпер пачаў успамінаць, ён адчуваў калісьці. І тады, у той даўні, амаль што забыты час, Сідарэвічу было надта ўжо добра і ўтульна на свеце. І таму цяпер здавалася Сідарэвічу, што ўсё, што вакол яго,— і крыкі птушак, і хлюпанне хваль, і тая бязмежная далеч, у якой недзе там, далёка-далёка, дагараюць бязважкія воблакі,— гэта толькі напамін на штосьці, што ён забыў, такое дарагое і блізкае, без чаго ён і жыць не можа. Што ж ён забыў?

Пашчыпвала ў вачах, ён час ад часу праводзіў па іх пальцамі і ўсё ніяк не мог зразумець, што з ім адбываецца. У ягонай душы не было цяпер той тугі і адчаю, да якіх, здавалася, прывык з гадамі, нешта другое паявілася ў ім, болей спакойнае і, як ні дзіўна, болей шчымлівае. Сідарэвіч глыбока, аж да болю ў грудзях, удыхаў у сябе чыстае лёгкае паветра і адчуваў, як памалу зліваецца з усім гэтым, што нерухома застыла ў чаканні чагосьці...

Ён ведаў, што дзень мінуў, зараз пачнецца зорная ноч, а цяпер вось чысты ясны вечар, які заўсёды бывае перад ноччу — ён усё гэта ведаў і ўсё ж чамусьці сам сабе шаптаў: «Ах ты... Які вечар... Ужо і вечар...» Быццам і не было ў ягоным жыцці другіх вечароў... І так яму не хацелася, каб усё канчалася, каб знікла гэта сцішанасць і гэтае пязвыклае пачуццё еднасці з усім, што вакол яго.

І яшчэ яму было добра ад таго, што адышло ўсё тое нядобрае ў ягонай душы, якое паявілася там, на турбазе. Там ён так і не мог знайсці сабе напарніка ў лодку — такога ж, як і сам, пажылога спакойнага мужчыну. Як ні прыглядаўся, усюды Сідарэвіч бачыў вясёлых хваткіх мужчын і жанчын, якія хутка на хаду з паўслова знаёміліся, знаходзілі нейкія лёгкія вясёлыя словы, пасля, як падлеткі, бегалі вечарамі на танцы, блукалі да поўначы берагам возера і, гучна ўздыхаючы, гледзячы на бляск месячнай дарожкі, на белаватыя пасмы туману, якія слаліся над мокрай цяжкай травою, забыўшыся пра сем'і, абавязкі і пасады, гаварылі і гаварылі штосьці блытанае, доўгае і цьмянае, што гадамі збіраецца ў душы і да пары да часу не можа выплеснуцца, гаварылі тое, што, магчыма, і самі таго не ведаючы, старанна захоўвалі, як захоўваюць і зберагаюць нешта надта ўжо дарагое.

Да пары да часу...

Сідарэвіч даўно адышоў ад усяго гэтага: і ад лёгкіх знаёмстваў, і ад танцаў, і ад гэтых доўгіх бясконцых гаворак, пад час якіх болей думаеш пра сябе, чым пра субяседніка,— цяпер ён глядзеў на ўсё гэта неяк зверху, і было яму чамусьці няёмка і сорамна, быццам незнарок падглядваў за тым, што яму непатрэбна.

Ён ехаў за іншым на турбазу і цяпер хацеў як мага хутчэй прыбіцца да якой групы, якія бадай штодня адплывалі ад прыстані.

Але з кім яму было адплываць? І як яму паводзіць сябе з гэтымі хлапчанятамі?

Звычайна раніцай ён прыходзіў на прыстань, дзе бегалі баявыя хлопцы і пакрыквалі, махаючы рукамі,— набіралі групы. І была ў Сідарэвіча надзея, што вось-вось паявіцца гэткі ж, як і сам, спакойны мужчына, з якім можна паплыць у адной лодцы. Ды і потым, на востраве, ён змог бы жыць з такім мужчынам у адной палатцы, пра нешта гаварыць — пра што могуць гаварыць людзі аднаго веку... Але такога мужчыны не было, калі і паказваўся хто з пажылых, то гэта былі ці то сямейная пара, ці то нейкія занадта вёрткія мужчыны, якія ўсё на свеце ведалі і побач з якімі Сідарэвіч адчуваў сябе ёлупнем, якога на кожным кроку трэба вучыць ды вучыць. Ён ве-

даў, што ад такіх разумных мужчын яму трэба трымацца далей...

Там жа, на прыстані, Сідарэвіч і пазнаёміўся з Маркіным, які таксама з непрыкаяным выглядам тунькаўся сярод людзей. Маркін сам падышоў да Сідарэвіча:

— А што, дзядзька, не хочаце лодку разам са мною выбраць? Можа, таксама плысці збіраецеся? Калі хочаце, давайце са мною. Наша група сягоння збіраецца. Я, так ужо выйшла, адзін з мужчын у лодцы. Мне напарнік трэба — ніяк во не знайду. Аднаму цяжка будзе,— мужчына, гледзячы ў вочы, усміхнуўся. Сідарэвічу не надта падабаліся людзі, якія глядзелі прама ў вочы, але гэты чалавек спадабаўся — быццам калісьці ён ужо сустракаўся. Такое бывала ў Сідарэвіча: першы раз сустракаўся з чалавекам, а пачуццё, быццам недзе бачыліся ці былі знаёмыя. Як у сне ці ў другім жыцці.

Пазней, у той жа дзень, як выбіралі лодку, як загружалі яе палаткаю і прадуктамі — імі ўсё камандаваў гарласты прыгожы хлопец,— як плылі да вострава і начавалі першую ноч на беразе, новы знаёмы так і не лез да Сідарэвіча з роспытамі. І гэта супакойвала — як добра, калі без дазволу не лезуць у тваю душу.

І цяпер вось усё было ў мінулым: і заводская механічная майстэрня, тыя цёмныя гулкія станкі, што двума радамі стаяць уздоўж сцен, той звыклы пах металу і масла і чысты пакойчык заўкома, дзе на стале ляжала пуцёўка, і тое ваганне, няўпэўненасць, за якім стаяла: а ці не позна, мо лепей і не пачынаць, а ісці звыклым шляхам... Бо як гэта цяжка пачынаць, ведаючы, што гэта, магчыма, апошняя спроба адарвацца ад будзённасці і, хоць у канцы, глянуць на сябе збоку і запытаць, калі не ў другіх, то хаця б у сябе: а навошта ўсё гэта, навошта?..

Цяпер усё было ў мінулым, і — гэта ён толькі-толькі здагадаўся — усё жыццё ў мінулым... Ужо вечарэла... Божа мой, дзень прайшоў, не паспеў азірнуцца, агледзецца, цалюткі дзень мінуў...

Быў усход сонца, быў той пачатак дня, калі ўсё здавалася ружовым, як на тым малюнку, які неяк мільгануўся перад вачыма і ніяк во не забываецца — ружовае хлапчанё едзе на ружовым кані; быў тлум-

ны спякотны поўдзень, заняты работаю, турботамі, кароткай радасцю і надзеяю на лепшае, калі думалася, што ўсё лепшае — наперадзе, што ранак — вось ён, толькі што быў, а да вечара — гэтак далёка... А цяпер вось — і вечар на тваім двары, пачынаецца вечар...

І толькі цяпер Сідарэвіч зразумеў, чаму так думаецца пра гэта малінавае сонца, якое ўжо закацілася за гэтую роўную як шкло гладзь, і толькі водбліскі на хмарах бачыш. Але і яны вось-вось знікнуць.

Сідарэвічу стала шкада і сумна, але каго шкада і чаму сумна — не ведаў, толькі ўсё часцей і часцей праводзіў пальцамі па вачах і ўсё ярчэй і пакутней думалася пра сваё жыццё, якога аказалася гэтулькі мала, быццам ён і не жыў зусім, а ўсё прыглядаўся, прымяраўся, а цяпер вось за гэтым вечарам пасля зорнай ночы разгарыцца новы дзень, а з ім — і новае жыццё.

І тады ён забудзе назусім пра ўсё гэта, што ёсць і што было ў ягоным жыцці: і пра тлумную турбазу, і пра пустую, страшную без Марыі кватэру, і пра заводскую механічную майстэрню, з якой восенню, на белую зіму гледзячы, прыйдзецца развітацца...

Божа мой — ужо і пенсія, якая калісьці здавалася такой далёкай, як за гарамі... Ужо і вечар на двары, цёмны густы вечар. І якім кароткім можа быць дзень, якім кароткім!.. І што ж было ў ягоным дні?

Пакамечаная, пакалечаная вайною маладосць — у каго з яго аднагодкаў яна не была скалечана? — Марыя, тое нядоўгае шчасце, якое яна прынесла,— гэта толькі пасля разумееш, што шчасце — яно чамусьці заўсёды нядоўгае, яго чамусьці мала чалавеку адводзіцца,— дачка, на якую гэтулькі ўскладаў надзей...

Што ж яшчэ было ў ягоным дні?

Было маленства і тая вёска сярод бору, бацька і маці — было ўсё, што павінна быць у чалавека. Было, было... З вадою сплыло, пяском засыпана. І цяпер ляжыць тая дарога сярод бору, і камяні ад былых падмуркаў усё ніяк у зямлю не ўваходзяць, не ўрастаюць, як помнікі бялеюць у рад ля дарогі, адзін за адным, быццам напомніць хочуць: жылі калісьці

і тут людзі, жылі, ды адным днём у зямлю пайшлі, па свеце развеяліся...

Што ж яшчэ было?

Быў горад, спачатку чужы і нялюбы, а потым, як паявілася побач Марыя, здаецца, і прывык як да шумных людных вуліц, так і да заводскай майстэрні. Да ўсяго, здаецца, прывык, толькі вось «г» пагарадскому так і не навучыўся гаварыць. І яшчэ чамусьці час ад часу находзіла туга па чымсьці страчаным, і тады станавілася гэтак цяжка, хоць ты нема крычы.

Але каму крычаць, куды ехаць ад таго горкага чаду, які ўжо ніколі не выветрываўся з ягонай душы? Да тых маўклівых камянёў, што ў рад ляжаць сярод поля?

А можа,— гэта таксама толькі цяпер падумалася,— ён так і не прывык да горада, да той жа майстэрні? Хто ведае, хто можа сказаць, бо чаму ж дагэтуль ён так і не забыў пра той далёкі роўны луг за вёскаю, над якім вечарамі падымаўся туман, пра той звонкі гусіны гэгат, які чуўся на агародах восеньскай стылай парою, калі так востра пахне зямля. Як і пра тыя два рады хат...

Сідарэвіч зноў і зноў праціраў пальцамі вочы і ўсё глядзеў удалеч на роўную гладзь вады, якая ўжо дымілася, на тыя далёкія бязважкія воблакі, што яшчэ былі светлыя, але перагарэлыя. І ўсё ён нешта шаптаў сабе. І не бачыў Сідарэвіч, што ззаду, за спіною, дзе бялелі каляровыя палаткі і высіліся сосны, неба ўжо добра-такі пацямнела і паніжэла, і толькі вогнішча ўсё ярчэй свяцілася ў прыцемку...

Яшчэ думалася Сідарэвічу пра хату, якую так цяжка было складаць і якую, аказалася, вельмі лёгка і хутка можна разбурыць: прыйдуць аднойчы людзі ў капелюшах і, махаючы рукамі, скажуць: «Вось тут, дзе сцены, будзе новая прамая дарога, а вунь там, дзе сад з агародам, мы пабудуем новую вуліцу з цаглянымі шматпавярховымі дамамі. І ў тым адным доме мы дадзім вам новую кватэру з балконам. І кампенсацыю яшчэ дадзім — за сад, за кожнае дрэўца, і за хату, якую цяпер можаце прадаваць...» І ніводны з тых людзей не спытаецца, а ці трэба яму тыя грошы. І наўрад хто падумае, што хата — гэта не проста хата. Гэта памяць пра Марыю, пра

ае ціхія, для сябе, песні, пра той утульны свет, які яна панесла з сабою, гэта і памяць пра маленькую дачку, якая бездапаможна махае ручкамі... І самае крыўднае — Сідарэвіч ведаў — тут ніхто не вінен: ні сам, ні гэтыя разумныя разважлівыя людзі ў капелюшах, ніхто... Проста цяпер новы час, а яму паззнавата за выручаныя за хату грошы бегчы запісвацца ў чаргу на машыну, гэтак жа, як і пазнавата складаць сабе новую хату. Трэба ўжо моўчкі несці сваё расчараванне па той дарозе, па якой крочылі да яго і па якой, відаць, будуць ісці пасля яго. Не ён, як гаворыцца, першы, не ён апошні. Не на ім пачалося, не на ім і скончыцца... І нікому не паскардзішся, ні Марыі, бо яна пайшла раней, выправілася сёлета ў гэтую доўгую дарогу, з якой ніколі не вяртаюцца, ні дарослай дачцэ, якая каторы год матляецца па вярбоўках, ці то ў Архангельску, ці то ля Уладзівастоку — белы свет вялікі, рыбу ўсюды лавіць можна...

Падумалася, што вось ён усё жыццё стараўся жыць так, як трэба жыць, дарогі нікому не перабег і калі па справядлівасці разабрацца, то павінна ж быць узнагарода. Хоць якая. На гэта ён і спадзяваўся. На гэта кожны спадзяецца, калі адабраць у чалавека надзею на лепшае, на вышэйшую справядлівасць, то і ці жыў бы тады чалавек?

Як горка яму ні прыходзілася ў жыцці, але заўсёды Сідарэвіч думаў: ну вот, перацярпець бы толькі, а тады ўжо...

І на пачатку вайны, калі пакідаў бацькоў у вёсцы — тых старых з заплаканымі вачыма, з высахлымі непрыгожымі пальцамі... Думалася тады Сідарэвічу, вот пройдзе год ці паўгода, ён вернецца назад у вёску і сустрэне старых, якія яго чакаюць. Ім жа не шмат трэба, а тым болей чужога...

І потым, калі мёрз на холадзе, калі бачыў, як гінулі іншыя, за крок ад яго, за паўтара, ён пра сябе ніяк не мог пагадзіцца, што і яго напаткае гэткі ж лёс. Штосьці было ў Сідарэвічу, што дазваляла шаптаць: «Не, не, я буду жыць, я павінен жыць». Як збавенне і як абарона перад ім былі заплаканыя вочы бацькоў, тыя старэчыя высахлыя ад сонца і вятроў рукі. Адзінае, чаго баяўся, каб не прапала жаданне бачыць гэтыя вочы, рукі, палоску бору за

хатамі... Ён пэўна, як хто яму сказаў, ведаў, калі знікне, прападзе гэтае жаданне, то яго тут жа і знойдзе адна са шматлікіх куль, якіх гэтулькі адліта для яго на далёкай чужыне. Толькі таму ён і застаўся, што была надзея на справядлівую сустрэчу.

Толькі потым, не ў вайну, не калі вярнуўся да тых белых камянёў, што ў рад ляжалі ля дарогі, пачалося самае цяжкае. Яго часта можна было сустрэць у горадзе на вакзале ці на рынку, дзе ён адчайна біў сябе кулаком у грудзі, нешта даказваючы, ківаючыся і матляючыся... І ўжо спакваля ў ягонай душы замест разгубленасці і крыўды паяўлялася злосць. Так ужо скроены чалавек: няма ў ім надзеі на справядлівасць, абавязкова паявіцца злосць. На каго — пра гэта тады не думаецца. І між тым Сідарэвіч ведаў, што гэтае рыначна-вакзальнае ківанне доўга не працягнецца. І калі б не Марыя, стаў бы ён адным з тых, якія гэтак хутка пры поўным дастатку збіваюцца са сваёй дарогі і гэтак жа хутка забываюцца белым светам. Бо чалавека трымае надзея, а калі яна знікне, то на што і каго яму спадзявацца?

Пазней, калі з Марыяю пабудавалі дом, калі паявілася дачка, ён без страху думаў пра старасць, пра той вольны час, калі яго і Марыю дачка забярэ да сябе, каб унукаў глядзець. Бывае ж такое ў іншых — няўжо ён з Марыяю горшы? І думалася яму пра пенсію, пра старасць як пра адпачынак. Як пра справядлівы адпачынак.

І вось — нічога няма: ні дачкі, ні Марыі, ні шчасця... І навошта тады тая пенсія, навошта тады той вольны час? Навошта ён усё жыццё гэтак біўся?

Стала крыўдна і горка. На што яму спадзявацца цяпер, на што, калі на дварэ позні цёмны вечар, які ўсё бясследна праглыне?..

Так Сідарэвіч доўга сядзеў, то апускаючы галаву да каленяў, то зноў і зноў паціраючы далонямі твар.

А вакол усё гусцеў і гусцеў вечар,— было ва ўсім гэтым штосьці неадольнае і велічнае, што чалавеку не пад сілу і з чым яму, чалавеку, заставалася толькі змірыцца і прыняць... Вада ў возеры стала роўная, як шкло, над ёю ўсё вышэй бялеў туман, усё ярчэй разгаралася, свяцілася полымя ля палатак, усё болей сінела высокае неба. У ім ужо, як знак, які трэба разгадаць, свяцілася роўная немігатлівая зорка.

4

— Пара, мой друг, пара,— часцяком гаварыў Пётр Хведаравіч не толькі знаёмым, таму ж крыты-ку Лазеньку, а і сабе. Часцей за ўсё гэта бывала, калі ў другой палове дня Пётр Хведаравіч прыходзіў у свой кабінет і прахаджваўся ўзад-уперад па яркім, ледзь не на ўсю падлогу, дыване. Пазіраючы то на бліскучы паліраваны стол, на якім здаля бачыўся перакідны каляровы каляндар, пісьмовы прыбор у форме ўзлятаючай са стартавай пляцоўкі ракеты, розныя кнігі і паперы, то на партрэт Горкага, што вісеў на сцяне прама за крэслам,— людзям, што заходзілі ў кабінет, адразу ж кідаліся ў вочы Горкі ў раме на сцяне, а трохі ніжэй, за сталом у крэсле, ён, жывы-здаровы Пётр Хведаравіч,— то на напалову зашторанае акно — каб сонца не біла ў вочы,— вось тады Пётр Хведаравіч і паўтараў пра сябе гэтыя ёмкія і харошыя словы. І, здавалася б, нічога незвычайнага ў гэтых словах не было, а вось глядзі ты — паўтараюцца самі сабою. Што значыць — рука генія...

Потым, так ужо атрымлівалася, у ягоны ўтульны кабінет забягаў хто-небудзь, і таму даводзілася садзіцца за стол — не будзеш жа прымаць у сваім кабінеце людзей стоячы. Размашыстым жэстам рукі Пётр Хведаравіч запрашаў чалавека садзіцца ў крэсла, што стаяла ля стала. Гэтае светла-карычневае крэсла было мяккае, але нізкае, і таму, калі чалавек садзіўся ў яго, ён звычайна адчуваў сябе малым, бо на таго ж Пятра Хведаравіча даводзілася глядзець знізу ўгору. Што ж, Пётр Хведаравіч тут быў не вінен, гэта ўжо крэсла такое...

— Ну, як справы? — Пётр Хведаравіч заўсёды адразу ж пытаўся пра справы.

— Ды нічога,— гаварыў наведвальнік. Па ўсяму было відаць, што чалавеку рабіць нечага і зайшоў ён проста так, каб пабыць ля Пятра Хведаравіча, пагаварыць пра сёе-тое, дый, калі ўдасца, уведаць якую цікавую навіну... Паглядзеўшы ў акно, наведвальнік звычайна дабаўляў:

— Пагодка, я вам далажу, стаіць... Як па заказу.

Пасля гэтых слоў Пётр Хведаравіч таксама зыркаў у акно і таксама гаварыў:

— Да-а, неблагая. Бульбачку недзе канчаюць садзіць.

Субяседнік, здаецца, толькі і чакаў гэтага:

— Не-е, Пётр Хведаравіч, якая бульба,— ён адразу ж неяк ажываў і аж нецярпліва тузаўся на крэсле.— Яшчэ недзе з зерневымі не справіліся. Вясна сёлета позняя, гразь... Ды з нашым развара-там...

— Ну-у, дарагой, ты ўжо такое нясеш... Адсеяліся недзе даўно... Цяпер жа ў сельскай гаспадарцы ў дзве змены робяць. На прамысловую аснову ўсё пераводзіцца. Ты газеты чытаеш ці проста так на іх глядзіш?

Канечне, тут яны маглі нават і паспрачацца — той звычайнай спрэчкаю, якая часта ўсчыналася ў гэтым кабінеце і тэма якой мянялася ў залежнасці ад пары года...

Пра што яны спрачаліся?

Ці пачалі касіць? Ці не пара ехаць у грыбочкі? Ці пачалі жніво? Якой сёлета будзе бульбачка? А як сёлета выйдзе з кармамі, дажджы зарадзілі, каб на іх... Сянцо недзе так і плыве з лугоў у раку. Дарэчы, калі ўспомнілася пра раку, то і пра рыбалку варта ўспомніць — як, ёсць яшчэ рыбка ці вочы ёй павысцёбвалі?..

Потым чалавек выходзіў, а Пётр Хведаравіч браў ручку з залатым пяром, задуменна пастукваў ёю па стале — успамінаў сябе, малога, вёску, дзе нарадзіўся і вырас і дзе бывае ўсё радзей і радзей — пасля таго, як прыдбаў дачу на Лысай гары. Затым, устаўшы з высокага крэсла, Пётр Хведаравіч зноў хадзіў па кабінеце і пазіраў на напалову зашторанае акно. Там бачыў шэры асфальт, які навечна прыкрыў зямлю, вуліцу, а далей, за металічнай агароджаю, зялёны сквер.

...Зялёны сквер за металічнай агароджаю.

«Пора, мой друг, пора, покоя сердце просит».

А добра было б цяпер, разуўшыся, прайсці баразною за плугам. Вось так — адной рукою трымаючы плуг, другою тузаючы час ад часу лейцы і, чмокаючы вуснамі, гаварыць: «Но-по, гнеды, варушыся...» Ці з той жа касою прайсціся. Устаць ранічкаю, з каровамі, касу на плечы і — на луг. Вось там бы ён і развярнуўся. З расіцаю ўсё добра робіцца. Шах-шах,

шах-шах... Адмянташыў бы, перадыхнуў і зноў... Як Талстой, як Левін...

Пазіраючы на яснае сонца ў чыстым блакітным небе, нечакана Пётр Хведаравіч захацеў пабыць там, у той далёкай вёсцы ля той хаты, на сцяне якой ён ужо даўно прыгледзеў месца для імяннай дошкі... І здавалася Пятру Хведаравічу, як нетаропка прахаджваўся ўзад-уперад па кабінеце, што ўвогуле, чым бы чалавек у вёсцы ні займаўся: ці то касіў, ці то араў, ці то гной капаў,— усё звязана з асалодаю і шчасцем... Тут, у кабінеце, ён, здавалася, нават пачынаў чуць, як пахне толькі што ўзараная зямля, як шуміць вецер у вершалінах дрэў, якія растуць за ягонай хатаю... А потым Пётр Хведаравіч натыкаўся нечакана на строгія вочы Горкага і думаў: «Вот пра гэта трэба і пісаць. Пісаць і пісаць, пра радасць і шчасце здаровай фізічнай працы. Трэба пісаць пра простых харошых людзей, а не пра нейкіх там інтэлігентаў-ныцікаў. Вот толькі ўсё не хапае часу. Там, у той жа вёсцы, не напішаш: то адзін у хату прыпрэцца, усядзецца і пачне з пустога ў парожняе пераліваць, то другі... Калі ўжо на дачы — і то спакою няма, то ў вёсцы — пагатоў... Ды і цяпер жа, у кабінеце, не пачнеш... Пісаць трэба, як гаворыць Лазенька ў сваіх разумных артыкулах, трохі аддаліўшыся ад жыцця, падняўшыся над звыклай будзённасцю — вось тады і заўважыш тое, чаго другія не заўважаюць. Тады і паявіцца натхненне. А тут — якое табе натхненне, калі ў любы міг можа хто зайсці».

Пётр Хведаравіч пазіраў на наручны гадзіннік — можна ісці на пошту. Трохі ўзбуджаны роздумам над творчым працэсам, звыклым размашыстым рухам левай рукі Пётр Хведаравіч прыгладжваў свае валасы і шырокай хадою крочыў у сакратарыят.

— Дзень добры, ёсць тут што для мяне? — Казалі, што ён руку падаваў, як пятак дарыў.

— Дзень добры, Пётр Хведаравіч.— Падсоўваліся на стале ў ягоным кірунку газеты, часопісы, а то і нераспячатаныя пісьмы — пісьмы ён любіў распячатваць сам.— Вот і ваша пошта.

Ён забіраў пошту, зноў вяртаўся ў кабінет і, седзячы за сталом, праглядваў — ці не ўспаміналася дзе ці то ён сам, ці то ягоны апошні раман. Ён прывык да ўпамінання свайго імя ў прэсе і калі пару тыдняў

не сустракаў у газетах ці то ў часопісах свайго імя, пачынаў нервавацца, дрэнна спаць. І тады прыходзілася ці то самому, ці то таму ж крытыку Лазеньку арганізоўваць які праблемны артыкул пра стан сучаснага рамана. А то і цэлую дыскусію... Тады, як арганізуеш, тады і ўспомняць, нідзе не дзенуцца, сапраўдных раманістаў цяпер — на адной руцэ злічыш... Ну, ён, канечне, яшчэ два-тры ў іншых рэспубліках, а астатнія — драбяза, і ўспамінаць не варта. А ўвогуле, пад ляжачы камень вада не цячэ... Народ няхваткі цяпер... Калі б не крытык Лазенька, дык хоць ваўком завывай — той трохі раскрутку дае... Хоць і малады, ды, як гаворыцца, ранні — усім увальвае, і маладым, і пажылым. Маладым, канечне, найболей. Малайчына, Лазенька, з ягонымі канцэпцыямі і тэорыямі далёка ён пойдзе, ой далёка!

Прагледзеўшы пошту, Пётр Хведаравіч зноў выходзіў з-за стала і хадзіў па кабінеце. Калі-нікалі на вочы трапляўся партрэт Горкага. Ці то таму, што партрэт Горкага быў у ягоным кабінеце, ці то яшчэ чаму, але аднойчы гэты Горкі прысніўся.

Прыснілася, быццам сядзяць яны ў гэтым кабінеце ўдвух за адным сталом, а стол той доўгі-доўгі, канца-краю не бачна... Такое, канечне, толькі ў снах бывае. Сядзяць, значыцца, яны на чале гэтага стала, нікога побач няма, і Горкі яму справы перадае. Ці то водпуск у Горкага, ці то ехаць у якую замежную камандзіроўку збіраецца — невядома, ведаецца толькі чамусьці, што Горкі некуды паедзе і вот таму ён перадае справы. Папкамі. Ведама ж, некаму трэба перадаць, не пакінеш жа ўсё так, без дагляду. «На, Пётр Хведаравіч,— гаворыць Горкі,— паеду я, а ты за мяне разбярэшся тут, навядзеш парадкі і вот гэтыя справы падпішаш... І вот у гэтай папцы таксама... І вот гэтыя... А вот гэтыя я яшчэ сам падпішу». І забраў адну папку, палажыў асобна. Аж цяпер уваччу стаіць — чырвоненькая з белымі завязкамі... Не даверыў пакуль, значыцца...

Помніцца, паўдня пасля думаў, што ж гэта Горкі мог не даверыць. Прарочы быў сон, прарочы, як ні павярні,— адно выходзіць...

А потым зноў нехта прыходзіў, зноў глядзеў у акно і гаварыў:

— Пагодка стаіць... Бульбачку сеюць. Ты на дачы адсеяўся?

— Не, яшчэ не паспеў. Часу няма з-за работы. Жонка там нешта торкала...

— А я дык ужо адсеяўся. Я кніжку добрую прыдбаў па земляробстве. Там усё распісана: калі, як, якое ўгнаенне пад якую гародніну. Харошая ў мяне бульбачка выйдзе. Хоць малавата сотак, але ўсё ж — сваё... Кажуць, новыя ўчасткі будуць даваць, ты не чуў?..

Знайшоў дурня, так табе Пётр Хведаравіч і скажа, дзяржы кішэнь — ухваціш...

— Не, нічога не чуў. А ты мне тую кніжку заўтра прынясі,— гаварыў ён спакойна.

— У абмен на Фолкнера,— гаварыў субяседнік не то сур'ёзна, не то жартам. З хітрай усмешкаю.

Зноў і гэты чалавек выходзіў, прыходзіў нехта другі, а калі — той жа крытык Лазенька. Ён усаджваўся ля стала, размашыста закідваў нага на нагу і адразу ж, шырока адкрываючы рот, пачынаў гаварыць пра апошнія літаратурныя навіны — на тое ён і крытык:

— Ну, як, Пётр Хведаравіч, чыталі новую аповесць Латкіна?

— Чытаў,— чытаў ці не чытаў, але Пётр Хведаравіч заўсёды ўпэўненаківае галавою... Ён, канечне, усіх чытаў: і Маркеса, і Фолкнера...

— Бяздарнасць, бяздарнасць,— махае рукою Лазенька. Хуценька і злосна пакручваючы галавою, усё гэтак жа шырока адкрываючы рот, ён працягвае: — Я, даражэнькі, даўно ўсім гавару, што з гэтага Латкіна нічога не выйдзе. Ну ўзяў бы харошага чалавека ды выпісаў яго як след... А то ж нейкія то п'яніцы, то гнілаватыя інтэлігенты тунькаюцца, швэндаюцца па белым свеце, а што ім трэба — і самі не ведаюць. Я ўжо не кажу пра тое, што і сам Латкін нічога не ведае.

— А ён, мусіць, і сам гэткі, як яго героі. З якога гнязда, такая і птушачка.

— Я во, даражэнькі, чуў, што ён разводзіцца збіраецца,— крытык Лазенька чамусьці любіць гэтае «даражэнькі».

— Развелся уж, аморальный тип,— упэўнена махае рукою Пётр Хведаравіч — калі-нікалі ён ужывае

выразы з раманаў рускіх пісьменнікаў. Як Талстой у сваіх раманах французскія.— Ты вот артыкулам па ім гваздані як след, каб аж закруціўся... І яшчэ гэтага, Сашкіна зачапі. Малады яшчэ, каб у раманісты лезці. Ды і баявы надта — і ў прозе, і ў крытыцы... Ён ужо пытаецца, чые двухтомнікі ў выдавецкіх планах стаяць. Я табе спытаю, душа з цябе вон... А вот Глуздова пахваліць можна — мой вучань. Ціхі, нікога не чапае, глядзіш во, так, цішком-цішком, а ўжо трэцяя кніжка. І ніхто чамусьці ні слова — як вады ўсе ў рот набралі.

— Ды я вот матэрыял збіраю, цытаты выпісваю. І пра Латкіна, і пра Сашкіна, і пра другіх... Праблемны артыкул рыхтую. Вот, даражэнькі, пішуць, а пра што — непанятна: ні сюжэта, ні героя, ні размаху. А галоўнае — касмічнасці нашай прозе не хапае. Вот вазьміце для прыкладу Маркеса... Помніце, як у яго жанчына на белых прасцінах прама ў неба паднялася і паляцела, паляцела... Як на крылах. Вы адчуваеце размах мыслення? Не, не могуць і не ўмеюць нашы так шырока мысліць. Топчуцца на сваім агародзе. І вучыцца не хочуць. Мы самі, маўляў, з вусамі.

Лазенька быў адзін з тых крытыкаў, якія ў свой час цытавалі амаль у кожным артыкуле Камю, Кафку... Яны гаварылі і вучылі, што абавязкова трэба пісаць так, як пісалі гэтыя пісьменнікі, такімі ж прыёмамі, такімі ж сродкамі... Мінуў час, і новыя пісьменнікі зацікавілі крытыкаў: Кавабата, Фолкнер, а цяпер вось — Маркес... А што стала з тымі колішнімі кумірамі, без якіх, як калісьці здавалася, немагчыма далейшае нармальнае літаратурнае развіццё? Яны забыты крытыкамі...

Гэтыя крытыкі ўвесь час шукаюць і — хто чаго шукае, той тое знойдзе — знаходзяць паралелі паміж вялікімі пісьменнікамі, заўсёды ў іх пад рукамі шматлікія цытаты, выказванні, меркаванні — усё тое чужое, чым так ёмка прыкрываць пустату сваёй душы. Яны будуюць свае канцэпцыі, у якія павінен укладвацца мастацкі твор — калі ж што і не ўкладваецца, то крытычная канцэпцыя тут жа, на хаду, перакройваецца. Калі ж і гэта немагчыма, то дзеля вялікай крытычнай канцэпцыі літаратурны твор увогуле не ўпамінаецца, а не — дык і крытыкуецца...

Пётр Хведаравіч задаволена глядзіць на Лазеньку і, усміхаючыся, вучыць:

— Ты ім гэтыя вусы абразай патроху.

— Ат, знайшлі пра каго гаварыць, таксама мне дамарошчаныя класікі,— махае рукою Лазенька і пытаецца: — Вот скажыце, Пётр Хведаравіч, чаму ў вас усё ясна?

— Ну, знайшоў пра што гаварыць,— Пётр Хведаравіч усё ўсміхаецца, размашыста папраўляе рукою валасы: — Каму-каму, а табе, Лазенька, пара ведаць: прастата — прыкмета геніяльнасці. Талстой, для прыкладу, Шолахаў, Горкі...

Пры ўспаміне пра Горкага зноў і зноў прыгадваецца той прарочы сон. Харошы сон, нічога не скажаш... Вот толькі што за папка была?

Лазенька выходзіў, а следам прыходзілі другія наведвальнікі, прыносіліся розныя паперы, якія трэ было чытаць і ставіць унізе свой размашысты подпіс. Вось так, заняты работаю, Пётр Хведаравіч і не заўважаў, як заканчваўся рабочы дзень.

Вечарэла. Пара было выходзіць з кабінета і ісці, калі — дадому, а найчасцей — на выступленне ці на які чарговы юбілейны вечар. Юбіляраў хапае: то чалавеку пяцьдзесят, то — шэсцьдзесят, то — семдзесят... Гэта ў аднаго. А калі ўсіх членаў саюза пераброць?

Так ці інакш, але ўсе кругі, як гаворыцца, сыходзіліся дома. Але і там ён не мог засесці адразу за свой любімы раман: спачатку, як і патрэбна, вячэра, пасля якой адразу ж чамусьці хіліць на сон, трэба абавязкова паглядзець перадачу па тэлевізары — ён жа павінен ведаць усе апошнія навіны, быць, так сказаць, у курсе ўсіх падзей... А там глядзіш — спаць пара, і не будзеш жа ўсаджвацца за стол на якую гадзіну. А то калі і госці заваляць. Апошні час нешта ўсё гасцюецца: то да цябе прыпруцца, то самому трэба ісці, не хочацца, а трэба, як на работу якую... Пасля гасцявання звычайна баліць галава, дні два ці тры ходзіш як пабіты, думкі няясныя — якая тут табе пісаніна. Вось так і круцішся ў гэтай будзённшчыне дзень за днём: на рабоце, дзе вока ды вока трэба, дзе некаторыя толькі і ловяць момант, каб якую палку ў ягоныя калёсы ўсунуць, дома, на дачы, ля машыны, у якой заўсёды чагосьці не хапае.

А раман, ягоны раман так і ляжыць недапісаны, ужо і рэкламу ў часопісе даваць не хочуць.

Раніцаю Пётр Хведаравіч стараўся рабіць па парку прагулянкі. Роздумныя. Ён сам прыдумаў ім назву і вельмі ганарыўся гэтым. Дык вось у тыя ціхія часы роздумных прагулянак ён і прыдумаў усё гэта — паездку туды, дзе ніхто са знаёмых не будзе яму замінаць, дзе ніхто не будзе блытацца пад нагамі: ні гэтыя старыя «дзьмутыя» класікі, ні гэтая вяртлявая, надта ўжо баявая моладзь... Ён зранку зможа ўстаць, вымыцца ў возеры чыстай, без хлоркі, вадзіцаю і, закасаўшы рукавы, засесці за свой раман. Без жартачак, па-сур'ёзнаму. Бо нават і ў Дамах творчасці, ці то ў Паланзе, ці то ў Дубултах, нідзе не дзенешся, нідзе не схаваешся ад гэтых доўгіх блытаных размоў пра вялікія задумы, пра шматлікія прыклады з жыцця вялікіх, якія як быццам бы вывеліся... Не, не вывеліся, ні ў якім разе не вывеліся... Што там задумы другіх, што там прыклады, вось ён зафугуе раман старонак так на шэсцьсот, і гэта будзе — як па галаве абухам для некаторых, якія цяпер ходзяць, зямлі пад сабою не чуючы. І крытыкі засяваюць: новае слова ў сучаснай літаратуры, арыгінальны падыход, размах эпапеі... Засяваюць хорам, нідзе не дзенуцца... Галоўнае, прыдумаць харошы загаловак. Такі біблейскі, каб адчувалася глыбіня стагоддзяў. Бо тое, што ён цяпер піша і напісаў, канечне, застанецца. Няблага было б такі — «На кругі свае». Але гэта ўжо было ў некага, трэба штосьці другое, не менш значнае і шматсэнсавае...

І чым болей Пётр Хведаравіч думаў пра паездку, тым болей упэўніваўся — так-так, сапраўды трэба паехаць і пабыць на адзіноце, каб закончыць свой раман. Не апавяданне, не аповесць, а раман. Адно слова чаго варта — раман, славуты раманіст... Раман у параўнанні з аповесцю ці апавяданнем тое ж самае, што магутны дуб у параўнанні з нейкай там чахлай алешынай... Ну, самае большае, як гаварыў некалі Лазенька ў артыкуле — гэта лісточак з таго дуба... Той жа Чэхаў, той жа Бунін — майстры, нічога не скажаш, але ўсё ж як ні павярні, але яны — майстры малых літаратурных форм, а да рамана не дацягнулі... Ды ці толькі яны? Няма, нешта не відаць цяпер такіх майстроў, якія б сур'ёзна замахнуліся на

эпапею, як гэта задумаў ён. Канечне, калі пачынаць эпапею, то трэба пачынаць яе недзе так з трыццаць дзевятага года, не раней і не пазней, затым — пачатак вайны, разгортванне партызанскага руху, барацьба, выгнанне ворагаў... Як у Талстога. І гэта будзе правільна.

Мінуў тыдзень, другі, а задума пра паездку ў ціхае малалюднае месца не знікала, наадварот, ён усё ярчэй і ярчэй уяўляў, як там усё будзе. Паездка на востраў для яго будзе тым жа, чым была паездка для Хемінгуэя ў Афрыку. Ён скіне трохі тлушчу са сваёй душы...

...Дзесьці з туману падымаецца, выплывае сопейка, на някошанай траве будзе ляжаць расіца, а ён, схіліўшы галаву над пянёчкам, будзе нетаропка запісваць на ўлонні прыроды свае сур'ёзныя думкі, якія потым крытык Лазенька будзе цытаваць у сваіх шматлікіх артыкулах, як цяпер ён цытуе іншых. Ды ці толькі Лазенька, ці толькі? Будзе час — і дзеткі ў падручніках чытаць будуць. Хай вучацца, хай...

Вот трэ было падумаць, хто там стравы гатаваць будзе — не будзеш жа сядзець галодны цалюткі дзень...

5

Як жа так сталася, як жа? Па якому такому праву? І чаму менавіта з ім такое здарылася, а не з кім другім?

Цяпер, на востраве, ставячы разам з Пятром Хведаравічам палатку, Малецкі як чужым староннім позіркам паглядаў час ад часу на зграбную лёгкую Лену і ўсё паўтараў і паўтараў сам сабе гэтыя пытанні, на якія другому чалавеку ён бы з лёгкасцю і яснасцю даў адказы. Быў ён цяпер разгублены, ашаломлены гэтак жа, як і тыдзень назад, калі пра ўсё даведаўся. Было ў ягонай душы так, як бывае ў чалавека ў юнацтве, калі, упершыню ў жыцці даведаўшыся аб здрадзе ці аб страце блізкага чалавека, здаецца, што цяпер ніколі светлага і радаснага ў жыцці не паявіцца, а вось гэтыя гадзіны болю і разгубленасці будуць цягнуцца бясконца. Усё далейшае жыццё.

— Пётр Хведаравіч, а вы шмат кніг напісалі? — Лена трымала аберуч кол, на якім мацаваўся край палаткі.

— Ёсць трохі. І арыгінальных, і ў перакладзе на другія мовы. Перавыданні, розныя серыі, шматтомнік рыхтую...

— Ой, як гэта цікава! Вы мне раскажыце, як гэта робіцца. Пасля вячэры пагаворым, добра? Вот палатку паставім, павячэраем, потым сядзем ля вогнішча, будзем глядзець на зоры і гаварыць пра паэзію. Рамантыка, праўда?

Туга нацягваючы на калкі шнуркі, якімі мацаваліся краі палатак, Малецкі бачыў, як весела ўсміхаецца Лена, ведаў, калі цяпер падысці да яе, Лена адразу ж, не саромеючыся, пры людзях магла б чмокнуць яго ў шчаку і гучна запытацца: «Што ж ты, мужанёк мой, зажурыўся?» І ўсе, хто бачыў бы гэтую сямейную сцэнку, заўсміхаліся б, падумалі, якая ў іх шчаслівая сям'я.

...Якая ў іх шчаслівая сям'я.

Успаміналіся апошнія дні перад адпачынкам, калі прыходзіў на работу, аддаваў загады, прымаў наведвальнікаў, вёў планёркі — знешне здавалася, што ў яговым жыцці ішло ўсё так, як і год, як і некалькі год назад, і між тым Малецкі разумеў, што ўсё, чым заняты цяпер цалюткі дзень, зусім не тое, чым цяпер трэба займацца. Зусім не тое. І таму ўсё, што рабіў, было болей бяздумнай аўтаматычнай звычкаю, чым свядомай творчай работаю — што работа кіраўніка саліднай арганізацыі творчая, у гэтым Малецкі быў упэўнены... Але цяпер ён падпісваў — штосьці, гаварыў на планёрках ці тым жа наведвальнікам — таксама штосьці, а між тым сам сабе паўтараў: «Як жа так сталася, як жа?..»

Нават і тады, калі пачалі падсоўваць ананімныя запіскі, калі нечы жаночы голас гаварыў па тэлефоне, што Лена, ягоная Ленка, пачала блытацца, то і тады ён не верыў. Дома, гледзячы Лене ў чыстыя блакітныя вечна радасныя вочкі, ён думаў, што жанчына з такімі чыстымі вачыма не можа лгаць. Не можа — і ўсё... Няўжо ён — дурань, ён жа — кіраўнік установы, столькі людзей слухаюць і паважаюць яго,

а тут на табе — не можа разабрацца ў душы аднаго чалавека. Ды яшчэ якога? Лены, ягонай Ленкі, якую ведае гэтулькі год, пачынаючы з той пары, калі ўпершыню сустрэў яе, разгубленую, на гарадскім скрыжаванні вуліц — вясковай наіўнай дзеўчынёшкаю, якая ўпершыню выбралася ў горад, у гэты звабліва-спакуслівы горад... Вось тады, слухаючы гадзінамі лёгкае шчабятанне Леначкі, радасны Малецкі думаў, што гэтага вясковага наіву і прастаты яму і не хапала ў гэтым заблытаным жыцці.

Канечне, канечне, тыя, што падсоўваюць запіскі, жанчына, што час ад часу звоніць па тэлефоне — гэта ўсё ідзе ад зайздрасці. Так ужо вядзецца на белым свеце, што не кожны чалавек можа спакойна бачыць шчасце другога, у сяго-таго паяўляецца крыўда і зайздрасць — няўжо ён горшы? — і таму — будзь-тка на ўсякі выпадак нешчаслівым, такім жа нешчаслівым, як і я, і таму — давай-тка я табе на работу пазваню і сапсую настрой. А мо заадно і сям'ю разаб'ю. Дзеля пацехі... Каго-каго, а жартаўнікоў развялося. Як мух спасаўскіх...

Праўда, на ўсякі выпадак Малецкі спрабаваў пагаварыць з Ленаю — тонка, асцярожна, каб не пакрыўдзіць яе далікатную натуру, бо ведаў, што ў гэтай тонкай справе і сапраўды — толькі пачні, заканчэння ўжо не будзе...

— Ведаеш, Леначка,— гаварыў ён вечарам,— да мяне даходзяць чуткі, што, маўляў, ты...

А далей, хоць забі, не мог гаварыць — быццам падводзілі яго да краю абрыву і пакідалі аднаго з завязанымі вачыма. Паспрабуй паварушыся, ступі і... невядома, на якім свеце апынешся...

Але разумнай Лене і гэтых намёкаў было дастаткова — яна заўсёды разумела яго з паўслова. На чысценькіх гладкіх шчочках тут жа паяўляліся слёзы. Лена гаварыла, і ў яе пакрыўджана дрыжэлі вусны:

— Ну, во, дайшоў ужо, як гэта ты раней да гэтага не дадумаўся? Знайшоў усё-ткі, за што зачапіцца... Я і не думала, што апусцішся да такога прымітыву... Давай, давай, мо ўжо на развод заяву несці збіраешся? А я, дурніца, яшчэ нешта думала, на нешта людскае спадзявалася... А-а, вы ўсе, мужчыны, такія...— Лена пакрыўджана махала рукою і бегла ў спальню. На хаду яна таропка і хутка, каб ён не бачыў, выці-

рала вільготныя вочы. Але ён, вядома, усё бачыў. Гледзячы на акуратную, як у падлетка, постаць, на схіленую галаву, Малецкі думаў, што яму не трэба было гаварыць Лене такое... Па свайму багатаму жыццёваму вопыту ён ведаў, як гэта крыўдна і балюча, калі табе не вераць, а даказаць сваю праўду нічым не можаш. Не вераць, і ўсё, хоць на калені станавіся — бывае такое ў жыцці, ой як бывае...

І тады Малецкі памалу ішоў у спальню і глуха, вінавата гаварыў:

— Ну, Ленка, перастань... Што ты з-за дробязі... Можа, зайздросцяць, што ў мяне такая прыгожая жонка... Паглядзі, як некаторыя жывуць — як павар'яцелі, калі хто не разводзіцца ці не разводзіўся, дык і не чалавек быццам... Вот і зайздросцяць... Мала дурняў на свеце?

Ён прысаджваўся на край ложка, на якім ніцма ляжала Лена, клаў руку на плячо.

— Ідзі, ідзі ад мяне,— адмахвалася Лена рукой і хутка рашуча гаварыла: — Дробязі... Для цябе, можа, і дробязі, а для мяне прынцыпова... Я не хачу, каб на мяне пальцамі торкалі... Я сама заўтра на развод падам. Трэба мне такое шчасце. Заўтра ж заяву занясу. Калі ўжо не верыць чалавек, то тут яму нічым не паможаш і нічога яму не дакажаш. Не адна, дык другая зачэпка знойдзецца. Не сягоння, дык заўтра. Не чапай мяне, ідзі да тых, хто табе гаворыць, з імі, можа, шчаслівейшы будзеш.

Але Малецкі не ішоў — пагладжваў гарачае плячо, што ўздрыгвала... Гледзячы на схіленую да падушкі галаву, ён думаў, што калі б так ужо атрымалася, што Лена была вінаватаю, то яна ні ў якім разе не паводзіла б сябе так. Яна, канечне, адразу б пачырванела, пачала апраўдвацца, а ён, пільна, як на планёрках, гледзячы ў яе чыстыя вочы, адразу ўсё зразумеў бы. Ён жа не дурань, падначаленых вунь як «раскусвае» — з аднаго позірку. А так во, глядзі — адразу ж заява на развод... Ды яшчэ сама. З гэтым не жартуюць, гэта ўжо сур'ёзна. Ленка — яна ў яго гарачая, ёй нядоўга і заяву занесці — чухайся пасля, на ўвесь горад размоў будзе, амаральшчына...

Ён пагладжваў гарачае плячо Лены, і памалу гэткім жа гарачым пачуццём пяшчоты напаўнялася яго-

нае цела. Тады — так у іх заўсёды пасля ўсякіх спрэчак і недаразуменняў атрымлівалася — ён нахіляўся да пляча, дакранаўся вуснамі... І хоць Лена гаварыла: «Не чапай мяне, ідзі пашукай што лепшае...» — але нікуды ён не мог пайсці. Ды і куды ён мог пайсці?

Малецкі ведаў, што лепшую за Лену жанчыну нельга знайсці, і таму ёй, Лене, можна многае прабачыць, гэтак жа, як многае прабачаюць адзінаму любімаму дзіцяці. І капрызы, і гэтыя надзьмутыя поўненькія вусны, калі не купіш Лене таго, што ёй хочацца, і застылы сонны задымлены позірк, якім праводзіцца ягоная постаць, калі ранкам Малецкі кіруе на кухню гатаваць сабе лёгкі сняданак — так-так, усё гэта можна прабачыць, калі ёсць каханне. Што б сабе мужчыны ні гаварылі, але жанчыне можна і трэба многае прабачыць, на многае можна, як гаворыцца, заплюшчыць вочы, калі побач з ёю адчуваеш такія хвіліны радасці і пяшчоты, якія нідзе і ніколі не адчуеш... І няўжо гэтыя высокія нябесныя хвіліны можна параўнаць з вечнай чысцінёй і акуратнасцю ў кватэры, з падрыхтаваным разагрэтым сняданкам? Ды гарыць ён сінім агнём, той сняданак, галодным можна пахадзіць, калі побач ёсць Лена, ягоная Ленка, да якой толькі дакраніся, і цябе пачынаюць біць дрыжыкі. Як у ліхаманцы...

...Бо Лена — сапраўдная жанчына, тая слабая бездапаможная жанчына, у якой абавязкова павінна сумяшчацца і няўмельства, і слёзы, і пяшчотная кволасць — усё тое, што цяпер рэдка сустрэнеш у сучасных жанчынах. Цяпер усюды, куды ні кінь вокам, дзелавыя практычныя жанчыны, якія ў паводзінах мала чым адрозніваюцца ад мужчын. Гэтыя папяроскі ў бліскучых цэлафанавых абгортках, што старанна хаваюцца ў скураных жаночых сумачках, гэтыя вечна сухія бясконцыя практычныя размовы пра пасады, работу, гэтыя загадзя насцярожаныя позіркі, колкія абразлівыя словы, якія так часта зрываюцца з сухаватых, ярка фарбаваных вуснаў, гэтыя закатаныя рукавы мужчынскіх кашуляў, світэры і джынсы, якія, як знарок, падкрэсліваюць, што таямніцы — даўно няма, яна ўжо навек адышла разам з дуэлямі, а цяпер пачынае ўладарыць другое, чаго Малецкі стараўся пазбегнуць. І як ён быў рады, калі, упер-

шыню сустрэўшы Лену, убачыў і адчуў, што ў ёй пакуль новага подыху цывілізацыі няма. Ён і сам зможа не горш за яе згатаваць абед з канцэнтратаў, не горш за яе папрацуе, паспрачаецца, калі трэба будзе, даказваючы невукам сваю праўду і інтэлектуальнасць. Яму патрэбна ад Лены іншае. І няўжо жанчыны гэтага не разумеюць, няўжо ў іх поўнасцю атрафіравалася іх галоўнае пачуццё, якім яны былі ва ўсе вякі моцныя — інтуіцыя, тая жаночая інтуіцыя, якая не падлягае разумным лагічным законам?.. А ўвогуле, калі задумацца, чым скончыцца так званая эмансіпацыя, няўжо чалавецтва дойдзе да матрыярхату, ад якога, кажуць, адышло калісьці?

Як усё-ткі добра, што хоць зрэдку, але яшчэ сям-там сустракаюцца сапраўдныя жанчыны, якія, можа, хоць і несвядома, але разумеюць, што сіла іх — у слабасці... Для таго, каб мужчына адчуў сябе мужчынам, не абавязкова патрэбна сіла...

Потым ужо Лена гаварыла:

— Яшчэ раз такое скажаш, і я за сябе не ручаюся, пасля плакаць будзеш. Праўду людзі кажуць: тое, што маем,— не трымаем, а згубіўшы — слёзы ліем... Як бабёр галасіць будзеш. Але тады ўжо нічога табе не паможа. Сап'ешся і пад плотам жыццё скончыш. Адзін. Ты ведаеш, я гарачая, мне, як кажуць, калёсы не заносіць...— і смяялася пры гэтым. Дзіўна, самае дзіўнае ў Лене было тое, што яна магла тут плакаць, а тут жа, праз хвіліну, смяяцца...

— Добра, добра... Ведаю, што гарачая.— Малецкі зарываўся тварам у яе пахкія валасы і думаў, што такая Лена і патрэбна. Толькі такая. Трапілася б цяпер тая цытля, што па тэлефоне званіла і на Лену нагаворвала... Ці тая, што ананімныя запіскі падсоўвае... Зусім ужо народ стаў нахабны. Судзіць гэтых ананімшчыкаў трэба. Судзіць — і ўсё, каб другія парадку вучыліся. Паказальным судом каторага б...

Вось так яны і мірыліся. Зноў пачыналася работа: знаёмы кабінет і прыёмная, у якой, як тая кветачка, красавалася размалёваная сакратарка, пасяджэнні, планёркі, загады, паездкі ў міністэрства, дзе ён часта адчуваў сябе гэтак жа, як падначаленыя ў ягоным кабінеце... Але гэта не надта Малецкага турба-

вала, бо ведаў, што іначай і не можа быць, за ўсім гэтым, звыклым і будзённым, стаяў спакой, упэўненасць у правільнасці свайго жыцця. І гэта было таму, што Малецкі ведаў — вечарам пасля работы, як узнагарода, яго чакае Лена...

Таму, што ў яго была Лена, Малецкі мог паводзіць сябе з падначаленымі, як з дзецьмі, сярод якіх усё ясна, акрамя адзінага: чаму яны ўсур'ёз займаюцца нейкімі дробязямі, гульнямі... Таму ён нават з нейкім здзіўленнем мог сказаць на пасяджэнні мясцкома: «Іваноў, вот я і не разумею, чаму вы напіваецеся і паводзіце сябе гэтак брыдка. Як дома, так і ў працоўным калектыве. У вас жа ёсць нармальная работа, ёсць сям'я... Ёсць у вас сям'я?» — перапытваў Малецкі Іванова, хоць добра ведаў, што ў Іванова ёсць сям'я. «Ёсць»,— Іваноўківаў звешанай галавою. Ён стаяў пасярод пакоя, каб члены мясцкома яго добра бачылі... Чамусьці гэты вялікі нязграбны Іваноў глядзеў не ў вочы прысутным, а сабе пад ногі. «Дык што ж вам, Іваноў, яшчэ трэба? Вот у будучым годзе мы вам думалі кватэру даваць. Думалі. А што ж нам цяпер рабіць, калі на вас прыйшла папера з міліцыі? Цяпер мы, можа, і перадумаем. Не вас нам шкада, а сям'і вашай. Навошта вам гэтыя дэбошы, п'янкі, пасля якіх толькі і карысці, што баліць галава? Няўжо яны вам такія салодкія?» — дапытваў з усмешкаю Малецкі. У гэты час Малецкі і не заўважаў нават, як ён мяняўся ў паводзінах, ён станавіўся нейкім другім чалавекам, які з лёгкасцю і нават з нейкім правам мог судзіць, абвінавачваць. Члены мясцкома таксама ўсміхаліся, а Іваноў густа чырванеў. «Што ж, ідзіце пакуль на работу, Іваноў, а мы тут падумаем, што з вамі рабіць»,— гаварыў Малецкі, ён даўно навучыўся гаварыць: «Мы зробім, мы падумаем...» Іваноў выходзіў, прысутныя маўчалі пэўны час, а потым хтосьці ціха і спакойна гаварыў: «Гэта ўчора на свае вочы бачыў... Ідзе ён дамоў... Як зямля сырая... І малога за ручку з садзіка вядзе. А малому годзікі тры, не болей. Глядзець страшна. І яшчэ, ківаючыся, нешта малому гаворыць, выхоўвае... Э-эх, выхавацель...» — «Да-да,— гаварыў тады Малецкі з роздумам,— з Івановым трэба рабіць нешта. Так нельга на самацёк пускаць. Планы мы выконваем, а вот выхавацельная работа ў нас хра-

мае. Хто ў нас за яе адказвае?» І ўсё здзіўляўся Малецкі: чаму, чаму так паводзіць сябе Іваноў, калі ў яго ёсць сям'я, ёсць сын, ёсць работа... Малецкаму ўспаміналася Лена, яе пахкія валасы, і — якія б вочы былі ў Лены, калі б ён, Малецкі, хоць аднойчы прыйшоў дамоў такім, якім амаль штодня прыходзіць дамоў той жа Іваноў? Ён усё здзіўляўся і здзіўляўся... Не так з сябе, як з другіх людзей, з таго ж Іванова.

Чаго гэта Малецкаму было здзіўляцца з сябе, калі ў ягоным жыцці было ўсё ў парадку?

Таму, што ля яго была Лена, не трэба было нікуды ехаць, не трэба нічога шукаць, усё патрэбнае і неабходнае звязана з домам, у якім жыла-пажывала Ленка, як тая кветка-красачка красавалася: і тая машына, у якой ён з Ленаю мог праехаць па горадзе, і імпартныя серванты, і, дарэчы, усё астатняе...

Закончылася ягонае шчасце хутка і нечакана; потым ён часта думаў, што гэта, мусіць, закон такі няпісаны, што шчаслівым чалавек доўга і быць не можа...

Быў тэлефонны званок, і тая невядомая жанчына, якая калі-нікалі званіла і псавала настрой, рэзкім смелым голасам сказала: «Ты, лапаць лазовы, пад'едзь сягоння на Мінскае мора, паглядзі, як твая жонка з маім мужам вылежваецца. Ачкі з сабою не забудзь узяць, а то зноў не паверыш... Як сыдзеш з электрычкі — метраў трыста трэба прайсці, ля дамбы качаюцца...»

Вось і ўсё...

Дзіўна, спачатку яго здзівіла не тое, што жанчына сказала, а тое, якім голасам і тонам гэта было сказана. Ён ледзь стрымаўся, каб гучна і рашуча, як прывык гаварыць на планёрках, не адчытаць тую невядомую жанчыну — хто яна такая, каб магла так з ім гаварыць... Ды штосьці стрымала Малецкага, замест гэтага ён чамусьці як ніколі разгублена прамармытаў у тэлефонную трубку:

— Яна ж на рабоце павінна быць... У яе сягоння першая змена.

Невядомая жанчына чамусьці засмяялася неяк коратка і суха:

— Ха-ха... Вот пад'едзь і паглядзі, як яна табе грошы зарабляе. І ў першую змену, і ў другую... Толькі не марудзь надта...

Відаць, жанчына тут жа палажыла трубку, бо пачулася «пі-пі...», а потым, калі ён таксама палажыў трубку на рычажкі, стала ціха, так ціха, што хоць самому пачынай піпікаць... Было гэтак няёмка, быццам на калегіі ў міністэрстве ні за што ні пра што вымову аб'явілі ды яшчэ і высмеялі...

Давялося ехаць — разгублена, вінавата, быццам красці збіраўся. Ехаў, канечне, не ў службовай машыне... Седзячы ў электрычцы, ён так і не ведаў, што будзе рабіць, калі ўбачыць Лену з чужым мужчынам.

Відаць, ён тут жа скажа: «Я падаю на развод...» Так-так, ён спакойна падыдзе да іх, яны, канечне, тут жа вінавата падхопяцца, Лена пачне апраўдвацца, але ён, перабіўшы яе гаворку, спакойна скажа: «Загарайце, як і загаралі дагэтуль. Сягоння добра бярэцца загар. Вам нечага хвалявацца, а тым болей апраўдвацца. Вы ж — дарослыя людзі, не дзеці малыя. Шчаслівага сумеснага жыцця. Я сягоння ж падаю заяву на развод...» Затым ён павернецца і пойдзе зноў да супынку электрычкі. Ён не апусціцца да таго, каб пачынаць крык, лямант, бойку... Не-не, ён жа — выхаваны культурны чалавек, кіраўнік калектыву, так што ён цудоўна разумее, калі хочацца чалавеку штосьці рабіць — калі ласка, рабіце, толькі не ўмешвайце ягонае імя ў брудныя амаральныя справы.

І між тым салодкая выратавальная думка час ад часу паяўлялася ў Малецкага: «Ды няпраўда ўсё гэта. Не можа Ленка да гэтага апусціцца. Проста нехта рашыў злосна пажартаваць. Хай бы тая жанчына сама паехала, куды яна сама глядзіць, калі на тое пайшло?.. Ну што ж, з'езджу і праверу, каб супакоіцца. Ну, а вот тады я пакажу той жанчыне, як нармальную сям'ю разбіваць. У міліцыю трэба будзе заяву накатаць. Хай знойдуць тую ўдаліцу. Цэлы дзень сапсавала, ад работы адарвала».

І чым болей ён думаў пра Ленчыну здраду, тым болей выратавальнай і салодкай была думка, што яго ашукалі... У канцы паездкі, калі сыходзіў з электрычкі, ён толькі пра гэта і думаў — паддаўся на злы

жарт нейкай аферысткі. Ён ішоў уздоўж дамбы, дзе загаралі людзі, глядзеў на іх і радасна шаптаў: «Няма, няма тут Ленкі».

А потым ён адчуў сябе так, быццам яго на заводскай сцэне ў час сходу вадою аблілі,— стаяў як укопаны і глядзеў на Лену, на невядомага мужчыну, які ляжаў побач з ёю і, палажыўшы па-свойску валасатую руку на плячо, штосьці шаптаў Лене ў самае вуха. Дакранаючыся вуснамі да мочкі — во, гадзюка, так і ён, Малецкі, не ўмее... Лена смяялася, пакручвала галавою, час ад часу пазіраючы ў вочы гэтаму мужчыну.

...Гэтак жа, як і ўчора вечарам пасля таго, як яны поўнасцю памірыліся...

Яны абое загаралі. На Лене быў адкрыты імпартны купальнік, які Малецкі падарыў гэтай зімою. На жаночы дзень... Ну вось і згадзіўся ягоны купальнік... Гледзячы на поўненькую, пухлую постаць Лены, Малецкі, як ніколі дагэтуль, адчуў і зразумеў, якая яна прыгожая. Здаецца, калі б побач не было гэтага мужчыны, то ён бы ніколі гэтага не адчуў... І чым болей Малецкі хацеў Лену ненавідзець, тым болей не мог уявіць без Лены свайго далейшага жыцця. Аказваецца, Лена ўжо добра-такі загарэла. Як і мужчына. Быццам на поўдні пабывалі...

Мужчына быў рослы, спартыўнага выгляду — магчыма, з былых спартсменаў... Канечне, постаць гэтага мужчыны прыгажэйшая за постаць Малецкага — тут ужо нічога не скажаш... Але ж не ўсім прыгажунамі быць. Ды і ці ў гэтым справа? Галоўнае — чалавек харошым павінен быць. Звычайна гэтыя спартсмены, так думаў Малецкі, тупаватыя і самаўпэўненыя, звычайна яны, паступіўшы ў інстытут за свае спартыўныя здольнасці, па тры-чатыры гады сядзяць на адным курсе якога педфака і то — толькі за тое, што ўмеюць ці то хутка бегаць, ці то біць па мячы рукой ці нагою... Малецкі часта іх сустракаў — жуючы вечна што-небудзь, ці то яблыкі, ці то полівітаміны, ці то гуму, з пагардлівымі халоднымі позіркамі гэтыя рослыя ўкормленыя людзі хадзілі па зямлі гэтак, быццам ім была вядома такая ісціна, якой звычайным грэшным ніколі не адчуць і не зразумець.

«Заўтра ж звольню, выганю, каб і духу ягонага ў мяне не было»,— чамусьці з нянавісцю думалася пра

футбаліста зборнай горада, які ў яго штатным раскладзе лічыўся слесарам-зборшчыкам...

А потым Малецкі астыў — зразумеў, што падыходзіць да Лены і штосьці гаварыць не трэба, не варта. Навошта? Гэта будзе як апраўданне ў чымсьці. У чым? У сваім праве? Але якое права, адкуль яно, цяпер жа — Малецкі горка ўсміхнуўся — раўнапраўе... Хай жыве так, як хочацца. І таму ён зараз ціха, мірна паедзе дадому, напіша заяву і заўтра занясе ў суд, дзе іх гэтак жа ціха развядуць. Мо нават і сягоння яшчэ паспее. Не хапала яшчэ, каб ён тут сягоння скандал закатаў, а заўтра палова горада з яго смяялася. Дажыўся... Малецкі, Малецкі...

Ён ехаў электрычкаю, нерухомымі вачыма глядзеў у акно і крыва ўсміхаўся, як з чужога чалавека. Як жа так здарылася, як жа?..

У горадзе ён не пайшоў адразу дадому, а пачаў хадзіць па вуліцах — баяўся заходзіць у пустую кватэру, дзе ўсё, кожная рэч, кожная дробязь напамінае пра яе, і таму ён мог пабіць, пакрышыць не толькі посуд...

Яму ўспаміналіся размовы мужчын, тыя анекдатычныя здарэнні, над якімі ў свой час і сам весела папасмейваўся. А цяпер вось і сам добра ўліп. І пахваліцца нікому не зможаш... Што ж, гэта ўжо, мусіць, закон такі — не абмінае гэта горкая чаша нікога, нават і яго... Але — нічога, ён не размазня, як другія. Вось ён заўтра падасць заяву ў суд — у суд заяву несці ці ў загс, трэба яшчэ высветліць,— іх, канечне, тут жа развядуць, ён пакіне ёй кватэру — хай усё жыццё помніць яго велікадушша... Потым ён зажыве адзін. Канечне, адзін. Пра жаніцьбу і думаць не варта. Яны, жанчыны, усе аднолькавыя.

...Дадому ён вярнуўся позна, дзесьці пасля дванаццаці. Лена, убачыўшы яго, спляснула рукамі і здзіўлена праспявала: «Ой, які ж ты цёпленькі!.. І дзе ж ты набраўся?.. Ты ж такім ні разу не быў...»

Малецкі ёй нічога не сказаў — трымаючыся рукою за сцяну, дабраўся да спальні, гопнуўся на разабраны ложак і, ківаючыся, паспрабаваў развязаць шнуркі... Шнуркі не развязваліся. І яшчэ яму было дзіўна, чаму гэта Лена не сварыцца, чаму болей ні пра што не пытаецца? Хай толькі зачэпіць, хай... Але як знарок ці як адчуваючы што няладнае, Лена ні

пра што болей не пыталася, а толькі пасмейвалася з яго, як ні ў чым не бывала. Малецкі нават са здзіўленнем глядзеў на яе — няўжо перад ім тая Лена, якая сягоння загарала на пляжы з другім мужчынам?.. Яна сама сцягнула з ног туфлі, раздзела яго, паклала ў цёплы ложак, дзе, здавалася, яшчэ пахла яе целам...

Малецкі адчуваў, як яго нясе над гэтай грэшнай зямлёю бы на хвалях, то вышэй, то ніжэй, адчуваў цяпло Лены — яна штосьці са смехам шаптала ў самае вуха, пагладжвала ягонае цела... І апошнім было — хай, хай так і будзе, гэта — ягоная апошняя ноч з Ленаю, а вот заўтра...

Але і назаўтра ён нічога не сказаў Лене — прачнуўся Малецкі як ніколі позна, Лены ўжо не было, адна запіска на стале ляжала. Пра халодны сняданак у халадзільніку...

Балела, аж раскольвалася галава, і ў нейкі міг падалося, што ўсё ўчарашняе — ранішні тэлефонны званок, той сонечны пляж ля дамбы, блакітная вада, адкрыты купальнік на Лене, той загарэлы мужчына, вячэрні рэстаранны звон — усё прыснілася. Які доўгі і бесталковы быў сон... Ён нават, сам сабе не верачы, пайшоў да шафы, каб паглядзець, ці ляжыць той купальнік, які падарыў калісьці. Купальніка, канечне, не было, як карова языком злізала...

На работу Малецкі не пайшоў, пазваніў сакратарцы, сказаў, што затрымаецца. Потым доўга, трымаючыся рукамі за лоб, сядзеў на кухні, потым цадзіў халоднае піва, ад якога хоць трохі ды лягчэла, і ўсё думаў, думаў... Быццам ад гэтых думак магло нешта змяніцца ці знікнуць.

Ён ведаў, што з Ленаю яму трэба назаўсёды развітацца, цяпер ён павінен глядзець на Лену зусім не так, як глядзеў, даглядаў — тут ён павінен узненавідзець яе. І тады, як узненавідзіць, з лёгкасцю, ні аб чым не думаючы, развітаецца назаўсёды. А так, калі сягоння вечарам пачне папракаць Лену ў нявернасці, пачне гарэць той сыр-бор, які ўжо гэтулькі разоў разгараўся ў другіх сем'ях, і чым болей ён разгараўся, тым цяжэй з яго выбірацца. Ды калі цяпер занесці заяву ў суд — таксама будзе цяжка. Найлепшае ў яго становішчы — прывыкнуць, змірыцца з тым, што Лены ля яго не будзе, ніколі не будзе... І таму цяпер

крычаць і лаяцца нечага, ён жа — адукаваны чалавек, ён яе проста ні ў чым не папракне, ні цяпер, ні потым, проста, калі ў яго ўсё перагарыць і ператлее, аднойчы ціха, не павышаючы голасу, ён скажа: «Я сягоння падаю на развод. Думаю, што ты, як жанчына не дурная, рабіць глупства не будзеш, не будзеш мне пярэчыць». І тады Лена зразумее, што ён за чалавек. Ён нават ёй са смехам напомніць: што маем — не трымаем... Плач не плач, але цяпер позна, ён нават купіць бутэльку каньяку, пастравіць на стол — ля дзвярэй ужо будзе стаяць чамадан, усяго адзін чамадан,— і гэтак жа ціха дабавіць: «Давай на развітанне без слёз і істэрык. Каб не паміналі адно аднаго ліхам...» Лена, канечне, тут жа пачне штосьці гаварыць, можа, нават і здзіўляцца ці апраўдвацца, але ён тут жа пераб'е яе песню: «Ты гэтыя апраўданні цяпер для другога паберажы, для свайго спартсмена, з якім на моры ля дамбы загарала. Можа, напомніць, як было ўсё!» Вось так ён скажа, і ўсё далейшае маўклівая прыгнечаная Лена зробіць так, як ён загадае...

Вечарам ён зноў пайшоў у рэстаран, да таго мікрафоннага спеву, які спачатку здаваўся занадта ўжо гучным, аж у вушах аддавала, а потым, пад закрыццё, усё — і музыка, і песні — рабілася цішэйшым і спакайнейшым, усё прыгажэйшымі і лагаднейшымі рабіліся чырвоныя твары, з якімі не хацелася развітвацца...

Так нядоўга было і спіцца. Таму, як ні балела галава, у наступную раніцу Малецкі пацягнуўся на работу. Але цяпер усё было не тое — увесь час замест работы Малецкі думаў пра Лену, якая яна брыдкая, няверная... І чым болей пра яе думаў, чым болей думаў пра развод, тым мацней яе кахаў... Калі б такое было не з ім, калі б такое хто яму расказаў, ён бы ніколі не паверыў. Гэта было дзіўна, незразумела, няправільна, але гэта было так. Тут Малецкі нічога з сабою не мог парабіць. Часам — яму і самому ў гэтым было брыдка прызнацца — думалася, што лепей было б, калі б тады, на Мінскім моры, ён нічога не бачыў. Ну, напрыклад, хай бы тады Лена з тым спартсменам пайшла з мора на якую гадзіну раней, да яго нага прыезду... А ўсё тая невядомая цытля, што званіла, яна ва ўсім вінаватая...

Трэ было нешта рабіць, але што?

Адзінае, што Малецкі мог зрабіць,— падаць заяву на адпачынак, забраць з сабою Лену і махнуць куды вочы глядзяць. Хоць на які пусты востраў, хоць куды, толькі далей ад нечакана абрыдлай і, як цяпер здавалася, пустой работы, ад гэтага непавіснага тэлефона ў кабінеце, які прынёс гэтулькі непрыемнасцей, ад таго ж Мінскага мора, на беразе якога маецца дамба і мнагалюдны пляж, ад гэтых сытых укормленых спартсменаў.

І вось там, далёка-далёка, ён разбярэцца ў сабе, ён астыне, супакоіцца, ён вока на вока разбярэцца ў Лене — там ён выкажа ёй усё і пасля, вярнуўшыся ў горад, з лёгкасцю падасць заяву на развод. Ні аб чым не шкадуючы.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### 1

Чаго-чаго, а зямлі тут было шмат. З таго боку вострава, дзе паставілі палаткі, месца было высокае, тут, за палянаю, шумеў бор, у якім было шмат чарніц. На паляне ў пякучай крапіве рос маліннік — ягады, канечне, яшчэ не паспелі... На востраве мелася нават і сваё балота — у другім супрацьлеглым канцы, дзе ля берага гнуўся ад ветру густы непралазны чарот, у якім заўсёды штосьці хлюпала і хлюпала... Тут можна было нават жыць цэлай вёскаю, але як тут будзеш жыць, калі, куды ні кінь вокам, вада, вада на многія вёрсты.

Усіх палатак было пяць: кожная лодка паставіла сваю палатку, і яшчэ адна палатка была гаспадарчая. Палаткі паставілі ў рад уздоўж берага на чыстагаліне, трохі збоку ад палатак, дзе за соснамі пачыналася паляна, мелася неглыбокая, чорная ад сажы і попелу ямка — для вогнішча. Паабапал яе былі ўбіты ў зямлю дзве рагуліны, на палцы вісеў закураны кацёл. Побач з вогнішчам быў змайстраваны стол з лаўкамі — яго зрабілі даўно, спецыяльна. Яду гатавалі па чарзе: першая палатка дзяжурыла два дні, затым другая...

Дні пайшлі сонечныя, спякотныя. Добра, што ля вады спякота адчувалася не так, затое загар браўся хутка — праз пару дзён многія стагналі, вохкалі, хавалі абгарэлыя плечы і спіны. І ўсё ж, як ні абгаралі людзі, а не вытрымлівалі — зноў і зноў падстаўлялі скуру пад гарачае сонца...

Высыпаліся, хто колькі хацеў, бо снедалі пазнавата. Пасля сняданку звычайна займаліся хто чым: адны плылі ў лодцы лавіць рыбу, а то і проста катацца, другія — загаралі, купаліся, моладзь гуляла ў валейбол, а то — ішлі ў бор збіраць ягады. Дзяжурным, канечне, была свая работа. У кожнага былі свае інтарэсы, і таму кожны ўдала ці няўдала, але размяркоўваў свой дзень згодна гэтых інтарэсаў...

Заканчваўся белы ад сонца дзень, пачынаўся вечар. Усё ярчэй разгаралася вогнішча пад закураным катлом, ад якога пад вечар цягнула смачным салодкім пахам, усё больш звонкімі станавіліся крыкі чаек, званчэй чуліся над вадою людскія галасы і смех, усё лягчэй і вальней станавілася на душы пасля дзённай спякоты, і вось ужо над востравам плыўкалі часты, а калі і рэдкі металічны звон — дзяжурныя жалезным прэнтам білі ў жалезіну, што вісела на суку сасны... За стол садзіліся дружна, шмат смяяліся і, як бы між справаю, чыста і хутка апаражнялі міскі. Многія прасілі дабаўкі, той жа Пётр Хведаравіч. На вячэру часта варылі юшку, рыбу звычайна даваў стары Сідарэвіч — дзядунь, як звала яго моладзь. Ды і не толькі моладзь...

Пасля вячэры не надта спяшылі разыходзіцца па цёмных палатках, садзіліся наўкруг вогнішча, над якім цяпер ужо не было катла, і гаварылі... І сур'ёзнае, і смешнае, тыя ж анекдоцікі і проста так... Старыя пра сваё, моладзь — пра сваё...

Як і ўсюды, моладзь і тут трымалася асобна — чацвёртая палатка распальвала сваё вогнішча. Там, у чацвёртай, усім, як на падбор, было год па дваццаць, у аднаго Гарыка было цяжка ўгадаць узрост — можна даць дваццаць, а можна — і ўсе трыццаць з гакам. Гарык усюды ў любой кампаніі быў сваім чалавекам: і са старымі пра «жысць» пакалякае, а трэба — моладзі новенькі анекдоцік раскажа ці на той жа неразлучнай гітары збацае... «Ах, ми-ла-ия-а, ты услы-ишь ме-еняя...» — зацягваў ён, гледзячы ўдаля-

чынь на возера. Ягоныя рухавыя чарнявыя вочкі прыжмурваліся — быццам бы бачыў Гарык там, над роўнай вадою, кагосьці... І тады тут жа ўся чацвёртая палатка дружна, аж з нейкім стогнам задаволена падхоплівала: «Под окно-ом сто-июу я с ги-таа-ро-июу...» Не дарэмна, не дарэмна чацвёртая палатка везла Гарыка, не дарэмна ён за ўсю дарогу ні разу за вясло не браўся. Спецыялісты вузкага профілю — яны заўсёды і ўсюды цэняцца...

Апускалася на востраў ціхая бязгучная ноч, і ўжо амаль нічога нідзе не бачылася: ні вады, ні высокага бору, ні таго ж чароту, над якім яшчэ нядаўна віліся роем крыклівыя чайкі, адзінае, што цяпер можна было разгледзець зверху — два язычкі вогнішчаў, ля якіх сядзелі наўкруг людзі і штосьці гаварылі ці спявалі... І гэтыя вогнішчы, і людзі з чырвонымі ад агню тварамі, і чыстыя, нізка пульсуючыя зоры ўверсе, якія гэтак жа густа і ярка адбіваліся ў застылай вадзе возера — усё напаміпала на ўтулак і шчасце, здавалася, што людзі на востраве шчаслівыя, як ніхто, што лепшага месца для шчасця ўжо і нельга знайсці ці прыдумаць... Ва ўсякім разе, гэтыя людзі шчаслівейшыя за гараджан, якія ў гэтыя спякотныя дні штурмуюць на супынках тралейбусы ці аўтобусы, днём сярод разагрэтага мяккага асфальту яны парацца пад шчыльным сінтэтычным адзеннем і нават вечарам, калі, здавалася, закончана работа і абавязкі, гэтыя гараджане ніяк не могуць заснуць ад гулу машын за акном... Яны не спяць, доўга варочаюцца ў мяккіх душных ложках і мараць пра чысціню, блакітную ваду, свабоду — пра вось такі востраў, які недзе далёка за горадам. Увогуле, горад, той уклад жыцця, якім жылі дагэтуль турысты — усё гэта здавалася цяпер дзіўнаватым і далёкім. Як прыснілася ўсё роўна.

## 2

— Дык што, Валера, машына і сапраўды можа гаварыць чалавечым голасам? — Твару Алёны ён амаль што не бачыў, адно толькі — цьмяны бляск вачэй.

— Канечне. Вот вернемся, прыйдзеш у маю лабараторыю і сама ўсё пачуеш. Праўда, у яе акцэнт

ёсць... Ну, але гэта ўжо залежыць ад настройкі. Галоўнае, што ты павінна зразумець і запомніць — гэта ўжо не той чалавечы голас, які запісаны на магнітафон, не, гэта голас, які стварае сама машына.— Цяпер, калі ў палатцы нікога не было,— Віцёк з Іркаю ці то сядзелі ля вогнішча, ці то таксама недзе зашыліся,— яны, загорнутыя ў цемень, ляжалі на спальных мяшках і паціху шапталіся. Гэты прыглушаны шэпт у цемені прыносіў асаблівую слодыч і загадкавасць, якіх не магло быць днём, пры ясным сонечным святле... Тонка зазвінеў камар.

— Я зараз палатку закрыю, а то налятуць — адбою не будзе.— Валера падняўся, шчыльна зацягнуў уваход палаткі, а потым зноў прылёг на ранейшае месца і палажыў руку на галаву Алёны. Ён асцярожна пагладжваў яе валасы і маўчаў. У палатцы востра і прыемна пахла сенам... Пару дзён назад ён з Алёнаю нарваў травы і высушыў — дзеля паху...

— І пра што ж ваша машына можа гаварыць? Дарэчы, вы ёй імя далі?

— Канечне, далі. Яе завуць Зіначкай. А гаварыць машына можа пра што хочаш. Як і нармальны чалавек. Вот падыдзеш да яе і спытаеш: «У якім годзе нарадзіўся Талстой?» А Зіначка табе ў адказ: «Які Талстой, Леў Мікалаевіч ці Аляксей?» Ты ёй, канечне, уносіш удакладненне: «Прабачце, Зіначка, Леў Мікалаевіч». Тады Зіначка табе — Леў Мікалаевіч нарадзіўся тады-то і тады...

— Ой, дык гэта ж, як і нармальны чалавек...

— Ну, гэта прыклад прамога перспектыўнага дыялога з машынаю. Пакуль мы інфармацыю ўводзім тэкстам ці візуальна. Але ў прынцыпе ўсё магчыма. Ведаеш, Алёна Міхайлаўна, я табе скажу адну штуковіну, да якой я нядаўна дайшоў і якую ты павінна зразумець і запомніць. Надоўга.— Ён замаўчаў. Ён часта гаварыў другім пра гэту штуковіну, як і ўвогуле пра сваю работу. Ён ведаў, што жанчыне заўсёды трэба даць магчымасць адчуць далучэнне да высокіх ідэй. Хай яна нават і падкажа што бесталковае, хай... І яшчэ ён ведаў, што ў гэтым месцы трэба памаўчаць, зрабіць задумёны выгляд. Як у тэатры на сцэне, калі даўно развучаны ролі спектакля, нават кароткія рэплікі. І тое, што цяпер ён павінен сказаць, не павінна гучаць фальшыва. Ні ў якім разе. Гэта

павінна гучаць так, быццам ён да гэтай складанай штуковіны дадумаўся толькі што і гаварыць яе будзе ўпершыню...

— Дык што ж ты заціх, Валерка? — Алёна не вытрымала цішыні, нецярпліва паварушыла худзенькімі плечкамі і пакуль што асцярожна нясмела пагладзіла ягоную далонь. Ягоную дужую мускулістую далонь...

— Я вот думаю — чым далей, тым болей,— што няма ніякай розніцы паміж робатам і чалавекам.

— Ну-у, ты такое гаворыш... Няможна так гаварыць. Ты так завучоніўся ў сваёй лабараторыі, што і не ўяўляеш... Робат — гэта ж усяго-наўсяго груд жалеза, бяздушнае жалеза... А ты ж паглядзі на чалавека...

— А што ў чалавеку ёсць загадкавае? Ну што? Душа?.. У наш век навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, калі пра яе ўспамінаюць, гэта выклікае смех. Што яшчэ загадкавае? Мы пэўна ведаем, што таго свету няма, няма ні раю, ні пекла — нічога няма, акрамя халоднага бяздушнага космасу... І яшчэ... Ты гаворыш: чалавек думае, мысліць... Але скажы мне, што гэта такое — думаць, мысліць? Ну, скажы — чотка і ясна,— цяпер ён ужо смела гладзіў яе худзенькія плечкі, спіну...

— Ну, як табе сказаць... Мысліць — гэта такое паняцце, што пра яго адразу і не скажаш. Гэта...— Алёна замаўчала, па ўсяму было відаць, што і яна сама ўпершыню задумалася над гэтым пытаннем.

— Вот то-та ж і яно, што не скажаш. Мы цяпер у сваю Зіначку ўводзім інфармацыю і часта не можам запланаваць адказ. Ён можа быць такі, а можа — зусім другі. І што самае складанае — той і другі адказ правільныя. Ты разумееш, што я хачу сказаць? У Зіначкі паяўляецца свая, груба кажучы, машынная логіка, якой мы не можам угадваць,— цяпер ён гаварыў хутка, на адным дыханні. Ён ведаў, што цяпер Алёне не трэба даваць часу на доўгі роздум, цяпер яе трэба ашаламіць той інфармацыяй, да якой яна так цягнецца. Як матылёк да вогнішча.— Дык вот, я працягваю... Ты гаворыш пра жалеза, а я буду гаварыць пра малекулы, электрамагнітныя хвалі, пра тое ж біяполе — якая розніца? Што, ты, можа, хочаш сказаць, што малекулы могуць думаць, мысліць? Дык жа і ў жалеза яны, у прынцыпе, тыя ж самыя. Ёсць

навукова абгрунтаваная тэорыя — пра гэта нават «Літаратурка» пісала — што чалавек — той жа робат, толькі біялагічны. Магчыма, нас закінулі ці стварылі якія касмічныя прышэльцы, і мы павінны самаразвівацца да пэўнай ступені, а затым мы, згодна праграмы, якая закладзена ў нас, у нашы гены, пачнём ствараць металічных ці мікрасхемных робатаў. І гэта, паўтараю, як другі этап закладзенай у нас праграмы, пра якую мы пакуль нічога не ведаем. Мы, можа, яшчэ толькі-толькі пачынаем здагадвацца пра той эксперымент, які праводзіцца над намі. Вот ты сама падумай цвяроза, няўжо чалавеку для шчасця патрэбна гэтае жалеза, гэтыя машыны, сярод якіх мы ўжо не мы? А што будзе твcurrently ў будучым? Няўжо ад гэтага тэхнічнага прагрэсу мы, людзі, станем шчаслівейшымі? Гэтыя цяперашнія шматлікія інфаркты, неўрозы, алергены — адкуль гэта? Уяўляеш — на першым этапе чалавек яшчэ не мог дайсці да стварэння робатаў, яму трэба было толькі выжыць, і ў гэтай барацьбе за выжыванне было ягонае развіццё. А цяпер, калі ў яго ёсць і хлеб, і страха над галавою, ён стварае робатаў, магчымасці якіх у сотні і тысячы разоў большыя за чалавечыя. Ты ж сама азірніся — вакол нас машыны, машыны, машыны... Але ж ці станем мы шчаслівейшыя, ці не гонімся мы за нейкім прывідам, які нас невядома куды завядзе?

— Ну, хай машыны, хай сабе, як ты кажаш, магчымасці. Але ж няможна стварыць машыну, якая поўнасцю скапіруе чалавека.

— Чаму нельга, чаму, скажы? Яшчэ раз паўтараю — мы, вучоныя, пытаемся: скажыце нам, чым адрозніваецца чалавек ад робата? І як гэта ні смешна, але ніхто нічога талковага не гаворыць. Як вады ўсе ў рот набралі. Пачынаюцца ўсякія ахі, уздыхі, а канкрэтна ніхто нічога не гаворыць.

— Як табе сказаць... Ёсць жа акрамя ўсяго іншага сумленне, пачуццё прыгажосці, інтуіцыя — тое, чаго няма ў машыне. Вот я, напрыклад, як цябе першы раз убачыла, адразу ж зразумела, што ты падыдзеш да мяне, што мы будзем разам. Ты нават і не глядзеў у мой бок, а я ўжо ўсё ведала.

— Алёна Міхайлаўна, ты ж — дарослая, не дзіця горкае.— Так-так, цяпер яна павінна адчуць сябе дарослай. Хай памалу далучаецца да самастойнага да-

*Да аповесці*
*«Астравы на далёкіх азёрах»*

рослага жыцця. Хай вучыцца жыць самастойна, а не за мамчынай спіною, хай мо ўпершыню адчуе, што можа сама прымаць мудрыя рашэнні.— Што такое эмоцыі, тое ж самае пачуццё прыгажосці? Гэта тая ж інфармацыя, толькі больш-менш закадзіраваная. Ці ведаеш ты хаця б тое, што магчымасці чалавека, чалавечага мозга вядомы толькі каля пяці працэнтаў? Астатняе — невядома. Павер, усё на свеце можна перавесці на язык інфармацыі. Ты цяпер гаворыш гэтак жа, як калісьці вучоныя мужы: самалёт не можа падняцца ў паветра таму, што ён цяжэйшы за паветра...

— І ўсё-такі што б ні гаварыў, але ты гаворыш не тое. Чалавек — вышэй за ўсё...

— Гэта так здаецца толькі таму, што мы — людзі... А той жа сабака, які перад табою віляе хвастом, упэўнены, што ён — эталон мудрасці і прыгажосці. Трэба глядзець на жыццё па-філасофску, зверху, Алёна Міхайлаўна, а не з нашых вузкіх шчылін старэчых векавых забабонных паняццяў... Разумееш, усё на свеце адносна. Ты, відаць, чула, ёсць такая мудрая тэорыя адноснасці, дык вось яна ў свой час перавярнула ўсе паняцці...

Ён не дагаварыў, асцярожна павярнуў да сябе яе кволую мяккую постаць, пацалаваў у вусны. Алёна адразу ж нацялася, і таму ён тут жа яе адпусціў — не, не, з такімі, як Алёна Міхайлаўна, не трэба ніякай сілы. І спяшацца не трэба. Усяму свой час... Рук ён не прымаў — так і прытрымліваў галаву абедвух. Як келіх з віном, які трэба выпіць. Асушыць, як гаворыцца, да самага донца...

Памаўчалі. Чулася, як дзесьці побач у палатцы звініць і звініць камар — залез усё-ткі адзін... І яшчэ чулася невыразная гаворка ля вогнішча, то цішэй, то грамчэй, калі людзі смяяліся. Нарэшце Алёна зусім другім, нейкім вінаватым голасам сказала:

— Валерка, ты такі разумны... Усё ведаеш... Я ў школе вучылася, думала, што ва ўсім разабралася, а вот цяпер... Валерка, калі ўсё гэта так, як ты даказваеш, то навошта тады ўсё гэта: і мы, і гэтыя думаючыя робаты, якія, як ты гаворыш, будуць вышэй за нас? Навошта ўсё гэта?

— Пра гэта ўжо заўтра, Алёна Міхайлаўна, гэта — другая тэорыя, пра якую трэба доўга гаварыць.

3 Зак. 4156

На сягоння хопіць самаадукацыі.— Ён зноў, цяпер ужо смялей і мацней палацаваў яе ў вусны. І зноў, злёгку адпусціўшы, глуха прашаптаў:

— Не бойся, дурнічка.— Ён ведаў, што цяпер такое можна гаварыць...

— Я чагосьці баюся, Валерка. Я першы раз такая. Я і сама не ведаю, што са мною робіцца. І плакаць хочацца.... Я цяпер, як п'яная...

На імгненне ў ім невядома адкуль узнік жаль да гэтай зялёнай мамчынай дачушкі. Яна толькі-толькі выбралася з-пад пільнай бацькоўскай апекі — колькі слёз праліла яна перад гэтым, даказваючы старым і, як правіла, адсталым бацькам сваё права на свабоду і самастойнасць! Яму нават на імгненне стала як бы сорамна за яе адкрытасць і наіў, а потым ён, рашуча даломваючы ў сваёй душы штосьці квола-бездапаможнае, падумаў: «Ну і што ж, на тое яно і жыццё... Не я першы, не яна апошняя... Галоўнае — не прапускаць момант...»

Потым ён і яна маўчалі.

Усё гэтак жа звінеў камар, як і дагэтуль, як усё роўна нічога нідзе не адбылося. Але цяпер звон яго ны быў непрыемны. Было няёмка ад гэтай пакутлівай цішыні, хацелася адразу ж падняцца і ісці да вогнішча, да тых людзей, якія цяпер пад зорным небам гаварылі і смяяліся... А яшчэ лепей — паплаваць у возеры, разразаючы цёплую ваду рэзкімі ўзмахамі дужых рук, рытмічна ўдыхаючы і выпускаючы ў ваду паветра... Было прыкра і горка ад гэтага ціхага, амаль што дзіцячага ўсхліпвання...

— Валерка, ну скажы што цяпер... Чаму ж ты маўчыш цяпер?

Чаму яны так часта плачуць? Ледзь што — слёзы... І навошта цяпер гэтыя словы, словы?..

Цяпер Алёна сама хінулася да яго, як бы шукаючы прытулак ля ягоных рук, ля ягонага цела... Але яму хацелася цяпер іншага. І ведаў ён, што гэтыя бездапаможныя, амаль што дзіцячыя слёзы будуць доўгімі-доўгімі, што цяпер трэба нешта скрозь сілу ёй гаварыць, а назаўтра — цалюткі дзень трымаць яе за руку, заглядваючы ў вочы, рабіць вінаваты выгляд — як яму вядомы гэтыя правілы гульні, якую

даўно вывучыў!.. І чаму нельга ўсё рабіць адразу — чаму, калі ўсё роўна канец адзіны, ці так, ці гэтак?

— Алёна, я закуру,— ён слаба паварушыў рукамі, і яна тут жа адхінулася. Седзячы, ён пачаў навобмацак шукаць ля гумавай падушкі цэлафанавы мяшэчак, у якім ляжалі запалкі і цыгарэты «Космас»... Выпадкова ён наткнуўся на пальцы Алёны — мокрыя, відаць, толькі што выцірала вочы... Ад дотыку да яе мяккіх, яшчэ дзіцячых пальцаў стала непрыемна, упершыню падумалася, што яе наіў і спешчанасць раздражняюць...

— Валерка, ты цяпер мяне не кінеш? — Якія яны потым усе аднолькавыя! Як знарок, яна ўзяла яго далонь і пачала цалаваць. Яшчэ і гэтага не хапала!

Асцярожна, але настойліва ён вызваліў далонь і зноў пачаў шукаць цэлафанавы мяшэчак. Падумалася, што тут, у палатцы, трэба мець пад рукамі кішэнны ліхтарык. Налета, калі паплыве, не забыцца б прыхапіць... Не абавязкова з батарэйкамі, можна нават і з дынамкаю. Ці выпускаюць вот толькі іх, нешта нідзе не бачна...

— Валерка, чаму ж ты маўчыш? Скажы што. Ты так цікава гаварыў...

«Скажы, скажы... Калі хочацца шмат ведаць, сядзі дома ля мамкі і чытай днямі энцыклапедычны даведнік. Пра што гаварыць цяпер?»

— Зараз,— нарэшце такі мяшэчак знайшоўся.

У палатцы рэзка і востра запахла дымам. Ён глыбока зацягваўся і ўспамінаў другіх жанчын, з якімі сустракаўся... І было пачуццё, што ўсё сягоннявшняе — паўтарэнне былога, даўно вядомага. Нічога новага, і столькі спадзяванняў.

Ён усміхнуўся. Чаму, чаму так? Пачуццё блізкага шчасця і еднасці на пачатку знаёмства і горкае расчараванне потым, калі бяжыш адно ад аднаго, хаваючы вочы, абвінавачваннямі шукаеш і, безумоўна, знаходзіш апраўданне сваім уцёкам...

Успомніліся далёкія маладыя гады, калі яшчэ не трапляў на зборы, хоць ужо гуляў у валейбол. Тады яшчэ ён знаходзіў асалоду ў адной гульні, ні аб чым не думаючы, ні аб тых жа салодкіх зборах на поўдні, ні аб узнагародах. Тады яшчэ, у раннім юнацтве, ён на штосьці спадзяваўся. На што? На пякучыя вочы якой невядомай дзяўчынёшкі, на яе ціхае слова.

I ўсё. I гэтага яму было даволі. Як даволі было пад час гульні мяча і добрага напарніка, які разумеў бы яго з аднаго позірку.

Колькі пакутліва шчаслівых хвілін меў ён у дзесятым класе з-за такой жа, як і сам, зялёнай дзеўчынёшкі! Яны баяліся падысці адно да аднаго, яны баяліся і чамусьці саромеліся доўга глядзець адно аднаму ў вочы...

Чаго яны саромеліся?..

Зімовымі сцюдзёнымі вечарамі ён падоўгу стаяў ля акна яе хаты — тады ён быў шчаслівы, як ніколі потым. Ці не ў гэтым і было іх шчасце, што яны блізка не падыходзілі адно да аднаго?

Шчасце, шчасце... Як знайсці яго, як яго зберагчы?

Праз пяць год ён сустрэў яе, тую былую дзесяцікласніцу. Яны стаялі на рагу гарадской вуліцы і са смехам, спакойна гледзячы адно аднаму ў вочы, гаварылі пра тое, што калісьці не асмельваліся падумаць. Потым яны памалу пайшлі да яго на кватэру, дзе пілі віно, дзе зноў былі лёгкія бязважкія словы і гуллівы смех, потым была ноч, якая прынесла поўную адчужанасць і спакой, упэўненасць, што ўсё назаўсёды разышлося, развеялася. «Как с яблонь белый дым»,— так сказала яна ранкам, крывячы ва ўсмешцы тонкія вусны. Яна коратка чырканула запалкаю, прыкурыла і зацягнулася гэтым дымам. Толькі не белым.

Курыла яна па-мужчынску — дзелавіта і спакойна збіваючы пальцам попел у сподак, што стаяў на падлозе ля самага разабранага ложка. А ён, спакойна пагладжваючы рукою яе белую, ні разу не загарэлую скуру, непрыкметна ўзіраючыся ў ледзь бачныя пухліны пад вачыма, усё ўспамінаў тыя марозныя зімовыя вечары, калі ў цемені пад вокнамі хаты яго білі дрыжыкі. I зусім не ад холаду.

Чаму, чаму яшчэ тады ён самохаць збег ад яе, той загадкавай дзесяцікласніцы? I чаму цяпер усё па-іншаму? Няўжо і сапраўды нельга паўтарыць усё тое, былое?

Потым... Што ж было потым?

Былі выпадковыя знаёмствы і сустрэчы, хуткія, таропкія: на турбазах, у спартыўных лагерах, у гасцінічных нумарах, у часы спаборніцтваў — калі Ён і Яна добра ведалі, што ўсё, што між імі адбываецца ці

адбудзецца, гэта часовае, ненадоўга, ва ўсякім разе не навечна, і таму трэба спяшацца, спяшацца. Быццам яны абое кралі.

Што яны кралі? Каго абкрадвалі?

І чаму з гадамі такім сумнейшым і цверазейшым стае свет? Усё ведаеш і разумееш, усё ў тваім арганізаваным жыцці ідзе парадкам, а сум часта ні з таго ні з сяго находзіць такі, хоць вешайся ці тапіся.

Няўжо наша шчасце ў няведанні?

«Ну, ладна. Як гаворыцца, фініта ля камедзія»,— ён акуратна затушыў недакураную цыгарэту і сказаў глухавата:

— Алёна Міхайлаўна, можа, пойдзем пад зоры да вогнішча? Чуеш, як смяюцца...

— Не, я цяпер хачу пабыць з табою, Валерка. Я нікуды не хачу ісці...

«Ну вот, дачакаўся. Пачынаецца старая песня на новы лад»,— цяпер ён нават з нейкай непрыязню думаў пра Алёну. Яна пачынала замінаць ягонай свабодзе, і таму ўсё, што замінала свабодзе, раздражняла, а то і злавала...

І яшчэ падумалася пра Маргарытачку, пра тыя доўгія масляныя шматзначныя позіркі, якія ён не раз лавіў. Відаць, з ёю было б не так, як з гэтай зеленухаю...

## 3

І нічога ён не гаварыў, і яна нічога не казала...

Алёна адчула, што свята назаўсёды скончылася, здарылася нешта такое, чаго ўжо не вернеш, не паправіш.

І вада ў возеры, здаецца, была тая і ўсё ж — не тая. І сам востраў змяніўся. І тыя ж людзі — нечакана ўбачыла іх у нейкім другім святле. Якімі яны сталі брыдкімі!

Калі Валера пачаў нечакана моўчкі надоўга знікаць, а потым, вярнуўшыся, як ні ў чым не бывала гаварыць пра цёплую ваду ў возеры, пра тое, як ён цяпер вучыць астравіцян плаваць, яна ўсё спачатку ніяк не магла зразумець: ці то Валера нічога не адчувае і не разумее, ці то гэта — знарок... Яна спрабавала папракаць яго, нясмела, з унутранай бояззю згубіць яго назусім, але Валера адразу ж пераводзіў усё

па жарт. «Ты што, старушка,— рабіў ён здзіўленыя вочы і смяяўся,— няўжо ты мяне да ўсялякіх Ленавчак і Маргарыт раўнаваць будзеш? Яны ж нават і плаваць не ўмеюць. Ты ж у мяне ўмееш плаваць, праўда? Ды і прыгажэйшая ты ў мяне»,— тут ён браў яе плечкі, цалаваў смела ў вусны...

І нічога ён не гаварыў, і яна нічога не казала...

На трэці дзень яна не вытрымала адзіноты і няўпэўненасці. Вечарам яна пайшла берагам возера з надзеяю сустрэць яго і выказаць яму ўсё, што накіпела ў душы. Чамусьці цяпер так атрымлівалася, што з ёю вочы ў вочы Валерка не сутыкаўся — заўсёды ля іх хоць хто ды быў: ці то Ірка з Віцем, ці то тая ж Маргарыта, ці то яшчэ хто. Ён жа павінен яе выслухаць, няўжо ён нічога не адчувае?

Там, за чаротам, дзе пачыналася водмель, яна і ўбачыла яго — вучыў плаваць Маргарыту, гэту непрыгожую поўную жанчыну, у якой усё выпінае наперад: і высокія грудзі, і поўны жывот, і гэтыя вечна падфарбаваныя круглыя вочы...

— Вот так, вот так, беленькімі ножкамі смялей па вадзе бі... Ды не бойся, не бойся, я ж трымаю цябе, няўжо ты не чуеш? Не напружвайся, я ж не з'ем цябе.— Рукамі Валера трымаў Маргарыту спадыспаду. Вада даходзіла яму да грудзей. Яны памалу рухаліся ўздоўж берага ў яе бок. Як знарок усё роўна — на, глядзі, наглядайся на наша шчасце... Маргарыта, вытрашчыўшы вочы, войкнула тонкім прарэзлівым голасам, быццам яе калолі, усё малаціла і малаціла нагамі па вадзе, а Валерка яе супакойваў і смяяўся. Далей у вадзе бачыліся блізка дзве галавы: Віцькава і Ірчына. Яны плавалі добра — навучыліся...

І нічога ён не гаварыў, і яна нічога не казала...

Кусаючы вусны, яна павярнулася і пайшла назад да палатак. Хацелася заплакаць, лёгка, як у маленстве, але чамусьці не плакалася, толькі цяжка, сутаргава дыхалася. Хацелася забыцца на ўсё, але, як знарок, як дражнячыся, перад вачыма стаяла доўгая водмель за чаротам, вясёлы як ніколі Валерка і гэта расфарбаваная фіфа, якая малоціць па вадзе нагамі і войкае час ад часу.

Калі б не было яе, то ўсё было б добра, чаго яна прыехала сюды, чаго?

Яна ішла і, не жмурачыся, пільна глядзела на нізкае чырвонае сонца, якое вот-вот павінна было закаціцца за ваду. І яшчэ ёй бачыліся чайкі — за гэтыя дні яна прывыкла да іх выгляду, да іх хрыплаватага крыку, а цяпер яны неяк па-новаму ўразілі яе, быццам і не бачыла іх дагэтуль. Штосьці трывожнае было ў іх крыках, гэта трывога адчувалася і ў рэзкіх узмахах крылаў, і тых жа імклівых падзеннях да вады, да чароту — як згубілі што і ніяк не знойдуць.

Ля вогнішча, як і заўсёды, мітусіліся дзяжурныя — адны падкладалі дровы ў агонь, другія расстаўлялі на стале кварты і міскі. Дзяжурыла чацвёртая палатка — амаль яе аднагодкі.

...Тыя аднагодкі, якіх апошні час старалася старанікца, бо здавалася — тое жыццё, якім яны жывуць, якім і яна сама жыла, гэта гульня ў жыццё. Яны, яе аднагодкі, ведалі столькі, колькі ведала і яна, а ёй хацелася зусім другога, самастойнага жыцця. Без вечнага нагляду бацькоў, без настаўніцкіх сухіх натацый, якія — так ужо атрымлівалася — чамусьці загадзя ўспрымаліся як штосьці ненадзейнае і лжывае нават — тым, што трэба, абавязкова трэба праверыць у сваім жыцці...

— Алёнушка, хадзі сюды, памажы ты мне, зусім мяне заездзілі.— Гарык сядзеў ля вогнішча на палене, трымаў у руках гітару і, убачыўшы яе, махнуў рукою. Гэты Гарык пры сустрэчы заўсёды ўсміхаецца. Ён глядзіць у вочы так, быццам ім абаім вядома нешта такое, што другім невядома. І яшчэ, як толькі яе ўбачыць, Гарык заўсёды гаворыць нешта прыемнае. То: «Ты сягоння такая прыгажуня!..» То: «Ну і загарэла — як малінка, не пазнаць...» Ён ведае шмат песень, і турысцкіх, і проста так, ён добра іграе на гітары, ён увогуле харошы хлопец...

«Алёна, Алёна, дзе ж твае вочы дагэтуль былі, пра што думала, на што спадзявалася?»

Яна моўчкі залезла ў палатку, дзе быў ужо прыцемак, і, зашыўшыся ў куце, пачала давіцца цяжкім сутаргавым плачам.

Куды пайсці, да каго падацца на гэтым праклятым востраве? Сорамна так, быццам сілком распранулі і пакінулі перад людскім натоўпам на пасмешышча.

Ля палаткі пачуўся шчаслівы смех Іркі і глухаватае гудзенне Віцькі. Яна заціхла, сцялася — хай думаюць, што спіць. «Ты пачакай, я хуценька спраўлюся»,— Ірка залезла ў палатку. Паўтараючы адно і тое ж: «Ах, мы турысты, мы турысты, мы турысты...» — яна зашоргала плаццем. Відаць, пераапраналася пасля вады... Ірка ці то яе не бачыла, ці то зрабіла выгляд, што не бачыць — так яно і лепей... Шчаслівыя — яны нічога і нікога не заўважаюць, акрамя сябе і свайго шчасця. Як і сама нічога не заўважала. Да пары да часу...

Усё гэтак жа мурлыкаючы пра турыстаў, Ірка вылезла з палаткі. Уваход за сабою не закрыла. Зноў стала ціха. Усё болей цямнела. Паявіліся камары і цяпер са звонам віліся над целам. Відаць, камары чуюць, дзе варта віцца, а дзе не варта... Спачатку думалася, хай так і будзе: і вячэрняя вільгаць, ад якой добра было б цяпер захварэць, і гэтыя пякучыя ўкусы... Але потым усё ж не вытрымала — паднялася, каб закрыць уваход палаткі. Калі закрывала, глянула ўгору і ўбачыла зоры — яшчэ рэдкія ў светлаватым небе і мо ад таго далёкія і недасягальныя, як ніколі... А потым зноў забралася ў палатку і залезла ў спальны мяшок. Перад вачыма ўсё яшчэ стаялі зоры, гэтае высокае светлаватае неба.

Слёзы высахлі, ды яно і не магло быць іначай — не можа ж чалавек вечна плакаць... Як і заўсёды пасля плачу, ёй палягчэла, толькі ў душы засталася крыўда, якая паяўляецца пасля роспачы і адчаю. На каго? Не на сябе ж, канечне, на сябе Алёна яшчэ не навучылася крыўдаваць, бо намнога лягчэй крыўдаваць на свет, на абставіны...

Пачуўся часты металічны звон — трэба ісці вячэраць. Потым, трохі пазней, пралунаў крык Гарыка: «Алё-н-а-а, вячэ-ра-аць...»

А куды ісці цяпер, каму вочы паказаць?

Чула, як смяюцца гучна за сталом — гэта смяяліся з яе. Канечне, канечне, усе пра яе цяпер толькі і думаюць, цяпер, відаць, кожны, акрамя Гарыка, пацяшаецца: так ёй і трэба, варта ёй, хай вучыцца...

І яшчэ было крыўдна, што як ні хацела забыць, выкінуць з памяці Валерку, але ён не забываўся. Зноў і зноў бачыла, як ён вучыць ненавісную Маргарыту плаваць, як смяецца, трымаючы яе поўнае це-

ла... Бачацца ягоныя зарослыя чорнымі валосікамі грудзі, ягоныя дужыя рукі, якія так і хочацца пагладзіць. Бачацца ягоныя акуратныя чорныя, як знарок падфарбаваныя, бровы, векі... Як ні заплюшчвай вочы, нічога не памагае... І куды падацца ад гэтага пякучага болю, куды?

І за што з ёю так, у чым яна вінаватая? А калі ўжо так і атрымалася, то чаму цяпер яна не можа забыць пра таго ж Валерку, чаму не можа пачаць усё спачатку? І калі ён цяпер сябе так паводзіць, то тады чаму раней падыходзіў, чаму ў вочы глядзеў, гаварыў такія словы?..

Не будзе ў яе жыцці другой такой паездкі, не будзе болей такога прыгожага знаёмства, ніколі не будзе...

Там, на турбазе ў клубе, калі Валера падышоў і запрасіў вачыма на танец, ёй на імгненне падалося, што яна — як Наталі Растова, а ён — канечне, як Балконскі... Гэты незалежны спакойны позірк, гэта ўпэўненая спартыўная паходка... Як ён выдзяляўся сярод патлатых танкарукіх аднагодкаў, у якіх нясмелыя мітуслівыя позіркі і нейкі вечна памяты вакзальны выгляд... Не, нічога такога ў Валерку не было: ні рэдзенькай — тры валасіны ў шэсць радоў — бародкі, ні вусікаў, якія найчасцей хаваюць разгубленасць і адчай, ні занадта прыгожага адпрасаванага адзення, ад якога так і вее ненавіснымі мяшчанскімі замашкамі; у ім адчувалася тая дужая мужчынская прастата, якую цяпер у мужчынах так рэдка стрэнеш і ад якой адчуваеш сябе спакойна і ўтульна. І таму адзінае, што засталося ў яе памяці, калі на ягоны позірк яна загіпнатызавана, бязвольна ступіла наперад і падала руку, гэта было: «Мне трэба яму грубіць... Ні ў якім разе не трэба паказваць, што я без яго і кроку ступіць не магу».

Так, у яе пачатак быў нават цікавейшы, чым у той жа Наталі Растовай, гэта, канечне, не школьны вечар, на якім усё распісана і развучана і дзе за кожным тваім крокам назірае шэсць пільных настаўніцкіх вачэй... Побач было возера, месяц і зоры, наперадзе — падарожжа на востраў, на той востраў, пра які гэтулькі марыла — з таго часу, як прачытала ў падручніку пра азёрны край з блакітнай, на цуд празрыстай вадою... І цяпер вучоныя не ведаюць, не

могуць растлумачыць, чаму вада ў тым азёрным краі такая празрыстая.

А калі падумаць, то так яно і лепей, вучоныя і не павінны даваць тлумачэнне, бо азёры, востраў павінны быць мараю, загадкаю для кожнага, хто верыць у прыгажосць жыцця. Яны павінны быць тым, чым для Джэка Лондана былі Поўнач, Клапдайк... Дарэчы, яна зачытвалася Джэкам Лонданам, гэта быў яе самы любімы пісьменнік: мужны, адважны — сапраўдны мужчына...

І тады, як сядзела за кнігамі, уяўлялася, як калісьці вырвецца з гэтай звыклай знаёмай кватэры, ад гэтых вечных павучальных «схадзі», «пакладзі на месца» і зможа самастойна паплыць на лодцы і бачыць побач, як праз тоўстае шкло, доўгія гнуткія водарасці, маленькіх і вялікіх рыб. Як у акварыуме... І яшчэ ёй уяўляўся востраў — як будуць плысці па бязмежным возеры, і вось спачатку там, далёка на гарызонце, убачыць вяршаліны дрэў. Чамусьці востраў уяўляўся такім, як на ілюстрацыях у кнізе пра Рабінзона Круза...

Яна добра вучылася, вечарамі старанна іграла на піяніна, якое купілі ёй спецыяльна ў чатыры гадзікі, слухала разумныя разважлівыя парады, якія сыпаліся на яе адусюль і якія, чым болей сыпаліся, тым болей здаваліся падазронымі... А потым, калі заставалася адна, зноў і зноў адпраўлялася ў далёкае падарожжа... І ніхто, ніводзін чалавек не мог нават і ўявіць, што яна там бачыла, каго неспадзявана сустракала, што адчувала...

Пачынаўся новы дзень, і зноў усё ішло звыклым парадкам, тым звыклым штодзённым колам, над якім недзе зверху панавала яе таемнае, нікому не вядомае: павінна ж быць узнагарода за яе мукі і цярпенне, павінна...

Бо ёй часта гаварылі — і дома, і ў школе, і на вуліцы,— што жыццё — як гульня па правілах, у якой кожнаму справядліва выдаецца ўзнагарода. Па заслугах. І за нявывучаныя ўрокі... І за паслухмянства... І за атэстат з выдатнымі адзнакамі... І, абавязкова, за цярпенне...

Так і павінна быць, думалася Алёне, інакш — навошта ўсё, які сэнс інакш?.. Яна шмат чытала, слухала доўгія прамовы — маналогі настаўнікаў, бачыла

спектаклі і фільмы — так што памылкі не магло быць. Так-так, Раскольнікаў будзе ўсё жыццё пакутаваць за забойства скупой нікому не патрэбнай бабулькі, спакусніку Кулагіну на вайне адарве нагу, а слабенькі бездапаможны заяц заўсёды абдурыць дужага ваўка, і яму, крываротаму, толькі і застанецца — заскуголіць, затупаць лапамі, парваць са злосці і адчаю на сабе кашулю, кінуць яе пад ногі і, падняўшы лапы ўгору, закрычаць у бяссіллі: «Ну, заяц, пачакай!..»

І нічога ён не гаварыў, і яна нічога не казала.

Адкуль гэтыя словы, чаму яны так часта паўтараюцца? Як і твар Валеркі — так ярка помніцца, калі трэба забыць назусім. Як бы было добра, калі б змагла забыцца на ўсё. Чаму ўсё, што адбываецца ў жыцці, ніяк не забываеш і гэта — як балячка? І куды ні пайдзі і што ні рабі, а — помніцца і баліць.

А мо і не ўсе помняць?

Тая ж Ірка. Яна, калі ні глянь,— шчаслівая пры любых абставінах. І гора ніякага не мае. Яна плавала не толькі па азёрах, яна пабывала і ў пешым турпаходзе па Каўказскіх гарах — якія здымкі прывезла яна адтуль... Усё, што ў Ірчыным жыцці адбываецца, яна ўспрымае лёгка, з усмешкаю. «Нервовыя клеткі не аджываюць, жывём адзін раз, так што галоўнае — берагчы і клеткі, і здароўе...» Ах, разумная, разумная Ірка... І чаму яна не можа быць такой жа шчаслівай?

Праўда, Ірка старэйшая за яе аж на тры гады, яна — на чацвёртым курсе філфака, як мама гаворыць, Ірка — разумны самастойны чалавек, не тое што яна... Мама і адпусціла толькі таму, што разам ехала Ірка. Ірка — дыпламатка, нездарма на філфаку вучыцца, з мамаю яна паводзіць і гаворыць зусім панішаму: вінаваты сціпленькі позірк, ціхія нясмелыя словы, якія не сцвярджаюць якую ісціну, а ўсяго толькі — раяць задумацца... Ірка ўвогуле разумніца, што ні спытай — ведае.

«Ах, цёця Галя, паверце мне, я думаю, што Фёдар Міхайлавіч пісаў не рэалістычныя раманы, як гэта нам гаварылі ў школе, а міфы, сапраўдныя міфы. Толькі сучасныя. Мы толькі цяпер пачынаем гэта

разумець».— «Чаму міфы, пры чым тут міфы, Ірачка, там жа — на кожнай старонцы такія рэальныя апісанні, такія страсці, гэта сякера, гэта забойства старой...» — «Цёця Галя, ну няўжо вы думаеце, што тады трава не была зялёная, няўжо тады не смяяліся, не весяліліся? Не, усё гэта было, а паглядзіце самі, як у ягоных раманах над усім, над усёй рэальнасцю пануе жоўты колер, гэтае пачуццё непазбежнасці... Ды і ўвогуле, няўжо Фёдар Міхайлавіч — адукаваны чалавек — на парозе дваццатага стагоддзя мог сур'ёзна верыць у бога, у бяссмерце? Ён жа быў з самых адукаваных прадстаўнікоў свайго часу...»

Час, час... Што ж гэта такое — час? Тады, у школе, так добра ведала, а цяпер вот так хутка забылася. Здаецца, час — гэта шлях, падзелены на хуткасць. Які шлях, якая хуткасць?..

І тады, калі здавалася, што ўжо супакойвалася, калі здавалася, што вот-вот усё зразумее: і сябе, і той жа час,— крыўда і горыч нечакана хваляю накочваліся, і зноў бачыўся Валерка, спакойны, ураўнаважаны... І зноў яна сціскалася, хацелася кудысьці бегчы, але куды?

І над усім гэтым недзе зверху пачынала прывідам маячыць: «А мо і праўду гаворыць Ірка? Яна ж — разумніца, усё ведае: і псіхааналіз, і Джойса, і Пруста — іх жа ў школе не праходзяць...»

Толькі ж чаму тады так балюча, адчуванне такое, як з сабою — той, ранейшай — развітваешся? Назусім. Назаўсёды. І ўжо колькі ні будзеш чытаць таго ж Лондана, але так марыць і хвалявацца, як калісьці, не будзеш. І ўвогуле назаўтра, ва ўсе далейшыя дні — яна гэта адчувала — будзе другой, зусім другой.

## 4

Яшчэ ў прыцемку Сідарэвіч садзіўся ў лодку і, паціху вяслуючы, плыў у туман, за той чарот, дзе звычайна вечарам хрыпла крычалі чайкі. Там, адплыўшы ад берага, ён пераставаў веславаць, ціха, каб надта не грукаць, убіраў вёслы і апускаў за борт свой якар — абвязаны вяроўчынаю камень. Разматаўшы вудачкі, насадзіўшы на кручок чарвяка, закідваў іх у сонную задымленую ваду. Пасля гэтага ён мог

азірнуцца вакол, але ў густым тумане, які пакуль нерухома стаяў над вадою, амаль нічога не бачылася, акрамя чароту і прыгорбленай постаці Маркіна, які гэтак жа нерухома застываў у другой лодцы — зранку лодкі пуставалі, і таму ехаць лавіць рыбу маглі па аднаму.

Бывала, што даводзілася даволі доўга сядзець, чакаючы, калі кіўнецца паплавок. Але гэтае чаканне не было пакутлівым, наадварот, штосьці выпрамлялася ў душы, Сідарэвічу было прыемна глядзець на туман, што пачынаў памалу цягнуцца за чарот, на белы паплавок. І вось, нарэшце, той паплавок разы два ці тры ківаўся, а затым хутка ішоў у цяжкую задымленую ваду. Тады ён падсякаў... А-а, якая цяжкая і вялікая была рыбіна! Як моцна і пругка вяла яна ўбок, дзе выратавальная глыбіня!

Вудзільнам ён пачынаў памалу выводзіць яе наверх, да сухога апякаючага паветра, ад якога рыбіне станавілася цяжка і страшна, як цяжка і страшна стае чалавеку ад вышыні, калі днём бачыцца над галавою цёмна-сіняе, густое, без адзінага воблачка халоднае неба, дзе ўжо, здаецца, блішчаць зоры... І таму рыбіна з усяе сілы рвалася некуды ўбок, дзе глыбіня і цемень,— вада пенілася, бурболіла ад удараў пругкага хваста. І ўвесь час усёй сваёй істотаю Сідарэвіч адчуваў, што барацьба ідзе на роўных: ён з вудзільнам тут, на паветры, а яна там, у вадзе, як у другім свеце...

Потым, калі рыбіна была ў лодцы, штосьці пераварочвалася ў душы ў Сідарэвіча, другімі вачыма ён глядзеў на задымлены востраў, да якога марыў дабрацца гэтулькі год.

Ён бачыў яркія каляровыя палаткі, у якіх яшчэ спалі людзі, лазовыя кусты ля берага, паляну, сосны, што купамі высіліся над роўнымі, як наскрылянымі, палоскамі туману. І яшчэ ён бачыў, як у тумане з-за вострава паказваўся малінавы нияркі дыск. І зноў, гледзячы на той дыск, Сідарэвіч успамінаў той малюнак з ружовым хлапчанём на ружовым кані. І тады ўспаміналася яму, як сам ехаў на кані, а бацька, трымаючы за руку, ішоў побач. Учапіўшыся абедвума ў грыву, ён адчуваў, як гайдаецца пад ім свет і як ён, упершыню наяве, плыве высока-высока над травою, над галавою бацькі. Як добра яму тады было

гайдацца! Як высока ён тады плыў над зямлёю — гэтак высока ён потым ужо ніколі не падымаўся...

Дзіўна было і самому Сідарэвічу — на старасці ён нечакана ўспамінаў не тое, што было на працягу доўгага жыцця, а тое, што было напачатку... І тады аднекуль здалёку, з таго напаўзабытага затуманенага свету, яму чулася песня, то адна, то другая — тыя нетаропкія галасы, што плылі над ціхай вячэрняй зямлёю — далёкія і ясныя, яшчэ тады, малому, яны напаміналі на ўсё тое вечнае, аб чым думаў цяпер, на старасці. Ён адчуваў слодыч гэтых няхітрых працяжных, як галашэнне ці малітва, песень, і пачуццё жалю і віны паяўлялася ў Сідарэвічу.

У чым ён быў вінаваты? Перад кім вінаваты?

Тады ён забываў пра тлумную турбазу, пра пустую і халодную без Марыі кватэру, пра майстэрню і станкі, з якімі восенню прыйдзецца развітацца. Ён успамінаў пра многае, што перажыў, што на пачатку паездкі пякло і балела, але цяпер ён быў ужо другі — разумеў, што хоць і шмат у жыцці бывае благога, але не меней у ім і добрага.

Які ж ён усё-такі дурань, нездарма людзі гавораць: век вучыся, а дурнем памрэш... Нездарма... Яму ўвесь час трэба змагацца, да канца, да апошняга імгнення. Адпачынку няма, ды і не будзе, не можа быць. На тое ён і чалавек. Бо напляваць на жыццё, сказаць, што яно нічога не вартае, на гэта вялікай мудрасці не трэба. Колькі такіх «мудрацоў» сустракаў ён у сваім жыцці: і ў капелюшах, і пры гальштуках, і без гальштукаў, з бутэлькамі, што тырчалі з усіх кішэняў... І чым жа яны заканчвалі? Жыццё ім тут жа плаціла той жа платаю... Якая хітрая і справядлівая штуковіна — жыццё чалавечае!..

Сідарэвіч пачынаў папракаць сябе ў жорсткасці да дачкі, якую некалі прагнаў з дому, ён шкадаваў яе, думаў, што хоць калі, ды дачка вернецца і пакажа ўнука. Хай сабе і без мужа прыязджае, ці адна яна такая. Дзеці павінны вяртацца дамоў: ці то з вярбоўкі, ці то з турмы — хоць адкуль, хоць якія, але дамоў яны павінны вяртацца... І ведаць, што іх пашкадуюць. Яны павінны ведаць, што ёсць адно, адзінае на ўсім свеце месца, дзе іх заўсёды чакаюць. І ён у свой час вяртаўся, і віны ягонай няма ў тым, што ніхто не сустрэў сярод бору, акрамя белых камянёў.

Не вяртаюцца, калі няма куды і няма да каго вяртацца. І таму ён абавязкова напіша пісьмо дачцэ. І таму ён будзе чакаць яе там, у той кватэры, нават і тады, калі восенню пойдзе з завода...

## 5

Тут, ля вогнішча, яны збіраліся штовечар, тут яны мала-памалу і перазнаёміліся — і тады са здзіўленнем заўважылі, што побач не адзіная суцэльная людская маса, а асобныя зусім розныя людзі, са сваімі звычкамі, замашкамі... Цяпер ужо да кожнага з боку групы паявіліся свае адносіны. Да старога Сідарэвіча, які рабіў на заводзе,— адны, да саліднага самастойнага Пятра Хведаравіча, безумоўна,— другія, да той жа зялёнай крыклівай моладзі з чацвёртай палаткі — трэція...

Вось і цяпер... Пётр Хведаравіч агледзеў нетаропка Леначку і яе вечна надзьмутага, чымсьці незадаволенага мужа, інжынера Маркіна — таксама во, маладыя, а ходзіць як у ваду апушчаны... Увогуле, калі разабрацца, што ім, гэтым цяперашнім маладым, не хапае? І хлеб ёсць, і адзець ёсць што, а ўсё — куксяцца... Ён у свой час, з вёскі ў горад прыехаўшы, калі вучыўся, адзін касцюм меў, у палосачку, а гонару, гонару колькі было... Яшчэ Пётр Хведаравіч агледзеў старога Сідарэвіча, дзвюх жанчын з той палаткі, дзе былі Сідарэвіч і Маркін — жанчыны ўвесь час былі побач. Адна з іх, Света, усё смяецца, усё нешта даказаць хоча. Хай сабе даказвае, свет не перавернецца... А другая — хітрэйшая, маўчыць усё, а калі ўжо што і ляпне, то чамусьці смешнае. Вострая на язычок — нездарма замуж не выйшла, каму яны, такія разумніцы, патрэбны. Дарэчы, яны абедзве не замужам.

— Вот скажыце, Пётр Хведаравіч, як гэта ў вас усё атрымліваецца — вы выдумляеце, з галавы, так сказаць, усё берацё ці апісваеце ўсё так, як у жыцці было? Я ўвогуле не пра вас хачу спытаць, а пра ўсіх, каторыя кніжкі пішуць.— Дзядунь закашляўся. Ён сядзеў ля вогнішча найбліжэй і кіем час ад часу падварушваў галавешкі.

— Ну, гэта пытанне складанае,— Пётр Хведаравіч паглядзеў на старога і ўсміхнуўся. Як з дзіцяці.

Колькі разоў яму задавалі гэтае пытанне. І на канферэнцыях па ягонаму апошняму раману, якія ён праводзіў разам з Лазенькам,— пасля выхаду ў свет рамана ён адразу ж арганізаваў цэлы цыкл канферэнцый,— і проста так. І яшчэ звычайна пытаюцца, колькі плацяць. Эх, народ, народ, усё яму карціць ведаць.

— Гэта ж, дзядунь, творчы працэс,— не выцерпела, падала голас Леначка.— Я вот, напрыклад, нядаўна чытала мемуары пра Пушкіна — праз клуб кнігалюбаў дастала, я там у актыве... Дык вот там апісваецца пра гэта...— Леначка ўвогуле рэдка маўчала. Вясёлая жанчына, што і казаць. Ды і з твару прыгожая, не зраўняць з Маргарытаю. З мужам ёй, праўда, не пашанцавала — з такім сухаром, які тыднямі маўчыць, канечне, не лёгка...

— Да-да, ёсць і гэты элемент божага дару, без яго не абыдзешся,— сціпла кіўнуў галавою Пётр Хведаравіч і, сашчапіўшы рукі за спіною, задумёна ўставіўся на агонь... Пра што ён думаў? І пра вясёлую Леначку, і пра яе сумнага мымру мужа, і пра Маргарыту, якая цяпер недзе гуляе ля возера. Эх, мілыя мае, ведалі б вы, якія ў вас дробязныя інтарэсы ў параўнанні з тымі мукамі, якія ён атрымлівае, калі садзіцца за стол, дзе ляжыць чысты ліст паперы. Так сказаць, ягонае поле, якое трэба засеяць,— так звычайна ён гаворыць на канферэнцыях пра сваю пакутлівую працу.

— Цяпер жа як бывае: убачыў — апісаў... І ніякага асмыслення, ніякай свежай арыгінальнай думкі ці хаця б таго сюжэтнага павароту,— Пётр Хведаравіч, гледзячы на агонь, гаварыў памалу, з роздумам.— Вот узяць, напрыклад, пра вёску пішуць. Ну, маладыя пішуць, ды я, паміж намі кажучы, і пра асобных так званых сучасных класікаў не пабаюся сказаць,— на імгненне Пётр Хведаравіч заціх: сказаць пра свайго заклятага ворага, раманіста, які карчом сядзіць на сучаснай тэме, ці не сказаць? Спляжыць яго ці не?.. Ладна, памаўчым пакуль... Вось новы раман выйдзе, і тады ўжо душу адвядзём — дыспут арганізуем пра важнасць і актуальнасць тэмы, якую распрацоўвае не гэты раманіст-сучаснік, а ён, Пётр Хведаравіч. А цяпер — так і быць, пашкадуем пакуль старога, хай свае раманы піша...— Дык

вот,— працягваў Пётр Хведаравіч, амаль што цытуючы крытычны артыкул Лазенькі — многія-многія палажэнні і канцэпцыі абмяркоўваліся ў кабінеце Пятра Хведаравіча разам з Лазенькам, яны разам выпрацоўвалі, калі так сказаць, стратэгію і тактыку сваіх паводзін, без гэтага цяпер нельга,— у працэсе вялікай ломкі трываласць традыцыйнага вясковага ўкладу жыцця парушана назаўсёды. Многае гіне, знікае, змяняецца з таго, пра што мы ўжо цяпер шкадуем. І вось многія пісьменнікі бядуюць, бядуюць — а чаго, калі цвяроза спытаць? Па-мойму, на гэту з'яву трэба зірнуць хоць раз іншымі вачыма — з пункту погляду будучыні, строга, магчыма, нават весела. Бо сапраўды, чалавецтва развітваецца са сваім учарашнім смеючыся. Сучасным празаікам, асабліва маладым, не стае вось такога абагульненага з далечыні і вышыні погляду на сучасніка. Яны найчасцей корпаюцца ў нейкіх дробязях побыту, літаратурныя героі ў іх — зусім не героі, а нейкія ці то недарэкі, ці то... Пры такім падыходзе да справы яны, гэта я магу аўтарытэтна заявіць, не падрастуць, ніколі не падрастуць... А вось так, каб глянуць на чалавека і на чалавецтва з касмічнай вышыні і з усмешкаю паглядзець, як мы тут... Дык жа не, не саромеючыся, выцягваюць на божы свет свой, так сказаць, лапаць і з гонарам махаюць перад усім светам... Ат, што тут гаварыць...— Пётр Хведаравіч зноў не дагаварыў, абурана махнуў рукою — не туды, не туды ідуць некаторыя маладыя празаікі, не ў тыя вароты... Ён адчуваў прыліў энергіі. Як і заўсёды, калі ўголас пачынаў выказваць свае думкі пра жыццё ўвогуле, пра сучасны літаратурны працэс. Канечне, лепей было б цяпер падняцца і сказаць пра гэта на поўны голас, памахваючы рукою, як на сходзе ці на канферэнцыі — вось тады, калі прахаджваешся ўзад-уперад па сцэне, заклаўшы рукі за спіну, увогуле цікавыя арыгінальныя думкі ў галаву прыходзяць. «Думкі ў галаву прыходзяць»,— паўтарыў ён сабе гэтыя словы і болей нічога не сказаў. Лепей памаўчаць — ці варта тут распаляцца, ці зразумеюць яны? Вось вернецца ён, і тады ўжо...

Маўчалі і другія. Дзядуль падгарнуў галавешкі — іскры плоймаю, як рыба ў вадзе, сыпанулі ў цемру і тут жа зніклі ўгары.

— Я вот думаю, пра што вы сказалі. Прабачце, канечне,— пачаў дзядунь, глуха кашляючы,— можа, і не к слову скажу...— Дзядунь замоўк.

— Ды чаго там сцясняцца, можна,— махнуў рукою Пётр Хведаравіч, як звычайна прывык памахваць ёю...

— Я пра ўсіх не бяруся гаварыць, я пра сябе хачу сказаць... Вот вы тут пра сяло гаварылі, дык я ж — таксама з сяла... Пражыў жызню і не разбяруся — добра пражыў ці дрэнна, правільна ці не... І ваабпічэ...— ён неяк крыва ўсміхнуўся, а затым гэтак жа, як і Пётр Хведаравіч, махнуў рукою, але не рэзка і абрывіста, а неяк па-жаноцку.— А-а, не ў гэтым цяпер дзела, не пра гэта я хачу сказаць... Вот вярнуўся з фронту і, канечне, адразу ж паехаў дамоў. А і куды паедзеш, калі не дамоў — на гэтым жа ўсю вайну трымаўся, на вяртанні. Калі б не было куды вяртацца, ці вытрымаў бы такое пекла? Праўда, мне яшчэ ў дарозе сказалі, што ад майго сяла нічога не засталося. А мне не верылася. Вот чэсна скажу — не верыцца, і ўсё... Ну, думаю, як жа так: жыло столькі людзей, маладыя, старыя, дзеткі малыя, хаты ў рад гадамі стаялі — і як жа ўсяго гэтага не будзе?.. Хоць хто ж ды павінен з усяго сяла застацца. Вот нейкае як зацьменне найшло. Здавалася б, на фронце пабыў, усяго нагледзеўся — павінен жа чалавек прывыкнуць за гады. Кажуць жа людзі — да ўсяго можна прывыкнуць. А тут — падумаеш, як сам рос, пра суседзяў, пра старых сваіх... І думалася тады — калі ўсё гэта адабраць, то тады навошта ўсё астатняе? Так што не верылася, і ўсё — хоць забі... І вот іду я лесам, у які яшчэ малым бегаў, дарога тая ж — ну, можа, дзе прасека новая... Пяць жа год не быў, не смешачкі. Выходжу на дзялянку — птушкі шчабечуць, сонца свеціць, пяе ўсё кругом. Ведама, лета ў разгары, як і цяпер во... Выходжу я на поле і вачам не веру — там нічога няма. Нічога... Адно каменне ля дарогі ў рад ляжыць — дзе калісьці вуліца была. І жыта расце — дзе агароды былі, дзе хаты стаялі. А над жытам жаўрук звініць. І ціха так, ціха кругом. І вот тады мне падумалася — усё панімаў, здаецца, усё-ўсё — а за што ж дзеці, за што іх? Стала тады мне ўспамінацца, як яны некалі па вуліцы бегалі, у хованкі гулялі, крычалі, смяяліся,

плакалі — проста вар'яцець пачаў... А вот вы пра смех кажаце. З чаго ж тут смяяцца? Дык гэта ж каб толькі адзін раз, а колькі гэтых войнаў было? Ці гэта наша зямля такая няшчасная, што па ёй... Ды і пра лапці тыя ж... Бацька мой у іх амаль усё жыццё прахадзіў. Анучы наверне, знізу сухую, а зверху мокрую, абуе гэтыя лапці, аборчынай нагу абкруціць, пасля на марозе лядком гэтую мокрую анучыну прыхваціць, нага як у валёнку пасля гэтага, казаў, аж пара ідзе, калі разуешся. Не ад раскошы ж гэтыя лапці насілі і па лужынах, і па гразі. І вот, як цяжка ні было, а прахадзілі ў іх і ў гразь, і ў мароз, змаглі выжыць, нам жыццё перадалі. А-а, я нешта, мусіць, не тое гавару, вы ізвініця...— Дзядунь заціх. Ён адвярнуўся, схаваў твар у цемені. Няёмка стала, быццам сваёй гаворкаю дзядунь парушыў няпісаныя правілы гульні.

— Ды я гэта ўвогуле пра тэндэнцыі гаварыў, не ў такім прамым сэнсе. Калі на тое пайшло, у мяне ў кватэры на куце вісяць такія ж лапці. Як сімвал. Праўда, вымытыя.— Пётр Хведаравіч тут чамусьці — і сам гэтага не мог растлумачыць — усміхнуўся. Падумалася, што гэты стары так і не зразумеў ягоных тонкіх думак. Не пачнеш жа цяпер тут лікбез рабіць, тлумачыць, што ў высокім мастацтве нават тая ж гразь, пакуты, не гаворачы ўжо пра лапці,— усё павінна быць эстэтычна прыгожым. Канечне, стары ж універсітэта не заканчваў...

— Давайце пра што весялейшае,— нарэшце не вытрымала Леначка.— Вот як вы, Пётр Хведаравіч, думаеце, чаму ў наш час мала такіх пісьменнікаў, як Талстой, Шолахаў? — Гэта Леначка часцей за другіх пыталася пра літаратурныя навіны. Нічога не скажаш — цікавілася творчым працэсам. Магчыма, у маладосці ў літаратурны гурток ці ў студыю хадзіла — прайшла там навуку і практыку. Мо нават і вершы пісала. Не тое што Маргарыта. Ну, Маргарыта — гэта асобная гаворка, а вот Леначка... Цікавая, цікавая жанчына, толькі вот муж маўмыра... Увогуле, такім маўчунам і трапляюцца харошыя жонкі, якія потым усё сваё жыццё пакутуюць. Як знарок...

— Цяпер некалі станавіцца Талстымі, Шолахавымі,— убілася ў гамонку сяброўка Светы Ніна.

— Чаму? — Леначка павярнула твар да Ніны.

— Ну, як жа, тады, як Талстой жыў, ні тэлевізара, ні радыё не было — нічога падобнага не было, адзін фанограф. Ды і сядзеў Талстой не ў сталіцы, дзе ўсякіх спакусаў поўна, а ў тульскай глушы сярод лесу. Што яму там заставалася рабіць? Толькі пісаць ды перапісваць.

Засмяяліся людзі. Гэта Ніна заўсёды калі што скажа — смешна атрымліваецца, хоць сама пры гэтым не ўсміхнецца.

— Калі сур'ёзна гаварыць,— Пётр Хведаравіч кашлянуў,— то, можа, яны і цяпер ёсць, гэтыя сучасныя Талстыя, Шолахавы, ды мы іх проста не заўважаем ці не хочам заўважаць. Яшчэ Пушкін сказаў: «Пророка нет в отечестве своем...» Вот бывае, напіша чалавек харошы раман, які па якасці ды і па аб'ёму не меншы, чым у якога класіка, а нашы крытыкі пра гэты раман — ні слова, ні паўслова.— Зноў падумалася пра свой апошні раман. Пушкін, канечне, як у ваду глядзеў...

— Вот яшчэ кажуць, што тэлебачанне і музыка выцісвуць усе астатнія формы мастацтва. Пётр Хведаравіч, праўда гэта ці не? — зноў не маўчалася Леначцы. Цікавая яна жанчына, што і казаць... Усё з большай і большай прыязнасцю ён пазіраў на Леначку. Эх, і навошта ён браў з сабою Маргарыту? І навошта Леначка брала з сабою мымру мужа? Жыццё, жыццё — складаная штуковіна. Адны вечныя трохкутнікі душу вымаюць...

— Я думаю, у будучым наша літаратура не загіне, яна будзе развівацца па трох асноўных лініях: па шляху вызвалення ад схем і недакладных уяўленняў пра жывое жыццё, па шляху індывідуалізацыі, разгортвання асабістай ініцыятывы, па шляху ўсё большай драматызацыі мастацкай формы. З'яўляецца гэта прагназаваннем альбо астралогіяй — меркаваць не мне...

Пётр Хведаравіч заціх. Маўчалі і другія. Ці то ашаломлены ягонай эрудыцыяй, ці то проста так...

— Пецечка-а,— нечакана пачуўся ад палатак працяглы патрабавальны голас Маргарыты.

— Ну, мне пара адпачываць. Заўтра рана падымацца. Да пабачэння. Работа ў мяне такая, што без выхадных, ва ўсе змены павінен думаць,— Пётр Хве-

даравіч памалу павярнуўся і, яшчэ кіўнуўшы галавою, пайшоў.

Маргарыта стаяла ля палаткі.

— Дзе гэта ты прападала на ноч гледзячы?

— Купалася. Ведаеш, як здарова поччу купацца. Пад зоркамі.

— Ты што — здурнела адной купацца... Ты ж плаваць не ўмееш...

— Ды я не адна там была. Ты ж ведаеш, што я цемнаты баюся. Былі яшчэ са мною.

— Хто?

— Ну, з першай палаткі. Віця з Іркаю, старшы быў. Ён жа мяне ўзяўся навучыць плаваць. Ён добра плавае.

— А гэтай дзяўчынёшкі з першай палаткі чаго нідзе не відно?

— Якой дзеўчынёшкі?

— Як быццам і не ведаеш... Алёны, ці як яе там. Во, сягоння і не вячэрала. Можа, захварэла, паглядзела б...

— Ай, не клапаціся ты аб іх надта, разбяруцца яны самі і без нас з табою, памочнікаў... Не мы іх зводзілі, не нам іх мірыць. Давай лепш спаць будзем.— Маргарыта першая падалася ў палатку.— Толькі закрывай за сабою, а то камары налятуць. Які іх чорт на маю галаву выдумаў?.. Дарэчы, мы заўтра ў бор па ягады пойдзем.

— Хто гэта — мы?

— Ну, я, старшы, Віця з Іркаю... Можа, і яшчэ хто прычэпіцца. Табе ж нельга, у цябе рэжым, відаць, свой раман будзеш пісаць.

— Буду,— ён шчыльна закрываў уваход палаткі, а потым лажыўся побач з Маргарытаю. Ад Маргарыты пахла вадою, валасы яе яшчэ і сапраўды не высахлі. «Спаць, спаць давай,— незадаволена сказала Маргарыта, калі ён палажыў руку на яе плячо,— прымі руку, плечы абгарэлі на сонцы і без цябе пякуць, не дакрануцца...»

Быў усход сонца, быў ранак, пра які калісьці так соладка марылася, але цяпер Пётр Хведаравіч соладка, смачна спаў. Як пшаніцу прадаўшы — так калісьці гаварылі. А і праўда, чаго, з якой радасці падымацца ў такую рань, калі напісацца можна і днём,

пасля таго ж сняданку? Удосталь можна напісацца. Абы жаданне было.

Праўда, ён быў падняўся раннім ранкам адзін раз — на другі ранак, як прыплылі на востраў... Тады ад вёслаў балелі, пяклі рукі — на далонях з непрывычкі ўскочылі чырвоныя балючыя мазалі, пякла абгарэлая на сонцы спіна... І ўсё ж, перасільваючы сябе, ён падняўся гадзін ля чатырох, выпаўз з палаткі і пэўны час хадзіў па беразе возера.

Ад густога сырога туману, што клубіўся над возерам і над востравам, было холадна, цела бралі дрыжыкі, і мо таму яшчэ болей утульнай і цёплай здавалася палатка, той жа мяккі спальны мяшок... Сонца толькі-толькі паказалася, цяпла яшчэ ніякага не намячалася. Удалечыні нічога нідзе не бачылася — ні кустоў, ні чароту, ні таго ж бору. Пётр Хведаравіч, час ад часу пацепваючы плячыма, усё прахаджваўся па пясчаным беразе — амаль гэтак жа, як і калісьці па сваім кабінеце. Канечне, якая пісаніна ў такую рань.

Было ўсё зусім не так, як марылася ў кабінеце... Мары, мары — калі ў каго яны збываюцца? Планы, абавязацельствы — збываюцца, а мары... На тое яны і мары.

Як і заўсёды, Пятра Хведаравіча пацягнула на роздум — пра сябе, пра другіх... Вот думаў ён калісьці — надрукуе раман, і ўсе загавораць, загудуць так, быццам зямля перавернецца... Што ж, надрукаваў, але — мала, мала пра ягоны раман гаварылі... І тут упершыню, без усмешачкі, як у люстры, Пётр Хведаравіч убачыў сябе на гэтым пустым востраве ў такую рань. Чамусьці стала няёмка і сорамна — дарослы самастойны чалавек, а — здзяцінеў, здаецца... Пётр Хведаравіч усміхнуўся крыва, як сам з сябе, а потым неяк цвяроза падумаў: «Пайду-тка лепш высплюся... Як след. Чаго без толку маяцца, і так косці ломіць»,— ён зноў са стогнам, які не заўважаў, палез у палатку, шчыльна зацягнуў за сабою ад сырога туману і камароў уваход і падаўся да цёплай Маргарыты. «Таксама мне турыст знайшоўся»,— прашаптаў ён напаследак пра сябе, як пра староннага.

Калі прачнуўся — было сонца, спякота, ні туману, ні сырасці, як прыснілася тое раніпняе бадзянне па беразе вострава... Пасля сняданку ён усё ж засеў

за раман — з халоднай цвярозай яснасцю, што да чаго і чаму,— напісаў аж старонку. А потым спыніўся. Ні назад, як гаворыцца, ні наперад... Нездарма кажуць, што Талстой ледзь не павесіўся ад пакутаў творчасці. Як «Анну Карэніну» пісаў. А з-за чаго? З-за дробязі, здаецца,— не ведаў, што з Аннаю рабіць, калі яна перад люстрам стаяла і капялюшык трымала...

Пётр Хведаравіч час ад часу перачытваў апошні абзац і быў задаволены, як бываў звычайна задаволены, калі ўдавалася за адзін прысест напісаць старонку. А то і дзве. Вось так і трэба пісаць — ні дня без радка...

«Калі Яхрэм адплыў ад берага ракі, ён убачыў, што на другім беразе стаяць ворагі і, смеючыся, выскаляючыся, размахваюць рукамі — маўляў, хутчэй плыві да нас, нам твая лодка патрэбна, хопіць табе ля вуглоў хат аціраццa немаведама чаго. «Мала таго, што лася ні за што ні пра што забілі, а цяпер і за мяне думаеце брацца. Не, лепш я загіну, чым буду дапамагаць вам, чым дамся жывым у вашы крывавыя лапы»,— з шалёнай хуткасцю завярцеліся думкі ў галаве Яхрэма. Ён прыўстаў з лодкі і хутка шуснуў у халодную крынічную ваду. Навекі».

Асабліва Пятру Хведаравічу падабалася заканчэнне, вось гэтае «навекі». Тут, канечне, штосьці было — недасказанае і магічнае. У сапраўдным мастацтве павінен прысутнічаць элемент магічнасці, таямніцы. Канечне, тут ёсць што цытаваць таму ж Лазеньку. Ды ці толькі Лазеньку.

У той дзень да самага вечара Пётр Хведаравіч хадзіў задаволены і ўзбуджаны, вечарам ён пасядзеў з народам, пазнаёміўся — з задавальненнем убачыў, якое ўражанне зрабіла на людзей ягоная пасада і, так сказаць, спецыяльнасць... Потым ён добра салодка выспаўся. Праўда, мулкавата трохі было — аказваецца, ён ужо добра прывык да той імпартнай мяккай канапы, на якой звычайна адпачываў дома.

Цяжэй было назаўтра, бо колькі Пётр Хведаравіч ні думаў, ні ламаў галаву, а нічога не мог прыдумаць. Бяда была ў тым, што разам з Яхрэмам, які навекі знік пад вадою, знікла і сюжэтная лінія, звязаная з Яхрэмам. Канечне, для заканчэння рамана гэта было б някепска — Пётр Хведаравіч ведаў, што

многія сур'ёзныя рэчы заканчваюцца смерцю галоўнага героя,— выводзяць чытача на прамы філасофскі роздум. Многія, многія з сучасных раманістаў так робяць, але ж ягоны раман толькі распачаты, і не пачнеш жа цяпер, на двухсотай старонцы, яго закругляць. Канечне, і ён у канцы свайго рамана не абыдзе гэтую важную і цікавую тэму: быццё-небыццё... Ён таксама грунтоўна пройдзецца па гэтых, так сказаць, сцежках, па якіх хадзілі класікі. Многія з сучасных раманістаў проста не ўмеюць і не могуць надаць гэтай тэме добрае афармленне, рамку, калі гаварыць вобразна. Але пра гэта трэба будзе думаць пазней, а вось як выкручвацца цяпер, на сярэдзіне рамана? Як?

Мінуў дзень, другі... Мала таго што смылелі, пяклі абгарэлыя на сонцы плечы, але і балела галава. Відаць, ад грунтоўнага роздуму. Ён перабіраў у памяці падобныя сітуацыі ў другіх раманістаў, і хоць дзе што і мог запазычыць — навука ніколі нікому не шкодзіла,— але чагосьці галоўнага не хапала. Нарэшце цудоўная задума паявілася ў Пятра Хведаравіча — як жа раней ён не мог да гэтага дапетрыць?.. Цяпер пара было выводзіць на пярэдні сюжэтны план родзічаў Яхрэма. Яны, канечне, павінны адпомсціць за сваяка. Іх, родзічаў, хай будзе пяцёра. З якога пачынаць, вот у чым загвоздка. Канечне, трэба выбраць сапраўднага змагара, не пустадомка... Спачатку ён будзе ўсё блукаць у адзіноце па лесе і думаць, разважліва думаць, потым ён узначаліць буйны партызанскі атрад ці нават злучэнне — аб гэтым варта яшчэ падумаць,— пасля перамогі пачне падымаць з руін калгас, будуць цяжкасці, не без гэтага...

«Так-так,— радасна пацірае далоні Пётр Хведаравіч, прахаджваючыся па беразе возера,— гэта будзе нават не адзін раман. Адзін раман і кожны напіша. Гэта будзе дылогія ці нават трылогія. Як у Талстога, як у Шолахава. І Лазенька потым у сваім артыкуле скажа: раманы Пятра Хведаравіча шмат чым напамінаюць сусветна вядомыя раманы класікаў. Яны — браты тых вялікіх раманаў... Канечне, канечне, браты, сваякі...»

Пісалася цяжка. То камары вечарам і ранкам, то спякота і млявасць днём, ды і той жа мулкі спальны

мяшок — усё гэта, тут кожнаму ясна, уплывала на творчы працэс. Усё часцей і часцей паяўлялася думка пра дом, пра ўтульны кабінет, пра той бліскучы паліраваны чырвоны стол, за якім так добра і спакойна сябе адчуваеш. Як у якой крэпасці. А тут — без тэлевізара, без газет — ачмурэць можна. Ды і тая ж Маргарытачка: ад'язджала — шаўковаю была, а цяпер у яе то тое баліць ці свярбіць, то гэта, не кране, не зачапі, як ляльку якую даглядай... Навошта тады згаджалася ехаць?

А калі гаварыць увогуле, то нялёгкі, ой нялёгкі яго хлеб, і хай язык таму недавярку адсохне, калі ўздумае сказаць нешта іншае...

## 6

Следам за Пятром Хведаравічам павяла спаць мужа і Леначка. Увогуле, гэта баявая прыгожая Леначка кіравала мужам, як ёй хацелася, усе гэта добра бачылі і разумелі, акрамя, канечне, мужа. «Малецкі, туды ідзі... Малецкі, сюды...» А нічога ж, здаецца, мужчына, прадстаўнічы, як гаворыцца, самастаяцельны, а глядзі ты...

Ля вогнішча засталіся ўчацвярох: Маркін, дзядунь, Света з Нінаю — усе з адной палаткі. Так моўчкі пэўны час і сядзелі, гледзячы на дагараючае вогнішча — на жар, на чорныя, абсмаленыя з аднаго боку галавешкі, якія стары час ад часу падварушваў палкаю — толькі іскры сыпаліся тады ўгору, і ўсе на іх глядзелі... Заадно глядзелі і на зоры, якіх тут, на востраве, аказалася шмат, цяпер людзі вечарамі і ноччу ўвесь час адчувалі, што яны ў цэнтры вялікага зорнага свету, і таму тыя шумныя вуліцы, па якіх з гулам коцяць машыны, шматпавярховыя дамы, кватэры — усё гэта было дробязным у параўнанні з гэтай бязмежнай безліччу зор над галавою. Цішыня і спакой яшчэ болей падкрэслівалі веліч і спакой сусвету, які цяпер адчуваўся нейкім невядомым дагэтуль пачуццём. Ледзь чутна здаля, ад чацвёртай палаткі, прабівалася абрыўкамі прыкартаўленае «Виноградную косточку в землю зарой-ию... А иначе зачем я на свете живу-у...» Гэта Гарык спяваў пад гітару. Спаць ісці не хацелася, як і не хацелася бурыць гэту нязвыклую цішыню і заспакоенасць.

— Граматны ён, гэты Пётр Хведаравіч,— нарэшце ціха, як сабе, сказаў дзядунь,— чулі, як пад канец мудрона загнуў? Па-пісанаму... Шляхі, лініі... Я дык, чэсна вам прызнаюся, нічога не ўцяміў...

— Не гаруйце надта, мы таксама, бывае, нічога не цямім,— ціха і спакойна сказала Ніна.— Вот бывае, кніжку купіш, адкрыеш, а чытаць-то і няма чаго, адны шляхі ды лініі...

Засмяяліся ўсе... Акрамя баявой Светы ніхто толкам не ведаў, дзе і кім працуе Ніна, а сама яна не хвалілася. Ды і ці так ужо важна, хто кім працуе?.. Ніна была адной з тых людзей, якія пра што ні гавораць, усё ў іх атрымліваецца смешным, хоць знарок, здаецца, яны і не думаюць нікога пацяшаць...

— А скажыце вы мне, што такое астралогія? З чым яе, як гаворыцца, ядуць? — стары зазірнуў у вочы Маркіну.

Маркін усміхнуўся, паглядзеў на суседку — кінаактрысу Свету... І хоць было ёй ужо за трыццаць, але ці то таму, што ў яе работа была такая спецыфічная, ці то яшчэ чаму, у Свеце было шмат наіўна-дзіцячага: і гэтыя рэзкія ўзмахі рукамі, і гарачнасць, і нечаканае хваляванне з чырванню на шчоках, і тыя ж катэгарычныя погляды на жыццё, на людзей.

— Хай вам лепей пра астралогію Света раскажа. Яна ў нас усякімі цікавымі рэчамі займаецца: і той жа астралогіяй, і ёгай, і спірытызмам, і біяполем, і... Чым вы яшчэ займаецеся, Света? Лятаючымі талеркамі, праўда? Хутка там да нас інапланецяне прылятуць і дапамогуць нам ва ўсіх нашых зямных няшчасцях?

— Ну і што, калі я займаюся! Я не пабаюся і не пасаромеюся ў гэтым прызнацца. Я, напрыклад, лічу, што ў нашым жыцці ёсць нешта містычнае, тое, што мы ніколі не зможам растлумачыць з дапамогаю навукі. Наадварот нават, чым болей навукова мы будзем даказваць лагічнасць ці правільнасць жыцця, тым далей мы пойдзем ад таго ж жыцця... І ў той жа астралогіі, і...— Света пачырванела, потым рашуча махнула рукою ў бок Маркіна: — А-а, таварышы, што вам без толку тлумачыць, калі вы ўжо загадзя ўпэўнены ў сваёй праўдзе. Цяпер такія рацыяналісты ўсе. Я, напрыклад, лічу, што чалавецтва можа

пагубіць рацыяналізм. Няўжо вы не адчуваеце, на чым трымаецца жыццё і што мы пакрыху абрываем?

— Ну, я не буду болей гаварыць, Света. Не крыўдуйце,— зноў усміхнуўся Маркін. Дзіўна, што б Света ні пачынала гаварыць, усё ў яе атрымліваецца не тое што смешным, а проста — гучыць несур'ёзна. Магчыма, калі б хто другі сказаў тое, што толькі што сказала Света, то, можа, і задумаліся б людзі, а так вось...— Дык вы, Света, раскажыце ўсё-ткі нам пра астралогію.

— Ну гэта,— Света зірнула ўгору, у той зорны свет,— навука, якая прадказвае лёс ці характар чалавека. Яна звязана з зоркамі. Аказваецца, лёс чалавека залежыць ад таго, якою парою ён нарадзіўся. Гэта яшчэ старажытныя заўважылі. Увогуле, як мне здаецца, мы ў чалавеку нічога новага не адкрываем, а ўсё бяром у старажытных, яны да нас усё адкрылі. Гэта мы толькі смела б'ём сябе ў грудзі і крычым, што мы першыя. Не першыя мы. Можа, такіх, як наша цяперашняя цывілізацыя, на зямлі столькі перабыло... Вот скажыце,— Света павярнулася да Маркіна,— вы ў якім месяцы нарадзіліся?

— У студзені, а што?

— Ну вот, ну вот,— як дзіця, Света нават запляскала ў далоні і шчасліва засмяялася,— вот я і Ніне так гаварыла пра вас. Я вам цяпер магу сказаць ваш характар. Бо вы — Казярог... Вы нарадзіліся пад сузор'ем Казярога... А значыць, вы — самалюбівы, скрытны, горды, хоць, можа, ад гэтага і больш за другіх пакутуеце. Вы любіце ўладу, вы любіце, каб вам падпарадкоўваліся. Што, можа, і не так я сказала?

— Можа, і так,— Маркін усміхнуўся, гледзячы на гэту даволі-такі прыгожую жанчыну. Нават залішне яркія, як у прадаўшчыц, фарбы на твары не надта заміналі Свеце. Маркіну было няблага побач са Светаю, адзінае, чаго баяўся і што насцярожвала — пачуццё жалю... Было чамусьці шкада яе гарачнасці, яе дзявоча-какетлівых паводзін, якія ў яе ўзросце выглядалі дзіўнавата, асабліва цяпер, калі паводзінамі, стрыманымі асцярожнымі размовамі, дзелавітасцю жанчыны так мала адрозніваюцца ад мужчын. Успомнілася, што пра такіх, як Света, апошні час

пайшла мода гаварыць — з комплексам... Ох гэтыя комплексы, яны ва ўсіх нашых бедах вінаватыя!.. І яшчэ Маркін ведаў: калі паявілася пачуццё жалю, то большае наўрад ці ўзнікне. Паявіцца што заўгодна: і павага, і ўдзячнасць, і пакутлівае пастаяннае пачуццё віны, толькі не каханне. Гэта крыўднавата, але гэта так. І не адзін чалавек на гэтым купляўся — Маркін гэта ведаў. Як і тое, што тут ён парабіць нічога не мог.

— Затое вы, Света, мусіць, нарадзіліся пад сузор'ем Дзевы. Праўда?

— Што ж, праўда. Ну і што, калі пад сузор'ем Дзевы? — усміхаючыся, Света з выклікам глядзела ў вочы.

Як ён адчуваў гэтыя позіркі, у якіх за напускной весялосцю і лёгкасцю бачыцца адзінота і непрыкаянасць! З расказаў Светы Маркін добра ўяўляў службовы інтэрнат, у якім яна жыла, той звычайны вузкі інтэрнацкі калідор з чырвонай дарожкаю, тыя аднолькавыя белыя дзверы ў пакойчыкі, разлічаныя на два аднаспальныя ложкі, невялічкі стол з нешырокім, навукова абгрунтаваным і вымераным праходам між тых ложкаў, тую мажную салідную жанчыну з мужчынскімі замашкамі — у той жанчыны мянушка Камендантша... Там, у адным з такіх пакойчыкаў, віселі на сценах партрэты прыгажуноў кінаакцёраў, найболей замежных, на століку стаялі ў вазачцы сінтэтычныя халодныя, без паху, кветкі, і яшчэ ў тым пакойчыку разам з гаспадынямі жыў-пажываў да пары да часу кот Мурка, якога адразу ж, як паявілася, неўзлюбіла Камендантша. «Срочна ўбраць заразнае жывотнае. Ці я, ці гэта скаціна»,— днямі лямантавала на ўвесь інтэрнат Камендантша, а ім, гаспадыням таго пакойчыка, нічога не заставалася, як ціха плакаць і пісаць скаргу на Камендантшу, а потым несці яе на работу ў партбюро да таго чалавека са стомленымі добрымі вачыма, у якога на службовым стале падобных заяў ой-ёй-ёй колькі. І падпісаных, і проста так, без усякіх подпісаў.

І яшчэ, гледзячы Свеце ў вочы, Маркіну падумалася пра шматлікія знаёмствы, выпадковыя і запланаваныя, якія Свету так нічому і не навучылі, і таму для яе кожны новы раз усё — як упершыню. Гэта ўжо чалавек такі...

Падумалася пра Свеціну работу, якая здаля зіхаціць для людзей недасягальнай зоркаю, і мо таму да яе, як і да ўсякай зоркі, цягнецца шмат не надта вымытых рук. Кіно, кіно — спроба зляпіць з жыцця штосьці такое, што будзе вышэй жыцця. І, як ні дзіўна, штосьці лепіцца, яго можна пабачыць і пачуць, толькі не намацаеш... І гэта — як салодкі прывід, што маячыць перад табою, за якім пачынаеш гнацца, забываючыся часта пра вытокі — пра ўсё тое, з чаго пачалося...

І вось ужо, як прыкмета выключнасці,— скураныя куртачкі, пацёртыя джынсы, абыякава-халодны позірк на ўсё тое, што не звязана з гэтымі куртачкамі і джынсамі, пацалункі ў ручку ці ў шчаку пры сустрэчы — як ваша здароўечка? А вашай мамачкі? Так-так, цяпер такое надвор'е, незразумелае, вісакосны год, парушэнне біярытмаў, так што мамачцы прывітанне перадайце... Дым слупам у кафэ, у якое ўпускаюць не ўсіх — ужо толькі адно тое, што ты трапляеш у гэтыя спісы выбраных — палова зямнога шчасця; гэтыя вечныя размовы, што вядуцца ля стойкі кафэ пра канцэпцыі, творчыя почыркі, сістэмы, асацыяцыі і яшчэ пра гэта пануючае над усім: «Вы што, яшчэ не глядзелі? Ну як жа, як жа, абавязкова паглядзіце. Гэта ж — геніяльна, лепей, чым у Феліні, гэта ж — апошняе слова...» І ўжо адгэтуль, ад гэтых размоў, ад стомленых занадта вялікім веданнем вачэй рукою падаць да вечнага біяполя, да энлланаўтаў, спірытызму... Света, Света, ці выберацца яна калі з гэтага салодкага туману? А мо ёй ужо і не варта выбірацца, мо так ёй будзе і лепш — не першая яна і не апошняя...

— Дык што, Света, можа, і праўду гаворыць? — зноў спытаўся дзядунь, калі маўчанне стала няёмкім.

— Як ні дзіўна, але такое можа быць...— Маркін цяпер глядзеў на жар. Вогнішча дагарала, і толькі ў цэнтры, дзе было некалькі галавешак, віўся кволы агеньчык. То затухаў, то зноў паяўляўся. Як нешта жывое, што так цягнецца жыць.

— Тое, чаго мы не ведаем, часта называем містыкаю — ну, гэта ўжо залежыць ад тэмпераменту і фантазіі... А што размяшчэнне зор можа ўплываць на чалавека — можна растлумачыць і без містыкі,

без той жа загадкавай астралогіі. Навукова. Увогуле, усё на свеце можна растлумачыць навукова. Вот, напрыклад, нядаўна вучоныя заўважылі, што ўласцівасці вады залежаць ад пары сутак, ад пары года. А чалавек, як гэта ўсім вядома — восемдзесят працэнтаў вады...

— Ой, вы лепш памаўчыце.— Света не вытрымала, замахала рукамі.— Вы, вучоныя, як пачынаеце што гаварыць ці даказваць, дык хоць вушы затыкай, хоць вешайся. Чалавек — восемдзесят працэнтаў вады... Звар'яцець можна ад такіх выказванняў. А я вот лічу, што чалавек — з'ява не столькі зямная, як касмічная... А-а, што вам, вучоным, даказваць, вы ў тэорыях сваіх жывеце, а ісціны не бачыце і не жадаеце бачыць. Вы хоць Вернадскага чыталі калі-небудзь, вы знаёмыя з ягонымі творамі?..

Зноў чамусьці ўсе ўсміхнуліся. Не з Вернадскага, канечне...

Памаўчалі. Пара было ісці спаць і — не хацелася... Гэты невялічкі агеньчык, які то паяўляўся, то знікаў, як прыцягваў да сябе. І як яднаў... Па чырвоных галавешках і вугольчыках, па тым жа жары час ад часу прабягалі сполахі — уяўленню маляваліся розныя малюнкі, якія тут жа знікалі, замяняліся другімі. Было амаль усё так жа, як у маленстве, калі хацелася доўга глядзець на воблакі, на цячэнне вады ў рачулцы ці на той жа агонь, што зырка свеціць у вячэрнім прыцемку.

І глядзелася. І час знаходзіўся. А цяпер...

Куды спяшаем? За чым гонімся?

Было ціха. Веданне таго, што цішыня і цемень прасціраюцца на многія вёрсты, прыносіла далучэнне да таямніцы. Быццам знаходзіліся яны ля нейкай высокай сцяны, за якой пачыналася загадкавае Штосьці. І мо таму людзі і гаварылі, і смяяліся не надта гучна, стараючыся не патрывожыць тое загадкавае...

## 7

Пачулася нягучная гамонка, і нейк адразу ж ля вогнішча паказаліся Валера і Гарык. Як і заўсёды Валера быў акуратна паголены, у спартыўным, з «лампасамі» касцюме. Гарык у руцэ трымаў неразлучную гітару. Яны моўчкі селі на палена.

Як гэта заўсёды бывае, паяўленне новых людзей неяк разбурыла тую гамонку, якая была дагэтуль, і цяпер трэ было ці разыходзіцца, ці пачынаць гаварыць пра штосьці новае.

— Ну як, ваша чацвёртая ўгаманілася, спаць уклалася? — Маркін глянуў на Гарыка.

— Якая там мая.— Гарык брэнькнуў струнамі і, неяк па-даросламу плюнуўшы на жар, дадаў: — Разышліся. Хто куды. Бутэлечку круцілі. Раскруцілі...

Толькі цяпер стала бачна, што Гарык — даўно дарослы самастойны мужчына, якому недзе ля трыццаткі. Проста яны ўсе, чарнявыя, добра захоўваюцца, ці што?

— Як гэта паняць? — дзядунь паглядзеў на Гарыка.— Выпівалі, значыцца?

— Ды не-е, дзядунь,— спакойна, як дзіцяці, тлумачыў Гарык,— гульня ёсць такая, маладзёжная. Я вам далажу, што гэтыя цяперашнія зайчыкі мне зусім не падабаюцца. А-а, пра іх і гаварыць нават не хочацца.

— Дык што ж за гульня? — не адставаў стары.

— От, дзядунь, усё табе хочацца ведаць. Ну, садзяцца зайчыкі ў круг, а пасярод іх кладзецца на зямлю бутэлечка. Можна поўную, а можна і пустую. І круціцца. Пакуль не спыніцца. На аднаго зайчыка рыльцам пакажа, а на другога — донцам... Значыць, лёс такі непазбежны — гэтай пары цалавацца...

— Тут жа, пры людзях?

— Калі хто дагаворыцца, то можна і за кусцікамі.— Гарык усміхнуўся і зноў брэнькнуў струнамі. Па ўсяму было відаць, што ён лічыў размову скончанай.

— І са калькімі ж ты сягоння цалаваўся? — не маўчалася дзядуню. Незразумела было, чаму ён дапытваецца так сур'ёзна. Астатнія ўсміхаліся. Хто як.

— Я ў іх заячыя гульні не ўмешваўся. Я толькі бутэлечку круціў.

— Цьфу, распуста,— дзядунь аж плюнуў.

— Вот і я пра гэта ж самае сцвярджаю.— Гарык усміхнуўся і глянуў скоса на другіх. Было ясна, што Гарык вядзе са старым гульню. Не надта чыстую, канечне...

— Ну чаго ты, дзядунь, злуеш? Цалуюцца — і на здароўечка, абы ім добра было. Значыць, ім гэтага хочацца. Супроць прыроды, як гаворыцца, не папрэш, ды і навошта?.. Вот каму не хочацца, той і не будзе цалавацца.— Валера ўсміхнуўся і стрэльнуў вачыма на Ніну і Свету.— Чаго ж тут ляманттаваць, калі цалуюцца? За мяжой пацалунак — як у нас руку знаёмаму падаць. Вот я на спаборніцтвах быў, бачыў і не такое...

— Ладна,— перабіў Валеру дзядунь. Ён чамусьці зазлаваў і махнуў рукою ў бок Валеры. Дзядунь — і ўсім гэта было бачна — яшчэ з першага дня неўзлюбіў Валеру.— Па табе і так відна — усе спаборніцтвы прайшоў. А вот ім,— дзядунь кіўнуў галавою ў бок чацвёртай палаткі,— яшчэ жыць ды жыць, розуму набірацца...

— Дзядунь, пры чым тут маё ці тваё жыццё? Гэта іх жыццё, і ніхто з іх надта не просіць, каб мы ў яго ўлазілі. Навошта блытаць божы дар з яешняю? — Хоць Валера ўсё яшчэ ўсміхаўся, але цяпер ён быў бледны — відаць, абразіўся... Усе зразумелі, што жарт закончыўся. Адзінае, што было незразумела, чаго дзядунь завёўся, чаго яму не хапала — ніхто ж яго не чапаў... Памалу, аддзяляючы слова ад слова, Валера глядзеў дзядуню ў вочы і, як малому дзіцяці, спакойна, павучальна выгаворваў: — Дзядунь, ваша старая забабонная мараль аджывае. Вы жаніліся не цалаваўшыся. Ах, няможна, грэшна... А чаму няможна, чаму грэшна? Што такое грэх? Гэта проста так, фікцыя дзьмутая. І вы ў яе верылі... Вы ў сваты ехалі, нявесты ні разу не бачыўшы. Прывезлі, як бычка да цялушкі,— жыві, хай хоць вочы на лоб лезуць, але жыві... А можа, вы псіхалагічна несумясцімыя? І ты думаеш, гэта было добра, што людзі ўсё жыццё пакутавалі? Я, канечне, згодзен,— Валера ўсё яшчэ глядзеў дзядуню ў вочы і ўсміхаўся,— што пры тваёй маладосці і вада была смачнейшая, і трава зелянейшая... Але ж, хочам таго ці не хочам, але цяпер — другі час, другія паняцці, другі рытм мыслення. Азірніся, дзядунь, цяпер другі век: у гарадах поўна кабінетаў сексапаталогіі, вот-вот увядуць у школе прадмет, які будзе называцца гігіенаю палавых адносін. Вот так-то, дзядунь. Гэта — рэальнасць, і нідзе ад яе не дзенешся, вочы

па яе не заплюшчыш. А калі і заплюшчыш, дык будзеш тунькацца сярод людзей, як сляпы ля плота. Моладзь, ці, як гаворыць Гарык, зайчыкі, цяпер граматная, яны ўсё ведаюць яшчэ з восьмага класа. І пра эрагенныя зоны, пра ўсё... Разумееш, дзядунь, чалавецтва ўступіла ў век электронных сваццяў, жанчыны ўжо ніколі не будуць падаць у непрытомнасць ад «я вас кахаю», людзям няма і не знойдзецца часу рабіць доўгія, па году, падарожжы немаведама куды. Цяцер другі чалавек, зусім не той, да якога прывыклі па раманах класікаў. Даўней чалавек ведаў, а калі не ведаў, то хоць спадзяваўся, што ён — бясконцы, што спяшацца не варта, а цяпер... Скванпасць, сквапнасць губіць чалавецтва. Цяпер мы баімся страціць штосьці, і таму мы бяжым, едзем ці ляцім — хто як здолее — за магутным тэхнічным прагрэсам.

— І куды вы забяжыцё? — спытаў дзядунь спакойна.

— А гэта ўжо трэба спытаць у тэхнічнага прагрэсу. У тэхнакратаў.

— Эге ж,— дзядунь нейкі час глядзеў на жар,— дык вот вы цяпер якія граматныя. Пагэтаму вунь дзеўчынёха з палаткі не паказваецца трэція суткі, праўда? А вот ты не думаў, што ў яе ёсцека бацька і маці, можа, яны спадзяюцца, што з яе чалавек выйдзе. Вот каб у цябе дачка такая ж была і хто з ёю так — хацеў бы я паглядзець на цябе, калі б яна дамоў пачала не прыходзіць. Ты ж яе, як тое маладое дзярэўца, хрась — і зламаў. З дапамогаю гэтага, як яго... тэхнічнага прагрэсу. Зламаў і кінуў на дарозе — хай цяпер другія топчуць ці падбіраюць, а табе ўжо не трэба. Ад нечага рабіць. Так, дзеля форсу. І, можа, у яе пасля цябе ўсё жыццё наперакасяк пойдзе. Як у маёй дачкі — таксама ж недзе гэткі ж, як ты, разумнік трапіўся. З гэтага ж і ў яе пачалося... Дамоў перастала прыходзіць. Я ёй слова, а яна мне тры ў адказ, што я — стары, нічога не ведаю і не петру цяпер, а цяпер новы век, новыя адносіны. Вот слова ў слова, як і ты цяпер сказаў. І чым жа скончылася гэтая твая хвалёная свабода? — дзядунь не дагаварыў, апусціў галаву. Памаўчаўшы, ён цяпер ужо цішэй працягваў: — Так што і гэта дзяўчына можа пайсці па руках ці па вярбоўках, а то, чаго добрага, і да

4 Зак. 4156

падвалаў апусціцца. Вот у маім падвале ўжо паў-года нехта начуе. А хто — не ведаю. Прыходзіць ноччу, а раніцаю сыходзіць. А таксама ж — сям'я недзе была, жыў хтосьці па-людску, ды адбіўся. Адбіцца ад людзей нядоўга, цяжэй на ногі стаць, да людзей, да той жа сям'і прыбіцца. Хоць за што ды трэба трымацца. А ты ўсё бурыш, гэтым, як яго, прагрэсам прыкрываешся... Разбурыць нядоўга. А што ты ўзамен даеш? Анічога, ні жыцця новага, нічога... Пад сябе толькі ўсё грабеш. Ды што цябе вучыць попусту?.. Проста паскуда ты, хоць і граматны...

Ніхто такога нечаканага павароту не чакаў. А Валера тым болей. Хоць і вядома было пра гэту дзеўчынёху з першай палаткі, але людзі чамусьці маўчалі, кожны рабіў выгляд, што нічога не заўважае — думалася, навошта ўмешвацца ў чужыя справы, калі ад сваіх галава кругам ідзе. Магчыма, яшчэ думалася людзям, што ўсе яны тут — часова, выпадковыя, яны сустрэліся на нейкі час, а потым, калі вернуцца, памінай як звалі. Ды і навошта цяпер псаваць сабе нервы? А цяпер дзядунь як разбурыў стагульню ў прыгожае жыццё. І самае дзіўнае, што стары сказаў усё спакойным голасам. Без ніякага крыку і ляманту.

Валера збялеў зусім. Ён сціснуў у палоску вусны, памаўчаў, а потым таксама на цуд ціха і спакойна сказаў:

— Дзядунь, так у нармальных інтэлектуальных спрэчках не робіцца. На персоны не пераходзяць. Гэта па-першае. А па-другое, калі ўжо на тое пайшло, я хачу сказаць: тое, што ў мяне з ёю было, датычыць нас дваіх. І таму прашу, паўтараю, прашу не ўмешвацца ў чужое жыццё. І яшчэ... Я ні разу ніводнаму чалавеку не дазваляў паліваць мяне граззю. Ні дзецям, ні жанчынам. А старым маразматыкам тым болей... Таму мне, вы прабачце, канечне, прыйдзецца даць дзеду аплявуху. Моцна біць я не буду. Сімвалічна. Я думаю, на першы раз адной хопіць старому...

Валера нетаропка падняўся, ступіў да дзядуні і коратка ўзмахнуў рукою перад ягоным тварам. Пачуўся ляск аплявухі, стары тут жа кутыркнуўся дагары нагамі...

— Што ж гэта такое творыцца, таварышы? — нарэшце першаю апамяталася Света, пляснула рукамі...— Нават тут, на пустым востраве, і то міру нямашака...

Было ўсё так нечакана, што ніхто толкам нічога і не зразумеў. Адзін Гарык хутка, нікім не заўважаны, падняўся і, крутануўшыся, знік у цемені.

Праз імгненне, калі Валера ўжо адыходзіў ад старога, які, лежачы на траве, памалу варушыўся, спрабуючы падняцца, Маркін падхапіўся, кінуўся да Валеры:

— Ты што, звар'яцеў? Над кім ты сілу знайшоў?

— Стары, не лезь не ў сваю бутэльку,— Валера рукою адхінуў Маркіна і ступіў далей у цемру. Маркіну падалося — яшчэ які міг, імгненне, і калі Валера знікне ў цемры, то ён ужо ніколі з ім не разлічыцца. Тады ён замахнуўся... Але Валера, павярнуўшыся, натрэніравана выставіў перад ягонай рукою сагнутую левую і, сказаўшы: «Стары, трымайся», узмахнуў праваю... Замах рукі быў кароткі, але хуткі, здавалася, Валера залепіць такую ж, як і дзядуню, аплявуху... Але ў апошняе імгненне, калі рука Валеры была перад тварам, ён павярнуў яе, і таму ўдар быў зроблены рабром далоні ў шыю.

Адразу ж у галаве закружылася, стала млосна, Маркін хацеў удыхнуць паветра — і ніяк не мог. Ногі не ўтрымалі...

Потым, як прыйшоў да памяці, пачуў Свеціна ойканне:

— Ой, ну хаця б адзін мужчына... Што гэта робіцца, ні міліцыі, нікога... І гэты Гарык. Дзе гэты Гарык падзяваўся?

Света ўсё мітусілася ля старога. Там жа была і Ніна.

Маркін памалу сеў на тое ж палена, на якім сядзеў і дагэтуль. Галавою было — не павярнуць. Там, дзе быў зроблены ўдар, шыя была як драўляная.

Было сорамна і крыўдна. За сябе, за сваю слабасць. Мужчына, сучасны мужчына... Калі не лічыць тых дзіцячых вулічных боек, то так ужо атрымалася, што Маркіна ні разу не білі. І ён ні разу нікога не біў. Вырашаць спрэчныя пытанні кулакамі... Не, не, ён жа — адукаваны чалавек, пра сябе, як у апраўданне, Маркін часта паўтараў выказванне сла-

вутага педагога, што, маўляў, самы дурнейшы раснпачынае ў спрэчных сітуацыях боўку, болей разумнейшы — лаянку, а зусім разумны чалавек, які ўпэўнены ў сваёй праўдзе, нават ні слоўца таму дурню, забіяку не скажа, не гаворачы ўжо пра бойку. Ён, Маркін, стараўся быць разумным. Ён быў упэўнены, што нармальныя людзі так і павінны рабіць. «Саступі дурню дарогу — ён і без цябе галаву зверне»,— так часта паўтараў Маркін, калі бачыў, як на яго-ных вачах рабілася якое глупства. «Усіх не перавучыш і не перавыхаваеш на свой лад»,— яшчэ і так часта паўтараў сам сабе Маркін. Разумнік, разумнік... Гэты кароткі натрэніраваны ўдар напомніў Маркіну пра другую праўду, якой ён не бачыў, не хацеў бачыць...

Пасядзеўшы, памацаўшы рукою адзеравянелую шыю, Маркін памалу падняўся і пайшоў да старога — той цяпер ужо сядзеў на палене і трымаўся за шчаку. Света і Ніна таксама селі на ранейшыя месцы.

— Ну як, малец, палучылі мы сваё? — дзядунь глянуў на Маркіна, а потым плюнуў чырванню: — Нічога, гэта ўжо так трэба, я гэта яшчэ з вайны паняў — пакуль цябе ні за што не наб'юць, чалавекам так сябе і не адчуеш. А вот калі натаўкуць у твар ні за што, калі ты пасля гэтага, як гаворыцца, кулакамі намахаешся ўдосталь — во-о, тады ў другі раз ты ўжо мужчынам будзеш. Нездарма ж гаворыцца: за бітага — дзесяць нябітых даюць... Так што ты не расстройвайся.

— Не, таварышы, гэтага так нельга пакідаць. Вот вернемся, і трэба напісаць калектыўную заяву ў міліцыю. За гэта рукапрыкладства ён павінен адказваць. І яшчэ старшы называецца. Мы з Нінаю першыя падпішамся,— рашуча сказала Света.

— Мо лепш Пятру Хведаравічу паскардзімся, хай ён яго ў сваім рамане выведзе? — падала голас Ніна, і ўсе, нават Маркін, чамусьці ўсміхнуліся.

— Не, дзяўчаты, вы лепш маўчыце, не саромцеся перад Пятром Хведаравічам, ён у нас сур'ёзныя рэчы піша, а што мы, які яму з нас наварак?.. У яго работа важная, не хапала яшчэ, каб ён у наша драбязнае жыццё ўмешваўся. Што мы для яго, што яму нашы спрэчкі.— Дзядунь памалу, абапіраючыся рукамі аб калені, як гэта звычайна робяць усе старыя,

падняўся з палена.— Я вот што думаю: лепей-ка вы тую дзеўчынёху да нас у палатку забярыце, месца хопіць усім. Цяплей спаць будзе. А так во — кінулі яе ўсе, што яна яшчэ ведае ў жыцці. Ляціць, як той матылёк на вогнішча, ні аб чым не думаючы. Яшчэ і песню якую шчабеча...

— Я вот думаю,— сказала Ніна ціха і сур'ёзна, як бы не чуючы слоў дзядуні,— як гэта лёгка і проста рашаць чалавечыя праблемы: развярнуўся, хрась кулаком па твары ці па целе — і гатова, усё вырашана, вінаваты на зямлі ляжыць... Колькі ўжо вякоў прайшло, здавалася б, павінны людзі навучыцца хоць чаму, а — не, усё такія ж... Гэтыя аплявухі, дуэлі, гарматы, бомбы, войны, нарэшце... Чалавек, чалавек, вянец прыроды...

Упершыню пасля слоў Ніны ніхто не засмяяўся. Толькі чамусьці сорамна стала.

## 8

У тую ноч Маркіну не спалася... Варочалася побач у спальным мяшку Света і ўсё нешта шаптала маўклівай Ніне. Ціха ляжаў стары — відаць, таксама не спаў...

Чамусьці думалася і ўспаміналася пра тое, пра што шмат год не думалася і не ўспаміналася. Неяк па-новаму пачало ўспамінацца студэнцтва, аднакурснікі, твары якіх ужо размыліся ў памяці. Тады ў іх падабраўся моцны курс, ледзь не палова — медалісты... Якая ў іх тады была ўпэўненасць! У чым? У сваіх ведах — здавалася, яны вывучалі самае-самае, сутнасць, а ўсе астатнія: філолагі, гісторыкі, географы — гэта так, збоку-прыпёку, туды найчасцей ішлі тыя, хто не ведаў, як рашыць, як знайсці... Бо рашыць ці знайсці — гэта штосьці канкрэтнае, рэальнае, якое можна адразу ўбачыць ці адчуць. Ім не было часу траціць на, як тады здавалася, пустыя барабанныя словы, на пустыя спрэчкі, якія ні да чога новага не прыводзілі, а наадварот — наводзілі на яшчэ большыя пытанні. Яны ведалі, што жывуць адзін раз, і таму цяпер, а не калісьці потым трэба разабрацца ў гэтым халодным матэрыяльным свеце, які падпарадкоўваецца законам і правілам, тым шматпавярховым формулам і графікам, якімі запоўнены

вучыць. І тады, як разбярэшся ў тых складаных формулах, як вывучыш назубок тыя правілы, станеш як бог. Ну, калі не самім богам, то намеснікам — гэта ўжо пэўна, і за доўгую кудлатую бараду таго бога-прыроду будзеш тузаць, колькі захочацца.

...Зноў жа не сам, а з дапамогаю законаў і правілаў, тых шматпавярховых формулаў і графікаў...

Валодзька Сарокін — надзея курса... Самы здольны, як тады ўсе хорам гаварылі, самы таленавіты. Пасля інстытута за пару год зрабіў кандыдацкую, а потым... Потым гэтак жа хутка і нечакана спіўся. Цяпер — нібыта грузчык у рэстаране. Што яго зламала? Чаго яму не хапала? Здаецца, усё меў: сям'ю, трохпакаёўку ў цэнтры сталіцы, машыну, якую цесць-прафесар падарыў на вяселлі... Кажуць, там у Валодзькі Сарокіна ўся брыгада грузчыкаў амаль з адных інтэлектуалаў: былы кандыдат навук, былы філолаг... Можа, яно і не так, але...

Вясёлая і хуткая Кірачка, як тады яе звалі — Наталі Растова. Экзамены здавала звычайна першай, вылятала з аўдыторыі і махала над галавою залікоВай кніжкаю: «Дзеванькі, атлічна...» Здавалася, што вучылася яна гуляючы. Не адзін хлопец ёй кветкі купляў, не адзін пад вокнамі інтэрната на марозе танцаваў... Цяпер Кірачка — таваразнаўца ў магазіне, як ні дзіўна, давольная лёсам.

Брамкін — на «Эталоне» рамантуе прыборы. Адпусціў бараду і вусы, стаў салідны, пры сустрэчы хваліцца: дзвесце чыстымі, камандзіровачныя, вольны час... А думалася калісьці — у аспірантуру пойдзе.

І між тым другія, на каго тады ў інстытуце не спадзяваліся, на каго тады, як гаворыцца, махнулі рукою, дабіліся многага. Той жа Андрэйчык — кажуць, доктарская на падыходзе. Помніцца, калі ні зайдзі ў ягоны пакойчык — накурана, не прыбрана, сам ён тыдзень не голены, нейкі ўвесь памяты, ляжачы на ложку, нерухомымі вачыма глядзіць у столь ці чытае якую кніжку, зусім не праграмную... Колькі яго ганялі за пропускі лекцый, колькі вымоў і адчытванняў меў ён з-за сваёй упартасці. І нічога яго тады не цікавіла: ні тая ж Кірачка, ні турпаходы, ні спектаклі — нічога з таго знешняга, за што з

такой лёгкасцю хапаліся іншыя. І здзіўляліся тады ўсе, што трэба гэтаму злому Андрэйчыку, чаго яму не хапае?.. Здавалася, што дваццацігадовага Андрэйчыка точыць нейкая хвароба, і таму, як гэта заўсёды бывае ў час хваробы, яму ўсё не падабалася, не шанцавала.

Хвароба. Відаць, кожны павінен прайсці праз такую хваробу. Калі ж яна пачалася ў яго?

Відаць, усур'ёз пачалася з пахавання бацькі — было то пасля абароны кандыдацкай, калі ён ужо і не заўважаў, як мінае тыдзень, у памяці ад тыдня заставаліся панядзелак ды пятніца, між якімі была работа, работа...

Стаялі гэткія ж летнія бязветраныя спякотныя дні, калі ён атрымаў тэлеграму. Ён ехаў у вёску і ўсё ўспамінаў жывога бацьку, успамінаў маленства, калі бацька здаваўся самым прыгажэйшым і самым дужэйшым чалавекам на свеце. І яшчэ Маркін, як гэта заўсёды бывае, каяўся ў сваёй чэрствасці, быццам бы гэтым ён мог цяпер нешта вярнуць ці направіць.

Трохі разгублены і ціхі ішоў ён знаёмай вуліцаю да знаёмага двара. Як ні дзіўна, але да самага парога хаты сапраўднага шкадавання бацькі, таго пачуцця жалю, які — пра гэта ён столькі разоў чуў — бывае пры страце блізкага чалавека,— нічога такога ў Маркіна не было, проста ён шкадаваў, што ніколі наяве не будзе таго сонечнага маленства з дужым вясёлым бацькам. І яшчэ ў душы панавала сцішанасць, якую нічым не хацелася бурыць, ні гучным словам, ні позіркам.

І толькі калі ён у хаце здаля ўбачыў труну і ў ёй не надта яшчэ старога бацьку, штосьці абарвалася ў душы Маркіна, тая сцішанасць, што была дагэтуль, знікла, стала горача, і ён кагосьці ўпершыню па-сапраўднаму пашкадаваў — каго, не ведаў, ці то сябе, ці то бацьку... Ён хутка, не задумваючыся і ні на кога не глядзячы, падышоў да труны, каб пацалаваць бацьку ў твар...

І тады, калі Маркін нахіляўся, ён убачыў штосьці незнаёмае, зусім не звязанае з жывым бацькам, з тымі салодкімі сонечнымі ўспамінамі маленства. Нават праз рэзкі пах дзяшовага адэкалону ад цела шыбануў востры непрыемны пах. Зблізку скура ня-

божчыка паказалася зусім другой, чым тады, як глядзеў з парога хаты. Перасільваючы сябе, пад пільнымі позіркамі вясковых бабулек, Маркін усё ж пацалаваў нябожчыка, а затым, гэтак жа ні на кога не гледзячы, пайшоў з хаты... Але і потым ён ніяк не мог пазбавіцца ад вострага непрыемнага паху, ад той чужой, незнаёмай бела-сіняй скуры, на якой бачацца вялікія ямачкі і сівыя рэдкія валасы...

Дагэтуль Маркін хоць і бачыў мёртвых, хоць і разважаў часта ўголас пра смерць, але гэта яго не надта турбавала. Ва ўсім, што ён калі-нікалі бачыў — і ў самім нябожчыку са шчыльна сціснутымі вуснамі, і ў доўгай сцішанай працэсіі, і ў людскіх слёзах, і ў музыцы — ва ўсім гэтым Маркін знаходзіў пэўны сэнс, нават нейкую паэзію... Ён мог яшчэ тады, да пахавання бацькі, паспрачацца наконт існавання бессмяротнай душы ці, як у апошні час стала модна гаварыць, біяполя, ён, як і іншыя, мог доўга гаварыць пра ўсе тыя загадкавыя і малавытлумачальныя здарэнні, пра якія час ад часу пачыналі гаварыць у так званых сучасных інтэлектуальных сферах — гэтыя размовы так нагадвалі колішнія размовы ў салонах Элен Безухавай і Анны Шэрэр, быццам бы ўсё засталося такім жа няўпэўненым і зыбкім, толькі тэмы — новымі...

А потым... Пасля пахавання бацькі ён ужо не спрачаўся, не гарачыўся, так ужо атрымалася, што ён увогуле адышоў памалу ад спрэчак, ад тых былых сяброў. А новых так і не завёў.

Цяпер ён думаў, што пекла ці рай — не самае страшнае выпрабаванне чалавека. Калісьці, рана ці позна, але гэта абавязкова здарыцца, і ён падыдзе да той мяжы, за якой нічога няма. Нічога. І гэта — нашмат страшней за рай ці за тое ж пекла.

Хвароба... Як жа надоўга яна зацягнулася...

Пабыўшы тут, на востраве ля старога Сідарэвіча, Маркін адчуў, што змяніўся. Ён пачаў памалу забываць пра горад, пра тое гарадское жыццё, а замест гэтага даўні напаўзабыты свет набліжаўся да яго, і тады Маркін са здзіўленнем заўважаў і адчуваў, чаго раней не заўважаў і не адчуваў. То вострыя сыраваты пах смалы, што ветрам даносіла з бору, то бляск хваль на сонцы, то рытмічнае бясконцае хлюпанне вады ў чароце, а то і спякотная гарачыня

белага сонца — усё гэта было толькі напамінам, напамінам, і так хацелася, каб гэты напамін ніяк не заканчваўся. Раніцаю, калі ў тумане плыў на лодцы лавіць рыбу і чуў побач глухое старэчае пакашліванне, нечаканая хваля болю і віны накочвалася на Маркіна... Ён сцінаў вусны і намагаўся ўспомніць, калі ж такое было з ім? Аказваецца, было, сапраўды было. Нейкі адзін-адзіны дзень альбо нейкае імгненне даўняга забытага жыцця ўспаміналася — быццам са дна цёмнай каламутнай вады ўсплывала на паверхню...

Ці то ад гэтых успамінаў, ці то ад таго, што ён надта хутка прывык да дзядуні, які так напамінаў бацьку, але пасля ўдару Валеры Маркіну нечакана стала лягчэй і прасцей,— быццам бы даўно трэ было пайсці ў паліклініку, а ён усё адкладваў і адкладваў, знаходзіў прычыны і апраўданні. А цяпер вось — усё пройдзена, паліклініка ззаду. Маркін быў упэўнены, што калі б там, у горадзе, у яго і была б такая сутычка з Валерам, то ён бы нічога падобнага не адчуў.

Ён яшчэ і сам не разумеў, што ў ім змянілася, але цяпер пачынала цікавіць і трывожыць зусім не тое, што дагэтуль... Пачыналася другое жыццё з другімі меркамі.

Усё пачыналася з як ніколі яснага разумення таго, што акрамя ягонай праўды і надзеі на нейкую справядлівасць, за якія дагэтуль трымаўся, як тапелец за саломінку, ёсць і другая праўда — праўда злой грубай сілы. Ён стараўся не заўважаць яе і таму знаходзіў апраўданні, якія звычайна знаходзіць чалавек. У любой сітуацыі. Яму лёгка было хавацца за чыесьці аўтарытэтныя выказванні, лёгка было знаходзіць цытаты, прыклады — усё гэта было нашмат лягчэй, чым самому шукаць, набіваючы гузакі і націраючы мазалі...

— Дурань, слабы бездапаможны дурань,— шапталася Маркіну.— Дзядунь, відаць, казаў праўду. Каб адчуць сябе чалавекам, трэба, каб хоць раз ды пабілі. Ні за што. Вось будзеш ісці па вуліцы і цябе спыняць двое. «Дай закурыць».— «Няма».— «А чаму няма? Палучай за гэта...»

І палучыш, і скардзіцца не будзе каму.

## 9

Яшчэ раніцаю, калі ўсё было ціха — і тое ж сонца свяціла, і тая ж гарачыня пачыналася, і неба было чыстае,— дзядунь сказаў услых за сняданкам:

— Ламанула ў мяне спіну. Паўночы не спаў. Відаць, нешта пачнецца, ці дождж, ці яшчэ што.

— Ды быць не можа такога, ціха ж пакуль,— запярэчыў Пётр Хведаравіч. Даеўшы з міскі, Пётр Хведаравіч паклаў лыжку ў міску, адсунуў яе ўбок і, узяўшыся за кварту з кампоцікам, уважліва аглядзеў чысты небасхіл, возера і, звыклым рухам закідваючы валасы на галаве, дадаў: — І ветру ж зусім няма.

— А вот паглядзім,— дзядунь болей нічога не гаварыў.

Пасля сняданку дзядунь вынес з гаспадарчай палаткі маленькую рыдлёўку і пачаў акопваць палатку — атрымаўся раўчук. Зямлёю стары прысыпаў край палаткі.

— Вот так-то лепей будзе, не падплыве...— сказаў дзядунь Маркіну, калі закончыў работу.

І праўда — адразу ж пасля сняданку пачало парыць, пацягнула на сон. Дзесьці ля абеду ўсхадзіўся вецер, пабольшалі хвалі на возеры — цяпер ужо роўна, не перастаючы, шумеў чарот. Павыцягвалі на бераг лодкі і ланцугамі прывязалі іх да сасонак. Хутка паявіліся і воблакі — гурба за гурбаю яны цёмна клубіліся, падымаючыся ад самага далягляду неяк угору. І самае дзіўнае было, што воблакі, здавалася, ішлі проці ветру. За якую гадзіну неба поўнасцю зацягнула цёмнымі хмарамі... Пачало пагрымліваць.

А потым, пасля хвіліннага заціпша, лінуў дождж. З нечакана падняўшымся ветрам, з грымотамі і маланкамі. Адразу ж палягчэла дыхаць, быццам з цела штосьці лішняе спала...

Спачатку і дождж, і вецер, і грымоты з маланкамі, і нават тое, што яны ў гэты час сядзяць не ў цагляных утульных дамах, а ў тонкіх брызентавых палатках — усё гэта ўзрадавала, а потым, як рэзкім парывістым ветрам злізала чацвёртую палатку, усе пасур'ёзнелі. Пётр Хведаравіч і Малецкі, прыгорбіўшыся, патрухалі да гаспадарчай палаткі па рыдлёўку — відаць, у палатку нацякла спадыспаду вада, і

разумныя жанчыны іх, канечне, вытурылі на дождж. Потым пачала акопвацца і першая палатка. Адна моладзь з чацвёртай палаткі не надта бедавала — нейкі час яны весела-адчайна галёкалі: «Каравул, патоп, памажыце!» — а затым, сабраўшы падмочанае адзенне, са смехам перабраліся ў першую палатку да Валеры, Віці і Іркі — Алёна цяпер была ў палатцы разам са Светаю і Нінай.

Сцямнела раней часу. Гадзін у дзевяць гром заціх, пакаціўся некуды далей, на возера, вецер таксама пацішэў, але дождж не пераставаў. Пра вячэру, канечне, не варта было і думаць. Перакусілі хто што мог.

Ноч пераспалі — хто як... Спадзяваліся, што ноччу ці назаўтра ранкам дождж сціхне і зноў пачнецца гарачая спякота, млявая цішыня, ад якіх многія добра-такі раздабрэлі. Той жа Пётр Хведаравіч, яму гэта паездка на папраўку пайшла...

Але і раніцай усё гэтак жа, як і ноччу, білі кроплі дажджу па палатцы. Палаткі хоць і двайныя, але працякалі патроху. Вецер сціх, і таму дождж ішоў, як восенню — спорна і ціха. Дзядунь, вытыркнуўшыся з палаткі, пакруціў ва ўсе бакі галавою і сказаў:

— Ну, гэта цяпер на цэлы тыдзень. З такім дажджом мы тут надоўга засядзем.— Затым ён зноў залез у палатку і, седзячы на спальным мяшку, працягваў: — Добры дождж. Бульбачка недзе аджыве. Ды і жыту згадзіцца, гародніне. Каб такі дождж ды не пераставаючы хоць бы да заўтрашняга...

— Ну-у, дзядунь, вы ўжо такое на нашы бедныя галовы прыдумаеце. Вам тая бульба даражэй за нас. Без вячэры, без сняданку,— пакрыўджана заявіла Света. Так і не вылазячы са спальнага мяшка, яна, як мыш з норкі, пазірала ва ўсе бакі, мабыць, і не думаючы вылазіць з цяпла на сырасць і холад. Побач з ёю ў такім жа спальным мяшку ляжала і Алёна, бледная і пахудзелая — куды ўсё дзявалася ад былой прыгажосці... Ніна апранула штармоўку і цяпер, моўчкі гледзячы на дождж, сядзела ля самага ўваходу ў палатку. Была яна чамусьці сур'ёзная, як ніколі — відаць, нешта ўспаміпала. Дождж — ён чамусьці заўсёды напамінае на нешта былое, перажытае. Як і агонь, як і бязмежны блакіт вады...

— Слухайце, адкуль гэта каваю нясе? Я дык каву за вярсту пачую. У каго яна завялася? — тут жа забылася пра сваё ныццё Света.

— Зараз дазнаемся,— стары вытыркнуўся з палаткі, а потым зноў весела паведаміў: — Дакладваю, дым ідзе з палаткі Пятра Хведаравіча.

— Цікава, як гэта яны ўмудрыліся ў дождж у палатцы каву зварыць? — здзівілася Света — чалавек справы. Відаць, яна і замуж з-за гэтага не выйшла — не было калі...

— Магчыма, сухі спірт з сабою нехта прыхапіў,— выказаў меркаванне Маркін, выбіраючыся з мяшка і абуваючы кеды.

— А керагаз яны з сабою не прывезлі? — дзядунь засмяяўся.— Яны, як я пагляджу, хлопцы запаслівыя. Вот хай бы і нас цяпер да сябе ў госці запрасілі.

— Э-эх, хоць бы адзін глыточак,— забедавала Света. Усе, гледзячы на Свету, засмяяліся. Потым тая ж Света рашуча прапанавала: — Давайце лепш у дурня. Толькі, чур, я вылазіць з мяшка не буду, вы як сабе хочаце...

За гэтыя дні яны здружыліся, зблізіліся так, як, бывае, не збліжаюцца людзі за цэлыя месяцы.

І ўсё ж, як ні весялілі адно аднаго, і ў першай палатцы, і ў другой, і ў трэцяй, але за доўгі дзень занудзіліся. За ўвесь доўгі водпуск яны не занудзіліся, як за гэты дзень. І цяпер ужо кожны разумеў, што ўсё гэта: і прыгожыя каляровыя польскія палаткі, і сам востраў, і возера — усё гэта часовае, і яны, як малыя дзеці, чамусьці на ўсё забыўшыся, пакідалі ўтульныя дамы, у якіх стаяць тэлевізары, ляжаць на падлогах мяккія дываны, дзе, можа, цяпер, у гэты нудны бясконцы дождж, хтосьці шчасліва ляжыць на канапе і, пасёрбваючы тую ж каву, глядзіць перадачы па тэлевізары. Па першай ці па другой праграме. «У свеце жывёл», напрыклад. І там, напрыклад, у адной з тых перадач, паказваецца востраў, на якім можна жыць і на якім жывуць усякія шчаслівыя птушкі і малпачкі.

Чаго яны паехалі сюды, дзе ў любы дзень можа пайсці дождж, які вымачыць цябе да ніткі і які невядома калі скончыцца...

Таму кожны, седзячы ў палатцы, пад роўнае шапаценне дажджу думаў пра штосьці. Не пра востраў, не пра дождж, не... І ўжо з прыкрасцю думалася, што гэта нечаканая непагадзь ніколі не скончыцца...

Толькі пад вечар паявіўся слабы ветрык, ён пацягнуў хмары. Пасвятлела трохі. Дзядунь першы выбраўся з палаткі, хоць дождж яшчэ і пырскаў.

— Ну, малец, вылазь,— загадаў ён Маркіну.— Вы, дзяўчаты, як сабе хочаце, а мы за вячэру прымемся, хопіць сухарамі давіцца.

— Дык жа яшчэ дождж пырскае, сыра, і, галоўнае, сягоння не наша чарга,— баявіта падала голас разумная Света, але на гэта дзядунь сказаў:

— Ім, у першай палатцы, і так весела, без вячэры і без сняданку — чуеце, як Гарык заліваецца салаўём цалюткі дзень? А тыя,— ён кіўнуў галавою на палатку Пятра Хведаравіча,— не такія, як мы, разявакі — запасліся, на адной каве яшчэ пяць сутак, не вылазячы з палаткі, пратрымаюцца. Так што, дзяўчаты, ніхто нам сягоння вячэру гатаваць і не надумае.

Дзіўна, цяпер ужо і не ўяўлялася, як гэта яны маглі абысціся без дзядуні. З кожным днём ён усё смялей адчуваў сябе на востраве, і цяпер ужо што ні збіраліся ці планавалі рабіць, абавязкова раіліся з ім, дзядунем, а не са старшым.

Вылезлі ўсе, нават і Алёна. І хоць яшчэ пырскаў дождж, было сыра і холадна ад мокрага ветру, але чамусьці павесялелі. Пачалі шукаць сушняк — дзяўчаты пайшлі нават да бору. Света звонка і адчайна загалёкала: «Ой, мароз, мароз...» — па ўсім відаць, знарок, каб яшчэ было весялей. Стары вынес з гаспадарчай палаткі сякеру, сухое прыхаванае палена, пачаў шчапаць. Над ямкаю, дзе звычайна гарэла вогнішча, нацягнулі сяк-так поліэтыленавую плёнку — хоць трохі ды закрывала ад дажджу той слабы кволы язычок, што цягнуўся ўгору...

У другіх палатках угледзелі хутка, што разгараецца агонь. Тут жа як з-пад зямлі высыпала вясёлая кампанія з першай палаткі, выбраліся са свайго падзейнага сховішча і Пётр Хведаравіч з кампаніяй. Пётр Хведаравіч адразу ж падышоў да агеньчыка і, грэючы далоні, жмурачыся, гаварыў: «Харашо-о пасля дажджу ля цяпельца. Я вот помню,

як малым быў і кароў пасвіў...» — «А вы што, Пётр Хведаравіч, і кароў нават калісьці пасвілі?» — усё не надакучала здзіўляцца Леначцы. «Да-а,— працяжна гаварыў Пётр Хведаравіч,— было ў мяне калісьці і такое дзела, займаўся і гэтай прозаю жыцця. Жыццё — яно ўсяму навучыць, калі ты на што здатны: і кароў пасвіць, і раманы пісаць. Усе вялікія, дарэчы, прайшлі праз цяжкую школу жыцця. Так што я не выключэнне».

Да цёмнага ўправіліся з вячэраю. Ды і дождж перастаў. Праяснела неба, высыпалі зоры... Пасля вячэры не раздзяліліся на дзве групы, як гэта рабілі звычайна, а ўсе, нікуды не разыходзячыся, сабраліся ля аднаго вогнішча.

Не было толькі Валеры... Пасля бойкі яму ніхто нічога не гаварыў, не было сходу, на якім настойвала Света, відаць, увогуле мала хто здагадваўся пра бойку, бо той жа Пётр Хведаравіч часта круціў галавою і пытаўся: «А дзе гэта наш старшы падзяваўся, нешта я яго апошні час не бачу...» А мо хто і здагадваўся, ды ўслых не гаварыў — бачылі, канечне, бачылі сіняк пад вокам у старога, бачылі, як перайшла жыць з першай палаткі Алёна. Ды і назаўтра ў той жа чацвёртай палатцы пасля здарэння ля вогнішча моладзь нешта ўсё да паўдня мітынгавала, пасля чаго Гарык сабраў свае манаткі і перабраўся ў першую палатку, балазе, месца было свабоднае. А потым, дні праз два, здаецца, і памірыліся ўсе — востраў, нідзе не дзенешся... І хоць пра гэта ўслых не гаварылася, але цяпер кожны, пасля доўгага дажджу і сырых цесных палатак, як ніколі адчуў, што хоць як — са смехам, са сваркамі ці з тымі ж бойкамі,— але трэба быць разам. Чалавеку трэба чуць чалавечы голас, бачыць вясёлыя ці сумныя чалавечыя вочы. Іначай — нельга.

— Сонца такое, і тут на табе — на дварэ гразь, як з вядра ліе...— гаварыў Пётр Хведаравіч, седзячы на палене і гледзячы на агонь.

— Клімат рэзка мяняецца. Вот і круціць усё,— тлумачыла Света, якая ўсё і ўсюды ведала.

— Можа, і мяняецца,— згаджаўся Пётр Хведаравіч і ківаў галавою,— я вот помню, зімы былі. Зімы дык зімы... Снегу да стрэх намятала. А цяпер... Наша цывілізацыя дасягнула высокага ўзроўню,

магчыма, яна пачала ўмешвацца ў звычайны прыродны цыкл, і яшчэ невядома, якім чынам гэтае ўмяшанне скажацца на нашым далейшым лёсе.

— Ох, і што ж гэта будзе, чым гэта ўсё закончыцца? — падала голас Леначка.

— Што вы маеце на ўвазе? — не зразумеў Пётр Хведаравіч, пільна глядзеў на Леначку, што сядзела побач.

— Ды ўвогуле я гавару... Мы тут сядзім, нічога не ведаючы, а там, можа, ужо чортведама што адбываецца. Вот як адплывала я, у газетах тады пісалася — трывожна ў свеце, складана: то тут — вайна, то там — вучэнні. Ракеты гэтыя, бомбы — падумаць страшна...

— Колькі тут во нас, і то — няма ладу, а гэта ж — свет, зямля, хоць і круглая.— Пасля слоў Ніны, як і заўсёды, людзі ўсміхнуліся.

Дзіўна, у гэты вечар з чаго б ні пачыналі гамонку, а ўсё зводзілася да адзінага — да дому, да таго жыцця, ад якога яны паехалі...

— Ды перастаньце вы, Лена,— сказаў дзядунь,— нічога там без нас не здарыцца.

— А чаго,— Света таксама сур'ёзна глядзела на агонь,— цяпер, ведаеце, да чаго ўжо дайшлі... Вот можна ўзарваць у космасе бомбу і разрушыць там нейкі слой паветра. І тады ўсё — сонечная радыяцыя ўсё загубіць. Імгненна. Без ніякіх войнаў... А ў Кітаі вунь штогод адны хлопчыкі нараджаюцца. І ніхто гэтага не можа растлумачыць.

— Ды быць гэтага не можа,— Пётр Хведаравіч махнуў абурана рукою,— прымхі, забабоны ўсё гэта. Нехта ад нечага рабіць любіць пускаць усякія плёткі.

— Там у іх ужо цяпер афіцыйна адна жанчына трох мужоў можа мець,— усё так жа сумна працягвала сваё Света, як і не чуючы Пятра Хведаравіча.

— Тут во аднаго падхадзяшчага не знойдзеш ніяк нават са свечкамі,— імітуючы Свецін тон і голас, ледзь не праспявала Ніна. Прысутныя грымнулі... Ледзь не па траве качаліся...

Пасля так-сяк супакоіліся. Чакалі, хто першы падасць якую рэпліку, каб зноў гучна і весела засмяяцца.

— А вот сур'ёзна,— памалу пачаў дзядунь,— вот я ўжо амаль жызню пражыў, пагляджу калі і думаю: да чаго мы, людзі, дажыліся? Усе ўсё ведаюць, а над сваімі галовамі столькі ракет панавешвалі... Ну, здавалася б, былі раней войны, ну, дапусцім, некалі думалася, што калі што якое прыпячэ — у лесе можна адсядзецца... Ну, а цяпер куды падзенемся? Ведаем жа, панімаем, што калі што якое і пачнецца, дык нішто жывое не ўцалее, як у той бібліі будзе. Нідзе... І ўсё ж — ніяк гэты клубок не разматаем...

— Гэта яны вінаватыя,— кіўнуў галавою на возера Пётр Хведаравіч.

— Ага, яны... — паўтарыў дзядунь.— Вот і цяпер мы спакойна пра гэта гаворым, вінаватых знаходзім. А што, калі і праўда? Жахоцце... Чалавек, чалавек, да чаго дажыўся? Няўжо на гэтым усё можа і закончыцца? Гэтулькі вякоў патрачана, і ўсё — на дым пусціць...

— Мусіць, самае страшнае пачацца можа з таго,— ціха, як сабе, пачала гаварыць Ніна,— калі з часам нехта з нас забудзе пра такое, без чаго жыццё згубіць свой сэнс. Разумееце, мы можам усё-ўсё мець: і хлеб, і масла з каўбасою, і кватэры з машынамі — і, між тым, гэта нам не спатрэбіцца. І гэта будзе страшны час. А ці зможам мы стаць ранейшымі — не ведаю, не ведаю... Вот, ці зразумелі вы мяне?..

Зноў стала ціха. Задумаліся людзі. Кожны над сваім. Нават разумны Пётр Хведаравіч і той ні слова не сказаў, а толькі ўсё адкідваў далонню сваю чупрыну з вачэй.

## 10

І быў апошні вечар, і была апошняя вячэра, на якой усе запасы былі выпіты... І здавалася ў той апошні вечар, што людзі шчаслівыя, як ніхто. Бо яны вярталіся. Вярталіся...

Вяртанне... Чалавек павінен вяртацца. Хоць калі, хоць адкуль...

Мы вяртаемся да роднага парога, да тых сцежак, па якіх калісьці лёталі басаною — якія мы тады былі шчаслівыя і бесклапотныя! Мы вяртаемся, каб

пачуць тыя салодкія пахі, якія чулі калісьці, каб убачыць тыя вочы, якія нам свяцілі калісьці. І хочацца нам да болю, каб старая маршчыністая далонь спакойна лягла на нашы занадта разумныя галовы і — супакоіла ў гэтай аглушальнай ля дому цішыні, якой дагэтуль так баяліся і пазбягалі... Стомленыя, навучаныя доўгімі дарогамі, мы спрабуем вярнуцца да сябе, да сваіх вытокаў, толькі цяпер разумеючы, як цяжка і як лёгка быць шчаслівым.

І вось ужо нехта з нас сумуе ля былога парога даўно разбуранай струхлелай хаткі, хто — стаіць у разгубленасці на скрыжаванні трох дарог, намагаючыся ўспомніць, па якой жа ісці далей, а хто — з радасцю блукае па другіх, зусім чужых сцежках, прыняўшы іх за свае, колішнія... І шчаслівы той з нас, хто яшчэ штосьці знойдзе ці знайшоў, хто можа ўсміхнуцца, выціраючы далонню горкую слязу радасці.

І тады, калі мы вяртаемся, нам здаецца, што ўсё, што было за час таго доўгага падарожжа за тыя трыдзевяць зямель да тых малочных рэк з кісельнымі берагамі, да тых прынцэсаў і царэўнаў, гэта мінула надоўга, і ў далейшым мы нікуды і ніколі не кранемся...

Будзем жа шчаслівымі ў сваіх пошуках і памылках!

Малецкі, салідны спакойны Малецкі, які нават тут, на востраве, умудрыўся чапляць гальштук, ап'янеў ад адных ста грамаў... Ён сядзеў за сталом, трымаў за рукаў, каб не збег, Валеру і, гледзячы яму ў вочы, гаварыў:

— Вот ты ведаеш, што такое — жыццё?.. Ты хоць раз задумваўся над гэтым? Вот усё ідзе ў цябе парадкам, усё ідзе, як гаворыцца, ладам, лепей і быць не можа. І вот тут можа пачацца ў тваёй жызні такая палоса, калі ўсё паляціць набок. Як цягнік, што з рэек сыдзе... І тады чалавек за які год ці два можа... І панімаеш, што самае страшнае? Не, вот ты не спяшы, не перабівай мяне, я табе дагавару... Самае страшнае не ў тым, што людзі не здагадваюцца, з-за чаго ўсё пачынаецца... Ну, што табе казаць, сам чуў, як гавораць: а-а, спіўся ці згуляўся, маўляў...

І ўсё нам ясна. А вот чаму спіўся, чаму згуляўся?.. Ну, дык вот, усё не ў гэтым. Самае страшнае, што чалавек нічога з сабою не можа парабіць. Яго нясе. Як з крутой гары. Ён, дарэчы, усё бачыць, панімае, куды ён ляціць ці нясецца, ён яшчэ будзе правільна і мудра вучыць другіх жызні, але з сабою, са сваёй жызняю нічога не можа парабіць. Тут ёсць нешта такое... Ты панімаеш, што я хачу сказаць? А-а, ты гэтага не панімаеш...

— Ды не, усё не ў гэтым,— Валера, той акуратны разважлівы Валера, які дагэтуль ні разу не выпіваў, гаварыў ціха, унушальна, як і ўсе п'яныя — толькі пра свае беды: — Вот ты ведаеш, што самае страшнае для спартсмена? Ты думаеш — барацьба, той міг, калі бяжыш па дарожцы... Не, ты гэтага не ведаеш. Ніхто, акрамя спартсменаў, гэтага не ведае. Самае страшнае пачынаецца за фінішнаю стужкаю. Яе баяцца спартсмены. Вось тады ўсё закончана, калі табе няма чым дыхаць... А-а, вы думаеце, спорт — гэта так, гульня-забаўка... Спартсмены і пакідаюць спорт не таму, што не ўмеюць бегаць ці скакаць, а таму, што пачынаюць баяцца вось гэтага, што пачынаецца пасля фінішу. Гэтыя пакуты, якія вы ніколі не адчувалі і не адчуеце...

І былі яны ў нечым аднолькавыя: і гэты салідны, самастойны, спакойны Малецкі, якога на рабоце слухалася шмат людзей, і гэты разумны Валера — адно і тое ж пачуццё паяўлялася, калі хто глядзеў на гэту пару, што сядзела адзінока за сталом. Іх абодвух было шкада.

Як добра, што мы яшчэ не развучыліся шкадаваць!

Пётр Хведаравіч, як і заўсёды, быў упэўнены і спакойны, ён прахаджваўся ўзад-уперад, як некалі ў кабінеце, недалёка ад вогнішча, пазіраў на людзей і думаў...

Пра што ён думаў? То ўжо яму ведаць.

Маркін, Света з Нінаю, тая ж баявая моладзь з чацвёртай палаткі, Маргарыта з Леначкаю ўселіся ля вогнішча і заспявалі: «Постелите мне степь, занавесьте мне окна туманом...» Дырыжыраваў і іграў на гітары, канечне, канечне, вясёлы кучаравы Гарык.

Ах, гэтыя Гарыкі, Гарыкі...

Пасцяліце, пасцяліце ў апошні міг...

Пасцяліце мне не стэп, па якому калісьці блукаў і глядзеў задымленымі вачыма на роўную суцэльную лінію між зямлёю і небам, за якой для мяне хавалася загадкавае ШТОСЬЦІ, да чаго я імкнуўся, да чаго рвалася душа.

Што чакала мяне за той лініяй?

Як аказалася, усё тое, што чакала і другіх, да мяне, што, відаць, будзе чакаць другіх пасля мяне: і горыч расставання, і вёрткі вінаваты позірк былога сябра, і сытая адкормленая ўхмылачка над тваімі, як прынята казаць, нікому не патрэбнымі памкненнямі, і кароткая радасць ад далёкай недасягальнай усмешкі.

Было, было ўсё гэта, як было і тое, што ў рэшце рэшт прымусіла вярнуцца назад, да гэтых вузкіх гнуткіх рачулак, што хаваюцца ў кустах алешніку, да роўнага ляснога шуму, да гэтага нізкага, вечна захмаранага неба, што сцелецца над вёскамі, у якіх спяваюць, а то і лямантуюць бабы, не забываючыся пра сваё адвечнае: расціць, карміць, збіраць, гадаваць; да невялічкіх, падобных адно на аднаго раённых гарадкоў, на вакзальных плошчах якіх вірачь цыбатыя хлопцы і дзяўчаты, выпраўляючыся ў яшчэ большыя гарады, туды, у свет... І ўсё ніяк назусім не выберуцца, бо кожную пятніцу і суботу гэтак жа адчайна і хутка едуць назад...

Пасцяліце, пасцяліце, не стэп, а гэтую ціхую старонку з някідкімі для чужога вока праставатымі цягавітымі людзьмі, якія навучылі мяне сваёй гаворцы, як маглі і ўмелі, навучылі сваёй радасці і сваім бедам і ад якіх я па дурасці некалі кудысьці рваўся. Навошта?

Магчыма, хаця б дзеля таго, каб цяпер у каторы раз мог ціха паўтарыць: пасцяліце, пасцяліце мне не стэп, не заморскія салодкія для некага далі...

Там, ля вогнішча, не было Алёны і Сідарэвіча. Абое яны былі на беразе возера, хоць адно аднаго і не бачылі.

Алёна не плакала, не, проста яна моўчкі глядзела ўдалеч на ваду, на тыя бясконцыя зоры, якія адбіваліся ў азёрнай гладзі. І ўжо нешта сухое, замкну-

тае паявілася на яе твары — тое, чаго не было дагэтуль.

Дзядунь, як і калісьці, яшчэ ў першы вечар, таксама сядзеў на выцягнутай на бераг лодцы і моўчкі глядзеў на ваду. Ён усё нешта шаптаў сабе, варушыў бязгучна вуснамі, як гэта часта робяць людзі па старасці...

І вось яны падплывалі да турбазы і бачылі, як у гэты час ад прыстані адпраўлялася ў падарожжа другая група. На прыстані стаялі людзі. Яны нешта крычалі, махалі рукамі. І тым, хто адплываў. І гэтым, якія вярталіся...

# *Забытая дарога*

## 1

Звычайна Новы год Кармілаў святкаваў у вёсцы — з жонкаю і малым ехалі да сваёй маці і там разам з суседзямі праводзілі навагоднюю ноч: спявалі за сталом старыя песні, хадзілі ў клуб, дзе пасярод залы зіхацела агнямі зялёная пахучая ёлка і ля якой пад музыку весела трэсліся даўгагрывыя, на цуд высокія падлеткі і вясёлыя дзяўчаткі, потым, гадзін пад дванаццаць, вярталіся дамоў, маці ўкладвалася спаць, а Кармілаў з жонкаю глядзелі тэлевізар, да самага канца... Так было пазалетась і летась, хоць у той год маці ляжала ў бальніцы, а Кармілаў, жонка і малы сядзелі адны ў пустой хаце перад уключаным тэлевізарам.

Але на гэты раз, калі Кармілаў прыехаў з вучобы на канікулы, жонка сказала, што ў яе на рабоце хочуць сабрацца на Новы год у суседзяў і, можа, яны таксама б на гэты раз выбраліся. «За ўсе гады, можа, хоць раз па-людску адзначым»,— ціхім голасам як бы пыталася жонка. Жонка ў Кармілава была гарадская, ён ведаў і адчуваў, што сустракаць Новы год сярод старых вясковых бабулек ёй не хочацца, ведаў і тое, што пры ягоным жаданні можна ўсё-ткі паехаць у вёску, але, павагаўшыся, згадзіўся з жонкаю. Ёй хапіла адной, без яго, і мо таму, падумаўшы ў апраўданне, што да маці можна з'ездзіць пасля Новага года, Кармілаў рашыў абрадаваць жонку.

Збіраючыся вечарам да суседзяў, Кармілаў чамусьці ўвесь час думаў пра маці: як чакае іх, прыбраўшы, вымыўшы ў хаце і накрыўшы стол новым

чыстым абрусам. Пачало ўспамінацца маленства, калі бацька пад вечар прыносіў з лесу елачку, а ён, Кармілаў, разам з братам і маці вешаў на гэту елачку самаробныя з паперы цацкі: і ланцужкі, і мячыкі, і караблікі,— усё гэта, расфарбаванае каляровымі алоўкамі, здавалася прыгожым і казачным... Зрэдку на той елачцы віселі салодкія цукеркі і круглае гладкае пячэнне.

Непрыкметна псаваўся настрой, нешта ўсё замінала Кармілаву, цяпер ён ужо і шкадаваў, што паслухаўся жонкі. Але потым, калі прыйшлі да суседзяў, за навагоднім сталом сярод жончынага начальства Кармілаў памалу развеяўся — яны гулялі аж да чатырох гадзін раніцы: хорам спявалі за сталом, танцавалі хто з кім як у зале, так і ў прыхожай,— каб не грукаць, яны паздымалі абутак,— яшчэ хадзілі ў тую ціхую белую ноч на вуліцу, дзе таксама танцавалі і спявалі на гарадской плошчы ля высокай зіхатлівай навагодняй ёлкі. Яны ўсё ніяк не маглі разысціся і ўсё спявалі... Жонка асталася задаволенай, гаварыла: «Ну, за ўсе гады адгуляла...»

Як даведаўся пасля Кармілаў, маці ў тую навагоднюю ноч таксама гуляла ў кампаніі, не адна была — прыехаў з Мінска малодшы сын і, пасадзіўшы яе на таксі, павёз да сватоў у Запруддзе, дзе, як яна сама гаварыла, было дужа добра: спачатку памыліся ў лазні, потым селі за стол, на якім чаго толькі не было, а тады яшчэ Славік — цесця Івана сын, які хадзіў у восьмы клас і ў музычную школу — іграў на баяне, а яны весела пелі: «Ой, мороз, мороз, не морозь меня...»

Навагоднія святы адышлі, і пайшлі, пакаціліся дні, у час якіх Кармілаў чытаў разумныя, талковыя кнігі, з цёмнымі вечарамі, калі па белым рыпучым снезе прыводзіў з садзіка ў цёплую кватэру малога і пачынаў разам чытаць у кніжцы словы, з тэлеперадачамі, сярод якіх чамусьці ўразілі перадачы пра міжнароднае становішча — сур'ёзны каментатар гаварыў пра тое, што ўпершыню прымусіла задумацца, аб чым дагэтуль амаль і не думаў.

З кожным днём Кармілаў рабіўся ўсё болей ціхім, як бы аддаляўся ад сям'і, ад любімага дагэтуль занятку, ад усяго, што дагэтуль цікавіла, невядомае пачуццё няўпэўненасці ўсё болей паяўлялася ў ім, і

ён не ведаў, не мог растлумачыць, чаму так было. Днём у ціхім пакоі ён часта адкладваў убок тоўстую кнігу, якую абавязкова трэ было прачытаць, падыходзіў да акна і падоўгу глядзеў на дарогу, па якой праходзілі машыны. І тады, ля акна, яму здавалася, што трэба нешта ўспомніць вельмі неабходнае. Вот толькі што?..

Нават калі Кармілаў кідаў работу і ўладкоўваўся на вучобу, нават і тады, калі многае было няясна, ён смялей і прасцей глядзеў на жыццё, на сваё будучае, бо разумеў: без спецыяльнай адукацыі, без дыплома многага ў жыцці не даб'ешся, а так, маючы дыплом, зможаш атрымаць больш цікавую работу. Кармілаў ведаў, што ён — не выключэнне, цяпер час такі, многія вучацца, нават і ў сорак гадоў становяцца завочнікамі, вячэрнікамі, а яму толькі трыццаць. Так што яшчэ самая пара. Але цяпер, калі здавалася, што ўсё ішло добра, так, як і ў другіх людзей,— вучоба яго цікавіла, як і новае кола знаёмых, нейкая насцярожанасць і холаднасць паявіліся ў ім. Дагэтуль, да Новага года, ён нічога не адчуваў, а вот чамусьці цяпер, у час зімовых канікулаў...

Канікулы заканчваліся, пара было зноў ехаць на вучобу ў далёкі горад, і таму дні за два перад ад'ездам Кармілаў паехаў да маці ў вёску.

Старая мітусілася перад ім, усё папраўляла і папраўляла круглыя з выпуклымі шкельцамі акуляры, якія ўвесь час насіла пасля аперацыі, гаварыла пра вясковыя навіны, пра няшчасную сваю сястру — як дрэнна жыве з дачкою і як пад старасць дачка здзекуецца з яе... Вот, каб рассудзілася сястра з дачкою, ды не навучыць ніхто...

Кармілаў слухаў усё гэта, як даўно вядомае, так і новае, і думаў, што ўсё, пра што маці гаворыць, здаецца старонняму, чужому чалавеку простым і толькі тыя людзі, пра якіх маці гаворыць, нічога не разумеюць і не здагадваюцца, як дапамагчы свайму гору. І ведаў ён, што тут, відаць, нічым не дапаможаш, ні парадаю, ні грашыма: вот гэтак жа і далей будзе гараваць старая жанчына з дачкою, як і ягоная маці не зможа ўжыцца ў горадзе і таму будзе дажываць век адна, без яго: паліць зімовым ранкам печ, глядзець падсвінка, курэй, летам палоць грады, восенню думаць, як выкапаць бульбу,— круціцца ў тым

коле, да якога прывыкла і без якога ўжо, відаць, не зможа жыць...

Пад канец, калі Кармілаў адыходзіў да супынку аўтобуса, маці, усё шукаючы, што б яму даць на дарогу, нечакана заплакала: пачала здымаць акуляры і выціраць хусцінкаю вочы. Адвярнуўшыся, зрабіўшы выгляд, што нічога не заўважыў, Кармілаў хутка пайшоў з хаты.

Было тое вечарам. На супынку ў той час стаяла чалавек пяць мужчын, у паўзмроку, які ціснуўся да белай, рыпучай пад нагамі зямлі, было цяжка распазнаць вяскоўцаў, а падыходзіць да іх не хацелася. Кармілаў прайшоў да цаглянай будыніны і ўбачыў у ёй, спазнаў Сцёпу, які, схаваўшыся ад сівернага моцнага ветру, хадзіў узад-уперад па драўляным, месцамі паламаным памосце. У гэтай будыніне былі калісьці дзверы і вокны, унутры стаяла нават лаўка, а цяпер яна толькі збольшага хавала ад дажджоў і халодных вятроў.

Людзі гуртам стаялі ля дарогі — адтуль несла дымам і ўзгараліся, як жар, бачныя здалёк агеньчыкі. Яшчэ час ад часу адтуль чуўся здаровы глухаваты мужчынскі голас. Адзін Сцёпа ў цемені кашляў і ўсё грукаў і грукаў па драўляным памосце кірзавымі ботамі.

Аўтобус прыпазняўся. І Кармілаў, стоячы ля сцяны цаглянай будыніны, гледзячы на далекаватыя агні ў вёсцы, успамінаў мінулы год, яшчэ цёмныя марозныя ранкі, калі вось гэтак жа мерзлі, чакаючы аўтобус, людзі, а яго ўсё не было, і людзі гаварылі, што гэта — непарадак і трэба напісаць у раённую газету, а то саўсім распусціліся, калі дадуць аўтобус, а калі і не, яны на работу спазняюцца, а там ні ў кога галава не баліць, ніхто не пачэшацца... І толькі Сцёпа гэтаксама, як і цяпер, глуха кашляючы, грукаў кірзавымі ботамі. Сцёпа не абураўся, нічога не гаварыў.

Калісьці Сцёпа хадзіў у калгас — куды пашлюць, а потым пачаў ездзіць у горад на работу. Здаецца, да яго ніхто з вяскоўцаў і не ездзіў у горад на работу, ён першы паказаў моду. Аўтобусы хадзілі тады рэдка, і Сцёпу, бывала, часта бачылі на супынку — усё стаяў і стаяў. Але на кватэру ў горад ён не станавіў-

ся, як другія,— тут, у сяле, жыла маці, якую ён не пакідаў.

На калгаснай рабоце, як і ў сяле, са Сцёпы часта пасмейваліся, як часта людзі, бывае, ні з таго ні з сяго пачынаюць пасмейвацца з чалавека. Са Сцёпы пасмейваліся, за вочы, канечне, і за малы рост, і за непрыгожы з доўгім прамым носам твар, і за косае круглае, як казінае, вока. Калі ў сяле хто хацеў каго абразіць, то звычайна гаварыў: «Ну і Сцёпа ты...» — і тады ўсё было зразумела. І здавалася вяскоўцам, што б Сцёпа ні рабіў, то ў ягонай рабоце, як і ў паводзінах, ужо загадзя трэба шукаць нешта смешнае і недарэчнае.

Сцёпу, вечна апранутага ў велікаватую, да каленяў, шэрую фуфайку, Кармілаў у тую мінулагоднюю зіму часта сустракаў у аўтобусе — разам ездзілі ў горад і з горада. Падпіўшы, Сцёпа, едучы вечарам з горада, стараўся адным з першых уціснуцца ў аўтобус і сесці на заднім мяккім сядзенні. Ягонае непрыгожае вока яшчэ болей тады блішчала, выдзялялася на чырвоным задаволеным твары; звычайна ля Сцёпы садзіўся які малады хлопец і пытаўся гучна, пазіраючы то на Сцёпу, то на пасажыраў: «Ну, Сцёпа, дык колькі ж ты зарабляеш у горадзе?» І Сцёпа, таксама пазіраючы на людзей, гучна, каб усе чулі, гаварыў: «Ды дзве сотні ў месяц выкалочваю. Гэта запраста. Хватае мне. У магазіны тавары развожу. Ну, муку, соль, бывае, крупы, рознае...» — «Го-о, дык у цябе, Сцёпа, болей чым у інжынера выходзіць»,— гаварыў хлопец і ўсміхаўся. «А чаго ж не,— усё гэтак жа гучна, ледзь не на ўвесь аўтобус, адказваў Сцёпа і ўсміхаўся.— Гэта ж — праізводства, не абы-што».

Здалёку заблішчалі агні аўтобуса, і людзі сышлі на адзін бок дарогі, каб садзіцца. Сцёпа таксама выйшаў з будыніны і пайшоў да мужчын. «Што, Сцяпан, у горад нанач паедзем?» — пытаўся мужчына, які дагэтуль гучней за ўсіх гаварыў і смяяўся. Быў ён высокі і плячысты, не свой, вясковы, а наезджы, і хоць пражыў ён тут, у сяле, ля года, але хутка асвоіўся, што да чаго, і цяпер усюды адчуваў сябе як рыба ў вадзе. «Ды нада мне, заўтра на работу»,— адказваў Сцёпа. «Дык ты, можа, там, у горадзе, і бабу якую прыдбаў, толькі нам не хочаш сазнавацца, га?» — не адставаў усё той жа высокі мужчына з гуч-

ным голасам — звычайна, калі Сцёпу гаварылі пра жанчын, ён чырванеў, і ўсе гэта ведалі... «Калі нада, так і нойдзем, нядоўга гэта»,— гаварыў Сцёпа. «Ды Сцёпа спец у нас па гэтай часці,— сказаў другі мужчына.— Вы думаеце, чаго ён у горад падаўся? Там яму і развярнуцца ёсць дзе, не тое што ў сяле. А ў сяле што́ тут, які тут табе разварот, калі назаўтра бабы ўсё разнясуць. А так ён цішком усё. Ён спец у нас па гэтай часці».

Аўтобус падышоў і спыніўся, калыхнуўшыся. Шчоўкнулі, адкрыліся пярэднія дзверы, і людзі па аднаму пачалі заходзіць. Кармілаў зайшоў апошнім, за Сцёпам, аддаў шафёру капейкі і сеў на пустое сядзенне. Аўтобус крануўся, і Кармілаў пачаў глядзець у акно. Але там нічога не бачылася, акрамя рэдкіх далёкіх агнёў вёсак, міма якіх каціў аўтобус.

Кармілаву ўсё ўспаміналася тая мінулагодняя зіма, калі ў маці пачалі закрывацца вочы і ёй трэ было ісці ў бальніцу на аперацыю. Яшчэ з лета яны пачалі закрывацца, і ўрачы сказалі ёй, што толькі тады, як вочы закрыюцца саўсім, можна лажыцца ў бальніцу. А потым, перад Новым годам, калі маці завезлі ў бальніцу на аперацыю, ён ледзь не кожны дзень ездзіў у вёску глядзець хату і гаспадарку.

Гледзячы ў цёмнае, як закуранае, акно, Кармілаў успамінаў перапоўненыя аўтобусы, халодную пустую цемень хаты, калі прыязджаў вечарам пасля работы, тыя чорныя, вымазаныя сажаю, вялікія чыгуны, рохканне падсвінка, якому трэ было варыць бульбу; і яшчэ, акрамя ўсяго гэтага, было штохвіліннае адчуванне цяжкай страшнаватай цішыні, якая павінна нешта прынесці. Тады Кармілаў упершыню са здзіўленнем адчуў, што ўжо адвык ад вёскі: і ад свіней, і ад курэй, і ад печы, якую кожны ранак трэ было паліць, і ад гэтай запаволенай цягучай цішыні, якой не адчуваеш у горадзе,— таму, справіўшыся збольшага па гаспадарцы, ён уключаў тэлевізар і бяздумна пазіраў за другім вясёлым жыццём, пакуль самі сабою не зліпаліся вочы.

Успомніўся бледны твар маці з завязанымі бінтам вачыма, калі яна ляжала на спіне ў бальнічнай палаце і таропка, рыўкамі шукала навобмацак ягоную руку. Помніцца, яна гаварыла тады, што два дні ёй ня-

можна ўставаць. І ўсё хваліла «дакторку», якая яна «маладзец і ўсё ведае».

Пасля ўдалай аперацыі маці пад вясну вярнулася ў вёску, доўгі час яна ніяк не магла прывыкнуць да акуляраў, да таго, што ўжо нельга згінацца і падымаць цяжкое — яна ўжо саромелася хадзіць на гулянкі. І Кармілаў за тую доўгую халодную зіму, калі ездзіў у вёску глядзець хату і гаспадарку, таксама неяк пахаладнеў да работы і да сям'і таксама: ці то стаміўся, ці то проста адвык. І мо таму надумаў кінуць работу і паехаць на вучобу, балазе, мелася такая магчымасць.

## 2

На мілагучную мелодыю званка дзверы адчыніла жонка. Яна паглядзела Кармілаву ў твар і моўчкі пайшла на кухню — пасля Новага года яны ўвесь час нешта недагаворвалі адно аднаму, і чым болей яны недагаворвалі, тым больш няёмка і няўтульна адчувалі сябе адно перад адным. Малы быў у зале — гуляў з цацкамі і глядзеў тэлевізар. Адтуль чулася песня: «Арлекіна, арлекіна...»

Ужо распрануўшыся, Кармілаў таксама пайшоў на кухню, сеў на белую драўляную табурэтку, што стаяла ля такога ж белага стала, і моўчкі пачаў глядзець на шэра-белы ў буйную клетку лінолеум. Дзіўна, у гэтай двухпакаёвай прыгожай сучаснай кватэры ён болей за ўсё любіў кухню, вось гэтую цеснату і бязладнасць, а не бліскучую паліраваную мэблю, чырвань бліскучага паркету, прыхаванага мяккім дыванам, белізну сінтэтычных гардзінаў на вялікіх, ледзь не на ўсю сцяну, вокнах. Сягоння ён зноў каторы раз са здзіўленнем заўважыў, што яму лепей бывае, калі знаходзіцца на кухні, а не ў спальні ці ў зале, дзе, здавалася, было свабодней і ўтульней — можна прылегчы на канапу, уключыць мяккае святло таршэра і чытаць цікавую кніжку альбо, шчоўкнуўшы выключальнікам тэлевізара, глядзець чарговую цікавую перадачу. «У свеце жывёл», напрыклад.

— Ну, як там, у дзярэўні? — жонка запытальна глядзела ў вочы.

— Нічога,— сказаў Кармілаў, не адрываючы позірку ад лінолеуму. Ён зноў убачыў перад сабою ма-

ці: тыя шэрыя з выпуклымі шкельцамі пластмасавыя акуляры, той маленькі зморшчаны тварык, які так нагадваў дзіцячы... Чамусьці побач з маці паявіўся і Сцёпа: хадзіў у стылай будыніне, глуха кашляў у цемені і ўсё грукаў кірзавымі ботамі.

Жонка ставіла на стол вячэру: падавала талеркі, лыжкі, налівала ўжо разагрэты боршч. Кармілаў падняўся з табурэткі, каб не мяшаць, падышоў да самага акна, адсунуў фіранку і глядзеў на агні закрытага магазіна, што быў цераз дарогу. Вуліца была пустая, і толькі раз-пораз машыны праходзілі па ёй — праз падвойныя вокны даносіўся лёгкі далёкі гул.

Моўчкі садзіліся за стол, рэзалі хлеб, браліся за лыжкі і ўсё ніяк не маглі пераступіць нацятае тугое маўчанне. І ведалі, адчувалі абое, што цяпер дастаткова толькі аднаго-адзінага слова ці позірку — і тады пачнецца звонкая гамонка, якая ў рэшце рэшт закончыцца слязьмі. І мо таму яны ўжо некалькі разоў хадзілі ў госці і запрашалі гасцей да сябе — там, сярод чужых людзей, ім было весялей і, галоўнае, не так пакутліва. Толькі цяпер, пасля Новага года, Кармілаў стаў думаць, што ёсць адзіноцтва не толькі аднаго чалавека, а і адзіноцтва дваіх...

Потым Кармілаў не вытрымаў: падняўся і пайшоў па малога ў залу. Прывёўшы малога, ён пасадзіў яго на калені і паспрабаваў карміць. Малы, як заўсёды, есці не хацеў, прыйшлося прыдумваць нейкую гульню, угаворваць — памалу нешта як бы рассмакталася, і тады ўжо Кармілаў, як пасля плачу, уздыхнуў глыбей і спакайней.

Маці знікла з вачэй, як і Сцёпа. Але цяпер, калі перад вачыма нічога не стаяла, ён пачуў песню, асобныя словы: «Я шут, я арлекин, я просто смех...» Гэтыя словы ўсё паўтараліся і паўтараліся, як мелодыя на сапсаванай пласцінцы, якую ніяк нельга выключыць.

— Званілі з тваёй былой работы,— ціха сказала жонка.

— Чаго?

— Там у іх нешта не ладзіцца. Прасілі прыйсці.

Кармілаў маўчаў. Калі разлічваўся, дамовіўся, што пры неабходнасці ў час зімовых канікул яны пазвоняць, ён тады прыйдзе на работу і, чым зможа, пастараецца памагчы, бо прыбор, на якім працаваў,

быў даволі складаны, а новы спецыяліст адразу ва ўсім не мог разабрацца.

— Таксама, во, спакою няма. Ты ж і не робіш там, а во, звоняць.

Кармілаву ўспомнілася, як сам пачынаў асвойваць той прыбор, у яго тады нічога не атрымлівалася, ён кідаўся тыднямі па другіх заводах, шукаючы дапамогі і парады, а нідзе не мог знайсці. Хоць ніхто і не адмаўляў, усюды ветліва ўсміхаліся і нават нешта гаварылі — проста ў кожнага была свая, не менш важная, работа, і каму за «дзякуй» хочацца траціць дарагі, сем разоў лічаны, час...

Кармілаў устаў з табурэткі і пайшоў у спальню. Распрануўся і лёг у ложак. Следам зайшоў малы. У руках трымаў кніжку: «Давай пачытаем».

Малы хуценька паскідаў з сябе адзенне, затачыўся пад коўдру і, прыціснуўшыся да яго гарачанькім мяккім цельцам, пачаў пальцам вадзіць па літарах: «Мэ а — ма, шэ ы — шы, нэ а — на. А разам будзе — машына. Во яна, намалёвана...» Але ён не хваліў малога, як звычайна ў такіх выпадках не забываў пахваліць, толькі час ад часу злёгку прыціскаў да сябе худзенькае цельца і даторкваўся вуснамі да лобіка. Малы як нешта ведаў ці адчуваў — усё лашчыўся да яго, зазіраў у вочы і ўсё гаварыў, гаварыў...

Тэлевізар не выключалі. Праз сцяну пачулася знаёмая мелодыя, а потым роўны спакойны мужчынскі голас: «Новым трудовым достижением отметили труженики сельского хозяйства...»

Хвілін праз пяць малы непрыкметна заснуў. Здавалася, што ён заснуў на паўслове: «Мэ а — ма...» — і тут жа звяў, сагрэўшыся ля бацькі. Асцярожна, каб не разбудзіць, Кармілаў устаў з ложка і перанёс малога на свой ложак.

Укрыўшы малога, Кармілаў пайшоў у залу, каб даглядзець праграму — ужо з месяц у космасе на арбітальнай станцыі жылі людзі, і яму хацелася паглядзець на іх: на плаўныя перамяшчэнні бязважкіх целаў, на ўсмешкі, на нетаропкае памахванне рукою адтуль, з недасягальнай вышыні... Акрамя таго, у другой палавіне праграмы перадавалі паведамленні пра міжнароднае становішча. Дзесьці далёка ў спякотнай Афрыцы пачыналася новая вайна, амаль штодзень па тэлевізары перадавалі каментарыі аглядаль-

нікаў, кіраўнікі тых ваюючых краін ездзілі з афіцыйнымі візітамі то ў адну, то ў другую дзяржаву.

Гледзячы тэлевізар, Кармілаў падумаў, што апошнія гады ўвесь час ідзе недзе вайна, то ў адным месцы, то ў другім. Ды і сама Зямля — гэта ён яшчэ болей адчуў за час вучобы — стала на цуд малой і ўжо не здавалася, як калісьці, бясконцай і таямнічай. Чамусьці ён ясна ўяўляў і тую спякотную Афрыку, і тыя войны — быццам усё гэта было недалёка і ў любы міг магло перакінуцца, зачапіцца і за яго.

А потым, як заўсёды ў канцы праграмы, былі спартыўная інфармацыя і прагноз надвор'я, якія Кармілаў уважліва праслухаў.

Ён зайшоў на кухню і ўбачыў, што жонка прыбірае са стала памыты посуд і моўчкі плача. Слёзы сцякалі палоскамі да куткоў рота, а яна іх не выцірала, быццам не заўважала, што плача. Кармілаў нічога не сказаў. Ён нічога і не мог сказаць.

Спаць ляглі, як чужыя,— апошні час яны лажыліся ў зале на канапе, каб паглядзець тэлевізар. Пасля праграмы паказвалі конкурс эстрадных песень. Яны моўчкі слухалі гучныя падобныя адна на адну песні, глядзелі, як памахвалі спевакі мікрафонамі ў сагнутай руцэ, як яны самі, прыгожа і модна апранутыя, прахаджваліся ўзад-уперад па сцэне, быццам на адным месцы стаяць ім і не дазвалялася. Потым, калі песні закончыліся, жонка выключыла тэлевізар. Яшчэ доўга яны ляжалі ў цемені, не засынаючы.

Чулася, як за акном па вуліцы раз-пораз гудуць машыны і белае, крышку цьмянае святло асвятляла столь — агеньчыкі тады загараліся ў крыштальнай люстры і тут жа затухалі. І ўсё яшчэ ніяк не пераставала звінець песня: «И этот мир изменится со мно-ой...»

Хацелася ўстаць, апрануцца і пайсці на пустую ціхую вуліцу. Але Кармілаў ведаў, што цяпер гэтага не зробіць, хоць некалькі год назад, калі вось гэтак жа ні з таго ні з сяго ў яго з жонкаю пачалі псавацца адносіны і яны ледзь не кожны вечар гаварылі пра развод, пасля, ноччу, ён ніяк не мог заснуць і таму не вытрымліваў, падымаўся з ложка ў дзве гадзіны і блукаў па пустых вуліцах. А потым неяк самі сабою адносіны наладзіліся — помніцца, яму тады на рабоце павысілі зарплату і яшчэ сказалі, што праз

пару месяцаў дадуць кватэру. І яшчэ яны тады зразумелі, што словы пра развод — гэта адно, а канкрэтныя справы — другое, і тады перасталі гаварыць лішняе, чаго не маглі зрабіць. А калі з іх хто і гаварыў, то ўсур'ёз не хваляваліся, бо ў душы кожны быў спакойны, ведаў, што гэта толькі — словы, і тое нацягнутае пакутлівае маўчанне, якое бывала ў іх, цяпер успрымалася як нешта абавязковае, непазбежнае, без чаго не можа быць сямейнага шчасця.

А цяпер і словы не трэ было гаварыць, часам ім дастаткова было толькі аднаго позірку, каб зразумець адно аднаго. І калі ў гасцях, у чужой сям'і Кармілаў заўважаў, як часта муж і жонка пачыналі злосна касавурыцца адно на аднаго з-за нейкай нязначнай дробязі — не так сказанага слова ці не туды пакладзенай рэчы,— ён ужо разумеў, што ўсё тут не ў рэчы ці ў не так сказаным слове, а ў тых нябачных сямейных сувязях, якія староннняму воку рэдка можна заўважыць. І тады яму чамусьці станавілася няёмка, быццам незнарок заглядваў туды, куды і не трэба заглядваць.

...Толькі пад раніцу, калі трэ было ўставаць, яны непрыкметна спрасоння абняліся, сагрэліся і памалу як бы адтаялі. Тады, перад тым як уставаць, жонка глуха спытала:

— У цябе там ёсць нехта?

— Не,— сказаў Кармілаў і падумаў, як было б добра, калі б змог жыць па-іншаму і быць шчаслівым. Хай бы нават і з другой жанчынаю. Як бы гэта было добра!

Калісьці Кармілаў думаў, што і сапраўды ягонае жыццё, ягоныя паводзіны залежаць ад таго, з кім жыве. І здавалася, што калі пачне жыць з другой жанчынаю, то ў ягоным жыцці ўсё будзе па-іншаму. Але потым, калі аднойчы ўбачыў празрыстыя слёзы на прыгожым твары і адчуў, што нічым, абсалютна нічым не зможа дапамагчы чалавеку, а тым болей не было сэнсу самому шукаць падтрымкі, ён зразумеў, што ўсё залежыць ад яго, толькі ад яго...

## 3

На завод Кармілаў прайшоў без пропуска — вахцёры яшчэ помнілі яго і таму ніхто нічога не сказаў, калі праходзіў праз прахадную.

Ён памалу ішоў па дарожцы, абсаджанай кустамі і цяпер прысыпанай шэрым зляжалым снегам, глядзеў на знаёмыя жоўтыя ад пабелкі цагляныя будыніны, адкуль даносіўся шум і звон, на высокія цёмна-чырвоныя цагляныя коміны, з якіх ветрам адносіла ўбок, на горад, белаваты дым, глядзеў на дошку Гонару, дзе былі фотаздымкі знаёмых людзей з нацягнута-строгімі выразамі твару. Кармілаву было прыемна глядзець на ўсё гэта, даўно вядомае, падумаў, што чалавек, відаць, да многага прывыкае: і да паху халоднай цэглы, і да вечнага шуму крышку ўдушлівай гарачыні цэха, і да шэрасці асфальту, як і да шуму прамасленых машын, да выгляду шэрых мазолістых далоняў, якія ўжо цяжка адмыць начыста.

Калісьці, як толькі Кармілаў прыйшоў на завод, здавалася, што да ўсяго гэтага, заводскага, нельга прывыкнуць, а цяпер вось яму было лёгка, проста і нават радасна, як бывала, калі вяртаўся з шумнага горада ў родную вёску і глядзеў на бульбоўнік, што зялёным морам калыхаўся на агародах, на роўны выган, на якім заўсягды маячылі калгасныя коні, на гнуткую рачулку, што хавалася ў кустах алешніку.

Аддзел, у якім Кармілаў працаваў некалькі год, знаходзіўся ў цэху, але дзверы ў цэх цяпер былі забіты крыж-накрыж дошкамі і завалены цэглаю, складзенай на драўляных паддонах. Перад дзвярыма цэха быў выкапаны глыбокі катлаван — колькі помніў Кармілаў, на заводзе заўсёды вяліся будаўнічыя і рамонтныя работы, нешта заўсёды ламалі, нешта прыбудоўвалі... Відаць, і цяпер пачалі рабіць прыбудоўку ці дапаможнае памяшканне.

У цэх прыйшлося заходзіць праз другія дзверы. Кармілаў пайшоў вакол цэха і па дарозе ўбачыў новае, чаго раней не было: траншэі, трубы, што пакладзены ў траншэі, выкапаныя яміны, яшчэ не прыбеленыя снегам, ля якіх ярка біла ў вочы чырвона-бурая гліна, што высілася высокімі курганамі. Яшчэ ён добра разгледзеў сцены новага цэха, які толькі-толькі пачыналі будаваць, калі пакідаў завод,— цэх ужо, відаць, пусцілі, бо з высокага коміна, што высіўся ля цэха, кудзеліўся белаваты дым, ды і з самога цэха даносіўся роўны моцны гул. Успомнілася, як многа тады, калі працаваў на заводзе, гаварылі пра новы цэх, а цяпер вось ён ужо высіцца перад вачыма, і

Кармілаву нечакана захацелася пайсці туды, у новы цэх, пачуць той раўнамерны шум і гул, пагаварыць са знаёмымі тэхнолагамі, паглядзець на абсталяванне, хоць і ведаў, што гэта яму цяпер не патрэбна.

Затым Кармілаў прайшоў па сваім цэху — праз знаёмае гаркавата-ўдушлівае цёплае паветра, напоўненае пахам падгарэлага масла, праз шум і гул цёмных станкоў, міма рабочых у цёмных камбінезонах — дзіўна, неяк раней, калі працаваў, ён быў ужо і адвык заўважаць і гэты пах падгарэлага масла, і выгляд рабочых, стомленых пры дзённым святле неонавых лямпаў, і гэты роўны шум, у якім прыходзіцца крычаць, каб быць пачутым ці пачуць што.

Зачыняючы дзверы аддзела, Кармілаў як бы адсек той цэхавы шум і гул, той пах падгарэлага масла і, нечакана для сябе, апынуўся ў мінулым. Была тая ж цішыня, той жа стол, знаёмы зачахлёны поліэтыленавай плёнкаю прыбор, тыя ж знаёмыя твары. Спачатку супрацоўнікі здзівіліся, а потым іх здзіўленне знікла, паявіліся мяккія ўсмешкі, і тут жа пачулася працяжнае, расцягнутае:

— Во, хто заявіўся! А мы дык ужо і не думалі, што прыйдзеш, думалі, што ніколі не паявішся.

Нешта радаснае ўзгарэлася ў душы Кармілава, толькі цяпер ён зразумеў, што засумаваў па рабоце, па гэтых людзях, тыя даўнія дні, якія калісьці прынеслі яму столькі суму і непрыемнасцей, паказаліся саўсім другімі. Па звычцы Кармілаў ступіў некалькі крокаў да свайго стала, але тут жа апамятаўся — там сядзеў малады хлопец. Кармілаў азірнуўся, шукаючы вачыма свабоднае крэсла — калі працаваў, крэслы ў іх аддзеле амаль заўсёды былі заняты. Хлопец тут жа падняўся — быў яшчэ саўсім малады, адразу ж пасля інстытута: з доўгімі, за шыю, валасамі, з невялічкімі вусікамі, якія дужкамі апускаліся за куточкі рота, і, што Кармілаву падабалася, сарамлівы. Усміхаючыся, хлопец сказаў:

— Праходзьце, садзіцеся.

Кармілаў сеў на крэсла, паглядзеў на стол, дзе ўсё ляжала ў парадку: адна на адной кнігі, асобна сшыткі, шарыкавая ручка і болей нічога лішняга. Нечакана Кармілаў усміхнуўся — тады ў яго на стале ніякага парадку не было, і за тыя восем год работы на заводзе кіраўнік аддзела так і не дабіўся, каб

Кармілаў трымаў стол у парадку. І цяпер, калі Кармілаў усміхаўся, яму было дзіўна бачыць перад сабою на старым месцы акуратна пакладзеныя рэчы — быццам вярнуўся дамоў у вёску, а там замест маці даўно жывуць чужыя людзі. Не дрэнныя і не добрыя, а так сабе — проста чужыя...

Ён расшпіліў паліто, зняў шапку.

— Давайце, я павешу...— хлопец не адыходзіў ад стала і ўсё глядзеў на яго, усміхаючыся.

Кармілаў зняў паліто і аддаў хлопцу ў рукі. Потым ужо спакойна паглядзеў на прысутных — кожнаму зазірнуў у вочы, адчуваючы далучэнне да таго, мінулага, жыцця-быцця, якое было калісьці.

І ўсё, што ўбачыў, было да дробязяў знаёмае: і вочы, і ўсмешкі, яму нават здалося, што ён быццам толькі ўчора ці пазаўчора пакінуў аддзел і вось пасля выхаднога прыйшоў на работу.

— Ну, як тут у вас, што новае?

— А-а, усё па-старому. Як і раней, усё тое ж, сам добра ведаеш. Гэта ў цябе новае павінна быць. Раскажы, як ты жывеш цяпер, якія навіны прынёс? Ці давольны хоць, не шкадуеш яшчэ?

Кармілаў не ведаў, што гаварыць. Тое, што яму было цікава і што яму цяпер гаварылі на вучобе, ім, былым супрацоўнікам, магло быць саўсім не цікава. Гэтыя людзі, побач з якімі ён працаваў гадамі і якіх ён добра ведаў, у душы цікавіліся іншым, не ягонай вучобаю.

Кармілаў пацісnуў плячыма:

— Нічога, пакуль добра. А як далей — не ведаю.

— Цікава хоць?

— Цікава...

Ён скупа расказаў, чым займаецца цяпер, хто і што выкладае. А затым непрыкметна пастараўся перавесці размову на магазінныя цэны, на дэфіцытныя тавары, на звычкі і моду.

Потым Кармілаў пачаў пытаць пра работу. Але тое, што гаварылі, таксама чамусьці не дужа ўсхвалявала — і сапраўды, было амаль тое ж самае, што і раней. Калі Кармілаў пачуў знаёмыя гісторыі, расказаныя знаёмымі галасамі, нешта аджылае варухнулася ў ім і тут жа затухла — неяк холадна і ціха ўслухоўваўся ён у словы і жарты і ўсё глядзеў, раз-

глядваў бледнаватыя твары, якія, здавалася, змяніліся: яшчэ болей пабляднелі, пастарэлі.

Затым Кармілаў павярнуўся да хлопца, які ўсё не зводзіў з яго вачэй — відаць, гэты ж хлопец і званіў жонцы.

— Ну, што там у вас не ладзіцца?

— Ды вот, ці прыбор барахліць, ці методыка. Я ўжо і не ведаю.

— А што за методыка?

— Ды ваша яшчэ, якую вы складалі,— хлопец палажыў перад ім спісаныя лісты паперы, і ён заняўся той работаю, якой быў заняты гадамі. Кармілаў здзівіўся: прайшло парадкам часу, а ён нічога не забыў. З задавальненнем прагледзеў радкі лічбаў, перабіраў клавішамі на «Электроніцы» — ад усяго гэтага, даўно вядомага, на нейкі міг стала проста, як бывала, калі прыязджаў у вёску і браўся за звыклую работу: ці то сек дровы, ці то касіў, ці то хадзіў за плугам. Для кантрольнай праверкі яны ўключылі прыбор і правялі кантрольныя вымярэнні. Вынік і сапраўды ніяк не атрымліваўся — прыходзілася некалькі разоў праводзіць кантрольныя вымярэнні матэрыялаў.

Толькі ў канцы дня яны знайшлі памылку, і ўжо саўсім мала часу заставалася на размову з начальнікам аддзела, які быў у другім, асобным, пакойчыку.

Ці то таму, што Кармілаў стаміўся, ці то яшчэ чаму, але шчырай радаснай размовы не атрымалася, хоць Кармілаў і быў у добрых адносінах з начальнікам аддзела.

Неяк адразу ж пачалася размова пра завод, пра работу: пусцілі новы цэх, а дапаможныя службы засталіся старымі, не пашыранымі, сыравіны і рабочых рук не хапае, адсюль і ўсё астатняе — і вымовы, і беганіна, хоць цяпер прасіся на пенсію... Той радасны настрой, які быў на пачатку дня, знік, Кармілаў слухаў, ківаў згодна галавою, глядзеў на стомлены твар і думаў, што ўжо адышоў ад завода, з кожнаю хвілінаю ён упэўніваўся ў гэтым і здзіўляўся, як начальнік аддзела, разумны, талковы мужчына, нічога не заўважае: як ён пастарэў, закруціўшыся ў заводскіх клопатах. Як і Кармілаў калісьці: вось гэтак жа днямі не адыходзіў ад прыбора, і нават вечарам, дома,

яму ўсё думалася пра работу, быццам без гэтага прыбора ён і жыць не мог.

Але цяпер ужо нешта абарвалася ў ім, і, відаць, таму размова з начальнікам аддзела не цікавіла і не хвалявала, тыя радасныя імгненні, калі разам з хлопцам шукаў прычыну памылак, Кармілаў перажыў, і другі раз пачынаць вядомае не хацелася.

Кармілаў развітаўся з начальнікам аддзела, сказаў, што яшчэ думае паглядзець імпартнае абсталяванне ў новым цэху, і выйшаў з аддзела. Зноў быў пах падгарэлага масла, удушлівая летняя цеплыня, шум і гул вентылятараў і машын, а затым, на вуліцы, нечакана, як з вады на паверхню, яму ў твар ударыў лёгкі марозны ветрык. Шум і гул цэха засталіся за спіною. Кармілаў глыбока ўдыхнуў свежае марознае паветра і застыў, вагаючыся, ісці ў новы цэх ці не.

Ужо цямнела. Пачыналі сцякацца да прахадной людзі. З работы, гэта ён упершыню заўважыў, людзі ішлі весела: перагаворваліся, смяяліся, быццам яны і не працавалі, а гулялі цалюткі дзень.

Думаючы пра новы цэх, Кармілаў нечакана зразумеў другое: сягоння ён, так ужо атрымалася, развітаўся з заводам... Быў нейкі перыяд у ягоным жыцці, звязаны з заводам, цяжка пакуль сказаць, дрэнны гэты перыяд быў ці добры, але толькі цяпер Кармілаў зразумеў па-сапраўднаму, што ён быў... І ніколі не вернецца, не паўторыцца. ...Як тое маленства, як тое юнацтва. І таму, колькі б ён ні хадзіў, ні блукаў па тэрыторыі завода, нічога не зменіцца. Схіліўшы галаву, ён памалу пайшоў да прахадной — зліўся з людскім патокам.

## 4

Цягнік адыходзіў вечарам у дзесятай гадзіне. Спачатку Кармілаў дагаварыўся з жонкаю, што праводзіць яго на вакзал яна не паедзе — трэба глядзець малога ды і позна ўжо,— але калі ён, сабраўшыся, пачаў апранацца, жонка таксама, як бы ўспомніўшы нешта неадкладнае, стала таропка нацягваць паліто. Яна ўсё ніяк не магла трапіць рукою ў рукаў паліто, а ён, гледзячы на жонку, спачатку і не здагадаўся, куды яна збіраецца.

На вуліцы было цёмна і ветрана. Марозу вялікага не было, але сыры вецер студзіў яшчэ болей. Ішлі да супынку моўчкі. Гэтак жа моўчкі стаялі на супынку, чакаючы аўтобус. Трэ было нешта сказаць, але Кармілаў нічога не гаварыў.

— Ты ўсё забраў, нічога не забыў? — спытала жонка, відаць, таксама адчуваючы, што трэба нешта сказаць.

— Здаецца, не.

Потым, калі стаялі на пероне, Кармілаў сказаў:

— Малога глядзі. Застудзіцца — пазвані. І да маці не забудзь з'ездзіць. Калі прыхварэе, то і дзвярэй няма каму адчыніць.

— Я з'езджу. У гэту ж суботу паеду,— хутка і таропка сказала жонка.

Здалёку засвяцілася яркае святло, а затым паказаўся і сам цягнік — з грукатам, наганяючы яшчэ большы холад, падкаціліся вялікія ў паўзмроку вагоны. Вагон, у які трэ было садзіцца, аказаўся значна далей, дзе яны стаялі, разам з другімі людзьмі прыйшлося бегчы ўздоўж цягніка. Жонка бегла гэтак жа, як і Кармілаў, хустка яе развязалася, выехала з-пад расплікнутага зверху паліто, на хаду жонка паспрабавала завязаць хустку, але нічога ў яе не атрымалася. Калі дабеглі, спыніліся на імгненне, паглядзелі адно аднаму ў твар. Твар у жонкі быў бледны, як той снег, дыхала яна цяжка...

— Ну, я пайду, зараз адпраўленне...

— Ідзі,— кіўнула галавою жонка.— Ты толькі напішы, не забудзь.

Кармілаў таксама кіўнуў галавою і тут жа адвярнуўся, падаўся ў вагон. Праходзячы па ярка асветленаму вагону, праз акно ўбачыў, што жонка стаіць на пероне з напаўразвязанаю хусткаю і ў незапліснутым паліто. Яна глядзела на вокны вагона — пераводзіла позірк з аднаго на другое. Цягнік рэзка крануўся, Кармілаў падышоў да акна, памахаў рукою, але жонка яго не бачыла — павярнулася і, схіліўшы галаву, пайшла да вакзала. Здалося, што яна плакала.

Месца Кармілаву далі бакавое — чамусьці, колькі ездзіў, яму заўсёды давалі бакавое месца. Калі ўжо ўладкаваўся, зняў шапку, паліто, павесіў усё гэта на кручок, палажыў на самую верхнюю паліцу сумку, тады ўбачыў, як па праходзе неяк бокам з вялікім

рэчмяшком за плячыма і двума чамаданамі ў руках прабіраецца ў ягоны бок мужчына і, на хаду паварочваючы галавою, разглядвае нумары месц. Падумалася, што ён сядзе насупраць, на пустое месца. Так і было. Запараны, як пасля лазні, паглядзеўшы на нумар месца, мужчына паставіў ля ног чамаданы, зняў з галавы андатравую шапку, правёў далонню па мокрым ілбе і сказаў гучна:

— Ну, здаецца, знайшоў-такі.

Затым мужчына пачаў здымаць з плячэй вялікі рэчмяшок і зноў гучна гаварыць:

— Гэта апельсінаў я набраў. А завязка парвалася. Чуць успеў. Цяперака перавязаць трэба. Дамоў з водпуску апельсінаў набраў. У брата гасцяваў.

Мужчына, відаць, быў падпіўшы і не заўважаў, наколькі дзіўнай здаецца ягоная гучная гаворка ў ціхім плацкартным вагоне, дзе гаварыць стараліся нягучна і дзе адразу ж адчувалася, што людзі тут у большасці саўсім не такія, якіх можна сустрэць у агульных вагонах. Гэта там можна гаварыць, нікога не ведаючы, і цябе адразу ж падтрымаюць: пачнуць спрачацца ці адабраць. А можа, і не выпіўшы быў мужчына, можа, увесь час быў такім: чырвоным і гаваркім...

Побач, цераз праход, сядзелі дзве сям'і: на адным сядзенні яшчэ маладая пара са шлюбнымі залатымі пярсцёнкамі на пальцах, а на другім — болей пажылыя, год за трыццаць, муж з жонкаю і хлопчык гадзікаў трох.

Калі мужчына падышоў і гаварыў, здымаючы рэчмяшок, то і тыя дзве сям'і, што ўжо ўладкаваліся, глядзелі на яго: маладыя з цікаўнасцю, а болей пажылыя з нейкай халоднай абыякавасцю.

Здымаючы паліто, мужчына дастаў з кішэні дзве бутэлькі піва, паставіў на адкідны столік перад Кармілавым і, пазіраючы наўкола і на тыя дзве сям'і таксама, гаварыў:

— Вот, зараз піва будзем піць. Угашчайцеся. Гэта ўжо на вакзале, як садзіліся, брат мне і гаворыць: «Вазьму піва на дарогу». Ну і ўсунуў мне гэтае піва. Хоць я дужа і не ахвотнік ні да піва, ні да віна. Ну, бывае, калі з палучкі ці ў выхадныя. Але я тады ўжо лепей гарэлкі вазьму, чым гэтае віно чырвонае. Ад яго толькі галава баліць. А так, як брат мой выпівае,

мне няможна, работа такая ў мяне, што п'янага не дапускаюць.

А потым мужчына, відаць, заўважыў усё ж такі, што тыя дзве сям'і стараюцца не глядзець яму ў вочы. Маладыя неяк вінавата ўсміхнуліся, зірнуўшы адно на аднаго, і ўставіліся ў цёмнае акно, за якім раз-пораз мільгалі далёкія агні. Другая сям'я заняпася малым: маці здымала з хлопчыка вязаную кофтачку, а бацька глядзеў на іх. Яны ўсе трое былі ў вязаным: і жонка, і муж, і дзіця. Мусіць, жонка любіла вязаць. Па ўсім відаць, была яна талковая і акуратная, гэта адчувалася і па яе спакойным немітуслівым позірку, і па тым, як апранута сама, як чыста і прыгожа апрануты муж і сын.

— Ну, здымай, здымай кофтачку. Падымай ручкі. Так, вот так, маладзец. А цяпер лажыся. Не, не трэба гуляць, не трэба нікуды хадзіць. Лажыся цяпер.

Пульхненькі з белымі шчочкамі малы паслухмяна лёг на сядзенне, дзе была ўжо загадзя пакладзена і нават разаслана пасцель. Маці павольна складвала адзенне малога і, паглядзеўшы на мужа, гаварыла:

— Раздзявайся, Валера. Спаць будзем.

Яна гаварыла гэтыя словы такім жа тонам, як і малому.

Моўчкі муж таксама пачаў здымаць праз галаву вязаны світэр, гальштук і аддаваць жонцы ў рукі. Тая ўсё складвала, каб не памялася, і пільна глядзела на мужа, як на малога,— ці ўсё на ім у парадку. Але на мужу ўсё было прыгожае і моднае, як на манекене: і белая ў ледзь бачную клетачку кашуля, і адпрасаваныя, без адзінай складкі, светлыя штаны, і чырвоныя чаравікі на модным высокім абцасе. Ды і сам ён, здавалася, быў толькі што адпрасаваны: чыста паголены, не поўны і не худы, з акуратнай, набок, прычоскаю... Толькі, чамусьці, пад вачыма была добра такі бачная сінь, быццам чалавек недасыпаў ужо шмат начэй. Ды яшчэ ў вачах ягоных быў нейкі застаялы сум. Як пацямнелая вада ў сажалцы...

Гледзячы на гэтыя дзве сям'і, Кармілаў мімаходзь успомніў свае даўнія паездкі ў агульных вагонах, калі яшчэ вучыўся ў тэхнікуме і грошай вялікіх не меў: і тую старую, якая неяк зайшла на адным супынку і, толькі сеўшы на сядзенне, пачала скардзіцца, што ў яе баліць галовачка, яна едзе ад нявесткі і ў печы

ў яе няпалена... І тых суседзяў, якія супакойвалі стары. І тыя нечаканыя, але як абавязковыя знаёмствы з дзяўчатамі, тыя поціскі гарачаватых рук, тыя адрасы. А цяпер вось ужо шмат год ён не ездзіў у агульных вагонах — хто яго ведае, як там цяпер усё, мо ўжо ўсё і па-другому...

— Гэта во з-за апельсінаў ледзь і не апаздаў. Па дарозе завязка парвалася. Трэба во неяк завязаць, а то зноў яшчэ дзе парвецца. Слабая яна ў мяне. Дзе мне ўзяць што лепшае? — гаварыў тым часам як сабе мужчына і глядзеў то Кармілаву ў твар, то на рэчмяшок, поўны апельсінаў.

— Да правадніцы схадзіце,— сказаў нарэшце Кармілаў.

— Во, і праўда, схаджу-тка я,— абрадаваўся мужчына і падняўся, каб ісці. Але правадніца ўжо сама ішла да іх — збірала білеты.

Кармілаў аддаў білет, аддаў рубель за пасцель, памог чалавеку вязаць шпагатам рэчмяшок, а цяпер сядзеў на ранейшым месцы і глядзеў на мужчыну — слухаў, што той гаворыць. Спачатку не хацелася пускацца ў гамонку, але потым ён нешта як бы перасіліў у сабе і таму час ад часу, каб падтрымаць гамонку, задаваў якое пытанне. І ў той жа час усё думаў, успамінаў сябе, амаль такога ж гаваркога, калі ў агульных вагонах вёў разумныя, як яму тады здавалася, размовы і пра сябе, і пра жыццё ўвогуле, а вот цяпер яму былі сумныя і нават нецікавыя такія размовы, болей падобныя на споведзь, хацелася цішыні і адзіноты — моўчкі глядзець у цёмнае акно, прыслухоўваючыся да штуршкоў і пакалыхвання, адчуваць імклівы бег цягніка сярод ночы. І ва ўсім гэтым было нешта ад забытага, ад даўняга маленства, калі, едучы на машыне ці на возе, хацелася ад шчасця выстаўляць людзям язык, смяяцца і крычаць: «Глядзіце, я еду, еду...» Але цяпер усё было не так, не так, быў толькі лёгкі напамін на тое, даўняе, якое невядома куды сплыло...

— Вы піце піва. Яно свежае. А я дык шахцёрам раблю. На Поўначы. Ля Варкуты. Можа, чулі — такі горад ёсцека. Туды пасля арміі паехаў і застаўся. Ну, як гэта вядзецца, параблаў трохі, прыжаніўся, на кватэры пажыў. А тады не выцерпеў, да начальніка пайшоў. Кажу яму: «Кватэра трэба». Ну, ён,

праўда, не адказаў — у першым новым доме, гаворыць мне, дадзім. Цанілі яны мяне. Ды і цяпер цэняць. Дружыннікам, засядацелем у судзе быў. І праўда, далі кватэру. Цяпер во ўжо двое дзяцей ёсцека.

— Ці прывыклі?

— Прывык. Чаму ж не прывык? Яно ў нас яшчэ і здаравей, чым тут. У нас калі мароз — дык ужо мароз. Не тое, што тут, у брата. Во, прыехаў і застудзіўся, аж смешна. Вы піце піва, піце,— мужчына браў рукою бутэльку з півам, прыстаўляў да краю століка, а затым лоўка, адным ударам далоні, адкрываў бутэльку. Піва ў бутэльцы пачынала пеніцца, і мужчына рабіў некалькі глыткоў, а потым зноў гаварыў: — Не, у нас лепей. У нас і лета бывае. Праўда, караткаватае. Але затое ягад, ягад колькі...

— Многа зарабляеце?

— Хто як. Ну, само сабою — каэфіцыент. А тады яшчэ за гады надбаўка. Калі на праходцы, дык добра. А калі наверсе — меней. Як і вяздзе: як парабляеш — так і палучыш. На камбайнах хто робіць, добра палучаюць. Вугалёк стране трэба, не абыдзешся. Во, у гэтым квартале домна ў Ліпецку стаяла. Домна, не абы-што — гэта не шутачкі. Сабранне ў нас было. З трэста праводзілі — там у іх з планам штосьці не палучалася, дык наша шахта выручала. Так што ў нас работы яшчэ будзе.

— А вечарамі што робіце? У вас жа вечары, мусіць, доўгія.

— А што вечарамі? Як і вяздзе. Як тут, так і там. Тэлевізары глядзім. Ну, калі дык і ў кіно сходзім. Калі тэлевізар ёсцека, дык у кіно і ісці не хочацца па марозу. Ды і дзеці пад рукамі, жонка, так што работы хапае, сумаваць няма часу. Я люблю тэлевізар. Ды і інцярэсна — ведаеш, што на свеце робіцца. Цяпер во, праўда, нешта ў Афрыцы пачалося. І што яны там не падзеляць між сабою?

Мужчына заціх, і цяпер стала чутно, як пазваньвалі адна аб адну бутэлькі з півам. Час ад часу мужчына браў шырокай далонню бутэльку, адпіваў піва, пазіраючы то на Кармілава, то ў акно.

Па радыё пасля апошніх паведамленняў пачалі перадаваць песні — відаць, уключылі запісаную на магнітафонную стужку трансляцыю канцэрта, бо колькі Кармілаў ездзіў, заўсёды чуў гэты канцэрт.

«Я уйдуу с тоо-обой...» — спявала прыгожым расцягнутым голасам жанчына, і Кармілаў холадна слухаў вядомую песню.

— Яе во,— ківаў галавою ў бок дынаміка мужчына,— абакралі. Трэці раз замуж выйшла і паехала на гастролі. А яе ўзялі і абчысцілі. Я ў тым горадзе быў, чуў, як гаварылі. А ваабшчэ я песні люблю. Я гэту во музыку, як яе... сімфанічаскую, дык не нараўлю, а песні люблю. Яна во добра пяе,— усё ківаў галавою мужчына ў бок дынаміка.— Тады во яшчэ гэта... Пра арлекіна. Помніце такую? Пра арлекіна пяе. Вот з галавы выскачыла...

Кармілаў падказаў, і мужчына, радасна ўсміхнуўшыся, заківаў галавою:

— Во-во, яна самая.

Зноў памаўчалі, і Кармілаў ужо хацеў распранацца і залазіць на верхнюю паліцу, але было неяк няёмка адразу ж уставаць і пачынаць укладвацца. Апошні год з ім часта такое было: шмат з таго, што хацелася зрабіць, ён не рабіў таму, што нехта мог нешта падумаць ці сказаць; ён як бы залежаў ад чужога меркавання і таму паводзіў сябе зусім не так, як паводзіў бы на адзіноце.

— А як там ЦСКА са «Спартачком» згулялі? Вы не чулі яшчэ? — пытаўся мужчына. Відаць, яму хацелася пагаварыць з Кармілавым, і таму ён усё шукаў агульную тэму, якая была б цікавая абодвум.

— Не,— сказаў Кармілаў і, не вытрымаўшы, падняўся.— Ведаеце, я, мусіць, буду ўкладвацца спаць. А то заўтра рана прыедзем.

— Ды канечне, я панімаю, такое дзела,— сказаў мужчына і таксама падняўся.— Пайду перакуру трохі.

Кармілаў ляжаў на паліцы, адчуваў пад сабою лёгкія штуршкі і пакалыхванне і ніяк не мог заснуць. Радыё выключылі. Чамусьці зноў узнікла, як прывязалася: «Я Гамлета в безумии страстей который год играю для себя...» Потым прыйшоў мужчына, таксама лёг у пасцель і адразу ж заснуў — пачуўся лёгкі рытмічны посвіст. Кармілаў думаў пра гэтага мужчыну, у якога моцныя рукі, чырвоны добры твар, ды і сам ён, відаць, не такі і благі. На нейкае кароткае імгненне ў Кармілава ўзнікла зайздрасць да ўнутра-

нага спакою мужчыны, а потым гэтае пачуццё знікла. Так нярэдка бывала ў Кармілава.

Спаў Кармілаў дрэнна, часта варочаўся, прачынаўся і тады бачыў у няяркім святле тамбура салдата і дзяўчыну, якія стаялі абняўшыся. Ён зноў засынаў і тут жа, здаецца, прачынаўся ад стуку дзвярэй, што былі недалёка, ад супынкаў цягніка, ад нечага моцнага голасу. Нешта замінала Кармілаву, але што — ён не ведаў, і таму, як апраўданне, думалася, што віною ўсяму гэтая доўгая ноч, якая ніяк не скончыцца.

5

Было яшчэ цемнавата, неба не бачылася, толькі святло ліхтароў лілося на шэры, вычышчаны ад снегу асфальт — пасля ночы ранак пачынаўся марозны, хоць там, адкуль Кармілаў прыехаў, марозу амаль не было. Усюды бачылася па́ра: і ля людскіх твараў, і ля адчыненых дзвярэй вакзала, і ля выхлапных труб машын.

Марозны туманны ранак толькі пачынаўся, але людзей усюды было многа, яны, гледзячы перад сабою, таропка ішлі, зліваючыся ў асобныя шэрыя патокі, і калі хто трапляў не ў той паток, таго чалавека адразу ж пачыналі штурхаць, бо ён замінаў агульнаму цячэнню, як валун ці камлістае дрэва, што ляжаць на дне рачулкі.

Агульны невыразны гул, у якім зліліся і бясконцае гудзенне легкавых машын, што несліся адна за адною па недалёкім праспекце, і шоргат падэшваў, і рыпенне снегу, і асобныя словы, здаваўся нечым матэрыяльным, як і ранішняя шэрасць, святло вулічных ліхтароў, што рабіла твары аднолькава васковымі. І было адчуванне, што за адну ноч Кармілаў апынуўся ў нейкім другім свеце, дзе ўсё — і машыны і людзі — падпарадкоўваецца другому рытму, да якога і Кармілаву трэба прывыкнуць.

Спачатку пасля вакзала было метро: высокія дзверы, бляск і шчоўканне разменных аўтаматаў, таропкае апусканне пятака ў вузкую шчыліну аўтамата перад праходам, разлічаным на аднаго чалавека. А над усім гэтым, як спераду, так і ззаду, бясконцы шоргат і шум, якія дыктавалі хуткі рытм, рытм, што

прымушаў падпарадкоўвацца сваім законам, і калі чалавек пачынаў спяшацца ці спазняцца, то гэта адразу ж адчувалася і па кароткіх наўмысных штуршках, і па дакорлівых позірках. І Кармілаў, як і ўсе, падпарадкоўваўся гэтаму рытму — за некалькі месяцаў жыцця ў горадзе ён прывык да яго і тады, як прывык, заўважыў, што стала лягчэй.

Потым быў шчыльна набіты людзьмі вагончык, што рытмічна раскачваўся з боку на бок, свежыя газеты перад тварамі людзей, адны сядзелі, другія стаялі ў праходзе, часам сярод газет бачылася рэдкая кніга — у горадзе модна было чытаць так званыя рэдкія цікавыя кнігі. Увогуле, тут, у вялікім горадзе, многае рабілася не так, як у якім раённым гарадку, а тым болей у вёсцы.

Потым зноў былі штуршкі, чорныя парэнчы, гэткая ж рухомая лесвіца,— людзі, што праплывалі побач на другой лесвіцы, і, нарэшце, прыемны холад вуліцы.

Кармілаў падышоў да знаёмага супынку тралейбуса, агледзеўся.

Ужо днелася. Агні ліхтароў яшчэ гарэлі, але былі амаль не бачны, прасвечвала нават блакітнае неба з рэдкімі зорамі. Удалечыні ў белаватым тумане віднеліся два рады цагляных будынін, сярод якіх паяўляліся і знікалі машыны.

У тралейбусе таксама было многа людзей.

І ўсё тут, у тралейбусе, было працягам таго рытмічнага жыцця, у якім ён апынуўся, сышоўшы з цягніка. Як працягам былі чэргі ў магазінах перад жанчынай у белым халаце, якая моўчкі, дзелавіта, як у сваю, заглядвае ў кожную сумку, тая ж ветлівая гаворка прадаўцоў-мужчын, што працуюць у мясных аддзелах магазінаў,— у іх чамусьці свойскія і нейкія затуманеныя позіркі; групкі людзей ля ўваходаў у прадуктовыя магазіны; чэргі ў кафэ ля буфета і выгляд афіцыянткі, калісьці прыгожай, а цяпер на ёй белы з плямамі халат, мяккія тапачкі і халодная абыякавасць на твары, бо ўжо колькі чула яна за столікамі гэтых размоў пра вялікія задумы, удалыя, у час сказаныя словы і добрыя справы,— і ўсё гэта, здаецца, акружана людскімі плынямі, што з раніцы да позняй ночы струменіліся між высокіх цагляных будынін, зліваючыся і раствараючыся на супынках,

плошчах, падземных пераходах. Гэтыя шматлюдныя плыні лесвіцы метро раўнамерна выносяць з-пад зямлі і, гэтак жа раўнамерна забіраючы, хаваюць у падземных каменных лабірынтах, і таму думаецца, што непрывычны рух людзей існуе сам па сабе, без мэты і жадання, і цяжка знайсці прычыну, якая штурхае людскія плыні ў пэўных кірунках.

Кармілаў стаяў ля дзвярэй тралейбуса і, чуючы вечны гарадскі шум і гоман, успамінаў усё тое, знаёмае — абрыўкамі, без пачатку і канца, перад ім паўставалі салідныя вусы і бароды, якія так удала скрадвалі разгубленасць на маладых мужчынскіх тварах; паўкажушкі як на хлопцах, так і на дзяўчатах; завязаныя набок, як у цыганак, яркія каляровыя касыначкі ў дзяўчат, у якіх зноў жа — пад цыганак — такія ж смуглявыя твары з чырвонымі, як у манекенаў, вуснамі, доўгія прыталеныя спадніцы і такія ж, як і касыначкі, чырвоныя альбо жоўтыя кофтачкі; салодкія, да знямогі, размовы пра работу, пасады, аклады; папяроскі ў чырвоных фарбаваных вуснах, тонкія з чырвонымі прадаўгаватымі пазногцямі пальцы, якія трымаюць тыя папяроскі і час ад часу злёгку пастукваюць, каб прыгожа і мякка, як чорны снег, ляцеў уніз попел — уважлівы позірк праводзіў падзенне попелу, і тады здавалася, што ўсё гэта: і папяроска, і патукванне па ёй пальцам, і доўгі задумены позірк, якім праводзіцца падзенне попелу, мае свой загадкавы сэнс...

Так-так, тут, у вялікім горадзе, віравала сваё жыццё, якое Кармілава некалі захапіла, і таму ён мог гадзінамі блукаць ля знаёмых па паштоўках і малюнках высокіх шэрых будынін, спыняцца ля бліскучых набярэжных і глядзець на цёмную нерухомую ваду, на белыя цеплаходы і «Ракеты», якія, нагадваючы вялізных рыбін, хутка паяўляліся і знікалі за бліжэйшым паваротам ракі. І здавалася Кармілаву, калі глядзеў на цеплаходы, што ў пасажыраў саўсім другое, болей цікавае жыццё. Ён уважліва чытаў надпісы на п'едэсталах шэрых велічных помнікаў, моўчкі перасякаў вядомыя плошчы і, гледзячы сабе пад ногі на шэры, адпаліраваны мільёнамі падэшваў камень, думаў пра вечнасць і імгненнасць быцця,— але думкі гэтыя прыносілі не боль і сумненне, а нейкую невядомую радасць.

Яшчэ Кармілава можна было сустрэць у залах музеяў, дзе ён разглядваў партрэты невядомых людзей, міфічныя сюжэты. Яго ўражвала моц і прыгажосць аголенага цела, пакутлівы твар кентаўра, ягоныя рукі, працягнутыя да прыгожай жанчыны, і тут жа, побач, дзесьці ў някідкім кутку, Кармілаў застываў перад малюнкам жанчыны, ад якога веяла спакоем і яснасцю; звычайна за адзін прыход Кармілаў стараўся абысці ўсе залы, пачынаючы ад антычнага мастацтва і заканчваючы карцінамі мастакоў апошняга стагоддзя. Пакідаючы залы музея, ён думаў пра нешта сваё, саўсім не падобнае на тыя разумныя словы экскурсавода, акружанага групкаю паслухмяных дарослых людзей, але ўслых ён так і не гаварыў сваё ўражанне, услых пры выпадку ён звычайна паўтараў тыя разумныя словы экскурсавода, якія мог пачуць, пераходзячы з залы ў залу.

Яму цікава было праехаць вячэрнім трамваем ці тралейбусам і вясёлымі вачыма паглядзець на агні рэклам, што мігаюць і бегаюць над дахамі будынін, на святочныя яркія вітрыны магазінаў, на асветленыя знутры вокны вялікіх, з высокімі столямі залаў, дзе бялелі роўныя рады сталоў, засланых белымі настольнікамі, на якіх віднеліся напоўненыя ядою талеркі, крыштальныя бліскучыя фужэры, бутэлькі з яркімі каляровымі этыкеткамі і горкі асляпляльнабелых сурвэтак; за гэтымі сталамі сядзелі святочна апранутыя людзі, адны — спакойныя і вясёлыя, па ўсім відаць, што гэтыя месцы для іх звыклыя, як дом ці кватэра, дзе жывеш гадамі, а другія — з нацягнута сур'ёзнымі выразамі застылых, як на фотаздымках, гладка паголеных твараў. І яшчэ ў кутку такіх залаў на прыўзнятым памосце віднелася групка людзей, занятых бліскучымі трубамі, электрагітарай і ўдарнікам, сярод іх выдзялялася жанчына з мікрафонам у сагнутай руцэ — ад усяго ўбачанага скрозь гардзіны веяла ўтульнасцю і шчасцем, яму пакуль не дасягальным.

І ўсё яму яшчэ не верылася, што пачынала збывацца тая мара, якая дагэтуль не давала спакою, відаць, з таго далёкага дня, калі знайшоў на гарышчы запыленую кнігу... У тым паўзмроку, дзе было сухое застаялае паветра, счарнелае ад часу пілавінне, што ціха патрэсквала пад босымі нагамі малога, і вось

яна, нечаканая кніга, як цуд ці таямніца, да якой малы дакранаецца тонкімі асцярожнымі пальцамі. Шэрая вокладка прагнулася, высахлыя старонкі зліпліся — прыходзіцца памалу па адной перабіраць іх, і нарэшце, нарэшце: ніколі не бачаны самалёт з шырокімі плоскімі крыламі, драўлянымі, а мо і палатнянымі; машына з вузкай кабінкаю, вялікімі фарамі, высокім драўляным кузавам і тонкімі коламі; трамвай, які сам коціць па рэйках; высокія будыніны з магазінамі, у якіх, колькі захочацца, бяры хлеба і цукру, а пад самы канец кнігі нават намаляваны загадкавы чорны цягнік з чырвонымі палавінкамі колаў. А ноччу яму абавязкова снілася ўсё гэта, быццам той чорны цягнік ужо звазіў яго туды, далёка-далёка, і цяпер усё гэта толькі ўспаміналася, казачнае і прыемнае.

І вось ён прыехаў у горад, дзе адчуваў сябе маленькім, быццам закінутым у іншы свет і пакуль нічым не звязаным: ні ранейшымі звычкамі, цяпер непатрэбнымі, ні дакорлівым знаёмым позіркам, ні абавязкам,— і таму спачатку, як калісьці ў рэчку, без доўгага роздуму з разгублена-шчаслівай усмешкаю ён кідаўся ў тыя шматлюдныя плыні.

Мінаў дзень, тыдзень, і ягоная мара не збывалася, нешта мяшала ягонаму шчасцю. Кармілаў стамляўся і тады пачынаў заўважаць мноства машын і безліч пылінак на праспекце, якія бязладна мітусяцца ў промнях заходзячага сонца, непрыемную сухасць у роце, якая з'яўлялася пад канец дня, ён ніяк не прывыкаў да шуму і гулу, ад якіх, здавалася, нідзе не было спакою, а над усім гэтым — халодную стамляючую шэрасць асфальту, бетону і цэглы, найчасцей пабеленай у шэры, а то і жоўта-белы колер.

Кармілаў сышоў з тралейбуса і пайшоў у інтэрнат. У пустым ціхім пакойчыку ён распрануўся. Апошнія два дні паказаліся доўгімі, як тыдні. Яму здавалася, што ўсё, што бачыў і чуў, мае нейкі сэнс, які яму трэ абавязкова знайсці. І тады, як ён усё зразумее, будзе лягчэй. І мо таму перад вачыма паўставалі малюнкі, абразкі мінулых дзён: і завод, і цягнік, і жонка з напаўразвязанаю хусткаю, і маці з акулярамі на зморшчаным маленькім тварыку. Балела галава.

## 6

Зноў пачалося ўсё тое, што было раней, але цяпер Кармілаў ужо не так глядзеў вакол сябе і саўсім па-іншаму ўспрымаў вясёлыя жарты і смех у перапынках між заняткамі.

І хоць размовы на занятках вяліся на сур'ёзныя і, як яны любілі між сабою гаварыць, глабальныя тэмы, і хоць усё гэтак жа браў Кармілава за руку ў перапынках між заняткаў Валера Атлантаў — высокі поўны мужчына, у якога ўсё: і падбародак, і чырвоныя шчокі, і выгнутыя дугою чорныя бровы, і, здавалася, вечна адкрыты рот з поўнымі чырвонымі вусамі — было круглым і мяккім. І пытаўся Атлантаў, гледзячы ў самыя вочы: «Не, вот ты скажы мне, у чым таямніца жыцця? Ну, скажы? Не ведаеш — то-та ж... Я табе скажу. У руху. Ты ведаеш, што такое рух? Вот ты скажы мне? Ты ўяўляеш Рымскую імперыю з яе культураю і сілаю? І тут паяўляюцца аднекуль нікому не вядомыя варвары, непісьменныя і цёмныя, і трасуць яе, як тую грушу. І ад магутнай Рымскай імперыі нічога не застаецца. Во, фуу...— Валера дзьмуў на адкрытую далонь, выстаўленую перад сабою,— нічога, як і не было нічога: ні культуры, ні сілы. Што гэта такое? Народы падымаюцца з наседжаных аблюбаваных месц і ідуць у невядомым кірунку. Многія гінуць, але яны ідуць, ідуць. Што рухае імі, га?» — але неяк ужо не так, як раней, успрымаў Кармілаў словы Атлантава.

Ён спакойна глядзеў на Валеру і заўважаў, як у таго пры хваляванні выкочваліся ўперад, як фары ў машыне, круглыя, пукатыя вочы, адкрыты рот рабіўся саўсім круглым і як ён, Валера, пачынаў задаволена смяяцца: «Ха-ха-ха...» Гэты Валера многае ведаў, амаль на любое запытанне ў яго быў гатовы адказ, так што часам брала здзіўленне: навошта яму яшчэ гэта вучоба?

А потым Валера Атлантаў аднойчы сказаў, што сваімі вушамі слухаў выступленне перад тэатральнай публікаю саліднага вучонага, які сцвярджаў, што неапазнавальныя лятаючыя аб'екты ёсць не што іншае, як касмічныя караблі з другой планетнай сістэмы. І яшчэ быццам бы той вучоны паказваў слайды, дзе гэтыя неапазнавальныя аб'екты былі выразна бачны.

І што тых касмічных прышэльцаў, ці, як іх называлі, энланаўтаў, нават бачылі, яны амаль такія ж, як і людзі, толькі бываюць двух відаў: адны маленькія, непрыгожыя, зеленаватыя, з пукатымі, як у жаб, вачыма, а другія — ля двух з паловаю метраў. І на іх тварах не відаць ніякіх эмоцый — гэта, відаць, ад вялікіх ведаў. «Таму што,— Атлантаў пры гэтых словах станавіўся ў позу паэта, які з трыбуны чытае свае творы, падымаў угору ўказальны палец і, памахваючы ім, працягваў,— як калісьці пісаў Валошын, на вяршынях пазнання адзінока і холадна — запомніце гэтыя словы, яны вам яшчэ згодзяцца...»

Пра энланаўтаў адразу ж загаварылі ва ўсім горадзе: і вучоныя, і супрацоўнікі ціхіх музеяў, і ітэраўцы заводскіх аддзелаў, і рабочыя. Атлантаў казаў, што нават яго знаёмыя сябры пісьменнікі, седзячы ў Доме творчасці, тыднямі спрачаліся пра энланаўтаў.

Вечарамі ў пакоі Атлантава збіраліся людзі і таксама вялі сур'ёзную гаворку, да самай поўначы, а то і пазней.

— Гэтага не можа быць,— скакаў перад высокім Атлантавым маленькі худзенькі Ларкін — калісьці Ларкін закончыў фізфак і цяпер ніяк не мог пагадзіцца з многімі палажэннямі, якія сцвярджаў Атлантаў.

— Чаму? — залішне спакойна і стомлена пытаўся Атлантаў — усім сваім поўным і грузным целам ён неяк адгінаўся назад, у яго была такая звычка: глядзець на субяседніка здалёку і зверху.

— Таму... Таму, што нельга рухацца хутчэй, чым хуткасць святла. Трыста тысяч кіламетраў у секунду, не болей. Усе законы квантавай механікі заснаваны на гэтым. Нават пры набліжэнні да гэтай хуткасці маса цела бясконцая, даўжыня нулявая. Во, сам глядзі, калі не верыш на слова.— Ларкін падбягаў да стала, нешта пісаў шарыкаваю ручкаю на лісце паперы і падсоўваў Атлантаву пад самыя вочы.— Ты разумееш, што гэта, пра што ты гаворыш, глупства. На законах квантавай механікі робяцца разлікі... Калі б гэта было не так, ніколі не было ядзернай рэакцыі. Вадародная і атамная бомбы разлічаны па гэтых законах. Ці даходзіць да цябе?

— А з якой хуткасцю рухаецца электрон? — пытаўся павольна Атлантаў у Ларкіна.

— Трыста тысяч,— шаптаў Ларкін.

— Дык такога ж таксама не можа быць па тваіх жа законах квантавай механікі. Даўжыня тады будзе нулявой, а маса бясконцай.

— Дык гэта для яго нармальнае становішча, у другім ён і не можа быць,— гаварыў Ларкін, але гэтыя словы ўжо гучалі як апраўданне сваёй слабасці.

— А ты яго бачыў, той электрон, хоць адзін чалавек яго бачыў, што ты бярэшся гаварыць, што ён можа, а што не можа?

— Дык жа ёсць доказы,— зноў шаптаў Ларкін, здзіўлены эрудыцыяй Атлантава.

— Якія доказы? — спяваючы, пытаўся Атлантаў.— Мы нешта прыдумалі, што сыходзіцца з практыкай, вот і ўсе твае доказы. А што там насапраўды, ніхто не ведае.

Ларкін разгублена глядзеў і нічога не гаварыў, здавалася, ён вось-вось заплача.

— А што ён, гэты Ларкін, разумее,— гаварыў нехта з прысутных.— З-за такіх во, як ён, калісьці і кібернетыку і генетыку не прызнавалі, таксама ўсё крычалі, не можа быць, а пасля сябе за локці кусаць спрабавалі.

— А чаму ж яны тады з намі на кантакт не ідуць? — шэптам пытаўся ў Атлантава Садовіч — маленькі, тоўсценькі, ён акуратна хадзіў на заняткі, вёў канспекты і кожны вечар больш дзвюх гадзін праводзіў на кухні ля газавай пліты. Гэты Садовіч хадзіў кароценькімі крокамі, перавальваючыся ўсім целам з нагі на нагу і памахваючы рукамі неяк ззаду за спіною. Пасля цікавых заняткаў ці нечага ўдалага, у час сказанага слова Садовіч задзіраў угору галаву, закочваў вочы і, сціснуўшы вусны — ад чаго ён адразу ж станавіўся падобны на рыбіну,— развёўшы ўбок рукі, нейкі часківаўся на кароткіх нагах, а тады ўжо выдыхаў: «Ну и вы-дал. Выдал так выдал. Тут уж ничего не скажешь». І зноў закочваў вочы, задзіраў галаву і ківаўся з боку на бок, нагадваючы тоўсценькую кароткую рыбіну.

Атлантаў адварочваўся ад разгубленага Ларкіна, паварочваўся ўсім целам да Садовіча, выкочваў уперад пукатыя вочы і гаварыў:

— А мы хочам з мураўямі ісці на кантакт? Навошта ён нам, што ён нам дасць?

— Ну, то ж мураўі, а то мы,— гаварыў Садовіч.

— А чаму? — гэтак жа спакойна, як раней з Ларкіна, цяпер здзіўляўся са слоў Садовіча Атлантаў.— Ты хоць ведаеш, што цяпер ужо вучоныя сыходзяцца на думцы, што розум у пэўнай ступені ёсць і ў звяроў. Канечне, адразу ж яны не прызнаюцца, але памалу... Проста мы ў розных сферах дзейнасці: мураўі ў сваёй, мы ў сваёй... А цывілізацыі бываюць трох тыпаў. Першага тыпу — калі цывілізацыя авалодае энергіяй планеты. Другая — зоркі. Трэцяя — галактыкі. Ты ўяўляеш — вакол зоркі робіцца такая сфера і ўся энергія ад зоркі нідзе ні каплі не прападае дарма. Дык вот уяві, ці цікавыя мы для цывілізацыі трэцяга тыпу, калі мы яшчэ на сваёй планеце не памірымся.

Яшчэ доўга яны спрачаліся, і ў канцы іх дыспутаў сіпеў неспакойны Ларкін:

— Значыць, тэорыя адноснасці, усе законы фізікі кату пад хвост?

— Не кату пад хвост, не кату,— спакойна супакойваў Ларкіна Атлантаў.— Проста нашы законы, і твая любімая тэорыя адноснасці таксама, будуць часткаю, прыватным выпадкам больш складанай тэорыі. Панімаеш, фізік? Ну, уяві, што было б, калі б чалавецтва не адкрыла законаў электрычнасці. Ну, уяві. Як у дзесятым стагоддзі. І вот перад табою нехта тэлевізар бы ўключыў. Га?.. Гоп — і на стол перад табою паставілі. Дык бы ты тады таксама загалёкаў: «Не можа быць...»

— Ён бы проста адразу ж пяшком у жоўты дом пайшоў бы,— казаў нехта з прысутных.

А Валера Атлантаў здзіўлена глядзеў на яго, адкрываў круглы рот і гучна, задаволена смяяўся з разгубленага Ларкіна:

— Ха-ха-ха...

Прайшоў тыдзень, другі, і пра энланаўтаў гаварылі ўсё меней і меней, тое хваляванне, тыя лісткі, што перапісваліся і перадрукоўваліся на машынцы пад капірку, тое вясёлае чаканне адкрыцця вялікіх таямніц, тых разумных энланаўтаў, якія вось-вось павінны былі прыляцець і памагчы людзям,— усё гэта неяк памеркла, адышло, і зноў вакол Кармілава

пачала паяўляцца нацягнутая цішыня, якая здавалася яшчэ большай, чым калісьці. І цяпер ужо здавалася, што калі б і сапраўды побач з Кармілавым паявіліся нейкія разумныя істоты, то нічога асаблівага ў жыцці Кармілава і не змянілася б. І на шумнай вуліцы, і на занятках Кармілаў адчуваў, што да часосьці прыслухоўваецца, нешта яму хочацца зразумець, тое, што яму замінае.

Дзень чапляўся за дзень, і ўсё гэтак жа прыходзілі на заняткі выкладчыкі і гаварылі разумныя талковыя рэчы, якія Кармілаву трэ было запомніць, толькі цяпер ужо не думалася, што калі ён усё запомніць, то стане разумнейшы. Так, ён мог многае ведаць, як той жа Валера Атлантаў, але цяпер Кармілаў пачынаў адчуваць, што акрамя ведаў яму патрэбна нешта яшчэ, і мо таму ён цяпер саўсім па-іншаму слухаў выкладчыкаў.

## 7

Потым была дарога дадому, пачынаўся вечар, калі Кармілаў падыходзіў да акна сваёй кватэры і бачыў мноства агнёў. Пэўны час ён углядваўся ў іх, а затым нечакана заўважаў не зацягнутае фіранкаю акно ў суседняй шматпавярховай будыніне. І тое жыццё, якоеназіраў праз шкло, нямое, здавалася дзіўным, праз якую гадзіну думалася, што людзі заняты тым заняткам, які ні ён, ні тыя невядомыя людзі не могуць растлумачыць. І таму яны так павольна пераходзяць з пакоя ў пакой, садзяцца насупраць тэлевізара, потым падымаюцца і падыходзяць да стала, застаўленага ядою, затым зноў стаянне перад люстрам, мяккае крэсла перад вечна ўключаным тэлевізарам, павольны ківок другому чалавеку, збліжэнне, зноў аддаленне...

Часта, не вытрымаўшы, Кармілаў накіроўваўся на вуліцу, асвечаную бледнаватымі неонавымі агнямі, да той шматлюднай плыні, якая запаўняла праспекты, тэатральныя пад'езды, фае кінатэатраў, вагончыкі электрычак. Ён зноў ішоў у залы музеяў і бачыў усё тыя ж, цяпер ужо знаёмыя, партрэты, постаці, сюжэты, працягнутыя да жанчыны рукі кентаўра, зноў моўчкі перасякаў плошчы, глядзеў на раўнадушныя да ягонага лёсу помнікі, падыходзіў да на-

бярэжных і заціхаў: куды яшчэ? Заканчвалася кіно, апускалася шырма тэатра, спынялася апошняя электрычка, і сонная жанчына гаварыла: «Закрыта» ці «Закрываем»,— тады ён, вяртаючыся апусцелай вуліцай да свайго пакойчыка, успамінаў тыя пылінкі, якія летнім вечарам мітусяцца над шумным цэнтральным праспектам, асвечаным промнямі заходзячага сонца.

Яшчэ як збавенне яму ўспамінаўся зялёны бераг рачулкі, у якой чорнай стужкаю адсвечвае рухомая вада, бяроза з доўгім веццем ля хаты, драўляная лаўка ля гародчыка, у якім распускаюцца кусты бэзу, два рады знаёмых хат пад шырокім, як поле за бальшаком, небам з малінаваю палоскаю на захадзе, дзе сінее бор. Зноў чуўся яму жалобны крык кнігаўкі над балотам, шапаценне лісця пад нагамі ў апусцелым восеньскім лесе, пах дыму на ціхіх агародах, калі дакопваюць бульбу, крык дзяцей, схаваных цемнатою, працяжная галасная песня, якая перабівалася звонкай крыклівай сваркаю,— усё гэта ён чуў на фоне цішыні, лёгкай і прыемнай, якой так не хапала. Чамусьці ўспаміналіся апошнія дні перад ад'ездам: і маці, і той жа Сцёпа ў кірзавых ботах... І было так, быццам Кармілаў увесь час блукаў ля чорнай высокай заслоны, за якой хавалася другое загадкавае жыццё, і яму трэ было падняць ці адхінуць тую заслону, але ён не мог гэтага зрабіць, не мог зазірнуць хоць на міг, што там робіцца.

## 8

Убачыў ён роўнае голае поле — як здагадаўся пасля, прачнуўшыся, то быў аэрадром. З гэтага поля, аднекуль з-пад зямлі, адзін за другім хутка падымаліся самалёты — не так, як звычайна падымаюцца самалёты, а імгненна, без разбегу па бетоннай дарожцы, яны бязгучна падымаліся і знікалі з вачэй. Калі падняўся адзін з самалётаў і знік за воблакамі, у Кармілава паявілася прадчуванне бяды. Потым ён убачыў бязгучны выбух, і на зямлю з-за воблакаў ляцелі чорныя абломкі — як у запаволеных кадрах кіно. І тут жа Кармілаву стала шкада чалавека, які быў у самалёце. Толькі тады Кармілаў і прачнуўся.

Хто быў у самалёце, ён не ведаў, але сум па чалавеку застаўся. Быццам усё, што прыснілася, было рэальнасцю і ён нават ведаў таго чалавека.

Падобныя сны сніліся Кармілаву і рапей — аднекуль з невядомасці праз усё неба нізка над зямлёю пачыналі ляцець самалёты, розныя, якіх ён ніколі не бачыў: як тралейбусы з шырокімі самалётнымі крыламі, як дырыжаблі, як шары... Бачыліся тады яму з зямлі нават людзі ў тых самалётах. Прадчуванне бяды паяўлялася тады ў Кармілава; як помніцца, ён усё думаў, што пачынаецца вайна і таму самалёты ляцяць і ляцяць бясконца: то ў адзіночку, то групамі... І так звычайна цягнулася ўсю ноч.

Гэтаксама Кармілаў і цяпер, прачнуўшыся, доўга сядзеў ля стала і ўсё думаў, што б гэта магло азначаць. І ўсё не пакідаў яго сум па невядомым чалавеку.

А днём у ім як бы нешта зламалася, і тады як збавенне паявілася рашэнне кінуць на некалькі дзён заняткі і зноў паехаць дамоў. І цяпер, калі Кармілаў надумаў паехаць дамоў, яму адразу ж палягчэла, быццам ён надумаў зрабіць тое, што трэ было зрабіць абавязкова, а ён толькі ўсё ніяк не здагадваўся.

Назаўтра ён ужо быў дома, там усё было ў парадку: тая ж чырвоная паліраваная мэбля, тыя ж празрыстыя гардзіны на вокнах, той жа ўважліва-насцярожаны позірк жонкі, той жа радасны крык малога,— і таму Кармілаў, доўга не забавіўшыся, паехаў да маці ў вёску — нешта зрушылася ў ягонай душы пасля таго сну, і цяпер многае што Кармілаў рабіў як бы па загаду, як бы з якой упэўненасцю, што так і трэба рабіць.

Сышоўшы з аўтобуса, тут жа, на супынку, Кармілаў сутыкнуўся са Сцёпам.

— Здароў, Сцёпа.

— Здароў. Гэта ты да маці едзеш? — Сцёпа быў у той жа даўгаватай фуфайцы, у кірзавых ботах, якія, відаць, не здымаў ні зімою, ні летам.

— Ага, да маці.

— А яе дома нямашака.

— Дзе ж яна?

— А яна ў Запруддзе паехала. Машына во ішла і яе ўзяла. Папутная.

— Чаго гэта яна туды паехала?

— А там жа ваш сваяк памёр. Гэта, як яго... Цесць брата твайго. Во, мы разам з ім на работу ездзілі. Іванам яго звалі.

— Іва-ан? — працягнуў здзіўлена Кармілаў.— Ён жа здаровы быў...

— Ага, Іван. Ён жа, во, на заводзе працаваў. Аперацыю яму зрабілі ў бальніцы. А пасля яе памёр. За адзін час — так маці твая мне гаварыла.

Усё яшчэ не верачы Сцёпу, Кармілаў схадзіў дамоў, паглядзеў на замок, што вісеў на дзвярах, і тут жа падаўся на аўтобус, каб ехаць у Запруддзе.

Аўтобус назад, у горад, яшчэ не пайшоў, і Сцёпа таксама стаяў на супынку. Яшчэ з раніцы падняўся халодны са снегам вецер — мяло і мяло, месцамі перамятала дарогу, і, каб хоць трохі сагрэцца, Кармілаў зайшоў у цаглянную будыніну, адставіў каўнер паліто.

— А ты куды выпраўляешся? — спытаў у Сцёпы, які дыміў папяроскаю і, палажыўшы рукі ў кішэні фуфайкі, хадзіў узад-уперад па будыніне — грэўся.

— А я гэта да мацеры прыязджаў. Я цяперака ў горадзе на кварціры стаю. Выхадны сягоння ў мяне, дык я да старой і прыязджаў. А то ўсё некалі. А вечарам пасля работы позна. Ды і цяжкавата гэта...

«Як знарок, гэты Сцёпа ўвесь час на дарозе трапляецца»,— неяк па-іншаму Кармілаў паглядзеў на Сцёпу, успомнілася, што калі быў яшчэ малы, то Сцёпа быў усё такі ж: у ботах, у фуфайцы. І цяпер Кармілаў заўважыў, што Сцёпа ўжо стары чалавек, які дрэнна ці добра, але ўжо амаль пражыў жыццё са сваімі клопатамі, планамі, для Сцёпы, відаць, важнымі і цікавымі. Канечне, цікавымі і важнымі, калі ўсё жыццё на іх аддаў... Усё жыццё...

І тут жа, услед за гэтымі думкамі, узнікла адчуванне, быццам усё, што адбываецца сягоння, ужо было ў ягоным жыцці: і вось гэты Сцёпа ў чорнай фуфайцы, які грукае ботамі, і халодны сіверны вецер, і чаканне, і няўтульнасць, якая ідзе не ад холаду...— усё гэта было ў ягоным жыцці, і цяпер Кармілаў нанава праходзіць, паўтарае пройдзены шлях. Быццам бы ён прайшоў па коле і вярнуўся да пачатку. Такое пачуццё калі-нікалі пачало з'яўляцца

апошні год: часта ці то на вуліцы, ці то пры размове Кармілаў заўважаў, што нешта падобнае ў ягоным жыцці ўжо было.

Як толькі Кармілаў гэта адчуў, штосьці пачало адкрывацца яму, і таму так пільна глядзеў ён на Сцёпу, на замеценую, з гурбамі снегу па баках, дарогу, над якой туманіўся ўдалечыні снежны вецер, на два даўно знаёмыя, але ўжо нейкія чужыя рады белых стрэх, дзе выторкваліся тэлевізійныя антэны.

Аўтобусам Кармілаў даехаў да Запруддзя, сышоў на супынку і па расчышчанай трактарам дарозе, якую таксама патроху замятала снегам, пайшоў у сяло, што было метраў за дзвесце ад бальшака. На гэтай жа дарозе сустрэў брата — брат ехаў на санях з незнаёмым мужчынам. Быў ён у валёнках, у фуфайцы, у насунутай на самыя вочы шапцы — саўсім не такі, якога Кармілаў прывык бачыць, калі брат прыязджаў з Мінска ў госці.

Спынілі каня. Брат глядзеў на яго запалымі чырванаватымі вачыма і, саўсім не здзівіўшыся, чаго ён тут апынуўся, гаварыў:

— Гэта, во, цесць памёр. Ты чуў, можа?

Кармілаў кіўнуў галавою.

— Ты ідзі ў хату. А мы па елачкі з'ездзім. Я дык ужо з учарашняга тут. З работы па тэлеграме.— Відаць было, што брату хапіла: пачарнеў і, здавалася, стаў меншы ростам.

Ісці ў хату, у якой Кармілаў так рэдка быў, не хацелася, і таму ён сказаў:

— Давай я з вамі з'езджу. Памагу.

— Ну, садзіся. Паехалі, Юзік,— гаварыў брат і, калі Кармілаў сеў на сані, зноў працягваў, не гледзячы ні на кога:

— Апендыцыт быў. Ужо выпісваць хацелі. А тады трамбоз. Камочак крыві... Артэрыю забіла, і ўсё. Ён, мусіць, так і не паспеў нічога паняць. Пакуль дакторка прыбегла, ужо было позна...

Брат гаварыў і гаварыў, гледзячы на снег нерухомымі чырванаватымі вачыма:

— Шкада. Харошы мужчына быў. Ды і малады яшчэ. Цешча — цешчай. А ён — добры чалавек. Абідна. Толькі жыць яшчэ. Каб ужо стары быў, а то ж яшчэ да пенсіі не дажыў.

Кармілаў маўчаў і не адчуваў у сабе жалю па чалавеку, якога часта сустракаў то ў аўтобусе, то ў сваёй хаце, калі дзядзька Іван прыязджаў да маці ў госці. Ён спакойна слухаў брата, і тая зацятасць і холаднасць, якія былі ў ім апошнія дні, не праходзілі.

Калі прыехалі з лесу і, скінуўшы елачнік, зайшлі ў двор, Кармілаву ў вачах матлянуўся высокі падлетак у сіняй балоневай куртачцы. Без шапкі, з даўгаватымі белымі валасамі, што западалі на вочы, ён, строга паглядзеўшы на Кармілава, пабег у хату са двара. Спачатку Кармілаў і не пазнаў высокага, вышэй за яго, падлетка, а потым ужо, калі той знік у хаце, здагадаўся, што то, мусіць, быў сын дзядзькі Івана.

Славіка ён помніў яшчэ малым, калі ў першы год пасля жаніцьбы брата дзядзька Іван са Славікам і жонкаю прыязджалі да маці ў госці. Тады Славік быў яшчэ саўсім дзіця і, на здзіўленне, лашчыўся не да маці, а да бацькі — не адыходзіў ад яго, і бацька таксама стараўся як-небудзь ды зачапіць рукамі сына. Жонка дзядзькі Івана тады гаварыла: «Во як, я яму так і не патрэбна, яму толькі бацька трэба». Такім Славік і астаўся ў памяці — увесь час побач з бацькам. А цяпер толькі белыя, як выгаралыя на сонцы, валасы, такая ж белая, як у маленстве, скура і яшчэ нешта тонкае, няўлоўнае ва ўсім абліччы напаміналa таго малога, гэта Кармілаў адчуў і ў выразе твару, і ў кароткім позірку глыбокіх вачэй, у якіх не было ніякай разгубленасці, а толькі злосць.

— Гэта хто, Славік? — спытаў Кармілаў у брата.

— Ага, Славік,— сказаў брат і пачаў атрасаць снег з валёнак.— У восьмым класе. Талковы хлапчанё расце. У музыкальную школу, во, ходзіць, хваляць...

Кармілаў таксама атрасаў снег і ўспамінаў, як маці гаварыла пра Новы год у сватоў. «Ой, мороз, мороз...»

Яны зайшлі ў сенцы, дзе стаяла чалавек сем. Тут былі адны мужчыны. Збоку, ля дзвярэй, на лаве была труна, абабітая чырвонай матэрыяй з жоўтымі кутасікамі па краях. На труне, бокам, ляжала века. Унутры як труна, так і века былі абабіты белай матэрыяй. Кармілаў зняў шапку і спыніўся ля дзвярэй.

Брат тут жа, у сенцах, пераабуўся, зняў фуфайку і сказаў нейкаму мужчыну:

— Ну, прывезлі елачак. Вот толькі дарогу замятае.

— Сёлета снегу многа. За ўсе гады. Абы толькі машына прайшла,— сказаў мужчына, які стаяў у цэнтры — пажылы, амаль дзед, у зімовай шапцы, з невялічкаю сівой барадою, у поўных, як надзьмутых у каленях, штанах, ён, здавалася, стаяў як прысеўшы. Спакойна і неяк смачна мужчына пасмоктваў папяроску і пазіраў вакол сябе.

— Нічога, дзед, не замяце за які час-другі. Ды і нашы з завода скора павінны пад'ехаць. А як будуць ехаць, машынаю з разгону праб'юць,— сказаў другі мужчына — на галаву вышэйшы за старога, паўнашчокі, здавалася, гэта быў брат Атлантава, так ён быў на яго падобны: гэткім жа гучным голасам, сваёй паўнатою, такім жа смелым і рэзкім позіркам, які рэдка каму ўступае. Звычайна калі слухаеш такіх людзей, то часта здаецца, што так, як яны гавораць, і павінна быць.

— А калі ж вашы прыедуць?

— Ды ўжо далжны быць. І дзірэктар. І парторг. І музыканты.

Зноў мужчыны заціхлі. Тады стала чутно, як у хаце нехта плача. Спачатку ціха і роўна, а пасля ўсё грамчэй і грамчэй: «А мой папачка...» Плакала жанчына, відаць, то была жонка брата. Пасля плач заціх. Зноў за дзвярыма стала ціха.

Як толькі пачуўся плач, брат нахмурыўся, пайшоў у хату. І Кармілаў таксама ведаў, што трэба пайсці ў хату, упэўніцца ва ўсім, але як хто не пускаў яго за парог.

— Гэта во ў тым годзе я з ім з ваеннага ўчоту здымаўся,— сказаў трэці мужчына някідкага выгляду.— Значыцца, выйшлі мы з ваенкамата, я яму і гавару: «Пойдзем, Іван, адмецім такое дзела». А ён і кажа: «Ай, на работу пайду». І пайшоў. Хоць у яго павестка на руках была, як і ў мяне. Так я адзін і адмячаў. Наадмячаўся, помню, чуць дамоў дабраўся.

— А ён у нас такі быў,— зноў загаварыў мужчына з барадою,— нікому вока не запарушыў. Нікому дарогі не перабег. Абідна, канечне... Во, усіх сусе-

дзяў абыдзі, і ніхто слова дрэннае на яго не скажа. Жыць бы яшчэ ды жыць. І за што, думаецца...

— А-а, што тут, дзед, рассуждаць,— гучна і, здавалася, нават з нейкай злосцю перабіў старога заводскі.— Жысць — такая штуковіна: тут быў, хадзіў, гаварыў, а тут — няма чалавека, саўсім нідзе нічога нямашака...

Зноў было маўчанне.

І тады Кармілаў рашыўся. Зняў шапку, ціха адчыніў дзверы і ўвайшоў у хату. Людзі ў хаце стаялі і сядзелі як у першай палавіне, ля кухні, так і ў другой, чыстай. Тут жа была і маці — сядзела на канапе ля кухні, апусціўшы галаву. Убачыўшы яго, маці здзівілася, пасвятлела, але нічога не сказала.

Нябожчык з сіне-жоўтым тварам, са шчыльна сціснутымі вуснамі, з закрытымі вачыма ляжаў у чыстай палавіне хаты на дошках, пакладзеных на лаўкі і засланых дыванам. Ён ляжаў галавою на кут, а нагамі да дзвярэй. На ім былі чорны касцюм, новыя, мусіць, ні разу не абуваныя, чорныя туфлі, шэрая нherаркая кашуля. Сіне-жоўтыя рукі былі пакладзены на грудзі. Ён быў падобны на жывога дзядзьку Івана і нечым ужо не падобны. І таму, што ён быў саўсім не такі, як жывы, выраз твару набыў загадкавасць, якая бачылася і ў пасінелай скуры, і ў заплюснутых сярод белага дня вачах, і ў шчыльна самкнёных вуснах, і ў каменнай нерухомасці, якой было напоўнена ўсё надзіва вялікае цела.

Кармілаў моўчкі стаяў ля ног нябожчыка і, як ні дзіўна, нічога не адчуваў. Потым ён павярнуўся і зноў пайшоў у сенцы. І ўжо як выходзіў, зноў убачыў Славіка, які стаяў за людзьмі на кухні, дзе бялела печ. Здзівіў позірк Славіка — нейкі злосны і ўсё той жа калючы. Здавалася, гэтым позіркам Славік хацеў сказаць: «Якое ваша дзела? Чаго вы тут сабраліся?»

У сенцах стаялі ўсё тыя ж мужчыны і гэтак жа ціха, як і раней, гаварылі:

— Ну, во, і хата ёсцека ў яго. Добрая хата. І аддыхне ён,— казаў старэйшы мужчына.— Пайшоў Іван на воддых.

— Які там, дзед, воддых? — усё ўбіваўся ў гамонку заводскі.

— А чаго там, скора і мне пара сабірацца,— як і не чуючы заводскага, працягваў стары.

— А колькі ж табе, дзядзька Андрэй?

— Ну, а сколькі дасі? — стары павярнуўся на голас — ён заўсёды паварочваўся тварам да таго, хто да яго звяртаўся. Толькі на заводскага ён чамусьці не глядзеў.

— Ды пад семдзесят будзе.

— Семдзесят шэсць ужо,— стары пыхкаў папяроскаю і, усміхаючыся, гаварыў як пра што дужа прыемнае: — Пайду і я скора. Пара ўжо.

— А што тады мне гаварыць, калі Андрэй сабіраецца? — пачуўся з-за спінаў слабы голас.

Неяк самі сабою мужчыны расступіліся, і Кармілаў убачыў саўсім старога — са зморшчанай, як высахлай, скураю, без многіх зубоў, толькі адны вочы жыва блішчалі.

— Колькі ж табе, дзядзька Мікола?

— А-а, восемдзесят пяць,— гаварыў дзядзька Мікола і ківаў галавою.— Восемдзесят пяць ужо. Ты, Андрэй, малады яшчэ, наперад бацькі ў пекла не сунься. Гэта мне дык ужо можна ісці.

— Ды нам ужо хопіць,— зноў спакойна гаварыў Андрэй.— Гэта во яму дык ба і трэ было пажыць. Абідна за яго.

Нешта велічнае і ў той жа час простае было ў словах і разважаннях старых. Без ніякай мітусні, з усмешкамі яны гаварылі пра тое, пра што Кармілаву і думаць не хацелася.

Кармілаву ўспомнілася, як жылі і паводзілі сябе старыя ў ягонай вёсцы — таксама вот гэтак жа нетаропка і проста, але калі ўжо за што браліся, то даводзілі да канца... А ў ім, як і ў заводскім мужчыну, які так нагадвае Атлантава, нічога такога няма, яны ўвесь час спяшаюцца, мітусяцца, і ці не таму, што...

Нешта адкрылася Кармілаву, быццам ён хоць на кароткі міг ды зазірнуў за тую чорную заслону, ля якой так доўга блукаў, толькі цяпер яму было яшчэ незразумела: ці то старыя не разумелі і не адчувалі, пра што гаварылі, ці то ведалі нешта значна большае.

## 9

Адчыніліся дзверы, і ў сенцы зайшлі двое мужчын. Зняўшы шапкі, яны пачалі здароўкацца. Потым яны пайшлі ў хату.

— Нашы прыехалі,— сказаў заводскі мужчына.— Высокі — гэта дзірэктар, а меншы — парторг.

Тут жа з хаты выйшла поўная жанчына і сказала:

— Ну, мужчыны, мусіць, заносьце труну. Дзядзька Андрэй, вы тут пакамандуйце.

— Зараз, Надзя. Усё па-людску будзе. Няхай-тка і ў сваёй хаце ён паляжыць трохі. Ну, мужчыны, бярыцеся.

Мужчыны ўзялі труну і, адчыніўшы дзверы ў хаце, панеслі яе да нябожчыка. У хаце адразу ж замітусіліся, зноў пачуўся глухі плач.

Але Кармілаў не пайшоў ля труны, і без яго хапала мужчын. Застаўшыся ззаду, ля парога, ён толькі глядзеў на мітусню людзей і па асобных рухах здагадваўся, што робіцца ў другой палавіне хаты.

Калі нябожчыка паклалі ў труну і людзі расступіліся, Кармілаў убачыў, што ў труне нябожчык набыў болей строгі выгляд і цяпер, калі ён ляжаў у труне, была нейкая завершанасць. Пачуўся плач і крык жанчын.

Кармілаў выйшаў на вуліцу, і калі выходзіў, у сенцах зноў сутыкнуўся са Славікам. Вочы ў Славіка былі сухія, і позірк ягоны быў усё такі ж строгі. Славік спакойна глядзеў на людзей, быццам тое, што здарылася, не мела да яго ніякага дачынення.

Прайшло яшчэ з паўгадзіны. Прыехалі на аўтобусе заводскія: музыканты і жанчыны з вянкамі. Пара было выносіць труну з нябожчыкам, але чым бліжэй набліжаўся гэты міг, тым болей мітусіліся ў хаце людзі, тым большалі плач і крыкі жанчын. Трэ было некаму сказаць, падаць каманду на вынас, але чамусьці ніхто ці то не хацеў, ці то не адважваўся распараджацца ў чужой хаце. Адусюль чулася між людзей ціхае: «Ну, выносіць пара»,— ля труны ўжо стаялі мужчыны, але яны ніяк не браліся за яе. І толькі той заводскі мужчына, гучна перакрываючы крыкі і плач, сказаў: «Бярыцеся, мужчыны. Панеслі. Гэта ніколі не скончыцца...»

А потым ужо, калі, здавалася, болей не было як цярпець плачу, што стаяў у хаце, мужчыны ўзяліся за труну...

Кармілаў таксама ўзяўся за труну — спераду, дзе ногі нябожчыка. Упершыню ў жыцці ён адчуў цяжар мёртвага цела. Калісьці ён ніяк не змог бы гэтага зрабіць, але цяпер ён чамусьці ведаў, што так, як робіць, трэба і можна рабіць. І цяпер, калі ўсё гэта адчуў, пачаў разумець нейкі вялікі сэнс і плачу, і людской, здавалася, бесталковай мітусні, і нетаропкасці, і нават самога цяжару мёртвага цела на плячах. Калісьці ён лічыў, што ўсё гэта — лішняе, што ўсё можна зрабіць прасцей, але толькі цяпер зразумеў, што ва ўсім, што адбывалася ў гэты дзень, ва ўсім, што рабіў сам і рабілі другія людзі, было штосьці неабходнае, як яму, так і другім. А калі ўсё зрабіць прасцей, не так, як робіцца цяпер, а як, магчыма, хацелася б зрабіць таму ж заводскаму мужчыну, то нешта прападзе, тое, што нельга выказаць словам...

На двары ля машыны зайграла музыка — неяк адразу нізкі моцны гук труб ударыў у грудзі, і тут жа следам зазвінелі талеркі барабана, як бы паўтарылі гэты гук, толькі значна вышэй... І тое, што побач іграла музыка, што была мітусня і крыкі,— ад усяго гэтага Кармілаў адчуваў, як на людзях адтайвае ў душы, яму станавілася шкада не толькі дзядзькі Івана, але і гэтых разгубленых людзей. Успомнілася, што амаль такое ж пачуццё жалю было ў ім пасля дзіўнага сну.

Як староннімі вачыма бачыў Кармілаў і сябе, без шапкі, і труну з нябожчыкам, якая, пакалыхваючыся на мужчынскіх плячах, плыла скрозь людскі натоўп да машыны з адкінутымі бартамі і пакладзеным на кузаў ельнікам. І яшчэ Кармілаў адчуваў, як ціснула, прыціскала да зямлі цяжкая труна.

Машына памалу кранулася. Крануліся следам і людзі. Ззаду ўсё звінела і звінела музыка, але цяпер яна амаль заглушалася плачам і крыкамі. І здавалася, што ў паветры вісіць нешта трывожнае, што прымушае людзей часта азірацца адно на аднаго, а потым неяк самі сабою позіркі спыняліся на сіне-васковым твары, і тады людзі разумелі, адкуль ішла трывога.

Кармілаў пайшоў з боку ад машыны. Адразу ж услед за машынаю ішлі блізкія нябожчыка: жонка, дачка, ягоны брат, старэнькая маці — яе вялі падручкі — і яшчэ нейкія людзі, якіх Кармілаў не ведаў. Адзін Славік ішоў збоку, не трымаючыся ні за кога — ва ўсё той жа балоневай куртачцы, без шапкі, у вузкіх чорных штоніках, якія былі яму трохі караткаватыя, як бывае ўсё караткаватым на падлетку, які расце на вачах. Славік час ад часу адкідваў з вачэй рукою белыя валасы і ўсё глядзеў, выцягваючы шыю, на нябожчыка. Ён не плакаў і нават не моршчыўся, быў такі ж, як і раней.

Кармілаву падумалася, што пра Славіка ўсе забыліся. Так бывае, калі кожны заняты сваім болем. Кармілаў добра помніў тыя дні, калі хаваў свайго бацьку, але тады яму было за дваццаць, і ён хоць трохі ды паспеў паглядзець на свет, а вось Славік... Ён памкнуўся падысці да Славіка, узяць яго за рукаво, сказаць што, але гэтага не зрабіў — пабаяўся фальшу. Таму цяпер Кармілаў толькі глядзеў на Славіка і нічога не казаў.

Калі машына выехала з сяла на поле, вецер адразу ж пабольшаў, і людзі панадзявалі шапкі. Зверху наўскасяк ляцеў жорсткі снег, здавалася, у сяле яго не было, а тут ён падаў і падаў: на машыну, на замеценую дарогу, на людскія апушчаныя галовы, на твар нябожчыка. Спачатку думалася, што снег на твары нябожчыка будзе таяць, але ён не таяў, і гэта здзіўляла.

Ад холаду людзі прыціхлі, але хады не паскаралі. Уперадзе машыны з вянкамі ў руках ішлі жанчыны з завода. Там жа ішоў і той малады заводскі мужчына — ён быў то ля жанчын, памахваў ім рукамі, каб хутчэй ці павольней ішлі, то ля кабінкі шафёра, і таксама ўсё махаў рукою.

І толькі цяпер, на полі, Кармілаў заўважыў, як выцягваецца ў нітку шыя Славіка, як пільна глядзіць ён на сіне-белы твар — калі машына калыхалася, здавалася, у такт гэтаму пакалыхваннюківалася і галава Славіка. Як прывязаны ён быў да таго каменнага твару, і думалася Кармілаву, што Славік нікога не заўважае: ні маці, ні сястры — нікога. Кармілаў глядзеў на яго худзенькія, яшчэ дзіцячыя плечы-

кі, абцягнутыя балоневай куртачкаю, на караткаватыя штонікі, і нечакана яго аж скаланула...

Ён жыва ўявіў тыя чорныя доўгія ночы, якія былі ў Славіка наперадзе, тыя ціхія, аднаму яму вядомыя, закуткі, дзе ён будзе хаваць ад людзей свае вочы, тое пастаяннае чаканне, якое з гадамі так і не мінецца...

І тут жа, услед за гэтым, Кармілаву адкрылася нешта другое ў сваім жыцці, быццам цяпер другі раз за дзень яму зноў удалося зазірнуць за тую чорную заслону. Кармілаву падумалася, што і ён сам амаль такі ж, як і гэты Славік. Толькі не з такім пякучым болем у душы.

Памалу адстаў Кармілаў ад машын і пайшоў ззаду, амаль апошнім, і ўсё думаў пра тое, што адкрывалася.

## 10

Зноў успомніўся той пах застаялага паветра на гарышчы, тая спакуслівая кніга з высахлымі зліплымі старонкамі... Яшчэ ён убачыў перад сабою акно хаты, вячэрні паўзмрок, што ціснецца да зямлі, і малога ў той хаце. І тады, як усё гэта ўспомніў, да яго на імгненне вярнулася шчаслівая радасць быцця, якой калісьці была напоўнена кожная хвіліна. Тады ён, помніцца, ведаў, што ў яго ёсцека дом — дом быў не проста месцам, дзе яны жылі, а нечым значна большым, тым, вакол чаго ўсё круціцца і ад чаго ўсё вымяраецца; ёсць дужы бацька, маці, якая заўсёды пашкадуе; а тады ўжо, за ўсім гэтым, як за сцяною, былі і вуліца, і рачулка з агародамі, і бальшак, і нават далёкі загадкава-салодкі горад. І што б з ім ні здарылася, ён ведаў, што дапамога будзе ў тым баку, дзе дом, бацька і маці.

«Аа-аа»,— і тут Кармілаву захацелася аж закрычаць ад болю. Ён здагадаўся, чаму так цяжка апошнія месяцы...

І ён пачаў успамінаць, як жа так сталася і хто ў тым вінаваты... Няўжо тая запыленая кніга на гарышчы?..

Тады, як перад ім з'явілася права выбару, ён, як і другія аднагодкі, адрываўся ад дому, усё далей і смялей, і ўсё болей спакуслівымі былі яму гэтыя

паездкі. І тое, што Кармілаў пакідаў, здавалася, будзе вечным, думалася, што назад ён заўсёды можа вярнуцца і там усё застанецца такім жа.

І вось электрычка, цягнік ці аўтобус і пільны позірк у акно, за якім мільгае вясковая гразкая дарога, незнаёмыя рады стрэх, пахіленыя жардзіны з тэлевізійнымі антэнамі, пачарнелыя аселыя стагі на чыстых лугах, вузкая рачулка, схаваная алешнікам, вывернутыя, ссунутыя ў груды карэнні на напаўасушаным балоце і шырокая канава з бліскучай палосачкаю вады на самым дне, статак кароў і ягонае мурзатае маленства, якое глядзела на яго, сваё будучае, з нямым захапленнем,— усё гэта, вядомае і блізкае, выціскала слёзы, і радасна думалася, што ўсё становіцца на сваё месца, усё вяртаецца на кругі свае: і прыйдзе згублены спакой і яснасць, і ён зможа пайсці за плугам, забыўшыся пра шэрасць асфальту, пра шматлюдныя патокі, пра агні рэклам, пра рой машын на шырокім праспекце. І ён, задаволены, пачынаў нават мурлыкаць песню альбо ўключаў вечна шчаслівы і радасны транзістар.

Вот так ён у маладосці і падыходзіў да роднае хаты: з чамаданам ці спартыўнаю сумкаю ў адной руцэ і са страшэнна радасным транзістарам у другой. І бачыў ён старыя знаёмыя твары, рукі, якія цягнуліся да яго і застывалі на паўдарозе. І ён схіляў галаву, хаваў вінавата вочы і яшчэ грамчэй уключаў транзістар. Вось ён і дома.

Дома.

Вачыма ён шукаў бярозу з доўгім веццем, глядзеў на гародчык і на пачарнелую лаўку, потым агародам выходзіў на выган і накіроўваўся да рачулкі. Яшчэ ён хадзіў на могілкі — трэ было паглядзець, упэўніцца, што той свет, ад якога пайшоў, існуе такім жа, што ён не змяніўся.

Але, здзіўлены, ён заўважаў, што дарогі пакарацелі, рачулка памялела і сама ваколіца вакол роднае хаты стала меншай, быццам зямля ўсохлася, як шагрэневая скура. Ён ішоў у лес, што чарнеў за рачулкаю, і там тое ж самае: сосны ўжо не падпіралі воблакі, спевы рэдкіх птушак не радавалі, цень невядомага звярка, што ледзь чутна шоргаў за далёкім кустом, не прымушаў застыць на паўкроку, і зязюлі яму не хацелася пабачыць.

Спішаны і разгублены, як ашуканы, ён вяртаўся ў свой двор, таксама маленькі і ўсохлы, азіраўся, некага ці нечага шукаючы, а потым заходзіў у ціхую нізкай столлю хату, садзіўся за стол і думаў пра ўсё, што бачыў і пачуў.

Праходзілі дні, і цішыня, да якой ён імкнуўся, уцякаючы з горада, пачынала набываць невядомы сэнс, куды б ён ні пайшоў і што б ні рабіў, здавалася яму, што нечага не хапае, здавалася, што непрывычная тугая цішыня ішла ад даўно знаёмага плуга, ад сякеры, ад шэрых з высахлай патрэсканай скурай рук чалавека, які заняты, заняты, заняты — настолькі, што і сам не заўважае гэтай цішыні. Вечарамі ён бясмусьці выходзіў на выган і падоўгу глядзеў на белую ад расы траву, на палоскі туману, што слаўся ўдалечыні над рачулкаю, на белую немігаючую зорку, што загаралася на яшчэ светлым небе, на чорны лес, які заміраў да світанку. Ён чуў далёкую пласцінку, якую круцілі ў клубе, з-за кустоў даносіўся пошчак салаўя, а ззаду, за спіною, чуўся крык дзяцей, гудзенне далёкага трактара, брэх сабакі, нечы далёкі крык — і ўсё гэта, як у ваце, ляжала ў цішыні, якая на нешта напамінала.

На што?..

А пазней, калі пад зорным небам вяртаўся з выгану па агародзе — чорны ў цемені бульбоўнік быў ужо мокры і ногі ягоныя таксама мокрыя,— нечакана разумеў, што нічога не здарылася, ён пастаяў ля самюсенькай сцяны і адышоў, а, здавалася б, павінна... І тут яму ўспаміналася мора агнёў, водбліскі, як ад электразварак, шэрасць асфальту і цэглы... І тады ўжо ўзнікала пытанне: а навошта ён тут?

Навошта?

Пасля таго як ён упэўніўся, што нічога з ім пасля вяртання не здарылася, ён пачынаў другімі вачыма глядзець і на свіней, і на карову, і на сіні ўдалечыні лес, і на рачулку, і нават на знаёмы да болю твар чалавека, які заняты спрадвечным заняткам, што бараніў ад нязвыклай цішыні. Яснасць пытання і няяснасць адказу гналі яго адтуль, ад той бярозы з доўгім веццем, ад пачарнелай ля гародчыка лаўкі, ад жоўтага пяску пасярод вуліцы. Ён уцякаў, як і тыя падлеткі, што ад сораму і жаху нацягвалі на сябе распісаныя газетнымі аб'явамі кашулі, чаравікі на

платформе, шырокія раскляшоныя штаны, уключалі на ўсю моц транзістар і гаварылі разгубленым людзям: «Бывайце» альбо: «Пакеда».

Як і калісьці, ён кідаўся ў шматлюдныя патокі, хапаючыся за знаёмствы, пасля якіх былі маўклівыя цяжкія гадзіны перад світанкам, калі хацелася падняцца з мяккага белага ложка, падысці да акна і застыць, узіраючыся праз шкло, пакрытае крапелькамі вады, у яшчэ цёмныя вокны шматпавярховай будыніны, што стаяла недалёка, прыслухацца да шоргату мятлы аб асфальт, ціхага і мернага, да яшчэ рэдкага гудзення машын. Яму станавілася душна і занадта цёпла, хацелася памалу апрануцца і ўцякаць ад гэтай страшэннай цяжкой цішыні. Але нічога такога ён не рабіў, ляжаў моўчкі побач з чалавекам, у кватэры якога меўся тэлевізар, халадзільнік, дыван на сцяне, паліца для кніг, партрэты вядомых кіназорак — амаль усё, што патрабавалася для шчасця, якое толькі чамусьці ніяк не паяўлялася. Ён чакаў світанак, хаваў пры развітанні вочы, і вусны ягоныя крывіліся ва ўсмешцы, якая так нагадвае плач. І толькі на вуліцы, уцягваючы ў сябе вільготнае халаднаватае паветра, ён разумеў, што застаўся адзін, замены і яднання не адбылося, наадварот, яшчэ болей адчуў адзіноцтва, ад якога так і не ўдалося ўцячы.

І тады ўжо, як наступны этап, перад ім пачыналі маячыць пасада, веды, работа, асабістая, з усімі выгодамі, кватэра, жанчына, якая заўсёды будзе побач, чэргі і бегатня за кнігамі, у якіх апавядаецца пра народ, асабістае шчасце, знойдзеныя і згубленыя ідэалы,— думалася, што вось-вось і ён стане шчаслівы, да яго нейкім чынам праз усё, за што хапаўся, вернецца тое, што калісьці з лёгкасцю пакінуў...

Кармілаў ішоў па дарозе, ужо амаль замеценай снегам, яму хацелася нешта зрабіць, каб зноў хоць на імгненне перажыць тую забытую радасць быцця, але ён не ведаў, што зрабіць. Ён многае што ведаў, але самае крыўднае, што нічога не мог зрабіць. Думаў ён пра сваё жыццё так, быццам можна было прыдумаць нешта такое, што дапамагло б пазбавіцца ад слодычы спакусы і горычы расплаты.

# *Варыянт*

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### 1

Непрыкметна рассоўваецца, растае начны змрок, пікнуць зоры ў высокім чорным бяздонні, быццам яны падымаюцца ўсё вышэй, дзе іх і нельга разглядзець. І вось тады, калі ад паніжэлага пасвятлелага неба над ціхай, яшчэ соннай зямлёю становіцца святлей, відаць тое, што дагэтуль было схавана і таму здавалася загадкавым, бо так ужо атрымліваецца, што змрок заўсёды звязаны з загадкаю, і да таго часу, пакуль не будзе перад вачыма яснага святла, чалавек так і будзе пакутаваць ці, ва ўсякім разе, вагацца ў няўпэўненасці і сумненні. І невядома, чаму так, ці гэта — ад маленства, калі цёмны закутак у вячэрнім прыцемку палохаў і прыцягваў, ці то нейкім чынам праз пакаленні ў людзях застаўся ўспамін пра час, калі слабы і бездапаможны продак грэўся ля вогнішча, пазіраючы на чорнае, усыпанае зорамі неба, на шчыльную сцяну цемені, у якой часта хавалася загадкавае Штосьці.

...Як і тыя сны пра падзенні-палёты над зямлёю. Кажуць, што яны — таксама напамін.

Памалу з цемры як бы праяўляюцца бярозаўскія вуліцы, без ніводнага чалавека,— відаць хаты з тэлевізійнымі антэнамі, якія высока тырчаць над белавата-шэрымі шыфернымі стрэхамі, мокрыя ад расы агароды, акружаныя не высокімі, але шчыльнымі фарбаванымі дашчанымі платамі, шматпавярховыя цагляныя і блочныя будыніны, што высяцца гуртам у новай частцы Бярозава, заводскія карпусы і каміны — яны як у старой частцы, так і ў новай... І яшчэ,

калі глянуць на зямлю зверху, заадно можна ўбачыць і раку Бярозу з шырокім заліўным лугам — яна дзеліць Бярозава напалам; над чорнай, як маслянiстай, стужкаю нерухомай вады сцелецца пара, як дым усё роўна. Да берага Бярозы прыткнуты лодкі, «замкнёныя» на ланцугі. І лодкі, і тыя ж цяжкія ланцугі, і нерухомая вада, і трава, што звешваецца з нізкага берага да самай вады,— усё гэта невыразнае, соннае...

З кожнай хвілінаю над зямлёю становіцца святлей, і вось настае той час, калі пры ўспаміне аб начной няўпэўненасці бярэ здзіўленне — усё ясна і проста, зусім не такое, якім здавалася яшчэ якую гадзіну назад.

За Бярозавам у тым баку, дзе ледзь бачна сінее лес, бялее, а затым разгараецца небасхіл — там вось-вось у ружова-малінавым ззянні выгляне сонца. Яно бязгучна і паволі ўсплыве над далёкім лесам, і тады тут жа, быццам гэтага толькі і чакалі, пачнуць звонка шчабятаць птушкі — як у лазовых кустах, што купамі растуць на заліўным лузе, так і ў бярозаўскім парку, у невялічкіх вулічных скверах. Сонца будзе адбівацца ў вокнах цагляных і шматпавярховых будынін, яно будзе адбівацца ў нерухомай рачной гладзі, іскрыста зіхацець у кропельках вады на лузе, і ўсё гэта, пасля змроку, як свята...

Але бярозаўцы ў такі ранні час яшчэ спяць, і толькі рэдкія дворнікі паказваюцца на вуліцах. З мерным шорганнем, быццам косамі, яны махаюць перад сабою доўгімі мётламі, змятаючы з шэрага асфальту пясок, паперу, трэскі, бітае шкло — усё, што засталося ад мінулага дня, быццам болей нідзе нічога не засталося, а калі што дзе і было, то бясследна знікла, і толькі пакамечаная папера, картонкі, бітае шкло, бутэлькі засталіся як напамін ці маўклівыя сведкі... На бярозаўскіх вуліцах паказваюцца крытыя грузавыя машыны — следам за імі ў паветры доўга вісіць пах толькі што спечанага свежага хлеба. А вось і першы маршрутны аўтобус гулка коціць па вуліцы, падбіраючы на супынках начных вартаўнікоў, рыбакоў — са звязанымі пукамі вудоўяў, у гумавых ботах, з рэчмяшкамі за плячыма, у насунутых на самыя вочы памятых летніх шапках, яны маюць незалежны, нават трохі загадкавы выгляд,— гэткіх

жа самастойных грыбнікоў і ягаднікаў з каляровымі пластмасавымі вёдрамі.

Блішчыць вада ў Бярозе, у ёй ярка адбіваецца чырвонае вялікае сонца. Над заліўным лугам, над ракою ўсё вышэй падымаецца туман, ён засцілае ўсё наўкола: і лазовыя кусты, і нават тыя хаты, што стаяць ля санстанцыі пры самай рацэ. І калі ў такі ранні час выпадае каму ісці па высокім бетонным мосце, які злучае старую і новую частку Бярозава, то здаецца, што ўсё наўкола: і ледзь бачныя ў тумане хаты па абодвух берагах Бярозы, і мокрыя кусты на лузе, і задымленая ўнізе пад мостам вада, і чырвонае, яшчэ не яркае — можна глянуць — сонца над лесам — усё гэта хоць і прыгожае, але не зусім. Думаецца, апрача ўсяго, што ёсць перад вачыма, ёсць і павінна быць на свеце нешта яшчэ, чаго нельга ўбачыць ці памацаць, а можна толькі адчуць душою. На нейкія хвіліны чалавек тады можа задумацца, як ён, бывае, задумваецца, калі бачыць перад сабою штосьці прыгожае ці незвычайнае, бо тое, прыгожае ці незвычайнае, напамінае на нешта. Толькі вот на што — на страчанае навек ці яшчэ не знойдзенае. І ніяк чалавек не можа зразумець гэтага.

Але бетонны мост застаецца за спіною, прайшоўшы яго, чалавек з адной часткі Бярозава трапляе ў другую, на тыя вуліцы, якія памалу напаўняюцца людзьмі, што спяшаюцца да супынкаў аўтобусаў, да прахадных; многія вядуць за ручкі, а то і нясуць яшчэ сонных дзяцей у яслі, садзікі — пачынаецца дзень...

## 2

Спачатку праз сон Міле чуецца гудзенне першых пасля ночы машын. Калі — гэтае гудзенне асацыіруецца з нейкім сном, а калі — проста адразу Міла чуе, як на вуліцы міма акон па адной праходзяць машыны. Відаць, ад гэтага гудзення і ўзнікае зыбкае і спачатку неакрэсленае веданне таго, што ноч прайшла, мінула і ўжо — ранак, трэба хутка падымацца. І хоць Міла ведае, што яшчэ якія дзве гадзіны можна спаць спакойна, але яе сон парушаны гэтым гудзеннем, якое даносіцца ў хату нават праз зачыненыя напач аканіцы. Міла часта варочаецца, ёй зда-

ецца, што мяккі матрац муляе, і яна ніяк не можа выбраць зручнае месца. Падушка здаецца то залішне высокай, то нізкай. Гэтае пачуццё няёмкасці і няўтульнасці на грані сну і рэальнасці ўрэшце становіцца пакутлівым — Міла прачынаецца.

Некалькі хвілін яна ляжыць у ложку з адплюшчанымі вачыма. Цяпер гудзенне машын не здаецца такім моцным, як у першыя хвіліны абуджэння. Чуецца рытмічнае пасапванне Колі. Міла зайздросціць Колю. Калі Машу яшчэ вадзілі ў садзік, то і Міла тады вот гэтак жа соладка і беспрабудна спала, усхопліваласяя толькі ад рэзкага і нечаканага званка будзільніка. Тады яна вечна недасыпала, і ёй, помніцца, думалася, што вот падрасце Маша і яна ўволю выспіцца. За ўсе гады адаспіцца. Але чым больш шала Маша, тым слабейшым і не такім салодкім станавіўся сон... А цяпер дык і гудзенне ранішніх машын мяшае.

Ляжаць нерухома надакучае, і таму хочаш не хочаш, а прыходзіцца падымацца. Седзячы на ложку, Міла нацягвае на сябе халат, насоўвае на босыя ногі тапачкі з белай мяккай футраю ўнутры — Машын падарунак мінулай восенню,— а затым ідзе са спальні.

Ад зачыненых аканіц у хаце паўзмрок, і толькі сонечныя промні прабіваюцца праз іх. Як хто ліхтарыкам свеціць. Ля парога Міла мяняе пакаёвыя тапачкі на іншыя, потым праз веранду выходзіць на ганак. Там яна аж зажмурваецца ад яркага, ужо даволі гарачага сонца, якое звысоку б'е ў вочы.

Асфальтаванаю дарожкаю Міла ідзе да весніц, адпірае іх. На вуліцы Міла па адной адчыняе аканіцы. Заадно бачыць, што ўжо даволі людна, каторыя — спяшаюцца на работу, а каторыя — на рынак, які зусім недалёка. Вярнуўшыся ў двор, Міла пазяхае і глядзіць на агарод.

Ужо вось-вось зацвітуць агуркі, якія з вясны яны з Колем накрывалі поліэтыленавай плёнкаю. Памідоры сёлета позція, але калі іх закручваць у слоікі, то так яно і лепей: лепш будуць стаяць і слоікі не будуць узрывацца. Відаць зялёныя грады морквы, буракоў, бульбоўнік, кусты пахучых — аж з двара чуваць — парэчак, агрэсту. У куце агарода высяцца яблыні. Сёлета завязаліся добрыя такі яблыкі. Ле-

тась амаль і не было, а вось сёлета ўрадзілі. Кажуць, так і павінна быць: яблыкі растуць праз год. Сёлета год увогуле ўраджайны, хопіць усяго: і варэння, і соку, і кампотаў. Трэба будзе дастаць накрывак на слоікі. Не забыцца сказаць ці пазваніць Машы — у яе знаёмая робіць на базе. Цяпер трэба накрыўкі даставаць, а не пазней, пад восень, калі іх нідзе са свечкамі не знойдзеш. Таксама во — дробязь, а даставай дзе і як хочаш, хоць ты ў тых цыганак на рынку купляй, пераплачвай...

Вярнуўшыся ў хату і зноў памяняўшы ля парога тапачкі, Міла ідзе на кухню, дзе пад яркім сонцам блішчыць белая гладкая мэбля з адзінага польскага набору: і столік, і табурэткі, і шкафчык, і буфет, напоўнены шклянкамі і посудам — крыштальныя наборы Міла трымае асобна, у зале ў серванце за шклом. Такой жа беллю, як і мэбля, адліваюць халадзільнік і газавая пліта.

Міла ўторквае ў разетку вілку электракіпяцільніка, затым адчыняе дзверцы халадзільніка і, зазірнуўшы ў яго, думае, што гатаваць на сняданак. Чысціць і смажыць бульбу — доўга ды і не ахвота. Можна згатаваць яечню і яшчэ падсмажыць каўбасы. Відаць, так яна і зробіць.

З халадзільніка Міла вымае каўбасу, яйкі, масла ў сподку — усё гэта кладзе на стол. Потым запальвае газ, ставіць на агонь патэльню з кавалачкам масла. Тут жа, пакуль растае масла, наразае нажом тоўстую вільготную каўбасу. Пазней, калі каўбаса падсмажваецца з аднаго і з другога боку, разбівае нажом па адным яйкі і вылівае іх на патэльню. Цяпер трэба глядзець, каб яечня атрымалася не дужа сухой — Коля не любіць такой. Нарэшце патэльню можна здымаць з агню і на яе месца ставіць чайнік.

У спальні парыпвае ложак — прачынаецца Коля. Праз якую хвіліну ён выходзіць на веранду, бярэ вядро з вадою і знікае на двары. Мыцца можна і на кухні, але летам, калі, як цяпер, цёплае надвор'е, Коля любіць мыцца на двары.

Міла выносіць на веранду яшчэ гарачую патэльню, закрытую зверху крышкаю, белы хлеб, булку, чайнік з каваю, масла ў сподку.

Вось і ўсё — сняданак гатовы, цяпер можна ісці ў спальню і апранацца на работу.

У спальні Міла адчыняе дзверцы шафы і вагаецца, выбіраючы плацце. Сягоння цёпла, можна апрануць нешта лягчэйшае і больш яркае. Відаць, вось гэта плацце, летняе, якое пашыла зімою. Яго Міла толькі два разы і надзявала. Ды і куды яна яго можа апрануць, як не на работу. Калі, падумаўшы, разабрацца, дык палова жыцця на рабоце праходзіць, а другая — ля хаты.

Міла скідвае з сябе халат і разглядвае ў люстра свой твар, цела. Ранкам у яе твар заўсёды як бы трохі апухлы, і таму Міла некалькі разоў праводзіць пальцамі па скуры, паляпвае далонню па шчоках — робіць масаж. А ўвогуле, твар у яе яшчэ нічога, на рабоце кажуць, што на свае сорак пяць яна захавалася няблага. Вось толькі цела распаўнелае, але калі разумна апранацца, то лішняй паўнаты і не відаць. У другіх у такім узросце дык увогуле глядзець няма на што...

Нетаропка Міла надзявае новае плацце — яна стараецца як мага часцей мяняць плацці. Калі Міла мяняе адзенне, ёй здаецца, што і яна сама як бы нейкім чынам мяняецца, становіцца не такой, як дагэтуль, быццам усё, што было ў яе жыцці, адвальваецца, адыходзіць, і Міле ад гэтага прыемна. Потым яна, пільна гледзячы на сябе ў люстра, падфарбоўвае вусны, веі, бровы — усё гэта, як і новае плацце, прыносіць пачуццё навізны, пачынаеш адчуваць сябе не такой, якой бываеш звычайна.

З веранды чуваць голас Колі, і Міла гаворыць тое, што нейк адразу ж бяздумна паяўляецца ў галаве. Потым, навёўшы парадак ля трумо, агледзеўшы сябе напаследак і застаўшыся давольнаю, Міла выходзіць на веранду.

— Ну, вот і я гатова,— Міла садзіцца за стол і бярэцца за відэлец.

Коля заканчвае есці. Хуткім позіркам Міла акідвае Колю і заўважае ягоныя насцярожаныя незадаволеныя вочы. Коля ўвогуле апошні тыдзень з раніцы бывае хмурны. Зусім асунуўся. Ён пагрузнеў, пад вачыма не сыходзяць пухліны — трэ будзе сказаць, каб здаў аналізы. Хай-ткі праверыцца на ўсякі выпадак.

Коля гаворыць нешта пра сон, Міла слухае, адказвае і тут жа ўспамінае, што на рабоце гаварылі

наконт чарніц — у гэтым годзе іх поўна. Вязуць і вязуць людзі. Відаць, добра было б і ім заўтра з'ездзіць у лес.

Сказаўшы Колю пра паездку ў лес, Міла цяпер толькі ўспамінае, што, відаць, і Машу з Аркадзем трэба з сабою забраць. Хоць Машы і няможна дужа нагінацца, але — нічога, у лесе пабудзе, свежым паветрам падыхае. Балазе, не ў аўтобусе трэсціся, а на сваёй машыне, куды захацеў, туды і паехаў. Вот толькі не забыць бы пазваніць Машы, няхай рыхтуецца.

Дапіўшы каву, Коля падымаецца і выходзіць у спальню апранаць рабочы касцюм. Міла таксама заканчвае есці — раніцаю апетыту няма ніякага — і, пакуль ёсць час, адносіць посуд на кухню. Там яна налівае ў каструлю гарачай вады і мые посуд. Зручная рэч — электракіпяцільнік. Яго Коля прынёс дамоў у той год, як купілі машыну. З таго часу Міла перастала думаць пра гарачую ваду. А дагэтуль столькі было клопату: то — посуд памыць, то — яшчэ чаго, а ўсё грэй ды грэй на газе. Як з той жа ракавінаю... Здагадаліся правесці трубу з кухні прама на агарод, каб вада сцякала, і адразу ж палягчэла. Сколькі той работы — болей гаворкі.

Паставіўшы чысты посуд у буфет, Міла спалоскВае рукі і выходзіць да дзвярэй хаты, дзе стаяць бліскучыя, на высокім абцасе туфлі. Выходзіць са спальні і Коля. Міла глядзіць, як Коля з цяжкасцю нагінаецца, зашнуроўваючы туфлі. Тады, як Коля нагінаецца, ён пачынае гучна дыхаць. Відаць, яму цяжка з непрывычкі нагінацца — аж пачырванеў твар. І яшчэ бачны плеш на макаўцы. Так дык ён і не відаць. Пра гэты плеш Коля, мусіць, і не здагадваецца. Гады, гады, што ты хочаш — сорак з гакам ужо, у Машы вунь ужо хутка дзіця будзе. І стане тады Коля дзедам, а яна — бабкаю. Аж самой не верыцца, што так хутка Маша вырасла...

## 3

Будзільнік Мікалаю Макаравічу не патрэбен: якою б парою ні лёг спаць, але раніцай у пэўны час яго як хто штурхае — у такім выпадку звычайна кажуць, што гэта спрацоўвае нейкі нябачны гадзінні-

кавы механізм, які маецца ўнутры кожнага чалавека. Так гэта ці не так, можа, гэта проста шматгадовая звычка, але кожны ранак роўна ў сем гадзін Мікалай Макаравіч адплюшчвае вочы, пацягваецца, потым адразу ж, доўга не думаючы, падымаецца і садзіцца на ложку, намацваючы нагамі тапачкі.

Мікалай Макаравіч пакручвае цяжкой, як налітай, галавою, трэ далонямі скроні — ніяк не можа сягоння адысці ад сну, быццам сон ягоны — як другое быццё, з якога так цяжка выбрацца. Мікалай Макаравіч не любіць гэтых першых хвілін абуджэння, калі цела непаслухмянае і кволае, як і векі, як і твар, і таму, каб хутчэй пераадолець ранішнюю кволасць, ён стараецца як мага хутчэй адысці ад таго, другога, быцця, ад якога амаль нічога не засталося, акрамя сну — нейкага размытага, няяснага і блытанага.

Пра сон Мікалай Макаравіч успамінае ўжо на двары ля рукамыйніка. Ён ліе ваду на твар, на шыю, на зарослыя валасамі грудзі і аж задаволена ахае...

Цяпер Мікалаю Макаравічу дыхаецца намнога лягчэй, ды і ў галаве становіцца неяк ясней. Ён нетаропка расцірае мяккае цела ручніком, а пасля яшчэ раз соладка пацягваецца і, прысядаючы, узмахвае некалькі разоў рукамі — тады ён напамінае нейкую птушку, якая спрабуе падняцца ў чыстае, без адзінага воблачка, неба, дзе спакойна і велічна ўладарыць даволі-такі гарачае сонца. Прысядаючы, Мікалай Макаравіч звыкла азірае свой двор, зарослы зялёнай муравой, веранду, ад якой вядзе да весніц асфальтаваная дарожка, зялёны, пад колер весніц, гараж, металічную невысокую сетку, за якой зелянее агарод — там, у куце агарода, відаць хлеўчык і лазня. Пасля Мікалай Макаравіч глядзіць на неба і думае, што дзень будзе цёплы і ясны, на работу плашч апранаць не варта, можна пайсці і ў касцюме.

Летам Мікалай Макаравіч снедае часцей на верандзе. Ён заходзіць на веранду, азірае стол — на патэльні шыпіць яечня, стаіць чайнік, бялее парэзаная булка, ляжыць на сподку жаўтаватае масла.

— Ну-с, што ў нас сягоння намячаецца? — проста так гучна пытае Мікалай Макаравіч, хоць і сам добра бачыць, што сягоння на сняданак. Адказу не

чуваць — Міла ці то не чуе, ці то, заняўшыся ўборамі, не хоча гаварыць.

— Я зараз, ты пакуль адзін садзіся,— нарэшце даносіцца са спальні голас Мілы.

— Вот чым бы ты занялася, калі б чалавецтва люстра не прыдумала? — нязлосна пытае Мікалай Макаравіч і сядае за стол.

— А ты хочаш, каб я на рабоце растрапаная хадзіла? — адказвае Міла. Мікалай Макаравіч разумее, адчувае па тону гаворкі, што ўсё, пра што яны гавораць, не галоўнае і не важнае, галоўнае — захаваць гэты добры ранішні настрой. Хопіць ужо, і так апошнія тыдні раніцай яны ні з таго ні з сяго з-за аднаго слова ці позірку часта псавалі настрой на ўвесь дзень. Уголас — нічога не гаварылі, не сварыліся нават, а ўнутры — кіпела ўсё...

— Ну што, пойдзем, можа? — пытаецца Міла. Яна выходзіць са спальні на веранду. Мікалай Макаравіч адным позіркам акідвае Мілу — яе яркачырвоныя вусны, пухлыя шчокі, пышную высокую прычоску, падведзеныя веі і бровы. Чамусьці заўсёды, пасля таго як падфарбуецца, яна здаецца чужой і далекаватай. Гэта нават трохі дзіўна, думаецца, што трэба калі сказаць пра гэта Міле, параіць, каб не так ярка фарбавала вусны, не такім пышным рабіла парык, бо не дваццатка ж ёй, а ўсе сорак пяць. Тады, як маладой была, дык не так ярка фарбавалася, а цяпер вот, на старасць гледзячы... Ды нешта стрымлівае Мікалая Макаравіча ад такой парады.

За гады жыцця, як ні дзіўна, яны размежавалі правы і абавязкі, кожны ведае, што можна, а чаго нельга рабіць, і таму Мікалай Макаравіч не спяшаецца з заўвагамі наконт плацця, прычосак, ярка фарбаваных вуснаў — гэта ўжо Міліна справа. Спачатку, як толькі пачалі жыць разам, такога не было; і ён і Міла часта мяшалі адно аднаму — збіраліся жыць нейкімі агульнымі інтарэсамі, а потым, праз год-другі, разабраліся, што да чаго, і тады са здзіўленнем адчулі, як стала лягчэй і прасцей жыць, цяпер ужо акрамя агульных сямейных клопатаў у кожнага паявіліся свае, асабістыя, пра якія яны і не гаварылі адно аднаму — яны зноў пачалі памалу аддаляцца і не стараліся зазірнуць адно аднаму ў душу. І ўсё гэта ішло ціха і спакойна, з маўклівай зго-

ды абаіх, раней яны гэтага нават не заўважалі, а вот цяпер, калі Маша выйшла замуж і жыве асобна, Мікалай Макаравіч часта не ведае, пра што гаварыць з Мілаю. Мо і таму яны стараліся вечарамі хадзіць у госці ці запрашаць каго да сябе — там, сярод чужых людзей, ім абаім было лягчэй і прасцей.

— Спалася дрэнна. Нешта снілася, а вот што — не магу ўспомніць, блытанае штосьці. Вада нейкая мутная, я ў той вадзе боўтаюся і ніяк не магу на бераг выбрацца,— гаворыць Мікалай Макаравіч, калі заканчвае снедаць.

— Нічога, заўтра субота, два дні выхадныя.— Міла садзіцца за стол, бярэцца за відэлец. Памаўчаўшы, яна гаворыць: — Можа, у лес заўтра з'ездзім? Чарніц у гэтым годзе поўна. Вязуць і вязуць людзі.

— Паглядзім. Што загадзя планаваць. Ды і машыну трэба праверыць — даўно не ездзіў,— гаворыць Мікалай Макаравіч і, акуратна выцершы ручніком вусны, выходзіць з веранды ў спальню.

Ён падыходзіць да шафы і разглядвае сябе ў люстра, як староннягa, чужога чалавека. Мікалай Макаравіч бачыць яшчэ даволі гладкія, без маршчын, шчокі, выпуклыя чорныя вочы і гэткія ж шырокія бровы, якія з гадамі становяцца ўсё болей пышнымі, ружовыя палоскі рэзка акрэсленых, як знарок падфарбаваных, вузкаватых вуснаў. Пад трыко ўгадваецца цела Мікалая Макаравіча, даволі-такі поўнае, як налітае, наперад выпінае добра бачны жывоцік. Але пад касцюмам дык ён і не відаць. Ды, як цяпер здаецца, з гэтым жывоцікам дык і салідней неяк выглядаеш. Толькі вот ногі чамусьці з гадамі становяцца ўсё болей тонкімі. Відаць, ад работы — амаль цалюткі дзень за сталом праводзіцца... Калі Мікалай Макаравіч глядзіць на сябе ў люстра, то кожны раз думае, што варта пахудзець трохі. Вось выберацца на мора і зоймецца плаваннем. Кажуць, марская вада добра зганяе вагу.

Мікалай Макаравіч скідвае з сябе трыкатажны касцюм і апранае блакітную няяркую кашулю з жоўтымі бліскучымі запінкамі па рукавах, чапляе за каўнер шэры непрыкметны гальштук, а затым апранае цёмны рабочы касцюм. Касцюм трапіўся доб-

ры — пяты год носіцца і яшчэ — нічога, нідзе не працёрся.

Ужо выходзячы з хаты, ля парога, Мікалай Макаравіч абувае чорныя імпартныя туфлі. Туфлі добрыя: і лёгкія, і модныя, і мяккія. Вот толькі шнуркі цяжка зашнуроўваць — як нагнешся, так у галаве і шуміць.

З хаты Мікалай Макаравіч выходзіць з Мілаю разам. На вуліцы Міла звыклым рухам бярэцца за сагнутую руку Мікалая Макаравіча, і далей яны, самі таго не прыкмячаючы, стараюцца ісці нага ў нагу. Як і большасць тых, якія ходзяць подручкі.

## 4

На работу Міла і Коля звычайна едуць «адзінкаю» — вялікім жоўта-чырвоным «Ікарусам», які нядаўна пачаў хадзіць са старой часткі Бярозава ў новую. Супынак, на якім звычайна садзяцца ў аўтобус Міла і Коля, канчатковы, якраз насупраць аўтавакзала і рынку, і таму нават раніцай можна сесці, бо «адзінка» ходзіць даволі часта. І на супынку, і ў аўтобусе Міла бачыць знаёмыя твары і постаці, да якіх непрыкметна прывыкла за гады, хоць насапраўды яна і не ведае гэтых людзей, разам яна толькі ездзіць на работу.

Міла заходзіць у аўтобус і ўсаджваецца на крэсла ля акна — не гледзячы на Колю, які, відаць, як заўсёды дакурвае папяросу, пакуль шафёр сходзіць у дыспетчарскую аўтавакзала і адзначыць штосьці ў сваіх паперках.

Нават і ў такі ранні час на аўтавакзальнай плошчы людна: многія бярозаўцы едуць у лес па ягады. Людзі з пластмасавымі вёдрамі тоўпяцца ля аўтобусаў. Міле ўяўляецца, як заўтра і яна будзе збіраць ягады. Трэба будзе толькі раней выехаць. Відаць, лепш за ўсё паехаць туды, дзе былі летась.

Нарэшце між людзей праціскваецца Коля, і вось ужо відаць шафёр, які вяртаецца з аўтавакзала. Шчоўкаюць дзверы, з гудзеннем машына мякка і павольна кратаецца. За шклом праплываюць і застаюцца ззаду дамы, амаль такія ж, як і іх дом: драўляныя, над шыфернымі стрэхамі высяцца тэлевізійныя антэны, шчыльныя платы. За гэтымі платамі з

аўтобуса відаць зеляніна агародаў, двары — у нечым усё гэта падобнае і на іх хату, на іх двор. Калі-ні-калі між гэтымі драўлянымі дамамі з'яўляюцца і цагляныя будыніны, як аднапавярховыя, так і двухпавярховыя: фабрыка сляпых, прадуктовы магазін, пашывачная фабрыка, жылыя будынкі. Усё гэта, добра знаёмае, Міла бачыць амаль кожны дзень, яна вырасла тут, у Бярозаве, сярод гэтых дамоў, і цяпер, калі глядзіць праз шкло на вуліцу, яна дужа і не задумваецца ні аб чым, ёй проста прыемна глядзець на вуліцу, як, бывае, прыемна разглядваць у люстра свой твар, свае поўныя белыя рукі... І тады, калі доўга разглядваеш і рукі і твар, з'яўляецца нейкая неакрэсленая думка, адчуваеш спасціжэнне нечага, нейкай сутнасці, якой не можаш выказаць словам. І думка: хто ты, адкуль? — гэта толькі знешняе, верхняе, а глыбей, дзесьці ў падсвядомасці, ёсць другое, да чаго трэба дабрацца. Вот толькі ці можна?..

Перад выездам на магістраль аўтобус прытарможвае, нахіляецца на адзін бок, і вось ужо старая частка Бярозава застаецца ззаду; аддаляючыся, драўляныя хаты з агародамі, цагляныя будыніны, нават бліскучая пад сонцам царква, што стаіць ля рынку,— усё становіцца зменшаным, як лялечным, і тады ў Мілы з'яўляецца здзіўленне нечаму... А перад вачыма ўжо заліўны луг, на якім часта і густа растуць кусты; здаля паблісквае металічнай стужкаю вада ў рацэ — яна то знікае, то з'яўляецца між тых жа кустоў. На лузе вясковыя мужчыны косяць траву. Маленькія на шырокім зялёным лузе, яны здаля як бы застылі ў сваім руху — адзін за адным, хто — у майцы, хто — у кашулі, а хто — раздзеты па пояс, следам за імі сцелюцца пакосы, роўныя, як знарок адмераныя. Яшчэ раз, толькі цяпер ужо блізка, мільгае стужка вады ў рацэ — у ёй ярка разанула вочы сонца, мільгаюць шэрыя металічныя апоры, і вось ужо — новая частка Бярозава, дзе драўляных дамоў значна меней, а ўсё — цагляныя.

Коля выходзіць на сваім супынку, а яшчэ праз два выходзіць і Міла.

Пластмасавы завод знаходзіцца недалёка ад супынку — трэба прайсці сотню метраў вузкай асфальтаванай дарожкаю па кляновым скверыку, які рас-

кінуўся перад чатырохпавярховым будынкам заводакіраўніцтва.

Дзіўна, на заводзе Міла праводзіць большую палову дня, здавалася б, яна павінна была прывыкнуць за гады работы і да заводскіх карпусоў, да людзей, побач з якімі працуе гадамі, але калі б Міла ні падыходзіла да завода, у ёй адразу ж узнікае пачуццё таго, што акрамя завода ў яе ёсць яшчэ і дом, і дом той намнога раднейшы і бліжэйшы. А ўвогуле, Міла не хоча і не збіраецца шукаць другога месца работы, ёй тут падабаецца — чым далей, тым болей звыклым стае завод, асабліва цяпер, калі Маша выйшла замуж і ў сваёй хаце адчуваецца няўтульнасць і пустата.

Ключа ад лабараторыі на прахадной няма — нехта прыйшоў раней. За прахадной відаць знаёмая абсаджаная кустамі асфальтаваная дарожка, якая пракладзена між высокіх заводскіх карпусоў — ад іх даносіцца роўны гул машын і вентылятараў, відаць выгаралыя на сонцы плакаты з дыяграмамі росту, заводская дошка Гонару, дзе пад шклом знаёмыя напружана-ўважлівыя выразы твараў,— усё гэта застаецца ззаду, і вось Міла ля памяшкання лабараторыі: аднапавярховага цаглянага дамка, які ўсё ніяк не знясуць, хоць кожны год збіраюцца.

Праз вузкі калідорчык, дзе стаіць шафа, Міла праходзіць у аналітычную залу. Там бачыць Іванаўну — белы, вечна незагарэлы, твар, яе пухлыя, на цуд белыя пальцы рук, што трымаюць фільтры, усю яе невысокую поўную постаць, абцягнутую блакітным халатам. Іванаўна, як і заўсёды, прыходзіць раней за ўсіх. Цяпер яна сядзіць на сваім рабочым месцы і спакойна глядзіць Міле ў вочы.

— Дзень добры, Іванаўна,— так атрымалася, што Іванаўну ўсе называюць на «вы» — праз два гады яна пойдзе на пенсію.

— Дзень добры, Мілачка,— тут жа адказвае Іванаўна, ківаючы галавою.

Цяпер ужо, прывітаўшыся, можна ісці да шафы, дзе стаяць рабочыя тапачкі і дзе на вешалцы вісіць такі ж блакітны, як і ў Іванаўны, халат.

— Ну, як там ваша Ірачка здала экзамены? — пытаецца Міла, калі, пераапрануўшыся, прыходзіць зноў у аналітычную залу і ўсаджваецца за рабочае

месца. Яны ўсе: і Міла, і Іванаўна, і тая ж Верачка з Надзяю — сядзяць за спецыяльным шырокім прадаўгаватым сталом, застаўленым штатывамі, колбамі, шклянкамі, у якіх каляровыя растворы... Стол пасярод аналітычнай залы, і таму яны, супрацоўнікі, сядзяць з абодвух бакоў.

— Яшчэ нічога невядома. Гэта ж — пісьмовая работа. Сягоння скажуць,— гаворыць Іванаўна.

— Што ж ёй цяпер засталося? — пальцы Мілы звыкла бяруцца за ручнік, які кладзецца на калені, а потым самі сабою цягнуцца да белых фільтраў, якія ляжаць не на сваім месцы: на стале наводзіцца парадак, які потым дапаможа ў рабоце.

— Ды хімія засталася.

— Ну, што-што, а хімію ваша Ірачка недзе назубок ведае. Калі на хімфак збіраецца паступаць, то хімію павінна ведаць,— словы цякуць самі сабою, бо той роўны настрой, які быў з раніцы, нічым не замутняецца; як і позірк на драўляныя дамы, на заліўны шырокі луг, на стужку вады, схаваную ўдалечыні кустамі, так і размова з Іванаўнай, звыклая да дробязяў работа — усё гэта, утульнае і блізкае, агароджвае Мілу цяплом і спакоем, які не хочацца губляць.

Ды і ці варта?..

Чуваць, як адчыняюцца дзверы лабараторыі, і ў памяшканне заходзіць загадчык лабараторыі Аляксей Кузьміч. Ён адразу ж праходзіць у аналітычную залу. Кіўнуўшы галавою, буркнуўшы: «Здраствуйце», Аляксей Кузьміч знікае ў сваім кабінеце — невялічкім, тры на чатыры метры, пакойчыку, які прымыкае да аналітычнай залы. Следам за Аляксеем Кузьмічом заходзяць Верачка і Надзя — па галасах можна пазнаць. Там, у калідоры ля шафы, яны таксама пераабуваюцца, апранаюць халаты і заходзяць у аналітычную залу.

Верачка — яшчэ зусім дзіця, толькі-толькі скончыла інстытут і па накіраванню трапіла на завод у лабараторыю. Надзя — спакойная жанчына з нейкім выглядам цемнаватага твару. І вочы, і скура на твары, і нефарбаваныя вусны — усё гэта ў Надзі нейкага аднаго колеру, і мо таму так цяжка сказаць, колькі ёй год. Можа — трыццаць, а можа — і ўсе сорак...

— Ну, што вы нам сягоння новага прынеслі? — пытае Іванаўна, калі Верачка і Надзя селі на свае крэслы — на другі бок стала.

— Ды ёсць трохі навасцей з другіх абласцей,— гаворыць Надзя. Са свайго пакойчыка выходзіць Аляксей Кузьміч. Пабліскваючы шкельцамі акуляраў, Аляксей Кузьміч упэўнена і разам з тым спакойна, як дзецям, гаворыць:

— Міла, вы сягоння разам з Іванаўнай закончыце свае аналізы. А вы, Верачка і Надзя, зрабіце аналіз сыравіны. Схадзіце на склад і паглядзіце, што новага прывезлі. Як і заўсёды. Калі нічога новага не будзе, то зрабіце паўторны аналіз — мне для разлікаў патрэбна. Калі хто пазвоніць, скажаце, што я на тэрыторыі завода.

Аляксей Кузьміч выходзіць з лабараторыі. Ён не любіць, калі ў час работы вядуцца размовы на розныя, як ён сам з'едліва гаворыць, гаспадарча-маральныя тэмы. Нейкі час усе маўчаць — пара брацца за работу. Аляксей Кузьміч патрабавальны чалавек, любіць дысцыплінку...

## 5

Шмат год Мікалай Макаравіч працуе на аўтарамонтным заводзе. Кабінет Мікалая Макаравіча не надта вялікі, але і не малы, тут ёсць два паліраваныя рабочыя сталы, бліскучая, пад колер сталоў, шафа, запоўненая паперамі, папкамі з living рознымі заяўкамі, бланкамі, тумбачка між сталамі, на якой стаяць два тэлефоны: адзін звычайны чорны, а другі — з чатырма клавішамі, сігнальнай падсветкаю над кожным клавішам, з прыемным, не дужа громкім і рэзкім дзумканнем. Гэтым другім тэлефонам звычайна карыстаецца толькі Мікалай Макаравіч, тэлефон і пастаўлены на тумбачку, каб ім было зручней карыстацца — на левую руку... А тэлефон і сапраўды зручны: націснеш адзін клавіш — выходзіш на міжгорад, другі — на горад, а трэці — на завод... Звычайна гэты тэлефон так і называюць — тэлефон Мікалая Макаравіча. Такіх тэлефонаў на заводзе ўсяго тры — у Аркадзя Фёдаравіча і яшчэ ў галоўнага інжынера. Звычайна Мікалай Макаравіч знаходзіцца

ў кабінеце адзін, але цяпер, пакуль у суседнім пакоі зробяць рамонт, побач за другім сталом працуе Міша.

Роўна а палове дзевятай Мікалай Макаравіч ужо ў сваім кабінеце. Каб было святлей, Мікалай Макаравіч адразу ж адсоўвае шторы на акне — хоць яны і прыгожыя, але ранкам, пакуль сонца не свеціць у вокны, яны залішне зацяняюць кабінет. Тут жа заходзіць і Міша — невысокі, не поўны, але і не надта худы мужчына, у якога сухаваты загарэлы твар і хуткі вясёлы позірк, які цяжка «злавіць»... Міша — адзін з тых людзей, якія з гадамі амаль не мяняюцца як характарам, так і тварам, а толькі ўсё становяцца сушэйшымі. Міша падыходзіць да стала Мікалая Макаравіча, падае руку і нягучна з асаблівым сэнсам пытае:

— Ну, чулі навасць?

— Якую? — паціскаючы шырокую і цвёрдую далонь Мішы, Мікалай Макаравіч пільна глядзіць яму ў вочы.

— Памёр жа Іваніцкі.

— Калі?

— Сягоння ноччу. У тры гадзіны.

— Дык жа гаварылі, што на папраўку пайшоў.

— А-а, гаварылі,— махае Міша рукою і садзіцца за свой стол,— якая там была папраўка. У яго, кажуць, рак быў. Кажуць, крычаў дужа ў канцы. Схуднеў, дык і не пазнаць.

Мікалай Макаравіч глядзіць на карычневую бліскучую паверхню паліраванага стала, а пасля паціху гаворыць:

— Гэта падумаць толькі — тры месяцы назад яшчэ на работу хадзіў. Да мяне часта заходзіў. Гэтак быстра. Мусіць жа, сам ніколі пра гэта не думаў і не гадаў. Заўком гэтулькі год вёў. Гэта ж я з ім амаль што разам пачынаў на гэтым заводзе. Тады я яшчэ рабочым быў, а ён толькі-толькі на завод прыйшоў. На камсамольскую работу...

— Ды год дваццаць ён прарабіў,— гаворыць Міша.

— Та-ак,— з роздумам гаворыць Мікалай Макаравіч, і невядома, што ён гэтым хацеў сказаць. Пасля, як бы ўспомніўшы што, Мікалай Макаравіч пытае:

— А як хаваць думаюць, не чуў?

— Не ведаю. Гэта ўжо як Аркадзь Фёдаравіч паверне. Можа, і адсюль, ад завода, павязуць. Як-ніяк, а дваццаць год заводу аддаў. У клубе, відаць, усё будзе.

— Ну, як бы там ні было, а гэта, відаць, у нядзелю ці ў панядзелак будзе. Ты вот толькі звяжыся з яго сям'ёю, калі што спатрэбіцца — скажаш,— Мікалай Макаравіч задумваецца, а потым другім, баявейшым голасам гаворыць: — Ну, а вот цяпер ты мне скажы, як нам з металам выкручвацца? Выбіваць жа неяк трэба. Не дастанем да канца таго тыдня, Аркадзь Фёдаравіч не тое што прагрэсіўку здыме, а і галаву... На першым жа пасяджэнні спытае, за што нам грошы плацяць?

— Ды я ўжо ўсё абзваніў,— як бы апраўдваецца Міша і трэ далоннюю лоб. Нейкі час яны маўчаць. Нарэшце Мікалай Макаравіч гаворыць:

— Ведаеш што... Давай-ткі мы напрамую выйдзем па Сцяпана Ільіча. Зараз падрыхтуеш пісьмо слёзнае. Хай-ткі ён рэзалюцыю наложыць, а тады мы з тым пісьмом да Клары Фёдараўны. У каго-каго, а ў яе метал павінен быць — яшчэ не павінны былі выбраць.

— Ці захоча толькі Сцяпан Ільіч звязвацца з намі? — няўпэўнена пытае Міша.

— Захоча. Ён і наш Аркадзь Фёдаравіч разам політэхнічны канчалі. Ды, наколькі мне вядома, яны і цяпер добрыя дружбакі. Я вот зараз звяжуся з Аркадзем Фёдаравічам і папрашу, каб ён звязаўся са Сцяпанам Ільічом. А пакуль суд ды дзела, ты садзіся і катай пісьмо: у сувязі з тым-та і тым-та... Націскай на тое, што ў нас рэканструкцыя на носе.

— Ну, ладна,— гаворыць Міша і вымае з шуфляды стала чысты ліст паперы.

Адчыняюцца дзверы кабінета, заходзіць Андрэй — амаль што аднагодак Мікалая Макаравіча. У яго някідкі, нейкі вечна памяты выгляд і мяккі вінаваты позірк — такія позіркі бываюць у людзей, якія, як гаворыцца, добра закладаюць... Андрэй таксама працуе ў аддзеле забеспячэння. Калісьці, у маладыя гады, Андрэй і Мікалай Макаравіч працавалі разам рабочымі, але потым, як Мікалай Макаравіч закончыў завочна тэхнікум, шляхі іх разышліся... Неяк непрыкметна Андрэй перайшоў на «вы», памалу ён

адышоў ад турбот і радасцей Мікалая Макаравіча, а цяпер, пад пенсію, ён і не стараўся зблізіцца.

— Мікалай Макаравіч, аўтобус гатовы, можна ехаць. Якія будуць указанні? — пытаецца Андрэй і торкае далонь спачатку Мікалаю Макаравічу, а затым Мішу.

— Пачакай, Андрэй,— гаворыць Мікалай Макаравіч і махае рукою на рад крэслаў, што стаяць ля сцяны,— пасядзі трохі, паспееш з козамі на торг.

— Ды я — што, як скамандуеце,— смяецца Андрэй і садзіцца на крэсла.

Мікалай Макаравіч шчоўкае клавішамі тэлефона і, падняўшы трубку, гучна ўпэўнена пытаецца:

— Зіначка, Аркадзь Фёдаравіч ужо ў сябе? Ну, тады злучы мяне з ім.

Праз якую хвіліну Мікалай Макаравіч другім, мякчэйшым, голасам пачынае гаварыць у трубку:

— Дзень добры, Аркадзь Фёдаравіч... Ну, чулі наконт Іваніцкага?.. Шкада, шкада, такі работнік быў... Аркадзь Фёдаравіч, я вот што прыдумаў наконт металу. Відаць, нам прыйдзецца выходзіць на Сцяпана Ільіча. Іначай мы можам пагарэць. Я думаю, калі вы яму пазвоніце, то ён нам не адкажа. Іначай мы метал убачым у гэтым квартале як свае вушы. Я, канечне, пісьмо падрыхтую, Міша ці Андрэй пад'едзе, і хай ён нам толькі саатветсцвінную рэзалюцыю наложыць. А ўжо Клару Фёдараўну мы ўгаворым як-небудзь. Ёй трэба, каб толькі папера была зверху саатветсцвінная.

Мікалай Макаравіч замаўкае — уважліва, аж мяняецца выраз твару, слухае, што чуваць у трубцы, а потым, усё трымаючы трубку ля вуха, некалькі разоў ківае галавою і, усміхаючыся, гаворыць:

— Ясна. Усё ясна. Значыць, я рыхтую пісьмо і чакаю вашага званка.

Закончыўшы размову, Мікалай Макаравіч тут жа шчоўкае клавішам тэлефона, набірае новы нумар і ласкавым, аж не верыцца, голасам гаворыць у трубку:

— Клара Фёдараўна, дзень добры. Гэта Мікалай Макаравіч з аўтарамонтнага... Ну, як ваша здароўечка?.. І ў мяне нічога, толькі вот галава гэты тыдзень пабольвае трохі, а ўвогуле, як кажуць, нечага бога гнявіць. Во, заўтра Міла ў ягады гоніць. А вы не

думаеце ехаць? Давайце да нас, у Бярозава — колькі тут ад Мінска... А мясты я ўжо сам вам пакажу. Старжуць, у гэтым годзе ягад — поўна. Што-што?.. Старцёр, кажаце?.. А ў вас што — «Масквіч»?.. Ну, гэта дзела папраўімае. Падаждзжыце, не кладзіце трубачку, я вот зараз паспрабую выясніць,— Мікалай Макаравіч адносіць тэлефон ад вуха і пытае ў Андрэя: — У нас старцёры ёсць на складзе? Для «Масквіча»?

Андрэй паціскае плячыма:

— Там на складзе ўсяго поўна, дзе ты ўсё запомніш.

— Срочна выясні і далажы.

Андрэй падымаецца і выходзіць з кабінета.

— Клара Фёдараўна,— зноў мякка гаворыць у тэлефонную трубку Мікалай Макаравіч,— вот мы зараз выяснім і, чым можам, паможам вашаму гору. Ды нечага дзякаваць, нечага. Ну, калі што палучыцца, то вот нашы тут збіраюцца ехаць у ваш бок, дык я тады і адпраўлю заадно. Ды метал нам да зарэзу патрэбен, вот каб хто памог нам — вы такіх не ведаеце?.. Ды будзе пісьмо і рэзалюцыя, будзе, за гэтым, як гаворыцца, дзела не стане. Ну, пацерпяць і яны, канечне, пацерпяць... А я што — сабе яго ў кішэнь пакладу, ці што... І мы ж — не лысыя, наш жа завод — таксама дзяржаўны, так што ці нам, ці ім, а, як гаворыцца, усё роўна ў адзін кацёл пойдзе. Вот і дагаварыліся. Ну, чакайце цяпер майго званка, чакайце...

Мікалай Макаравіч, усміхаючыся, кладзе на рычажкі апарата трубку і, светлы ад радасці, паварочваецца да Мішы:

— Ну, здаецца, выбіваць метал пачынаем. Цяпер дзела за Сцяпанам Ільічом. У цябе пісьмо гатова?

— Гатова,— Міша падае спісаны ліст паперы.

— Так-с,— Мікалай Макаравіч моўчкі чытае паперу, а потым гаворыць: — Міша, ну ты ж, як гаворыцца, не першы год замужам. Хто ж цяпер так піша?.. Вот тут, у канцы пісьма, дабаў: у сувязі з тым, што месячныя і квартальныя планы завода знаходзяцца пад пагрозаю зрыву і пры далейшай нехватцы металу можа парушыцца рытмічнасць работы завода, просім Вас... «Вас» — пішацца з вялікай літары. Ну, а далей так, як ты і напісаў... Падпраў і дуй у маш-

бюро, а тады адразу да Аркадзя Фёдаравіча — хай падпіша.

Міша падпраўляе пісьмо і выходзіць з кабінета. У дзвярах ён сутыкаецца з Андрэем. Андрэй, толькі ступіўшы ў кабінет, дакладвае:

— Ёсць старцёры.

Мікалай Макаравіч дастае з шуфляды чысты бланк, запаўняе яго і тут жа падае Андрэю:

— Дуй да начальніка першага цэха, хай падпіша, скажы, ад майго імя, што нам адзін старцёр да зарэзу патрэбен. Рыхтуйся, відаць, зараз у Мінск паедзеш.

Андрэй, трымаючы перад сабою запоўнены бланк, выходзіць з кабінета. Настрой у Мікалая Макаравіча някепскі — усё-ткі, здаецца, удасца выбіць метал. Пальцы неяк самі сабою барабаняць па паліраванай паверхні стала — выстукваюць знаёмую з маленства мелодыю: «Юный ба-ра-бан-щик креп-ко спал...» Канечне, будзеш спаць у шапку, метал убачыш як свае вушы. Кусай тады сябе за локаць, калі Клара Фёдараўна аддасць метал другому заводу. А так вот — няхай-ткі цяпер другія пакусаюць...

Мікалай Макаравіч глядзіць праз акно на вуліцу, дзе ўжо добра-такі прыпякае летняе гарачае сонца. Цень ад чатырохпавярховага будынка заводакіраўніцтва значна зменшыўся, і толькі клумбы з кветкамі, што растуць пад самым акном кабінета Мікалая Макаравіча, яшчэ ў ценю. Мікалай Макаравіч пазірае на жоўтыя і чырвоныя кветкі і думае, што калі цяпер, да абеду, Андрэй выправіцца ў Мінск, то да вечара ён нават можа загрузіцца. На панядзелак ні ў якім разе нельга адкладваць. Калі што наклёўваецца, то трэба браць адразу. Як гаворыцца, куй жалеза, пакуль гарачае...

## 6

— Цёпла сягоння,— ціха гаворыць Міла і глядзіць у акно, якое насупраць стала. На імгненне звыклы рух рукі, якою раўнамерна пакалыхваецца колба з рабінавым растворам, замірае. Міла апускае колбу на калені, накрытыя белым вафельным ручніком. На двары насупраць акна будуецца новы цэх. На тым месцы яшчэ гэтай зімою стаяў вузкі і шэры,

як барак, корпус механічнай майстэрні, а з вясны майстэрню разбурылі, і цяпер на тым месцы ў два рады высяцца высокія калоны. Кожны дзень хоць што ды мяняецца на будоўлі: навешваюцца кранам пліты на калоны, мацуюцца перакрыцці. Побач з будучым цэхам ужо цяпер узводзіцца высокі цагляны комін. Кажуць, у тым новым корпусе будзе імпартнае абсталяванне, якое ўжо колькі часу стаіць у скрынках ля склада. Гэтыя штодзённыя змены за акном радуюць і цікавяць, бо калі нічога нідзе не мяняецца, то здаецца, што і жыцця няма.

— Кажуць, сёлета чарніц многа. Вы не збіраецеся заўтра ў лес ехаць? — пытаецца ў Мілы Іванаўна. Яна спачатку пазірае на Мілу, а потым на акно.

— Думаю. Калі нічога не памяшае...— гаворыць Міла.

— Хутчэй бы водпуск,— падае голас Надзя.— Мальвіна наша цяпер недзе ў моры плавае. Гэта ж ёй толькі праз тыдзень на работу паказвацца. Павязло ёй — пагода стаіць, як па заказу. Ды і пуцёўку добрую дастаць сумела.

— Не трэба было вушамі хлопаць, дык ба і ты атрымала сабе такую,— адзываецца Іванаўна.— Калі Мальвіна захацела, дык яна яшчэ з зімы заяву ў заўком занесла. А так дзе ж ты цяпер, сярод сезона, дастанеш добрую пуцёўку.

Міла глядзіць на рабінавы раствор у колбе — відаць, досыць яго перамешваць. Цяпер можна і фільтраваць. Яна выцягвае з гарлавіны корак і патроху ліе раствор у другую колбу з больш шырокай гарлавінаю, куды ўстаўлены скручаны ў конус фільтр. Раствор праз фільтр працякае паволі, даводзіцца часта апускаць колбу на калені і чакаць...

— Верачка, а калі ж ты ў водпуск пойдзеш? — пытае Міла. У той жа час ёй думаецца, што вот яна і гаворыць, і працуе, а нічога яе не кранае. І ад гэтага ёй дзіўна, за гэтым нешта бачыцца. Але што?..

— Як год будзе,— гаворыць Верачка.— У мяне ж яшчэ і года няма. Аляксей Кузьміч гаварыў, што ў канцы жніўня можна будзе пісаць заяву. Во, год пройдзе і — не ўбачыла,— здзіўляецца Верачка.

Гледзячы на Верачку, Міла думае, што Верачка прывыкае да работы, як і да людзей. Хоць Верачка яшчэ і называе ўсіх на «вы», але апошнія месяцы,

асмялеўшы, ні з таго ні з сяго з маладой задзірыстасцю і гарачнасцю ўступае ў спрэчкі і размовы, часта ледзь не крычыць, даказваючы сваё.

— А я вот вам скажу,— пачынае гаварыць Іванаўна,— што адпачываць можна і ля дому, не абавязкова гэтыя паездкі на поўдзень. Адна дарога чаго каштуе,— Іванаўна таксама ў час гаворкі не забывае пра работу: перацірае ў фарфоравай ступцы соду.

— Ну, што б вы сабе, Іванаўна, ні гаварылі, а я вот прывыкла адпачываць адна ля мора,— гаворыць Надзя.— Там хоць ад сям'і, ад гэтых вечных місак і талерак адыдзеш. Устанеш рана — ні пра што галава не баліць, усё гатовае... А так, дома, які тут адпачынак, не адно, дык другое, дзеці гэтыя пад рукамі... Яшчэ горай, чым на рабоце,— як заўсёды, Надзя выказваецца рэзка і катэгарычна, і таму, як заўсёды, здаецца, што так, як яна сказала, так яно і найлепей. Лепш ужо і не прыдумаеш...

— Ой, ну што вы, Надзя, такое гаворыце?.. Як гэта без сям'і адной адпачываць? — не вытрымлівае Верачка. Яна нават ружавее ад хвалявання.— Я дык вот і не ўяўляю... Навошта тады жыць разам? Калі сям'я — дык гэта ўжо нешта адзінае, цэльнае. А вы такое гаворыце...

Нейкі час усе маўчаць, кожны займаецца сваім. І Надзя і Верачка перамешваюць у колбах растворы. Міла пазірае на прыгожую ружовенькую Верачку, у якой усё: і шчочкі, і вусны, і нават пальцы рук — па-маладому мяккае і пульхнае. Думаецца, што Верачка яшчэ зусім дзіця і тыя клопаты, якімі занята цяпер: і веранда ў бярозаўскім парку вечарамі, і пласцінкі, на якіх запісаны замежныя, пад гучную музыку, песні, і модныя плацці з вялікімі выразамі, і размовы пра каханне, пра сям'ю,— усё гэта несапраўднае, усё гэта хутка-хутка адсунецца, адыдзе, і ў Верачкі потым, як выйдзе замуж, пачнецца другое жыццё, у якім усё будзе ацэньвацца другой меркаю, а яе сягонняшнія клопаты самой жа пакажуцца смешнымі і дробязнымі. Вот гэтаксама, як і цяпер Верачка, гаварыла і паводзіла сябе яе Маша, а выйшла замуж і — як рукой усё зняло, цяпер яе вунь і не пазнаць, зусім другім занята... І яшчэ здаецца Міле, што так, як жыве яна, гэта і ёсць сапраўднае жыццё,

у якім яна даўно разабралася і амаль што ўсё ведае і ў якім ужо нічога не зменіш.

Ды і ці варта мяняць?..

— Нічога, Верачка,— гаворыць Міла і ўсміхаецца,— вот выйдзеш замуж і тады сама разбярэшся, ехаць на мора адной ці з сям'ёю. Ты іх дужа не слухай, а то яны навучаць цябе жыццю,— Міла ўсміхаецца і не зводзіць позірку з Верачкі.

Той чамусьці няёмка — яшчэ болей ружавее, нахіляе да стала галаву. У Верачкі яшчэ няма сям'і...

— Ой, там жа ў мяне ў печы пластмаса сплаўляецца, а я зусім забылася,— Верачка нечакана хутка падымаецца з крэсла і ледзь не бягом кідаецца ў другі пакойчык, дзе стаяць электрычныя печы і сушыльныя шафы.

Звоніць тэлефон на століку ля акна. Надзя, як бліжэйшая, падыходзіць, бярэ трубку, слухае. Потым гаворыць у трубку: «Зараз паклічу» — і тут жа ківае Міле галавою.

Міла падыходзіць да століка, бярэ з рук Надзі трубку. Коля гаворыць, што памёр Іваніцкі, той Іваніцкі, які побач з Колем гэтулькі год рабіў. Каб хоць трохі супакоіць Колю, Міла гаворыць:

— Ну, што ж цяпер расстройвацца попусту, не падымеш яго. Адкуль хто ведае. Нездарма ж людзі гавораць: калі б ведаў, дзе павалішся, то і саломкі падаслаў бы.

Потым ужо, седзячы на сваім крэсле, Міла гаворыць супрацоўнікам:

— У мужа на рабоце памёр чалавек. Яшчэ тры месяцы назад ён на работу хадзіў.— Міла кладзе на калені ручнік, разгладжвае яго.

— Таксама, во, жыў чалавек, рабіў, на нешта спадзяваўся...— гаворыць разважліва і ціха Іванаўна. Невядома, што яна гэтым хоча сказаць.

Працуюць моўчкі. Вяртаецца да стала Верачка.

— А я заўтра загараць пайду. Сонца такое, а я ўсё ніяк не выберуся,— як гэта часта бывае, Верачка гаворыць тое, пра што думае.— На цэлы дзень пайду. Пакуль зусім не згару, ля ракі буду.

— Глядзець за сабою трэба. Аналізы, праверкі час ад часу рабіць. Ды загадзя, а не тады, як усё пачнецца. Цяпер вунь якая медыцына, усё можна вы-

лечыць, калі не запускаць,— чуецца роўны і спакойны голас Надзі.

— Ты мне лепш скажы, хто цяпер здаровы? — тут жа пытае ў Надзі Іванаўна.— Цяпер век, мусіць, такі: усе і ўсюды нервуюцца, усюды бягом, бягом... Пад'есці і то няма калі: пончык у зубы і галопам па вуліцы... Цяпер паглядзіш — і малады, здаецца, чалавек, а саўсім зношаны. Вот і паміраюць на хаду. Усё некалі, некалі. А куды, навошта спяшаюцца людзі?

## 7

У кабінет Мікалая Макаравіча заходзіць Барчыкаў — выконваючы часова абавязкі старшыні заўкома. Ён падыходзіць да стала, падае Мікалаю Макаравічу вузкую і тонкую далонь і пытае:

— Ну, чулі ўжо наконт Іваніцкага?

— Ды чуў, чуў... Як хаваць думаеце?

— Ды, відаць, ад завода павязём. Вот толькі два дні выхадныя, а на дварэ такая спякота стаіць... Відаць, у нядзелю хаваць давядзецца. Адцягваць нечага. Я яшчэ ■ парторгам і Аркадзем Фёдаравічам не раіўся.— Барчыкаў садзіцца на крэсла, якое стаіць насупраць стала — там дагэтуль сядзеў Андрэй.

— Міша гаварыў, што ён схуднеў дужа. І крычаў надта перад канцом. Праўда?

— Што схуднеў, то саўсім. І не пазнаць,— гаворыць Барчыкаў.— Я ж два дні таму назад у яго быў. Аж свіціўся. Гаворыш яму што і не ведаеш: слухае ён цябе ці не...

Барчыкаў нагінае добра-такі лысаватую галаву, а пасля махае рукою і, гледзячы на фарбаваную падлогу, гаворыць: «А-а». І незразумела, што ён хацеў сказаць гэтым «а-а». Потым ён глядзіць на Мікалая Макаравіча спакойнымі нейкімі стомленымі шэрымі вачыма і гаворыць:

— Мікалай Макаравіч, аўтобус трэба даць іх сям'і на гэтыя дні. Падвезці там чаго, адвезці — хай пад рукамі машына будзе.

Мікалай Макаравіч маўчыць, падціскае вусны. Даць аўтобус, канечне, трэба, але ж і метал забраць трэба. Так бы, во, дзвюма машынамі за адзін дзень і хапнулі.

— Ну, ладна,— нарэшце выціскае з сябе Мікалай Макаравіч,— пішы заяўку. Я Андрэя пакуль і на грузавой адпраўлю. Толькі якую мне машыну пасланць?

Барчыкаў, абапіраючыся рукамі аб калені, стомлена падымаецца з крэсла — сам-то ён высокі, але ў яго вузкія плечы і вечна звешаная галава:

— Пайду я, дамаўляцца трэба, арганізоўваць.

— Што паробіш, як гаворыцца, калі б маладосць ведала, а старасць магла,— супакойвае Барчыкава Мікалай Макаравіч. Гледзячы на стомлены, як памяты твар Барчыкава, ён думае, што заўком Барчыкаву не пацягнуць, рабіў дагэтуль у бухгалтэрыі, хай і далей з паперамі корпаецца. Не па плячы яму гэта работа, тут — з людзьмі круціцца трэба.— Як гаворыцца, усе там будзем. Шкада вот толькі, што мала пажыў. Але ж тут такое дзела — не закажаш...

— А вы што думаеце, не хапіла яму тут? Не панервнічаў ён? Хапіла, яшчэ як хапіла. Гэта толькі здаецца, што ціхая работа. А пакруціся між двух агнёў: і Аркадзю Фёдаравічу ўгадзі, і ўсім, хто скаргі піша, угадзі. Цяпер жа ўсе граматныя, ледзь што не ў нюх — шах, і заява. А то і ананімка. А там — камісіі адна за другой, было не было, а — разбірайся, даказвай, што ты не слон. Усім усё роўна не ўгодзіш, не сонца...— Барчыкаў махае рукою і выходзіць. Відаць, на новай пасадзе яму ўжо добра-такі перапала.

Мікалай Макаравіч барабаніць пальцамі па стале:

Юный ба-ра-бан-щик креп-ко спал...

Успамінаецца Іваніцкі, той, які яшчэ рабіў на заводзе. Праўда, твар ягоны ўжо неяк размыўся ў памяці, а вот постаць ягоная помніцца: кругленькая, невысокая. І голас помніцца: тонкі і ледзь хрыплаваты. Дзіўна, нават помняцца ягоныя валасы, рукі, а вот твар — як выскачыў з памяці... Кабінет Іваніцкага знаходзіцца побач з кабінетам Мікалая Макаравіча, і таму за гады работы Мікалай Макаравіч ледзь не штодня сутыкаўся з Іваніцкім; ён прывык да Іваніцкага, як прывыкаюць суседзі. Як і ў большасці ітээраўцаў, якія шмат год працавалі на заводзе, між імі ўстанавіліся тыя дружалюбна-сяброўскія адносіны, якія бываюць між людзьмі, што здаўна працуюць у адной установе і залішне па рабоце не залежаць адно ад аднаго. А і праўда, чаго ім было сварыцца,

у кожнага была свая работа, і калі адзін аднаму што рабілі, то — прыемнае: ледзь не штогод Іваніцкі пакідаў Мікалаю Макаравічу някепскую пуцёўку, бывала, і дапамогу выпісваў... Як-ніяк, а большую палову дня яны праводзілі побач, у абедзенны перапынак Іваніцкі часта заходзіў у кабінет да Мішы, дзе збіраліся аматары шахмат. Сярод іншых галасоў тады можна было пачуць і голас Іваніцкага: «Так яго, так... Цяпер пешачкай...» Успамінаўся той Іваніцкі, які сядзеў у прэзідыумах розных заводскіх сходаў, ягоныя выступленні... Быццам учора гэта было: «Дарагія таварышы, ад імя заводскага камітэта прафсаюза дазвольце мне зачытаць спіс людзей, якія ўзнагароджаны грашовымі прэміямі...» Быццам учора... І так за гады людзі прывыклі да Іваніцкага, што ўжо рэдка хто гаварыў: «Заўком», а часцей: «Іваніцкі». Іваніцкі сказаў, Іваніцкі паабяцаў, быў у Іваніцкага... А вот цяпер ад гэтага чалавека нідзе нічога не засталося. Аж не верыцца...

...Юный барабан-щик креп-ко спал...

Апошні год Іваніцкі прыходзіў на работу нейкі незразумелы, маўклівы. Ён часта мог зазлавацць ні з таго ні з сяго. І яшчэ Іваніцкі чамусьці нечакана пачаў паўнець — нейкай нездаровай азызлаю паўнатою налівалася цела, твар... Толькі тады ніхто нічога не мог сказаць. Ды нават калі Іваніцкага палажылі ў бальніцу, нават і тады на заводзе ніхто не падумаў, што так хутка чалавека не стане.

...Калі б маладосць ведала, а старасць магла.

Ад думак пра лёс Іваніцкага Мікалаю Макаравічу няёмка і няўтульна. Ён сам сабе некалькі разоў паўтарае: «Усе там будзем»,— спрабуючы знайсці ў гэтых словах штосьці выратавальнае і супакойлівае, што расставіць усё па сваіх «законных» месцах.

Нечакана Мікалай Макаравіч рашае пазваніць Міле — каб у гаворцы з блізкім чалавекам хоць трохі ды збавіцца ад гэтых непрыемных думак.

Пазваніўшы, Мікалай Макаравіч кладзе трубку і нейкі час разглядвае тэлефонны апарат, які сваёй гладкай бліскучай паверхняю і клавішамі напамінае піяніна.

У кабінет заходзіць Міша з папераю ў руцэ. Мікалай Макаравіч глядзіць на Мішу:

— Ну што, пісьмо гатова?

— Гатова, Мікалай Макаравіч.— Міша падыходзіць да стала і аддае ў тоўстыя пальцы Мікалая Макаравіча пісьмо.— І Аркадзь Фёдаравіч падпісаў ужо. Аказваецца, ён ужо дазваніўся да Сцяпана Ільіча, сказаў, што ўсё ў парадку, можна ехаць.

— Пакажы, пакажы... Так-с,— адтутурыўшы трубачкаю вусны і чмокаючы імі — такая дзіўнаватая ў апошнія гады з'явілася звычка,— Мікалай Макаравіч чытае пісьмо. Потым, вяртаючы пісьмо Мішу, гаворыць: — Ведаеш, што я падумаў, Міша? Відаць, едзь-ка ты сам. Гэта не абы-што — метал. Нечага на Андрэя спадзявацца. Андрэй хай таксама едзе, але ён табе будзе як памочнік... Можа, там пагрузіць што, разгрузіць — ну, сам скамандуеш. Значыць, спачатку, нікуды не заязджаючы, да Сцяпана Ільіча, хай наложыць рэзалюцыю, а тады ўжо — да Клары Фёдараўны.

Заходзіць у кабінет Андрэй з пакетам у руках.

— Ну што? — Мікалай Макаравіч глядзіць на Андрэя.

— Вот, гатова, як вы сказалі, так і зроблена,— Андрэй кладзе на падлогу ля дзвярэй загорнуты ў паперу пакет.

— Добра, добра,— задаволены, Мікалай Макаравіч шчоўкае клавішам тэлефона, набірае нумар і, падняўшы трубку, рашуча гаворыць: — Сцяпан?.. Слухай, Сцяпан, дзе сягоння грузавыя машыны? Мне адна да зарэзу трэба. Што?.. Смецце вывозіць?.. А хто на ёй?.. Андрэйчык?.. Ну, дык здымі яго з вывазкі. Я адказваць буду перад галоўным, скажы, я загадаў. Хай зараз жа едзе на запраўку, сягоння паедзе з Мішам у Мінск. І ніякіх размоваў. Срочна.

Мікалай Макаравіч апускае на рычажкі тэлефонную трубку і задаволена барабаніць пальцамі па стале: «Юный ба-ра-бан-щик креп-ко спал...» Вот так-с, адна работа амаль зроблена. Цяпер ужо застаюцца дробязі. І як гэта ён раней не надумаўся выйсці на Клару Фёдараўну?

Дзень пачаўся някепска. Мікалай Макаравіч любіць вось так пачынаць рабочы дзень: адразу з галоўнага, хутка, адным словам — па-дзелавому... Нездарма гавораць: хочаш жыць — умей круціцца. Пад ляжачы камень вада не цячэ.

Калі б не думка пра Іваніцкага, якая калі-нікалі з'яўляецца ў Мікалая Макаравіча, то ўвогуле ўсё было б цудоўна. Але, калі чэсна прызнацца, усур'ёз лёсам Іваніцкага Мікалай Макаравіч не ўсхваляваны — шмат год ён жыве роўным спакойным жыццём, у якім нічога не мяняецца рэзка і нават смерць ці то блізкіх, ці то чужых людзей не парушае спакою, ва ўсякім разе, калі Мікалай Макаравіч бачыць нябожчыка, ён цяпер не хвалюецца, як хваляваўся ў маладосці — колькі іх ён ужо бачыў на сваім жыцці...

Тады, у маладыя гады, ён, помніцца, з жахам і адчаем, як у прорву, пазіраў на нерухомыя жаўтавата-васковыя твары і адчуваў, як нязвыклым холадам працінаецца цела, і тады ўсё, чым займаўся ў жыцці, разбуралася, здавалася дробязным, нязначным, а заставаўся толькі перад вачыма нерухомы незямны твар. Як напамін ці папрок...

А потым, з гадамі, гэты холад памалу знік, і замест яго з'явіліся ў Мікалая Макаравіча словы: «Усе там будзем». Хоць ён і ведаў, што *там* нічога не будзе, але часта паўтараў гэтыя словы, і, звычайна пасля таго як некалькі разоў паўтараў, яму станавілася лягчэй, у іх бачыўся выратавальны сэнс. Вот толькі які?..

А ўвогуле, як упэўніўся Мікалай Макаравіч, думай над усім гэтым ці не думай, а нічога не зменіш, нічога не прыдумаеш, не выкруцішся тут ужо — як у пастцы, і таму ці не лепей заняцца тым, чым яшчэ можна заняцца...

## 8

Міла часцей і часцей пазірае на наручны гадзіннік — пасля абеду пазалочаныя стрэлкі на цыферблаце як бы застываюць, амаль што не рухаюцца. Ці то ад сытнай яды, ці то ад паўдзённага спякотнага сонца, якое добра-такі «разварыла» іх, калі яны ўсе: і Іванаўна, і Надзя, і Верачка хадзілі да кафэ «Бяроза», але цяпер хочацца спаць. Цела здаецца разамлелым і кволым, самі сабою зліпаюцца вейкі, хоць ты кладзі галаву на сагнутыя рукі і засынай вось тут, прама за сталом... Не хочацца ні думаць, ні гаварыць. Добра, што хоць работа маецца: трэба азаляць і пракальваць фільтры з ападкамі...

Міле ўспамінаецца, што яшчэ не званіла Машы — зусім забылася. Яна падымаецца з крэсла, падыходзіць да тэлефона і, набраўшы нумар, гаворыць:

— Маша, ну, што ў цябе новага? Што-што?.. Заўтра? А заўтра ж мы збіраемся ў лес па ягады. Я думаю і цябе з Аркадзем забраць — калі ты яшчэ не выберашся... А можа, мы заедзем па вас? Ну... А вечарам і пойдзем. Вот толькі лазню не пратопім, але нічога — у нядзелю можна будзе. Ды паспеем, паспеем... Калі што якое, падарунак і сягоння можна будзе купіць. Нядоўга гэта. Ну, давай, тады вот так і дагаворымся. Значыць, мы заязджаем па вас. Давай, каб мы ля шасці ўжо з Бярозава выехалі. Так што а палове пятай вы нас чакайце. А што вы Вікенцію купляць думаеце? Каб і мы тое ж не купілі... Туфлі? Ну, тады я, відаць, кашулю куплю. А які размер у яго, ты не помніш? Ага, саракавы... Ну, пакуль. Заўтра, як ягады збіраць будзем, дагаворым.

Міла кладзе трубку на рычажкі і ідзе на сваё крэсла.

— Дык, значыць, заўтра ў лес едзеце? — пытае Іванаўна.

— Ехаць-то паедзем... Ды во ў госці заўтра прыйдзецца ісці. Мы неяк і з віду ўпусцілі — у свата імяніны, аказваецца. Прыйдзецца ісці. Так што — дзень заняты будзе. Відаць, сягоння трэба купіць што. Вот, каб ведала, дык ба ў абед паглядзела што талковае,— Міла ўсаджваецца і звыклым рухам кладзе на калені ручнік.

— А колькі свату?

— А ён амаль што адных год з Колем — ля пяцідзесяці недзе.

— Ну, нічога, з раніцы ў лесе пабудзеце, а тады, во, і на імяніны сходзіце,— спакойна гаворыць Іванаўна, спалоскваючы ля ракавіны колбы. Для зручнасці ракавіна прымацавана прама ў аналітычным зале да рабочага стала — збоку. Туды ж падведзена гарачая і халодная вада.

Так атрымліваецца, што Іванаўна ўвесь час занята работаю, калі не гляпеш на яе — робіць нешта. Нездарма яе Аляксей Кузьміч цэніць. Хоць Іванаўна і з сярэднетэхнічнай адукацыяй, а праходзіць па ітээраўскай сетцы. Вот цікава, што яна рабіць будзе, як на пенсію пойдзе?

Гледзячы на Іванаўну, Міла ўспамінае, што і ў яе работа ёсць. Яна падымаецца з крэсла і ідзе ў пакойчык, дзе стаяць электрапечы. Паставіўшы фарфоравы цігель з фільтрам у печ, Міла зноў падыходзіць да тэлефона, набірае нумар і гаворыць у трубку:

— Коля, ты ведаеш, заўтра ж нам гулянка прадстаіць. Мы і забыліся — у Вікенція імяніны. Прыйдзецца схадзіць, яны ж да нас прыходзілі... Да абеду з'ездзім у лес, а тады ўжо, вечарам, сходзім. Я ўжо і Машы пазваніла... Ды кашулю якую куплю, што тут яшчэ мудрыць... Не, яны туфлі будуць купляць, так што аднолькава не будзе ніяк. Вечарам я, відаць, пазней дамоў прыйду — пакуль ва універмаг схаджу, а то заўтра будзе позна. Во, забылася, мусіць жа, яшчэ і віна трэба якога ўзяць, торт — цяпер жа без гэтага і не паказвайся... Ну, добра, добра, вазьму.

Міла кладзе трубку і спяшаецца ў пакойчык да электрапечы, ад адчыненых дзверцаў якой ужо цягнецца палоска дыму — фільтр пачаў азаляцца. Міла адчыняе дзверцы электрапечы і глядзіць на чырвоныя спіралі, на белы фарфоравы цігель, у якім чарнее попел ад фільтру. Раз за разам па попелу прабягаюць вогненныя сполахі. Цяпер ужо можна падымаць тэмпературу ў печы да тысячы градусаў — няхай пракальваюцца ападкі...

Міла зноў садзіцца на сваё крэсла і глядзіць на наручны гадзіннік — яшчэ толькі тры гадзіны. Праз гадзіну трэба будзе выняць цігель з печы. Верачка і Надзя заняты сваёй работаю — фільтруюць растворы.

— Вы глядзелі ўчора фільм па першай праграме? — пытае Верачка адразу ўсіх прысутных.

— Ай, не спадабаўся ён мне,— гаворыць Надзя,— нейкі занадта доўгі, нудны, ды і непанятны яшчэ. То адно паказваецца, то, ні з таго ні з сяго, другое. Абы-што... Ходзяць, гавораць, а што ім трэба — непанятна.

— Ну, чаму ж, гэта ж замежны фільм, сучасная, так сказаць, класіка,— гаворыць Верачка.— Я вот, як вучылася, у лекторый на спецыяльныя лекцыі па кінамастацтву хадзіла. Тады нам на лекцыях пра гэты фільм гаварылі. Так што вы не кажыце — фільм харошы. Ды і тэма ў ім актуальная: адзіноцтва чалавека ў свеце. Там, на Захадзе, ёсць нават такі кірунак, ну, як філасофія, ці што, у якой гаворыцца, што кож-

ны чалавек ад нараджэння пакутуе ад адзіноты. Як кажуць, чалавек з крыкам нараджаецца, з крыкам і памірае. Там увогуле многа ўсякага...

— Ой, Верачка, якое там адзіноцтва,— перабівае Верачку Надзя,— ну, што ёй, той гераіні, не хапала: і дом, і машына, і муж добры — усё было. Чаго ёй трэба было? З дурасці гэта ўсё. Гэта пачці так, як у Кацярыны з першага цэха. Таксама, во, муж быў рабацяшчы, дзеці, дык жа не, надаела, кінула, за другім пабегла. А той два месяцы пажыў ды назад да першай жонкі.

— Ну, чаму ж вы так катэгарычна,— не здаецца Верачка,— можа, у яе яшчэ якое пачуццё было. Гэта нам збоку здаецца ўсё простым.

— Пачуццё-ё,— трохі насмешліва цягне Надзя.— Вот каб тая гераіня парабляла трохі, на тым жа заводзе, тады б, можа, і пра сваё пачуццё не так многа думала. А то ж паглядзі: служанка, дача ля мора, машына пад рукамі — ну дык, канечне, тады і пра пачуццё можна думаць, болей няма чым заняцца... Але ж ты сама відзела, да чаго тое пачуццё даводзіць. Як я паняла, яна пад машыну кінулася.

— А я табе, Верачка, скажу,— пачынае спакойна гаварыць Іванаўна,— каб меней у нас такіх вот фільмаў было, дык ба і парадку было болей. А то наглядзяцца, а тады і вытвараюць чортведама што.

— Ну, пры чым тут кіно?— абараняецца Верачка.

— А чаму і не пры чым? — таксама пытае Іванаўна. Цяпер яна, Іванаўна, спаласнуўшы пад ракавінаю колбы і паставіўшы іх на стол, сядзіць на крэсле і, трымаючы ў руцэ шарыкавую ручку, збіраецца запісваць у рабочым сшытку вынікі аналізу.— Вот ты мне, Верачка, скажы: адкуль гэтыя доўгія валасы, адкуль гэтыя валасацікі пайшлі? Маўчыш... Я табе скажу — адтуль, адтуль усё гэта... А гэтыя кароценькія спаднічкі — што, можа, яны ў нас калісьці былі? Мы моду паказалі, ці што? А гэтыя танцы-шманцы, глядзець аж страшна, рукамі і нагамі, як той вятрак крыллем, махае, не падступіцца... Ты што, Верачка, думаеш, мы раслі — відзелі ці думалі пра такое? А цяпер жа на вуліцы часта і не пазнаць: ці хлопец перад табою, ці дзеўчынёха. А калі б не было гэтых фільмаў, дык ба і ў нас такога не было.

— Ну, не ўсе ж такія. Вы што думаеце, уся моладзёж цяпер такая? — абараняе сваё пакаленне Верачка.

— А я і не кажу, што ўся,— працягвае сваё Іванаўна,— але вот я вырасла, дык у нас галовы былі работаю, дзелам заняты. Ну, калі і на гулянку сходзіш, не без таго... А цяпер жа сама паглядзі, што творыцца на свеце: як тыдзень, дык і новае плацце падавай: нейлон, капрон, дэдэрон... Канца-краю нямашака...

Міла слухае дыспут і ўвесь час глядзіць на Верачку. Верачка і прыгожая, і разумная, і талковая, усё ведае на свеце: і пра кіно, і пра кнігі розныя, і як жыць паложана... А вот замуж чамусьці не выходзіць. Яшчэ годзік-два, і ўсё — адцвітаць будзе дзеўка. Відаць, у яе і хлопца добрага няма. І яшчэ думаецца Міле, што Верачка можа і зусім не выйсці замуж, такое часта бывае: якая пустамеля-дурнічка тут жа, школу закончыўшы, замуж выскоквае ды і жыве-пажывае пасля што ў бога за пазухай, а якая талковая, разважлівая, бы тая Верачка,— адна ўвесь век кукуе... І вот чаму гэта так — хто яго ведае... Як пакаранне якое за іх веданне і разважлівасць, ці што...

## 9

Дзумкае нягучна тэлефонны званок. Мікалай Макаравіч падымае трубку. Чуецца мяккі знаёмы голас сакратаркі Нэлачкі. Трэба тэрмінова ісці ў кабінет да Аркадзя Фёдаравіча.

Мікалай Макаравіч памалу падымаецца з-за стала і выходзіць з кабінета. Ён зачыняе дзверы, шчоўкае ключом, а потым, пазвоньваючы звязкаю ключоў, якіх у яго набралася шмат: ад кабінета, ад хаты, ад гаража...— ён паволі падымаецца на другі паверх заводакіраўніцтва, дзе кабінет Аркадзя Фёдаравіча.

У калідоры ля прыёмнай ужо сабралася некалькі чалавек. Тут усіх Мікалай Макаравіч ведае, гэтак жа як і яго ўсе ведаюць: адчуванне на заводзе такое, нібы ў якой сям'і цалюткі дзень круцішся, дзе Аркадзь Фёдаравіч — што бацька для іх... Вот гэтаксама, як і цяпер, збіраюцца перад пасяджэннямі галоўныя спецыялісты і, пакуль не пакліча Нэлачка, баяць хто што: пра рыбалку, пра машыны, апошнія

анекдоты — пра што заўгодна, толькі не пра работу. Работы і без таго хапае... Звычайна ў цэнтры людзей стаіць чырванашчокі поўны Ігнаценка і, круцячы ва ўсе бакі галавою, расказвае новы анекдот. І дзе ён іх збірае — невядома, але хлебам чалавека не кармі, а дай пасмяяцца... Сягоння ж ціха, не чуваць жарту, смеху, калі хто і гаворыць, то ўпаўголасу. Той жа Ігнаценка стаіць не ў цэнтры, а трохі збоку.

— Чаго выклікаюць, не ведаеш? — Мікалай Макаравіч падыходзіць да Ігнаценкі, падае руку — Ігнаценка часта заходзіць да Мікалая Макаравіча: і па рабоце, і проста так, пагаварыць, як гаворыцца, адвесці душу...

— Ды, я думаю, наконт Іваніцкага нешта скажуць,— гаворыць Ігнаценка і, гледзячы за спіну Мікалая Макаравіча, некаму ківае галавою: — Прывет.

— А ты яшчэ не чуў ніякіх новых навін?

— Не. Хто яго ведае. Вот зараз і скажуць,— Ігнаценка вымае з кішэні пачак папярос і гаворыць з роздумам: — Закурыць, ці што?..

— Ды не, відаць, зараз і пойдзем,— гаворыць Мікалай Макаравіч.

І сапраўды, з прыёмнай выходзіць Нэлачка — у вузенькай кароценькай, як ступіць, спаднічцы, у світэры ў абцяжачку, з фарбаванымі вогненнымі валасамі, якія падстрыжаны «пад хлопчыка». Нэлачка глядзіць на прысутных і гаворыць:

— Можна заходзіць.

Заходзячы ў кабінет, Мікалай Макаравіч зноў як незнарок, не задумваючыся нават, акідвае зграбную фігуру Нэлачкі: і світэр, і спаднічку, і высокія стройныя ножкі — Нэлачка стаіць ля акна прыёмнай і глядзіць, ці ўсе прыйшлі... Думаецца, што Нэлачцы ўжо ля трыццаці, а яна — як падлетак які...

У кабінеце Аркадзя Фёдаравіча, за тымі ўсім вядомымі падвойнымі дзвярыма, галоўныя спецыялісты ўсаджваюцца вакол бліскучага паліраванага стала — у кожнага сваё месца, якое ён ведае і ніколі не зблытае з другімі. Мікалай Макаравіч сядзіць звычайна між начальнікам энергацэха і састаўнога цэха. Аркадзь Фёдаравіч сядзіць на «сваім» месцы — ля самай сцяны, дзе вісіць партрэт Леніна. Побач з ім, як заўсёды, сядзяць галоўны інжынер і галоўны эканаміст. А далей ужо — начальнікі асноўных служ-

баў. Твар у Аркадзя Фёдаравіча худы і нейкі жаўтаваты — нядаўна выйшаў з бальніцы... Калі ў кабінеце становіцца ціха, Аркадзь Фёдаравіч падымае галаву і глядзіць на прысутных — неяк адразу на ўсіх. Ціха, аддзяляючы слова ад слова, ён унушальна гаворыць:

— Сягоння, як вам, магчыма, ужо вядома, памёр наш старэйшы работнік — старшыня заўкома Іваніцкі Антон Мікалаевіч. Прашу ўшанаваць яго памяць хвілінаю маўчання.

Аркадзь Фёдаравіч першы падымаецца з крэсла — абапіраючыся абедзвюма рукамі аб паверхню паліраванага стала, гледзячы перад сабою. Падымаюцца і прысутныя. Людзі глядзяць хто куды: на падлогу, на стол, перад сабою, на белую сцяну, толькі не ў вочы адзін аднаму.

— Прашу садзіцца,— гаворыць Аркадзь Фёдаравіч і сам першы садзіцца ў крэсла. Памаўчаўшы нейкае імгненне, Аркадзь Фёдаравіч гаворыць:

— Мы тут параіліся і думаем, што пахаванне Антона Мікалаевіча будзем праводзіць ад завода. Ён тут, на заводзе, пачаў свой працоўны шлях, тут ён аддаў рабоце многа сіл і здароўя, адгэтуль мы і правядзём яго ў апошні шлях. У нядзелю роўна ў дванаццаць гадзін я прашу вас прыйсці ў заводскі клуб. Прашу забяспечыць яўку людзей. Вынас цела будзе ў дзве гадзіны. Відаць, будуць некаторыя адказныя работнікі з нашага міністэрства. Усе мерапрыемствы, звязаныя з пахаваннем, ускладзены на таварыша Барчыкава. Ён адказны. Таму калі ад яго будзе якая просьба, ці то ў матэрыялах, ці то ў людзях, я прашу выконваць яе неадкладна. Вось кароткa і ўсё, пра што я хацеў вас праінфармаваць. Можна разыходзіцца.

— Ну, вот, цяпер ясна,— гаворыць Ігнаценка Мікалаю Макаравічу, калі яны спускаюцца ўніз па лесвіцы. Памаўчаўшы, ён працягвае: — Рыбалка ў мяне накрылася. Я планаваў на два дні махнуць, з начоўкаю. На маторцы ў вярхоўе Бярозы. Пад Палік. Там, кажуць, добра клюе...

— Не кожны ж тыдзень такое,— гаворыць Мікалай Макаравіч.

— Ды я ведаю, што не кожны,— як бы апраўдваецца Ігнаценка.— Але што ж цяпер гаварыць пра

Іваніцкага? Што яму цяпер нашы прамовы дадуць? Ну, ладна, гэта я проста так. Яно, канечне, трэба гэта ўсё, што, я не разумею, ці што... Такое дзела... Абідна вот толькі... Жывеш, жывеш... А тады хлоп — як муху тую...

Спусціўшыся на першы паверх, Ігнаценка ідзе ў свой кабінет — ён начальнік аддзела збыту, а Мікалай Макаравіч у свой, дзе адразу ж садзіцца за стол. Шчоўкнуўшы клавішам тэлефона і набраўшы нумар, Мікалай Макаравіч рашуча і строга гаворыць у трубку:

— Сцяпан?.. Слухай, Сцяпан. У нядзелю ў дванаццаць гадзін будзем хаваць Іваніцкага. Збірацца трэба ў клубе. Ад майго імя скажы ўсім нашым, каб прыйшлі. Ну, канечне, тым, хто на змене, не абавязкова.

Пасля гэтага тут жа Мікалай Макаравіч шчоўкае другім клавішам тэлефона і зноў набірае нумар:

— Клара Фёдараўна?.. Я вот да вас ніяк не мог дазваніцца. Ды, акрамя ўсяго, у нас тут на заводзе турботы, закруціўся зусім. Як там нашы, можа, ужо ў вас пабывалі?.. Добра, добра... Пяць тон, кажаце... Ну, я і не спадзяваўся. Як гаворыцца: ведай, дзе — згубіш, а дзе — знойдзеш... Цяпер мы аджывём трохі... Ды нечага дзякаваць, дробязь такая... Ды якія там грошы, нічога не трэба!.. Ну, калі вам так карціць, то, як гаворыцца, для ачысткі сумлення вышліце... Ну, вот цяпер і вы можаце паехаць па ягадкі... Чарнічкі, сунічкі... Толькі ж — з мужам, а не з кім другім... Ну, пакуль, пакуль...

Мікалай Макаравіч кладзе трубку і зноў, у каторы раз за дзень, барабаніць пальцамі па стале.

...Юный барабан-щик креп-ко спал...

Нейкі рваны сягоння дзень атрымліваецца. З аднаго боку — гэта навіна пра Іваніцкага як снег на галаву, а з другога — усё залішне гладка выходзіць, як па заказу. Міша вечарам на заводзе будзе. З металам. Цяпер можна ўздыхнуць спакойна. На пасяджэннях у Аркадзя Фёдаравіча пацець і чырванець не прыйдзецца. Хай цяпер другія пацеюць, а ён паглядзіць на іх спакойна. Ва ўсякім разе, у суботу і нядзелю пра метал думацца не будзе.

...Юный ба-ра-бан-щик креп-ко спал...

За акном хіліцца на захад сонца — асвятляе і клумбы з кветкамі, і дарогу з машынамі, якая праходзіць недалёка ад заводакіраўніцтва, і тых жа маленькіх людзей сярод гэтых высокіх дамоў, гулкіх імклівых машын. Недалёка ад заводакіраўніцтва нядаўна адкрылі кулінарны магазін — народ так і візіць ля адчыненых дзвярэй. Ужо зрэдку выходзяць з завода рабочыя. Ітээраўцам яшчэ рана. Ды і работа ёсць.

Мікалай Макаравіч пераводзіць позірк з акна на стол, дзе ляжыць ладны такі стос заявак. Усё нясуць і нясуць з аддзелаў. Што аддзел — то заяўка, а то і дзве. Дробязі, дробязі, а вот ужо колькі сабралася... Трэба паглядзець ды рассартаваць, што — Мішу, а больш важнае — на сябе ўзяць. Можа, яшчэ і сягоння куды пераразваніць можна будзе, дамовіцца на панядзелак. Каб з раніцы аўтобус не стаяў. Ды і Андрэю работа будзе.

Звоніць тэлефон. Мікалай Макаравіч падымае трубку і слухае, што гаворыць Міла. Што ж, імяніны дык імяніны. Заадно і развеяцца можна, а то і так галава зранку ўвесь тыдзень пабольвае. Можна схадзіць, чаго там, тым болей — да свата, ён — мужчына талковы, нездарма начальнікам цэха робіць, пагаварыць умее...

Тэлефонная размова закончана. Мікалай Макаравіч гучна ўздыхае, гледзячы на стос заявак, што ляжаць пад рукамі, а затым бярэцца за верхнюю. Ён чытае заяўку і тут жа плануе, куды трэба пазваніць ці напісаць пісьмо. На якой заяўцы ён так для Мішы і запісвае — каб сам попусту не ламаў галавы...

Схіліўшыся над сталом, Мікалай Макаравіч так і не заўважае, як за акном усё ніжэй і ніжэй апускаецца сонца — цяпер яно свеціць прама ў акно. Толькі тады ўжо, калі сонца пачынае біць прама ў твар Мікалаю Макаравічу, ён падымаецца з-за стала, зацягвае шторы на акне, а затым зноў садзіцца за стол. Там, за шклом і шторамі, усё болей паяўляецца ля прахадной людзей, якія спяшаюцца хто куды: дадому, на спатканне, а хто — дык і скупнуцца ў Бярозе — вада за дзень добра нагрэлася...

Дзень заканчваецца, а калі і як прайшоў — амаль і не заўважаеш.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### 1

Нэлачка стаіць ля акна прыёмнай і, шматзначна гледзячы ў самыя вочы Мікалая Макаравіча, усміхаецца і ўсміхаецца. На ёй амаль усё тое, што яна звычайна носіць на рабоце: яркі ў абцяжачку світэр, вузенькая і кароценькая спаднічка. Толькі вот чамусьці басаножкі не звычайныя, а на фарбаванай драўлянай падэшве. Такія басаножкі толькі-толькі пачыналі насіць у Бярозаве — самая мода... Усмешкаю Нэлачка як бы намякае на нешта... А ён, Мікалай Макаравіч, стаіць ля акна прыёмнай і вагаецца: падыходзіць да Нэлачкі ці не... Канечне, мяркуючы па ўсмешцы, падысці да яе можна, але ж у любое імгненне ў прыёмную можа заглянуць хто з заводскіх, і размоў тады — не абярэшся, заяву на звальненне можна загадзя пісаць. Ды і той жа Аркадзь Фёдаравіч у любы міг з кабінета можа выйсці. Нэлачцы-то — нічога, што ёй, а вот яму, начальніку аддзела... Мікалай Макаравіч глядзіць на світэр Нэлачкі і нарэшце робіць першы няўпэўнены крок. Яму не боязна Нэлачкі, не, яму боязна другога...

— Коля, Коля...— урываецца ў свядомасць голас Мілы, і тут жа ўсё, што бачылася, адразу ж знікае, нібы закрываецца якой заслонаю, за якую ўжо ніяк не зазірнеш.

— А-а,— Мікалай Макаравіч прахопліваецца і толькі цяпер усё разумее...

«Во, чорт, і прысніцца ж дурасць, пра што ніколі і не думаеш... Аж смех бярэ...» Мікалай Макаравіч скідвае з сябе коўдру і садзіцца на ложку, апусціўшы ногі ў тапачкі.

— Ды пара ўжо, раней выедзем, раней і прыедзем. Лепей днём заснеш,— ці то таму, што раніца, ці то яшчэ чаму, але Міла, ужо апранутая, гаворыць чамусьці шэптам.— Пакуль выберамся, па Машу з Аркадзем заедзем, а там яшчэ — да лесу колькі...

— Ну, добра, я — зараз. Адзенне гатова? — звыклым рухам Мікалай Макаравіч пацірае пальцамі віскі — гэта добра дапамагае, калі пачынае балець галава. Цяпер галава цяжкая, як налітая, быццам ноч не спаў.

— Ды гатова, гатова. Во, на табурэтцы ляжыць. Туфлі старыя будзеш абуваць ці кеды?

— Лепей кеды — хай ногі адпачнуць.

Мікалай Макаравіч паволі апранаецца, а затым выходзіць праз веранду на ганак.

На ўсходзе сонца ўжо ўзышло, але сягоння не надта чыстая раніца — ёсць воблакі, у якіх сонца і хаваецца. Без вялікай асалоды Мікалай Макаравіч спалосквае твар халаднаватай вадою — пабольвае галава, усё ніяк не праходзіць... Але потым, калі ён расціраецца ручніком, настрой памалу паляпшаецца і, як і заўсёды, калі ён у гуморы, сама сабою ўзнікае мелодыя.

Увогуле, апошнія гады ў Мікалая Макаравіча настрой даволі часта мяняецца: то смяешся, радуешся, а то — тут жа з-за якой дробязі перад вачыма ўсё чорным становіцца... Вось і сягоння: падняўся з цяжкасцю, але сам сябе прымусіў расхадзіцца, і вось ужо напяваецца: трам-па-ра-ра-рампа, трам-па-ра-ра... Мелодыя як мелодыя, хуткая і бадзёрая. А чаго ўвогуле кіснуць?

Мікалай Макаравіч заходзіць у веранду і на запытанне Мілы: «Ты снедаць будзеш?» — гучна і бадзёра гаворыць: «Ты лепей з сабою вазьмі. Не хочацца ў такую рань».— «Ды я і складаю»,— чуецца голас нябачнай Мілы — яна цяпер на кухні.

«Ну, хутчэй варушыся, падняла мяне, а сама не гатовая»,— Мікалай Макаравіч бярэ з шуфляды стала звязку ключоў і ідзе на двор да гаража. Ён адмыкае вялікі замок і, адчыніўшы дзверы гаража, любуецца нейкі час белым «Масквічом». Як новым касцюмам, калі надзенеш яго і глянеш у люстра. Добрая машына «Масквіч» — пяты год ужо, і ні разу не была ў рамонце. Так, калі што і было, то — дробязі...

Машыну Мікалай Макаравіч праверыў яшчэ ўчора, як вярнуўся з завода. Ён нават паціху праехаў па бярозаўскіх вуліцах, адчуваючы спакой і задаволенасць, якія можна адчуць, толькі седзячы за рулём машыны. Хаця б вось такой, як ягоны «Масквіч». Бо тады, калі сядзіш за рулём, адчуваеш сябе як бы адгароджаным ад усяго свету: і ад гэтых пешаходаў, і ад цагляных дамоў, і ад дрэў — ад усяго ты адгароджаны і ў любы міг можаш апынуцца там, дзе за-

хочаш, амаль без ніякага намагання, як у той казцы, дастаткова толькі ў час павярнуць рулём і, трымаючы нагу на «газе», адчуваць усім целам, як гэтая лёгкая магутная машына з'яўляецца як бы тваёй часткаю... Ці наадварот: цела тваё — прадаўжэнне прыгожай магутнай машыны, якая ў любы міг можа апынуцца дзе заўгодна.

Як той магутны міфічны кентаўр...

— Ну, вось я і гатова,— гаворыць Міла, выходзячы з веранды. Яна замыкае хату, спускаецца з ганка і ідзе да варот — адчыняць. На Міле гумавікі, балоневы плашч, за які калісьці аддалі сотню ды яшчэ, помніцца, праз знаёмых даставалі, а цяпер, во, як мода выйшла, ён толькі ў лес і гадзіцца. У адной руцэ Міла трымае сумку з ядою, а ў другой — поліэтыленавае дзесяцілітровае вядро.

— І ты думаеш, мы яго назбіраем?

— А чаму ж і не. Ты ж ягады любіш збіраць.

— Есці — люблю, а збіраць — не дужа,— Мікалай Макаравіч садзіцца ў машыну, а Міла, адчыніўшы вароты, выглядвае на вуліцу — ці не едзе якая машына.

— Давай, нікога няма,— яна нават памахвае рукою.

З вуркатаннем машына кратаецца і памалу выкочваецца на вуліцу. Ля тратуара Мікалай Макаравіч спыняе машыну. Цяпер можна замкнуць гараж, зачыніць вароты. Міла адразу ж усаджваецца ў машыне на сваё любімае месца: спераду... Вядро і сумку ставіць тут жа, ля ног.

— Усё ўзялі, нічога не забыліся? — пытае яшчэ раз Мікалай Макаравіч, усаджваючыся на сваё шафёрскае месца.

— Здаецца, усё,— Міла папраўляе валасы — запіхвае далонню пад хустку. Увогуле, Міла сягоння нейкая незвычайная: і трыко, і хустка, якую невядома дзе адкапала. Як ні дзіўна, але ўсё гэта Міле намнога лепш да твару, чым той жа парык ці модная кофтачка. Нечакана Мікалаю Макаравічу ўспамінаецца, каго нагадвае Міла — тую вясковую адзінокую жанчыну, у якой ён шэсць год назад кватараваў, калі ад завода ездзіў у падшэфны калгас кіраўніком групы...

— А вады? Забылася, канечне...— гучна гаворыць Мікалай Макаравіч, і ў той жа час усё тое, даўняе, стаіць і стаіць перад вачыма.

— Ай, і праўда,— Міла парываецца выйсці з машыны, але Мікалай Макаравіч, глянуўшы на наручны гадзіннік, гаворыць: — Ладна, пераб'ёмся як-небудзь... У Машы возьмем. Не забудзь толькі напомніць.

Машына кратаецца, і Мікалай Макаравіч глядзіць, як праплываюць і застаюцца ззаду і дамы, і кусты ля дарогі, і дрэвы, і той жа асфальт, што шырокай стужкаю сцелецца пад колы.

...Вось гэтак жа і жыццё: здаецца, толькі-толькі тая паездка была, а ўжо глядзіш — шэсць год прайшло. Нечакана Мікалаю Макаравічу становіцца крыўдна, быццам яго хто ўзяў ды і абвёў вакол носа...

У тую восень ён паехаў у калгас не па сваёй ахвоце — так ужо здарылася, што Міша быў на бальнічным, а болей з іх аддзела паслаць не было каго. Былі тады дажджы, якія цадзіліся з раніцы да вечара, і яму даводзілася мокнуць з групаю на голым полі...

Бульбы ён не збіраў, але ўсё-ткі не будзеш сядзець у хаце. Ён вяртаўся на кватэру позна, бо падоўгу сядзеў на кухні, дзе — калі жартаваў з кухаркамі, а калі проста так сядзеў на кухні ля пліты і моўчкі глядзеў на агонь. А раніцай зноў церусіўся дождж, зноў трэ было ісці на калгасны двор да брыгадзіра, затым сняданак, а тады — на поле... Так што той гаспадыні ён амаль і не бачыў. Пры знаёмстве яна, захутаная да вачэй хусткаю, у шэрай куфайцы, у гумавых заляпаных граззю ботах, нешта буркнула, ён не разабраў — што, падумаў тады: «Ну і як хочаш, красавіца, што мне з табою — дзяцей хрысціць...» А потым так сталася, што з ёю ён амаль не сустракаўся вочы ў вочы: падымаўся ранкам — яна была яшчэ на ферме, прыходзіў вечарам — яшчэ не вярталася. Так і прайшлі тыя дзевяць дзён. І ён ужо маркоціўся па сваёй утульнай звыклай хаце, па Міле, думаў, што праз які дзень-два можна будзе ехаць адгэтуль назусім, пакінуўшы макрэчу і гразь, якіх тут, пасля асфальту і ванны, аказалася так многа...

Але пазванілі з завода, сказалі затрымацца яшчэ на тры дні — не пакідаць жа ў полі бульбу на зіму...

Памалу дажджы перасталі, ветрам расцягнула воблакі, падсушыла зямлю, і ў паветры стала чыста і ясна, як гэта бывае позняй восенню, калі ліст з дрэва апаў і, счарнелы, ляжыць на мураве, на дарозе... Раніцай з туману выплывала чырвонае сонца, абяцаючы чысты дзень. І ці то ад перамены надвор'я, ці то яшчэ ад чаго, але настрой у яго тады нечакана змяніўся. Нечакана для сябе ён і сам пачаў збіраць бульбу, спачатку жартам, дапамагаў усё адстаючым, а потым ужо і сур'ёзна. Вечарам, калі прыходзіў з работы, яму ўсё не хацелася ісці ў хату — адчуваючы ў целе прыемную стому, ён доўга хадзіў па садзе, дзе сярод лісця ляжалі жоўтыя, налітыя ядраным сокам антонаўкі. Ён глыбока ўдыхаў пах сырой зямлі, прэлага лісця і яшчэ чагосьці — таго позняга, восеньскага, чаго ён ужо так даўно не адчуваў у шумным Бярозаве.

У апошні вечар ён, вярнуўшыся з кухні, убачыў, што гаспадыня дакопвае бульбу за садам. Разагнаныя палоскі цямнелі пад чыстым яшчэ, светлым небам. Падумалася, што дацёмнага ёй адной не справіцца, навошта было столькі разганяць...

— Вы ўжо там самі як-небудзь спраўляйцеся,— яна разагнулася, калі ён падышоў блізка, і, вінавата ўсміхнуўшыся, упершыню адкрыта глянула яму ў вочы.— Вот разагналі мне мужчыны, баюся цяпер, каб нанач мароз не прыхваціў...

І ён, сустрэўшыся з яе позіркам, убачыўшы яе расчырванелыя ад работы шчокі, пайшоў у баразну... Ён яшчэ спрабаваў жартаваць, але нічога не выходзіла, нешта яму ўсё мяшала, мяшала... Чамусьці помніўся яе позірк і вочы — нейкія вінаватыя... «Ты глядзі, а яна ж яшчэ — зусім маладая. Закутаюцца, ні вачэй, ні носа не разгледзіш...» — і цяпер яму здавалася, што дагэтуль ён яе і не бачыў, а вот толькі цяпер разгледзеў...

Пасля яна насыпала з груда ў мяхі бульбу, а ён са здаровай мужчынскай асалодаю адчуваў на плячах цяжар поўных палатняных мяхоў. Тады здавалася яму, што і пах свежаразагнанай зямлі, і яшчэ ўсё тое, восеньскае, запахла вастрэй, і яшчэ болей балючым зрабілася адчуванне таго, што ён нешта навек губляе. Ці ўжо згубіў... І так не хацелася, каб вечар канчаўся, здавалася, вот так бы насіў і насіў бульбу.

А потым яны сядзелі ў хаце за сталом. Цяпер ён ужо смела глядзеў на яе ружовы чысты твар, на круглыя няхітрыя, як у дзеўчынёхі, вочы і думаў, што ў вёсцы жанчыны ўвогуле здаравейшыя і прыгажэйшыя, чым бярозаўскія... Яно і канечне — на дварэ цэлымі днямі...

— Дык як жа ты — такая красівая і мужа сабе не прыдбаеш? — пытаўся ён і ўсё знарок стараўся зазірнуць у самыя вочы.

Яна чырванела, а потым усё ж не вытрымала:

— Вот і аставайцеся, калі ўжо так шкадуеце...

— А можа, і застануся,— яму хацелася, каб яна сказала «ты». Але яна гэтага не гаварыла. І яшчэ, калі ён гаварыў гэтае «застануся», так і вярцелася ў ім: «А чаму б і не застацца, чаму?» Ён быў ап'янелы, і не ад выпітага...

...Потым яна паціху па-жаночы ўсхліпвала, трымаючы галаву на ягонай руцэ, і ён у святле месяца бачыў, як блішчыць яе мокры твар, як адліваюць чарнатою яе доўгія валасы. І было яму балюча ад гэтых слёз так, што хоць ты сам вазьмі ды заплач. Ён са здзіўленнем адчуваў сваё памаладзелае цела, быццам чужое, думаў, што з гэтай жанчынаю так добра, як ніколі ні з кім не было, нават з Мілаю ў маладых гадах яму не было так добра... «Чаму ж так на свеце, чаму?» — думаў ён тады з болем і нічога не мог прыдумаць. Ён толькі гладзіў яе рассыпаныя валасы.

Яны нічога не гаварылі. І яна не пыталася, і ён не пытаўся — разумелі абое, што словы тут не патрэбны...

А раніцай, калі ён прачнуўся, яе ўжо не было... І ён памалу сабраў рэчы, выйшаў на двор, пастаяў на ганку, гледзячы на пахіленыя вароты, на ўжо добра-такі паламаны плот — на ўсё тое, што так і прасілася да дужых мужчынскіх рук... Потым ён схадзіў у садок, падняў жоўты яблык, які ляжаў на счарнелым лісці, патрымаў у руках і чамусьці кінуў... Глянуўшы напаследак на выкапаныя баразны, на круглыя ўбітыя плямы па зямлі ад учарашніх грудоў бульбы, ён хутка пайшоў да кухні, адчуваючы перад сабою страшэнную віну, якую — гэта ён ведаў — нічым і ніяк не замоліш... Не перад ёю ён быў вінаваты...

Вуліца, паварот, другая вуліца, цяпер праспект, і вось ужо знаёмы цагляны пяціпавярховы дом, у якім жывуць Маша з Аркадзем. Кватэру ў гэтым доме атрымаў Аркадзь — ад завода, як малады спецыяліст. Прабіўны хлопец, ціхі, ціхі, а глядзі — праз год пасля інстытута ў першым жа заводскім доме кватэра. Кажуць, спецыяліст талковы. Ды і сват дапамог, калі б не сват, то наўрад бы што выйшла, як-ніяк, а ўсё-ткі родны бацька — начальнік асноўнага цэха. Лічацца...

Мікалай Макаравіч спыняе машыну і глядзіць на Мілу:

— Ну што, можа, сама пойдзеш?

— Не, давай удваіх.

Таксама, во, дзіўна, сваё дзіця, здаецца — чаго саромецца, але вот як выйшла Маша замуж, то ўжо стала як чужой усё роўна. І часта сарамнавата і як бы боязна перад ёю, сваёй дачкой. І незразумела, чаму так, быццам вінаваты ў чым, а ў чым — невядома... Мікалай Макаравіч глядзіць на Мілу і ўпершыню здагадваецца, што і яна адчувае тое ж самае.

— Ну, пайшлі ўдваіх, калі адна баішся...

— Чаго мне баяцца? Тожа яшчэ выдумаеш...— гаворыць нягучна Міла, вылазячы з машыны.

Яны падымаюцца на трэці паверх, дзе Мікалай Макаравіч націскае пальцам кнопачку ля дзвярэй, абабітых карычневым дэрмацінам. У гэтых дзвярах устаўлена «вочка».

За дзвярыма чуецца мілагучная мелодыя званка. «Амаль такі ж, як і ў маім тэлефоне»,— думае Мікалай Макаравіч. Дзверы тут жа і адчыняюцца, быццам за дзвярыма толькі і чакалі званка. Бачыцца ў парозе Аркадзь — як заўсёды, гладка паголены, спакойны і ветлівы. Ён апрануты ў трыко, на нагах — шлёпкі... Толькі цяпер Мікалай Макаравіч заўважае, што ў Аркадзя намячаецца жывоцік...

— Праходзьце. Дзень добры, дзень добры,— запрашае Аркадзь.

— Ну, як тут пажываем, маладзёж? — каб прагнаць няёмкасць і разгубленасць, Мікалай Макаравіч прымушае сябе шырока і ветліва ўсміхнуцца. Ён ведае, што, калі трэба, можа ўсміхнуцца, хоць і на душы ў гэты час пагана.

— Пакуль крыўдавацъ няма чаго,— поўныя вусны Аркадзя крывяцца ва ўсмешцы,— бяром прыклад са старэйшага пакалення.

— І правільна робіце, правільна,— Мікалаю Макаравічу і самому прыемны гэты бацькоўскі тон, ён адчувае, што з Аркадзем у яго як бы якая гульня ў бацькоў і дзяцей, якая да пары да часу не замінае ім абодвум.

— Вы ж толькі не ўздумайце разувацца. Мы ўсё роўна заўтра будзем дарожкі вытрасаць. Сюды, на кухню, праходзьце,— гукае Маша.

Па мяккай чырвонай дарожцы яны праходзяць на кухню: першы Мікалай Макаравіч, затым Міла і апошні Аркадзь. Маша, як гаворыцца, апранутая папаходнаму — у трыко, у балоневай куртцы,— разлівае па шклянках з чайніка каву. Цяпер, калі яна зацяжарала, твар яе паблядиеў, пахудзеў, вочы сталі вялікія, а шчокі зусім уваліліся... Цяпер яна ўвогуле зусім не такая, якой была да замужжа — тады пухленькая, поўная, усё смяялася, а цяпер — куды гэта падзявалася...

— Вы каву піць будзеце? — пытае Маша.

— Ну, давай, па адной...— Мікалай Макаравіч падсоўвае табурэтку да стала і садзіцца.— Дома дык, во, і не хацелася, а ў гасцях — зусім другое...— Мікалай Макаравіч усміхаецца неяк крыва, як сам з сябе...

Побач садзіцца на табурэтку і Міла.

— Аркадзій, а ты чаму не п'еш кавы? — Міла глядзіць на Аркадзя. Мікалай Макаравіч ловіць позірк Мілы, і яму чамусьці няёмка — звычайна гэтак глядзяць падначаленыя на сваё заводскае начальства. Не ўсе, канечне...

— Я не хачу,— Аркадзь усміхаецца. Ягоная ўсмешка, спакойная і ўпэўненая, чамусьці трывожыць, здаецца, наадварот ён павінен быў глядзець на іх так, як на яго глядзіць Міла. «І адкуль у іх, маладых, такая ўпэўненасць у сабе? — думае Мікалай Макаравіч.— Здавалася б, за тую тысячу, якую на абстаноўку даў, ён пяты лізаць павінен, а тут во — глядзіць як ні ў чым не бывала, быццам яшчэ гэтулькі павінен даць...»

— Ну, вот і я гатова.— Маша дапівае каву.— Аркадзій, бяры вядро і сумку, пайшлі. Ты гатовы?

— Давайце і вады з сабою возьмем,— успамінае Міла.— Мы нешта зусім забыліся.

«І чаго яна так перад імі апраўдваецца?» — думаецца Мікалаю Макаравічу.

— Не трэба вада. Мы кампоціку наварылі. Яшчэ ўчора. Хопіць на ўсіх,— гаворыць Аркадзь аднекуль з прыхожай — відаць, абуваецца.

«Усё ў цябе запланавана, усё як па масле...» — зноў з нейкім здзіўленнем думае Мікалай Макаравіч. Што бянтэжыць Мікалая Макаравіча, дык гэта ветлівасць Аркадзя. Во, ужо больш года, як жыве з Машаю, і хоць бы раз пры людзях узлаваўся ці хаця б надзьмуўся — не, усё ў яго з усмешачкай, ад якой адчуваеш сябе нейкім дурнем, ці што... І хоць Аркадзь заўсёды гаварыў прыемныя мяккія словы, але Мікалай Макаравіч адчуваў, што думае ў гэты час Аркадзь зусім іншае. Маладыя гэтыя цяперашнія лоўкія...

— Ну, тады — наперад,— гаворыць Маша. Яны ўсе ідуць у прыхожую, да тых дзвярэй, у якіх яшчэ здаля паблісквае маленькае круглае вочка, у якое так і цягне глянуць...

## 2

— Маша, можа, ты спераду сядзеш? — пытае ля машыны Міла і зноў у каторы раз разглядвае поўную, як налітую, Машыну постаць.

— Ай, мы ўжо ззаду,— гаворыць Маша і адчыняе заднія дзверцы.

Коля заводзіць машыну, і вось асфальт плыве пад ногі... Міла глядзіць праз шкло на вуліцу, дзе ў рад ля дарогі стаяць цагляныя чатырохпавярховыя дамы і ў вокнах якіх ужо весела паблісквае сонца.

— Ужо шэсць, вот табе і на...— гаворыць чамусьці Міла, глянуўшы на наручны гадзіннік.

— Дык куды паедзем, начальнікі? — пытае Коля. У яго сягоння нешта не надта добры настрой. Ды і з твару ён нешта шэры...

— Давайце туды, дзе летась былі,— прапаноўвае Маша.

— Толькі не на тое ж самае месца,— гаворыць Аркадзь.

— Чаму гэта? — Міла паварочваецца і здзіўлена глядзіць Аркадзю ў вочы.

— Зноў ключы згубім.

Усе смяюцца. Летась у лесе ля машыны Коля згубіў ключы. Яны тады цэлую гадзіну лазілі па траве. Цяпер смешна, а тады было не да смеху — вечарэла, цямнела на вачах. Як казаў пасля Коля, нюхалі кожную былінку.

Бярозава застаецца ззаду, пачынаецца гравійка. Коля прыцішыў ход, чуваць шоргат гравію, у днішча машыны час ад часу стукаюць каменьчыкі. Калі стукае які большы, Коля аж моршчыцца, быццам той каменьчык стукае па ім.

Паказваюцца вёскі, то бліжэй ад дарогі, то — далей. Міла глядзіць на чужыя невядомыя хаты, у якіх ёсць нейкае жыццё, мо ў чым падобнае на яе жыццё, а мо ў чым і не... І ёй дзіўна чамусьці бачыць тое невядомае жыццё. Які ўжо раз думаецца Міле, што так, як жыве яна, гэта найлепшае, як гаворыць часта Коля, найлепшы варыянт, а вот так, як жывуць тыя невядомыя людзі, гэта ўжо не тое... Ці не таму ж і Бярозава здаецца найлепшым на зямлі месцам, тут, у Бярозаве, усё побач: і лес, і Бяроза, і той харошы ўтульны дом. А вот у другім месцы гэта ўсё не так, не так... І таму, гледзячы на далёкія і блізкія вёскі, Міла думае, што іх, тых вясковых людзей, трымае тут: агароды, карова, свінні? Што?.. І жывуць жа яны ў вёсцы не дзень, не тыдзень, а ўсё жыццё, нараджаюцца тут, тут жа і паміраюць... Усё жыццё...

Чамусьці ўспамінаецца Іваніцкі, якога толькі адзін раз і бачыла — калі з жонкаю Іваніцкі прыходзіў у госці. Было гэта, як Коля атрымаў ад завода машыну. Вось тады Іваніцкага і запрасіў Коля. Гулялі, помніцца, ледзь не ўсю ноч, яна нават танцавала з Іваніцкім. Тады на ёй была доўгая, да пят, сукенка — у Бярозаве ў тыя гады толькі-толькі ўваходзілі ў моду доўгія сукенкі, і Міла таксама пашыла сабе такую. На выхад...

— Маша, ты ведаеш — памёр жа Іваніцкі,— гаворыць Міла.— Помніш, ён у нас у гасцях быў, як машыну купілі?

— Што ты гаворыш? — здзіўляецца Маша. Памаўчаўшы, яна дадае: — А я дык яго ў твар ужо і не

помню. Малая я тады была. Колькі мне было? У восьмым класе, здаецца...

— А цяпер ты вялікая? — са смехам пытае Аркадзь.

— А што — не?

— Вялікая, вялікая...— у голасе Аркадзя чуецца насмешка.— Гэта на тым тыдні да нас госці прыходзілі. З маёй работы. Ну, туды-сюды, за стол пара садзіцца, а дарослая Маша пытаецца ў мяне на ўвесь голас: «Арка-адзій, а дзе наша соль стаіць?» О-о, то ў мяне хлопцы пыталіся, дапытваліся ўсё, дзе я такую ўдаліцу адкапаў, што не ведае, дзе ў хаце соль стаіць.

— Ну і што,— па голасу чуваць, што Маша ўсміхаецца,— знайшоў пра што гаварыць. Цяпер сучасныя мужчыны павінны на кухні быць не меней, чым жанчыны. Раўнапраўе цяпер, паняў?

— Паняў, паняў... Вывучылі вас на нашы галовы, далі свабоду. Гэта ж ты яшчэ інстытута не закончыла, а калі б яшчэ ды інстытут удалося закончыць, дык ба без фічкі да цябе і падысці нельга было б,— Аркадзь усё пасмейваецца. Праз люстэрка, якое прымацавана ўверсе ля ветравога шкла, дзе дворнікі, Міла бачыць, як Аркадзь адной рукою трымае Машыны пальцы.

— Ты, Аркадзій, не слухай іх, жанчын, а то яны давядуць да ручкі... Ім толькі дай свабоду,— падае голас Коля. Выгляд у яго сур'ёзны. Увогуле, калі Коля садзіцца за машыну, ён адразу ж мяняецца — яшчэ болей салідны і ўпэўнены. Як быццам касцюм новы апранае, і касцюм той на ім — як уліты...

«Зусім яшчэ як дзеці тыя»,— думаецца Міле пра Машу з Аркадзем. Яна непрыкметна для сябе ўздыхае.

Гэтак жа бесклапотна смяялася і яна калісьці з Колем. Як даўно гэта было, як і не з ёю ўсё роўна... Тады яны, у першы год пасля вяселля, калі жылі на прыватнай кватэры і, як жартаваў тады Коля, нічога, акрамя матраца, не мелі, часта бегалі пасля работы ў кіно, на танцы, летам — на рэчку... Помніцца, тады яшчэ нейкі час пасля замужжа Міла спявала ў заводскім хоры — тады ўсё было проста і лёгка. А потым, калі іх бесклапотны смех знік, нешта пачало ім мяшаць, і яны спачатку думалі, што віною ўсяму —

клопаты, якіх з кожным днём паяўлялася ўсё болей і болей... І думалася, што яшчэ які год, другі, яны справяцца, уладзяць усё і зноў да іх вернецца тая ранейшая весялосць і бесклапотнасць. ... Вот абладзяць хату, разлічацца з даўгамі, будзе свой куток, пойдзе Маша ў заводскі садзік, і тады ўжо... Вось закончыць Коля завочна тэхнікум, атрымае новую пасаду, і тады ўжо... Але тады трэ было думаць пра абстаноўку ў пустую хату, пра адзенне, пра дарагую мэблю, пра машыну, пра каляровы тэлевізар — пра ўсё тое, што неяк само сабою паяўлялася ў другіх бярозаўцаў, а ім даставалася салёным потам...

А тая бесклапотнасць так і не вярнулася, як ракою, яна цяпер адгароджана ўсім, што яны прыдбалі, набылі... І цяпер у Мілы да Колі амаль такое ж пачуццё, як калісьці да бацькоў... Не болей... Ужо не апякае дотык Колевых пальцаў, думаецца пра Колю так, быццам ён — тваё прадаўжэнне...

Далёкія і блізкія вёскі застаюцца ззаду, па невысокім драўляным масце машына пераязджае рачулку, за якой адразу ж пачынаецца лес — з аднаго і з другога боку гравійкі.

— Ну, начальнікі, успамінайце, дзе будзем паварочваць,— зноў гудзе Коля, хоць, відаць, і сам добра ведае, дзе паварочваць — ён заўсёды добра запамінае дарогу.

— Ды вот недзе тут, скора... Як я помню, дарожка павінна быць управа,— гаворыць Маша.

— А можа, улева? — пасмейваецца Аркадзь.

— Можа, і ўлева, — згаджаецца Маша. Яна глядзіць на сосны, што падступаюць да самай дарогі.

Нарэшце Коля прыцішвае ход, і машына зварочвае на лясную дарогу. Цяпер яны едуць значна цішэй, ды і гайдае машыну намнога болей — тоўстыя жаўтаватыя сасновыя і яловыя карані так і пераплялі дарогу... Блізка, ля самых акон, відаць зялёны чарнічнік з чорнымі вочкамі ягад.

— Ой, давайце тут станем. Глядзіце, колькі тут ягад!

— Тут жа — гравійка побач, праедзем трохі далей. Будуць і там ягады,— гаворыць Коля.

— А там ягад можа і не быць.

— Будзе, ва ўсякім разе, табе — хопіць.

— Пагубяць цябе гэтыя ягады, як Бурыданавага асла сена,— смяецца з Машы Аркадзь. Гэты Аркадзь увесь час пасмейваецца з Машы. Вясёлы чалавек.

— Якога асла і якое сена? — пытае Маша.

— Ну, жыў-пажываў на свеце адзін дужа граматны і разважлівы асёл. Бурыданаў. Есці ён адзін раз захацеў. І паставілі тады яго паміж дзвюх коп сена. Роўна пасярэдзіне,— Аркадзь замаўкае, чакаючы Машынага пытання.

— Ну, дык і што ж з тым аслом сталася? — сапраўды не вытрымлівае нецярплівая Маша.

— Ён усё стаяў і думаў, да якой яму капы бліжэй ісці. Думаў, думаў... Так з голаду і капыты ўбок адкінуў...

— Ой, ну, тата, скажыце вы яму... Увесь час з мяне смяецца. І пры чужых, бывае... Хай ужо, калі ўдваіх... Што ты гэтым хочаш сказаць? Што я для цябе — як той асёл стала?..

— Асліца,— смяецца Аркадзь.

— Ну, дык тады і гавары з асліцаю, а не са мною,— рэзка гаворыць Маша. Незразумела, ці то Маша сапраўды пакрыўдзілася, ці то проста так зацiхла. Хто іх, маладых, разбярэ, з-за аднаго позірку могуць такі сыр-бор развесці, а з-за слова — тым болей...

Нарэшце Коля, уз'ехаўшы з дарогі прама на чарнічнік, спыняе машыну.

— Ну, давайце тут паглядзім. Калі ягад дужа не будзе, далей праедзем. Наперад, начальнікі,— гаворыць Коля так, быццам і не чуў апошняй перапалкі Машы з Аркадзем. Ён адчыняе дзверцы машыны і першы выходзіць.

Узяўшы вядро і кварту, Міла таксама вылазіць з машыны.

Сосны адразу ж здаюцца вышэйшымі, а яны самі — і Коля, і Маша з Аркадзем, і тая ж машына — на цуд малымі. Дзесьці зверху чуецца роўны шум. Там, над вяршалінамі, бачацца ў блакіце рэдкія белыя аблачыны, якія ўсё некуды плывуць і плывуць — сягоння хоць які вецер ды ёсць... Пасвіствае птушка, якая — Міла не ведае, ва ўсякім разе — не сініца... Ля самай дарогі, дзе стаіць машына, ля пня шарэе мурашнік — мурашкі паўзуць узад-уперад як па мурашніку, так і збоку, некаторыя цягнуць ігліцу...

Прыгледзеўшыся, можна заўважыць вузенькія мурашыныя дарогі, якія разыходзяцца ад мурашніка ва ўсе бакі. Мурашак столькі, што мурашнік здаецца адзіным пульсуючым жывым целам... «Таксама, во, жывуць і гора не ведаюць»,— думае Міла.

— Ой, колькі тут ягад! — не вытрымлівае, ледзьве не крычыць Маша. Яна адразу ж бяжыць наперад — знікае між сосен.

І сапраўды, ягад многа. Калі пастарацца, то дзевяцілітровае вятро можна набраць.

— Коля, ты як будзеш браць: у вядро ці ў кварту? — пытаецца Міла.

— У кварту. Як заўсёды,— ледзьве не крычыць Коля. Ён таксама пайшоў услед за Машаю.

— Ну, дык ідзі і забірай сваю кварту.

— Пачакай, я пагляджу, можа, дзе лепшае ёсць...

— Вечна ты выбіраеш. Хочаш, каб яны самі ў рот сыпаліся,— Міле чамусьці непрыемна, што Коля ходзіць па лесе без толку. Лепей бы ягады браў...

Колі доўга няма. Нарэшце ён паказваецца між сосен і яшчэ здаля, не даходзячы, махае рукою:

— Сюды ідзіце, тут, здаецца, ягады большыя.

— А з машынаю як?

— Ды паспрабую пад'ехаць. Спачатку праеду па дарозе, а пасля — завярну...

Коля садзіцца ў машыну, заводзіць яе і памалу едзе ў лес па дарозе, а потым заварочвае... Міла і Аркадзь ідуць следам. Здалёку чуваць голас нябачнай Машы:

— Арка-адзій.

Аркадзь маўчыць, як і не чуе ўсё роўна.

— Арка-адзій,— зноў лунае крык Машы. І зноў Аркадзь маўчыць.

— Ма-мааа...

Міла не вытрымлівае, падае голас.

Праз нейкі час здалёку між сосен паказваецца Маша:

— Аркадзій, ну чаму ты не адзываўся?

Аркадзь маўчыць. Потым, калі Маша падыходзіць бліжэй, пытаецца строга:

— А чаго ты пабегла? Хто цябе туды прасіў? Ты што, думаеш, я таксама за табою бегаць буду?

— Дык там жа ягады.

— А тут што, мала табе,— Аркадзь гаворыць і ўсміхаецца. Незразумела, ці то ён злуе, ці то проста так...

Пасля гэтых слоў Аркадзь нагінаецца і пачынае абіраць вешку ягад.

3

«Ты глядзі, як ён Машу ў свае рукі бярэ... Усё смешачкамі, жарцікамі, а калі разабрацца...» — як упершыню, аж з нейкім здзіўленнем глядзіць Мікалай Макаравіч на Аркадзя. Нездарма людзі кажуць: «Мякка сцелюць — мулка спаць...» Мікалай Макаравіч глядзіць на Мілу і заўважае яе ласкавы позірк, якім яна акідвае Аркадзя... «Яна, во, нічога не панімае,— чамусьці паяўляецца крыўда на Мілу.— Разумны, граматны, спакойны... Гэты чорт яшчэ сваё балота пакажа...»

Каб адагнаць ад сябе ўсё непрыемнае, Мікалай Макаравіч шырока ўсміхаецца і стараецца ветліва сказаць:

— Давайце, дзеці, тут, ля машыны, ягады браць. А тады, як выберам ягады, пад'едзем у новае месца. У абед, можа, і да рэчкі пад'едзем. Я ведаю, недалёка тут...

— Ур-ра...— Маша адразу ж забывае на крыўду.

— Ты не ўра́кай, а ягады бяры,— сур'ёзным тонам гаворыць Аркадзь.

— Ты за мяне не сабярэш... Я вот дзесяць квартаў насабіраю, і ўсё. Астатняе — ты... Паняў?

— Пагляджу, як ты сабярэш.

— Сабяру, не бойся.

«Таксама, во, знайшоў, з кім раўняцца, як быццам і не ведае, што ёй дужа няможна нагінацца. Такі бугай, што яму...»

Мікалай Макаравіч глядзіць на поўненькую кругленькую постаць Аркадзя і разумее, што амаль нічым не можа памагчы Машы. Свайму дзіцяці і — не паможаш, хоць локці кусай... Паспрабуй, во, умяшайся між імі, дык яшчэ і невядома, паможаш гэтым ці — наадварот... Колькі вось такіх прыкладаў ён ведае: умяшаюцца бацькі з парадаю ў сем'і дзяцей, а пасля тыя ж дзеці сваіх бацькоў і клянуць на чым свет стаіць... Ці паміраюцца яны, ці — развядуцца, а

ўсё роўна ты вінаваты будзеш. Такога ж не можа быць, каб вінаватых не было...

І тут жа, за гэтым разуменнем свайго бяссілля, Мікалай Макаравіч упершыню здагадваецца, што цяпер для яго Маша — увогуле, чужы чалавек. У яе свая сям'я, хутка будзе сваё дзіця, а ён... А ён проста не патрэбен Машы. Не патрэбен...

Такая думка настолькі нязвыклая і дзіўная, што Мікалай Макаравіч стараецца тут жа адагнаць яе ад сябе: не, не, няпраўда... Ну, як жа: гэта ж, як гавораца, ягоная плоць, ягоная кроў... Колькі год ён глядзеў Машу. Як сябе ўсё роўна... Можа, нават і лепей. Ад сябе калі што адрываў, а ўсё ёй, ёй... І ў музычную школу ўладкоўваў, і ў тое ж медвучылішча, ды і ўвогуле, ці пералічыш тыя дні і ночы, калі ён думаў пра яе... «Вот вырасце, і ён з ёю...» — так думалася яму і ў той час, калі пасля работы заходзіў па Машу ў заводскі садзік, і потым, калі за ручку вадзіў у першы клас, і яшчэ, і яшчэ...

«Ну і што з таго,— як бы чуецца Мікалаю Макаравічу роўны спакойны голас Аркадзя.— Вот яна вырасла, а цяпер ты — сабе век дажывай, а яна — сабе... Як табе хочацца, так і дажывай, а цяпер я ў яе гаспадаром буду... Вот што захачу, тое і скажу. ...Аслі-іца...»

Мікалаю Макаравічу няёмка і няўтульна, нават на рабоце яму не бывае так няёмка, бо там, на рабоце, ён заўсёды ведае, што і як трэба рабіць, а вось цяпер... Каб забыцца на ўсё непрыемнае, ён нагінаецца і пачынае браць ягады.

Ягада да ягадзіны — ужо ў кварце і дна не відаць. Вот гэтак жа ён і жыццё сваё складваў, можна сказаць — з нуля пачынаў, па дробязях... Смяяліся тады, як на завочнае ў тэхнікум паступаў: навошта вечарамі сляпіцца, і без вучобы грошы зарабляць можна, во, лепей піва вечарам выпі ці на рыбалку з'ездзі... Цяпер тыя, колішнія грамацеі, зайздросцяць, чытаючы шыльду на ягоным кабінеце, Мікалаем Макаравічам называюць пры сустрэчы... Як той жа Андрэй... Ды і хата... Казалі тады таксама: навошта купляць, навошта будавацца, лепей год-другі перачакаць ды ад завода кватэру атрымаць, без турбот, без работы, адразу ўсё гатовае...

Гатовае-то гатовае, але цяпер глядзі-тка — гараж, які пад бокам у сваім двары, агарод, на якім усё сваё, а не купленае з рынку, вялікія, хоць у скокі пускайся, пакоі... Няўжо ўсё гэта можна параўнаць з тымі дзесяць разоў перамеранымі метрамі, якія ён атрымаў бы ад завода? Цяпер за ягоную хату тысяч пятнаццаць дадуць адразу, не пытаючыся. Адзін гараж чаго варты...

Вот толькі не трапіць бы пад знос, кажуць, што плануюць усю вуліцу зносіць. Гэтыя вечна халодныя і няўтульныя пад'езды, гэты пах цэглы, які і без таго прыядаецца на заводзе... Не, трэба неяк будзе выкруціцца. Вот толькі як?.. Дрэнна, дрэнна будзе, калі хата пад знос трапіць. Глядзіш, во, з дробязяў так усё добрае, набытае потам, пачне адыходзіць, як тое лісце і дрэва восенню асыпацца... Бяда, яна заўсёды адна не ходзіць, як гаворыцца, за сабою траіх прыводзіць...

Дзіўна, так добра пачалася раніца, а цяпер нешта ўсё трывожыць і трывожыць, як недаробленая работа маецца... Хоць, калі разабрацца, наадварот — нічога кепскага пакуль і не намячаецца як на рабоце, так і дома: і метал выбіў, і ў лес выбраўся, ягад на зіму збяруць. Маша з Аркадзем пасварылася... Ну, мала што ў маладосці бывае. Помніцца, і ў яго з Мілаю спачатку не ўсё гладка было. Тая ж самадзейнасць, танцулечкі, гуляначкі, а да гаспадаркі душа ў Мілы дужа і не ляжала. Спачатку першыя гады цярпеў, а потым давялося брацца... Пакуль не пераламаў, хапіла і яму. Цяпер нічога, хоць і не ўсё ідзе так, як хочацца, але — цярпець можна. У другіх вунь яшчэ горай — самі мужчыны сняданкі сабе рыхтуюць, а гаротныя жонкі вылежваюцца...

Дык што ж яму мяшае?..

...А-а, то, відаць, думкі пра Іваніцкага... Заўтра трэба ісці на завод... Вот пра што ён забыўся. Праўдзівей, ён ведае пра гэта ўвесь час, але гэта веданне неяк не трывожыла, не выступала наверх... І вот цяпер Мікалай Макаравіч разумее, што думка пра лёс Іваніцкага, магчыма, няясная, падсвядомая, давала, як гаворыцца, падсветку і іншым: і што Маша — чужы чалавек, і што ягонае жыццё можа ў любы дзень пайсці наперакасяк... Як жа ён пра гэта раней не здагадаўся?

Нічога, галоўнае — не распускацца, трымаць нервы ў кулаку. Не плакацца... Як гаворыцца, усе там будзем... А пакуль ён не там, а тут, то і рабіць трэба ўсё, што можна.

Дарэчы, а што ж яму патрэбна, што ж яму трэба рабіць?..

...Ну, як жа — і сям'я, і хата, і тая ж машына, і работа... Яму трэба ўсё, што прыносіць спакой і ўпэўненасць, ад чаго паяўляецца адчуванне, што вот ёсць у Бярозаве не нейкі там забулдыга ці п'янчуга Сцёпачка, які кватаруе ў суседкі, а ён, начальнік аддзела забеспячэння завода Мікалай Макаравіч, у якога ёсць і хата, і сям'я, і павага на рабоце, і тая ж бліскучая машына, якая рэдка ў каго ёсць... І не хто-небудзь, а ён можа паехаць на поўдзень да мора, і не ў каго-небудзь, а ў яго пытаюць: «Мікалай Макаравіч, можна да вас?» І ўсё гэта, што, як сцяною, акружае, дае адчуванне незалежнасці і спакою. А калі ж што і парушаецца ў той сцяне, то трэба адразу ж, не задумваючыся, заляпіць тую шчыліну...

Так было, калі яго нечакана пацягнула да той вясковай жанчыны. Ён тады, ад'язджаючы з групаю з вёскі, так і не думаў, што асноўныя пакуты будуць потым, пасля... Ён сядзеў у кабінеце, рабіў нешта ля хаты, ездзіў на машыне — і ўсё, што б ні рабіў, ніяк не засланяла думак пра яе... «А ў гэты час яна...» — такая думка панавала над другімі, і часта ён не мог уявіць, як жа зможа ён жыць далей без яе... Ён бачыў той двор, тыя яблыні, той выкапаны агарод — здавалася, што ўсё там так і засталося некранутым, так і чакае яго... Мо ўпершыню Мікалай Макаравіч адчуў, як усё, за што дагэтуль трымаўся, можа абрушыцца, і таму нічога не заставалася, як забыць тыя яблыні, той агарод, тыя гарачыя пальцы, тую шалёную ноч... Пастараўшыся, можна многае што зрабіць, нават забыцца на ўсё, што калісьці балела і пякло... Толькі свет пасля стане цвяразейшы, халаднейшы і больш сумны...

І чаму яна сягоння зноў так ярка ўспомнілася — мо здарылася што з ёю?.. Кажуць, бывае такое...

Быццам хтосьці чужы стаіць побач і гаворыць Мікалаю Макаравічу: «Сям'я... Ты ж толькі ўжо сабе не мані. Якая ў цябе сям'я?.. Гэта толькі перад другімі ты можаш фарсіць, хваліцца, а не перад сабою...

Ці пра такую сям'ю марыў ты ў маладосці? Ну, успомні! Тады ты думаў, што ўсё, нават думкі, будзе агульным... А цяпер глядзі, як усё распадаецца. Дагэтуль Маша яднала, звязвала, а цяпер... Ды каторы год ты жывеш з Мілаю, як з чужым чалавекам, хоць і не сварышся... Бо кожны заняты сваім: ты — сваёй работаю на заводзе, машынаю, тэлевізарам, і яна — сваёй работаю, гаспадаркаю і зноў тым жа тэлевізарам... Калі апошні раз вы гаварылі пра тое, пра што маглі гаварыць у маладых гадах? Забыўся... Цяпер ты гаворыш Міле тое, што можаш са спакойнай душою сказаць чужому чалавеку, розніцы ніякай. Ты ўжо дажыўся да таго, што і сабе баішся прызнацца ў гэтым... А за хату — таксама не надта чапляйся... Знясуць хату, і прыйдзецца ісці ў халодны пад'езд цэглу нюхаць. Машына за сем тысяч, якая палову жыцця адабрала... Ну што ж, калі соладка, дык і трымайся за машыну, пакуль дзе не стукнешся ці цябе дзе не стукнуць. Ужо амаль усе заводскія ў няпланавых капітальных рамонтах пабывалі, цяпер і твая чарга надыходзіць...»

...Што ж яму тады трэба?

Так ужо выпала, што шмат год Мікалай Макаравіч пра гэта і не задумваўся, здавалася, пра гэта і не варта думаць, тут і так усё ясна. Трэба чалавеку хата? Канечне, трэба, ды і не пустая, а каб што людскае ды стаяла ў ёй... Машу трэба было падгадаваць, у людзі вывесці? А каб пасля школы яе лягчэй было куды ўладкаваць, у музычную школу пачаў вадзіць за ручку... Хай сабе і не стала яна вялікім музыкантам, але ўсё-ткі... Ды і адзенне штогод трэба, а яно — мяняецца і мяняецца. Во, калісьці за балоневымі плашчамі і нейлонкамі душыліся, а цяпер — за дыванамі, цяпер ужо наадварот — натуральнае падавай... Суседзі, як і другія бярозаўцы, купляюць серванты, гарнітуры розныя, найчасцей імпартныя. А прыдбаўшы сервант, і пра крышталь трэба думаць — не будзе ж той сервант пусты стаяць. Дык няўжо ж яны — белыя вароны, няўжо так і трэба, каб на іх людзі пальцамі торкалі?.. Цяпер, во, кнігі пачаў купляць — цэлая бібліятэка... А ўсё гэта — не бясплатна, і хто можа падлічыць і ацаніць, якім потам усё гэта дастаецца...

Што ж яшчэ яму трэба?

Кажуць, што новыя прыгожыя чахлы на сядзенні машын пачалі шыць у швейнай майстэрні — трэба заказаць. Ды і пару пакрышак для машыны няблага было б дастаць — не памяшаюць, запас бяды не чыніць. На зіму вугаль не забыцца выпісаць, у гэтым месяцы нават, да водпуску — сам не выпішаш, Міла не здагадаецца, па ёй — хоць трава не расці... Вычысціць паграбок, ужо скора Міла слоікі з розным варэннем, кампотамі пачне ставіць. А там — восень з зімою не за гарамі, свае новыя клопаты прынясуць.

На рабоце... Там, здаецца, пакуль усё ў парадку. Заяўкі ад аддзелаў — гэта дробязь, галоўнае — не ўпускаць з відавоку метал, галоўнае, каб Аркадзь Фёдаравіч на пасяджэннях не падымаў. Як вучня якога... Дагэтуль было ціха. Во, яшчэ ў гэтым месяцы членскія ўзносы не плаціў — не забыцца...

«І ўсё?» — як бы з насмешкаю пытае хтосьці чужы, староннi.

«Не, канечне, не ўсё,— чамусьці спяшаючыся, апраўдваецца Мікалай Макаравіч,— вот яшчэ і на поўдзень няблага было б з'ездзіць, нервы падлячыць у марской вадзічцы...»

Нечакана Мікалай Макаравіч здагадваецца — усё, што дагэтуль здавалася патрэбным, неабходным, гэта — не галоўнае, не тое, што яму патрэбна ад жыцця. І чым болей ён апраўдваецца, тым болей адчувае сябе так, быццам ён ашуканы. Яму пачынае здавацца, што ў ягоным жыцці магло і павінна было быць нешта другое. Але ж — што, што яму яшчэ патрэбна?..

Мікалай Макаравіч нават не заўважае, што даўно не бярэ ягады, а проста стаіць ля сасны, глядзіць на чарнічнік і як быццам сам з сабою гаворыць. Гэта звычка — гаварыць сам сабе — з'явілася нядаўна, з мінулай восені... Звычайна ён гаварыў сам сабе, калі што не ладзілася: ці то на рабоце, ці то дома. Найчасцей, канечне, на рабоце, дома ўсё было спакойна і ціха...

— Ты што, усё яшчэ кварту не набраў? — здзіўляецца Міла, падыходзячы да Мікалая Макаравіча. І гэтым як бы будзіць яго.

— А-а,— Мікалай Макаравіч глядзіць на Мілу. Яна ўжо зняла балоневы плашч і цяпер, у трыкатажным спартыўным касцюме, зноў напомніла тую вяс-

ковую жанчыну. Толькі яна была не такая поўная, як Міла. Нешта сягоння яна ўсё ўспамінаецца. Як ніколі...

— Ды галава нешта разбалелася. Відаць, не даспаў,— сказаўшы гэта, Мікалай Макаравіч і сапраўды адчувае, што баліць галава — ломіць у скронях... Ён высыпае ягады ў вядро Мілы — палову кварты, а затым трэ далонямі скроні.

— А ты многа сабрала,— гаворыць ён пасля спакойна і ціха.

— Ды ўжо ж — такія ягады... Чаму не сабраць, толькі не ленися.— Міла глядзіць на ягады ў вядро — там ужо закрыта дно, а потым, зірнуўшы на Мікалая Макаравіча пільней, гаворыць: — А ты і праўда — нешта бледнаваты, аж шэры... Хаця б не захварэў...

— Ды ну, з чаго гэта мне хварэць? — здзіўляецца Мікалай Макаравіч. Памаўчаўшы, ён неяк рашуча гаворыць: — Вот зараз вазьмуся і я за ягады, а то нешта расслабіўся. А то і на бензін не заробім. Праездзіць — праездзім, а толку, як гаворыцца, ні на іголку... Тады ўжо выгадней было тыя ягады на рынку купляць.

— Ну, на рынку яны цяпер таксама дарагія. Вунь, як стакан, так і сорак капеек. Дужа цяпер ягады ніхто сабіраць і не хоча, ніхто і не кідаецца, так, для сябе ўсё... Гэта даўней беднасць у лес ягады збіраць гнала, а цяпер людзі любяць усё гатовае...

## 4

Збіраючы ягады, Міла калі-нікалі пазірае на Колю — сягоння ён не такі гаманкі, як звычайна, не чуваць яго жартаў. Ды і выгляд у яго нездаровы, бледнаваты нейкі. Звычайна Коля ягады збірае лепш за яе, а сягоння ўсяго тры кварты сабраў. Ці ж гэта збіранне? Коля болей стаіць ці ходзіць, чым збірае. І калі снедалі, маўчаў, на Аркадзя ўсё касавурыўся. А чаго, калі спытаць?

З такім, як Аркадзь, не прападзеш, будзеш як за каменнай сцяною. Во, і кватэру выбіў, і на машыну пачалі адкладваць. Не п'е, не курыць. Як-ніяк, а ўсёткі начальнік майстэрні. А гэта ж — толькі пачынаюць зажывацца... З такім не прападзеш. Міла нават з гонарам час ад часу пазірае на ёмкую постаць

Аркадзя: і на ягоныя пальцы, якія лоўка абіраюць ягады з вешак, і на гладка паголены твар, дзе ледзь-ледзь намячаюцца ямачкі — відаць, у маленстве яны былі добра бачны. У маленстве, відаць, Аркадзь быў амаль такі ж, як і цяпер: поўненькі, не крыклівы, ціхі і да ўсяго ж — паслухмяны...

За работаю час ляціць хутка. Цяпер, у лесе, Міле лёгка і добра, вось шкада толькі, што поўнае вядро наўрад ці ўдасца набраць... Маша з Аркадзем дык тыя, відаць, поўнае вядро сабяруць. Яшчэ ў дзевяць гадзін, калі садзіліся ля машыны снедаць, у іх ужо ледзь не палова вядра была. Відаць, у іх усё-ткі нешта было між сабою — Маша часта становіцца перад Аркадзем і, махаючы рукою, гучна гаворыць — вычытвае... Нічога, умешвацца не варта, маладыя, нявопытныя, хай вучацца, як жыць...

Пасля сняданку на чыстым паветры разбірае млявасць, так і хочацца сесці на траву ці нават прылегчы... Але калі прыехалі — нечага распускацца... Успамінаецца мінулы год, калі вот гэтак жа, усёй сям'ёю — Маша тады ўжо сустракалася з Аркадзем, але былі яны яшчэ не распісаны,— ездзілі ў чарніцы. Пазней, ужо з Аркадзем, яны ездзілі і ў маліны, і ў тыя ж журавіны на балоце. ...Не, як бы і што б сабе ні гаварылі, а свая машына — выгада. Накупляйся ўсяго з таго ж рынку ці на тым жа перапоўненым аўтобусе паспрабуй дабрацца... А так — у любы міг куды захацеў, туды і паехаў. Успамінаецца мінулая раніца, калі з акна аўтобуса разглядвала людзей, якія з пластмасавымі вёдрамі тоўпіліся на аўтавакзале.

І яшчэ, як гэта часта бывае на адзіноце, думаецца пра сябе, пра жыццё — спакойна і ціха, без жалю і зайздрасці ўспамінаюцца пражытыя гады. І дзіўна, здаецца, быццам і не жыла яна, а вот проста ёй хтосьці расказаў пра нейкія падзеі, здарэнні, якія запомніліся, але — не хвалююць. Так што пры ўспаміне пра сваё жыццё Міла не ведае, ці сумаваць, ці радавацца. Але калі падумаць, разважыць цвяроза — трэба радавацца... Спакойна пражыла — а што яшчэ трэба чалавеку? Коля фокусаў занадта не выкідваў — не п'янстваваў, не бадзяўся нідзе... Канечне, у каго грахоў не бывае, але ўсё ж... Вот толькі скупаваты Коля ды залішне разважлівы, але — і без гэтага нельга.

Глядзі, во — машына свая, гараж у двары, хата, як лялька, ды і ў хаце... А так, за гулянкамі — усё праматалі б, было б і ў іх, як у тых Вяслікавых — і цяпер ва ўрэмянцы жывуць, усё чакаюць, калі іх «зносіць» пачнуць... Каторы ўжо год. І ў хату не зайсці, наглядзець няма на што, ды і на саміх нічога талковага нямашака. Затое ж гасцяваць — душа нараспрыст, як субота, дык і гулянка: то — самі да каго ідуць, то — да іх цягнуцца... Дагасцяваліся, далей ужо няма куды...

Цяпер неяк і не ўспамінаюцца тыя крыўды на Колю, якія былі ў першыя гады сямейнага жыцця. Тады Міле па маладой звычцы таксама ўсё хацелася некуды ехаць і ехаць — а і куды, калі падумаць? — хацелася спяваць у заводскім хоры. Казалі, што ў яе добры голас... А ён, Коля, гаварыў другое, што ўсё гэта — пустое, пра сям'ю, пра хату трэба думаць, нечага ва ўрэмянцы ціснуцца... А калі спяваць — то і ў бяседзе, за сталом можна наспявацца, толькі ўжо не на сцэне, а ў сваёй абладжанай хаце. І думаецца цяпер Міле, што Коля, як заўсёды, праўду казаў, а яна тады была — як цяпер Маша... Потым так сталася, што вясёлых сябровак ля яе не засталося, ды і самі яны: хто — замуж выйшаў, а хто — проста перастаў хадзіць на рэпетыцыі, і ўжо новыя людзі хадзілі вечарамі пасля змены ў клуб, а яна калі толькі зрэдку магла пачуць, як з клубнай заводскай сцэны гучаць песні. І калі Міла слухала знаёмыя мелодыі — звычайна хор выступаў пасля розных урачыстых сходаў ці пасяджэнняў,— тады нешта ўзгаралася ў душы Мілы, здавалася, што і яна таксама стаіць там, на сцэне... А потым і гэта аціхла — Міла зразумела, што пачала жыць другім жыццём. І тады, як гэта зразумела, яе новае жыццё пачало здавацца лепшым, а тое, мінулае, калі яшчэ бегала ў самадзейнасць, горшым — не горшым, а проста так... «Дзявоцтва гэта ўсё»,— казала звычайна Міла пра той час, як пра нешта смешнае і недарэчнае, што чалавек павінен пражыць і да чаго потым ніколі не вернецца. Як тое ж маленства.

...Вот гэтак жа і Маша цяпер: злуецца часта на Аркадзя ні з таго ні з сяго. А чаго, калі разабрацца?.. Калі б не Аркадзь, то ўвогуле невядома, як бы яе далейшае жыццё пайшло, трапіўся б які весялун —

гора хапянула б і дзесятаму заказала б... А так во — не прыгажун, але ж і не ўродзіна, самастойны, гэты — не з тых вясёлых і прыгожых балбатуноў... Гэты — слова на вецер не пусціць... А Маша — нічога, пакідаецца, пакідаецца, а потым, як дзіця народзіць, пацішэе, прытрэцца, злюбіцца ды за сапраўднае жыццё пачне брацца...

Міла глядзіць на наручны гадзіннік. Ужо дванаццатая гадзіна. Відаць, пара і абедаць. Баліць, прама пераломліваецца спіна — хоць ты на калені станавіся... Большую палову вядра набралі. Трэ было б болей, але — хопіць і гэтага.

— Коля-я,— гукае Міла,— ты абедаць будзеш?

Іншым разам Коля сам бы пракрычаў дзесяць разоў пра абед, але сягоння ён памалу падыходзіць да Мілы, высыпае ягады ў вядро і неяк лена гаворыць:

— Давай, калі хочацца. Заві тады іх...

— Арка-адзій, Ма-шаа, сюды хадзіце, абедаць будзем.— І Аркадзь і Маша ледзьве бачны між сосен.

— А да ракі хто нам абяцаў ехаць? — яшчэ здалёк крычыць Маша.

Міла глядзіць на пацямнелы твар Колі:

— Паедзем ці не?

— Паедзем, паедзем...

— Паедзем,— гаворыць Міла Машы, калі тая падыходзіць.

Маша заглядвае ў вядро і тут жа хваліцца:

— А ў нас начці поўнае. Нешта вы сягоння адсталі.

— Куды ўжо нам, старым, за вамі ўгнацца...— гудзе Коля, усаджваючыся ў машыну.

— Вот дабяром сваё, тады і вам паможам.— Аркадзь амаль што поўнае вядро нясе да машыны.

— Садзіцеся, сарокі,— падганяе Коля.

Зноў цяпер ужо добра знаёмаю дарогаю паехалі назад да гравійкі, а потым па ёй — да рачулкі, дзе пераязджалі праз драўляны мосцік.

— На якім беразе станем: дзе луг ці на гэтым, дзе лес? — пытае Коля, прытарможваючы перад мастком. Дзіўна, звычайна Коля рэдка раіцца, а вот сягоння ўсё нешта пытаецца-пытаецца...

— Дзе лес, каб і цянёк быў,— камандуе Маша.

— Табе, можа, яшчэ і пярынка каб там была з падушкаю,— дабаўляе Аркадзь.

Дарогаю, якая ўецца ўздоўж рачулкі, паехалі ўверх. Часам лес падступае зусім да берага, часам адступае. Нарэшце, калі выехалі на высокі абрывісты бераг, спыніліся.

— Ну вот, тут і наш табар будзе,— гаворыць роўна Коля, вылазячы з машыны.— І цянёк, і сонца, і вада — чысты рай...

— Ой, як я замарылася, саўсім...— Маша вылазіць з машыны і тут жа садзіцца на траву. Яна глядзіць наперад, дзе пад абрывам цямнее палоска вады, і гаворыць:— А тут і праўда — здорава...

Насупраць, за ракою на другім беразе, шырокі, не скошаны яшчэ луг. Відаць, там было калісьці балота, ды яго асушылі — луг роўны-роўны... Далей, за зялёнаю агародаў, віднеюцца два рады вясковых хат, тэлевізійныя антэны — усё як на далоні... Нагрэтае паветра мроіцца, і хаты, і агароды як плаваюць усё роўна, калышуцца, бы лялечныя...

Тут, ля высокага берага, была калісьці плаціна з лесапілкаю, але цяпер усё разбурана, размыта — засталіся толькі абрэзаныя чорныя палі, жоўтыя груды пілавіння, якія ніяк не зарастаюць травою, ды рэшткі збудаванняў... Відаць, лесапілка была да нядаўняга часу, мо нават і летась.

— Тата, гэта ж ты недзе ў гэтым баку нарадзіўся і вырас? — пытае Маша.

— Тут, недалёка.

— Няўжо тут і плаціна была?

— Была,— Коля азірае ўсё наўкола, потым чамусьці глядзіць на блакітнае з рэдкімі воблакамі неба і працягвае: — Тады, я помню, і рачулка была другая, больш глыбокая. Ваабшчэ, тады ўсё было не так...

— Ну канечне, тады і вада ў той рачулцы была смачнейшая,— усміхаецца Аркадзь, выносячы з машыны сумку. Ён бярэ зверху сумкі настольнік і расцілае яго на траве — у цяньку тоўстай старой бярозы, якая неяк адна, воддаль ад сцяны лесу, стаіць на беразе недалёка ад абрыву.

Міла, гледзячы на Аркадзя, таксама нясе да настольніка поліэтыленавы мяшэчак з ядою. Разумны зяць, што ні гавары. Палец у рот не кладзі...

Коля чамусьці нечакана моршчыцца, а потым неяк рашуча гаворыць:

— Ну, вы тут абед ладзьце, а я ў рацэ спаласнуся. А то мяне нешта зусім разварыла.

Коля ідзе да ракі. Аркадзь, разаслаўшы настольнік, глядзіць услед Колю і гаворыць:

— Мікалай Макаравіч, пачакайце, і я з вамі...

Коля спыняецца, чакаючы Аркадзя.

— А можа, і я?..— Маша глядзіць услед Аркадзю.— Вот толькі купальнік я не ўзяла...

— Сядзі ўжо, купальшчыца. Цяпер табе толькі і купацца. Знайшла час,— на хаду, не паварочваючы галавы ў бок Машы, гаворыць Аркадзь.

Тады ўжо, як Аркадзь і Коля знікаюць за абрывам, Міле як хто падказвае: «А глядзі-тка, Аркадзь Колю бацькам так і не заве...» І тут жа яна апраўдваецца: «А чаму ж гэта ён павінен Колю бацькам зваць? У яго свой бацька ёсць. Цяпер у маладых падругому ўсё...»

Вымаючы з поліэтыленавага мяшэчка яду і раскладваючы яе на настольнік: і хлеб, і зварапую ўчора вечарам курыцу, і каўбасу, і яйкі, і гарчыцу — Коля любіць гарчыцу,— Міла час ад часу пазірае на бераг рачулкі. Коля і Аркадзь ужо ў вадзе. Рачулка неглыбокая — па пояс. Аркадзь мыецца акуратна, а вот Коля — як здурэў, усё пырскаецца, глыбейшае месца шукае... Во, і Аркадзя абпырскаў... Відаць, добра ім цяпер... Вот бы і самой памыцца, ці што... Але распранацца перад дзецьмі — няёмка неяк... Ды калі перагрэўшыся, вот так без непрывычкі, адразу ў халодную ваду — нядоўга і застудзіцца... Не, лепей перацярпець... І так няблага: і ягад трохі набралі, і на свежым паветры гэтулькі — аж галава кружыцца... Вот толькі спіна пабольвае з непрывычкі.

Успамінаецца, як учора на рабоце думалася пра лес... Вот яна і ў лесе. Можна нават і разуцца, пахадзіць босай. І хоць усё не так, як уяўлялася, але дзе ж ты ўжо хочаш, каб усё было, як марыцца... Затое, во, ягад набралі сколькі...

— Мама, ты ўжо з сумкі і паша даставай,— гаворыць Маша. Цяпер яна прылегла на траву.

— Добра, дастану. Ты дужа не лажыся — нацягне...

— Ай, цёпла.

Сонца і сапраўды гарачае, усюды яго поўна, куды ні павярніся — усё здаецца белым ад яркага святла...

Вяртаюцца мужчыны.

— А-ах, здорава,— гаворыць Коля. Ён падыходзіць да настольніка і садзіцца на траву.

— Ручнік ты ўзяла? — пытаецца ён у Мілы.— Як заўсёды, канечне, забылася...

— Вот, вазьміце наш,— падае Колю ручнік Аркадзь.

— Ну-с, што ў нас сягоння? — цяпер, пасля купання, Коля пасвяжэў і нават як бы памаладзеў. Выціраючыся, ён глядзіць на бутэльку з марачным віном, якую яны пачалі за сняданкам:— Каб ведаў такое дзела, дык ба за руль і не садзіўся. Аўтобусам бы паехалі. Тут бы я развярнуўся...

— Нічога, вы сваё вечарам навярстаеце,— Аркадзь усаджваецца ля настольніка: — Нядоўга ўжо...

Абедалі нетаропка, але з апетытам. Міла нават і віна выпіла — нямнога, на такую спякоту піць і не хочацца... Аркадзь дык той выпіў шклянку спакойна, з асалодаю. Але ад другой адмовіўся. Маша — толькі прыгубіла. Пасля абеду заняліся хто чым. Аркадзь з Машаю пайшлі да ракі. Коля прылёг на сонцы — пазагараць.

Міла прыбрала яду з настольніка, схадзіла да ракі і спаласнула посуд. Вярнуўшыся да машыны і паглядзеўшы на Колю, які задрамаў на сонцы, яна чамусьці зноў спусцілася да вады, пахадзіла па мелкаводдзі, а затым села на беразе і стала глядзець на празрыстую ваду. Праз нейкі час на мелкаводдзі паявіліся маленькія хуткія рыбкі — як стрэлачкі, яны рыўкамі праплылі і зніклі.

І здаецца Міле, што вот усё добра і ціха, вунь і Аркадзь з Машаю, відаць, памірыліся, ходзяць ля берага па вадзе, а ёй нечага не хапае... А чаго ж ёй трэба? У кожнага сваё шчасце, у яе — сваё, у Колі — сваё, у Машы з Аркадзем — таксама сваё.

Міла глядзіць на лес, што сцяною цямнее ля рачулкі, на машыну, якая здаля паблісквае на сонцы, на тую ж празрыстую ваду і не ведае, што з ёю робіцца — чамусьці хочацца плакаць, а чаму — невядома... «Проста разварыла мяне сягоння...» — думае Міла і ўсё глядзіць на ваду. Хочацца зноў пабачыць тых хуткіх рыбак. Але замест іх да самага берага, дзе чар-

неюць купіны, падплывае невялічкі паласаты акунёк. Міла як упершыню глядзіць на гэтага акунька, адчувае далучэнне да нейкага другога, не вядомага ёй, жыцця. Яна ўсміхаецца і ледзьве не шэпча сабе: «Глядзі ты, і яно, во, нешта шукае... Як і тыя мурашкі».

Потым Міла ідзе да машыны. Коля ўсё спіць. Ён ляжыць ніцма на траве, спіна яго стала чырвонай.

— Коля, а Коля, можа, паедзем? — Міла кратае Колю за плячо.

— Зараз,— Коля падымаецца, і тут толькі Міла заўважае, як зноў пацямнеў ягоны твар, стаў амаль што шэры. Коля пацепвае плячыма і гаворыць: — Холадна нешта...

— Ты што, смяешся, сонца такое... Перагрэўся, вот табе і стала холадна.

— Ды хто яго ведае... Можа, так, а можа, і не — з раніцы нешта галаву ломіць. Падай мне рубашку,— Коля апранаецца, а пасля бярэцца рукою за лоб: — Здаецца, затэмпературыў я...

— Пакажы,— Міла мацае рукою лоб і адчувае жар.— І праўда, гарачы.

Коля думае аб нечым, а потым гаворыць:

— Давай, відаць, дамоў паедзем. Які з мяне сягоння ягаднік...

— А дзеці,— гаворыць Міла і замаўкае. Ехаць, канечне, не хочацца, шкада такія ягады пакідаць. Хто яго ведае, якая праз тыдзень пагода будзе.

— А што — дзеці... Яны вунь пачці што вядро набралі...

— Ну, ладна,— згаджаецца Міла і пачынае гукаць Аркадзя і Машу.

Яны памалу, нага за нагу, падыходзяць да машыны.

— Ведаеце, дзеці, давайце дамоў паедзем. А то яшчэ вечарам на гулянку ісці — адпачыць трэба,— гаворыць Міла і глядзіць на Аркадзя.

— А можа, мы ўсё-ткі дабяром сваё, а тады і за ваша прымемся. Учацвярых мы яго — мігам...

— Ды, во, бацьку нешта дрэннавата...

— Нічога, да вечара буду здаровы,— апраўдваецца Коля з вымучанай усмешкаю. Цяпер у яго пад вачыма стала намнога болей маршчын, ды і самі вочы сталі нейкія большыя, ці што...

— Відаць, не варта было купацца,— гаворыць разважліва Аркадзь.— Сонца такое, перагрэліся, а тут — вада халодная, крынічная ўсё-ткі, ды яшчэ, во, ветрык сягоння...

— Нічога, у тую нядзелю пад'едзем. Нідзе нашы ягады не дзенуцца.— Коля згортвае настольнік і нясе да машыны.— Ну, садзіцеся, раз рашылі. Чаго цягнуць?

Калі прыехалі ў Бярозава, Колю ўжо добра білі дрыжыкі. Паставіўшы машыну ў гараж, Коля адразу ж моўчкі распранаецца і кладзецца ў ложак. Міла дастае з шуфляды тоўстую зімовую коўдру, укрывае Колю.

— Можа, чаю гарачага? — Але на гэта Коля толькі махае рукою.

Затым Міла ідзе на вуліцу, зачыняе аканіцы ў акне, якое ў спальні. Вярнуўшыся ў хату, Міла стаіць нейкі час на кухні, а потым, глянуўшы на наручны гадзіннік і на вядро з чарніцамі, здагадваецца, што трэба рабіць. Не будзеш жа сядзець да самага вечара, сашчапіўшы рукі. Да сямі, калі не адцягваць, ягады можна перабраць і зварыць. А тыя ягады, што сабяруцца ў будучую нядзелю, можна будзе перацерці з цукрам. Хай будуць такія і такія...

Перад тым як ісці ў магазін па цукар, Міла заходзіць у спальню і глядзіць на Колю. Той спіць. На твары выступіў дробны пот. Гэта добра — калі прапацее... Відаць, усё-ткі Аркадзь казаў праўду — не трэ было яму ў ваду лезці. Знайшоў з кім раўняцца, не маладзенькі...

## 5

Прысніўся яму сон. Быццам ён яшчэ зусім малы і збіраецца бегчы на рэчку, каб скупнуцца хоць раз. Канечне, бацька і маці не ведаюць пра ягоны намер, бо калі ўведаюць, то не пусцяць, будуць сварыцца, а то яшчэ, чаго добрага, падпільнуюць. І вот ён стаіць адзін пасярод хаты, той вясковай хаты, якую пасля смерці бацькоў адразу ж прадаў чужым наезджым людзям — з лавамі ўздоўж сцен, з белай печчу пасярэдзіне, з занавескамі замест драўляных перагародак. За тымі занавескамі, ля печы, дзе ёсць палаці, на якіх ён звычайна спіць. Праз вялікія вокны — там

няма ніякіх гардзінаў — свеціць з вуліцы яркае белае сонца. Яму лёгка і радасна, як пасля ніколі ў жыцці не было — чамусьці ведае, што бацька і маці некуды пайшлі, відаць, падаліся ў Бярозава, а ён цяпер — вольны.

Ён выходзіць на ганак, босымі нагамі адчувае цяпло нагрэтых сонцам дошак. Тут, ля ганка, яго даўно чакае Галус — шэры невялічкі сабака, у якога адно вуха вечна ляжыць, а другое паднята... Галус тут жа пачынае скакаць ля яго, стараецца лізнуць доўгім чырвоным языком у твар, віляе хвастом — здагадваецца, што яны вот-вот пабягуць навыперадкі да ракі.

Яны выходзяць з двара на вуліцу, дзе поўна зялёнай муравы і толькі пасярэдзіне вуліцы — там ездзяць на калёсах — жаўцее пясок. Вуліца доўгая-доўгая, нават невядома, дзе яна пачынаецца і канчаецца, ён ведае толькі, што дзесьці далёка там, у адным канцы, ёсць Канчань, а ў другім — Забор'е... Але гэта далёка, як у тым Бярозаве.

Ён пералазіць цераз плот і агародамі бяжыць да выгану. Следам пераскоквае цераз плот Галус. І вот Галус яго ўжо даганяе, а затым, перагнаўшы, бяжыць па сцежцы наперадзе. Зялёны пахучы бульбоўнік ледзьве не па плечы, так добра нагам ад цёплага мяккага пяску на сцежцы і так глыбока дыхаецца...

Вось і плот, вось і выган, за якім ужо відаць кусты, што растуць ля ракі... Галус першы пераскоквае з разбегу плот, а яму прыходзіцца пралазіць між жардзін... І вось ужо сцежка між высокай пякучай крапівы... На хаду таропка дрыготкімі ад нецярпення пальцамі ён сцягвае цераз галаву кашулю. Ён нават і штаны, што на шлейках, скідае з сябе на хаду... Хутчэй, хутчэй да ракі.

На беразе нікога няма. Ён адразу ж кідае на пясок адзенне і тут жа, не задумваючыся, скача ў ваду, што яму па пояс. А-аа, якая яна цёплая, як знарок падагрэтая!.. «Галус, хадзі і ты скупніся. Няўжо табе не хочацца?» — кліча ён сабаку. Але разумны Галус цяпер толькі сядзіць на беразе ля самай вады і, выставіўшы доўгі чырвоны язык, схіліўшы набок галаву, глядзіць у вочы, як бы хоча што сказаць.

А потым ён вылазіць, кладзецца ў пясок, абсыпаецца ўвесь з галавы да пят — грэецца... Сагрэўшыся,

ён пераварочваецца на спіну і бачыць маленькае далёкае сонца. З-за ракі з лесу чуецца зязюля: ку-ку... Ён успамінае, што, пачуўшы яе, людзі кідаюць у яе бок капейкі... Во паглядзець бы гэтую разумную зязюлю!.. І тут ён рашаецца: усхопліваецца, бярэ ў ахапак адзенне і ідзе ў ваду — на другі бераг, дзе высокай суцэльнай сцяною цямнее густы сасновы бор. «Галус, ідзём»,— гаворыць ён ужо на другім беразе і махае рукою. Але Галус не ідзе ў ваду, а толькі неяк дакорліва, па-чалавечы глядзіць у самыя вочы, як бы хоча сказаць: «Гэта ж табе не абы-што, а лес, там жа ваўкі водзяцца, мядзведзі... А хату ты не замкнуў, забыўся, бацька і маці вернуцца дамоў, ведаеш, што тады будзе? Навошта табе тая зязюля, скупнуўся раз і — досыць, дамоў пара...» — «Галус, дык ты ж — дужы ў мяне, ты ж — нікога не павінен баяцца, мы з табою таго ваўка ці мядзведзя...» — хочацца яму сказаць, але голас у яго прапаў, ён стаў, як нямы... Яму становіцца крыўдна, што Галус не слухаецца. І яшчэ крыўдна, што нічога не можа сказаць услых, толькі, як нямы, хаўкае ротам. І тады ён пачынае плакаць і ўсё парываецца сказаць: «Галус, няўжо ты кінеш мяне?» — але нічога не атрымліваецца, толькі слёзы бобам сыплюцца і сыплюцца з вачэй...

Мікалай Макаравіч прачынаецца і са здзіўленнем адчувае, што твар мокры ад слёз. «Во, у жыцці няма чаго плакаць, дык затое ў сне наплачашся»,— думае ён, выціраючы далонню мокры твар. Пасля сну цела стала лёгкае, як памаладзелае, толькі ў душы засталося незразумелае шкадаванне па нечым... Шэрай зязюлі, якая кладзе свае яйкі ў чужыя гнёзды, не пагледзеў...

Мікалай Макаравіч садзіцца на ложак, звыклым рухам ставіць ногі ў тапачкі. «Нешта ўсё сны сняцца, як у кіно якім — гэткія яркія». Ён пазяхае і глядзіць на будзільнік, які стаіць на тумбачцы ля ложка,— сёмая гадзіна... Потым ён нацягвае на сябе трыкатажны касцюм і выходзіць са спальні на кухню. У галаве адчуваецца лёгкае кружэнне. «Нічога, пасля сну гэта часта бывае, не першы раз, пройдзе ўсё...»

Міла памешвае лыжкаю варэнне ў вялікай эмаліраванай місцы, што стаіць на газавай пліце. Пачуўшы крокі, яна азіраецца і гаворыць:

— А я ўжо будзіць збіралася. Ну, як — палягчэла?

— Трохі палягчэла, праўда, не зусім... Пераграэўся, відаць.

— Дык што — пойдзем да Вікенція?

— Ды прыйдзецца. Не будзе ж падарунак прападаць. Няёмка будзе, калі не прыйдзем. Падумаюць, што не хочам знацца.

— Ну, дык тады я — зараз,— Міла тут жа выключае газ.— Варэнне я, відаць, заўтра разлію, а цяпер — давай апранацца. Пакуль выберамся, дабяромся — толькі-толькі будзе...

І зноў — касцюм, які так удала скрадвае паўнату, толькі цяпер не шэры, рабочы, а светла-карычневы, з сінтэтыкі, зноў — светлая з блакітнымі кветачкамі кашуля, святочны чырвоны, пад колер касцюма, гальштук, вялікія жоўтыя запінкі, зноў — позірк у люстра, дзе знаёмы поўны, гладка паголены твар, шырокія чорныя бровы, чырвоныя, як знарок падфарбаваныя, вусны, а пасля — у душы пачуццё спакою і выключнасці, зноў — мяккая далонь Мілы, якою яна трымаецца за сагнутую ў локці руку, зноў — нетаропкая хада, нага ў нагу, як і звычайна, калі яны ідуць на работу...

Сваты жывуць у адным з тых шматпавярховых знадворку аднолькавых стандартных блочных дамоў, што гуртам высяцца ў новай частцы Бярозава на гарыстай ускраіне — калісьці на гэтым месцы рос сасоннік. Тут амаль заўсёды ветрана, летам з жоўта-белай зямлі так і падымаецца пыл, нават праз падвойныя вокны ён залятае ў пакоі. Мо таму гэтае месца бярозаўцы між сабою так і называюць: Сем Вятроў. «Дзе жывеш?» — «На Сямі Вятрах».

Дабіраліся да сватоў аўтобусам, які ў гэты вячэрні час быў перапоўнены: многія ехалі ў госці, з гасцей, моладзь — у парк, дзе веранда...

Мікалай Макаравіч націскае кнопачку ля абабітых дэрмацінам дзвярэй. Чуецца мілагучная, як у Аркадзя, мелодыя званка. Дзверы адчыняе Вікенцій — год ля пяцідзесяці лысаваты з чырвоным круглым тварам мужчына, у якога жывоцік добра-такі бачны нават пад пінжаком касцюма.

— А-а, мы ўжо і заждаліся,— радасна разводзіць рукі Вікенцій.— Ну, праходзьце, праходзьце.

У прыхожай Мікалай Макаравіч паціскае мяккую далонь Вікенція, а потым нагінаецца і разуваецца.

— Ды не трэба, вот яшчэ чаго не хапала,— гаворыць Вікенцій, але Мікалай Макаравіч і без Вікенція ведае, як цяжка выбіваць тыя дарагія дываны, якімі выслана падлога і ў зале, і ў спальні...

— Ну, раз ужо разуліся, то наце вам шлёпкі,— падсоўвае Вікенцій шлёпкі Мікалаю Макаравічу і Міле.— А цяпер — хадзіце ў залу.

У зале на канапе, якая стаіць насупраць чэшскай «сценкі», сядзяць сястра Вікенція з мужам, а збоку, на крэслах, Маша і Аркадзь. Усе яны павярнулі галовы — глядзяць на гасцей.

Мікалай Макаравіч ківае ўсім галавою і падае мужчыну руку. Як жа яго завуць?.. Здаецца, Альберт. Ага, Альберт, помніцца, на Машыным вяселлі яго так звалі — электрыкам дзесьці робіць...

— З маёй работы яшчэ павінны падысці,— гаворыць Вікенцій.— Ды садзіцеся вы, не стойце. Во, прама ля стала садзіцеся, чаго там...

Селі на мяккія, пад колер стала і «сценкі» крэслы. Пагледзелі па чарзе адно аднаму ў вочы, і ў той жа час Мікалай Макаравіч адчуў няёмкасць, падумалася, што вот прыйшоў у госці, а не ведае, пра што гаварыць... У яго — сваё жыццё: і работа, і сям'я, а ў іх — сваё... Не пачнеш жа расказваць ім пра Аркадзя Фёдаравіча, пра Ігнаценку, Іваніцкага, пра метал, які ўвесь час вісіць над галавою...

— Ну як, прайшло ўсё? — пытае Аркадзь.

— Ды прайшло,— Мікалай Макаравіч нечакана заўважае, што ў прысутных на цуд бледныя, як нежывыя, твары. І ў Вікенція, і ў яго сваякоў, і ў Аркадзя, не гаворачы пра Машу... Можа, ад яркага святла крыштальнай люстры?..

— А што такое? — тут жа пытаецца Вікенцій. У Вікенція добразычлівы твар, на якім амаль заўсёды плавае ўсмешачка. Вот толькі позірку маленькіх шэрых вачэй ніяк не злавіць — здаецца, і на цябе глядзіць, а позірку — не бачыш...

— Ды днём, як у ягадах былі, ён затэмпературыў трохі,— гаворыць за Мікалая Макаравіча Міла.

— Ну, гэта дзела паправімае. Вот зараз сядзем за стол і падлечымся. Вунь, лякарства ёсць,— ківае Вікенцій галавою на стол, на якім сярод поўных тале-

рак чаго толькі не стаіць: і шампанскае, і гарэлка, і віно...

— Галоўнае, каб не было, як у тым анекдоце,— Вікенцій усміхаецца.— Харошы мне сягоння анекдот на рабоце расказалі. Хочаце паслухаць?

— Канечне. Ты ж іх умееш расказваць,— гаворыць сястра Вікенція. Тварам і постаццю яна падобная на брата, але характар зусім другі — ціхая...

— Ну, значыцца, сабраліся на тым свеце трое нябожчыкаў. Разгаварыліся між сабою — хто як трапіў... Першы і гаворыць: маўляў, па дурасці трапіў... Прыйшоў з работы, паабедаў, а тады выйшаў з пад'езда, сеў у свой «Масквіч», і толькі гэта паехаў ля пад'езда дома, а тут ні з таго ні з сяго зверху з дванаццатага паверха халадзільнік на машыну — бац... Ну, канечне, мне тут жа і крышка... Першы скончыў, другі пачынае... Прыйшоў, кажа, на работу, сяджу ў канторы за сталом, і тут мне звоняць: спяшайся дамоў, паглядзі, чым твая жонка без цябе займаецца... Ну, я і пабег. Прыбягаю ў пад'езд — як заўсёды ў такіх выпадках, ліфт не працуе. Я тады бягом на дванаццаты паверх. А сэрца хворае было. Адчыняю дзверы — адзенне мужчынскае раскідана па хаце, а самога мужчыны нідзе няма. Я туды, сюды — ні ў шафе, ні пад ложкам, нідзе няма, як скрозь зямлю праваліўся. Расстроіўся я, за халадзільнік ды — кідзель яго з акна. Як угледзеў, што халадзільнік у машыну бацнуўся, пасля ўсяго, што перажыў,— разрыў сэрца... «Ну, а ты як сюды трапіў?» — пытаюцца двое ў трэцяга. «А я ў тым халадзільніку сядзеў».

Прысутныя смяюцца. Харошы анекдот. Мікалай Макаравіч таксама ўсміхаецца і тут жа перастае смяяцца. Нешта яму сягоння мяшае весяліцца, а вот што — ніяк не зразумее. Ён глядзіць на святочны стол, на «сценку» чэшскага серванта, у адной секцыі якой вокладкі падпісных кніг, а ў другой — бліскучыя крыштальныя вырабы: і вазы, і фужэры; на вялікі, ледзь не на ўсю сцяну, чырвоны дыван, які вісіць ля канапы,— і ўсё гэта яму мяшае, мяшае...

— Вікенці-ій,— спявае на кухні свацця.

— Ну, я — зараз, а вы тут не сумуйце,— гаворыць Вікенцій і ўторквае ў разетку вілку тэлевізара.— Во, тэлевізар паглядзіце.

Экран тэлевізара пачынае свяціцца — паказваецца хлопец з доўгімі, як у жанчыны, валасамі. Трымаючы перад сабою ў сагнутай руцэ мікрафон, хлопец спявае на незнаёмай мове... Нейкую хвіліну прысутныя маўчаць, гледзячы на экран тэлевізара. Голас хлопца то апускаецца да шэпту, то, мацнеючы, пачынае звінець... Пра што ён спявае? Ды і ўвогуле, ці варта спяваць, калі людзям незразумела, пра што спяваецца?..

— Аркадзій, ты пашчоўкай, можа, там ёсць што весялейшае,— гаворыць сястра Вікенція.— А то пяе, а пра што?

Аркадзь падымаецца і шчоўкае пераключальнікам праграм. На экране паказваюцца футбалісты, рабы мяч на зялёным полі, чуецца знаёмы ўсхваляваны голас: «Мяч уходит мимо штанги... Да-а, не умеют еще бить наши футболисты...»

— Во, даўно б так,— нарэшце падае голас Альберт. Нейкае ажыўленне паяўляецца на ягоным твары.

— Ну, не будзем болей чакаць,— поўная, як абхапіць, сваццЯ выплывае ў залу. У руках яна трымае талеркі з «жаркім» — ад яго ідзе духмяная пара... Яна ласкава ўсміхаецца Мікалаю Макаравічу і Міле, ківае галавою: — Дзень добры, дзень добры... Вы ізвініце, што не выйшла — на кухні замучылася...

Следам за сваццяю ідзе Вікенцій, таксама з талеркаю «жаркога»... Ён гаворыць Аркадзю:

— Выключай, зараз пачнём. Не будзем болей чакаць.

Усе ўсаджваюцца. Мікалай Макаравіч побач з Мілаю, насупраць — Маша з Аркадзем, збоку — сястра Вікенція з мужам, а з другога, бліжэй да дзвярэй, сам Вікенцій і сваццЯ.

Усеўшыся, Мікалай Макаравіч адчувае, што трэба, абавязкова трэба сказаць цяпер нейкі вясёлы тост, пажадаць імяніннiку, як гаворыцца, столькі, яшчэ столькі і паўстолькі — адным словам, сказаць тое, што колькі разоў з лёгкасцю гаварыў на другіх вечарах і што колькі разоў чуў сам. Але сягоння нешта як бы зламалася ў ім, і таму, гледзячы на бледныя пры яркім святле твары прысутных, упершыню думаецца і адчуваецца, што ў гэтай бяседзе ёсць нейкая фальшывасць, што яна — як прыгожая,

але бяссэнсавая гульня, якую чамусьці абавязкова трэба выканаць...

І ўсё ж як бы там ні было, але маўчаць не будзеш. Мікалай Макаравіч ловіць на сабе шматзначныя позіркі прысутных і таму, кашлянуўшы ў кулак, падымаецца, трымаючы перад сабою напоўнены шампанскім фужэр.

— Сягоння мы сабраліся, каб адзначыць імяніны Вікенція. Жыццё ідзе... Не паспяваеш і азірнуцца. Вот у яго ўжо сын вырас, у мяне дачка, скора мы дзядамі станем...— нечакана Мікалай Макаравіч разумее, што гаворыць нешта не тое, і таму адразу ж падпраўляе сябе: — Дык вот я хачу пажадаць майму дарагому свату здароўя, удачы на рабоце, міру ў сям'і, адным словам, як гаворыцца, каб ён дождаў не толькі ўнукаў, праўнукаў, але і прапраўнукаў...

— Го-о, калі гэта будзе,— падымаецца Вікенцій з поўнай чаркаю.

— Што ж, тост добры, давайце і вып'ем, каб гэта збылося,— разам з усімі падымаецца і сваццця. Яна радасна азірае прысутных: — Толькі ўсе да дна... Злосць не пакідаць...

...Быў другі тост, трэці... Памалу нацягнутасць, якая бывае звычайна на пачатку бяседы, знікла, усё грамчэй і грамчэй чуліся галасы. Міла пачырванела, папрыгажэла. Вікенцій пачаў чарговы анекдот — як ён іх запамінае?.. Аркадзь зноў уключыў тэлевізар і, прыцішыўшы гучнасць, глядзеў канцэрт і яшчэ час ад часу пазіраў на бацьку — відаць, запамінаў анекдот...

Усё было добра, толькі Мікалай Макаравіч чамусьці не п'янеў, і таму яму было дзіўнавата бачыць раздабрэлыя чырвоныя твары, чуць нечаканы смех той жа Мілы... Нечакана ён заўважае, што Машы ў зале даўнавата няма — успамінаецца, што за ўвесь вечар яна з Аркадзем так ні разу і не загаварыла. Няўжо не памірыліся?..

Ён падымаецца з крэсла і непрыкметна выходзіць на кухню. Маша сядзіць адна ля акна і глядзіць у цемень на вуліцу.

— Ты чаго, дачка? — Мікалай Макаравіч падыходзіць да Машы, кладзе руку на плячо. Маша, быццам і чакаючы гэтага, адразу ж пачынае плакаць, не выціраючы слёз, усё гэтак жа моўчкі гледзячы ў цёмнае

акно. Мікалаю Макаравічу думаецца, як гэта добра, што Маша яшчэ можа заплакаць не ля каго-небудзь, а ля яго...

— Нічога, вот дзіця паявіцца, і ўсё наладзіцца... Гэта ў многіх так бывае, не ў цябе адной,— толькі і можа ён сказаць.

— Я падам на развод, тата... Я не магу так з ім... Што я яму — цацачка...— нарэшце Маша пачынае выціраць далоняю слёзы.— Хай ён падавіцца сваёй кварцірай... Чым цярпець гэтыя вечныя насмешачкі...

— Мы уйдем с тобой...— памахваючы рукою, на кухню заходзіць Аркадзь. Убачыўшы ля акна Машу і Мікалая Макаравіча, ён на імгненне здзіўлена спыняецца, а потым падыходзіць да Машы: — Ты чаго, старушка?.. Ну, пайшлі, пайшлі да стала, нечага кіснуць.— Аркадзь бярэ Машу за руку і, як дзіця малое, вядзе ў залу. Маша на хаду выцірае далонню слёзы.

Цяпер, як Аркадзь павёў Машу, Мікалаю Макаравічу хочацца пайсці дамоў. Але дамоў ісці яшчэ рана. Прыйдзецца пабыць тут якую гадзіну. Ён ідзе ў залу, дзе яшчэ здаля чуецца голас Мілы:

— А цяпер спяём... Вот давайце: «Ой, цвіце каліна...»

«Таксама, во, пявіца мне знайшлася. Як толькі ў госці, дык яна адразу ж са сваімі песнямі тут як тут...» — незадаволенасць не праходзіць. Мікалай Макаравіч садзіцца на ранейшае месца і зноў азірае твары прысутных. Маша сядзіць побач з Аркадзем — як нічога і не было, толькі вот твар яе надта худы і бледны. Дзіўна, людзі і смяюцца, і спяваюць, а твары нейкія, як нежывыя... Чаму гэта так?..

— Давайце мы яшчэ па адной, а тады і зацягнем,— гаворыць Вікенцій. Ён далівае чаркі, падымаецца: — Сват, я хачу ў гэты дзень з табою выпіць. Дзеці нашы, во, растуць, жывуць, зажываюцца, кварціра ёсцека, на машыну — падкіну і я, калі што якое... Чаму ж нам сягоння не выпіць, што нам яшчэ трэба?..

— Давайце, давайце,— падпявае сваццproperly.— Я вот зараз курачку тушаную прынясу. Гарачанькая...

...Выходзяць ад сватоў позна, а дванаццатай гадзіне. Вікенцій праводзіць да вуліцы — аказалася, што ён зусім цвярозы, хоць, здаецца, і піў са ўсімі, чарка

ў чарку... «Заходзьце часцей, а то саўсім рэдка бывае, быццам за сто вёрст жывём...» — гаворыць Вікенцій, калі яны садзяцца ў таксі.

Ужо ў хаце, распрануўшыся, Мікалай Макаравіч адчувае, што кружыцца галава. Ён кладзецца ў ложак, і як толькі заплюшчвае вочы, яго адразу ж як бы панесла на хвалях: уніз-угору, уніз-угору... Тое, што было вечарам: і Маша ля цёмнага акна на кухні, і чырванашчокі Вікенцій, і спакойны, гладка паголены Аркадзь — усё гэта малюнкамі паяўляецца ў памяці і тут жа знікае, змяняецца іншым: вунь ягоны кабінет са сталом і тэлефонам, вунь блакітныя шторы на акне, вунь — Міша і Андрэй аб нечым дамаўляюцца, вунь прыёмная з Нэлачкаю... Чамусьці паяўляецца і тая вясковая жанчына, дагэтуль ён ніяк не мог успомніць яе твару, а цяпер яна — як жывая, стаіць на ганку хаты і глядзіць, як ён ідзе з двара. Яму чамусьці абавязкова трэба некуды ісці... Толькі куды яму трэба ісці?..

## 6

Вечар у Вікенція быў добры, што і гаварыць: і сустрэлі іх добра, і на стале ўсяго было, і наспявалася ўволю... Там, сярод чужых, малазнаёмых людзей, Міла паводзіла сябе так, быццам знаходзілася на ярка асветленай сцэне, адчуваючы ўвесь час, што за сцэнаю, як у зале, ёсць нябачныя гледачы, і таму ўсё, што ні робіш і што ні гаворыш, мае для гледачоў свой патаемны сэнс. І таму не хацелася, каб прадстаўленне канчалася, і таму так хацелася спяваць і спяваць, адчуваючы пры звоне меладычнай песні нязвыкла радаснае і шчаслівае захапленне светам нейкіх іншых пачуццяў, якія паяўляюцца на кароткія хвіліны і якія потым ужо, дома, не ўзнікаюць. Таму ў гасцях нават з Колем Міла паводзіла сябе не так, як на адзіноце...

Але вось вечар канчасцца — і зноў звычайнае жыццё, у якім усё проста і ясна: за доўгія гады аднолькавых паўтарэнняў шмат што, калісьці прывабнае, прыелася, набіла аскоміну і цяпер ужо не цікавіла і не хвалявала. Зрабілася звычкаю. ...Як гатаванне сняданку, як дарога на работу і сама работа на заводзе, як мыццё посуду пасля яды, як выбіванне

дываноў, як прыбіранне ў хаце, як... Ды і ці можна пералічыць усе гэтыя «як», калі задумацца добра?

Міла памалу распранаецца, вешае ў шафу на плечыкі доўгую сукенку, тую сукенку, у якой яна калісьці танцавала з Іваніцкім, а затым кладзецца ў ложак. Злёгку кружыць у галаве. Міла заплюшчвае вочы — кружэнне прыемнае; тады, як заплюшчваеш вочы, усё наўкола набывае нязвыклае адчуванне, зусім не падобнае на тое, якое бывае днём: і дотык гарачага Колевага цела, і сам мяккі ложак, і сваё цела, свае пальцы, і падушка, ды і тыя ж успаміны пра ярка асветлены вечар у Вікенція — усё гэта як бы акружана хісткім салодкім туманам...

Міла забываецца на кароткія імгненні, як бы засынае, а потым зноў прачынаецца, адчуваючы целам гарачыню, што ідзе ад Колі. І здаецца ёй, што Коля — гэта зусім не той Коля, якога яна добра ведае, а невядомы чалавек, якога дагэтуль ні разу не сустракала. І тады Міле хочацца расказаць гэтаму другому Колю пра сябе, пра сваё жыццё, якое цяпер здаецца дзіўным і заблытаным... Вот сустрэўся б ёй другі чалавек, і, відаць, жыла б яна зусім па-другому... Помніцца, тады, у маладосці, ёй прапаноўвалі ехаць на вучобу, а пасля — спяваць дзесьці ў вядомым хоры, мо нават была б і салісткаю. Як бы ўсё гэта атрымалася б? Ды і ці атрымалася б? А потым кароткія хвіліны забыцця становяцца ўсё болей і болей даўжэйшымі — Міла засынае...

Прачынаецца Міла дзесьці гадзіны ў чатыры. На вуліцы ўжо светла. Спачатку дык і невядома, што прымусіла яе прачнуцца ў такую рань, балазе, сягоння нядзеля. Яна глядзіць на будзільнік — і сапраўды, толькі дзесяць мінут пятай. І тут жа яна чуе гучнае і цяжкае, з сябе, дыханне Колі — здаецца, ён ледзь не стогне. Міла кратае Колю за плячо — ён увесь гарыць, не дакрануцца.

— Коля, а Коля, табе дрэнна?

— А-а,— Коля адплюшчвае чырвоныя вялікія вочы, аблізвае языком засмяглыя вусны і неяк абыякава сонна гаворыць: «Холадна мне, ты накрый чым...» Пасля гэтага Коля зноў паварочваецца на бок, падкручвае ногі і стараецца як мага болей нацягнуць на сябе коўдры.

Міла падымаецца і ўкрывае Колю тоўстай зімовай коўдраю — ледзьве не з галавою.

Усё тое, што было ўчора вечарам у гасцях у Вікенція і пасля ў сябе дома, ужо адышло, здаецца дзіўным і недарэчным. Цяпер новымі клопатамі забіта галава. Відаць, захварэў Коля ўсё-ткі сур'ёзна.

Міла ідзе на кухню, дзе ад ранішняга сонца, якое прама б'е ў акно, светла, як днём,— аканіцу ў акне ўчора вечарам так і не паспелі закрыць. З буфета Міла дастае картонную каробку з лякарствамі, якія за гады неяк патроху сабраліся: то — Маша з работы прынесла, а то — самі куплялі... Міла знаходзіць пачак аспірыну. Відаць, лепей за ўсё даць Колю аспірыну — мо саб'е тэмпературу.

Міла запальвае газ, ставіць на агонь чайнік з вадою і, пакуль вада будзе закіпаць, ідзе ў паграбок па леташняе малінавае варэнне.

Прыгатаваўшы і таблетку, і чай, Міла ідзе ў спальню.

— Коля, вазьмі таблетку,— Міла злёгку тармосіць Колю за плячо, акрытае коўдраю. Коля ляжыць тварам да сцяны. Ён памалу паварочваецца — бачыцца ягоны незадаволены пацямнелы твар, быццам гэта і не той вясёлы ўпэўнены ў сабе Коля...

Коля садзіцца на ложку, дрыготкімі пальцамі таропка бярэ таблетку, запівае яе глытком чаю і адразу ж моўчкі лажыцца...

— Ты выпі яшчэ трохі, яно ж — з малінамі,— але на гэта Коля толькі буркае: «Не трэба...»

Нейкі час Міла моўчкі стаіць ля ложка і глядзіць на тоўстую коўдру.

— Табе, можа, яшчэ чаго даць?

— Я ж сказаў, нічога мне не трэба,— Коля чамусьці злуе. А чаго?.. Ці ж яна вінавата ў чым?

Міла зноў вяртаецца на кухню, але там асаблівай работы няма. Каб трохі развеяцца, выходзіць з хаты на ганак.

Ужо дзесьці шостая гадзіна. Людзей на вуліцы яшчэ не відаць — нядзеля, на работу спяшацца не трэба. Усё такое ж, як і ўчора, як і пазаўчора, свеціць бялюткае сонца. Вот толькі вецер падымаецца, сягоння ўжо добра-такі адчуваецца, яшчэ з раніцы... Спякота стаіць — усё выгарае... Відаць, калі б не Колева хвароба, сягоння вечарам палілі б агарод. Адна

наўрад ці справіцца — сама ні разу не падключала да калонкі той чорны гумавы шланг... Ды і лазню пратапіць не пашкодзіла б...

Што цяпер рабіць? Званіць у паліклініку? Але ж сягоння — выхадны, там нікога няма. Ды мо праз якія пару гадзін тэмпература спадзе, як учора... Машу ў такую рань турбаваць таксама не хочацца, калі толькі — пазней пазваніць...

Міла глядзіць на мураву, на агарод... Канечне, работа маецца, як і звычайна: і ў хаце пыл з усіх закуткаў працерці трэба, і з бялізны што перамыць, ды і на рынак гадзін у восем не забыцца схадзіць — закупіць прадуктаў на тыдзень... Так атрымліваецца, што на выхадныя збіраецца шмат работы, вяртаючыся ў будзённы дзень з завода, мала што паспяваеш зрабіць ля хаты, ды і што там зробіш за якія дзвetры гадзіны, калі што і паспяваеш — згатаваць на скорую руку вячэру, а там — тэлевізар паглядзець хочацца, ды і спаць пара лажыцца... І так — дзень за днём, здаецца, толькі што быў панядзелак, а ўжо — субота на носе... Летам трохі болей вольнага часу, але ж летам і работы болей: агарод глядзець трэба, ягады, кампоты... І таму, калі што трэба зрабіць, то Міла звычайна думала: «А-а, і ў выхадныя зробіцца... Два дні выхадныя будзе...» І хоць не ўсё ў тыя выхадныя рабілася — дні праляталі хутка, не паспявала і азірнуцца,— але ўсё ж што-небудзь ды рабілася. Так дні і каціліся, нядзеля за нядзеляю, месяц — за месяцам. І ў гэтым раўнамерным чаргаванні работы на заводзе і ля хаты Міле бачыўся сэнс, але сягоння нешта парушылася, цяпер Міла стаіць на ганку і не ведае, што рабіць, за што брацца... Яна адчувае, што трэба нешта другое рабіць, але ж — што?..

Памагчы Колю... Чым яна можа памагчы? Лякарства дала, акрыла коўдраю, што яшчэ трэба? Відаць, у такую рань нічога лепшага і не прыдумаеш.

Міла вяртаецца ў хату, пераапранаецца, накідвае на галаву лёгкую касынку, а затым ідзе ў агарод — цяпер, пакуль мала спякоты, можна хоць трохі папалоць грады, зусім травою зараслі, морквы дык той і не відаць. Міла вырывае пустазелле, скідвае яго ў грудкі і ў той жа час адчувае трывогу, няма таго роўнага спакою, які бывае звычайна, калі Міла бярэцца за якую работу.

Усё думаецца і думаецца пра Колю... Вось яму сягоння трэба ісці на завод, ды, відаць, усё сарвецца, ні з таго ні з сяго гэта хвароба як снег на галаву... Як і таму ж Іваніцкаму... Чакай, чакай, а як бы яна жыла, калі б Колі не было?

Міла глядзіць на хату, на зялёны металічны гараж, на той жа агароджаны металічнай сеткаю агарод, на лазню, што чарнее ў куце агарода. Усё гэта — Колева работа, калі б не ён... Канечне, і яна штосьці рабіла, не без гэтага, але калі б не Колева хватка, то ці мелі б яны гэта?.. Не, канечне, не... Трапіўся б ёй такі разявака, як Вяслікаў — што б яны цяпер мелі? А нічога... Хоць і злуе яна на Колю, але ўсё ж — ён гаспадар, ён ведае, да каго падысці, да каго пад'ехаць. І калі б так ужо здарылася, што Колі не стала, то як бы ёй жыць самой, як?..

Пра гэта Міла неяк і не задумвалася, шмат год яна жыла роўным спакойным жыццём, і думалася ёй, што шчасце ў цішыні і спакоі. Яна жыла і старалася жыць так, як і другія бярозаўцы — старалася не адстаць ад моды, бо тады, як адстанеш, будзеш, як тая белая варона, як тыя Вяслікавы... А каму захочацца, каб на цябе паказвала палова Бярозава пальцам і пацішку за спіною пасмейвалася?.. І няўжо гэта дрэнна, што ў чыстай, без адзінай пылінкі, хаце будзе халадзільнік, тэлевізар апошняй маркі, ды і тыя ж, як у Вікенція, мяккія прыгожыя дываны на падлозе?.. І тады, як усё гэта набудзеш: і нізкі драўляны ложак у спальні, і сервант, застаўлены крышталём і кнігамі, і гараж з машынаю, і жоўтыя пярсцёнкі на пальцы абедзвюх рук,— з'яўляецца пачуццё ўпэўненасці і спакою, маючы гэта, як бы прыўзнімаешся над усім Бярозавам і ўжо адтуль, звысоку, з усмешкаю можаш пазіраць на розных там Вяслікавых, якія гэтага яшчэ не набылі... Бо ўсё, што потам дастаецца, ёсць нешта знешняе, усім бачнае, як той дарагі імпартны касцюм, у якім твайму нябачнаму распаўнеламу целу добра і ўтульна.

Чаму ж цяпер Міле так трывожна? Мо ўпершыню яна пачынае адчуваць нейкую памылку ў сваім жыцці? Аднак — якую? Калі і ў чым яна памылілася?

Гадзін у восем Міла вяртаецца ў хату і адразу ж ідзе ў спальню. Яна мацае рукою Колеў лоб. Жар не

спадае. Відаць, трэба ўсё-ткі пазваніць Машы, як-ніяк, а медсястра — вучылішча скончыла...

Пазваніўшы Машы па тэлефоне, Міла хоць трохі ды пачула палёгку.

Маша прыязджае хутка, дзесьці праз паўгадзіны.

— Ну як, змерала тэмпературу? — пытаецца яна яшчэ з парога.

— Трыццаць дзевяць.

Маша заходзіць у спальню, садзіцца на крэсла ля ложка і глядзіць на бацьку. Той таксама павярнуўся да яе тварам — глядзіць неяк сонна, абыякава...

— Ну, што ж гэта ты? — аднымі вуснамі ўсміхаецца Маша і кладзе руку на бацькаў лоб.— Што ў цябе баліць?

— Нічога... Галава толькі ломіць,— неяк незадаволена сухімі вуснамі шэпча Коля. Дзіўна, як мяняе характар чалавека хвароба. Колю цяпер дык і не пазнаць.

— Мы зараз «скорую» выклічам,— гаворыць Маша бацьку.— Я баюся, каб запалення не было.

— Як хочаце,— здаецца, Колю ўсё абыякава: і ягоная хвароба, і іх турботы, здаецца, ён цяпер заняты другім.

Маша выходзіць са спальні і ўжо на кухні гаворыць маці:

— Ідзі выклікай «скорую». Тут — жартачкі кароткія з такой тэмператураю. Гэта ўсё ягонае купанне...

Пасля званка ў «Хуткую дапамогу» Міла з Машаю садзяцца на кухні ля стала. Ужо дзевяць гадзін.

— Ты, можа, есці будзеш? — пытае Міла ў Машы.— Я дык яшчэ і не снедала. Не хочацца.— Цяпер, як Маша выйшла замуж, Міла і сама не заўважыла, што пачала гаварыць з Машаю, як з роўніцаю. Дагэтуль гаварыла, як з дзіцем, а цяпер — саўсім другое...

— Не, мне таксама не хочацца.

— Ну, тады я чаю пастаўлю. У мяне заварка ёсцека. Індыйскага...

Міла ставіць на газавую пліту чайнік.

— Можа, у яго і не запаленне, можа, у яго грып...— гаворыць разважліва Маша.

— Адкуль той грып сярод лета будзе? — Міла глядзіць на чайнік.

— Аркадзій недзе вычытаў, казаў, што цяпер ёсць нейкая новая тэорыя паходжання грыпу. Казаў, што вірусы заносяцца з космасу, так што хвароба гэта — касмічная...

— Касмічная ці зямная — радасці мала,— Міла замаўкае.

Закіпае чайнік. Міла здымае яго з пліты і разлівае па фарфоравых чашках заварку і кіпень.

Моўчкі п'юць чай. Чакаюць, калі прыедзе «хуткая»...

Нечакана Міла ставіць на стол чашку і рукою выцірае вочы.

— Ты чаго, мама? — пытае Маша.

— Так...

— Ды кінь ты пра гэта думаць. Ці ж першы раз ён хварэе? Мала што бывае. Ну, застудзіўся трохі, ну, дык і што з гэтага? Што ўжо, канец свету?..

Міла маўчыць. Здымае з вешалкі, што на сцяне ля пліты, белы вафельны ручнік, выцірае вочы, а тады зноў садзіцца на табурэтку ля стала і звыклым, амаль што аўтаматычным рухам кладзе ручнік на калені — як на рабоце ў лабараторыі. Яшчэ хочацца расказаць Машы, што боязна, што яна не ведае, што цяпер рабіць, але ў гэтым свайму дзіцяці чамусьці сорамна прызнавацца, і таму слёзы самі сабою цякуць і цякуць...

7

Хацелася яму, каб прыйшоў хто ў спальню, сеў ля ложка і, палажыўшы руку на гарачы лоб, моўчкі ціха пасядзеў. ...Як у маленстве, калі ён пачынаў хварэць. Тады маці сядзела ля яго, трымаючы шырокую халаднаватую далонь на ягонай галаве, і нешта ціха нетаропка гаварыла, ласкавае і мяккае. А можа, і спявала — вот ужо не помніцца... Помніцца толькі, што тая шырокая, як свет, далонь прыносіла палёгку, і таму, калі маці збіралася ісці, ён адразу ж хапаўся за гэту далонь. І паслухмяная маці заставалася.

Сказаць пра сваё жаданне яму было сорамна, а сама Міла ці то не хацела, ці то не здагадвалася пасядзець ля яго, калі і падыходзіла, то адразу ж давала піць таблеткі, а то і гаварыла, толькі не тое, не тое... Лепей было б, калі б села моўчкі побач, як гэта

яны любілі рабіць у першы год пасля жаніцьбы — тады яны проста так маглі сядзець адно ля аднаго, калі гаварылі, и калі і маўчалі. І ад той сумеснай еднасці ім было проста і добра. І болей нічога не патрабавалася.

...Прыехала «хуткая».

Маладая дзеўчынёха ўрач з акулярамі на ружовенькім тварыку адразу ж, зайшоўшы ў спальню, дзелавіта сунула пад паху халодны тэрмометр, паслухала праз гумавыя трубачкі, як ён дыхае, пастукала пальцам па спіне і грудзях, а потым, паглядзеўшы на тэрмометр, рашуча сказала:

— У бальніцу трэба. Тэмпература высокая... Без аналізаў я нічога не магу сказаць.

І павезлі Мікалая Макаравіча ў бальніцу — у адзін з тых ціхіх з белай пабелкаю, з вечным бальнічным пахам пакояў, у якія дагэтуль на кароткія хвіліны заходзіў сам Мікалай Макаравіч. Як наведвальнік...

Ён гадзінамі моўчкі ляжаў на ложку, глядзеў то на белую, без адзінай плямачкі, сцяну, то праз акно на блакітнае з рэдкімі воблакамі неба. Адтуль, з вуліцы, як з другога свету, часта даносіўся шум сосен, якія раслі між бальнічных карпусоў. Часта Мікалай Макаравіч не спаў ноччу, і калі была ветраная ноч, ляжаў у цемры з адкрытымі вачыма і слухаў, як шумяць сосны. Здавалася тады, што гэты рытмічны шум пра нешта напамінае, што ён ніяк не можа ўспомніць, ведае толькі, што напамін прыносіць палёгку, і таму так хацелася слухаць і слухаць, як за акном шумяць сосны. Бы марскія хвалі...

Прыходзілі Міла і Маша, спрабавалі штосьці гаварыць, ён абыякава глядзеў на іх твары, а потым, калі адыходзілі, зноў думаў пра сваё жыццё. Як старонні чалавек... І не так яго мучыла хвароба, як думкі. Здавалася часам, што ён і захварэў таму, што стаў занадта думаць пра сябе, пра Машу, якой ужо нічым не зможа дапамагчы. Цяпер Мікалай Макаравіч не мог сказаць, калі пачалася хвароба: ці тады, як пачалі сніцца блытаныя бесталковыя сны, ці тады, як пачуў ад Міны непрыемную навіну пра Іваніцкага, ці пазней, калі паехаў у лес па ягады і ўжо там...

Каторы раз Мікалай Макаравіч перабіраў сваё жыццё, жыццё знаёмых, як заводскіх, так і суседзяў

па вуліцы. І дзіўна было: калі думаў пра другіх людзей, усё было проста і ясна, а як толькі пачынаў думаць пра сябе, станавілася заблытаным...

Што ж было ў ягоным жыцці?

Была работа, на якую трэ было хадзіць, быў завочны тэхнікум, які трэ было заканчваць, была хата, якую трэ было абладзіць, абставіць... А Міла? І яна, канечне, была, але з кожным годам яна ўсё аддалялася тымі клопатамі, якія неяк самі сабою паяўляліся. І ўжо новай радасці і новага шчасця хацелася яму, а тая простая радасць, якая агортвала, калі, трымаючы Міліну далонь, моўчкі сядзеў побач, адыходзіла.

Дык ці ж была ў ягоным жыцці радасць?

Ну, як жа, была, канечне, была, як гэта можна ўсё жыццё пражыць без гэтага. Колькі было радасці, як увайшлі ў сваю хату,— той пах смалістага здаровага дрэва, тыя яшчэ жоўтыя не фарбаваныя сасновыя дошкі на падлозе, першы жалезны, па той модзе, высокі ложак з гарою падушак, першыя шпалеры, якія ён клеіў на голыя сцены разам з Мілаю — і цяпер помніцца, што былі яны блакітныя з жоўтымі кветачкамі,— усё гэта стаіць перад вачыма і цяпер. Як і той дзень, калі сваімі вачыма прачытаў загад аб прызначэнні начальнікам аддзела забеспячэння... Ягоны кабінет — не цяперашні, а той невялічкі кабінецік у канцы калідора заводакіраўніцтва, у якім, акрамя стала, фанернай шафы, двух крэслаў і тэлефона, болей нічога не было. Нават занавесак на акне не было, не тое што — штораў... Але ж затое якім вялікім і прыгожым здаваўся яму тады той першы кабінет!

І чым болей думаў, тым усё ясней успаміналася ранейшае: першы сервант у хаце, паравое ацяпленне, тэлевізар, не цяперашні, а той, з лінзаю перад экранам, халадзільнік, той маленькі халадзільнік, які даўно выкінулі. А машына, ягоная машына... Помніцца, два дні гулялі... Была, была радасць і ў ягоным жыцці...

Але цяпер, калі Мікалай Макаравіч успамінаў пра ўсё гэта, у ягонай душы было пуста і стыла, як восенню на скошаным лузе. Думалася, што і хата стаіць, як звон, і ў хаце той усяго поўна, а вот нічога яго не грэе, халодна яму на гэтым свеце і адзінока, ляжыць ён у ложку, і нічога вакол няма, усё, што да-

гэтуль радавала, засталося недзе далёка-далёка, а ён, як і калісьці ў маленстве, адчувае сябе малым і бездапаможным у гэтым вялікім заблытаным свеце. Быццам, як тое дзіця, займаўся ўсё жыццё нейкай гульнёю, цешыў другіх і сам цешыўся, а вот толькі цяпер глянуў на сваё жыццё і здзівіўся...

Быў калісьці ў ягонай спальні жалезны ложак, а цяпер — драўляны... Вісеў на сцяне папяровы дыван з двума лебедзямі, а цяпер — з тканіны, за тры сотні... У маладыя гады ён радаваўся брызентавым тапачкам, якія бяліў зубным парашком, а цяпер радуецца імпартным туфлям. У першыя гады работы на заводзе ён з асалодаю каціў па бярозаўскіх вуліцах на веласіпедзе, а цяпер — на машыне... Быў рабочым, слухаўся брыгадзіра, а цяпер — Аркадзя Фёдаравіча... Што ж змянілася? І няўжо на ўсё гэта ён укладваў усё сваё жыццё? І ўвогуле, што ж тады ёсць на свеце, за што можна і варта трымацца?..

Балела, прама развальвалася галава, і між тым ніколі дагэтуль Мікалаю Макаравічу так ясна і халадна не думалася пра сябе...

Кожную раніцу прыходзіў у пакой урач з медсястрою, глядзеў на лісток, дзе было штосьці напісана, гаварыў Мікалаю Макаравічу бадзёрыя суцяшальныя словы, калі дык і пахлопваў белай, на цуд мяккай далонню па плячы, а затым нетаропка падыходзіў да наступнага хворага... Пазней медсястра прыносіла таблеткі, парашкі, калі — дык рабіла ўколы, а потым зноў пачыналася цішыня, шум нябачных сосен за акном...

І хацелася Мікалаю Макаравічу прыдумаць нешта разумнае, правільнае, каб апраўдаць сваё жыццё... Але, колькі ні думаў, разумеў цяпер, што чамусьці шмат ад чаго адракаўся па сваёй волі. ...Як ад той вясковай жанчыны. Бо, як толькі ўспамінаў пра яе, адразу ж святлеў свет, зноў і зноў бачыў тыя разагнаныя барозны, тыя спелыя жоўтыя яблыкі на цёмнай ад вільгаці, прысыпанай лісцем зямлі...

Чаму, чаму ён так рабіў?.. Чаго ён баяўся?..

«Калі б маладосць ведала, а старасць магла...» — часта паўтараў ён, толькі цяпер разумеючы сэнс гэтай прымаўкі. Колькі разоў дагэтуль ён і сам паўтараў яе, колькі разоў чуў яе ад другіх людзей, часта нават жартаваў са смехам: «Ну, дык чаму ж не

падкажа старасць маладосці тое, што яна ведае?..» Але цяпер было не да смеху, цяпер ён толькі з нейкай асалодаю паўтараў і паўтараў пра сябе гэтую прымаўку.

Як паўтараў калісьці, на пачатку хваробы — як гэта даўно было! — другія словы: «Усе там будзем...»

На чацвёрты дзень тэмпература пачала спадаць. І якраз тады ў думках Мікалая Макаравіча пачало з'яўляцца штосьці новае — развагжлівае і цвярозае... І цяпер усё тое, што было да хваробы і пра што думаў цяпер, уладкоўвалася ў штосьці адзінае, суцэльнае. Многае з таго, пра што думалася з адчаем, набывала другі сэнс...

«Ну, добра,— думаў цяпер Мікалай Макаравіч,— хай я жыў не так... Але няўжо я і цяпер павінен хадзіць на работу ў тых белых брызентавых тапачках, у тым дзяшовенькім у палосачку касцюме? Няўжо і цяпер у маёй хаце павінны вісець тыя ж лебедзі, той гліняны кот на падаконніку... Што я — горшы за другіх бярозаўцаў? Ці наадварот — разумнейшы за другіх?.. Ды і з Машаю... Нічога страшнага няма, чаго гэта я сабе ўбіў у галаву — не скла- дзецца жыццё, дык і развесціся нядоўга. Ці адна яна такая? А ўвогуле, чаго ёй не хапае? Ну, падумаеш, слова не так сказаў... Дык дзе ж ты такое бачыў, каб усё гладка абыходзілася, дзе цяпер такую сям'ю знойдзеш? З той вясковай жанчынаю... Дык і там невядома, магло пачацца ўсё добра, а потым... Бо і з Мілаю пачыналася ўсё добра, а пасля патроху разышлося, разманялася на штосьці другое... Ды і ўвогуле, калі падумаць пра шчасце... У адных яно — у машыне, у другіх — у пасадзе, у трэціх — у кнігах... Якая розніца, абы шчаслівы быў...»

Цяпер, калі Мікалай Макаравіч пачаў выздараўліваць, яму здавалася, што так, як пражыў жыццё,— так і трэба пражыць, канечне, можна было б пражыць яго і па-другому, з той жа вясковай жанчынаю, але хто ведае, хто падкажа, дзе знойдзеш, а дзе згубіш. Як у той казцы: налева пойдзеш — каня згубіш, направа — сам прападзеш... А ісці трэба. Не будзеш жа ўсё жыццё сядзець на адным месцы.

Неяк ён заснуў сярод дня. Калі прачнуўся, убачыў, што ля ложка сядзіць Міла. Яна трымала ягоную руку і ціха плакала. Паглядзеўшы ў схуднелы без

фарбы твар, Мікалай Макаравіч нечакана зразумеў, што перажыла Міла за гэтыя дні, здалося яму, што толькі адна Міла ведае ягоныя думкі, дастаткова было глянуць адно аднаму ў вочы, як яны сталі блізкімі і роднымі. Бо той, як гаворыцца, ім аднойчы адпушчаны варыянт яны пражылі разам, і ўжо нічога нельга было зрабіць, нічога нельга памяняць, а трэба толькі змірыцца...

Ён упершыню пасля хваробы крыва ўсміхнуўся і, каб схаваць слёзы, ціха сказаў: «Ну, перастань... Выкараскаемся... Ці першы раз такое?..» За гэтымі схаванымі слязьмі стаяла прызнанне таго, што ён ніколі не выкараскаецца...

Выпісалі Мікалая Макаравіча праз тыдзень, казалі, што ў яго быў грып. Дома ён прабыў яшчэ тры дні. Калі Мікалай Макаравіч выйшаў на работу, саслужыўцы заўважылі, што ён змяніўся. І не так знешне, як у паводзінах. Ён ужо не так гучна і раскаціста смяяўся над анекдотамі Ігнаценкі, якія той усё гэтак жа, як і дагэтуль, баяў у калідоры перад пасяджэннямі ў Аркадзя Фёдаравіча, не так упэўнена і рашуча гаварыў цяпер Мікалай Макаравіч з падначаленымі. Увогуле, у ім з'явілася тое, што часта нечакана паяўляецца ў пажылых людзях: паспешлівая мітуслівасць у паводзінах, а ў позірку — пастаяннае чаканне чагосьці... Часта, седзячы за рабочым сталом, Мікалай Макаравіч забываўся на паперы — падоўгу глядзеў праз акно на вуліцу, і па ягоным твары нельга было зразумець, пра што ён думае. У гаворцы ягонай з'явіліся новыя выразы, якіх раней не было. «Што ні ідзе — усё да лепшага...» — часта паўтараў ён. Усё часцей ён гаварыў пра рыбалку, пра адпачынак, у канцы гаворкі ён звычайна казаў: «Ну, вот, пайду на пенсію, і тады ўжо...» Ён замаўкаў, і было незразумела, што ж будзе тады, як Мікалай Макаравіч пойдзе на пенсію.

# АПАВЯДАННІ

*Валіцкі*

•

*Валянціна з Бярозава*

•

*Шпілька*

•

*Печ*

# *Валіцкі*

## 1

Пазнаёмілася я з ім, калі ён ужо развёўся са сваёй першай жонкаю. Я тады прыехала ў Бярозава па накіраванню, працавала на заводзе і жыла ў заводскім інтэрнаце. Было мне тады дваццаць сем.

Атрымалася гэта так — пасля работы мы выйшлі разам з прахадной. Як тады падумалася, ён выпадкова аказаўся побач, і таму, калі спытаў дазволу пазнаёміцца, я спачатку зірнула на яго са здзіўленнем — было ў ягоным «дазвольце» нешта цяпер ужо зусім не моднае і мо таму насцярожвала. Адзенне ягонае было крыху памятае, такое, якое часта бывае ў жанатых мужчын, якіх даўно кінулі даглядаць жонкі. Паўтараю, штосьці насцярожыла мяне — па ўсім відаць, як потым зразумела, мяне і насцярожыла абыякавасць да адзення. Бо калі чалавек не надта клапоціцца пра свой знешні выгляд, значыць, у яго ёсць больш цікавы занятак...

Назаўтра, калі выходзіла з завода, ён зноў сустрэўся, і тут я ўжо зразумела, што цяпер у мяне два шляхі: ці знаёміцца, ці, як гаворыцца, адшываць яго назусім...

Дзіўна, як часта наша жыццё залежыць ад нейкіх, здавалася б, нязначных дробязяў. Ад таго, добры ці дрэнны настрой, ад таго, прапусціш ці сядзеш у аўтобус, часта залежаць цэлыя гады далейшага жыцця. Ну, але гэта ўвогуле...

У той, другі, вечар у мяне быў страшэнна кепскі настрой— на рабоце не ладзілася, і, як часта бывае ў калектыве, не ладзілася толькі таму, што не ла-

дзіліся адносіны між людзьмі. Так што ў той вечар мне, здавалася б, было не да знаёмстваў, не да паказной весялосці, але, калі Валіцкі пачаў штосьці гаварыць, я злавіла толькі адно слова: кіно... Так, падумалася мне, мы пойдзем у кіно, дзе ён абавязкова возьме мяне за руку, потым правядзе да пад'езда інтэрната, да таго інтэрната, куды мне не хацелася паказвацца: за студэнцкія гады, ды і потым, за тыя першыя гады заводскага жыцця, мне не тое што надакучылі гэтыя вечныя тры ці чатыры ложкі, тумбачкі, цесната, пільны позірк вахцёркі, а проста ўсё гэта я пачынала паціху ненавідзець і часта была гатова пайсці не толькі ў кіно, а і куды заўгодна...

Што ж, мы пайшлі ў кіно. І ўсё было амаль гэтак жа, як мне ўяўлялася, з той толькі розніцаю, што за руку ён мяне не браў — тады я і здагадалася, што пагладжванне ў цёмнай зале чужой далоні для яго — даўно пройдзены этап ці перыяд, назавіце як хочаце...

Трэба сказаць, што, выходзячы замуж за Валіцкага, я так і не ведала, кахаю яго ці не. Увогуле, мне часта здаецца, што так званае каханне — адна з вялізнейшых плётак, якую аднойчы нехта выдумаў і пусціў па свеце. Я ведала адно дзяўчо-падлетка, якое закахалася ў кінагероя, і гэта хвароба — іначай я і не магу назваць каханне — цягнулася ў яе пяць год, да таго часу, пакуль не ўбачыла гэтага артыста наяву. Пaглядзелі б на тую няшчасную — яна высахла, не спала начамі, кінула заняткі... Дык вось, калі пад каханнем падразумяваць гэту хваробу, якою хоць раз ды кожны ў нас павінен перахварэць — у маладосці ці ў старасці, няважна,— то тады і мае сэнс гаварыць пра каханне.

А ўсё астатняе — гэта зусім іншае, нават калі мы — маю на ўвазе не ўсё чалавецтва, а толькі нас, жанчын,— пакутуем, не спім начамі, цяжка ўздыхаем... Канечне, я не збіраюся сцвярджаць, што мы да ўсяго абыякавыя і можам сыходзіцца з кожным «стрэчным-папярэчным»,— не, ні ў якім разе, і ў нас ёсць нейкае пачуццё, з-за якога мы, бывае, і сапраўды начамі не спім, кусаючы падушкі і змочваючы іх слязьмі... Але ўсё гэта, паверце, зусім іншае, каханнем тут і не пахне.

Спытайце, спытайце тую няшчасную, якая калісьці з-за так званага кахання начамі кусала падушкі,— не тады спытайце, калі яна гэта робіць, а потым, праз тры-чатыры гады, калі ўсё ўляжацца,— з-за чаго ўсё-ткі яна ліла слёзы ракою? І калі яна асмеліцца чэсна зазірнуць у сваю душу, калі яна паспрабуе выказаць усё тое, з-за чаго пакутавала, вы пачуеце такое, ад чаго, як гаворыцца, вочы на лоб палезуць... І ў тым доўгім прызнанні-маналогу і ўпамінку аб каханні не будзе.

О-о, гардыня чалавечая, як мы вымушаны пакутаваць з-за яе, як прымушае яна нас рабіць добрае і злое!

Я сама ў свой час прайшла праз усё гэта: і праз доўгае разглядванне каляровага фотаздымка кінаакцёра, і праз тыя салодкія дзявочыя мары, нікому не сказаныя і нікім не пачутыя, і праз першае расчараванне ад рэальнасці, з якой, у рэшце рэшт, хоць калі-ды давядзецца сутыкнуцца, бо не зможаш жа да самай старасці толькі і чытаць гэтыя пухлыя раманы пра каханне,— дык вось тады і ўбачыш ссутуленую вінаватую постаць былога абранніка — ідэала, да якога, як і да ўсякага ідэала, ні ў якім разе нельга набліжацца.

Так што, калі я выходзіла замуж, я ўжо ўсё ці, можна сказаць, амаль што ўсё ведала пра Валіцкага: і пра ягоную першую няўдалую жаніцьбу, і пра фотааматарства, якім ён у той час толькі-толькі спрабаваў займацца, і пра ягоныя нечаканыя доўгія маналогі пра штосьці такое, у чым ён, як мне здаецца, і сам не мог разабрацца, і таму перад тым, як несці ў загс заяву, у мяне была адна адзінокая ноч, калі ўсё, што ведала пра сябе і пра Валіцкага, я як бы расклала на шалях уяўных вагаў: плюсы і мінусы, па той і па другі бок...

Думаю, што кожная жанчына, выходзячы замуж, робіць тое ж самае, што рабіла і я той адзінокай ноччу, калі дзесяткі разоў паўтарала гэтае палохаючае: «Дваццаць сем, дваццаць сем...» Думаю, што падобнае робіць кожная жанчына, якая выходзіць замуж, нават і тая, якая тысячу разоў паўтарае «кахаю» і, здавалася б, са шчаслівай і бесклапотнай усмешкаю проста-такі не бяжыць, а ляціць да дзвярэй загса. Проста ў яе на гэтых уяўных шалях ляжыць на ад-

ным баку нешта такое важнае, што адразу ж, пры знаёмстве, пры першым позірку, пераважвае, так сказаць, перацягвае ўсё тое, што ляжыць на другім баку...

Я ведала, што Валіцкі быў жанаты — гэта, канечне, яго не ўпрыгожвала, але, цвяроза падумаўшы, адкінуўшы лішнія ваганні, найперш звязаныя з чужымі людскімі плёткамі, кожны павінен згадзіцца, што няўдалая жаніцьба многаму вучыць і двойчы чалавек, якім бы ён дурнем ні быў, не захоча паўтарыць тыя памылкі, якія рабіў калісьці. Яшчэ тады я думала — з гадамі я толькі ўпэўнілася: так яно і ёсць, што кожная сям'я праходзіць праз пэўныя этапы, і гэта — як і ў жыцці кожнага чалавека: за маленствам абавязкова пачынаецца юнацтва, потым — сталасць з роздумам і расчараваннем, затым — старасць, у каго з новай надзеяю і спакоем, а ў каго — з роспаччу і адзінотаю... Дык вось штосьці падобнае бывае і ў сямейным жыцці. І гэтае першапачатковае захапленне адно адным, калі хочацца зліцца ці, як кажуць паэты, растварыць сябе ў любові да бліжняга. І гэта адзінота дваіх, якую адчуваеш на вяршыні ўяўнага шчасця і тады не ведаеш, куды хаваць позірк,— так бывае, калі доўга і цяжка падымаешся на вяршыню гары: вось ты нарэшце падняўся, і вышэй ужо нічога няма, адно толькі бязвоблачнае блакітнае халоднае неба, ты стаіш цяпер на голай зямлі, дзе зрэдку бялеюць плямы снегу, тваё разгарачанае цела студзіць сцюдзёны вецер,— і вось тут нечакана са здзіўленнем і шкадаваннем успамінаеш тыя хвалюючыя светлыя імгненні, калі ля падножжа гары закідваў за плечы цяжкі рукзак і з радасцю глядзеў на гэту яшчэ не пакораную высокую вяршыню... І запозненая, але больш жорсткая барацьба самалюбстваў, і нявыказаныя крыўды, і горыч, а затым, нарэшце, у каго — павольнае яднанне, цяпер ужо да самага канца, у згодзе з тым, што твайго «я» больш не існуе, а ёсць толькі «мы», а ў каго — разыходжанне... Кожная, чамусьці я думаю, што кожная сям'я праходзіць праз усё гэта, адны гэта старанна хаваюць дыванамі, сервантамі, адзеннем, мэбляю, работаю, а ў другіх усё — як на далоні... Часта мне думаецца, што можна нават напісаць класічны раман тыповага сямейнага жыцця, так сказаць, нейкі

даведнік, які дапаможа маладым людзям пазбегнуць лішніх клопатаў і пакутаў.

...Хоць зноў жа — пазнаёміўшыся з тым даведнікам, ці многія захочуць кінуцца ў рызыкоўны шлях, ці многія? Бо ўсё гэта, відаць, як фільм з прыпіскаю: «Дзецям да шаснаццаці...»

Валерка паявіўся праз год пасля вяселля. Тады ж мы і атрымалі кватэру.

Я не магу сцвярджаць, што Валіцкі быў ад мяне ў захапленні — не, відаць, усё тут было і не ўва мне нават, а ў тым, што першая няўдалая жаніцьба зламала ў ім штосьці такое, што потым ужо ў чалавеку ніколі не паяўляецца, так сказаць, не аджывае... Магчыма, я пра гэта таксама думаю, што і ён, Валіцкі, раскладаў на ўяўных шалях вагаў плюсы і мінусы. Магчыма, гэта робіць кожны чалавек, не толькі мы, жанчыны...

Я адчувала стрыманасць Валіцкага. Праўда, у першы год пасля вяселля, калі мы былі больш-менш задаволены адно адным, ён некалькі разоў пачынаў гаварыць пра штосьці заблытанае, у чым я так і не разабралася. Але тады я ўжо ведала, што галоўнае ў час гаворкі — не сваё выказаць, а выслухаць, зрабіць выгляд, што разумееш і спачуваеш, на большае субяседнік і не разлічвае. Бо ўсё гэта — аблегчаны варыянт споведзі, якой цяпер так часта не хапае.

Тады, у першы год пасля вяселля, ён мог усю ноч гаварыць пра розныя пачуцці, якія бываюць не толькі ў яго, а ва ўсіх. З ягоных маналогаў мне ярка запомніўся расказ пра тое, што дзесьці, ці то ў Японіі, ці то яшчэ недзе, ёсць цікавы звычай ісці ў спецыяльны сад і разглядаць каменне, якое выкладзена на зямлі ў пэўным парадку. І быццам бы тады, калі будзеш доўга разглядаць тое каменне, у душы тваёй паявіцца разуменне чагосьці такога, пра што ты ні ў якіх разумных кніжках не вычытаеш. Яшчэ ён гаварыў пра сваё маленства — перабіраючы год за годам, ён разбіраў, як бы аналізаваў свае пачуцці: як яму было некалі добра, як яму было соладка, як яму было горка... І ва ўсім гэтым ён знаходзіў нейкую асалоду, быццам бы ўспаміны былі для яго як тое каменне для японцаў ці яшчэ каго там... Бывала, што я засынала на якую гадзіну — прачнуўшыся, я ўсё чула ягоны глухаваты маналог... І хоць я ад-

чувала, што ён, мой муж, гаворыць пра нешта, што ёсць і ўва мне, але гэтак жа пэўна я ведала і адчувала, што гаварыць пра гэта нельга. Як і ўвогуле, відаць, людзям нельга ўсё ведаць. Мы не можам і не павінны ўсё ведаць, не і не, ёсць, маецца ў нашым жыцці штосьці такое, да чаго са сваімі ведамі мы не павінны і блізка набліжацца, іначай потым атрымаем страшэнныя пакуты. Бо веды — тое ж самае, што і агонь, якім можна сагрэцца, а можна і спапяліць сваё цела. І гэтаксама як да пары да часу запалкі трэба хаваць ад дзяцей, так і мы, дарослыя, павінны дайсці да пэўнага развіцця, каб мець права карыстацца пэўнымі ведамі.

Відаць, пасля доўгіх начных маналогаў ён, у рэшце рэшт, і сам штосьці зразумеў ці адчуў, магчыма, хоць бы тое, што з дапамогаю слова не ўсё можна выказаць... Бывала, пад раніцу ён плакаў — у гэтым для мяне было штосьці непрыемнае, жаночае. А назаўтра нам абаім было няёмка.

Вось тады ён і пачаў усур'ёз займацца фотаздымкамі. Ён тады неяк адразу ж паспакайнеў і болей не гаварыў пра свае душэўныя перажыванні, якія, як я з гадамі ўпэўнілася, нічога добрага не даюць.

Мы неяк хутка пачалі адно ад аднаго аддаляцца, і самае дзіўнае, што ўсё гэта адбывалася ціха і мірна — без крыку і ляманту. І адзінае, што нас моцнатакі яднала,— гэта сын. Ён праводзіў з сынам шмат часу — тут ужо нічога не скажаш, але як толькі выпадала вольная часіна, ён тут жа хапаўся за свой фотаапарат і сыходзіў з дому.

Спачатку мне і не верылася, што можна днямі, вот проста так, нічога не робячы, цягацца па бярозаўскіх вуліцах ці за тым жа Бярозавам. Неяк я не вытрымала — напрасілася, каб ён узяў мяне з сабою, калі пойдзе рабіць свае здымкі.

Звычайна ён сыходзіў з дому ў суботу раніцай, а вяртаўся позна вечарам. Так было і на гэты раз. Малога я пакінула ў маці, сама апранулася па-паходнаму і...

Я думала, што аўтобусам выедзем за горад у прыгожае месца, ціхае, нікім не чапанае, балазе што Валіцкі гаварыў пра нейкую раку,— там, ля той ракі, я думала нават пазагараць, скупнуцца, адным словам, адпачыць так, як і большасць бярозаўцаў, якія

з панядзелка да пятніцы выконваюць і перавыконваюць свае планы і нормы...

Я так думала, а насапраўды аказалася ўсё іначай.

Мы пайшлі з самага дому пешшу. Як дурань з дзвярыма, цягнулася я з ім праз усё Бярозава — па тых знаёмых запыленых ці заасфальтаваных вуліцах, якія я і без яго цудоўна ведала, затым мы перайшлі цераз раку па мосце, потым зноў былі дамы і вуліцы і, нарэшце, ускраіна — з тымі вясковымі хатамі, перад якімі зелянелі агародчыкі і былі яшчэ ўкапаны гэтыя лаўкі... Гэта была не проста хадзьба — калі-нікалі Валіцкі спыняўся, падоўгу, як бы што ўспамінаючы, глядзеў на які дом ці куст, а затым пачынаў здымаць... Вось так мы і цягнуліся на пацеху бярозаўцам — пачалася вясковая дарога, паабапал якой расло жыта, пасля рэдзенькі сасоннік, за якім я нарэшце ўбачыла мелкую — курыцы перайсці — не то рачулку, не то ручаіну...

Было ўжо ля полудня, ад стомы ў мяне гудзелі ногі, ад спёкі пот ліўся з мяне градам, а там, у той доўгачаканай рачулцы, стаялі каровы...

Калі б ён здагадаўся, што тварылася ў маёй душы. Я праклінала гэты дзень, які невядома куды і навошта выкінула, гэту спёку, нарэшце, гэтых кароў, якія спакойна вымочвалі хвасты ў вадзе...

А ён?..

А ён, як знарок ці незнарок, нічога гэтага не заўважаў. Ён тут жа зноў заняўся здымкамі — ходзячы ўздоўж рачулкі, узіраючыся ў запыленую траву, што бялела ля дарогі, у далекаваты сасоннік, з якога мы толькі што выйшлі... І тады я падумала, што ён і сапраўды падобны на таго японца ці яшчэ каго там, які сядзіць у садзе гадзінамі і глядзіць на каменне...

Мне нават і не хочацца ўспамінаць пра вяртанне дамоў, пра другія шматлікія вечары, калі ён сядзеў на кухні са сваімі праявіцелямі, ад паху якіх я нідзе і ніяк не магла пазбавіцца...

Карацей кажучы, пасля таго дня я толькі лішні раз упэўнілася, што і ў ім ёсць штосьці такое, што ёсць і ў другіх мужчынах. Так сказаць, не абмінула гэта горкая чаша і мяне. У кожным мужчыну гэта праяўляецца па-свойму, у аднаго — у даміно ці ў картах, з-за якіх ён, бывае, гатовы не тое што жонку, а і сарочку апошнюю аддаць, у другога — у вы-

піўках і пустых размовах, пад час якіх чалавек і сам не ведае, што хоча сказаць, а ў трэцяга — барані божа — у палюбоўных паходжаннях. Паўтараю, нешта сядзіць у іх такое, што прымушае рабіць усе гэтыя глупствы...

А зразумеўшы гэта, я вымушана была прызнацца, што занятак майго мужа, ці, як цяпер прынята называць, хобі — не самы горшы, гэта амаль што — як рыбалка ці паляванне. Што ж, калі яму хочацца, хай займаецца, тым болей што я ўпэўнілася: нічым іншым ён цяпер займацца не будзе.

Вось так і пайшло, пакацілася — дзень за днём, не заўважаеш за работаю і клопатамі, калі і як мінаюць месяцы, не гаворачы ўжо пра дні і тыдні... Суботу і нядзелю я яго звычайна бачыла мала, а ў буднія дні, як самі разумееце, у нас была работа, у яго — свая, у мяне — таксама свая... Падрастаў Валерка — здавалася б, у нас была адна з тых ціхіх сем'яў, з якіх толькі добры прыклад бяры ды радуйся.

Здавалася б...

Пачалося ўсё з таго, што я пачала раўнаваць, калі можна так сказаць, Валіцкага да фотааматарства, мне пачало здавацца, што калі б ён кінуў сваю гульню, то ўсё было б нашмат лягчэй і прасцей. Хоць бы напалову так, як у многіх маіх знаёмых, мужы якіх, замест бяздумнага бадзяння за Бярозавам, суботу і нядзелю праводзяць з сям'ёю, памагаюць гатаваць стравы, мыць бялізну. Калі і не самі мыюць тую бялізну, то хоць адносяць яе ў пральню... Я нічым не горшая за Валіцкага. І ў мяне таксама ёсць, магло б быць сваё хобі, але я ўсё ж ведаю, што спачатку — парадак у кватэры, а потым ужо...

Тады, як усё гэта пачалося,— не трэба думаць, што пачалося ўсё аднойчы, адным чыстым ясным вечарам, не, безумоўна, не, усё гэта міма маёй волі збіралася ў душы днямі і месяцамі,— я ўсюды і заўсёды заўважала толькі адно: фатаграфіі, фатаграфіі, усё тое, што з імі звязана... Мяне проста-такі ванітавала ад кіславатага паху раствораў, здавалася, што палову сваёй зарплаты ён траціць на плёнкі, рэактывы... Вяртаючыся з работы, ён спяшаўся не да мяне, а да свайго фотаапарата...

Я магла такое вытрымаць год, пяць год, але ўсё жыццё?

Хацелася б мне знайсці жанчыну, якая б змагла ўсё гэта вытрымаць, адчуваючы, што чалавек, які жыве побач з табою, заняты не табой, не тваёй работаю і нават не нейкім часовым глупствам, а нечым больш сур'ёзным, і таму нічога не чуе і не бачыць, акрамя свайго занятку... Як я хацела, імкнулася вярнуць яго да нармальнага жыцця, але ён ішоў ад мяне, ад сям'і... Дакладней, ісці-то ён нікуды не ішоў, але нават калі мы былі побач, калі клаліся спаць у адзін ложак, я адчувала, што ён думае зусім не пра мяне,— а гэта такая абраза, якой, паверце, ніводная жанчына, якая паважае сябе, не вытрымае.

І ніколі не прабачыць.

Але пра што, пра што ён думаў? Чым ён быў заняты ўвесь час?

Я часта, калі яго не было дома, глядзела на тыя здымкі. Некаторыя я пазнавала — гэта былі здымкі мясцін, дзе я хадзіла калісьці: і тыя ж запыленыя бярозаўскія вуліцы, і ўскраіна, і жытнёвае поле, якое праразаецца белай дарогаю... І, паверце, нічога асаблівага ў іх я не бачыла: роўна, ціха і пуста... Ніводнага чалавека на тых здымках не было. Я перабірала здымкі і думала зусім не пра здымкі, не, а пра сябе — у душы маёй станавілася адзінока і холадна, так няёмка і няўтульна, быццам бы я ўпершыню пачынала адчуваць, што ўва мне ёсць дзве розныя жанчыны і адну з іх я зусім не ведала. Мне ўспаміналася маленства, тыя смешныя дзіцячыя глупствы, ад якіх я калісьці была шчасліваю і пра якія я нікому так і не расказвала. Я адчувала, калі глядзела на здымкі, што тая другая жанчына, якой я дагэтуль не ведала, усё смялей і смялей задае мне пытанні, ад якіх няёмка і няўтульна і адказу на якія я так і не ведала... Тады я рашуча адкідвала ўбок гэтыя здымкі і прымалася за работу. Бо тады, калі чалавек заняты работаю, яму сумаваць і задаваць сабе пытанні некалі. Гэта я праверыла на сабе.

А потым я пазнаёмілася з адным мужчынам, мы раз ці два ў тыдзень сустракаліся, і, паверце, нічога дзіўнага і брыдкага ў гэтых сустрэчах ні я, ні той мужчына не бачылі. У яго таксама, як і ў мяне, мелася сям'я, там, у той сям'і, таксама былі свае невы-

рашальныя праблемы, і калі мы сустракаліся, абое маглі адно аднаму спавядацца. Магчыма, у гэтых споведзях мы знаходзілі тое ж самае, што Валіцкі знаходзіў у сваіх здымках.

І нечага тут крывіць вусны ва ўсмешцы і, ківаючы галавою, успамінаць гучныя словы пра грэх, мараль ці распусту... Паўтараю, нічога падобнага ні я, ні той мужчына не адчувалі. І я, як і той мужчына, як і ўсе астатнія — усе мы дзеці свайго часу, які дыктуе нам пэўныя абставіны, умовы, ці — як хто называе — пэўныя межы свайго існавання.

Цяпер стала модна спісваць усе нашы грахі на эмансіпацыю, на тыя замежныя джынсы і папяроскі, ды нават і на тыя ж шматлікія разводы. Думаецца мне, што тыя, хто лямантуе пра эмансіпацыю, ніяк не могуць зразумець ці пагадзіцца з тым, што васемнаццаты век даўно скончыўся і цяпер у нас, жанчын, мысленне чалавека дваццатага стагоддзя. Тое, што нам дала навука, тэхніка, мы спакойна ўзялі і пачалі ім карыстацца. Магчыма — пра гэта я ўспаміная раней,— я карысталася няўмела, магчыма... Але як, падкажыце мне, як карыстацца?

Канечне, я магла развесціся з Валіцкім, зрабіць тое чарговае глупства, якіх і без мяне ўжо многія нарабілі. Я пры жаданні тут жа выйшла б замуж за таго чалавека, з якім сустракалася тайком. Але ці была б я шчаслівая? Ці не пачалося б і ў мяне з ім тое ж самае, з той толькі розніцаю, што цяпер бы я бегала спавядацца да іншых мужчын ці да таго ж Валіцкага?

І так — ва ўсім... У сямейных адносінах, у адносінах да работы, да самога жыцця як да чагосьці цэласнага, што трэба альбо прымаць, альбо не прымаць,— ва ўсім бачыш гэтае замкнутае кола няведання і сумнення. Часта думаю, што мы пакутуем ад таго, што ў нас маюцца вялікія правы выбару. І самае складанае ў тым, што ведаем — за выбарам зноў жа адразу пачнуцца абмежаванні нашай свабоды, і зноў жа, на новым вітку спіралі,— пакуты, мары аб свабодзе...

Што ж, відаць, пара заканчваць мой доўгі лірычны маналог — як мне думаецца, ён маецца ў кожнага з нас. Кожны з нас апраўдвае сваё жыццё па-свойму, нават і тыя, якія робяць злачынствы. Гэта

жорстка, але гэта так. І таму я закончу так званым бытам.

Калі хто прыходзіў у госці, адразу ж пачынаў мне зайздросціць: ах, у цябе такі цікавы муж, ён займаецца мастацтвам, ён робіць такія здымкі, якія дэманструюцца нават на выстаўках... І тады я ўсміхалася, спакойна гаварыла: «Ну, канечне, мне так пашанцавала, як нікому...» Потым, прагледзеўшы збольшага здымкі, мы ішлі на кухню піць каву. І болей пра тыя здымкі не ўспаміналі. Як і пра Валіцкага. Нам і без таго хапала тэм.

Бо, паверце, якімі б высокімі матэрыямі чалавек ні займаўся і ні цікавіўся, але, у рэшце рэшт, ён вымушаны будзе апусціцца на гэтую грэшную зямлю і са здзіўленнем заўважыць слодыч дробязных пустых заняткаў: перамыванняў костачак бліжняга, доўгага разглядвання сябе ў люстра, варажбою на кававай гушчы, якая павінна прадказаць далейшы лёс...

Увогуле, з гадамі я з Валіцкім як бы нанова пачала знаёміцца. І хаця мы цяпер абое ведалі, што між намі сцяна, якую ніводзін з нас не адолее, але, як мне думаецца, мы не маглі і разысціся. Паўтараю, хоць мы і не маглі стаць тым адзіным суцэльным дуэтам, якім мы спрабавалі быць на пачатку сямейнага жыцця, але і зусім разысціся таксама не маглі — тут нічога новага я і не думаю адкрываць, бо ўсё гэта напамінае тую банальную сітуацыю ў шматлікіх сем'ях, дзе кожны дзень ці тыдзень адбываюцца сваркі альбо бойкі, якія працягваюцца гадамі і якія сведчаць толькі пра адзінае — сем'і гэтыя так і не распадуцца. Ніколі.

## 2

Каб зразумець, чаму я не хацеў ды і, відаць, не мог пазбавіцца ад Валіцкага, паводзінамі якога на рабоце многія былі незадаволены і здзіўлены, мне давядзецца зрабіць невялічкае адступленне і пачаць з сябе. Не ў мэтах самарэкламы, не — яна мне калі і патрэбна, то — як спецыялісту. Разумееце, я пра што? У кожнага свая шкала каштоўнасцей. Фізіку зусім нецікава, што думаюць пра ягоную работу лірыкі, а тыя ў сваю чаргу гатовы поўзаць на каленях перад крытыкамі... Але не будзем ва ўсё гэта зала-

зіць, бо іначай нашы разважанні завядуць у такі бу-
ралом, з якога не выберашся.

Яшчэ ў маленстве я займаўся тым жа, чым і многія хлапчукі: калі бачыў перад сабою якую-небудзь цацку, мне так і карцела разламаць яе... З нейкай асалодаю я адкручваў ці адломваў колцы ад машын, разбіраў ці разбіваў усё гэта гладка бліскучае, што рухалася ці шавялілася.

У старэйшых класах, калі самастойна разбіраў і рамантаваў радыёпрыёмнікі — тэлевізары ў тыя гады былі вялікай рэдкасцю,— я нечакана для сябе калі-нікалі пачаў задумвацца: а навошта ўсё гэта? Я не пра тую песню ці канцэрт, які можна было пачуць з радыёпрыёмніка, не, я зусім пра іншае. Відаць, такі ўжо наш лёс — задумвацца над сэнсам свайго занятку, адным — у юнацтве, калі здаецца, што шчасце — побач, і чым бліжэй да яго, тым хутчэй ад яго ўцякаеш, другім — у сталасці, калі чалавек нечакана ні з таго ні з сяго можа кінуць любімы занятак і пачаць вытвараць, наўздзіў людзям, чортведама што, а трэцім — на тым апошнім парозе, пра які так жорстка і моцна гаварыў Талстой у «Смерці Івана Ільіча».

Не буду хлусіць, сцвярджаючы, што занадта пакутаваў, вырашаючы так званыя вечныя праклятыя пытанні. Як цяпер думаецца, гэтымі пытаннямі цікавяцца зусім іншыя людзі.

Той жа Валіцкі. Я маю на ўвазе тых, хто ў маленстве замест таго, каб разламаць ці раскруціць якую цацку і ўпэўніцца, што ўнутры яе нічога, акрамя жалезак і болцікаў, няма, будзе гадзінамі моўчкі зачаравана глядзець на яе, разглядаць, уяўляючы, што там, унутры цацкі, маецца нешта Такое... Дык вось, да гэтага загадкавага Такога яны ніколі не асмеляцца наблізіцца. З гэтых дзетак і выходзяць — ну, калі быць дакладным, вырастаюць такія, як Валіцкі. І тады ўжо ў іх вачах заўсёды можна ўбачыць водбліскі далёкага загадкавага Такога, да якога яны ўвесь час імкнуцца, седзячы на адным месцы і не думаючы паварушыць нават пальцам.

Як сябе помню, у мяне заўсёды жыло, мелася жаданне штосьці зрабіць, каб уведаць Такое. Калі для Валіцкага галоўным заняткам было назіранне ці разважанне над чымсьці, над тым жа загадкавым Та-

кім, то я адразу ж бясстрашна кідаўся ў гэты механізм ці сістэму — ва ўсё тое, што мела нейкую завершанасць ці закончанасць.

Мо таму пытанні і разважанні пра сэнс ці бяссэнсіцу жыцця, усе так званыя вечныя праклятыя пытанні былі для мяне не галоўным у жыцці. Магчыма, гэта некаму падасца дзіўным, магчыма, але ўжо тады, са школьных год, уведаўшы нейкія палажэнні ці аксіёмы, я думаў не столькі аб іх, колькі аб тым, як бы знайсці ім прымяненне. Гэтым я быў заняты.

Я быў заняты нечым рэальным, тым магчымым, што можна пабачыць, памацаць, адчуць. Рэальнасць — была той платформаю ці сістэмаю, якая абумоўлівала ў маім жыцці ўсё астатняе. І таму нават пытанні смерці ці бяссмерця я ўспрымаў як нешта непазбежнае, што трэба прыняць ці не прыняць. Разумееце — тут тая сітуацыя, калі трэба гаварыць альбо за, альбо — супраць. Сярэдзіны тут няма і не можа быць.

Увогуле, як я думаю, трагедыя многіх і многіх якраз і зводзіцца да таго, што яны амаль увесь час, усё сваё свядомае жыццё вагаюцца ці матляюцца — як каму падабаецца — паміж гэтымі «за» і «супраць». У жыцці, калі яго разглядаць цвяроза, яшчэ ў маладосці кожнаму трэба вырашыць для сябе нейкія праблемы ці пытанні, і тады чалавек са здзіўленнем заўважыць, што яму лёгка жыць.

Маю на ўвазе не толькі пытанні смерці і бяссмерця...

Што датычыць мяне, то я неяк хутка зміры ўся, што з маёй смерцю заканчваецца і маё існаванне. Я не настолькі дурань, каб паверыць у гэты рэлігійны дурман ці, як цяпер модна разважаць у так званых тэатральна-кіношных колах, у тое вечнае біяполе, часткаю, носьбітам якога мы як бы з'яўляемся... Не, не і яшчэ раз не. Яшчэ ў маладосці я ўпэўніўся, што ўсё гэта — толькі апраўданне нашай слабасці і свайго жаху перад няведаннем Чагосьці.

Пасля таго як я вырашыў для сябе некаторыя прынцыповыя пытанні — я не настолькі наіўны, каб сцвярджаць, што яшчэ ў маладосці я ўсе пытанні вырашыў,— мне стала лягчэй жыць, я не мітусіўся

ў жыцці, як многія мае аднагодкі, якія аберуч хапаліся то за фізіку, то за лірыку, то за горад, то за вёску. І тое, што збіраўся рабіць далей,— было для мяне працягам занятку, які пачынаўся ў маленстве.

Так я, закончыўшы тэхнічны інстытут, стаў канструктарам. Я пачаў ствараць штосьці рэальнае.

Калі ў маім падначаленні было цэлае канструктарскае бюро, калі я зразумеў, што ўсе мы ў жыцці хоць што ды павінны рабіць, тады я пачаў задумвацца пра іншае.

Пра што? Як галоўны канструктар я павінен даваць людзям работу. І справа тут не ў заводскай прадукцыі, я пра большае... Я павінен даваць людзям Работу. Якую? Што і як яны павінны рабіць?

І зноў жа — адступленне.

Памятаеце, я гаварыў пра цацкі і машынкі, якія ў маленстве я ламаў і крышыў. Дык вось, толькі цяпер, стаўшы галоўным канструктарам, я пачаў здагадвацца, што, вывучаючы, разбіраючы штосьці, мы часта бурым форму ці змест цэлага. Гэта жорсткая гульня маленства працягваецца і ў дарослым жыцці. Як і ў маленстве, разбіраючы, крышачы якую цацку, я ўжо ніколі не мог яе скласці, гэтаксама і ў дарослым жыцці, калі пачынаў штосьці сур'ёзна вывучаць, трапляў амаль у такое ж становішча.

Дарэчы, не толькі я, канструктар, трапляю ў такія складаныя сітуацыі, але і многія прадстаўнікі дакладных навук. Тыя ж фізікі — зараз яны наблізіліся да такога ўзроўню эксперыментальных даследаванняў, што само даследаванне часта ўплывае на вынікі эксперымента. Ды і не толькі фізікі. А чым горшыя ці лепшыя медыкі? Усё, што мы робім у імя так званага прагрэсу, як мне думаецца, акрамя станоўчага, мае свой адмоўны вынік.

Так, мы можам даведацца, як рухаецца электрон, як перадаюцца нервовыя імпульсы ў кары галаўнога мозгу — мы можам пра гэта даведацца, але ці не згубім пры гэтым галоўнае: а што ёсць чалавек? І яшчэ — ці не разбураем мы штосьці назусім гэтымі пошукамі, эксперыментамі?..

Як галоўны канструктар я павінен быў вырашыць найперш для сябе гэтае пытанне: а навошта?.. Я занадта часта пачаў паўтараць тыя вядомыя словы наконт ісціны... Я і сам не чакаў, але я прыйшоў

да гэтых вечных праклятых пытанняў, толькі цяпер як бы з другога боку. І між тым, хоць я і не мог даць адказу, я пэўна ведаў, што мы павінны штосьці рабіць, мы не можам і не павінны сядзець гадамі склаўшы рукі.

Вось, нарэшце, калі я магу сказаць пра тое галоўнае, што адрознівала мяне ад таго ж Валіцкага. Так, я згодны, што я не ўсё ведаю, што, ствараючы штосьці, я, магчыма, нешта навечна, назусім разбураю — што потым ніяк і нічым не складзеш і не злепіш, але гэтак жа пэўна я ведаю, што іншага выйсця ў нас няма. Як галоўны канструктар я павінен даваць людзям работу, людзі павінны штосьці рабіць, і толькі з дапамогаю работы мы здолеем штосьці высветліць. Як мне здаецца, Валіцкі гэтага не адчуваў, ён не разумеў гэтай неабходнасці, у яго, калі можна так сказаць, не было пачуцця адказнасці.

Ён быў адзін. Ён не разумеў, што ўсе мы павінны на штосьці спадзявацца, за нешта трымацца. Нельга, не можа такога быць, каб чалавеку не было на што спадзявацца, не можа ён усё сваё свядомае жыццё глядзець у гэтую палохаючую бездань, і таму работа — гэта і ёсць надзея...

І ўсё ж, якім бы Валіцкі ні быў, але, як ужо ўпаміналася, я не мог без яго абысціся. Гэта дзіўна, але гэта так. Ён мог тыднямі сядзець за кульманам і нічога не рабіць, бывала, ён спазняўся, а то і не выходзіў на работу, пра ягоную грамадскую актыўнасць, я думаю, і ўспамінаць не варта, і ўсё ж — я не мог звольніць яго...

У нашай рабоце ёсць агульнавядомы прынцып: каб прыдумаць прынцыпова новую канструкцыю ці дэталь, трэба ўявіць немагчымае. Ну, напрыклад, уявіць сабе даўжыню ці шырыню новай канструкцыі бясконцай. І гэтак — перабраць усе магчымыя параметры. Часта пры абмеркаванні новых праектаў мы ўсім бюро пачыналі дыскуціраваць — кожнаму давалася права гаварыць, даказваць самае неверагоднае. Вось дзеля гэтых дзвюх-трох гадзін фантастычных разважанняў Валіцкага я вымушаны быў трымаць яго ў аддзеле.

Калі Валіцкі пачынаў гаварыць, мы думалі, што ён гаворыць штосьці такое, што да нашага новага праекта, да нашай работы не мае ніякага дачынен-

ня. Думаецца, што ён і сам пад час тых разважанняў не думаў ні пра праект, ні пра тую ж работу. Што ён хацеў сказаць?

Потым ужо, праз дзень ці тыдзень, хтосьці з канструктараў — так чамусьці абавязкова атрымлівала-ся,— успамінаючы маналогі Валіцкага, нечакана для сябе выхопліваў з іх нейкую ідэю, і яна, як ні дзіўна, станавілася правобразам новага праекта. Валіцкі быў у нас, як прынята гаварыць, генератарам ідэй, хоць, магчыма — і гэта самае дзіўнае,— самому не зразумелых. Пасля ён мог махаць рукамі, даказваючы, што хацеў сказаць нешта зусім іншае, што мы не так яго зразумелі, але я, як і ўсе астатнія, пэўна ведаў, што на сённяшні дзень і пры нашых магчымасцях — гэта тое, гэта самае лепшае...

Вось коратка і ўсё, што магу сказаць пра Валіцкага. Ведаю, што ён займаўся яшчэ фотаздымкамі — гэта да маёй работы ніякага дачынення не мае, і таму тут я нічога не магу сказаць. У яго была сям'я — звычайная мірная сям'я, як у многіх з нас. І ўсё ж часам, калі думаю пра яго, мне стае яго шкада, думаецца, што ён быў адзінокі, як ніхто з нас.

Усе мы нечым акружаны: клопатамі, сем'ямі, абавязкамі, адказнасцю перад людзьмі, той жа работаю — і ўсё гэта нас трымае, дае нам сілу і надзею на штосьці... На што? Магчыма, нават — і над гэтым я апошнія гады ўсё болей і болей задумваюся — на спробу як мага болей утрымацца на краі бяздоннага абрыву. У Валіцкага ўсё гэта не тое што адсутнічала, але, як бы лепш сказаць, было аслаблена чымсьці. Ён увесь час быў староннім назіральнікам. Калі папросіш, Валіцкі дапаможа, а не — не падыдзе...

І такім людзям не варта зайздросціць. Той, хто хоць аднойчы паспрабаваў вырвацца з нашага ўтульнага кола абавязкаў, хто хоць аднойчы не на словах, а на самой справе спрабаваў вырвацца і прыўзняцца над усім нашым звыклым штодзённым жыццём, якое часта называюць мяшчанскім і з якога маем звычку залішне часта і пагардліва пасміхацца, той ніколі не забудзе незямнога холаду адзіноты, які тут жа скоўвае душу і прымушае вярнуцца назад, да ўсяго таго, з чаго толькі што пасміхаўся... І гэты

прыклад як абагульненне, як яшчэ адзін доказ таго, што я, мачыма, блытана імкнуўся даказаць у споведзі.

## 3

Тады я рабіў на заводзе — акрамя суботы і нядзелі, з васьмі да пяці круціўся ў памяшканні ля прыбораў, у якіх, як гэта заўсёды вядзецца, хоць што ды не ладзілася. Сярод дня, бывала, я кідаў работу, падыходзіў да акна і падоўгу глядзеў на заводскі двор: на тую высокую дашчаную клетку кацельнай, дзе вечна шумела і пенілася вада, на чырвоную цагляную сцяну заводскага клуба, што выторквалася з-за вугла энергацэха і на якой бачыўся ўсяго толькі пачатак лозунга: «Выканаем пяцігодку...» Я глядзеў на цёмныя акуратныя асфальтаваныя дарожкі, што віліся між заводскіх карпусоў,— па гэтых дарожках хоць хто ды некуды крочыў... Штодня я бачыў гэты нязменны малюнак, але кожны раз з нейкім здзіўленнем я глядзеў на ўсё гэта, як бы шукаючы і не знаходзячы сэнсу ўбачанага, зусім не звязанага з заводскай прадукцыяй, планам і, дарэчы, той штодзённай работаю, якой займаўся... Тады штосьці нядобрае паяўлялася ўва мне і думалася, што ўсё гэта — толькі таму, што я стаміўся і не ладзіцца работа.

А потым я зноў ішоў да прыбораў — да самага вечара. І хоць адчуваў, што ўся мая работа ля прыбораў — штосьці часовае, зусім не галоўнае ў маім жыцці, а галоўнае, можа, нават і ў асэнсаванні таго малюнка, які бачыў з акна сярод дня, але цяпер ужо з нейкай апантанасцю і злосцю круціўся я ля прыбораў, памятаючы, што ад вынікаў маёй работы ў пэўнай меры залежыць вынік работы другіх людзей, якіх можна пабачыць на тых жа асфальтаваных дарожках, у заводскіх карпусах ля вялікіх гулкіх машын і станкоў. І ўсё. На тыя гадзіны больш важнейшага занятку для мяне і не было, хоць ведаў, адчуваў, што ва ўсім гэтым, што аб'ядноўваецца словам «работа», ёсць нешта замкнутае, сплеценае, у чым мне трэба разабрацца. Але ўсё гэта — потым, потым...

Упершыню ўбачыў Валіцкага, калі ён прыйшоў да мяне з просьбаю дапамагчы падабраць сістэму

светафільтраў з пэўнымі характарыстыкамі. Слова за слова — пачалася тая асцярожная гаворка, калі абодва прытрымліваюцца прынцыпу: скажы, чым цікавішся, і я, падумаўшы, скажу...

Аказалася, што ён займаецца фатаграфіяй. У вольны час, канечне. А так ён — інжынер-канструктар. І вось для аматарскіх здымкаў яму і спатрэбіліся светафільтры — потым, дарэчы, высветлілася, што яны і не патрэбны ў гэтай справе. Памалу ад размовы пра светафільтры мы перайшлі да размовы пра фотаздымкі, пра ўсё тое, што ён здымае.

Я, гледзячы на ягоную высакаватую, але трохі ссутуленую постаць, на мяккія рысы паўнаватага твару, ужо неяк і прывык да ўсмешкі Валіцкага, якая рэзка маладзіла яго, гэтак жа я прывык і да рэзкаватых, як у падлетка, узмахаў рук пад час гаворкі і таму баяўся, што ён акажацца адным з тых шматлікіх фотааматараў, якія з выгадаю для сябе здымаюць усё падрад, карыстаючыся вялізным дэфіцытам на вечнасць, якая, як мы за яе ні хапаемся, так і ўцякае з-пад самых пальцаў, і таму, як ні круціся, як ні вярціся, а толькі і застаецца застываць перад вочкам фотаапарата. І вось — рэальнае ўвасабленне вечнасці, таго шчаслівага імгнення, якое навечна спынілася: школьны клас са строгай настаўніцай пасярэдзіне, студэнцкая група, задуменная постаць ля не менш задуменнага помніка, вясельная пара — Ён у чорным строгім касцюме, Яна — ва ўсім белым з фатою на распушчаных валасах, аголены першынец, што ляжыць на ложку і глядзіць у вочы, і — дарэчы, усе астатнія імгненні нашай бурнаплыннай рэчаіснасці.

Валіцкі здымаў у асноўным пейзажы.

Цяпер ужо можна было перавесці дух і пачаць гамонку па новаму вітку.

Калісьці я ў маладых гадах таксама спрабаваў заняцца фатаграфіяй, як і многім другім, ад чаго потым гэтак жа чэсна адкаснуўся. Відаць, гэтае жаданне ўзнікла ўва мне ад больш ранніх уражанняў, якія атрымаў некалі ў маленстве. Гэты доўгі ланцуг асацыяцый пачынаецца з той даўняй пары, калі ў нашай пасляваеннай вёсцы мелася свая электрастанцыя, якая стаяла на беразе ракі, дзе была плаціна. І плаціна, і электрастанцыя, і двухпавярховы буды-

нак млына, што быў побач з электрастанцыяй,— усё гэта было за балотам ля ракі, за якой адразу ж пачынаўся бор.

Электрычнасць у нас хоць і мелася, але лямпачкі гарэлі ўсяго толькі да дзесяці ці адзінаццаці гадзін вечара. А калі — дык і зусім не гарэлі, тады даводзілася даставаць пахаваныя лямпы, ад якіх людзі надзіва хутка адвыклі і якія пасля зыркіх лямпачак здаваліся нечым такім ужо аджылым і старым, што аж здзіўленне брала — як гэта дагэтуль маглі абыходзіцца без лямпачак...

У той час мой старэйшы брат, даваеннік, вучыўся ў горадзе, дзе і прыдбаў сабе фотаапарат, з дапамогаю якога налаўчыўся рабіць здымкі, ці, як у нас тады гаварылі, картачкі.

«...Хочаш картачку на памяць табе, мілы, падару»,— так ці прыкладна так спявалі ў маёй вёсцы дзяўчаты познім вечарам, калі разыходзіліся з танцаў.

Добра помніцца той позні летні надвячорак, калі я шлэпаў з сяла следам за братам і, пакручваючы галавою, як упершыню, глядзеў на нізкае вячэрняе неба, дзе не было ніякіх хмар, і між тым адчувалася, што неба — вельмі і вельмі нізкае, асабліва вунь там, над блізкім лесам, што цёмнай сцяною стаяў за плацінаю і ў якім, як тады здавалася, начамі адбываецца нешта такое загадкавае, што і ў самай страшнай казцы не можа быць. Гэтак жа ўрыўкамі, але ярка і выпукла помніцца той шум вады за дашчанай перагародкаю, гудзенне вадзяной турбіны глыбока ўнізе, пад памостам, хуткае вярчэнне белых драўляных зубчатых шасцярон і яшчэ — такія ж таямнічыя і салодкія імгненні, калі ў час праяўлення на белай цвёрдай паперы паказваліся твары ці постаці зусім не вядомых людзей, спачатку няясныя, невыразныя, а потым усё яснейшыя... Усё гэта, рознае і, здавалася б, між сабою не звязанае, спляталася ў тую ноч у нешта суцэльна салодкае: і шчыльная, як цёмная посцілка, начная цемень за сцяною электрастанцыі — яе, гэту цемень, я тады адчуваў усёй сваёй істотаю, як штосьці рэальнае, што можна памацаць,— і бор з плацінаю, і буйныя зоры ўверсе, і гул турбіны, і картачкі, як і дагэтуль ні разу не чутыя словы «кювета», «растварыцель», «праявіцель»,—

ва ўсім гэтым, што чуў, што мяне акружала, я адчуваў штосьці такое, што потым ужо рэдка калі адчуваў.

Калі ж я, і сам ад сябе такога не чакаючы, успомніў пра ўсё гэта і блытана пастараўся пераказаць Валіцкаму, ён радасна заўсміхаўся, замахаў рукою: «Ды так, так, у пагоні за выгадаю, за ўсім, што людзі называюць здаровым сэнсам, мы губляем тое, без чаго не зможам абысціся і што потым нам адгукнецца, ой як адгукнецца...» І тады я, гледзячы на яго пасвятлелы твар, зразумеў, чаму ўспомніў пра маленства і расказаў яму, а не другому чалавеку: у свае сорак з гакам Валіцкі так і застаўся падлеткам. Ужо тады я пачаў здагадвацца, што бываюць людзі, якія з узростам у душы так і не мяняюцца. І невядома, добра гэта ці дрэнна. Для іх, гэтых людзей, ва ўсякім разе. Дык вось, калі гаварыць пра Валіцкага, то ён так і застаўся шаснаццацігадовым падлеткам.

Так мы прагаварылі даволі доўга — пра ўсё тое, што я тады так апантана шукаў на мяжы навукі і містыкі і што потым, зусім для сябе нечакана, даволі часта знаходзіў у лёгкіх радках якога паэта з даволі заблытаным лёсам:

А была, толькі хмарка была,
Толькі хмарка на ранішняй сіні,
Калі ішоў я ўскраем сяла,
Калі кані застацца прасілі...

Валіцкі пайшоў у сваё канструктарскае бюро, а ў душы маёй паявілася няўтульнасць і нейкая нават няёмкасць, я нечакана адчуў сябе змораным — так бывае пасля вялікай шчырай гаворкі, калі выкажаш штосьці надта ўжо дарагое, у чым гадамі нікому не прызнаешся і ў чым, свядома ці несвядома, хочацца некаму прызнацца.

Як тлумачыла мне адна знаёмая, гэта бывае таму, што калі поўнасцю пра сябе раскажаш, то ад цябе як ад асобы, як ад індывіда, ад твайго нікім нябачнага «я» нічога не застаецца, і таму, каб адчуць, што ты ёсць па свеце, ты тут жа зноў і зноў пастараешся штосьці хаваць — добрае ці дрэннае, няважна — ад другіх людзей, ад чаго, магчыма, зноў жа пачнеш пакутаваць. «Карацей кажучы,— усміхалася знаёмая і спакойна глядзела мне ў вочы,— ці

так, ці гэтак, не кіем, дык палкаю, а пакутаваць мы ўсё роўна павінны. На гэтым наша жыццё замешана. Так што Дастаеўскі праўду гаварыў...» І тады я, злавіўшы позірк яе трохі стомленых вачэй, зразумеў, што ўжо ніколі не ўбачу ў іх таго вясёла-шалага бляску, які робіць немагчымае магчымым. І яшчэ я тады падумаў — не пра яе і сябе, а пра ўсіх нас: «Божухна-божухна, якімі ж мы сталі граматнымі!..»

Але вернемся да Валіцкага.

Праз некалькі дзён Валіцкі зноў зайшоў да мяне. На гэты раз ён прынёс фотаздымкі, якія я прасіў паказаць.

Здымкі былі розныя. У большасці чорна-белыя, але трапляліся і каляровыя. І сапраўды, у асноўным то былі пейзажы: лясная прасека, што блішчыць і туманіцца пасля дажджу, бераг рачулкі, жытнёвае поле, над якім дымяцца воблакі, напамінаючы нечым малюнкі абстракцыяністаў.

Перабіраючы па адным здымкі, я нечакана адчуў, што галоўнае ў іх тое ж самае, што хацеў сам сказаць мінулы раз, калі гаварыў пра сваю першую ноч удалечыні ад дому.

Там, напрыклад, быў такі здымак: на паляне, акружанай змрочным хваёвым лесам, стаяла адзінокая будыніна — не то закінутая хата, не то пуня. Бачна была не ўся будыніна, а толькі яе палова: сцяна і страха... І паляна, і той жа цёмны лес, і страха будыніны — усё было засыпана роўным снегам. Быў ужо надвячорак, на снезе выразна цямнеў зубчаты цень ад дрэў, цямнелі адзінокія глыбокія сляды чалавека — з лесу да будыніны нехта прайшоў у ботах... Відаць, той чалавек быў яшчэ там, у будыніне, бо другіх слядоў не было. Вось і ўсё. Здаецца, болей нічога такога памятнага на тым здымку і не было.

Калі я ўглядаўся ў той здымак, успомніліся другія амаль такія ж стылыя марозныя вечары, калі я аднекуль вяртаўся дадому. Не пазней, калі на дзеньдругі прыязджаў з горада і, хутка перабіраючы нагамі, падбегаў спяшаўся ад супынку аўтобуса, памахваючы ў адной руцэ партфельчыкам, а другою рукою прыкрываючы вуха ад сівернага ветру, не, усё гэта было яшчэ тады, калі жыў у вёсцы і часта з асалодаю марыў пра горад, пра ўсё тое далёкае і

чужое, што нам заўсёды здаецца смачнейшым і цікавейшым.

Дык вось, калі я жыў у вёсцы і пасля цяжкай і доўгай работы, скалелы, адубелы за дзень на холадзе, у блізкім прадчуванні мяккага цяпла хаты, падыходзіў да свайго двара, я нечакана востра адчуваў асаблівую слодыч гэтага сухога, выстаялага на марозе паветра, гэтага звонкага рэзкага хрусту пад валёнкамі; я глядзеў на гэты бясконца сіні снег, што роўна, нечапана высцілаўся аж да самай вузкай, у палец, палоскі лесу на небасхіле, я глядзеў на сваю і чужыя хаты, у якіх ужо чырвана свяціліся вокны і з комінаў якіх густа і роўна валіў слупамі дым, і з вачэй маіх выціскаліся слёзы. І здавалася мне тады, што толькі так, ды яшчэ намнога лепей, будзе мне там, далёка-далёка ад гэтага дому, ад гэтага сіняга нечапанага снегу...

— Добра там, дзе нас няма шака,— яшчэ і так гаварылі калісьці ў маёй вёсцы...

Я глядзеў на здымак Валіцкага, і на імгненне гэтае даўно перажытае і амаль што забытае пачуццё паявілася ўва мне і тут жа знікла... Як напамін.

Я аддаў здымкі Валіцкаму.

Пасля ён часта прыходзіў да мяне, мы шмат гаварылі, калі-нікалі ён прыносіў здымкі, і я падоўгу глядзеў на іх.

Мне і цяпер помніцца той дом на беразе ракі, невялічкі дагледжаны агарод, палоска вады і вузкая сцежка, што бялела ад вады да дома,— усё на здымку дыхнула на мяне такім спакоем і шчасцем, што я, помніцца, тут жа не стрымаўся і спытаў у Валіцкага, дзе ён знайшоў гэту ідылію. «Ды ля моста, дзе пляж гарадскі»,— адказаў ён з усмешкаю.

І тут я ўспомніў гэты дом. Часта я, праходзячы па мосце, мінаў гэты дом, трохі прыхаваны вербамі. Дом быў як дом — чаму я не заўважыў у ім такое, што заўважыў Валіцкі? Побач з домам слалася магістраль, недалёка днём і ноччу дыміў заводскі комін — побач быў вялікі горад з ягонай мітуснёю і гулам, а мне падумалася...

Ах, наіўны чалавек, яму, бачыце, падумалася.

...Ручча сасніў я джарала,
Высока сонейка стаяла,

І сонкі быстрае крыло
У зыркіх промнях трапятала.

Так ужо атрымалася, што ў хуткім часе я паехаў з таго невялічкага раённага гарадка. Калі я прыязджаў туды, стараўся сустрэцца з Валіцкім. Неяк, сустрэўшыся, я ледзьве яго пазнаў — Валіцкі пахудзеў, куды дзелася паўната, адгадаваў бараду і стаў падобны на аднаго з тых шматлікіх хлопцаў, якія ў кажушках і ў насунутых на самыя вочы вязаных шапачках матляліся ў той год па цэнтральным сталічным праспекце. У час гаворкі высветлілася, што Валіцкі самастойна прайшоў курс галадоўкі і гэта дапамагло яму скінуць лішнюю вагу.

А потым, як часта бывае ў сяброў, якія далёка раз'язджаюцца і пачынаюць займацца рознымі справамі, мы разышліся назусім. Бо лісты, перапіска — ужо не тое. Калі-нікалі бярэ нават здзіўленне, як мог быць такі час, калі людзі гадамі давяралі адно аднаму думкі, зусім не сустракаючыся. Відаць, то і сапраўды быў іншы час, іншыя людзі, іншыя вымярэнні паняццяў дабра і зла, адным словам — усё тое, што называюць іншай эпохаю. І тут — нічога не паробіш...

Цяпер я і не помню выразу твару Валіцкага — усё, што звязана з яго асобаю, неяк размылася ў памяці, але затое як часта перад вачыма паўстаюць тыя здымкі. І той затуманены росны луг з цяжкімі, зляжалымі за ноч копамі сена, і тая рачулка, вада якой блішчыць тысячамі люстэркаў, і тое ж неба з воблакамі, якія я некалі ў маленстве гадзінамі мог разглядаць... І, галоўнае, мне ніяк не забываецца той зялёны дом над ракою. І хто знае, хто растлумачыць, чаму так ясна і выразна ўсё гэта помніцца?

І тады, калі ўва мне ўсё гэта паўстае занадта ярка, я выбіраюся з горада і еду да лесу ці да той жа рачулкі. І вось там, на адзіноце, узіраючыся ўдалеч, я, здаецца, пачынаў разумець Валіцкага. Падоўгу блукаю я па пустых палявых дарогах, па невялічкіх лясных астраўках, акружаных роўнымі дагледжанымі палямі, ля берагоў невядомых рачулак, і тады, адчуваючы шырокі палявы вецер, ува мне паяўляецца туга па чымсьці.

Па чым? Што трэба мне?

# *Валянціна з Бярозава*

Колькі ж ёй тады было?

Можа, гады чатыры, а мо — і ўсе пяць. Ішла яна па пыльнай палявой дарозе сярод высокага-высокага жыта, у якім зрэдку сінеліся яркія кветкі — то былі васількі. Раз-пораз яна пазірала на гэтае жыта, хацелася пайсці туды, дзе густа стаялі высокія, як лес, жаўтаватыя ўжо сцяблiны з вялікімі вусатымі каласамі, але было страшнавата — магла зблудзіць і ніколі не выбрацца. Яе босыя ногі патаналі ў шараватым, мяккім, як пух, пяску — гэтак добра было знарок хлопаць нагамі па нагрэтым пяску, які тут жа дыміўся... Зверху, з чыстага блакітнага неба, грэла бялюткае сонца. І кветкі ў жыце, і зялёна-шэрая пахкая прыдарожная трава, і нагрэты пясок, і тое высокае блакітнае неба, дзе плавілася бязважкае сонца,— усё яна бачыла і адчувала, як праз павелічальнае шкло, і хоць усё ўбачанае і адчутае было вялікім, бясконцым нават, без пачатку і канца, але яно было адзіным, суцэльным, усім целам яна адчувала суладдзе з гэтым жытам, пяском, сонцам, ёй было так добра, як потым ужо ніколі не было, нават страх зблудзіць у жыце быў такім жа неабходным, як і гарачыня пяску, як і пах прыдарожных кветак. Ужо і не помніцца, адкуль, куды яна ішла, але добра помніцца, што тады яна была шчаслівай. Якой яна тады была шчаслівай!

Потым была другая дарога — а мо гэта была тая ж самая дарога, толькі ўспамін яе быў другі, пазнейшы, і нічога агульнага не меў з тым першым

успамінам. Цяпер яна ішла следам за бацькам і маці. Яны ўсё нешта гучна адно аднаму гаварылі, і хоць яна не чула іх слоў, але па тону гаворкі адчувала, што гаворыцца штосьці злое і непрыемнае. І ад гэтага ёй было балюча, як заўсёды, калі бацькі пачыналі сварыцца. Таму яна і не хацела ісці з імі побач, а цягнулася ззаду. Затым яна ўбачыла, што бацька пайшоў далей, а маці засталася стаяць на дарозе, чакаючы яе. Калі ж яна падышла, то маці нахілілася да яе і хутка-хутка зашаптала:

— Ідзі, ідзі дагані яго. Прасі, каб не пакідаў цябе. А то кіне і ніколі не прыйдзе, ніколі не вернецца. Толькі ты заплач, калі пачнеш гаварыць пра гэта. Не забудзь, заплач тады...

Яе спачатку здзівіла — як гэта бацька, яе бацька, можа некуды пайсці і ніколі не вярнуцца? Адчуваючы на спіне матчыны пальцы, якія штурхалі наперад, яна скранулася з месца. Спачатку ішла, а потым пабегла па той доўгай пыльнай дарозе.

Дагнала бацьку, ухапіла за руку і спытала:

— Ты мяне кідаць будзеш? Я табе не трэба?

Тады бацька спыніўся. Ён, відаць, хацеў нешта сказаць, адкрыў нават рот, ды так і застыў з адкрытым ротам. І вочы ягоныя застылі, сталі нейкімі круглымі і пустымі. Як зашклёнымі.

І ад гэтай бацькавай разгубленасці ёй стала непрыемна — такім яго яшчэ ні разу не бачыла. Успомніўшы матчын наказ, яна заплакала, спачатку проста так, дзеля прыліку, а потым, пачуўшы свой плач, па-сапраўднаму, ад жалю да сябе — падалося, што бацька і сапраўды вось-вось пойдзе назусім і яна застанецца адна. Як у тым высокім жыце, з якога ніколі адной не выбрацца.

Плакала яна доўга і гучна, знаходзячы нават асалоду ў гэтых слязах, якія ўсё цяклі і цяклі з вачэй, затапляючы ўсё на свеце: і доўгую белую дарогу, і бацьку, і маці. І тады, калі яна плакала, ужо не адчувала гэтай шчыліны ці трэшчыны — назавіце, як хочаце,— у суладдзі між сабою і светам. І таму яна ніяк не магла супакоіцца.

Відаць, у тыя гады было ў яе жыцці яшчэ нешта, але ўсё яно забылася, і толькі гэтыя два ўспаміны, як астраўкі ў моры, бачыліся з далечыні год.

Потым, пазней, былі другія ўспаміны: і вясёлыя, і сумныя, і горкія,— але, якія б яны ні былі, усе неяк накладваліся на тыя першыя ўспаміны, такія яркія.

Так і стаіць перад вачыма хуткая, вёрткая малая, якая ў перапынках між урокамі з крыкам носіцца па школьным двары, адчайна ўступаючы ў бойкі з задзірамі-хлапчукамі. Яна акуратна ходзіць у школьную самадзейнасць — вось ён, школьны хор, і яна ў цэнтры, сярод мноства галоў,— наколькі яна бывае нечакана, без усякай прычыны, ціхаю, настолькі ж рэзкаю, тут весела, закідваючы ўгору галаву, смяецца, а тут з-за дробязі плача — соладка і востра адчувала яна далучэнне да гэтага свету, да ўсяго таго знешняга, што пакуль неасэнсавана, несвядома нават, абуджала ў ёй свой свет, які быў і звязаны, і не звязаны з тым, знешнім.

Пра гэта Валя пакуль да пары да часу не ведала, яна і не задумвалася нават пра гэта, пакуль ёй было дастаткова вострых пачуццяў радасці і болю — усяго, з чым штодня сутыкалася, пачынаючы з таго доўгага салодкага пацягвання ў ложку, якое ніяк не заканчвалася, да апошняга імгнення, калі самі сабою заплюшчваліся вочы і яна правальвалася ў цемру, у тое нікому не бачнае жыццё, у якім адбывалася ўсё тое, чаго ніколі не было і не магло быць наяве.

Без ніякіх крылаў, толькі адштурхніся ад зямлі і вось — ляціш і бачыш зверху ўсё зменшанае і маленькае: і раку Бярозу, і тыя драўляныя і цагляныя дамы, што стаяць радамі, вунь дзіцячы садзік, у які калісьці яе вадзілі, а вунь — сама чатырохпавярховая школа... Яна лёгка плыла над Бярозавам, адчуваючы зліццё з гэтым светам, зусім забыўшыся на тыя рэдкія горкія хвіліны, якія адчувала, калі бацькі пачыналі сварыцца, ці калі ёй ставілі нізашто дрэнную адзнаку, ці проста калі хто крыўдзіў.

А потым зноў — знаёмыя шпалеры ў пакойчыку, знаёмыя галасы бацькоў, партфельчык у руках і дарога ў школу па вуліцы, дзе на рагу стаіць магазін, у якім вечна поўна людзей, як на тым рынку, зноў школа, вясёлыя перапынкі, і над усім гэтым — штохвіліннае чаканне яшчэ цікавейшых і весялейшых хвілін, якія вот-вот пачнуцца.

Як у тых начных палётах над Бярозавам.

Валя ўжо адчувала, што ўсё знешняе, што паяўляецца ў жыцці, неяк адгароджана ад таго нябачнага «я», якое паявілася пасля матчынага: «Прасі, каб не пакідаў цябе».

А можа, і раней.

Можа, гэтае «я» паявілася з першым крыкам, з першым глытком паветра, ды толькі пэўны час яна не адчувала ніякага разладу. Нават калі і гаварыла з гонарам: «Во, у мяне ёсць ручкі і ножкі. І зубкі, і язычок таксама ёсць». Тады, у той шчаслівы час, усё было сплеценым, усё было аднолькава неабходным: і знаёмыя сцены, і знаёмы ложак, і твары бацькоў, і нават тое ж святло лямпачкі, як і свой пальчык, які можа балець, як і свае вочкі... Проста, відаць, той даўні ўспамін, звязаны з жытам, пыльнай дарогаю і ласкавым спякотным сонцам, якое, куды ні пайдзі, коціцца следам,— апошняе імгненне з таго шчаслівага перыяду, які навечна абарваўся. Проста той даўні ўспамін — як запавет ці намёк на шчасце, да якога трэба дабрацца.

У восьмым класе на дзень нараджэння бацька падарыў Валі наручны гадзіннік. Маленькі звычайны жаночы гадзіннік, з лічбамі на белым квадраціку цыферблата, з трыма жоўценькімі стрэлачкамі.

Узяўшы з бацькавых рук гадзіннік, Валя адразу ж пайшла ў спальню, дзе быў яе ложак, дзе меўся невялічкі стол, за якім звычайна рабіла ўрокі. Тут яна калісьці гуляла з лялькамі.

Валя асцярожна паклала гадзіннік на стол, села на крэсла і пэўны час, як упершыню ў жыцці, глядзела на секундную стрэлачку, якая рыўкамі бегла па цыферблаце. У бегу гэтай стрэлачкі Валі ўбачылася нешта загадкавае — чамусьці яна ўпершыню задумалася, што будзе з ёю праз некалькі хвілін. Не праз год, не праз два, а вот цяпер, праз якую хвіліну.

«Час, час... Што ж гэта такое?» — прашаптала яна сабе са здзіўленнем. Тое, што чытала дагэтуль пра час, засталося неяк збоку, цяпер яна адчула, што час — гэта зусім не тое, пра што напісана вялікімі чорнымі літарамі ў падручніку па фізіцы.

Валя заплюшчыла вочы і застыла ў чаканні чагосьці, што вось-вось павінна было прыйсці да яе. Калі ж яна адплюшчыла вочы, убачыла, што секундная стрэлачка абабегла цэлы круг. Хвіліна... Прайшла хвіліна. Фізічна яна адчула неадольны бег часу... Зноў і зноў Валя заплюшчвала вочы і, адплюшчыўшы, упэўнівалася, што секундная стрэлачка ўсё бяжыць і бяжыць,— Валі нават падалося, што гэтая маленькая стрэлачка цягне адпекуль, як з бясконцай загадкавай цемры, нікому не бачную нітку часу, без якой яе, Валіна, жыццё немагчыма.

Што ж будзе з ёю праз хвіліну, дзве? І хоць дагэтуль яна часта застывала, пытаючыся ў сябе, што трэба рабіць, але толькі цяпер яна ўпершыню адчула, што чаканне Чагосьці звязана з гэтай рухомай нябачнай сцяною між тым, што ўжо было, і тым, што будзе. І таму цяпер ёй стала соладка і страшнавата. Што там, за той нябачнай сцяною, за якую ніяк не зазірнеш? Зноў і зноў яна заплюшчвала вочы, чакаючы, што будзе з ёю праз некалькі хвілін. І калі яна адплюшчвала вочы, то са здзіўленнем, як чужымі вачыма, абводзіла акуратна засланы ложак, падручнікі на стале, шафу ў куце, акно з занавескамі. Ёй здавалася, што яна і сапраўды ўжо другая, зусім не такая, якой была хвіліну назад. Адкуль яна тут паявілася, чаго жыве тут, у гэтым Бярозаве?

Яна ўзяла люстра, што стаяла на століку, і пачала разглядаць сябе — уважліва вывучаць кожную рыску сваіх тонкіх, яшчэ ні разу не фарбаваных, рэзка акрэсленых чырвоных вуснаў, сваіх вузкіх чорных веяў, свайго прамога, з гарбінкаю, носа, сваіх круглых чорных вачэй. Прыглядаючыся, яна ўбачыла, што ў люстэрку ў вачах відаць яе зменшаны адбітак... Яна не ведала, прыгожая яна ці не, то здавалася, што прыгожая, то — палохалася сябе, свайго носа, сваёй тонкай белай скуры, сваіх чорных валасоў, якія спадалі на вочы, хаваючы высокі лоб...

У тую ноч Валя нечакана без усялякай прычыны прачнулася. Пэўны час нерухома ляжала, прыслухоўваючыся невядома да чаго. Тады пачула, як цікатае гадзіннік на руцэ. За акном бачылася зорка — як сябе Валя помніла, засынаючы, яна часта бачыла гэтую далёкую, не мігатлівую зорку. Валя прывыкла ўжо называць гэтую зорку сваёй.

Мянялася ўсё навокал: за зімою, якая б яна доўгая ні была, пачынаўся крыгаход на Бярозе, і тады, пасля мокрага снегу, разам з травою, што ярка зелянела, распускаліся, зацвіталі яблыні ў іх садзе, штодня плылі некуды воблакі ў небе, узыходзіла і заходзіла сонца над Бярозавам, у самім Бярозаве будаваліся новыя цагляныя дамы, вунь ужо амаль зусім заасфальтавалі іх вуліцу, а цяпер прыняліся перабудоўваць рынак, праз які яна штораніцы бегае ў школу,— усё, усё мянялася вакол Валі, роўна і неадольна, як цячэнне вады ў Бярозе, гэтак жа, як і ў яе жыцці многае што мянялася: пераходзіла з класа ў клас, на новыя прадметы прыходзілі новыя настаўнікі, паяўляліся новыя сяброўкі, сама яна падрастала, цяпер вунь ужо амаль такая, як і маці... І толькі зорка не мянялася, яе цьмяна-мігатлівае святло было нязменна далёкім і роўным. Нават калі вечарамі Валя не бачыла яе, яна ўсё роўна ведала, што зорка ёсць, што зорка ўсё роўна назірае за ёю... Як бы яна ні падрастала, якія б плацці ні насіла, яна і тая невядомая зорка былі з'яднаны нейкай таямніцаю, якую Валя пакуль і сама не ведала.

Валя хутка адкінула коўдру, паднялася з ложка і, бязгучна ступаючы босымі нагамі па палавічку, падышла да акна. Адхінула занавеску.

Акно выходзіла ў сад, цяпер роўна-роўна засыпаны снегам. Ад месячнага і зорнага святла снег іскрыўся, ясна бачыліся ў нечапаным снезе яблыні — на іх галінах таксама ляжаў снег, бачыліся кусты парэчак і агрэсту, амаль засыпаныя іскрыстай беллю. Далей, за яблынямі і кустамі, роўнай паласою цямнеў плот, над якім пачыналася зорнае неба.

Зоры былі буйныя і дробныя, яркія і не надта. Неба было зорнае, яно не здавалася бліжэйшым, наадварот — яшчэ глыбейшым і далейшым, здавалася, што ў тых нешматлікіх цёмных прагалінах, дзе не было зор, ёсць цёмныя бясконцыя ямы, якія, калі пачынаеш доўга глядзець у іх, засмоктваюць.

Як упершыню ў жыцці, застыўшы ля акна, Валя прывідам глядзела на ўсё: і на сад, і на снег, і на неба... Нечакана адчула, што яе калоціць. І зусім не ад холаду.

Дрыготкімі пальцамі яна скінула з сябе ўсё тое апошняе, што было на ёй... У гэтым бязгучным роў-

ным бледнаватым святле, што лілося з акна, яна пачала разглядаць сваё цела, тонкае, яшчэ падлеткавае. З сорамам, адчуваючы, што робіць нешта недазволенае, асцярожна пачала вадзіць пальцамі па скуры — ад галавы да пят, як чужую, вывучала сябе...

А потым яна зноў ляжала ў ложку, чула аглушальнае ціктаканне гадзінніка, і ёй хацелася плакаць. Як і тады, у далёкім маленстве, калі трымала бацьку за руку і пыталася: «Я табе не трэба?».

Што трэба ёй у гэтым бясконцым свеце? Дзеля чаго яна не спала, прыслухоўваючыся, як цэлыя стагоддзі праносяцца скрозь яе, і толькі яна застаецца непарушнай, тым, што было, ёсць і будзе — ва ўсе вякі?..

З-за чаго ўсё пачалося?

Валерка на школьным вечары, не дачакаўшыся яе, пайшоў танцаваць з другой. Толькі і ўсяго — не здолеў дачакацца яе. Можа, падумаў, што яна не прыйдзе, а можа, паспрачаўся з кім, маўляў, падыдзе да той пісанай прыгажуні — і яна не адмовіць. Магчыма, магчыма... Так ці інакш, але калі яна зайшла ў залу і ўбачыла, як у зіхатліва-каляровым святле навагодняй ёлкі Валерка кружыць з той пісанай прыгажуняй, яна зразумела: здарылася нешта такое, што нельга направіць. Ніколі. І ні яна, ні той жа Валерка цяпер ужо нічога не могуць зрабіць.

І вось яна стаяла ў кухні ля акна, ля занавескі, і глядзела, як на рагу вуліцы, дзе магазін, ля тэлефоннай будкі вытанцоўвае на марозе Валерка.

Здавалася б, цяпер усё было так, як і звычайна: і гэтая ім абаім вядомая ўмоўленасць, і сам дарагі Валерка ў дэмісезонным паліто з адстаўленым каўняром, і таму чаго працей — навошта пакутаваць, навошта глытаць даўкія слёзы? — накінь паліто, хустку, ногі ў валёнкі, глянь напаследак у люстра і — толькі б не зачапіцца за парог — на вуліцу, да таго чалавека, з-за якога трэцюю ноч не спіш... Дзеля прыліку можна яшчэ папракнуць: «Яшчэ раз з другою пойдзеш — паміпай як звалі». І ўсё. І ты, і ён — шчаслівыя. І можна бегчы ў кіно, у той новы кіна-

тэатр, што нядаўна пабудавалі ля рынку. І там, у цемені, згараючы ад сораму, працягваць тое вывучэнне сябе, якое пачалося месячнай зорнай ноччу, калі стаяла ля акна і праводзіла дрыготкімі пальцамі па скуры.

А можа, і раней...

Але цяпер Валя ведала — як ні будзе балюча і горка, болей з Валеркам за рукі не возьмецца. Трэці дзень мёрз Валерка на рагу вуліцы, і трэці дзень яна адчувала гэтую мяжу, якую не магла пераступіць.

Ах, гэтыя межы, якія яна пачынала адчуваць!

Чаму яна не магла пайсці да Валеркі? Што не пускала яе? Што прымушала плакаць і шаптаць: «Не, не, цяпер ужо ніколі!» І гэтае «ніколі» было такім балючым, быццам з сабою развітвалася, праз што пры ўсім жаданні не магла пераступіць.

Там, па той другі, цяпер ужо чужы, бок, назаўсёды засталося ўсё самае-самае першае: першы затуманены позірк, ад якога кідае ў гарачыню, першы нясмелы дотык трапяткіх пальцаў да тваёй рукі — і не болей, болей салодкіх імгненняў і быць не можа,— першае яднаючае «ты», першая сустрэча на рагу вуліцы ля тэлефоннай будкі. Яна адчувала цяпер, што, гледзячы праз акно на Валерку, стаіць ля самае-самае мяжы, яна ўсім целам адчувала гэтую неадольную мяжу, і мо таму ёй было балюча.

А мо і слодыч яна знаходзіла ў гэтым болю, гэтак жа, як, магчыма, нейкую слодыч знаходзілі яе бацькі ў штодзённых спрэчках — хто ведае, іначай чаму ж яна не пайшла да Валеркі, чаму?

Хоць зноў жа — магчыма, яна інтуітыўна адчула, што ўжо і сапраўды ўсё скончана, што ісці да Валеркі і сапраўды не варта. Бо як ні развражай, але тыя даўкія слёзы ля аконнай занавескі былі першымі слязьмі жанчыны.

Не падлетка, а жанчыны.

На чацвёрты дзень усё было скончана...

Яна і сама ад сябе такога не чакала: спакойна вымыла твар халоднай вадою, апранулася так, як калісьці ёй і хацелася: паліто, цёплая хустка на галаву, ногі ў валёнкі — і вось яна на вуліцы ля тэлефоннай будкі.

— Ну, прывет. Чаго ж ты сягоння не прыйшоў?

І ён нічога не зразумеў, ні тады, калі моўчкі слухала ягоныя апраўданні, ні калі бег з другога канца Бярозава да гэтай тэлефоннай будкі. І толькі ўбачыўшы яе спакойную ўсмешачку, ён жахнуўся — моўчкі павярнуўся і, ссутуліўшыся, пайшоў ад яе, проста ўмярзаючы ў стылае марознае паветра. Толькі тады да яго дайшло, што за гэтыя тры дні яна пасталела на пяць, а то і на сем год, і цяпер ёй проста з ім, шаснаццацігадовым, рабіць нечага. Можа яна і хацела з ім пабыць, але цяпер ёй проста нецікава. І таму яна, гледзячы ў вочы, гэтак спакойна крывіла ва ўсмешачцы свае тонкія ненавісныя вусны.

Так, яна і сапраўды стала іншай, цяпер Валя адчувала, што ёй патрэбен не такі, як і сама, нявопытны аднагодак, а той чалавек, у якога хоць што ды ёсць за плячыма, не толькі пякучыя рукі. Бо пякучыя рукі, затуманеныя позіркі — гэта ўжо было, было, ды з вадою сплыло, а цяпер калі што і можа быць — іншае, зусім іншае. Бо гадзіннік ціктакае, і тая пазалочаная стрэлачка ўсё накручвае і накручвае тую нябачную нітку. У адзін бок, у адным кірунку. І назад тую нітку ніяк не адматаеш, ніяк не скруціш. Калі б і захацелася.

Што ж, як кажуць старыя людзі, хто чаго шукае, той тое знойдзе.

Вось і ён, пазнаёмцеся, Лёшка, у якога за плячыма загадкава салодкі інстытут, тыя шматлікія формулы і графікі, з дапамогаю якіх можна хоць што ды зразумець.

Не толькі ў свеце, а і ў самой сабе. Бо надта ўжо цяжка блукаць адной цэлых васемнаццаць год.

А тым болей, што Лёшка стройны, прыгожы, нават перспектыўны як малады спецыяліст, які толькі што закончыў політэхнічны і па накіраванні прыехаў у Бярозава. Ён не носіць кудлатай бародкі, але затое ў яго ёсць акуратныя тонкія вусікі, ён вышэйшы за Валю на цэлую галаву і можа гадзінамі разважаць пра што заўгодна: пра мікра- і макрасвет, пра генетыку і энергетыку.

Увогуле, усё пачалося з выпадковасцей: выпадкова ён упершыню сустрэўся з Валяю на аўтобусным

супынку, гэтак жа выпадкова яны глянулі адно аднаму ў вочы, выпадкова зайшлі ў адзін аўтобус, які давёз іх на адным сядзенні да кінатэатра, выпадкова ім далі білеты на адзін рад — дзевятае і дзесятае месцы ў дванаццатым радзе... І яшчэ, як вяршыня — выпадковае маўклівае, без ніводнага слова, спалучэнне рук у зацемненай глядзельнай зале, дзе на экране гэтак жа выпадкова знаёміліся Ён і Яна...

Потым ужо, як гэта заўсёды бывае ў разумных людзей, Лёшка мог гадзінамі даказваць, што ў спалучэнні гэтых выпадковасцей маецца пэўная заканамернасць, якая абагульняе іх знаёмства з першародным поступам дыназаўра, а мо яшчэ — з унутранай будовай элементарных часцінак, якія ўзніклі пасля выбуху першаатама.

І шчаслівая Валя гэтак жа моўчкі магла гадзінамі слухаць Лёшкаву песню. Нарэшце, нарэшце яна магла адкрывацца. І быць свабоднаю.

— Лёшка, ты ўяўляеш, яны хацелі, каб мяне на гэтым свеце не было. Мяне, Валькі, і каб ніколі не было. Вот ты можаш гэта ўявіць ці не? Я дык не магу. Мне здаецца, што, напрыклад, Бярозава ёсць толькі таму, што я ёсць. І сонца толькі таму ёсць.

— Пачакай, лапатуха, дай я святло выключу.

— Не трэба выключаць святло, Лёшка. Я не люблю гаварыць у цемнаце. Я ўвогуле баюся цемнаты. Мне ў цемнаце часта здаецца, што я знікаю, што тады мяне нідзе няма. Вот як табе лепш растлумачыць?.. Ну, пра гэта пасля. У нас жа яшчэ ўсё жыццё наперадзе. Толькі не спі, Лёшка, добра...

— Добра, добра,— і ўсё ж Лёшка засынаў. Валя паправіла коўдру, якою быў укрыты Лёшка. Абапёршыся спіною аб сцяну, яна сядзела на ложку і пастуквала кулаком Лёшку па грудзях — будзіла...

— Чаму ж цябе магло і не быць?

— Ну, вот калі мама мною была цяжарная, дык яна з бацькам дрэнна жыла. Яны ўвесь час дрэнна жылі. І вот яны былі ўжо дагаварыліся, каб развесціся і заадно пазбавіцца ад мяне. Тады, адразу пасля вайны, гэта не дазвалялася рабіць, судзілі за гэта. І вот яны пайшлі да адной старой у вёску. Яны прыйшлі ў тую вёску, а старой дома не аказалася.

Яны пасядзелі ля хаты на лаўцы ды назад пацягнуліся. А дарогаю пamірыліся. Так я і засталася жывой. І вот ведаеш, Лёшка, мне ўвесь час помніцца нейкая дарога ў жыце, і цяпер, калі я ўжо пра ўсё гэта ведаю і думаю пра гэта, мне здаецца, што я ўжо тады жыла і ўсё бачыла — як яны ішлі дарогаю і мірыліся. І калі я маме неяк пачала пра ўсё гэта расказваць, то яна сказала, што так яно і было: і дарога, і жыта, і лета сухое, без дажджоў...

— Хто ж табе ўсё расказаў?

— Ды маці. Яна мне ўсё расказвае. Яна адкрытая ў мяне. Як і я, дарэчы.

— Ці ж можна гаварыць такое сваім дзецям?

— Чаму ж, я думаю, можна, цяпер жа ўсё роўна, я ж — жывая засталася. Проста ўсё неяк дзіўна.

— Ну, здзіўляцца надта ўжо і няма чаго. Усё, што адбываецца ў свеце, можна растлумачыць, вывеўшы пэўную заканамернасць. Для прыкладу я раскажу табе адну гісторыю. Праўдзівую. Аднойчы вучоныя рашылі свядома прыдумаць бязглузды сказ. Бяссэнсавы. Аб'явілі цэлы конкурс. Прыдумалі. Сказ быў такі: зялёныя бясколерныя ідэі спяць злосна. І што ты думаеш, крытыкі знайшлі ў ім пэўны сэнс. Гэты выпадак наводзіць на сур'ёзны роздум. Ну, але пра гэта заўтра. А цяпер — давай спаць, заўтра на завод, планёрка з васьмі...

— Лёшка, ты ўсё на свеце ведаеш. Можа таму мне з табою так лёгка. Ты не спяшы спаць, Лёшка. Я вот яшчэ хачу табе сказаць...

— Ты б усё гаварыла, гаварыла...

— Лёшка, ты толькі не пакідай мяне адну, добра... А то ведаеш, у мяне часта такое бывае, што я чагосьці баюся.

— Чаго? — вачэй цяпер ён так і не адплюшчваў. Толькі ягоная дужая рука раўнамерна пагладжвала яе аголенае плячо.

— Я і сама не ведаю. Вот у цемнаце, калі застаюся адна. Мне тады здаецца, што нехта падглядвае за мною. Вот усё роўна як нехта заходзіць у пакой і пачынае глядзець. Я гэта проста адчуваю. І мне чамусьці страшна становіцца. Даўней, яшчэ да нашага вяселля, калі я дома жыла, дык я звычайна на адну зорку глядзела. І нічога тады не баялася. А цяпер у нас акно выходзіць у другі бок.

— Якая зорка, які бок?.. Дурнічка, хто ж за табою можа падглядваць, акрамя мяне? Можа энланаўты? Эй, вы, энланаўты, адгукніцеся! — гукнуў ён і нават засмяяўся ад свайго ўдалага жарту.

— Вот ты нічога не панімаеш... Ты толькі не спі, я табе ўсё растлумачу. У мяне яшчэ часта бывае, што я магу сказаць, што адбудзецца з тым ці другім чалавекам праз нейкі час. Вот цяпер ужо радзей бывае, а раней, калі вучылася ў дзевятым і дзесятым, гэта часта бывала. Вот ідзём з дзяўчатамі ў парк на веранду, я скажу каторай — ты сягоння з такім-та і такім пазнаёмішся, а ты — ні з кім не пазнаёмішся. І паверыш, так яно і атрымлівалася.

— Як гэта — атрымлівалася? Ты што, як тая цыганка на картах? Ты разумееш, што гэта глупства, гэта — парушэнне прычынна-выніковых сувязей, гэта — парушэнне дыялектычных законаў.

— Ды ты не бойся, Лёшка, я не ўмею варажыць. Я і сама не ведаю, як гэта атрымліваецца. Вот я, бывае, часта гляджу на якога невядомага чалавека і ўжо чамусьці ведаю, што будзе з ім праз нейкі час — праз год ці праз два. Толькі трэба, каб у гэтае імгненне я была адна і каб мне ніхто і нішто не замінала. Праўда, пасля ў мяне галава баліць пачынае.

— Ну і што ж з намі будзе праз год? — Лёшка скептычна ўсміхаўся.

— А пра сябе я нічога не магу сказаць. Слухай, Лёшка, яшчэ ведаеш, што са мною бывае... Я табе ўжо гаварыла пра дарогу ў жыце... Дык вот не толькі яна мне часта ўспамінаецца. У мяне часта бывае такое, быццам я ўжо жыла калісьці і ўсё-ўсё перажывала... Як другі раз усё роўна бывае...

— Вар'ятка, з кім я звязаўся,— прашаптаў Лёшка, паварочваючыся на бок, падкладваючы яе далонь пад сваю шчаку.

На імгненне Валя заціхла, спрабуючы ўявіць, што будзе з ёю праз год. Ці праз два. Яна глядзела на Лёшкавы шырокія чорныя бровы, на роўны нос, на чорныя, акуратна падстрыжаныя валасы — Лёшка быў прыгожы. І дастаўся ён не каму-небудзь, а ёй. Назусім. «На вечнае карыстанне» — яна нават усміхнулася ад такой думкі.

— Лёшка,— яшчэ не думаючы, што будзе гаварыць, Валя затармасіла Лёшку. Такая ў яе была

звычка: спачатку рабіць, а потым ужо разважаць. Ёй зусім не хацелася спаць, хацелася гаварыць. Але не пачнеш жа спавядацца сама сабе. Сама сабе...

Валя зацiхла, гледзячы на сонны Лёшкаў твар, на загарэлыя грудзі, на якіх віліся чорныя кароткія валосікі. Сягоння яна была шчаслівай — урэшце пачала вызваляцца ад адзіноты, якая нябачнаю сцяною акружала яе гэтулькі год. Цяпер, калі ў яе ёсць Лёшка, ёй будзе лягчэй, цяпер яна стане шчаслівай.

Пачало ўспамінацца, што гаварыла сягоння Лёшку. Гэта быў толькі пачатак той доўгай-доўгай споведзі. Канечне, яна раскажа пра ўсё-ўсё, пачынаючы з гадоў маленства — з таго дзіцячага садзіка, з той настаўніцы, што была ў іх першым класе...

Валі цяпер было так лёгка і радасна, як... І тут ёй успомнілася, калі ж ёй было так лёгка і радасна. З Валеркам, у тыя даўнія часы першых спатканняў, калі бегала з ім у кінатэатр. Вось, вось адкуль гэтае пачуццё паўтарэння, пра якое гаварыла Лёшку. Нічога загадкавага і таемнага няма, проста ўсё, што сягоння было, гэта і сапраўды было. І як яна раней пра гэта не ўспомніла, як не здагадалася?

Валя глядзела на Лёшку, і ўжо штосьці другое бачылася ёй у ягоным твары. Чаму, чаму яна нічога не сказала Лёшку пра Валечку, пра тыя даўнія школьныя вечары, пра той пякучы боль, калі стаяла ў кухні ля занавескі гадзінамі? Што стрымала яе?

Успомнілася, што гэтаксама, як і ад Лёшкі, яна і ад бацькоў штосьці ўтойвала, яшчэ з маленства, са школы,— нейкія дробязныя падзеі, нейкія думкі, пра якія бацькі не ведалі, пра якія, мусіць, ніхто ніколі не ўведае. І тое, што сягоння гаварыла Лёшку, што, магчыма, будзе гаварыць заўтра,— усяго толькі знешняе, верхняе, магчыма, нават самае прыгажэйшае з усяго яе мінулага жыцця, з тых васемнаццаці доўгіх год. Васемнаццаці пакутліва-салодкіх год.

І колькі ж такога сабралася ў ёй, што нават і Лёшку няможна сказаць? Яна не магла растлумачыць — чаму, але адчувала пэўна, што ёсць у яе жыцці падзеі і здарэнні, ёсць думкі, пра якія пры ўсім жаданні нікому не раскажа. І гэта — амаль такая ж мяжа, як і тая, якую адчувала, стоячы калісьці ў кухні ля аконнай занавескі і гледзячы, як ля тэлефоннай будкі вытанцоўвае на марозе Валерка.

Няўжо цяпер трэба непіта хаваць? Няўжо нельга вырвацца з гэтага праклятага зачараванага кола?

І зноў яна адчула сябе гэтак жа, як і калісьці на пыльнай дарозе, калі трымала бацьку за руку. Яна заплакала і пачала ўкладвацца побач з Лёшкам, шукаючы хоць які прытулак у ягоным цяпле. Адчуўшы яе валтузню, Лёшка прачнуўся.

— Ты чаго, старушка?

— Нічога,— яна нават і Лёшку пра Гэта не магла сказаць,— нічога, Лёшка. Гэта бывае ў жанчын, гэта ў іх з вялікай радасці.

— Вот пачакай, пачакай, я ўжо сягоння з дырэктарам гаварыў, ён паабяцаў, што ў тым годзе атрымаем аднапакаёўку з усімі выгодамі, тады не гэтак галасіць будзеш.— Ён спакойна, не саромеючыся, падняўся з ложка і пайшоў да дзвярэй, дзе цямнеў выключальнік. І тое, што Лёшка яе ўжо не саромеўся, як і яна часта не саромелася рабіць пры Лёшку, што пры чужых людзях ніколі не рабіла б,— гэта таксама Валі здалося дзіўным. Гледзячы на аголенае Лёшкава загарэлае цела, Валя адчула, амаль гэтак жа, як і калісьці, калі, ідучы з сяброўкамі на танцы ў бярозаўскі парк, прарочыла пра знаёмствы, што Лёшка гаворыць праўду. Так яно і будзе — ліць ёй слёзы і праз год. Чаму — яна не ведала, не магла растлумачыць сабе, не гаворачы пра Лёшку.

Мінуў год.

З работы Валя подбегам спяшыла дадому, на тую прыватную кватэру, дзе трэба было гатаваць вячэру ці сняданак, перамываць што з адзення, перастаўляць, ператрасаць, падмятаць, праціраць — круціцца ва ўсім, што непрыкметна глытала тую нябачную староннім воку нітку, якую цягнула і цягнула секундная стрэлачка на наручным гадзінніку і пра якую Валя пакуль забылася. Яна пакуль яе проста не адчувала. Валя яшчэ не ведала, сур'ёзны яе новы занятак ці не, ды і ці надоўга хопіць яе — пра гэта яна таксама не ведала. Пакуль яна ні аб чым не задумвалася, пакуль ёй было ўсяго гэтага штодзённага дастаткова — таго новага сусвету, які рашыла пабудаваць вакол сябе. І ў якім бы яна была багіняю.

Вяртаўся з работы Лёшка. Калі — хмурны і стом-

лены, а калі — вясёлы. Закасаўшы рукавы, Лёшка кідаўся на дапамогу: гатаваў, перамываў, ператрасаў, праціраў...

І вось — усё больш-менш згатавана, перамыта, ператрэсена, цяпер можна сесці на табурэткі і з адчаем, як у цёмную ваду, зазірнуць адно аднаму ў вочы. Нарэшце-ткі...

— Лёшка... Як жыццё?

— Нармальна.

— Што новага?

— Нічога такога. Сягоння з дырэктарам гаварыў, абяцае ў канцы года кватэру даць. Во, скора павышэнне будзе, відаць, мяне загсектарам зробяць. Работы, канечне, прыбавіцца. Грамадскіх даручэнняў такама, членскія ўзносы збіраць, добраахвотная дружына, дзяжурствы. Відаць, адразу пасля новага года стаўку ўвядуць. А ў цябе што новага?

— Начальніца ў водпуск пайшла, а квартал закрываць трэба. Як выберамся — невядома.

— А яшчэ што?

— Нічога такога. Во, ледзь не забылася — прафсаюзны сход заўтра, вярнуся пазней...

— Лёшка, ты шчаслівы?

— Канечне. А што здарылася?

— Чаму ж тады мы так часта маўчым, Лёшка? — і слёзы градам. І тая нябачная нітка, што цягнецца днём і ноччу секунднай стрэлачкаю, абрываецца...

І вось ужо ўпаўзае ў пакойчык гэтая пакутлівая цішыня, якая цягне за сабою пакутлівае адзіноцтва дваіх — яго так часта можна ўбачыць на гладкіх тварах прыкладных сем'янінаў: Ён і Яна моўчкі глядзяць тэлевізар, Ён і Яна моўчкі вячэраюць, пазней у начной цемені гэтак жа моўчкі пагладжваецца і абдымаецца знаёмае цела... І за ўсім — нябачнае, але затое рэзка акрэсленае кола адзіноты, якое калісьці акружала аднаго, а цяпер — дваіх. І ніяк з яго не вырвацца, што і як ні гавары, як ні прыціскайся да знаёмага гарачага цела.

Валя яшчэ і сама не ведала нічога і таму спрабавала знайсці выйсце з дапамогаю доўгіх блытаных маналогаў, якія чым былі даўжэйшымі, тым большую насупленасць выклікалі ў Лёшкі. Бо Лёшка хоць і быў добрым, талковым, перспектыўным інжынерам, але ён быў усяго толькі мужчынам. І таму

самае большае, што ён мог знайсці ці адкрыць — заняцца рамонтам тэлевізара, з дапамогаю якога спадзяваўся заглушыць непрыемную балючую цішыню.

А мо ён проста нічога і не адчуваў. Магчыма, ён і не чуў ніякай цішыні і таму, спакойна мурлыкаючы штосьці сабе пад нос, мог гадзінамі поўзаць з паяльнікам ля разабранага тэлевізара, таму ён з радасцю цягнуў дадому ўсё, што цягнулі, неслі, пёрлі, валаклі другія бярозаўцы. Бо ён, што ні гавары, але ўсё ж такі, паўторым, мужчына.

І калі Валя ўслухоўвалася ў ягонае мурлыканне ля тэлевізара, калі глядзела на ягоныя спакойныя жэсты, здавалася, што Лёшка ведае, што да чаго, і калі ён цяпер спакойны, калі гаворыць, што так і трэба, значыць — сапраўды так трэба: і чэшская сценка, і крышталёвы набор, і каляровы тэлевізар. Так-так, можа, Лёшка і праўду гаворыць: калі ўсё гэта набудзецца, то і шчасце набудзецца. І таму, калі мэта ясная — за работу, Валюша. Бо нездарма ж ён вывучаў і этыку, і кібернетыку, нездарма...

Яшчэ шэсць год мінае. Як хутка яны мінаюць — калісьці тыдзень быў даўжэйшы...

Непрыкметна і неадольна мінулі гэтыя гады. Ці даўно атрымлівалі кватэру, ці даўно куплялі чэшскую сценку, ці даўно Лёшка прывёз каляровы тэлевізар, а ўжо — шэсць год....

...Калісьці тыдзень быў даўжэйшы.

Усё часцей і часцей, перамываючы, ператрасаючы, праціраючы, Валя застывала сярод бліскучага паліравана-карычневага шчасця. Яна доўга стаяла моўчкі і ўспамінала, што яна забылася. Ёй абавязкова трэ было нешта ўспомніць. Толькі вось што?

Яна спрабавала перастаўляць праз тыдзень мэблю ў кватэры, абдзірала са сцен старыя шпалеры і клеіла новыя, якія можна было мыць, пакрывала лакам падлогу — потым разумела, што ўсё гэта не тое, не тое. Прыязджаў з работы Лёшка, ці Аляксей Паўлавіч, як яго звалі на рабоце. Пераапрануўшыся, усунуўшы ногі ў шлёпкі, ён заходзіў у залу з тэлепраграмаю ў руцэ, садзіўся ў мяккае крэсла і гаварыў: «Ну і работка, звальняцца пара, я ўжо болей не магу так, не вытрываю».

А яна спакойна глядзела на распаўнелы Лёшкаў твар — яна ўжо не магла сказаць, прыгожы Лёшка ці не, як і калісьці ў восьмым яна нічога пэўнага не магла сказаць пра сваю прыгажосць,— і ўсё ўспамінала, што ёй трэба зрабіць.

— Лёшка...

— Што ты хочаш?

— Што я хачу? — Ён нават і не адчуваў, што яны разляталіся. Як тыя галактыкі ў сусвеце: адна ад адной у процілеглы бок, і чым далей, тым хутчэй.— Нічога, Лёшка. Я ўжо нічога не хачу.

— Ну, тады ўключай тэлевізар. Што там у нас сягоння новенькага? — Аляксей Паўлавіч шаргацеў перад вачыма праграмаю.

— Лёшка, я стала нейкая другая. Няўжо ты нічога не заўважаеш? — яна яшчэ чэсна спрабавала вярнуцца да яго. Насуперак усім законам.

— Распаўнела, гэта я бачу.

— Ды я не пра тое, Лёшка. Разумееш, я цалюткімі днямі як сонная. І на рабоце, і дома. Лёшка, зрабі што-небудзь. Ты ж — мужчына.

— А што ты хочаш? — Ён аглух. Ён зусім аглух.

— Што я хачу... Лёшка, няўжо ты нічога не адчуваеш? Так болей нельга. Я не магу так болей. Мне страшна, Лёшка. Нават калі ты побач, я адчуваю, што нехта за мною назірае. Толькі цяпер ужо не за мною адною, а за намі. За мною і табою.

І тут Аляксей Паўлавіч, відаць, абразіўся да смерці — такога быць не можа, каб ён ды чагосьці не разумеў і не адчуваў:

— Калі б ты папрацавала так, як раблю я — з васьмі і да васьмі,— ды яшчэ грамадскія даручэнні, ты, відаць, адразу б і перастала заўважаць і прыкмячаць розныя свае дзівацтвы. Пра іх, дарэчы, можна гаварыць у маладосці, але ж мы цяпер — дарослыя самастойныя людзі, апамятайся. То табе здаецца, што ты — не ты, то гэтыя сусветныя вочы, якія днём і ноччу назіраюць за табою.

— Лёшка, калі мы чагосьці не адчуваем, то гэта не значыць, што гэтага няма. Так няможна.

— А мне можна? Можна мне па дванаццаць гадзін у суткі пра работу думаць? І дзеля чаго, дзеля каго? Ты што думаеш, усё гэта,— рэзкі ўзмах рукою на паліраваную сценку, на тэлевізар і дываны —

так палкаводзец вітае свае палкі,— мне аднаму трэба? Мне аднаму?

— Перастань, Лёшка.

— Не, не перастану, калі ўжо на тое пайшло. Хоць раз ды трэба пагаварыць у адкрытую. Хопіць, дамаўчаліся, пагулялі ў маўчанку шэсць год. Ты што думаеш, я — дубовы, нічога не бачу і не заўважаю? Глянь сама на сябе, азірніся — дзе той парадак, які быў, калі мы жылі на прыватнай кватэры, калі ў нас не было нават гарачай вады, не гаворачы пра паравое ацяпленне? Дзе той былы ўтулак і чысціня? Дзе ўсё гэта, куды падзявалася? Чаму цяпер, калі я ні вярнуся, у кватэры холадна і няўтульна? Ты кажаш, табе няма часу. Чым жа ты занята, скажы? Работаю? Якой? Тое, што ты робіш на рабоце, можна зрабіць за гадзіну, а астатні час... Успомні, што я гаварыў табе калісьці: ідзі на любую работу, мне твае грошы не патрэбны, мне трэба толькі адно — каб дома быў парадак.

— Пачакай, Лёшка, паслухай...

— Не, цяпер ужо ты слухай. Ты занадта занята сабою, гэтымі сусветнымі вачыма, гэтымі разгадкамі, што будзе з табою праз год ці паўтара. А гэтым займацца не варта ды і не трэба. Трэба жыць рэальнасцю, а не варажбою. Колькі табе паўтараць: трэба жыць у рэальным, а не ў выдуманым свеце.

— Лёшка, я падаю на развод.

— Што-о? — і вочы круглеюць, тэлепраграма падае з выпушчанай рукі на яркі дыван — пакалыхваючыся ў паветры, як падае восенню ліст з дрэва.— Ты што, і сапраўды вар'яцець пачынаеш? Што табе трэба? Птушынага малачка? Цукеркі ёсць такія.

— Я не магу болей, Лёшка. Іначай я і сапраўды звар'яцею.

— А другія могуць? Паглядзі на бярозаўцаў, як яны стараюцца апрануцца ва ўсё самае-самае моднае, прайдзіся па вуліцах, зазірні ва універмаг, паштурхайся ў чэргах, паслухай новыя анекдоты, хочаш — сходзім у госці, а не — да сябе запросім і — супакоішся. Табе проста тады не будзе часу на ўсё іншае, ад чаго ты пакутуеш.

— Я рабіла ўсё гэта, Лёшка. Я не магу так далей.

— А яны могуць? Скажы, чаму яны могуць, а ты — не можаш? Ты што, з другога цеста зляплена?

— Не ведаю, Лёшка. Я нічога пра сябе не магу ведаць, няўжо ты не бачыш,—і зноў слёзы градам, як і тады, калі на пыльнай дарозе трымала бацьку за руку і пыталася: «Я табе не трэба ўжо?» Як і пазней, калі пачала адчуваць, што ёсць у свеце штосьці такое, цераз што пераступіць ніколі і ніяк не здолее...

А і сапраўды, адкуль гэтае пякучае пачуццё? Магчыма, яно засталося ад тых шматлікіх спрэчак бацькоў, да якіх яна так і не прывыкла, якія напаміналі ёй увесь час штосьці такое, што ў яе ўзросце і не варта ведаць. Магчыма, магчыма... А магчыма, яна і нарадзілася такой — хто ведае... Чаму Лёшка ўспрымае свет спакойна і цвяроза, без доўгіх ваганняў і сумненняў праходзіць свой загадзя адмераны шлях, нават і не задумваючыся, што шлях ягоны мог бы быць і іншы, а яна, Валя, увесь час адчувае балючую мяжу між сабою і светам, дзе яе «я» — усяго як тая пясчынка. Ці як подых ветру. Ці як той жа шоргат асенняга лісця пад нагамі.

Хто ведае, хто ведае...

І як уявіць сабе гэты свет без той жа пясчынкі, без подыху ветру, шоргату лісця?..

І вось Валя ўвачавідкі бачыць, як разумны, разважлівы Аляксей Паўлавіч ператвараецца ў Лёшку, у разгубленага Лёшку, які нічога не ведае. Ды, відаць, і не ведаў. Як гэта раней яна не заўважала? Яна разумее, што ніхто не выйграў...

— Ну, прабач, прабач. Я пагарачыўся і сарваўся. Мне таксама цяжка. На рабоце адны планёркі душу вымаюць. Ты што думаеш, усё гэта,— зноў ківок галавою на паліравана-бліскучае шчасце,— так дастаецца?.. Супакойся. Вазьмі валяр'янкі, выпі і — пройдзе, як рукою здыме. А то — давай каньячку возьмем. Расслабіцца. Цяпер час такі складаны, нават і я не разбяруся, што, куды, нейкая нервовая ўзбуджанасць у паветры носіцца. Высакосны год, сонечная радыяцыя павышаная, а гэта цягне за сабою парушэнне біярытмаў... Валюша, давай забудзем на ўсё гэта, што ты сягоння сказала не паду-

маўшы, і пачнём спачатку. Помніш, як у першы год, калі ты яшчэ спявала, наводзячы парадак у прыватнай кватэры...

— Цяпер ужо не трэба спяваць, не варта.

— Чаму, Валюша?

— У нас для гэтага ёсць радыёла. Стэрэакалонкі. Мне з імі не зраўняцца. Адна Пугачова чаго вартая...

— Ну вот, ты ўжо і жартуеш. Каюся, магчыма, і я вінаваты. Але ж без цябе я прападу.

— Не, Лёшка, такія, як ты, не прападаюць. Яны і ў агні не гараць, і ў вадзе не тонуць. Канечне, пасля мяне ты і сапраўды будзеш пакутаваць, але гэта будзе нядоўга, месяц, ад сілы — два. Потым для цябе паявіцца другая, і ты з ёю будзеш гэткім жа шчаслівым. Няўжо ты яшчэ нічога не зразумеў? Што ты нарадзіўся пад шчаслівай зоркаю.

— А ты?

— Я... Я ж ужо гаварыла: пра сябе я нічога не ведаю. Я не магу ведаць,— і зноў слёзы градам.

— Ну вот, вот так, ты паплач трохі, і табе палягчэе. Сама падумай: што будзе з табою без мяне? Пра сябе я ўжо і не ўспамінаю. Табе ж — не шаснаццаць. Трэба цярпець. У гэтым жыцці ўсякае бывае,— з Аляксея Паўлавіча фантанам пачала струменіць жыццёвая мудрасць.— Бывае і сум, і адзінота, і непрыкаянасць. Не кожны ж дзень — масленіца. І сваркі, дарэчы, бываюць. І п'янкі з бойкамі. Няўжо ты не бачыла на бярозаўскіх вуліцах гэтых падрапаных, памятых мужчын і жанчын з сінякамі? І жывуць жа яны ўсё-ткі, паб'юцца, пасварацца, як гаворыцца, душу адвядуць, ды зноў жывуць, не думаюць разбягацца. Той жа жывы прыклад — твае бацькі. А мы? За шэсць год у гэтай кватэры ты хоць раз чула сварку? Ну, скажы мне, якая цябе сягоння муха ўкусіла? Хоць раз я на цябе палец падняў? І яшчэ, Валюша. Ты сама ўяві, што пачнецца ў свеце, калі ўсе з першага капрызу пачнуць разбягацца. І без таго разводаў хапае,— ён памалу супакойваўся ў час сваёй чарговай «песні». Ён зноў быў Аляксеем Паўлавічам. Ён нават падняўся з крэсла і, прахаджваючыся па яркім дыване, працягваў спакойным і роўным планёрачным голасам: — Паглядзі

на гэтую сучасную моладзь, на тыя ж шматлікія разводы, да чаго яны даводзяць? А з-за чаго ўсё гэта ў іх? Я табе скажу і растлумачу: з-за распусты, прывыклі на ўсім гатовым сядзець да дваццаці год, а потым... А потым за адзін месяц ці за адзін год мы думаем адвучыць іх ад гэтага дваццацігадовага сядзення на ўсім гатовым. Трэба працаваць — падняцца ў сем, прыйсці дамоў у шэсць. А на гэта трэба цярпенне, вытрымка. Як на рабоце, так і ў сямейным жыцці. Трэба паважаць адно аднаго, саступаць, як, дарэчы, раблю я,— ён нават усміхнуўся і пакланіўся ў яе бок. Як і звычайна, ён цяпер нічога не бачыў і не чуў.— Дык вот, яны гэтага не ўмеюць рабіць, яны нават і не ўяўляюць, якой цаною даецца сямейны дабрабыт, гэтая сямейная цішыня. Во, глянь сама — учора заўважыў, што ў мяне ёсць сівізна. У трыццаць год. Жыццё ляціць, як цягнік на перагоне,— у ім паявіўся жаль да самога сябе. Але гэтае пачуццё для яго было нязвыклым, і таму ён тут жа рашуча адкаснуўся ад яго: — Але ж іначай — нельга. Разумееш, іначай — нельга. Ты толькі паспрабуй уявіць, што пачне тварыцца ў Бярозаве, калі кожны будзе рабіць, што захочацца.

— Лёшка, хопіць.— Ён ужо быў так далёка ад яе, што яна магла спакойна сказаць: — Давай лепш па каньяк збегай. Ці ў госці пойдзем.

— Ну, вот і лады, вот ты і малайчына,— ён з задавальненнем пацёр рукі,— давай я цябе за гэта ў шчочку чмокну. Вот так, салодкая мая.

Яшчэ пяць год мінула.

Цяпер Валя зноў жыла на прыватнай кватэры, недалёка ад рынку. Яе часта можна было сустрэць ці на тым жа рынку, ці на бярозаўскіх вуліцах — то з адным, то з другім мужчынам.

Яна пахудзела і неяк пастарэла, куды дзяваліся яе паўната, тая былая прыгажосць... Невысокая, з фарбаванымі ў саламяны колер валасамі, Валя, хутка перабіраючы тонкімі нагамі, ішла побач з мужчынам і, зазіраючы яму ў вочы, гаварыла і гаварыла. Усё ўпадрад.

Пазней, у сваім пакойчыку, яна зноў спрабавала расказваць штосьці блытанае і незразумелае мужчыну.

— Ды потым, пасля пагаворым,— смяяўся муж-

чына і ўсё стараўся гарнуць да сябе яе тонкую постаць. Вольнай рукою ён усё шукаў той памятны выключальнік на сцяне...

— Віцька, пачакай, галоўнае ж не гэта... Я вот яшчэ хачу сказаць... Калі была малая...

— Ты мяне блытаеш з некім,— гаварыў мужчына, зусім не крыўдуючы,— я не Віцька, я — Мішка. А ўвогуле, мы ўсе былі калісьці малымі, няграматнымі. Хадзі-тка лепш да мяне бліжэй,— нарэшце ён усё ж знаходзіў гэты выключальнік на сцяне.

Але Валі цяпер было ўсё роўна: Мішкаў называла Віцькамі, Колькаў — Грышкамі. Яна адчувала, што нешта абарвалася ў ёй, што, падхопленая той нябачнай ніткаю, якую штодзённа цягне секундная стрэлачка гадзінніка, яна кудысьці ляціць і ляціць. Куды, навошта? Ёй хацелася хоць як ды ўтрымацца, агледзецца — дзе яна і што з ёю? — і таму старалася глядзець у шматлікія чужыя вочы, як калісьці ў люстэрку глядзела ў свае вочы, і гаварыць, гаварыць. І Мішкам, і Колькам, і Грышкам. Часта адно і тое ж, а часта і рознае.

Калі бярозаўцы бачылі яе, то звычайна гаварылі:

— Глядзі ты, а была ж неблагой жанчынаю. І мужа харошага мела, і кватэру былі атрымалі, і абстаноўка была поўная. Ды во — усё кінула, усё згубіла, за адзін год згулялася. Па руках баба пайшла. І чаго ёй не хапала? Распуста гэта ўсё — да дабра яна не даводзіць нікога. Глядзела б сям'ю, мужа, дык ба і цяпер як сыр у масле качалася. Ён вунь, кажуць, з другой жыве і ў вусы не дзьме.

А можа, і праўду гаварылі гэтыя разумныя бярозаўцы — хто знае, можа, і праўду...

# Шпілька

У маленстве бывае такі ўзрост, калі нечакана пачынаеш асабліва баяцца цемры,— тады, у тым узросце, здаецца, што ў цёмных закутках сядзіць нешта жывое, гэткае ж цёмнае, кудлатае і страшнае, яно можа існаваць толькі ў цемры і таму, як толькі цябе ахутае змрок, *яно* тут жа асмялее, хутка-хутка да цябе наблізіцца і... Нават і ўявіць жахліва, што тады можа адбыцца. І таму, як можаш, стараешся быць бліжэй да яркага зыркага святла і ўсё скоса насцярожана пазіраеш на цёмныя закуткі.

Потым, праз гады, гэты жах цемры памалу адсоўваецца халодным лагічным разуменнем таго, што нічога і нікога страшнага ў цемры само па сабе не бывае і быць не можа, у адных гэта адбываецца хутчэй, у другіх не так... І толькі калі-нікалі ў дарослым самастойным жыцці душу тваю, як напамін на далёкае недасягальнае маленства, а можа, і не на маленства, можа, і на штосьці іншае, нечакана міжвольна працінае гэты незразумелы жах цемры. Часцей за ўсё то бывае, калі адзінокі заблудзіш ноччу ці то ў лесе, ці то ў полі. І вось там, пад агромністым зорным небам, сярод маўклівай цішы, як пад вадою ўсё роўна, разглядаючы цёмныя прыдарожныя кусты ці дрэвы, што здаюцца казачнымі прывідамі, усёй душою адчуваючы нязвыклы касмічны холад, які ліецца і ліецца бесперастанку зверху, з той зорнай мігатлівай бездані, табе, адзінокаму, нягледзячы на адукаванасць, стане страшна, гэтак нязвыкла, што тут жа начыста ад цябе адлятаюць не-

маведама куды прачытаныя талковыя кнігі, якія амаль усё на свеце растлумачваюць, адлятае той шумны, заліты агнямі горад, дзе нядаўна весяліўся, тая ўтульная кватэра з мяккім святлом таршэра, дзе прыемна бавіць час. І тады захочацца крыкнуць на ўсю моц і крыкам сваім суцешыць сваю адзіноту.

Быў такі перыяд маленства і ў Івана Макаравіча. Жыў ён тады ў вёсцы, і, як гэта вялося ў тыя часы, вечарамі пры лямпе без зыркага салодкага тэлевізара надта доўга не заседжваліся, а стараліся хутчэй укладвацца спаць.

Зімою ён любіў спаць на цёплай печы. Калі, пасля доўгай беганіны на холадзе, соладка зліпаліся вей, ён бачыў у апошнія імгненні дошкі плота за акном хаты ў агародзе. Няроўна абрэзаныя, яны здаваліся людзьмі, што пасталі ў рад і моўчкі разглядалі яго, малога. Яму тады станавілася страшнавата, ён сціскаўся ў камячок і саўсім заплюшчваў вочы. Але дзіўна, ні тады, у маленстве, ні потым, дарослы, ён так нікому і не гаварыў пра тыя прывіды, якія штовечар паяўляліся за акном.

Быццам бы гэты жах быў неабходны ў ягоным маленстве, без якога ён так ніколі і не адчуў бы слодыч хрусткага снегу, які так сінее вечарамі, гэтага халаднаватага ветру, ад якога пальцы і твар робяцца адзеравянелымі...

Потым, дарослы, пасля смерці бацькоў, перагароджваючы плот, Іван Макаравіч думаў пра далёкія жахі маленства і ўсміхаўся. Адрываючы дужай рукою ад падгнілых жэрдак учарнелыя дошкі, ён ўспамінаў той даўні снег, які так прыцягальна сінеў надвячоркам і на якім гэтак хацелася пакінуць свой след, хруст пад валёнкамі, густую цішыню, якой, як вядро вадою, да самага краю была некалі напоўнена душа... Але ўсё гэта было далёка, даўно, як чужое ўсё роўна,— як ні ўспамінаў Іван Макаравіч, ніводнае з тых даўніх пачуццяў так і не вярнулася, і таму нічога іншага не заставалася, як адрываць і адрываць тыя ўчарнелыя падгнілыя дошкі.

Іван Макаравіч быў неблагі, талковы чалавек, які сам, без нічыёй дапамогі, выбіўся ў людзі і цяпер крочыў па жыцці спакойна і ўпэўнена. Звычайна пра такіх, як Іван Макаравіч, гавораць, што яны нарадзіліся ў сарочцы.

Адразу пасля школы ён здолеў паступіць у інстытут, закончыў яго і тут жа пайшоў у аспірантуру. Інстытут быў складаны, з тэхнічным ухілам, паступіць было нялёгка, не лягчэй было і вучыцца, многія не вытрымлівалі, адсяваліся, але Іван Макаравіч удала прайшоў скрозь частае сіта залікаў і экзаменаў. Як і многія аднагодкі, Іван Макаравіч у дваццаць пяць жаніўся, стаў жыць на прыватнай. Жонку ён узяў не гарадскую, вясковую, і многіх былых аднакурсніц гэта здзівіла, бо хлопец ён быў відны, не промах, і дагэтуль яго часта бачылі то з адной расфуфыранай гарадской прыгажуняю, то з другой.

Студэнтам Іван Макаравіч быў вясёлы, кампанейскі, ад яго першага можна было пачуць: «Ну што, хлопцы, скінуліся?» — і не ў каго-небудзь, а ў яго першага можна было перахапіць пяцёрку да стыпендыі. «Толькі з аддачаю»,— даючы грошы, звычайна дабаўляў Іван Макаравіч і неяк з ацэнкаю прыжмурваў хуткія вочы, у якіх ужо тады паяўлялася нешта пільнае і ўчэпістае, тое, што, кажуць, гэтак памагае выстаяць у жыцці.

Ён быў здольны да навукі, у гэтым многія прызнаваліся, але здольнасці ягоныя былі не чыста абстрактна-разумовыя, а з нейкім практычна-жыццёвым ухілам. І таму Іван Макаравіч праявіў сябе як удалы эксперыментатар.

Скончыўшы аспірантуру, Іван Макаравіч зрабіў самастойна серыю ўдалых эксперыментаў, вынікі якіх для многіх салідных вучоных былі і нечаканыя, і непажаданыя, разгарэлася нават спрэчка, тая ціхая нябачная староннягу воку спрэчка, якая, бывае, усчынаецца час ад часу ў вузкіх прафесійных колах. Як маладога і перспектыўнага Івана Макаравіча падтрымалі зверху, і вось, гады праз два пасля аспірантуры, Іван Макаравіч абараніў кандыдацкую, атрымаў двухпакаёўку, балазе ў яго да таго часу быў сын.

У дваццаць сем ён пачаў паўнець, уваходзіць, як прынята казаць, у самы смак жыцця — твар пакруглеў, паружавеў, плечы сталі пакатыя, паходка больш павольная. Позірк ягоных вачэй стаў яшчэ болей няўлоўны, многія, хто з ім гаварыў, пасля так і не маглі ўспомніць выразу вачэй Івана Макаравіча. У трыццаць год ён быў загадчыкам аддзела і сам

у эксперыментах амаль і не ўдзельнічаў, але і тут, на новай пасадзе, Іван Макаравіч удала сарыентаваўся, ён даволі лоўка выбіраў тэмы і накірункі даследаванняў, неяк так сталася, што ў яго завяліся новыя знаёмыя, і само сабою стала ясным, што Іван Макаравіч замахнецца на доктарскую.

Увогуле, гэта ягоная якасць — выбіраць найлепшы варыянт ці то ў жыцці, ці то ў рабоце, многіх проста-такі здзіўляла, і, як вядзецца, дзе-хто ўціхую пускаў розныя плёткі, а дзе-хто і зайздросціў. Нельга сказаць, што Іван Макаравіч лістом асеннім слаўся начальству пад ногі, не, такога не было, але неяк заўсёды так атрымлівалася, што Іван Макаравіч сябраваў з тымі, хто займаў пасаду крышку вышэйшую, чым займаў сам. І калі ягоны сябар злятаў з пасады — чаго ў гэтым складаным жыцці ні бывае,— то так атрымлівалася, што і сяброўства з тым чалавекам не тое што разладжвалася, а проста на яго не хапала часу. Хоць пры патрэбе Іван Макаравіч не забываў былых сяброў і нават мог дапамагчы. «Але ў меру сіл і магчымасцей»,— так звычайна гаварыў Іван Макаравіч і ўсміхаўся амаль гэтак жа, як і некалі ў маладосці, калі гаварыў: «Толькі з аддачаю».

Сямейнае жыццё ў Івана Макаравіча было ціхае і спакойнае, а тым болей мала хто мог пахваліцца частым гасцяваннем у Івана Макаравіча. Жонка ў яго была негаваркая і, як гэта часта бывае ў сем'ях, год праз пяць пасля замужжа стала нечым падобная на Івана Макаравіча: і той жа паўнатою, і нетаропкімі жэстамі, і скупасцю ў словах.

У трыццаць год Іван Макаравіч ледзь было не развёўся. Было гэта нечакана нават і для яго самога,— усё адбылося за два тыдні, пра якія пасля Іван Макаравіч успамінаў са здзіўленнем, быццам у тыя дні гэта і не ён быў, а другі невядомы мужчына.

Тая дыпломніца знешне амаль нічым не адрознівалася ад другіх студэнтак, якія штогод па вясне рабілі ў інстытуцкіх лабараторыях дыпломныя работы. У світэры, у вузкай і кароткай спадніцы — джынсы ў тую пару толькі-толькі ўваходзілі ў моду — з пару месяцаў бегала яна ля прыбораў, паслухмяна робячы тое, што загадвалі рабіць штатныя супрацоўнікі,— як звычайна жартавалі ў інстытуце, гэтыя дыпломнікі былі бясплатнай рабочай сілаю,

якую трэба ўмела скарыстоўваць. Іван Макаравіч не першы год бачыў такіх дыпломніц і, калі глядзеў на гэту дыпломніцу, думаў, што ў навуцы яна зробіць гэткі ж рашучы пераварот, які зрабілі другія прадстаўніцы прыгожага полу...

Неяк у канцы дня, калі перад абаронаю дыпломнай трэба было тэрмінова напісаць заключэнне, Іван Макаравіч затрымаўся з ёю ў лабараторыі адзін на адзін. Слова за словам,— у той дзень у яго быў неблагі настрой, і, як гэта ў яго часта атрымлівалася, ён тут жа паспрабаваў гаварыць з ёю тым лёгкім насмешліва-паблажлівым тонам, якім звычайна гавораць дарослыя з дзецьмі. Але нічога не атрымалася,— яму чамусьці стала няёмка ад яе спакойнага нетаропкага позірку, які, здавалася, пачаў адчуваць кожнаю клеткаю цела. Такога з Іванам Макаравічам не было, і таму, каб рэзка абарваць гэту нітку, што звязвала іх і ад чаго Іван Макаравіч адчуваў сябе няёмка, яму захацелася сказаць штосьці колкае і нават абразлівае, калі на тое пайшло.

Але што, што ён мог сказаць у гэты, як разумеў, апошні дзень?

— Дык, можа, за горад заўтра махнём? — аддаючы ей падпісанае заключэнне, ён адкрыта з усмешачкаю глянуў ёй у вочы.

Але яна зусім не разгубілася, не адвяла позірку, толькі чырвань густа палыхнула на шчоках.

— Паедзем,— сказала яна так, быццам ужо колькі разоў ездзіла з ім разам.

Ён ішоў з інстытута і, гледзячы сабе пад ногі на шэры асфальт, усё бачыў яе чарнявы твар,— і гэта тонкае пераноссе, і вузкія, шырока разведзеныя бровы, і вочы, спакойныя вялікія вочы, чорныя, нейкія аксамітавыя, у якіх па-маладому штосьці прыцягальна блішчэла, тое, чаго ўжо не бывае пасля, у трыццаць ці сорак год.

Была вясна, была пятніца, хмельнае цёплае паветра добра-такі прагравала зямлю, снегу даўно нідзе не было, дрэвы і кусты распускаліся пахкай зеленню, і Івану Макаравічу ўявілася, як будзе заўтра за горадам, дзе няма асфальту, шуму, тлуму.

...Гэткай вясенняй парою звычайна ранкам ідуць лёгкія цёплыя дажджы. Успомнілася сваё студэнцтва той першы курс інстытута, калі тайком даво-

дзілася жыць у інтэрнаце і спаць на адным ложку з такім жа, як і сам, вясковым хлопцам, бо грошай на прыватную ў яго не было. Ранкам яны бегалі на лекцыі праз парк,— вось гэтак жа ярка біла ў вочы зялёнае лісце, блішчэлі люстэркамі лужыны на асфальце, туманілася пахкае паветра ўдалечыні між сосен, і ён, зялёны нявопытны студэнт, аб нечым вельмі-вельмі шкадаваў. Але не тым змрочным безнадзейным шкадаваннем, якое час ад часу навальваецца цяжкім каменем на душу ў сталасці, а тым лёгкім светлым шкадаваннем, якое бывае толькі ў маладосці. Аб чым ён тады шкадаваў? Аб каханні, якое, як думалася, абмінула яго. І яшчэ аб чымсьці нават самому незразумеламу.

А цяпер ужо ўсё, ці амаль што ўсё, ёсць: і жонка, і дзіця, і пасада, і ўсё далейшае, да канца самага, як у цягніка, што па рэйках нясецца... Чаму, адкуль жа ў душы гэтае забытае пачуццё, амаль такое ж, як і тады, у студэнцтве?

Нечакана шкадаванне чагосьці навек страчанага апякло Івана Макаравіча, і ён аж прыпыніўся на люднай вуліцы, усё гледзячы на шэры асфальт, які шчыльна і, відаць, навечна прыхаваў зямлю.

Іван Макаравіч не надта ўлягаў за жанчынамі, але да жаніцьбы ён сустракаўся з дзяўчатамі, сёетое добра ведаў і таму, перад тым як несці ў загс заяву, не глядзеў на жонку, як на штосьці адзінае, без чаго і нельга пражыць на свеце. Яна, жонка, была звычайная жанчына, са сваімі слабасцямі, магчыма, яна была найлепшым варыянтам, які ён у той час мог выбраць. Але ўсяго толькі — варыянтам. І пра гэта Іван Макаравіч ніколі не забываў.

Праз пару дзён, выціраючы слёзы, папраўляючы блытаныя валасы, тая дыпломніца сказала: «Альбо мы сыходзімся, альбо разыходзімся назусім. І ты мяне больш ніколі не пабачыш. Толькі будзеш шкадаваць пасля». І ён нічога не мог сказаць, ашаломлены, ён і сапраўды адчуваў: яшчэ які адзіны міг, імгненне, і ён падасць заяву на развод, можа, нават паляціць з пасады і замест таго, каб займацца навукаю, схопіць гаспадарчую сумку і пачне штовечар бегаць па магазінах, штовечар будзе гадзінамі прападаць на кухні. Нават падлогу пачне праціраць. І радавацца будзе. Ён зробіць усё, як яна пажадае.

Так, відаць, гэта і было каханне, можа, нават і тое, пра якое ён дагэтуль столькі марыў, але як гэта ўсё было не так, няправільна... Ён чамусьці ніколі і не думаў, што каханне можа быць такім... І ці добра гэта, ці прынясе яно шчасце?..

Гэта было цяжка, а можа, нават і немагчыма — вось так, адразу, без падрыхтоўкі павярнуць жыццё на сто восемдзесят градусаў. «Пачакай, дай апамятацца»,— папрасіў тады дыпломніцу, дзівячыся яе кволасці, слёзам і гэтай невядомай незразумелай яе ўпэўненасці ў чымсьці такім, у чым ён ужо не мог быць упэўнены. «Усяго толькі тыдзень»,— сказала яна так, як некалі: «Паедзем».

Жонка адразу ж усё адчула — не было ні папрокаў, ні слёз, толькі, як магла, падсоўвала пад рукі сына і сама не вытыркалася з кухні. І яшчэ яна сказала ў тыя дні, што зацяжарыла.

Потым, калі ўсё было скончана, Іван Макаравіч зноў стаў дзелавіты, спакойны і ўраўнаважаны, і адзінае, што ў ім змянілася — новае адчуванне, што ў свеце стала пуста, па-восеньскаму стыла і няўтульна. Ён часта нечакана ні з таго ні з сяго замаўкаў, заціхаў, як бы прыслухоўваючыся да чагосьці, а потым, схамянуўшыся, станавіўся ранейшы.

Пасля гэтага, гады праз тры, Іван Макаравіч першы раз паехаў у адпачынак на мора. Так склалася, што дагэтуль Іван Макаравіч ні разу не пабываў на моры — штогод ездзіў у вёску да бацькоў, пасля ладзіў дачу, потым дачка нарадзілася.

Там жа, на моры, ён навучыўся добра, па-спартыўнаму плаваць. Як і ў любой справе, за якую даводзілася брацца, Іван Макаравіч і тут усё зрабіў дзелавіта і грунтоўна: дастаў кніжку, у якой апісвалася тэхніка плавання, і стаў вучыцца. У канцы першага ж адпачынку ён рытмічна раўнамерна ўзмахваў рукамі, гэтак жа рытмічна выдыхаў у ваду паветра, адчуваючы, як ад напружання ўсё цела выцягваецца ў нітку, што праразае густую ваду.

Спачатку, у першы год адпачынку, Іван Макаравіч плаваў недалёка ад берага, як і большасць адпачываючых, але потым, на другі-трэці год. ён рабіў большыя заплывы, уздоўж чырвоных буёў і яшчэ далей, дзе быў «дзікі» пляж і дзе над берагам высіліся абрывістыя шэрыя скалы.

Пасля заплыву ён садзіўся на беразе, вымаў з поліэтыленавага мяшэчка кавун і нож... Цёплае паўднёвае сонца тут жа сушыла цела — ён любіў гэтыя імгненні адзіноты і расслабленасці, прыемную стому, калі затуманеным позіркам глядзеў удалеч, дзе гайдалася і гайдалася вада, дзе высіліся непрыступныя абрывістыя скалы, уздоўж якіх толькі што плыў. І тое, што ён толькі што ў адзіноце плыў ля высачэнных непрыступных скалаў, напаўняла душу спакоем і невядомай ціхай асалодаю.

Там, на поўдні, у Івана Макаравіча нікога не было, ён і не цягнуўся надта да людзей, ён нават газеты ленаваўся чытаць. Гады праз два ён прывык да невялічкага паўднёвага гарадка і прыязджаў туды, як у сваю вёску вяртаўся.

Да сям'і Іван Макаравіч вяртаўся загарэлы, пахудзелы і тут жа адразу ж браўся за работу. Яшчэ болей чэпка, яшчэ больш дзелавіта,— у навуковых часопісах паяўляліся ягоныя артыкулы, у выдавецтве ляжаў рукапіс кнігі, даводзілася ездзіць на канферэнцыі, шмат часу забірала бібліятэка, дзе чытаў у арыгінале замежныя часопісы — ён ужо стаў паказвацца ў прэзідыумах сходаў. Праўда, пакуль што садзіўся ён дзесьці апошні ў апошнім радзе, пільна і цвяроза гледзячы на першыя рады прэзідыума.

З жонкаю таксама наладзіліся адносіны — без лямапту і лішніх слоў, як бы па маўклівай дамоўленасці пра штосьці ніколі не ўспамінаць і не папракаць адно аднаго. Ва ўсім гэтым было шмат ад таго, што бывае і ў другіх сем'ях — ніколі не гаварыць між сабою пра тое, пра што ніхто, ніводзін староннi чалавек не ўведае. Жонка нават загадвала, камандавала Іванам Макаравічам — тое прынясі, гэтае дастань, і ён паслухмяна слухаўся. Увогуле, у гасцях ці прымаючы гасцей, жонка неяк аж расцвітала. І толькі калі-нікалі, раз ці два ў месяц нечаканым незразумелым бляскам загараліся вочы Івана Макаравіча, і жонка, убачыўшы гэты бляск, тут жа сціхала, гаварыла: «Ну, добра, добра, хай патвойму будзе. Загарэўся ўжо...»

Сын і дачка падрасталі, Іван Макаравіч любіў іх тым здаровым прыродным пачуццём, якое само сабою ўзнікае ў бацькоў да сваіх дзяцей. Часта Іван Макаравіч думаў, што калі б не дзеці, то ён, можа,

і павярнуў бы штосьці рэзка ў сваім жыцці, назусім абрываючы гэтыя шматлікія ніткі абавязкаў, правоў, якія — гэта ён добра адчуваў — з кожным годам усё больш і больш аплyталі яго.

Але ён тут жа работаю адганяў ад сябе ўсё гэта няўпэўненае, зыбкае, якога шмат у жыцці сучаснага чалавека,— як пра збавенне Іван Макаравіч стараўся думаць пра лета, пра адпачынак ля мора...

І гэта яму ўдавалася.

Яшчэ некалі, маладзейшы, ён з незразумелым жахам і нават болем думаў пра смерць так, быццам яна была побач, быццам тады, у тыя васемнаццаць год, ён павінен быў памерці. Ён днямі і тыднямі разважаў пра сэнс і бяссэнсіцу чалавечага быцця, а потым, за пару тыдняў да жаніцьбы, усё гэта не тое што знікла назусім, а неяк адсунулася работаю, сямейнымі клопатамі, зусім нечаканымі і шматлікімі, кандыдацкай, рукапісам кнігі, артыкуламі, будучай доктарскай. У рэшце рэшт ён прывык цвяроза думаць, што раз усе мы тут, як у коле, з якога пры ўсім жаданні ніяк не выберашся, то на немагчымае і замахвацца не варта, трэба рабіць усё, што можна, цяпер, не выпускаючы з рук найлепшага варыянту, бо другога разу не будзе.

І таму, калі бывала, што Івану Макаравічу даводзілася хаваць інстытуцкага супрацоўніка — звычайна ён станавіўся з чырвонай павязкаю на рукаве ў ганаровай вахце — то і тады ён, канечне, смуткаваў, нагінаў уніз галаву, але між тым адчуваў: каму-каму, а сабе ён мог у гэтым прызнацца, што ягоныя хваляванні — усяго толькі хваляванні душы, а сапраўдны боль і жах смерці так і не працінаў Івана Макаравіча, і таму ён роўным планёрачным голасам мог гаварыць пра чэснасць, прынцыповасць і дзелавітасць калегі, які заўчасна пайшоў і справу якога мы павінны працягваць.

Бо зверху над усім гэтым — і словамі, і труною з нежывым незнаёмым целам, і схіленымі галовамі супрацоўнікаў — было цвярозае разуменне таго кола, з якога нікому яшчэ не ўдавалася вырвацца. І таму ці варта, ці варта папусту надрываць сваю душу?

Сярод зімы Іван Макаравіч хадзіў раз у тыдзень у фінскую сауну з басейнам. Хадзіў не адзін, з дву-

ма-чатырма таварышамі па рабоце, гэткімі ж па ўзросце, як і сам. У люксавым нумары пасля парылкі яны бухаліся ў басейн, потым цадзілі нетаропка піва і тут жа, як гэта вядзецца, гаварылі пра работу, дружна абмываючы костачкі начальству, адчуваючы, што на месцы начальства кожны з іх паводзіў бы сябе больш разумна і больш талкова.

Нарэшце выйшла кніга ў выдавецтве, і адусюль пасыпаліся віншаванні, нечакана завялося многа знаёмых, у трыццаць восем Іван Макаравіч абараніў доктарскую і цяпер ужо садзіўся ў прэзідыумах сходаў у першым радзе, балазе стаў намеснікам дырэктара інстытута.

Новыя сябры паявіліся ў Івана Макаравіча, з новымі знаёмымі ён хадзіў у фінскую сауну, але адзіным і нязменным заставаўся адпачынак ля мора. Іван Макаравіч стараўся не гаварыць пра мора, гэта было ў ягоным жыцці штосьці такое асабістае, пра што нікому не трэба гаварыць.

Як і пра тую дыпломніцу, якая цяпер невядома дзе жыла.

Кожную восень у адну і тую ж пару ён выбіраўся з дому, каб паехаць туды, да мора. Плаваў ён добра і доўга, ён памалу пераадолеў у сабе жах глыбіні, гэтак жа, як і раней работаю, штодзённымі клопатамі і радасцямі ён навучыўся адганяць ад сябе думкі пра смерць, пра сэнс і бяссэнсіцу жыцця, то і цяпер, заняты рэзкімі ўзмахамі рук, рытмічным глыбокім дыханнем, своечасовым паваротам галавы, ударамі выцягнутых ног па вадзе,— заняты ўсім, што непрыкметна давала асалоду, Іван Макаравіч забываў пра той тоўсты зеленаваты пласт вады, што ляжаў пад ім. Плаваў Іван Макаравіч па некалькі разоў на дні, заплывы былі па гадзіне, а то і болей. Цяпер ён аблюбаваў сабе пастаяннае месца для плавання — у канцы гарадскога пляжа, дзе ўжо не было буёў. Звычайна ён плаваў уздоўж дзікага берага і, калі паварочваў галаву, набіраючы ў лёгкія паветра, бачыў зблізку надзвычай абрывістыя высокія, да самага неба, скалы, у трэшчынах якіх раслі яркія, як намаляваныя, сосны. Апошні заплыў Іван Макаравіч рабіў вечарам, той ціхай бязветранай парою, калі нагрэтае паветра застывала над зямлёю і морам, а вада ля скал станавілася, як шкло. У такую пару ён з

асаблівай вастрынёй адчуваў слодыч вады, якая ўшчыльную абцякала кожную клетку напружанага, нацягнутага цела. І яшчэ адчувалася прыгажосць гэтых маўклівых высачэзных скалаў, у трэшчынах якіх ляпіліся немаведама як зялёныя сосны.

Надвячоркам у глыбокім бясхмарным небе звяціў бляклы светлаваты месяц — гэта нагадвала малыенства, тую пару, калі ён выбягаў з хаты на двор, у холад і снег, і бачыў там сярод агромністай бездані зор жаўтаваты выпуклы месяц. Ён застываў, углядаўся ў месяц — бачыў там як бы нейкія горы, даліны, думалася, што там, на Месяцы, ёсць нейкае другое, казачнае жыццё, у якое ніколі не ступіш, а вось можаш толькі паглядзець... Ён плыў і плыў, то апускаючы твар у ваду, то прыпадымаючы, паварочваючы галаву набок, і тады, пасля зеленавата-цьмянай паласы, як з небыцця, асабліва ярка паўставалі сосны ў скалах, светлаваты празрысты серп месяца. І ўсё ніяк не адыходзілі ад яго светлыя імгненні, калі трэба было бегчы ў хату, бо ён ужо зусім застываў на двары ад холаду, але ўсё ніяк не мог адвесці вачэй ад зор, ад жаўтаватага месяца, бо адчуваў тады, яшчэ зусім малы — яшчэ які адзіны міг і ён, шчаслівы, усё на свеце зразумее, усё зможа спалучыць у штосьці адзінае, суцэльнае: і сябе, і бацькоў, і гэты іскрысты з сіняватым адлівам снег, на якім гэтак хочацца пакінуць свой след, і гэту звонкую цішыню... І ўсё тады стане такім простым...

Якое потым, праз гады, ужо ніколі не станавілася, наадварот, чым болей жыў, чым больш адчайна кідаўся ў навуку і ў само жыццё Іван Макаравіч, тым усё больш і заблытана адчуваў усё ў свеце.

Як здаўна вядзецца, не заўсёды і не ўсё гладка ідзе ў гэтым жыцці. Неяк Івану Макаравічу давялося пабачыць тапельца,— сіняе, жахлівае ў сваёй бездапаможнасці і аголенасці цела маладога, год трыццаці, мужчыны людзі дасталі са дна недалёка ад пляжнага вечна люднага берага. Было гэта сярод дня, адразу ж на беразе ля тапельца сабраўся натоўп, падышоў туды і Іван Макаравіч.

Глянуўшы на тапельца, на ягоныя шчыльна самкнутыя пачарнелыя вусны, на заплюшчаныя вочы,— двое мужчын дзелавіта рабілі штучнае дыханне: адзін разводзіў і зводзіў рукі, а другі рытмічна на-

ціскаў на грудзі і ўсё камандаваў: раз-два, раз-два...— Іван Макаравіч тут жа пашкадаваў, што падышоў. У натоўпе нейкая жанчына з пышнымі завітымі валасамі на галаве, з вогненнымі ад памады вуснамі, круцячы наўкруг галавою, гучна невядома каму гаварыла, што гэты чалавек толькі сягоння прыляцеў з Поўначы, падпіў з радасці і, добра разагрэўшыся, палез у мора... А там, відаць, сутарга і схапіла яго.

Сступаючы месца, Іван Макаравіч пачаў выбірацца з натоўпу. Разам з ім пайшоў пажылы, год пяцідзесяці, мужчына. Мяркуючы па ладнаму жывоціку, па спакойным немітуслівым позірку, мужчына той быў самастойны, пры пасадзе добрай, яны пайшлі побач, звязаныя тым пачуццём еднасці і разумення, якое калі-нікалі паяўлялася ў Івана Макаравіча да незнаёмых людзей, і тады міжвольна завязвалася гаворка, здавалася тады, што незнаёмага ведаеш даўным-даўно.

— Я дык во шпільку ўвесь час з сабою нашу,— нечакана ні з таго ні з сяго загаварыў незнаёмы. На хаду ён нават адвярнуў плаўкі, і Іван Макаравіч на фоне палоскі белага незагарэлага цела ўбачыў невялічкую прадаўгаватую бліскучую шпільку, што была прышпілена да плавак. Як і не прыкмячаючы здзіўленага позірку Івана Макаравіча, незнаёмы працягваў: — Калі сутарга і схопіць, трэба ўкалоцца. І ўсё пройдзе. А так у вадзе з ёю адзін на адзін можаш не справіцца.

Іван Макаравіч слухаў незнаёмага і думаў, што той гаворыць пра сутаргі, як пра штосьці жывое, што да пары да часу хаваецца ў глыбокай зеленаватай вадзе.

І тут яму ўспомніліся вочы сваёй сакратаркі — адзінокай пажылой жанчыны, якая мінулай зімою пахавала старэнькую маці. Сакратарка вярнулася з вёскі, дзе было пахаванне, заплаканая, учарнелая. Седзячы за машынкаю, яна гаварыла спакойна:

— Я перад гэтым сон сасніла. Быццам сплю я, як заўсёды, у сваёй спальні. І чую — званок у дзверы. Падымаюся я тады з ложка і да дзвярэй іду. Адчыняю дзверы — гэта я ўсё ўва сне раблю — і гляджу на лесвічную пляцоўку. А там — пуста, нікога няма. І цёмна-цёмна, хоць вока калі. І вецер

цягне нёмаведама адкуль, як з-пад зямлі ўсё роўна. І яшчэ чую я, як нешта па лесвіцы ўніз спускаецца: топ, топ, топ... Тады ўжо, як я прачнулася ўся мокрая, я зразумела, што гэта *яна* прыходзіла. Я тады адразу пра гэта падумала.

— Хто — яна? — спытаў, помніцца, Іван Макаравіч, хоць ужо і здагадваўся пра адказ.

— Смерць, хто ж яшчэ? — спакойна, як дзіцяці неразумнаму, гаварыла сакратарка з такой упэўненасцю, ад чаго ўнутры Івана Макаравіча ўсё пахаладзела. Ён нейкі час моўчкі нерухома глядзеў у вочы сакратарцы, зразумеў адзінае — нічым і ніколі не пераканае сакратарку, хутчэй за ўсё яна пераканае яго ў тым, што смерць і сапраўды прыходзіла...

У той дзень больш Іван Макаравіч не плаваў. Адчуваючы нейкую разбітасць ва ўсім целе, ён доўга папусту туляўся па цэнтральнай вуліцы гарадка, схадзіў на рынак, пабываў нават у кінатэатры, дзе штогод, калі ні прыязджаў, бачыў на афішы нязменных «Чатырох мушкецёраў».

Пад самы вечар у магазіне Іван Макаравіч купіў шпільку.

Пасля, праз дзень-другі, Іван Макаравіч зноў плаваў, і зноў ён быў, здавалася, гэткі ж, як і дагэтуль, толькі ў час заплыву калі-нікалі рукою правodзіў шчыльна ўздоўж цела, дзе цяпер была прышпілена да плавак яна, шпілька...

Але цяпер штосьці замінала Івану Макаравічу — не так лёгка і глыбока дыхалася, не такімі зялёнымі здаваліся сосны ў скалах, нейкімі большымі сталі хвалі, і вада ўсё часцей і часцей трапляла ў рот. Увогуле ў час заплыву думкі цяпер міжвольна павярнулі на другое — думалася чамусьці, што гэтае плаванне не мае ніякага сэнсу і лепей заняцца нечым іншым, што мае пэўны акрэслены сэнс. І таму Іван Макаравіч часта падоўгу сядзеў нерухома на беразе, як бы намагаючыся штосьці ўспомніць, глядзеў на ваду, на маўклівыя непрыступныя скалы.

У той год Іван Макаравіч упершыню паехаў ад мора нечым расчараваны. Седзячы ў мяккім утульным крэсле самалёта, ён глядзеў праз ілюмінатар на белыя, як камячкі ваты, аблачынкі, між якімі бачылася зямля з ніткамі дарог, гнуткія рэкі, маленькія прамавугольнічкі палёў і лясоў, гарадскія

і вясковыя дамы, падобныя на рассыпаныя па зямлі запалкавыя карабкі,— ён глядзеў на ўсё гэта, што некалі радавала і здзіўляла, і думаў, вось вернецца дамоў і адразу ж пачне лячыць зубы. Даўно пара.

Няўжо ён старэе? Няўжо жыццё так і працякае непрыкметна, азірнуцца нават не паспяваеш?

Але зноў пачалася работа, зноў Івана Макаравіча ўшчыльную ахінулі тыя шматлікія інстытуцкія справы, якія, здавалася, калі ён не вырашыць, то і ніхто не вырашыць. Зноў былі пасяджэнні вучонага савета, канферэнцыі, на якіх галоўным было — новыя патрэбныя знаёмствы, артыкулы ў часопісах, новы рукапіс кнігі, фінскія лазні, тэлевізар вечарамі, без якога неяк ужо было і цяжка ўявіць тыя пустыя доўгія гадзіны пасля работы, жонка і дзеці... Жонка яшчэ болей распаўнела і зараз амаль нічым не нагадвала тую тонкую смяшлівую дзяўчыну, з якой некалі было так прыемна бавіць час. У сына ўжо добра чарнелі вусы, хоць і хадзіў у дзесяты клас, ростам ён быў вышэй за Івана Макаравіча, увесь час пацягваючыся, прахаджваючыся з пакоя ў пакой, час ад часу стукаючы рабром далоні ці то па сцяне, абклеенай дарагімі фінскімі шпалерамі, ці то па паліраваным стале, сын з незразумелай асалодаю паўтараў і паўтараў па складах: «Ка-ра-тэ...» Чамусьці ў тую зіму Івана Макаравіча асабліва злавала гэтае сынава «каратэ», гэтая юнацкая нечаканая парывістасць і рэзкасць, гэты агністы бляск у вачах. Дачка, наадварот, была занадта ціхая і паслухмяная, у яе, так атрымлівалася, не было вольнага часу — пасля заняткаў у школе спяшалася ў музычную, затым басейн, дамашнія заданні. Калі Іван Макаравіч глядзеў на бледны твар дачкі, яму станавілася шкада яе, але што ён мог зрабіць: і школа, і музыка, і той жа басейн — усё было патрэбнае, неабходнае нават, без чаго ў сучасным свеце цяжка абысціся.

І толькі калі-нікалі ў Івана Макаравіча паяўлялася пачуццё, што яму штосьці ці то замінае, ці то нейкая няэробленая работа маецца. Гэтае пачуццё паяўлялася і тады, калі слухаў, як дачка іграе на піяніна, і пазней, вечарам, калі лажыўся спаць.

Але што, што яму замінала? Што ў яго заставалася няэробленым?

Ён думаў пра жонку, пра дачку і сына — усё было нармальна, як і год, як і тры назад, і жонка, і дзеці прывыклі, змірыліся, што Іван Макаравіч штогод адзін ездзіў у адпачынак — адпачынак павінен быць сапраўдным адпачынкам, яму і сапраўды хоць раз у год ды патрэбна адпачыць ад важнай адказнай работы, якая гэтулькі забірае сіл, бо, хочаш не хочаш, не хто-небудзь, а ён, Іван Макаравіч, адзін з адказных кіраўнікоў інстытута, і дзякуючы ягонай рабоце сям'я адчувае сябе, як за каменнай сцяною.

У тую зіму Іван Макаравіч часта ні з таго ні з сяго прачынаўся сярод ночы і, паляжаўшы з паўгадзіны, калі засынаў — спалася зусім не соладка, зусім не так, як некалі ў маленстве,— а калі падымаўся. Тады ішоў на кухню, дзе піў ваду, зноў лажыўся і доўга глядзеў у цемру, адчуваючы непатрэбнае цяпло жончынага разагрэтага цела.

Яму трэба было нешта ўспомніць. Толькі вот што?

І яшчэ ў тую зіму Іван Макаравіч пачаў лячыць зубы.

Увогуле тая зіма была нейкая пераломная ў жыцці Івана Макаравіча. Як ніколі востра ён адчуваў, што трэба нешта змяніць у сваім жыцці, рэзка, неадкладна, бо час няўмольна коціць і коціць, а ён... Вось ужо сёмы год на адной і той жа пасадзе, другія пайшлі вышэй, а пра яго як забыліся... Як гэта, відаць, заўсягды вядзецца, калі дрэнны настрой, то адразу ж немаведама адкуль пачынаюць сыпацца непрыемнасці. Малады кандыдат навук зрабіў эксперыментальнае даследаванне, вынікі якога зусім падрывалі той кірунак даследаванняў, што развіваў і падтрымліваў Іван Макаравіч. Трэба было нешта рабіць, альбо закрэсліць дзесяць год работы, альбо... Малады кандыдат навук быў, як і ўсе маладыя, няўвопытны, гарачы, тут жа пачаў абвінавачваць дзейнасць адміністрацыі ўсяго інстытута,— а з гэтым ужо ніяк нельга было пагадзіцца, і таму маладому кандыдату нічога іншага не заставалася, як працягваць свае далейшыя эксперыментальныя даследаванні ў другім інстытуце.

Бяда, як гаворыцца, адна не ходзіць, за сабою дзвюх прыводзіць. Былы аднакурснік, з якім нека-

лі Іван Макаравіч спаў у інтэрнаце на адным ложку, увязаўся публічна ў спрэчку з вядомым акадэмікам. Іван Макаравіч адчуваў, што сваім аўтарытэтным імем мог падтрымаць аднакурсніка, але спрэчка была блытаная, незразумела было, чым яна магла скончыцца, як на яе маглі паглядзець наверсе, як і незразумела было, навошта, дзеля чаго аднакурсніку трэба было нажываць сабе зацятага ворага. Іван Макаравіч так і не падтрымаў публічна аднакурсніка, хоць пры сустрэчы паляпваў аднакурсніка па плячы, даваў парады. Аднакурснік зацяўся, дружба неяк сама сабою распалася, і яшчэ болей адзінока стаў адчуваць сябе Іван Макаравіч. Увогуле Івану Макаравічу здавалася, што з гадамі ў душы ягонай, як лісце з дрэва асенняй парою, штосьці ападае і ападае, і таму цверазей і правільней, без лішніх гарачых неабдуманых эмоцый ён мог глядзець на сваё і чужое жыццё. І таму амаль на ўсе выпадкі жыцця ў Івана Макаравіча быў свой даволі катэгарычны погляд, здавалася, як ён думае і робіць,— гэта найлепшае ў той ці іншай сітуацыі.

Як бы там ні было, але снег урэшце сагнала не раней і не пазней звычайнага, зубы былі добра-такі падлечаны, і сам Іван Макаравіч пасля надзвычай доўгай непрыемнай зімы, пахудзелы крыху, неяк аж памаладзеў і вясёлымі бліскучымі вачыма пазіраў наўкола.

За гэту зіму тое, што ўвесь час замінала Івану Макаравічу, адпала, знікла назусім, як бы другая маладосць пачалася ў яго — Іван Макаравіч часта жартаваў як з мужчынамі, так і з жанчынамі, у фінскай лазні, калі пасля парылкі і басейна садзіўся за столік, застаўлены бутэлькамі з півам, ён разам з другімі цяпер менш гаварыў пра работу, а ўсё болей пра тыя бытавыя анекдатычныя здарэнні, якіх шмат у жыцці знаёмых. «Трэба прымаць жыццё такім, якое яно ёсць, а ўсе гэтыя талстоўскія вучэнні да дабра звычайна не даводзяць»,— часта гаварыў Іван Макаравіч і белай мяккай рукою браўся за бутэльку з півам. Увогуле цяпер ён стаў занадта гаваркі — неяк у сауне ён прыглушаным ціхім голасам расказаў свайму шэфу пра гісторыю з дыпломніцай, пра адпачынкі ля мора. Шэф слухаў, згодна ківаў галавою і гаварыў, пацягваючы піва: «Бывае, браце,

па сабе ведаю, як бывае. Жанчыны, браце, такія адчайныя трапляюцца. Я вот табе пра сябе раскажу»,— ва ўсім гэтым было нешта такое яднаючае з шэфам, што, здавалася, цяпер ніякай вадою не разальеш.

Як і звычайна, на пачатку верасня Іван Макаравіч узяў білет на самалёт. З чыстай душою ў вясёлым настроі ён выбраўся з дому. Увогуле на пачатку той паездкі Івану Макаравічу неяк надта ўжо шанцавала. Яшчэ ў аэрапорце ён заўважыў год трыццаці жанчыну, якая вельмі нагадвала тую дыпломніцу. Іван Макаравіч аж здзівіўся, наколькі была падобная гэта жанчына. Яны рэгістраваліся на адзін рэйс. «Ты сядзеш побач, ты абавязкова сядзеш побач»,— з нейкай незразумелай і самому дзіцячай забабоннасцю шаптаў Іван Макаравіч і ўсё не зводзіў вачэй з твару жанчыны. Жанчына часта азіралася, чамадан у яе быў вялікі — відаць, таксама выбралася адпачываць.

Ці то дапамагло шаптанне, ці то гэта быў проста шчаслівы выпадак, але месцы іх у самалёце аказаліся побач. І тады, як селі ў самалёце, як магутна загудзелі маторы, як у імклівым разбегу самалёта іх злёгку адкінула назад, на спінкі сядзенняў, у Івана Макаравіча адразу ж аднекуль паявілася ўпэўненае прадчуванне, што ён абавязкова сыдзецца з гэтай жанчынаю і на гэты раз...

І вось — зямля далёка ўнізе і ўсё тое, што на ёй некалі было — таксама далёка ўнізе, а цяпер пакуль — асцярожнае слова, усмешка, за якой — гэткі ж мяккі асцярожны позірк то ў адкрытыя чорныя вочы, то на левую руку, дзе жаўцеў пярсцёнак.

Яе звалі Адаю, і яна ехала, праўдзівей, ляцела першы раз на поўдзень,— пасля абароны кандыдацкай, бо дагэтуль то часу не было, то магчымасцей... Яна штосьці недагаворвала, і ў гэтым для Івана Макаравіча была свая асалода, як свая асалода была і ў нязвыклым імені, у яе нізкім хрыплаватым голасе, да якога Іван Макаравіч адразу ж прывык, гэтак жа, як адразу ж паявілася боязь згубіць яе, Аду... «Ада, Ада»,— паўтараў ён яе кароткае дзіўнае імя, і ў той жа час самі сабою сыпаліся лёгкія жартаўлівыя словы, якія неяк бяздумна, без ніякага намагання паяўляліся і паяўляліся...

Усё павінна было быць цудоўна,— гэтае прадчуванне, што ён сыдзецца з Адаю, усё мацнела, Іван Макаравіч адчуваў гэта і па позірку Ады, і па яе недагаворанасці, і па той сарамлівай густой чырвані, якая час ад часу паяўлялася на шчоках Ады. І яшчэ было адчуванне, што *нехта* як знарок узяў ды і звёў іх... Няўжо, няўжо і сапраўды прырода, сляпы бяздумны выпадак могуць паўтарыць у жыцці тое, што, здавалася, навечна страчана?

Спускаючыся з трапа самалёта і ўдыхаючы вільготнае марское паветра, Іван Макаравіч адчуваў такую ўзбуджанасць, якой даўно не адчуваў, ён разумеў, што на гэты раз ён не ўпусціць свайго варыянту, не задумваючыся паедзе туды, куды паедзе Ада. Але Ада ехала першы раз на поўдзень, і ёй было усё роўна, куды ехаць...

І там, у сваім знаёмым звыклым гарадку, куды яны прыехалі, было ўсё добра,— на пачатку верасня, калі адны раз'ехаліся з дзецьмі, а другія яшчэ не прыехалі, вольных кватэр было шмат, яны тут жа знайшлі сабе ў адной гаспадыні два пакойчыкі, безумоўна, асобныя, і яму і ёй... І ўсё не сыходзіла з твару Івана Макаравіча шчаслівая ўсмешка; дом, работа, дзеці, жонка,— усё гэта стала нечакана далёкім і дзіўным, як з другога невядомага жыцця, расказанага некім... Наперадзе быў месяц, цэлы месяц.

У той жа вечар яны пайшлі да мора. Дарогаю Іван Макаравіч таксама шмат гаварыў і гаварыў, невядома, адкуль што бралася...

Плавала Ада ўсяго толькі ля берага — па-жаночы шырока разводзячы рукамі, стараючыся не мачыць твару. І ў гэтай яе няўмеласці Івану Макаравічу бачылася прыгажосць. Стоячы на беразе, ён даваў парады, Ада спрабавала слухаць іх, ды нічога ў яе не атрымлівалася.

— Ну, а цяпер мая чарга плаваць,— сказаў Іван Макаравіч, калі Ада выйшла з вады. Валасы яе ўсё-такі намоклі, і яна ішла па беразе, схіліўшы галаву набок і выціскаючы абедзвюма рукамі ваду з валасоў — як дзяўчынка, як тая дыпломніца...— Ты пачакай пакуль. Глядзі, гэта так проста...

Ён зайшоў у цёплую ваду, адштурхнуўшыся нагамі ад пакатага берага, які тут жа апускаўся туды, у

невымерную глыбіню, звыкла паклаў сваё цела амаль гарызантальна, апусціў твар у ваду і рэзка ўзмахнуў рукою...

Спачатку ён не адчуваў стомы, перад вачыма ўсё яшчэ стаяла Ада, як яна ішла па беразе, схіліўшы галаву набок і выціскаючы ваду з намоклых цяжкіх валасоў, але потым, калі нечакана заўважыў, што апошні чырвоны буй далёка ззаду і шэрыя абрывістыя скалы са знаёмымі соснамі аказаліся зусім побач, ён адчуў, што не хапае паветра, і тады стаў радзей узмахваць рукамі. Быў гэткі ж бляклы месяц у небе, як і мінулыя разы, гэткае ж адчуванне нацягнутасці свайго цела, гэткае ж чаргаванне паласы цёмна-зялёнай вады і светлага вячэрняга неба.

Калі ўжо думаў паварочваць назад да берага, Івану Макаравічу падалося, што левая нага анямела. Пачынаючы ад пальцаў, яна як бы пачала дзеравянець. Тут жа Іван Макаравіч мацней забіў нагамі па вадзе — не, усё было нармальна, ногі згіналіся так, як і дагэтуль. Але пачуццё жаху перад марской глыбінёю невядома адкуль запаўзло ў душу, і цяпер ён ужо толькі і думаў, каб хутчэй дабрацца да берага. Успомнілася мінулагодняя размова з пажылым невядомым чалавекам, звыклым натрэніраваным рухам рукі Іван Макаравіч правёў па плаўках.

...Шпількі не было. Ён забыў пра яе. Заняты радасцю, ён забыў пра шпільку...

І як толькі Іван Макаравіч зразумеў гэта, ён чамусьці спалохаўся яшчэ болей, як нядобры знак ці намёк быў у тым, што ён забыў шпільку. І калі б побач быў чалавек, але побач нікога не было, адны дзікія, непрыступныя, маўклівыя скалы.

Звыклы рытмічны рух цела быў парушаны, і, можа, ад гэтага, а можа, і ад пачуцця жаху нечакана Іван Макаравіч і сапраўды адчуў, што нагамі не можа паварушыць — штосьці мёртва сцэментавала іх, і калі ён з усяе сілы спрабаваў разагнуць ногі, невыносны, нясцерпны боль працінаў усё цела. «А-а, гэта яна, сутарга»,— ён глянуў на выратавальны бераг — далёкай-далёкай вузкай, у палец, недасяжнай палоскаю быў ён цяпер. І калі ён крыкне, то ці пачуе хто адгэтуль?

«Што ж гэта я нарабіў? Чаго я спалохаўся? Калі б я не спалохаўся, то ўсё было б нармальна... І ча-

му, чаму ўсё гэта зараз, цяпер, так нечакана? Чаму гэта са мною, у чым я правінаваціўся? Навошта, навошта ўсё так няправільна, незапланавана і няправільна? Шпілька, няшчасная, і з-за яе... Як жа я забыў пра яе? Што ж гэта такое?..»

Цела дзеравянела ўсё вышэй і вышэй, быццам нехта нябачны ўпіваўся ў непатрэбныя цяпер ногі і цягнуў, цягнуў уніз, у тыя цёмныя, невымерныя марскія глыбіні... І цяпер Іван Макаравіч ужо не плыў, цяпер ён стараўся ўтрымацца толькі на паверхні вады, ведаў, што яшчэ праз якія імгненні сутарга можа схапіць вышэй, і тады ўжо... І самае жахлівае, што пры ясным розуме Іван Макаравіч нічога не мог зрабіць.

«Навошта, навошта ўсё так хутка і няправільна?» — адно і тое ж магутна білася ў ім, шукала выйсця. І самае пакутлівае, што выйсця нідзе не было. І шкадаванне чагосьці навек страчанага, і жахлівасць невымернай марской глыбіні перапляліся ў ім. Чамусьці ні з таго ні з сяго нечакана ўспомніліся дошкі ў плоце, якія некалі палохалі,— як даўно гэта было!.. Івану Макаравічу захацелася ўсё, што было ў ягоным жыцці, звязаць у нешта адно, суцэльнае, але нічога не атрымлівалася, наадварот, усё, што дагэтуль здавалася цэльным і ясным, рассыпалася, развальвалася. А часу падумаць, апраўдацца ці абвінаваціць — на гэта часу не было, сутарга цягнула і цягнула яго ўніз, туды, дзе, здавалася, не было ніякага дна. І, відаць, не столькі ад нясцерпнага болю, а як ад гэтага — што часу не было, што ўсё на свеце рассыпалася, ад свайго бяссілля звязаць усё ў сваім жыцці ў штосьці суцэльнае — Іван Макаравіч крыкнуў на ўсю моц. Раз, другі...

— Памажыце,— адзінокі голас адбіўся ад скалаў і паляцеў уздоўж іх туды, да люднага пляжнага берага. Ці выйшла адтуль, ад выратавальнай станцыі, маторка, гэтага ўжо Іван Макаравіч не бачыў.

# Печ

1

Печ гэту клаў яшчэ бацька. Не помніцца ўжо, дапамагаў я тады класці печ ці не,— відаць, усё-ткі не, калі і дапамагаў, то — малодшы брат Грыша, а я ў той час вучыўся. Я тады зрэдку прыязджаў дамоў і бачыў, як меншае, усыхае двор, як ніжэе, бы ўрастае ў зямлю, хата, як карацее вуліца і ўсё бліжэе да сяла выган, куды, яшчэ помніцца, ганяў свіней, як мялее рачулка, у якой вучыўся плаваць. І было мне тады лёгка і ясна, думалася, вот я — вырас і цяпер саўсім другі: разумны, граматны — граматнейшы за таго ж бацьку ці маці, цяпер я саўсім не такі, якім быў нядаўна, калі, невядома чаго высунуўшы язык, гатовы быў штодня лётаць ад світання да змяркання ля завуголля гэтай жа хаты, па гэтай запыленай вуліцы. І невядома чаму радаваўся... І глядзеў я тады, як вяртаўся з далёкай дарогі, на ўсё знаёмае ад маленства неяк зверху, як, відаць, глядзяць на гняздо птушкі перад сваім першым адлётам у вырай. Толькі суму ў мяне тады не было — гэта добра помніцца. Была весялосць, унэўпенасць у блізкім шчасці, якое чакала недзе там, далёка-далёка ад гэтай вядомай вуліцы, на якой жаўцее пясок і дзе ціснецца да варот і платоў мурава, ад той жа вядомай печы...

Калісьці печ, як помнік на цэнтральнай гарадской плошчы, красавалася пасярод хаты; вялікая, з плітою і, як тады гаварылі, лежаком. Гэты высокі, ледзь не да столі, ляжак узімку быў заўсёды цёплы, як і чарэнь, на якой так добра было грэцца нам, дзе-

цям. І яшчэ слухаць доўгія блытаныя размовы дарослых. І ў тым, што мы, нябачныя, маглі слухаць доўгія блытаныя размовы дарослых, была салодкая таямнічасць, далучэнне да другога, не вядомага нам, жыцця.

У тыя доўгія зімовыя вечары маці часта ці то прала, ці то штосьці шыла па ручной швейнай машыны. І яшчэ паціху спявала. Тады маці часта спявала: і ў лесе, калі збірала ягады, і на агародзе, калі палола грады, і ў хаце. І дзіўна было, думалася, чаму і для каго маці спявае, калі ніхто, акрамя нас, яе не чуе. Калі ж дома быў бацька, то ён мала гаварыў, скажа слова-другое і — маўчыць, смокча сваю папяроску. Бацька ўвогуле дома не надта сядзеў, для яго заўсёды знаходзілася работа, зранку сыходзіў, а толькі вечарам ці ў абед паказваўся. Праўда, былі дні, калі бацька прыводзіў у хату мужчын, яны ўсаджваліся за стол, за якім бацька гаварыў: «Ну вот, мужчыны, угашчайцеся. Чым багаты, тым і рады». Нам, малым, побач з дарослымі сядзець не дазвалялася, і таму на печы мы маглі толькі чуць звон шклянак, бразганне вілак аб талерку, аханне ды хэканне, затым столь памалу зацягвалася дымам ад самакрутак, і яшчэ чулася:

— Арудзія ў нас былі бальшыя. Стодвацццаткі. Так што нас берaглі і попусту абы-куды не кідалі. У нас цехніка была, цягачы, мы, бывала, едзем, а вы, пяхота, пяшочкам. Мы, бывала, калі ўжо гахнем дык гахнем, зямля дрыжыць. Багі вайны, што ты хочаш...

— А што вы, што — вы... Хвалькі вы... Мы вас груддзю зашчышчалі. Калі б не мы, дык ба ад вас і вашых арудзій нічога не засталося.

— А-а, кіньце вы абодва, хлопцы... Я вот вам скажу, што намнога лацвей, калі з аднаго сяла разам. Я вот ніколі не забудуся, як мяне Іван Язэпаў з-пад самага носа ў немца выцягнуў...

Чамусьці мужчыны гаварылі не «немцы», а «немец», і ў гэтым было нешта круглае і цвёрдае, як той камень, якіх поўна было ля бальшака...

Калі ж у час такіх бясед вярталася дамоў маці, яна пачынала бразгаць посудам, падмятаць венікам хату — была недавольная, што зноў — выпіўкі, зноў гэтыя бясконцыя размовы пра вайну, а работа, як

заўсёды, стаіць недаробленай. У маці, як помніцца, не бывала такога дня, каб уся работа была зробленай. Але, як бы там ні было, пры чужых людзях маці не сварылася. Калі толькі — назаўтра, на цвярозую галаву яна пачынала: «Ну, што ты сабе думаеш, чым я цяпер дзяцей карміць буду? Апошняе на стол вынес, ты б ужо лепей сваю сарочку зняў...» І тады бацька вінавата ўгінаў галаву, маўчаў, а калі ўжо маці занадта насядала, гаварыў: «Ну вот, можа, печ каму зраблю ці калодзеж выкапаю. А то вунь — і хату, можа, дзе скласці прыйдзецца».— «Можа, заробіш, а можа, і не, гэта яшчэ віламі па вадзе пісана. А чым я дзяцей цяпер карміць буду?»

Сварка заўсёды канчалася тым, што бацька, не снедаўшы, апранаўся і сыходзіў з хаты. «Ну, сварыцца дык сварыся, але чаму ж ты тады не ясі?» — з нейкай адчайна-жаласнаю нотаю ў голасе пыталася маці. «Еш сама»,— кідаў пераможна бацька з-за парога. Затым гучна бразгалі дзверы — аж сцены хаты дрыжалі,— бацька сыходзіў з двара, а маці голасна плакала і бедавала: «Во натура дык натура... Унатурыцца, дык цяпер дзень ці два есці не будзе. Галодны будзе хадзіць. Ужо і слова ўпоперак не скажы».

Але гэта бывала назаўтра, а пакуль пасля таго, як мужчыны, накурыўшы, натаптаўшы, разыдуцца па сваіх хатах, дзе іх даўно прачакаліся такія ж баявыя, як і наша маці, жонкі, бацька будзе доўга сядзець за сталом на лаве, звесіўшы галаву,— з-за лежака добра бачыцца ягоная лысіна, здаецца, ён і нарадзіўся з гэтай лысінаю, а тым болей ніяк не верыцца, што калісьці ў бацькі была вайсковая форма, былі вусы, чорныя валасы, і калі б не картачка, што ляжыць у шуфлядзе стала, дык мы ніколі б не паверылі ва ўсё гэта. І яшчэ з-за лежака бачыцца на сцяне хаты, абклеенай газетамі, дзіўны хісткі цень бацькі — ад святла лямпы, якая стаіць на стале сярод пустых талерак. Бацька будзе доўга нешта сам сабе шаптаць, называць ці то мясціны, якіх мы ніколі не чулі, ці то імёны. «Ну, ідзі, ідзі ўжо кладзіся спаць»,— будзе гнаць яго маці ў ложак, а ён толькі ўсё махае ў яе бок рукою і гаворыць: «Эх, чудачына ты, чудачына... І што ты ў жызні панімаеш?..» — «Ну добра, ты затое панімаеш, усё па-

німаеш, а я ў цябе дурніца»,— чамусьці згаджалася маці і, трымаючы бацьку за рукаў, вяла да ложка.

Якая ўсё-ткі ўчэпістая памяць!

Тады, як помніцца, маці ледзь не штогод прымушала бацьку перарабляць печ: то нізкая і малая была, два чыгуны не ўмяшчаліся, то — надта высокая і вялікая, многа дроў згарала і ўсё без толку. Як цяпер думаецца, печы тыя былі ні пры чым, проста ў маці была магчымасць іх перарабляць, і гэта — як тая абноўка. А новае, як вядома, лепш за старое.

Ва ўсякім разе, на гэта спадзяюцца.

І бацька паслухмяна перарабляў. Я і Грыша дапамагалі: мясілі як маглі гліну, падносілі цэглу. Але класці печы бацька не дазваляў. «Го-о, добрую печ скласці — гэта не блін спячы»,— часта паўтараў бацька. І таму класці печы ні я, ні Грыша так і не навучыліся. Увогуле, печ — для мяне такая мудрая штуковіна, у якой і невядома як разабрацца. Не толькі тады, а і цяпер...

У тыя гады, як вучыўся ў далёкім горадзе, печ зноў перарабілі, вынеслі яе ў сенцы, а ў хаце зрабілі паравое ацяпленне.

Гэта была апошняя печ, якую клаў бацька...

І вось цяпер ад той бацькавай печы застаўся толькі груд бура-чырвонай цэглы, пабітай і цэлай, перамешанай з пяском і прысохлай глінаю. Разбіраючы печ, Грыша выкідаў цэглу на двор праз вынятае акно сенцаў.

Доўга стаю ў двары ў нейкім здзіўленні і шкадаванні, як бывае, калі бачыш перад сабою нябожчыка, якога дагэтуль добра ведаў. Пахне пылам, цэглаю і, здаецца, разбураным жытлом.

Заходжу ў сенцы.

Там, дзе была печ, шпалераў няма, жаўцеюць голыя сцены — аказалася, што печ займае не так ужо і шмат месца. У сенцах таксама, як і на двары, пахне вострым халодным цагляным пылам, хоць на вуліцы ў гэты жнівеньскі дзень цёпла — градусаў ля дваццаці. Гэта лета ўвогуле спякотнае і сухое, кажуць, што пагарэла жыта, што сонечная радыяцыя павышаная і таму такая спякота, млявасць і ўзбуджанасць, калі не ведаеш, куды падацца і што рабіць, адчуваеш толькі, што табе трэба нешта. Вот толькі што?..

## 2

Маці сядзіць на канапе — апошні час, калі не прыязджаю, маці вяжа. А то і проста глядзіць тэлевізар. Так і прызнаецца: «Не ведаю, як гэта даўней жылі без целявізара». Убачыўшы мяне, маці святлее, адкладае ўбок вязанне, падымаецца:

— Ну, во, і заявіўся. А я ўжо не ведала, што рабіць.

— Што ж ты збіралася рабіць? — прыкмячаю, што з кожным маім прыездам маці меншае, паўнее. І ўжо даўно не чуваць яе песень, а калі ні паявіся, клопаты, клопаты...

— Ды вот печніка не можам знайсці. Цяпер жа печ скласці, дык аж семдзесят рублёў на стол кладзі. Без разгавораў. Ды яшчэ паішчы гэтага печніка. Са свечкаю... Вывеліся, як і пастухі... Ёсць тут адзін спец, дык жа адзін на тры сялы. Грыша хадзіў да яго, казаў, што заняты, вочарадзь у яго цэлая, аж да восені.

— А можа, самі паспрабуем? Пліту і ляжак рабіць не будзем жа. Навошта яны табе?..

— А што тут мудрага,— як заўсёды, маці хутка знаходзіць выйсце з усякай бяды,— вазьміся... Калі што якога — Колю Яшкавага папросім паказаць. Ён бы і сам зрабіў, але гэта ўборачная зараз...

Маці гаворыць і ставіць на стол абед.

— А дзе ж Грыша? — усё тое ж пачуццё здзіўленасці і разгубленасці, якое паявілася, калі ўбачыў у двары груд цэглы, не праходзіць.

— Ды дома ён. Пайшоў на раку мыцца.

— Як ён там са сваёй Іркаю жыве?

— А-а, усё па-старому,— маці, паставіўшы на стол талеркі, садзіцца побач і махае рукою,— як не было толку, так і не будзе. Разводзіцца яму трэба ды добрую бабу браць. Хай сабе нават і з дзіцем. Я во падумала, падумала ды пісьмо Андрэю напісала, каб ён, як старэйшы, замест бацькі на Грышу пасварыўся за п'янкі. Ну, а той жа, як і Грыша, таксама ў гарачай вадзе купаны, адразу ж целяграму адбівае: скажыце Грышу, хай да мяне срочна прыязджае. Грыша ўжо, нічога не ведаючы, быў і сабраўся ехаць. Каб не печ, дык ба і паехаў. Ну, дык вот... А сягоння паштарка ад Андрэя пісьмо прыно-

сіць — пытаецца Андрэй, чаго Грыша не паказваецца, ён яму ўжо месца падрыхтаваў...

Тады, як з Грышам грэўся зімовымі вечарамі на печы, Андрэй ужо вучыўся ў інстытуце. Андрэй — нейкі шчаслівы, яму заўсёды шчасціла: і інстытут талковы закончыў, і жонка добрая, і работа — зараз начальнік аддзела, і жыве ў харошым месцы, дзе шмат азёр з рыбаю. З часам усё больш задумваешся — а мо і сапраўды ёсць нейкі загадзя распісаны лёс, бо як часта бачыш пакутлівы віхлясты шлях аднаго чалавека, ад маленства да старасці, і роўнае спакойнае жыццё другога... І мо тут няма ніякай містыкі, а толькі — халодныя законы, згодна з якімі наша ўяўная свабода — таксама распісаны як на мінулае, так і на будучае бяздумны шлях бяздумнай матэрыі. І ўсё. І болей нічога. І гэта, можа, калі задумаешся добра, страшней любой містыкі, страшней той казкі пра старэнькага дзядулю, які ўсё на свеце ведае і, калі ўгодзіш яму, дык і параіць што можа. Ці нават — дапаможа...

Грыша дагэтуль штогод у час водпуску ездзіў да Андрэя — лавіць рыбу ў азёрах. Грыша любіць лавіць рыбу, як і бацька калісьці. Здаецца, збіраўся і сёлета паехаць. Збіраўся...

— Дык вот,— працягвае маці і падсоўвае мне талерку з салам,— прыслаў Андрэй тое пісьмо, а Грыша ўзяў яго ды і распячатаў. Прачытаў. Ох, і даваў ён мне, ох, і даваў,— маціківае з боку на бок галавою.— Дык што я, пытаўся, ужо алкаголікам стаў у цябе? — вочы ў маці вялікія і сумныя. І саўсім ёй не смешна.

— Можа, і ты на Грышку пасварыўся,— вучыць маці.— Утраіх калі мы на яго дружна насядзем, няўжо не паслухаецца? А то і праўда, распусціцца, будзе, як той Лёшка Заборскі, той ужо, кажуць, у міліцыі начуе, бадзяецца абы-дзе... Скажы ты Грышу, хай кідае свае п'янкі...

Я маўчу. Сказаць нічога не магу. Бывае такое: гаварыць пачнеш — толькі горай будзе.

Як пачуўшы гаворку, у хату заходзіць Грыша. У руцэ трымае белы ручнік. Грыша невысокі, як падлетак які. «Некалі было расці»,—гаворыць пра яго маці. Пасля васьмі класаў Грыша пайшоў рабіць вечарамі кінамеханікам, днём вучыўся, недасыпаў,

потым, пасля школы, вучоба ў інстытуце, не па стацыянары, прыватная кватэра, сталоўкі, буфеты і ўсё далейшае, гэткае ж блытанае і мятае...

Грыша скоса пазірае на мяне, быццам я ў чым вінаваты, на маці, якая, як толькі Грыша паказаўся, пакрыўджана падціскае вусны.

— Ну, прывет,— нарэшце выціскае з сябе Грыша, а потым ківае маці галавою: — Стаў і мне на стол.

Дзіўна, чамусьці побач з Грышам адчуваю сябе няёмка. І неяк вінавата. А мо — гэта заўсёды так: чым болей ведаеш чалавека, тым цяжэй з ім, тым лягчэй яго пакрыўдзіць, бо часам і позірку досыць, каб чалавек абразіўся. З чужымі малазнаёмымі людзьмі гэтага не бывае. Ім і спавядацца лягчэй.

— Зараз пастаўлю,— маці падымаецца і ідзе на кухню. Там яна бразгае посудам, потым паказваецца на парозе: — У мяне там кропля засталася. Можа, паставіць на стол? Госць жа ты як-ніяк,— маці глядзіць на мяне, госця.

Зыркаю на Грышу — падціснуўшы вусны, злосна разглядае кляёнку. Мокрыя, яшчэ не высахлыя валасы западаюць яму на вочы. Ківаю маці галавою — стаў тую няшчасную кроплю...

Пасля ўжо, як вечна худы твар Грышы мякчэе, як позірк ягоны становіцца не такі калючы і насцярожаны, ён нечакана ківае галавою ў мой бок і гучна пытаецца ў маці:

— Дык ты, можа, і яму пажалілася на мяне? І ён, можа, мне ў бальніцы месца падрыхтуе? Таксама ж — грамацей...

Але цяпер і маці пасмялела:

— А ты што думаеш, я табе зла жадаю, ці што... Табе трэба кідаць гэта...

— Што — гэта? — голас у Грышы цяпер больш тонкі, чым звычайна.

— Ды п'янкі свае... Ты што думаеш — да дабра яны не давядуць, нікога яны яшчэ не даводзілі.

— А хто табе гаворыць, што я — п'яніца? Ну, скажы хто? Калі б я піў, дык ба мяне з работы даўно вытурылі б. Ты хоць гэта панімаеш?

— А цяпер усякіх дзержуць,— доўга не думае маці.— Ды і тая ж Ірка гаворыць пра гэта. Прыехала дамоў і мацеры напяяла. А тая па ўсім сяле раз-

несла: ах, Грышка п'яніца... Прыятна мне слухаць на старасці?

— Ёй трэба апраўдацца, дык яна і гаворыць. Я з ёй амаль не жыву ўжо.

— Ну, дык разводзься, калі на тое пайшло. Па закону. Не цягні... Ды зноў жаніся. Выберы сабе якую жэншчыну ды жаніся. Мала што — дачка... Аліменты ці так, ці гэтак плаціць будзеш.

— А-а,— Грыша махае рукою ў бок маці, зноў налівае сабе чарку, хэкнуўшы, адным дыхам выпівае яе, а потым гаворыць: — Хваця. Нажыўся з адной, як рэдзькі наеўся. Яны цяпер усе адзінакавыя. Адзін жыць буду.

— Ну, вот, ну, вот,— маці, махаючы на Грышу рукамі, ледзь не ляскае ў далоні,— я так і ведала, што гэта пачую. Адзін... Не мыты, не кормлены ў час, саўсім ад рук адаб'ешся, будзеш бадзяцца чортведама дзе. А што — табе не можна жыць добра? Вот спрасі ў яго,— маці, як на бога, ківае ў мой бок,— што, мы табе зла жадаем, ці што? Мы ж хочам, каб ты жыў добра. Ну, скажы, што табе замінае: і кварціра ёсцека, і дачка здаровая, і работа... Ну, нашто табе яшчэ гэтыя выпіўкі?..

— А-а, маці, што ты ў жызні панімаеш? — гаворыць Грыша знаёмыя словы. Ён хутка, як і маці, махае рукою. Грыша ўвогуле хуткі і гарачы: і ажаніцца да дваццаці паспеў, і нажыцца... Маці кажа, што Грыша тварам — па бацьку, у таго калісьці, у маладосці, гэткія ж чорныя валасы былі і гэткія ж вочы, а характарам Грыша — па дзеду. Той таксама гарачы быў. А мо — і не па дзеду, пры чым тут той дзед, калі маці гэткая ж: памост пачне мыць, не дамыўшы, і другой работаю можа заняцца...

Грыша апускае галаву і доўга-доўга трэ далонню вочы. Калі ён, нарэшце, прымае далонь, бачу пакусаныя ярка-чырвоныя вусны, бліскучыя мокрыя шчокі. Ён гаворыць, і ў яго дрыжаць вусны:

— Яшчэ і той... У бальніцу адправіць хоча... Прывыклі: чуць што — у бальніцу ці ў міліцыю...

— Дык жа гэта не адзін раз, Грыша,— цяпер ужо цішэй гаворыць маці.— Пры чым тут Андрэй?! І ён жа за цябе перажывае, не пастаронні ён табе. Паглядзі сам, азірніся, колькі людзей ні за што прападае,— маці заступаецца за Андрэя.

— Ладна, вы ўсё панімаеце, адзін я ў вас ёлупень.— Грыша стараецца глядзець у акно і час ад часу пакусвае вусны. Дыхае ён неяк рыўкамі. Толькі цяпер бачу, як ён высах. Мо — ад вечных сварак з Іркаю, а мо — і ад выпівак... Ды і ўвогуле, хто, які суддзя можа ўпэўнена сказаць, што за што чапляецца: выпіўкі за дрэннае жыццё ці наадварот... Усё гляджу і гляджу на ягоны твар, па шчуплую, як у падлетка, постаць. Першы раз бачу, як плача. Дагэтуль усё трымаўся, гыркаў, нічога не гаварыў пра сваё жыццё, а вось цяпер, нарэшце, не вытрымаў...

— Хочаш, паедзем на поўдзень. Грошы ў мяне ёсць. Печ, во, складзём і — махнём самалётам. Ты ж ні разу не быў на моры. Балячкі свае загоіш,— колькі помню, на спіне ў яго балячкі, застуджаны вечна...

— А-а, трэба мне тваё мора.— Грыша выцірае далонню твар і вочы.— Мне вунь на работу скора выходзіць. Што мне, многа трэба, ці што? Ну, малую паглядзець, каб хоць на свае ногі стала. Што яна, твая хвалёная Ірка, паглядзіць яе, ці што? Яна сабе лянуецца згатаваць, куды ўжо — малой... Завядзі малую ў школу, прывядзі назад, урокі гэтыя — сам не ўсягды разбярэшся, дзе ўжо там малой... Тады, во, табе...

— Не трэба мне твая помач, абы ты жыў добра,— махае маці рукамі.

— Ладна,— таксама махае рукою Грыша. Цяпер ён нас не саромеецца, толькі ўсё часцей і часцей выцірае пальцамі вочы. Ён глядзіць на кляёнку і гаворыць: — Ды і на рабоце не мёд. Новае начальства, як новая мятла...

Цяпер ён будзе доўга гаварыць. Гэта добра, гэта вельмі добра, што ён, нарэшце, пачаў гаварыць...

## 3

З Грышам біліся, здаецца, ледзь не па тры разы на дні. Год розніцы ва ўзросце, як казала тады маці, абодва дурні, чаму ж не біцца... Калі бацькі сыходзілі з хаты на дзень, яны часта замыкалі нас у хаце, пабойваліся, каб мы чаго не «ўтварылі»: ці то ў калодзежы маглі ўтапіцца, ці то ў лес збрысці і заблудзіць, ці то, чаго добрага, знайшоўшы запалкі, і цяпло ля вугла хаты раскласці...

І вось там, у замкнёнай хаце, чаго за доўгі дзень ні было: і бою, і плачу, і смеху... У канцы дня, стомленыя і галодныя, мы заціхалі на печы — грэліся, чакалі бацькоў. І тады, як сцішаныя і адзінокія ляжалі на чарэні і палохалі адзін аднаго страшнымі казкамі, абодва адчувалі такую еднасць і адасобленасць ад усяго свету, якіх потым, здаецца, ніколі не было.

Бо потым, у школе, у наша жыццё пачало ўлівацца штосьці новае, болей шумнае і яркае, а тое дзіцячае пачуццё еднасці і адасобленасці памалу знікла, як бы рассмакталася, і ў кожнага паявілася сваё, свой свет, напоўнены сваёй радасцю і горам, і ўсё гэта — амаль гэтак жа, як і тыя шматлікія сусветы, якія, як кажуць вучоныя мужы, да бясконцасці пранізваюць адну і тую ж прастору і ніколі між сабою не сутыкаюцца...

Мы падрасталі, станавіліся разумнейшыя, але не заўсёды гаварылі адно аднаму, пра што думалі. Многае з таго, што было дагэтуль між мною і Грышам, было знешнім, паказным. Чаму так?

Пад паветкаю знаходжу старую вышчарбленую сякеру і падыходжу да груды цэглы. Зноў і зноў востра пахне разбураным жытлом. Здаецца, ад гэтага паху ніяк не пазбавішся — як толькі нагінаешся, каб узяць цагліну, так і чуеш... Новай цэглы, што чырванее ля плота, на печ не хопіць, трэ будзе дабаўляць гэтай, старой... Як помніцца, бацька заўсёды так рабіў.

Якая ўсё-ткі цяжкая гэта старая пацямнелая, то ў пабелцы, то ў сажы, цэгла!

Пабольвае галава, і мо таму ўсё, пра што думаецца, часта не мае ніякай логікі — нейкімі ўрыўкамі думаецца то пра Грышу, то пра бацьку, то пра маці. Відаць, гэта ад нязвыклага вострага паху. А мо — і ад сонца.

...Здавалася, бацька нас і не глядзеў, ён і не «васпітываў» нас — не было часу з-за работы. І таму, так ужо атрымлівалася, наша дзіцячае жыццё і тое, дарослае, здавалася розным. І толькі калі мы ўжо занадта пачыналі дурэць, не слухацца маці, яна гразілася: «Вот падаждыце, я бацьку скажу, ён вам пакажа...» — і гэта была найвялікшая пагроза. Бо бацька сварыцца доўга не будзе, у яго размова ка-

роткая, яму трэба другім займацца: і касіць, і араць, і тыя ж калодзежы капаць, і хаты складваць... А што мы ўмелі?.. Толькі есці, гуляць ды дурэць... І таму бацька для нас — нешта настолькі аўтарытэтнае і значнае, чаго ні ў кога не было. Ні ў суседзяў, ні ў другой вёсцы.

А потым... Што ж было потым?

Чаму, чаму я так хутка ўведаў, што ўсё, чым займаўся бацька, гэта не важнае, не галоўнае? Чаму я стаў думаць, што мне ўгатаваны другі лёс і той іншы лёс прынясе мне шчасце і радасць? Чаму я ўжо не хацеў ды і не мог жыць так, як жыў мой бацька?..

...У той год, як ён хварэў і ляжаў на гэтай печы, якую сягоння Грыша разабраў, я, прыехаўшы, хацеў расказаць пра ўсё, што ведаў, хацеў пахваліцца набытымі ведамі: і пра сонца, і пра халодны зорны свет, які ўвесь час невядома куды разлятаецца і ў якім мы са сваёй радасцю і горам пясчынка, што паявілася і вот-вот знікне... Мне хацелася расказаць пра ўсё гэта, бо, як тады думалася, бацька нічога гэтага не ведаў, ды і адкуль ён мог ведаць са сваімі чатырма класамі, і таму па цемнаце сваёй кожную вясну хадзіў разам з другімі вяскоўцамі на могілкі, і таму жыццё ягонае было нетаропкім і спакойным, быццам бы ў бацькі яно магло яшчэ тысячу разоў паўтарыцца, быццам бы і не існавалі другія варыянты жыццяў, а вось гэтае ягонае жыццё было найлепшым. ...З гэтымі вісклівымі свіннямі, з кароваю, на якую трэба гэтулькі накасіць сена, ды хоць бы было яшчэ дзе накасіць тое сена, з вечнай бульбаю, якую трэба ці то садзіць, ці то акучваць, ці то капаць, са штодзённай хадзьбою ў калгас на работу — куды пашлюць... І здавалася мне тады, што веды, набытыя з тоўстых кніг, у часы ціхіх разумных лекцый, ёсць настолькі цікавае і важнае, у параўнанні з чым мары і клопаты бацькоў былі такімі аджылымі і старымі, пра што і думаць не варта. Бо я — го-о, да таго часу я, разумны і адукаваны, займеў запісную кніжачку, дзе запісваў, што трэба рабіць сёння, заўтра і паслязаўтра, я ўжо разумеў, што горад патрабуе другога ўкладу жыцця, магчыма, нават — другога мыслення, і таму ў час доўгіх культурных размоў лёгка, як і многія сучасныя крытыкі, мог уставіць: «Ха-ха, гэты ідыятызм вясковага жыцця...»

Дык вось я тады стаяў ля печы і думаў, як пачаць з бацькам гаворку. Маўчаў, нічога не гаварыў і бацька, хоць і ведаў, што я стаю побач. І хацелася мне, каб ён спытаў — хоць пра што... Але ён маўчаў, толькі час ад часу бухаў і бухаў, як у дзежку, глухім нездаровым кашлем.

Помніцца, ён толькі аднойчы паспрабаваў са мною гаварыць — яшчэ да гэтага, да сваёй апошняй хваробы, калі я толькі паступіў вучыцца. Я прыехаў дамоў на першыя студэнцкія канікулы і летнім вечарам, выбягаючы са двара, убачыў на лаўцы бацьку — ён часта любіў сядзець вечарамі на лаўцы. Моўчкі глядзець перад сабою на мураву і курыць. Ён быў у той вечар добра-такі падпіўшы, я гэта зразумеў па тым, якківалася ягоная галава, як слаба калыхнулася ў прыцемку рука: «Садзіся, сын, побач, пагаворым». І тады мне ўспомніліся тыя размовы мужчын за сталом, застаўленым талеркамі і шклянкамі, падумалася, навошта мне яшчэ раз чуць усё гэта, тысячу разоў чутае і вядомае, ды і ўвогуле, што новага можа сказаць ён мне, сту-дэнту... А тым болей, так ужо атрымалася, у мяне было спатканне, там, ля клуба, дзе чулася модная пласцінка, мяне чакалі, і сядзець нерухома на лаўцы, слухаць п'янаватыя блытаныя словы... Не, не, таму я з лёгкасцю, як гэта бывае толькі ў маладосці, махаю рукою і гавару: «Ладна, ты лепш кладзіся спаць. Мы заўтра пагаворым». І бягу ў цемень да клуба.

У тую ноч часта ўспыхвала зарніца — далёкая і бязгучная, яна асвятляла лес за ракою, бачыліся нават цёмна-сінія воблакі, быццам там, далёка-далёка за сялом, хтосьці вялікі і нябачны хадзіў і запальваў запалкі. Яны ўзгараліся і тут жа тухлі...

Цэглы набіраецца шмат, як пабітай, так і цэлай. Я складваю яе ля плота, побач з новай ярка-чырвонай цэглаю. Пясок і сухую ў кавалачках гліну адкідваю шуфлем убок, у асобны груд, каб не заміналі... Ды і прыгодзіцца яшчэ і гэта сухая гліна... Баліць спіна, баляць рукі — з непрывычкі. Усё пячэ і пячэ сонца, хоць ужо — надвячорак. Сохнуць вусны. Рукі і цела ў жаўтаватым пыле — вечарам трэ будзе схадзіць на раку, вымыцца, змыць гэты горкі салёны пот.

## 4

Як многа неба! Ужо і адвык. У горадзе яго і не заўважаеш, а тут, куды ні глянь — неба...

Як у тых даваенных і пасляваенных кінакарцінах: што ні кадр, то — неба...

Босым нагам нязвыкла і колка. Нават на траву і то ступаеш з асцярогаю. Адвык хадзіць босым па зямлі.

Тое балота, што было калісьці за нашымі агародамі, асушылі, цяпер можна напрамую ісці да ракі, да таго месца, дзе было калісьці глыбока. Але цяпер вады там — па калена, усё замыла пяском. Іду далей уздоўж берага, гляджу на цемнаватую ваду, на рэдкія кусты зялёнага алешніку, на белыя шыферныя дастрэхі вясковых хат, якія застаюцца ўсё далей і далей, на гэтае бела-блакітнае з цемнаватымі воблакамі на захадзе неба. Сонца вісіць над далёкім лесам, што за вёскаю, але яно яшчэ ярка-белае, хоць паветра ўсё болей стае празрыстым, як бы вымытым — наліваецца той здаровай крышталёвай яснасцю, ад якой на душы лягчэе і святлее.

Зноў і зноў бачыцца неба, якога, здаецца, зашмат. Пасля таго як пачаў лётаць у пасажырскіх самалётах, неяк не так гляджу на неба, на тыя ж воблакі — штосьці знікла ў душы, тое, што было ў маленстве... Цяпер, калі ні глянеш угору, адразу ж успамінаецца выгляд гэтых воблакаў зверху — тыя рэдкія ці густыя кавалачкі ваты, а то і цэлыя снегавыя гурбы, пад якімі ў разрывах бачыцца зямля, такая простая і безабаронна адкрытая, што аж крыкнуць хочацца. Чамусьці сумна ад майго ведання, здаецца цяпер, што лепей было б, калі б нічога не ведаў і не бачыў.

Відаць, за ўсё на свеце даводзіцца разлічвацца.

Пераходжу мост, мінаю могілкі, што бачацца аж з вёскі — жаўцее высокі абрыў ля рачулкі і высяцца высокай купаю бярозы ўперамежку з соснамі, і вось — вялікая пожня, ці, як яе ў нас называюць, жыжнеўшчына. На гэтай жыжнеўшчыне бацька апошнія гады пасвіў калгасных кароў. Тут жа ён і лавіў рыбу ў рачулцы. Вада тут глыбейшая, на нізкай і роўнай, як стол, мясціне рачулка часцей пятляе між кустоў алешніку. Апошнія гады на жыж-

неўшчыпе бульдозерам ссоўваюць у груды торф, месцамі яго выбралі саўсім — бялее вялізнай плямаю не то мел, не то глей, на якім нічога пе расце. Калісьці гэты торф капалі зімою шуфлямі і жалязнікамі, нават і цяпер засталіся яміны, то круглыя, то квадратныя і прадаўгаватыя,— увесь час яны напоўнены вадою, не ведаючы нічога, можна нават і забурболіць. Але вясковыя людзі добра ведаюць і добра помняць пра гэтыя яміны...

Там, за ракою, таксама як і за вёскаю, стаіць сцяною лес, нязвыкла ціхі ў гэты перадвячэрні час. І хоць ён саўсім побач, аддзелены толькі палоскаю вады, але не чуваць спеву птушак, ды і шуму ягонага не чуваць — як вымерла ўсё. Няма ветру. І толькі над жыжнеўшчынай не перастаючы кугікае кнігаўка, як заўсёды, жалобна, як згубіла што і ніяк не знойдзе. Яна матляецца ўдалечыні ў чыстым паветры між роўнай зеленню травы і блакітам неба, гледзячы на яе рэзкія і нейкія адчайныя ўзмахі крылаў, успамінаюцца словы маці: «Глядзі, ад зямлі адарвешся і неба не дастанеш...»

Вось і тое месца, дзе калісьці купаліся. Распранаюся, заходжу ў халаднаватую ваду, намыльваю галаву, рукі... Потым плаваю, спачатку без вялікай асалоды, а пасля — і вылазіць не хочацца.

Пасля рачной вады свяжэй і лягчэй, як скінуў з сябе што. На беразе выціраюся ручніком, памалу апранаюся і гляджу вакол сябе.

Зноў бачыцца неба. Як яго многа, асабліва тут, далёка ад вёскі, ад жытла. Сонца ўжо зайшло, але нядаўна — воблакі над далёкім лесам усё яшчэ малінавыя. І хоць усё гэтак жа маўкліва і нерухома стаіць за ракою лес, і ўсё гэтак жа кугікае кнігаўка — цяпер яна над грудам сухога торфу, але штосьці змянілася. Спачатку і незразумела што...

Адтуль, з калгаснага поля, ляцяць па адной вароны, павольна-павольна махаюць крыламі, як тыя людзі, што, закончыўшы работу, памалу перастаўляючы ногі, ідуць дахаты. Неба цяпер больш выразнае — і тыя ж воблакі на захадзе, і той жа блакіт,— вялікай бацькоўскай далоняю вісіць яно над зеленню травы, над лесам, над ледзь бачнай вёскаю, над тымі ж могілкамі, над рачулкаю... Ці то таму, што ўвесь час адчуваецца веліч неба, цішыня і спакой

вячэрняй зямлі, штосьці ўва мне пераварочваецца — упершыню ў жыцці адчуваю, што нічога і нікога не шкада. ...Ні лесу, ні кнігаўкі, ні свайго жыцця. Хочацца толькі адзінага: каменнай нерухомасці, здаецца, яшчэ які міг — і я сальюся з усім, што спакойна і бязгучна засмоктвае...

...З зямлі прыйшоў і ў зямлю пойдзеш.

Якім холадам веяла калісьці ад гэтых слоў!

Удалечыні ля кустоў паказваецца туман, вёскі ўжо саўсім не бачна. І тады, як пачынаю ісці, як адчуваю, што мокрыя ногі стынуць, тое ні разу дагэтуль не адчуванае пачуццё знікае, адыходзіць, як і не было яго ўсё роўна. І ўсё гэта — як напамін на штосьці, магчыма, на шчасце, якое чалавек ніколі не знойдзе, бо яму ўгатаваны другі лёс, другое шчасце...

## 5

Прачынаюся нечакана, быццам і не спаў зусім — такое часта бывае. І тады ляжыш без сну, глядзіш чыстымі вачыма ў цемень і варожыш, што ж цябе разбудзіла.

Але зараз відна... Гляджу на гадзіннік — сем... У хаце ціха, відаць, нікога няма. Апранаюся, выходжу ў сенцы.

— А-а, во хто ў нас вылежваецца,— працяжна гаворыць Коля Яшкаў. Ён падыходзіць, падае руку.— Пара ўжо і за работу брацца, пара...

Коля з Грышам ужо шмат выклалі — ледзь не да палавіны. Відаць, Коля карову выгнаў і адразу ж прыйшоў...

— Ну, нечага разглядваць, бярыся за гліну,— адразу ж камандуе Грыша.

Выходжу на двор. Яшчэ сыра і холадна. Сонца не надта высока, над зямлёю туманіцца, росна — відаць, зноў будзе спякота. Раса блішчыць нават на калаўроце.

...Восень. Як ні грэе сонца, але ўжо не за гарамі восень.

Каля груда гліны ляжыць старое жалезнае карыта, у якім замешана трохі гліны. Там жа пустое вядро і жалязняк.

Бяру вядро, іду да калодзежа. Тады яшчэ, калі бацька выкапаў калодзеж, ён быў з драўляным зру-

бам... Гляджу на ваду, якая, пабліскваючы ў поўным вядры, падымаецца ўсё вышэй і вышэй — вядро час ад часу грукае аб халодны бетон... Потым нясу ваду да карыта.

Насыпаю гліны ў карыта, ілью ваду, перамешваю... Поўнае цяжкае вядро з замешанай глінай прыношу ў сенцы.

— Вот так будзеце класці далей,— памахваючы рукою, вучыць Коля.— А пасля ўжо, як тут выкладзеце, трэба класці вот так. А там — под трэба роўна выкласці. Вы пад под можаце ўсё бухаць: і пясок, і гліну — каб печ цяпло трымала. А тады ўжо звод пачняце. Ну, гэта будзе пад абед, я вам сам пакажу, як гэта робіцца.

— Ды ладна,— махае рукою Грыша так, быццам ён гэтыя печы кожны год клаў,— што я — не ведаю...

Грыша ведае, Грыша ўсё ведае...

— Ну, а зараз глянем, колькі там націкала? — Коля глядзіць на гадзіннік.— Бегчы, хлопцы, мне трэба. Уборачная на носе. Я зараз за начальніка майстэрні,— неяк вінавата Коля ўсміхаецца.

— Ну, ладна, пойдзем у хату, перакусім трохі і — пойдзеш у сваю майстэрню,— кажа Грыша.

— Ай, пасля, можа,—аднекваецца Коля.

— Не бойся, будзе табе і пасля,— запэўнівае Грыша. Ён аблізвае вусны і рашуча па-гаспадарску махае рукою: — Пайшлі рукі мыць, чаго там... Маці нам пакінула...

Яны мыюць рукі і ідуць у хату. Адтуль хутка, як і некалі, чуецца аханне і хэканне, перастук відэльцаў аб талерку.

Бяру цагліну, прымерваю, як пакласці. Здаецца, як гаварыў Коля, вот так трэба... Потым кладу кельмай гліну, кладу на гліну цагліну і гляджу збоку — ці атрымалася...

Заканчваецца гліна. Выходжу на двор. Сонца ўжо нашмат вышэй, туман пачынае рассмоктвацца. Набіраю гліны, зноў іду да печы. З хаты выходзяць Коля і Грыша.

— Ну, вот і атрымліваецца,— Коля глядзіць на маю работу,— ты толькі глядзі, каб па вышыні рады былі роўныя. І тут, і — там... Гліны не шкадуй. Раней, калі цэглы не было, дык печы з адной гліны рабілі. Глінабіткі... Ну, хлопцы, я пабег... Чакайце.

...— Грыша, цэглу нясі,— чамусьці хутка заканчваецца цэгла. Як і гліна. Калі б не Грыша, то і невядома, як бы круціўся. Так, корпаўся б сабе...

Зараз ужо нашмат смялей кладу цэглу, і хоць якая надзея ды ёсць, што нешта атрымаецца.

Есці не хочацца. Можна трываць да абеду. Зараз, пасля сняданку, Грыша вясёлы і жвавы.

Пад под, як вучыў Коля, Грыша носіць пясок, тую сухую ад старой печы гліну. Пабег за шклом.

— Навошта табе шкло?

— Што ты панімаеш, што? Яно тэмпературу будзе трымаць, паняў, без шкла нічога не атрымаецца, пратапіць — пратопіш, а яна — халодная будзе.

— Адкуль ты ведаеш?

— Ведаю...

— Ну, кладзі сваё шкло, калі табе так хочацца.

Прыходзіць маці. У завязанай па самыя вочы хустцы — толькі нос тырчыць... Яна глядзіць на нас і, ківаючы галавою, гаворыць:

— Дык вы, можа, сягоння і печ закончыце — гэтулькі выклалі.

— Ды гэта я ўсё, а ён у мяне толькі так, пад нагамі блытаецца,— хваліцца Грыша,— толькі гліну з цэглай падносіць.

— А я так замарылася,— маці адвязвае хустку.— Гэта ж падумаць, падумаць толькі, жукі на бульбу селі. Саўсім даядаюць. І ніякая іх трасца не бярэ. Як усядуцца на які куст — аж красна... Цэлую банку назбірала. Зараз паліць буду. І адкуль іх чорт панёс?..

Маці заходзіць у хату і адтуль гукае:

— Вы хаця елі што сягоння?

— Паясі тут у цябе, галодны век ходзіш,— крычыць Грыша тым звонкім і ясным голасам, калі ў яго жыцці пачынае ўсё ісці добра і лёгка.

— Ну, я зараз, зараз, толькі падсвінку дам...

— Канечне, пакуль той падсвінак не паабедае, дык нам і не паложана...

## 6

Дзень заканчваецца. Грышу трэба ехаць дамоў — да малой, да той жа Іркі... Надвячоркам ён махае рукою — ну, я пайшоў... І адыходзіць. Застаюся ля

печы адзін. Павінен прыйсці Коля — паказаць... Аднаму намнога цяжэй: і гліну паднясі, і тую ж цэглу... А ўсё гэта — час, час, які няспынна коціць...

Змяркаецца. Як ні спяшаўся, а не паспяваю закончыць. Застаецца вывесці комін.

Баліць спіна. Нават памыцца і то — цяжка... Заходжу ў хату. Цяпер, без Грышы, у ёй неяк пуста і няўтульна. Пачуццё такое, што я нешта згубіў, і не тут, у хаце, а недзе далёка-далёка... Добра, што маці перад вачыма.

— Ну вот, садзіся, вячэраць будзем.

Павячэраўшы, гляджу на экран тэлевізара. Дзіўна, пасля такой работы, здавалася б, павінен спаць, але не спіцца. Маці ідзе ў спальню, бо кіно не паказвалі.

Потым ужо, як перадачы заканчваюцца, выключаю тэлевізар, выходжу на двор.

Неба чыстае і зорнае, як ніколі. Кажуць, што зоркі ў Сусвеце раскіданы ў пэўным парадку, які надта ўжо нагадвае будову жывой клеткі... І яшчэ кажуць... Ды ўвогуле, ці мала што могуць казаць...

Вяртаюся ў хату, выключаю святло, іду ў спальню і распранаюся.

Не спіцца... Чуецца, як у сне маці гаворыць з людзьмі, з якімі ўжо ніколі не зможа ўбачыцца,— быццам у сне маці трапляе ў другі свет, у якім ніхто са смяротных і быць не можа. Калі ўжо маці гаворыць занадта голасна, ускрыквае, падыходжу да яе, бяруся за плячо:

— Мам, а мам...

— А-а, што? — яна паварочвае цяжкую галаву — па ўсім відаць, спачатку нічога не разумее.

— Нічога, ты на другі бок ляж...

— Ну, добра, добра,— яна паварочваецца, і тут жа праз нейкі час чуецца цяжкае і пакутлівае, быццам яна толькі-толькі вучыцца гаварыць:

— Ан-дрэй, а Ан-дрэй... Ты ку-дыы...

Праз шкло гляджу на халодную пустую вуліцу. Потым, не вытрымаўшы, рыўком паварочваюся тварам да падушкі. Так яно лепей. Лягчэй, здаецца...

# Змест

## Аповесці



## Апавяданні

**Гігевіч В.**

Г 46 Астравы на далёкіх азёрах: Аповесці, апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1984.— 334 с., 8 л. іл.

У пер.: 2 р.

У новую кнігу пісьменнік уключыў тры аповесці і апавяданні. Аповесць «Варыянт» — пра рабочую сям'ю, пра вельмі няпростыя часам адносіны блізкіх людзей, пра тую духоўную атмасферу, якая прымушае чалавека больш патрабавальна асэнсоўваць пражытыя гады.

Аповесці «Забытая дарога», «Астравы на далёкіх азёрах» — пра маральную адказнасць чалавека за свае ўчынкі як перад самім сабою, так і перад грамадствам у цэлым.

Апавяданні прысвечаны жыццю нашага сучасніка, яго трывогам, радасцям, якія ўласцівы маладосці.

$Г\frac{4702120200-089}{М\ 302(05)-84}$ 7—84

ББК84 Бел7

Бел2

*

*Василий Семенович*
***ГИГЕВИЧ***

ОСТРОВА
НА ДАЛЬНИХ ОЗЕРАХ

*Повести, рассказы*

Минск, издательство
«Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар
***А. П. Рыбак***

Мастацкі рэдактар
***М. Я. Янчук***

Тэхнічны рэдактар
***Т. М. Сокал***

Карэктар
***Л. П. Бялова***

ІБ № 1826

Здадзена ў набор 31.10.83.
Падп. да друку 16.04.84. АТ 01101.
Фармат 84×100¹/₃₂. Папера друк. № 1.
Гарнітура звычайная новая. Высокі друк.
Ум. друк. арк. 16,38+0,78 укл. Ум. фарб.-адб.
20,63. Ул.-выд. арк. 18,52. Тыраж 12 000 экз.
Зак. 4156. Цана 2 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура»
Дзяржаўнага камітэта БССР
па справах выдавецтваў,
паліграфіі і кніжнага гандлю.
220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга
паліграфкамбінат МВПА
імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.